9/2006

# ПОЛЫМЯ



**Уладзімір Дамашэвіч**
**Месяц у Раі...**
Аповесць (пачатак)

**Мікола Дубоўскі**
**Мядовачка**
**Аповесць**

**Кастусь Жук**
**Генадзь Пашкоў**
Вершы

**Славянскі паэтычны космас**
**Пераклады Івана Чароты**

**Марыя Захарэвіч:**
**«Навошта той талент, калі няма сэрца...»**

## Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

### Верасень

Зноў верасень —
Запаслівы грыбнік —
Шчыруе па імшыстых баравінах.
Трымціць раса па звонкіх павуцінах,
І травастою пах яшчэ не знік.

Немітусліва
Промні аж да дна
Прасвечваюць азёрныя глыбіні.
І гронкі ацяжэлыя каліны
Насыціліся сокамі спаўна.

Мне даспадобы
Верасень заўжды.
І не таму, што ў ім я нарадзіўся.
У верасні мне свет увесь адкрыўся
У спеласці сакоўнай — малады.

Так, свет!
І сам я ў вераснёвы час,
Прасвечаны святлом яго, як гронка,
Спяваю і не ціха, і не звонка
Для вас, абшары родныя, для вас,

Шчымліва
Адчуваючы душой
Закончаную яснасць у прыродзе,
І ў жураўліным сцішаным палёце,
І ў засцюдзелай быстрыні рачной.

Вулля
Шукае позняя пчала.
Лагодна-мяккі свет нібы вашчына.
І дабратой прасвечана Айчына
У барвах баравіннага святла.



# ПОЛЫМЯ

9

(923)

2006

верасень

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2006

## ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



Кастусь ЖУК

# «ПЕРАД МУДРЫМ І ВЕШЧЫМ ЖЫЦЦЁМ...»

### ЛЕТАПІСЕЦ

І я пакрыёма адчуў на сабе:
Гады — след у след за падзеямі, словамі...
Чым больш давяраюся ў думках журбе —
Тым больш маршчакоў над ссівелымі бровамі.

А лёс міласэрным ці быў для мяне?
Ці песціў, ці лашчыў пяшчотай і радасцю?
Вярыгамі часта ўсцяваў па спіне
І праўду жыцця — перацвельваў няпраўдаю.

Як быццам бы я — яго вечны даўжнік.
Як быццам бы мне — не адпушчана літасці.
Бывала, як ёрш, я трапляў у браднік
Яго ілюзорна-ўладарнай Вялікасці.

«Пішы не пра леты — пра лета, — казаў. —
Надзел тваіх спраў — толькі клопаты марныя.
Паглянь, колькі ззаду няспраўджаных спраў —
І ўсе яны там, за туманамі-марамі...»

---

*Жук Канстанцін Якаўлевіч нарадзіўся 2 мая 1954 года ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Сейлавіцкай сярэдняй школы служыў у Савецкай Арміі, працаваў наладчыкам, электразваршчыкам на Мінскім трактарным заводзе. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1981) і Мінскую вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1988). Быў літсупрацоўнікам газеты «Чырвоная змена», карэспандэнтам шматтыражкі «На стройках Минска», рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Планета маёй душы», «Зямная ноша», «Пладаносны агонь», «У найме ў сонца», «Галгофа» і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь (1999).*

Хай я летапісец нязграбны, смурны
І, часам, знікаў за гадоў бурапенаю,
А ўсё ж ад вясны я сваёй да вясны
Не-не — ды і выбухну новаю песняю.

* * *

Жыццё — як шахматнае поле,
Дзе кожны ход
Пазначан доляй ці юдоляй
Зямных турбот.

Фігурам тут не развінуцца,
Як ні круці.
Не ўспееш з пешкай размінуцца —
Канём плаці.

Тут афіцэр не знае спасу,
Як і ладдзя.
Не ўсе пасуцца самапасам —
Ім Бог суддзя.

І толькі той, хто ў пешцы ўбачыць
Святую роль, —
Той дасягне сваёй удачы.
Ён ёсць — кароль.

* * *

Падаюць дзічкі.
І дол адчувае аскому.
Значыць, я дома.
І ў садзе бацькоўскім, вядома.

Прэч, чаравікі!
Прайду басанож па падворку.
Шпак-непаседа
Раскажа мне скорагаворку.

Дым вераснёвы.
І пах палыну вечаровы.
Бэры
Павіслі над градамі
Вымем каровы.

Я ўжо —
Чужак тут адпеты.
Ды стукне вядзерца —
І затрапеча ад радасці
Маятнік-сэрца.

* * *

Над зарою кастра
Пырскі іскраў-рабін.
І смяецца вятрам
Галавешкі рубін.

Палатняны дымок
Гала выслаў суздром
І ў лясок незнарок
Аддаліўся, як гном.

Цішыня. Вышыня.
Дражніць неба касцёр.
І Сусвет аж да дня
Рукі нам распасцёр.

## РАСПЯЦЦЕ НА КРЫЖЫ

І сніўся мне сон, што ля хаты
Вісеў на крыжы я, распяты,
Распяты, нібыта Хрыстос.
Пот ліўся падцёкамі з цела,
Душа яшчэ — не адляцела.
І выў на падворку Барбос.

Вачэлі, жахаліся людзі.
Ды суд свой давершвалі суддзі —
Цярновы ўздзявалі вянец.
І білі мяне ланцугамі,
Абкладвалі мацюкамі.
Маліўся — адзіны Айцец.

Ён мне гаварыў тымчасова:
«Ёсць Слова, ёсць Божае Слова,
Якому ты — не саграшыў,
Якое прынізіць хацелі...
І ты аддаеш сваё цела,
Пакінуўшы вернасць душы.

Яны ў сваім гневе-рашэнні
Сляпыя, як трутні, як шэршні, —
Мужайся. Такі ўжо твой лёс.
І самі не знаюць, што твораць, —
Ды зможаш ты гора агораць,
Не трэба астыгласці слёз».

Я чуў, як сцякаю крывёю.
Груган над маёй галавою
Старэча пракаркаў — і сціх.

Паўдзённае сонца з вышэчы
Мне магмай сцякала на плечы.
І зрок прытупляўся. І слых.

Не ведаў, чаму так сурова
Мяне пакаралі за Слова,
За Слова, што нёс да людзей,
За Слова і кроз і надзеяў
Нязнаныя мне ліхадзеі,
Пазбавіўшы кроз і надзей.

Але не крычаў я ад болю.
Зняволены, верыў у волю
На ўзмежку быцця-небыцця.
У Бога. У Слова. У Мову.
У мамы Святую Замову:
«Нічога не бойся, дзіця!»

...Прачнуўся. Цяжарылі ногі.
Ляжаў ля крыжа бліз дарогі.
Конь пасся, шальмец, ля мяне.
Адчуў я, наезнік смаркаты, —
Мне пешкам вяртацца дахаты.
І ўсё, што было, — толькі ў сне.

Паўголы, расхрыстаны, босы,
Я ўдзячны спартанскаму лёсу —
На косю не вымашчу злосць,
Бо рады, што ёсць тая Мова,
Замова і Боскае Слова...
І рады, што я яшчэ ёсць.

* * *

Там, дзе вецер, нібы скрыпач,
Водзіць смыкам
па струнах ліўня,
Вяз — паголены барадач —
Пацалункі дорыць каліне.

Вераснёвы, бурштынны час.
Закаханым слата — ратунак:
Абдыманне — ў каторы раз,
І ў каторы раз — пацалунак.

Далібог, не сыду з мяжы,
Дзе развольніўся
вецер прыткі,
Бо мне хочацца
тут пажыць,
Хоць прамок да апошняй ніткі.

## СПАКУСА АМФІТРЫЁНА

Ты — не Алкмена,
Што ад Зеўса
Геракла нарадзіла ў смуту.
Ты — не царэўна,
Не прынцэса, —
Мая пакута
І атрута.
Але ў цябе
Я крэўна веру.
Але ў табе я
Чуйна бачу
Калі не пекны
Стан Венеры,
Дык Афрадыты
Стан гарачы.

## ГАРМОНІЯ ДНЯ

На душных прагалах лясных,
Над купамі рыжых імшарын
Запальвае дым верасны
Сваіх сінякветаў пажары.

А ўсцяж барадатых палян
Гуляюць ласіха з цяляткам:
Скубуць урaселы дзірван
Не ў прагаладзь — так, для парадку.

І ў гэтай гармоніі дня,
Расянай, густой прахалодзе
Трымценне чмяля не суняць —
Ён штосьці шукае, знаходзіць...

Ён песню сукае сваю.
Ён кожную кветку вітае.
І я ў задуменні стаю:
Дальбог жа, прырода — святая.

* * *

А перадзім'ейка ў жыцці
За восенню
Наступіць раптам
І пройдзе па лісці-трысці
Тваіх гадоў
Балючай праўдай.

Круціў паспешна часу вось
І радаваўся
Тлумным мроям:
Ты і батрачыў на кагось,
І верхаводзіў над ізгоем.

А прыхапіў бы за гарляк
Таго ці іншага хапугу —
І твайго лёсу Задыяк
Не біў бы па спіне папругай.

Люляй, цугляй свае гады,
Пакуль не стала ў свеце млосна
І чуйных нерваў правады
Задумы ткуць,
Нібыта кросны.

За даляглядамі — смуга,
Ды ты
Не паддавайся часу.
І новых мрояў ураган
Натхніць
На новых дум акрасу.

У неба — пекнасць запазыч.
У сонца — цеплыню і спеласць.
У крывічанкі — ўсмешкі зніч.
А што ў зямлі? Яшчэ паспееш...

## ЗІМНІ СОН

Снег — не снег, —
Ручнік матулі
Белым-белы.
Смех — не смех,
Дзе сны заснулі
Анямела.
Плач — не плач,
Дзе плача ліст
Красы-каліны.
Водзіць вецер, як скрыпач,
Смык галіны.

* * *

І цеплыні, і дабрыні
Павольнае цячэнне.
І пошчак птаха ў вышыні —
Вясны прадвызначэнне.

Галее ўпрэлая ралля,
Пашырана ўзбалоцце.
Сюды і зблізку, і здаля
Душа імкне на ўзлёце.

Надыхацца тут трэба ёй
Прадвеснем, веснаходам,
Каб стаць, як песня, маладой
І чыстай, як прырода...

* * *

У май прыадкрыўшы акно,
Напіўшыся ўдосталь туману,
Я ўцяміў: жыццё ў нас адно —
І веснім п’янею дурманам.

Нясі мяне, радасць, нясі
У казку, што дорыць прырода.
Там дзеляцца песняй — ласі,
І зёлчыны — дзеляцца мёдам.

Па купінах, па імшаках,
Бліщчастых ад свежасці травах
Нясі ў самы звабліві шлях —
Шлях мараў, шлях пекных забаваў.

Я з тых, хто паверыў даўно
У звабнасць-красу, асалоду...
У май прыадкрыўшы акно,
Я сам стаў часцінкай прыроды.

## РЫБАЦКАЯ ПОЎНЯ

У разгуканай цішы вечаровай,
Дзе засынае ў завадзі аер, —
Насупілі свае густыя бровы
Вярбіна над абрывам і асвер.

Глядзяць яны ў асмужаныя далі,
Дзе ў віратоках плешчуцца ліні,
І пырскаў ясназорыя каралі
Бліскочуць на азерца далані.

Нырае поўня пад сумёт чароту.
Парыпвае забытае вясло.

І лебядзіных аблачын чароды
З-за лесу наплываюць на сяло.

Зор ліхтары запальваюць нябёсы.
І Млечны Шлях паходняй запалаў.
І зноў на сіняпёсы, жаўтапёсы
Туман густою пенаю апаў.

Дабранач, далі, людзі, аблачыны!
Дабранач, асмужэлы небагляд!
На поўню вые вывадак ваўчыны,
Як сто, як дзвесце, трыста год назад.

Сава з узлеску бліснула вачыма.
Дыхнуў свяжак на сенажаць, на гаць.
І ўжо апошні чэкат сарачыны
Уклаў на ноч сарачанятак спаць.

Вудзільнаў частакол аздобіў бераг.
А рыба сніцца вударам і ў сне:
Ва ўдачу ля агнішча хлопцы вераць,
І з юшкай ноч булькоча ў сагане.

## НІРВАНА

*Зласліўцам паведваць пра беды нягожа:*
*Яны закрычаць у адхланні: «Дай, Божа!»*

Саадзі Шыразі

Сярод жывых — вы мёртвыя, о продкі!
І вас ніхто не зможа ажывіць.
І хоць яднае вас
з жывымі ніць,
Не прыплывуць назад
Нерона лодкі...

Там цішыні прадонне...
Там спакой...
Там нават дыхаць
можна не заўсёды,
Бо льецца ў сэрца
міра аласоды
Пад райскай вінаграднаю лазой.

Там кожны і аракул,
і святар.
Наіўны раб —
і ўдумлівы гвалтоўнік.
Пачуццяў мудрамер
і валадар.
І грэшнік сам сабе —
і выратоўнік.

Валодаеце ўсім,
што Бог паслаў,
Але —
хто ў санным чыне,
хто — плебеем.
Мне бачацца
«бажкі» на купалах
Царкоўных храмаў
белапенна-белых.

Яны шаноўна ўсселіся.
Акыш!
Хай продак мой
(Не ім раўня — ды ўсё-ткі!..)
Не купал асядлае —
дык хоць крыж
Вяліка-санна-звышцаркоўнай готыкі.

Ён заслужыў, мой продак,
хоць адзін,
Не святаром —
Святым спазнацца Богу,
Бо нат у сны
шматкрылы херувім
Не прылятаў да продка
на падмогу.

Мой продак
Сам распазнаваў крыжы...
І купалы...
І святароў двулікасць...
Мы для яго —
жывыя міражы:
Жывыя здані
і жывыя блікі.

Але мой продак кеміць,
Хто ёсць хто, —
Ён з-пад зямлі і чуе ўсё,
і бачыць,
Хоць з намі
не танцуе вальс-бастон
І з намі не палюе,
не рыбачыць.

Сагрэйся, продак,
ты ў сваёй цішы,
Пасвятары над тым,
што ёсць,
што будзе...
Стокроць грашыў ты —
Ды не даграшыў.
Я — даграшу.
Грахі ж — адпусцяць людзі.

## АКЦЁРКА

І дыхаць табой не хачу,
І мроіць — таксама.
Квяцістыя промні дажджу
Пашлюць ад мяне тэлеграму.

Нязграбны адметак жыцця —
Вітраж ад вясёлкі —
Напоўнены прагай чуцця,
І колкай, і золкай.

Хутчэй уцячы ў нікуды,
А потым — прачнуцца.
Паўсюль — нашых крокаў сляды, —
Нам не размінуцца.

Гаючы, пранізлівы свет
Святла, святлаценяў.
І высіцца, як мінарэт,
Твой вобраз на сцэне.

* * *

На зімовую спячку
Не залёг я ў бярлогу мядзведзем.
Лёс — па ўхабінах скача.
Лёс — па зімніку выстылым едзе.

На якім кіламетры гадоў,
На якім павароце
Ён прыскача ў мой дом,
Ён прыедзе, прымчыцца на ўзлёце?

Павуцінай дарог
Абвязаўся, як чорт рызманамі.
Пад нагамі — быльнёг
Ды мурог,
А на сэрцы — цунамі.

Перад мудрым і вешчым жыццём,
Перад памяццю ўсіх беларусаў
Я клянуся:
Вярнуся ў вясковы свой дом,
Хоць запозна — вярнуся, вярнуся...

* * *

Адзавецца ў сэрцы болем,
Адзавецца ў сэрцы плачам
Незасеянае поле
Дум абудных, дум гарачых.

Чарнавік, што стаў пустыняй,
А не стаў радкамі, песняй —
На мяне павее стынню,
Як пячорны дух скляпенняў.

Толькі веру, бы ў замову, —
Спакваля, як шчотка руні,
З мар народжанае слова
Шкарлупу нягод праклюне.





Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# МЕСЯЦ У РАІ, або АДДАЙ СЭРЦА ЛЮДЗЯМ

### *Аповесць*

## I

Аўтобус Мінск—Буднікі спыніўся на цэнтральнай плошчы, людзі высыпалі на вуліцу, як пчолы з вулля, панавала мітусня: хто браў свае рэчы з багажных камераў, хто ўжо абдымаўся са сваімі, што чакалі прыезджых, пачыналіся роспыты, чуліся радасныя галасы вітання.

Янку і Рагнеду ніхто не сустракаў. Яны забралі свой чамаданчык, гаспадарчую сумку, трохі пастаялі, як бы даючы ўлегчыся хваляванню, якое турбавала іх усю дарогу: Рагнеду больш, а Янку менш — і паволі пайшлі па вуліцы, кіруючыся туды, дзе жыла Рагнедзіна матка. Яны былі ў гэтым райгарадку летась восенню, прыязджалі на пару дзён як бы ў адведкі, бо тады яшчэ толькі сышліся: Янка і яго новая жонка Рагнеда. Яны былі землякі, вучыліся пасля вайны ў адной школе, але пасля сканчэння дарогі іх разышліся. І мо нават таму, што Рагнеда скончыла школу на год раней за Янку і адразу на першым курсе інстытута выскачыла замуж. Для яго яна ўжо была страчана назаўсёды, як ён лічыў, і будаваў сваё жыццё з папраўкаю на гэтую страту. Скончыўшы універсітэт, ён застаўся працаваць у Мінску, хоць пра гэта нават і не марыў, жыў на прыватнай кватэры, потым ажаніўся, пайшлі дзеці. Мінск — горад вялікі, чалавек у ім — як тая іголка ў стозе сена. Яны згубіліся адно для аднаго на шмат гадоў, нават дзесяцігоддзяў, хоць потым аказалася, што яны жылі на блізкіх вуліцах. Імклівая рака жыцця вымчала іх і панесла — нібы яны плылі кожны на сваёй крызе ці плыце — і тут раптам стукнуліся ці сутыкнуліся — і пазналі адно аднаго: дык мы ж землякі, і не толькі… Ён не без страху ступае на яе крыгу ці плыт, бярэ вясло, і яны паплылі далей разам, да сваёй прыстані, і вось ужо год як плывуць разам і надумаліся пасля выхаду на пенсію пераехаць са

---

*__Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч__ нарадзіўся ў 1928 годзе ў в. Вадзяціна Ляхавіцкага раёна. Скончыў філфак Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у выдавецтвах, часопісах «Полымя», «Маладосць».*

*Выдаў кнігі прозы «Заклінаю ад кулі», «Між двух агнёў», «Абуджэнне», «Кожны чацвёрты», «Выбранае», «Камень з гары» і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь, Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа.*

сталіцы ў свае Буднікі да Рагнедзінай маткі Раісы Сцяпанаўны, у якой ёсць хата, сад-агарод, і ўжо вунь колькі гадоў яна жыве адна: муж памёр даўно, у памятны год смерці правадыра ўсіх народаў, а малодшая дачка Альбіна таксама жыве ў сталіцы замужам за вайскоўцам.

План быў ружова-прывабны, а вось ці ён рэальны — цяжка сказаць, бо тады, год назад, маці сустрэла іх насцярожана, як бы не верачы, што такое магло здарыцца з яе старэйшаю дачкою...

Яны ішлі па так знаёмых вуліцах, дзе дамы ўжо здаваліся чужымі, адгароджанымі ад вуліцы дашчатымі платамі, і, як правіла, лепшы дом меў і лепшую агароджу, сустракаліся і добрыя сучасныя муразанкі.

Рагнеда ведала гарадок лепш за Янку, яна тут нарадзілася, хоць потым жыццё кідала іх сям'ю далёка ад родных мясцін, а Янка жыў у вёсцы на захад ад Буднікаў, тут толькі вучыўся тры гады, канчаў дзесяцігодку...

Сонца трохі схіліла з поўдня, але на пачатку жніўня гарачыні ўжо не адчувалася, хоць неба было чыстае. А мо яшчэ і таму, што гарадок быў зялёны, дрэвы раслі тут часта і густа — пачынаючы з цэнтральнай плошчы і канчаючы кожнай вуліцай: ліпы, таполі, бярозы, сям-там траплялiся елкі, і не проста нашы, звычайныя, а серабрыстыя, прывезеныя аднекуль, яшчэ невялікія, без шышак, а пры кожным доме далей ад цэнтра, як правіла, рос сад, у каго большы, у каго меншы, у каго ўжо стары, у каго — яшчэ малады. Гэты гарадок мала чым адрозніваўся ад вёскі, але пад нагамі тут быў асфальт або даваенны брук, на шырэйшых вуліцах бліжэй да цэнтра меліся тратуары, а на вузейшых — часам толькі з аднаго боку. І людзі старэйшага веку выглядалі больш як вясковыя, у той час як моладзь зусім не адрознівалася ад сталічнай, асабліва маладыя дзяўчаткі — яны проста нібы сышлі са старонак часопіса моды, ды і маладыя жанчыны выглядалі модніцамі.

— Цікава, як сустрэне нас маці? — спытаўся Янка ў Рагнеды, якая ішла побач з сумкаю ў левай руцэ, а правай трымала пад ручку свайго мужа і была нейкая пахмурная, як не радая сустрэчы з роднымі мясцінамі, тым больш — з роднаю маткаю.

— Я ўсю дарогу думала пра тое ж самае, — нейяк сумна адказала Рагнеда і цяжка ўздыхнула. — Вось і цяпер баюся, хоць бы яна была ў гуморы, хоць бы не сустрэла як няпрошаных гасцей.

— Што тут думаць-гадаць? Зараз прыйдзем і пабачым.

— Які ты ў мяне смелы! А я сваю маму ведаю, яна чалавек з характарам.

— Дык гэта ж добра. Чаго варты чалавек без характару? — падбадзёрыў яе Янка. — Ты ж таксама з характарам. Мо скажаш не?

— Ой, мне далёка да мамы, вось пабачыш, — не згадзілася яна. — Мама перажыла вялікую драму: ляцела высока, а села нізка. Гэтага яна ніколі не забудзе. І на ўсё глядзіць менавіта з такой пазіцыі. Жонка пана дырэктара польскай паўшэхнай школы, красуня, якою ўсе захапляліся, нават сам прэзідэнт Масціцкі, уяўляеш? Яна сядзела побач з ім... А сёння хто яна? Старая адзінокая пенсіянерка ў заштатным глухім гарадку, корпаецца ў сваім агародзе. Выгодаў ніякіх, туалет за сто метраў ад хаты. Калодзеж, праўда, блізка, але зімою трэба да яго зрабіць сцежку, вады дастаць, потым дроў прынесці, брыкету, напаліць, каб не замерзнуць ноччу. На старога чалавека хіба мала? Ну вось, мы падыходзім...

Яна вызваліла правую руку, перахрысцілася ўсёй далонню, як хрысцяцца каталікі.

Хата стаяла ўздоўж да вуліцы, была ў два канцы. Шалёўка на сценах была патрэсканая ўжо, знізу фарба пааблазіла, асабліва ля самых падваліnaў, ліштвы вокнаў таксама страцілі сваю ранейшую свежасць. Ад вуліцы двор быў адгароджаны драцяною сеткаю, ад старога драўлянага плота засталася толькі высокая і шырокая брама, наглуха закрытая, праезд быў зроблены ў драцяной агароджы.

Янка адчыніў скасабочаныя весніцы, прапусціў Рагнеду, а потым зайшоў сам. Сцежка ад вуліцы вяла да калодзезя, а потым вярнула налева, да ганка дома, які меў яшчэ і веранду, але яна займала месца збоку, ля другой паловы дома, а ганак быў адгароджаны балясамі і меў шыферны дах, як і ўся пабудова. Тут на двары, ля самае хаты, расла вялікая куччастая бяроза са шпакоўняю на добрай вышыні ад зямлі. З-пад прызбы па краі выглядалі кітайскія лілеі, высокія, раскошныя, яны яшчэ цвілі сваім жаўтавата-цагляным цветам, распускаючы свой казытлівы тлуставата-салодкі пах. Было адчуванне, што яны трапілі ў зялёны аазіс: вялізны куст бэзу ля брамкі, зараснікі сліваў на двары, жываплот з вішняку пры плоце ад суседзяў, далей на поўдзень — агарод, за ім — сад, злева — зялёны поплаў, справа — некалькі сотак бульбы, яшчэ зялёнай, але ўжо без цвету — можна капаць на патрэбу, асабліва скараспелку.

А ад усходняга суседа — таксама зараснікі бэзу, вялізны бухматы куст язміну, які ўжо адцвіў, яшчэ адна тоўстая разгатая бяроза і такая ж тоўстая, яшчэ вышэйшая за бярозу акацыя: на дзіва ўсім — каб акацыя ды была такая магутная. Вясною яна ўся пакрыта густым жаўтаватым цветам, у сонечныя дні ўся гудзе ад пчалінага нашэсця і не шкадуе свайго тонкага далікатнага паху на ўсю вуліцу.

А понізу — густы дыван травы, пустазелля з лебяды, крываўніку, баркуну, кмену і кропу, дзікае морквы, сям-там асоту, астравоў лопуху, свірэпы, а па краях сотак, ля агароджы — густога зялёнага, вышэй за калена, пырніку, тое ж лебяды, люціку, сніткі, мятліцы.

«Трэба будзе ўсё гэта пусціць пад касу, — падумаў спакойна Янка. — Толькі мо маці не дасць…»

Маці сустрэла іх на ганку: мо бачыла, як яны, не спяшаючыся, разглядаючыся, павольна ішлі па ўтравелай дарожцы з вуліцы. Як памятаў Янка, яна нічым за год не змянілася, мо трохі больш пасівелі яе каротка падстрыжаныя валасы, зачасаныя назад і прыцiснутыя да галавы цёмным, у палоску, паяском ці стужачкаю. Апранутая маці была ў шэрую доўгую спадніцу, у паркалёвую жоўтую кофту з доўгім рукавом, паўзверх якой была накінута карычневая камізэлька — душагрэйка. Твар яе выглядаў стомленым, з мноствам маршчынак ля вачэй, вусны моцна сціснуты. Але вось ён нібы пасвятлеў, з'явілася нейкая як нясмелая ўсмешка, вусны рассунуліся. Яна пацалавалася з дачкою, потым падала руку Янку, ён злёгку пацiснуў яе і прыклаўся вуснамі. Рука, як ні дзіўна, была халодная. Ля ног у маткі круцілася-церлася кошачка-рыска, нейкая ненатуральна тоўстая, з адвіслым жыватом, няйначай, на акоце.

— Мы так спяшаліся, — сказала першыя словы Рагнеда.

— І так баяліся, — пад рыфму, але мо не да месца, дадаў Янка, бачачы, як імгненна ўсмешка знікла з матчынага твару, і ён стаў халоднанепрыветлівы.

— А чаго мяне баяцца? Я не кусаюся, — даволі рэзка адказала яна.

— Я не ў тым сэнсе, проста мы баяліся, што вас не застанем дома, — пачаў адступаць Янка.

— А дзе мне быць, скажыце? Хто мяне дзе чакае? — як здзівілася маці. — Сяджу дома, думаю пра вас, мінчанаў: як вам там паводзіцца? Ці не забыліся пра нас, правінцыялаў? Па тым, як часта ў мяне бываеце...

— Мамачка, мы таксама пра цябе думаем, але ніяк не выпадае вырвацца, работа не дае. Вось пайду на пенсію, дык тады буду ў цябе частым госцем, — загаварыла хуценька Рагнеда, нібы баючыся, што маці ёй не дасць апраўдацца. — Я дзваніла нядаўна Альбіне, дык яна казала, што была ў цябе, узяла трохі яблык... Ім добра, у іх машына...

— А хто табе не дае мець машыну? — як пакрыўдзілася маці на дачку. — Барыс з галавою, дык у яго і машына, і жонка як пані — на рынак ездзіць, у магазін... А вы на аўтобусах падарожнічаеце. Хто вам вінаваты?

Што тут было сказаць? Малодшы зяць насіў пагоны палкоўніка, даўно меў машыну, ездзіў да цешчы часцяком, асабліва як было чым пажывіцца: як выспелі ягады, як наліліся яблыкі, як падрасла бульба. Нездарма кажуць: зяць любіць узяць. А так ён не надта часта наведваў сваю цешчу, але яна на яго неяк не крыўдавала. А старэйшая, Рагнеда, была ўвесь час нейкая як няшчасная, бедная, пакрыўджаная: развялася, гадавала двух хлопцаў сама, часцяком і да маткі падкідала, асабліва летам.

Пакуль Рагнеда збіралася, што адказаць на матчыны словы, загаварыў Янка.

— Вы правільна кажаце, мама, мы самі вінаваты, што не маем шмат чаго патрэбнага ў цяперашнім жыцці. Але паверце мне, што машыны я і дарма не вазьму, бо яна мне будзе толькі шкодзіць, а не памагаць. Такая ўжо мая прафесія. То я сяджу ў рэдакцыі, праўлю рукапісы і аддаю ў друк, то дома, калі маю вольную часіну, нешта сам пішу, хачу скончыць якое апавяданне ці аповесць, а як хопіць пораху — дык і раман. На гэта вунь колькі часу трэба. А калі я набуду машыну, я стану проста шафёрам, яе слугою: яшчэ трэба гараж, бензін, усякія запчасткі, яшчэ трэба думаць, каб яе не ўкралі... Мне адзін наш пісьменнік казаў: ведаеш, чаму я не пішу раманаў? У мяне машына, яна ў мяне ўвесь вольны час з'ядае. На апавяданне яшчэ хапае, а на большае — не. Жонка скажа: з'ездзім на рынак, з'ездзім да бацькоў, сябра папросіць падкінуць яго па якой важнай справе. І ты толькі і ездзіш. А над раманам трэба пасядзець.

Маці слухала яго, а на твары быў відзён недавер.

— А ці ж многа вы тых раманаў напісалі? — з прыхаваным здзекам спытала яна новага зяця з такое нечаканае пароды пісьменнікаў.

— Ні многа ні мала: усяго два, пішу трэці, калі Бог дасць здароўе, то мо і скончу, — адказаў Янка.

— Дык пра сваё здароўе вы думаеце, а на жончыны інтарэсы вам ужо і часу няма. Так выходзіць? — пачынала траціць ранейшую раўнавагу маці-цешча.

Тут у гутарку ўмяшалася Рагнеда, каб папярэдзіць сварку:

— Вось паслухай, даражэнькі Янка, што табе мама гаворыць, і рабі вывад: каб цябе жонка любіла-кахала, трэба і ёй нешта прыемнае рабіць, а не толькі пра сябе думаць. Колькі я казала, што трэба нам машыну купіць, а ты ўсё нейкія свае тэорыі выводзіў. Памятаеш, як ваш адзін пісьменнік падлічыў, што тыя грошы, якія чалавек траціць на машыну, ён можа ў растэрміноўку траціць на таксі — і яму іх хопіць на ўсё жыццё. Памятаеш гэтую тэорыю?

— Памятаю, і гэта правільна: ніякага лішняга клопату.

— А памятаеце, хто такі быў «безлашадны» да калгасаў? — спыталася ў яго цешча-маці. — Самы бедны, самы абяздолены чалавек. Нават не чалавек, а так нешта…

— Аднак жа і ўсе сталі «бескабыльнымі», — адказаў Янка, — і нічога не здарылася, людзі не прапалі, а сталі…

— …сталі набываць машыны, — скончыла за яго Рагнеда. — Усе разумныя людзі сталі набываць машыны! Я тут поўнасцю згодная з мамаю, і ты мяне не пераканаеш, што машына табе зашкодзіць. А мне — тым болей.

Янка не паспеў прывесці ўсе свае довады, бо ля калодзезя забразгаў вёдрамі сусед Пятрок Доўгі, павітаўся з імі і павіншаваў з прыездам Рагнеду і яе новага мужа. Рагнеда падышла да Петрака, яны абняліся, і Пятрок пацалаваў яе ў шчаку. Пятрок быў усяго на год старэйшы за яе, ваяваў на вайне з японцамі, а тут яны жылі суседзямі, мо нават Пятрок і думаў, што Рагнеда стане яго жонкаю. Але так не выйшла: Рагнеда адправілася ў Мінск на вучобу, выйшла замуж, а ён застаўся тут, завёў сям'ю і жыве сабе ціха-спакойна, толькі трохі папівае мясцовае віно. І цяпер яны сустракаюцца як добрыя суседзі.

— Ці надоўга да нас? — спытаўся Пятрок гучным голасам.

— Паглядзім, — адказвае няпэўна Рагнеда. — Як спадабаемся маме, то трохі пабудзем.

— Спадабаецеся, чаго там, — супакойвае яе Пятрок і пачынае апускаць пустое вядро на ланцугу ў пашчу калодзезя.

Рагнеда вярнулася да сваіх, на ганак. Яна была трохі ўсхваляваная, мо адчувала нейкую віну перад Янкам — як гэта яе пацалаваў чужы мужчына? Хоць сам Янка не бачыў у гэтым жэсце збоку суседа ніякай крамолы ці абразы: падумаеш, пацалаваў суседку, якое даўно не бачыў, з якою некалі разам рос.

— Як гэта ты дазваляеш сябе цалаваць чужому мужу? — упікнула Рагнеду маці, і Янку здалося, што яна сказала жартуючы, але твар у яе быў сур'ёзны.

— А што я павінна была рабіць? — здзівілася Рагнеда. — То ж мой сусед.

— Хадзем у хату, а то ты тут пачнеш цалавацца з усімі суседзямі, — ужо трохі мякчэй сказала маці і пайшла першая, а яны, госці, за ёю.

Прайшлі цёмныя з двара сені, павярнулі налева і апынуліся ў вялікай палове хаты, не такой вялікай, як здаецца з двара, бо яна была перагароджана на два пакоі: паўднёвы шырэйшы, меў тры акны, а паўночны — вузейшы, з глухою сцяною ад вуліцы, адно акно на захад. Сёння сонца залівала большы пакой, надавала яму святочны выгляд. Нават залатыя пылінкі плавалі тут у паветры — зазначыў сам сабе Янка.

За апошні год, як яны тут былі, у пакоі нічога не змянілася: на тым жа месцы стаяла вялікая канапа ля заходняга акна пры сцяне, у куце — этажэрка з кнігамі, тумбачка для тэлевізара, якога яшчэ не было, злева ля акна ад дзвярэй стаяла зінгераўская машынка, на якой нешта шылася — ляжала блакітная доўгая кашуля ці нешта падобнае. На сцяне ў левым куце была яшчэ адна этажэрка, ці палічка, ужо вісячая, таксама поўная кніжак. Бліжэй да дзвярэй вісеў вялікі гадзіннік з маятнікам залацістага колеру, але механізм маўчаў.

Пасярэдзіне пакоя, трохі бліжэй да дашчанай сценкі, стаяў круглы, засланы белаю сурвэткаю, стол, які пры патрэбе мог стаць у два разы большы — рассоўваўся, а пры ім — чатыры недарагія крэслы, абабітыя светлаю стракатаю матэрыяй.

— Цяпер суха, можаце не разувацца, — сказала маці. — Вы тут пасядзіце, а я прыгатую што-небудзь перакусіць, час палуднаваць.

— Дык я табе памагу, мама, — сказала ёй дачка.

— Абыдуся і без цябе, — коратка махнула рукою маці.

— Мы тут сяго-таго прывезлі, я зараз дастану. І табе падарункі.

— Якія яшчэ падарункі? — як абурылася маці. — У мяне ўсяго хапае.

— А вось такое начной кашулі і няма. І свэтра такога няма. Вось паглядзі. — І яна дастала з сумкі даволі вялікі пакет, загорнуты ў шэрую паперу. — Кашуля цёплая, на зіму, і свэтар таксама, ружовы, цёплы. Насі здаровая! — І Рагнеда паклала падарункі на швейную машынку. — А вось яшчэ крэм для рук…

— Ну дзякую, што з вамі зробіш? Нібы ў мяне няма тых кашуляў? Вось шыю сама сабе, адна знаёмая дала матэрыялу. А свэтраў таксама хапае. Вам абы грошы патраціць, — бурчэла маці, але тон яе быў даволі мяккі, падарункі ёй, відаць, спадабаліся.

Тым часам Янка дастаў з чамаданчыка батон доктарскай кілбасы, кавалак галандскага сыру, пачак масла і перадаў Рагнедзе, а яна панесла на кухню.

За ёю пакіравала і маці, там яны пра нешта загаварылі, маці зноў стала адбівацца ад усякай дапамогі.

— А вось вядро амаль пустое, — сказала Рагнеда, потым крыкнула, каб дайшло да Янкі: — Яначка, бягом па ваду! Вераб'і калодзезь абярнулі! Чуў ты такую прымаўку?

Янка зайшоў на кухню, жынчыны рыхтавалі абед.

— Я й сама прынясу, памочнікі мне знайшліся, — усё яшчэ не здавалася маці, баронячы сваю незалежнасць.

— Як гэта так? Мы сядзім, а ты носіш ваду? Мама, навошта такая ахвярнасць? Мы ж не госці тут у цябе, — даказвала сваё Рагнеда.

— А хто вы, калі не госці? — не згадзілася маці. — Уласнікі? Палавічнікі? А без памочнікаў я абыходжуся…

— Пасля гэтага я маўчу, — сказала пакрыўджана Рагнеда.

— Ну і маўчы, лепей будзе, — абсекла яе маці.

Аднак Янка самахоць узяў амаль пустое вядро і пайшоў па ваду. Яму не спадабалася, што маці неяк нехаця прымае да сябе ўвагу і цеплыню пачуццяў свае дачкі, што не лічыцца з яе меркаваннямі, што паводзіць сябе надта незалежна і не хоча прымаць іх за сваіх памочнікаў, а толькі за гасцей. Навошта ёй так казырацца? Для яго гэта было зусім незразумела, бо ў сям'і, дзе ён рос, усё вырашалася працай.

Калодзезь тут быў глыбокі, мо на дзесяць ці болей бетонаў-трубаў, вада ледзь віднелася, паблісквaючы ў паўзмроку. Ён пусціў вядро ўніз, яно загайдалася і стала падаць усё хутчэй і хутчэй, валёк калаўрота круціўся таксама хутчэй, і Янка, як і нядаўна сусед Пятрок, тармазнуў яго далонню, ажно яна стала гарачай. Урэшце вядро плюхнулася на ваду: яно з аднаго боку пачапкі мела прывязаную цяжкую шайбу, і гэтая шайба адразу клала вядро набок, яно пачынала заглытваць ваду і тут жа тапілася. Янка крутнуў калаўрот — і вядро паслухмяна пайшло ўверх, расплёскваючы лішнюю ваду, а потым зазвінелі толькі кроплі — цінь-цінь-цінь.

Калі Янка прынёс ваду на кухню, маці і дачка пра нешта мірна гаварылі між сабою, і ён супакоіўся: вось і добра. А сам сказаў:

— Вось і я не дармаед, зарабіў на абед.

Жанчыны засмяяліся, а Рагнеда сказала:

— Ты тут як пабудзеш, то на паўмашыны заробіш.

— А на паўмашыны ты — вось і паедзем адсюль не аўтобусам, а на ўласным аўто, — дадаў ёй у тон Янка.

Маці не далучылася да іх жарцікаў, не сказала што-небудзь такое: «Вельмі вы ў мяне шмат заробіце», а моўчкі крышыла памідоры, у той час як Рагнеда скрыляла кілбасу, раскладвала роўным кружочкам па талерцы. Янка хацеў напрасіцца накроіць хлеб, але ён ужо быў гатовы і ляжаў на плеценай з лазы хлебніцы.

— Янка, насі на стол, — сказала яму Рагнеда.

— Не трэба, — не згадзілася маці. — Я там памяняю настольнік.

— Дай я памяняю, што ты ўсё сама? — настойвала Рагнеда.

— Таму, што я тут гаспадыня, — адказала маці сур'ёзна. — Як мяне не будзе, тады будзеце вы гаспадарыць.

Янка адчуў сябе лішнім і выйшаў на ганак. Нездарма Рагнеда сказала, што ёй далёка да маткі. Адразу паказвае хто ёсць хто: яна гаспадыня, а вы тут часовыя, прыбышы, госці — няпрошаныя. Голасу ў вас свайго няма. Праўдзівей, тут няма, мо там дзе і ёсць, а толькі не тут.

Ён пастаяў трохі на ганку і паволі пайшоў у сад. Сад быў стары, пасаджаны радкава, яблыні мелі мо пяцьдзесят ці болей гадоў, ад некаторых засталіся толькі прыкметныя месцы — вось раней тут расло дрэва. Сёлета на яблынях было шмат пладоў, галіны ажно гнуліся да зямлі, некаторыя нават ламаліся, пад яблынямі ляжалі ападкі. Вось імі і трэба будзе заняцца, — падумаў сабе Янка. А яблыні былі вельмі розныя, не падобныя адна на другую, рэдка якая мела правільную форму. Некаторыя былі ўжо без верху, аднабокія-касабокія, разгалістыя, адны высокія, другія — ніжэйшыя, на іх можна было лёгка залезці. Але, як ні дзіўна, плады давалі спорна, хоць яблыкі на кожнай яблыні мелі нейкі свой выгляд і форму, нягледзячы на тое, што ўсе яны былі антонаўкі, відаць, тое самае можна сказаць і пра іх смак…

Колькі ён прабыў у садзе — мо якіх хвілін дваццаць? — а ўжо адчуў нейкую палёгку, расслабіўся, як цяпер кажуць, і ўжо вяртаўся другім чалавекам — спакойным і лагодным, у якога зляцелі з душы ўсякія клопаты, а з галавы — трывожныя думкі.

Калі Янка вярнуўся ў хату, на круглым стале ўсё было раскладзена як мае быць: стаялі тры плыткія талеркі, ля іх — злева відэлец, справа нож, тут жа папяровыя сурвэткі, у цэнтры красавалася фарфоравая салатніца з памідорамі, залітымі смятанай, на меншых талерках — скрылікі сала, гарадская і сялянская, пханая пальцам, кілбаса. Нарэзаная тонкімі скрылікамі, тут жа — пішчы цыбулі, яшчэ зялёнай, нібы яны нядаўна з грады, хоць у гэтую пару цыбуля, як ведаў Янка, ужо вырасла і саспела, яе пара даставаць з зямлі і сушыць, заплятаць у пляцёнкі і потым вешаць на жэрдачцы дзе-небудзь пры печы. А тут печы няма, ёсць толькі кафляная печкастаяк, а на кухні — шведская пліта з мноствам фаерак і з духоўкаю.

Янка не ўтрымаўся і спытаў, адкуль узялася зялёная цыбуля, на што маці не без гонару сказала, што ў яе гэтая цыбуля з Польшчы, ёй дала суседка гады тры назад, яна — зімовая, расце круглы год, называецца парэй.

— А я не ведаў, што ёсць такая цыбуля, — здзівіўся Янка. — І калі ўжо пытацца далей, дык што ў вас у гэтай пляшцы, якую я бачу на стале?

— Зараз пакаштуеш і скажаш, — адказала першая Рагнеда. — Гэта з маміных запасаў, не ведаю толькі, якой даўнасці.

— Якой даўнасці? — не ўтрымалася маці, каб не паправіць дачку. — Мне нядаўна суседка дала, яна да мяне па зелле ходзіць. А ты кажаш пра

нейкую даўнасць. Ёсць у мяне сёе-тое, будзем каштаваць, як заслужыце, толькі невялікімі дозамі.

— Будзем старацца, — падхапіў Янка. — Як сказаў старажытны доктар Гіпакрат, алкаголь у малых дозах — лякарства, у вялікіх — яд. Прымем гэта за правіла. Хоць у Якуба Коласа яшчэ лепш сказана: як ракам стаў — ужо даволі. Але гэта жарт, хоць і не надта вясёлы.

— Гіпакрата ў нас мала хто ведае, а вось Коласаваю парадай шмат хто карыстаецца, — з падколам зазначыла Рагнеда, бліснуўшы вачыма на Янку: маўляў, і ты, Брут!

Урэшце селі за стол, а за круглым лепш, чым за кантовым: дзе ні сядзь, усё роўна ты ў цэнтры, а не з краю. Янка сядзеў побач з Рагнедаю, пры ёй села маці — бліжэй да дзвярэй у кухню. Падзялілі на талеркі яечню з патэльні, Янка адбіваўся, што яму шмат паклалі, але маці сказала, што работніка трэба накарміць, а тады ўжо запрагаць у работу.

Выпілі вішнёвае наліўкі, яна была надта салодкая, але моцная, няйначай, нечага яшчэ падмешана, мо нават спірту, бо п'ецца як лікёр, — так, ва ўсякім разе, здалося Янку. Але бярэ за галаву, ён адчуў гэта праз кароткі час, а як выпіў яшчэ кілішак, дык зразумеў, што ўжо даволі — не хапала яшчэ апраставалосіцца, бо жанчыны толькі каштавалі, а ён піў да дна, нібы яго хто прымушаў.

Ён, як мог, стараўся быць далікатным за сталом: акуратна еў, не плямкаў губамі, карыстаўся нажом, як маці і яе дачка, хоць дома, у сваёй сям'і, яму хапала аднаго відэльца ці адной лыжкі, каб падзяліць ці раздушыць якую катлету ці нешта добра разваранае. Усё гэта ён рабіў не так для сябе, як для Рагнеды, якая, калі яны яшчэ ехалі ў аўтобусе, прасіла яго не паказваць сваіх сялянскіх замашак, якія ў ім моцна сядзелі і вельмі лёгка вылазілі наверх менавіта вось у такія моманты, як застолле. Прасіла яшчэ, каб не пачынаў з маткаю спрэчак, бо яна вельмі не любіць, калі з яе думкаю не лічацца, лезуць са сваімі довадамі-доказамі. Як яна сказала, так і правільна, як яна сказала — так і павінна быць.

Нешта вельмі падобнае за гэты год Янка адкрываў і знаходзіў у свае жонкі, і выходзіла, што ўсё гэта не яе ўласнае, а запазычанае ў сваёй маткі: яблычка ад яблыні недалёка падае. Ён згадзіўся, што будзе асцерагацца, каб не сапсаваць настрою сваёй другой маме, сказаўшы, што будзе называць яе менавіта мамай, і Рагнеда з радасцю ўхваліла яго намер.

Сёння за сталом усё ішло гладка, без ніякіх памарак, маці нікому з іх дваіх не сказала рэзкага слова, хоць Янка ўжо ведаў і ад Рагнеды, і са сваіх нямногіх назіранняў, што маці, калі трохі нешта не так, слоў не выбірае, і пад настрой можа лёгка ўжыць не зусім прыемнае слоўца — не ў сэнсе лаянкі, а ў сэнсе рэзкае, негатыўнае ацэнкі нейкага там твайго ўчынку, ці жэсту, ці не так сказанага слова. Такія людзі вельмі лёгка яго «заводзілі», і ён тут жа гатовы быў кінуцца на слоўную дуэль са сваім суразмоўцам. Але іншая рэч, калі гэта твой таварыш, хоць бы нават і жонка ці сястра, і зусім іншая, калі гэта твая новая цешча. Тут вуха трэба трымаць востра. А калі ўлічыць, што яны яшчэ будуць гаварыць з ёю пра нейкае там перасяленне пасля выхаду на пенсію, пра сумеснае жыццё пад адным дахам, дык тут наогул трэба быць цішэй вады, ніжэй травы. Хоць потым усё гэта можа вылезці наверх, але калі тое будзе! І яшчэ ці будзе…

Апетыт у гасцей з дарогі проста воўчы, усё, што стаяла на стале — а тут было ўсяго шмат, — неяк непрыкметна знікала, у пляшцы таксама засталіся лічаныя кроплі. Янка адчуваў, што ён добра расчырванеўся

ад вішнёвае наліўкі, трохі шумела ў галаве, а ва ўсім целе буяла нейкая новая сіла, і ён гатовы быў тут жа рынуцца пыніць нейкую работу, якая б яна ні была цяжкая. А яшчэ лепш — каб пайсці на двор, у сад, упасці на зялёную траву і глядзець у неба, на аблокі, а потым непрыкметна заснуць сном праведніка.

Але яны яшчэ пілі добра завараную, з зёлак, пахучую гарбату з малінавым варэннем, мірна гаварылі пра сёе-тое, а пераважна пра яблыкі — як іх сабраць, як прадаць — каб не прападала дабро. Вось каб у Янкі была машына, дык не было б ніякай праблемы. І тут Рагнеда, якая так баялася за Янку, сама зачапіла балючую тэму — загаварыла пра малодшага матчынага зяця Барыса Рагаткіна.

— А што Альбіна? Не можа яна сказаць свайму палкоўніку, каб прыехаў з машынаю ды памог дарагой цешчы ўправіцца з яблыкамі? Каб у нас была машына… — і не паспела дагаварыць.

— Раз не маеш машыны, дык сядзі і маўчы! — абрэзала яе маці. — І на чужы каравай рота не разяўляй. Не распараджайся чужым, калі свайго не маеш.

Рагнеда пыхнула, пачырванела, хацела нешта сказаць, але толькі прыкрыла сабе рот праваю рукою і апусціла галаву.

Маўчанне зацягнулася, і гэта не абяцала нічога добрага. Янка палічыў, што ў такі адказны момант не трэба маўчаць.

— Праблема з яблыкамі не такая ўжо і страшная. Наадварот: ёсць яблыкі — будуць грошы. Шкода, што сёння субота, канец дня. А так яшчэ можна было б зрабіць нейкую справу. Па-першае, трэба збіраць апад у скрынкі, а ў панядзелак знайсці транспарт ды вазіць на прыёмны пункт. Як вы, мама, на гэта глядзіце? Які ў вас план?

— Бачыш, мой план супадае з вашым. І я так думаю. А транспарт знойдзецца, хоць ручны. Тут у суседзяў Аляксейчыкаў ёсць тачка, такая вялікая каляска — двухколка. У яе можна паставіць тры-чатыры скрынкі — і на прыёмны пункт. Як вы, зможаце?

— Мама, называйце мяне на «ты», — папрасіў яе Янка.

— Я такая твая мама, як ты мой сын… Але хай, буду на «ты», мне так прасцей… Дык ты будзеш кіраваць транспартам, а мы адно будзем паспяваць насыпаць у скрынкі…

— Правільна, раздзяленне працы, будзе жывы канвеер, — падхапіў Янка і дадаў: — Нешта Рагнеда задумалася, мо ў яе яшчэ які план? Кажы, не саромейся!

— Я рада, што прыйшлі да згоды. І далучаюся да вашага плана, гатова памагаць да сёмага поту, — адказала Рагнеда і ўсміхнулася — ажно, здаецца, пасвятлела ў хаце.

На гэтай мінорнай ноце і скончыўся іх позні полудзень.

## II

У нядзелю іх рана пабудзіла сонца. Яно неяк ціха і далікатна пусціла свае промні ў іх пакой, дзе яны размясціліся на ноч. Першых яны пачулі птушак, потым дружна брахалі па дварах сабакі, чакаючы ўзнагароды за сваю верную начную службу. Сям-там падавалі галасы руплівыя пеўні.

Янка і Рагнеда былі ўчора вечарам добра стомленыя — яны займаліся зборам ападкаў, назбіралі некалькі скрынак, а сёння, хоць і нядзеля, думалі завезці іх на прыёмны пункт. Але ў нядзелю пункт быў закрыты, трэба

чакаць панядзелка. Ну і добра, у іх ёсць выхадны! Можна рабіць што хочаш, а можна нічога не рабіць. Але яны не былі гультаямі, каб не рабіць нічога. Нешта прыдумаюць. Мо куды сходзяць… Мо да Янкавай сястры, яна недалёка ад Буднікаў, жыве ў вёсцы з мужам і з маткаю, на выхадныя прыязджаюць яе дзеці са сваімі дзецьмі… Яшчэ можна схадзіць на возера, якое адкрылі некалькі гадоў назад: перагарадзілі невялікую рэчку, яна дала ваду, берагі трохі ўмацавалі — і вось для ахвотнікаў адпачынку месца ёсць, для аматараў лавіць рыбу — калі ласка, бяры вуды і laві. Але ловяць і забароненымі сродкамі, хіба наш чалавек можа здаволіцца тым, што яму дазволена?

— Мая каралеўна Рагнеда, як ты выспалася? — спытаўся Янка разаспаную жонку, якая ўсё яшчэ не магла прадзерці вочы.

— Дзякуй, смачна спалася, спакойна, я рада, што ты быў джэнтльменам, — адказала Рагнеда і пагладзіла яго па голай руцэ вышэй локця. — А ты ў мяне мускулісты, праўда?

— Ды я трохі працаваў на зямлі — да дваццаці гадоў, сын патомнага земляроба. Не тое, што некаторыя — не буду паказваць пальцам, — кіўнуў ён галавою на Рагнеду, — белая костка і блакітная кроў…

— Не смяшы мяне, бо ў мяне ўсё такое ж, як і ў цябе, — адказала Рагнеда. — Давай лепш будзем уставаць. Апошнія пеўні пяюць.

Толькі сабраліся снедаць, як іх намер сарвала кошачка-рыска. Яна прынесла ў зубах з адрыны кацяня, таксама рыску, пакінула яго каля гаспадыніных ног і зноў недзе пабегла. Праз колькі хвілін прыносіць ім пад стол яшчэ адно, але яно не варушыцца, не пішчыць. Яны прыгледзеліся і ўбачылі, што кацяня нежывое, у яго проста адгрызены азадак — няйначай, гэта работа пацукоў, яны загрызлі кацяня, калі кошка адлучалася. Такую здагадку выказала маці. Янка, як мужчына, павінен быў ратаваць сітуацыю. Ён адабраў у кошкі нежывое кацяня і панёс яго з хаты. На бульбянішчы, дзе яны ўчора капалі бульбу, знайшоў рыдлёўку і на ўзмежку ля плота закапаў беднае кацяня.

Калі ён памыў рукі ля калодзезя і вярнуўся ў хату, там ішла падрыхтоўка кацінага жытла: маці дала кошык, Рагнеда заслала яго кавалкам ватовае коўдры ружовага колеру. Маці паклала туды кацяня, Янка падаў кошачку, але яна доўга не пабыла — па ўсім відаць, пайшла шукаць другое кацяня. Кошык з кацянём Янка вынес на ганак, яны сталі снедаць, хоць апетыту чамусьці не было, асабліва ў жанчын. Маці паставіла на стол учарашнюю недапітую наліўку, і Янка канчаў яе адзін — жанчыны адмовіліся.

Хутка зноў вярнулася кошка, яна была заклапочаная, відаць, ад таго, што не магла знайсці другога кацяняці, пры гэтым працягла мяўкала нейкім ненатуральным голасам — так мяўкае кот, калі ён учадзее, гэта ведаў Янка з вясковага жыцця, і ўсё шнырыла па хаце, шукала па кутах, пад канапаю, а потым палезла наверх, шукала за падушкай, і ўсё прарэзліва, журботна мяўкала. Урэшце маці не вытрымала, пачала лавіць кошку, тая стала ўцякаць, уключыліся дачка і зяць, кошку злавілі, і Янка занёс яе ў веранду разам з кошыкам і кацянём — і зачыніў: няхай пасядзіць, супакоіцца.

Можа, з-за гэтай прыгоды з кошкаю, мо з-за чаго другога, але маці сёння была зусім не ў гуморы, маўчала, а маладыя — пад пяцьдзесят — не ведалі, як сябе паводзіць і што гаварыць, каб яе кепскі настрой яшчэ больш не пагоршыць.

Таму і яны або маўчалі, або перакідваліся нязначнымі фразамі: падай мне соль, нешта мне памідоры мала пасоленыя ці: а ваш хлеб не горшы за

наш, мінскі, хоць напраўду мясцовы хлеб быў нашмат горшы за сталічны. Але гэта госці адчуюць пазней, як хлеб трохі прыесца, а спачатку ён здаўся вельмі смачным.

А пра дрэнны матчын настрой яны даведаюцца потым, бо высветліцца, што матка ў нядзелю чакае прыезду свайго зяця-палкоўніка і любімай дачкі Альбіны, якія абяцалі прыехаць узяць яблык і трохі бульбы.

Роўна ў дванаццаць вырашылі ісці ў вёску да Янкавай сястры Жэні, недзе кіламетраў пяць дарогі. Можна было б ехаць аўтобусам, але яны выбралі пешы маршрут — іх доўгаю вуліцай да самай рэчкі — і праз пешаходны мосцік недалёка да лесу, а там — дарога ідзе лесам. Толькі потым адумаліся, што нічога не ўзялі з сабою: ні цукерачкі, ні перніка. Няйначай, кошка затлуміла мазгі. Але ж не вяртацца з-за такое дробязі, хоць і яна шмат значыць: прыйшлі ў госці з пустымі рукамі, як якія галадранцы. Палаялі сябе трохі — ды супакоіліся, увайшоўшы ў лес.

У лесе ў Янкі адразу мяняўся настрой. Тут ён нібы трапляў у іншы свет, яму вельмі блізкі і родны — нездарма ён нарадзіўся і рос у лесе на хутары да дзесяці гадоў, а потым іх сям'я пераехала ў другую вёску, там было адкрытае месца, роўнае поле. Цяпер на тым месцы нічога няма, выкарчаваны дрэвы і сад — і больш ніякага знаку.

На нешта падобнае яны натрапілі і тут, на ўскрайку лесу. Як памятала Рагнеда, тут стаяла хата, пры хаце хлеў, гумно і адрына. Гэта быў двор Дзямянкевічаў, тут жылі два браты, разам з Рагнедай вучыліся ў вайну ў нямецкай школе, хоць яна была беларускай, а нямецкая мова выкладалася як замежная. Як пераросткаў іх залічылі ў СБМ, Саюз беларускай моладзі, за што іх чакала кара, як толькі немцаў пагналі на захад. Хлопцаў забралі, судзілі, яны прапалі надоўга, ажно да смерці правадыра ўсіх працоўных. Бацькі, відаць, памерлі, будынкі разабралі мо якія сваякі, а хлопцы жылі ўжо хто дзе: адзін у Салігорску, як былы шахцёр з Варкуты, а другі ў Бабруйску. А на месцы іх хаты застаўся толькі падмурак.

Пастуපова Янка і Рагнеда паглыбляліся ў лес, усё благое і непрыемнае адступала, засланялася ўсім тым, што бачылі вочы. Лес быў малады, пераважна лісцёвы, страявыя сосны і елкі за вайну, ды і пасля вайны, высечаны, ад іх засталіся толькі пні, якія ўжо сталі парахнець. А лісцёвы лес больш вясёлы, чым густы ельнік, у ім лёгка дыхаць, галіны яго пранізаны промнямі сонца, і лісце здаецца залатым, ажно адсвечвае, нібы гэта не лісце, а свецяць нейкія фантастычныя ліхтарыкі, якіх так шмат, што ў лесе светла — нават святлей, чым на адкрытым месцы. Асабліва зачароўваў малады беразняк, які ўжо збіраўся скідаць свой залаціста-зялёны ўбор, зямля была ўслана залатымі і меднымі, бронзавымі і латуннымі манеткамі рознай велічыні, якія ператваралі зямлю ў стракаты залацісты дыван, па якім так прыемна было ісці, — лісце злёгку шапацела-пераразвоньвалася, як бы хацела далучыць свой голас да тае музыкі галін і лісцяў, якія яшчэ засталіся ўверсе і спявалі сваю непаўторную песню пад павевамі ветру.

— Як гэта добра зліцца з прыродай, — гаварыла Рагнеда, зачараваная харастом лесу, — адчуць яе спрадвечны голас-пokліч да хараства, да аб'яднання, да суладнасці, чаго так не хапае сёння людзям, якія ўсё нечым незадаволены, усё нечага хочуць, а самі не ведаюць чаго, якіх цягне ў вір войнаў, захопаў, разбурэння і руйнавання таго, што ўжо зроблена, чаго нельга разбураць, бо ў гэта ўкладзена чалавечая праца, ды не толькі праца, а душа чалавечая, яго геній, яго надзея на шчасце сваіх дзяцей і ўнукаў, на мірнае і шчаслівае жыццё ўсіх людзей, якія яго акружаюць.

— Каб жа так, каб жа так было, як ты кажаш! — падхапіў Янка, які таксама быў пад уражаннем ляснога суладдзя і хараства. — Не забывай, што законы прыроды — гэта не тое, што чалавечыя законы. Законы прыроды ўсталяваў нехта вышэйшы за ўсіх, — ён паказаў пальцам у неба, — а людзі пісалі свае законы самі, стараліся, каб яны былі справядлівыя, не жорсткія, а памяркоўныя, а што выходзіць? Закон паварочваецца супраць чалавека, а не за чалавека, як планавалася. Бо закон перайшоў у рукі ўлады, дзяржавы, і цяпер ён служыць не чалавеку, а дзяржаве. А дзяржава ніколі не была за чалавека, яна жыве з яго працы, паразітуе на ім, а калі чалавек хоча скінуць яе з сябе, улада гатова ўжыць сілу супроць таго чалавека, якога яна павінна абараняць. Чалавеку здаецца, што ён аддае дзяржаве ўсё, што можа, усё, што трэба, а ўлада-дзяржава кажа, што гэтага мала, што яшчэ трэба ўзяць у цябе, чалавеча, каб ты вельмі не ганарыўся, што на табе ўсё трымаецца. На ўладзе ўсё трымаецца, на дзяржаве, а не на табе. Так што давай усё тое, што мы табе скажам, а не дасі — забяром па законе, які ў нас ёсць на ўсякі выпадак. А будзеш брыкацца — дамо табе рады, у нас для гэтага ёсць сіла, якая скруціць любую сілу, што не захоча нам служыць. Так што, як казалі раней у Вялікім княстве Літоўскім і ў Рэчы Паспалітай: ора эт лябора — маліся і працуй.

— Ой, Яначка, суровы ты рэаліст, разбурыў мой светлы замак, які я тут вымудравала. А ты яго — адным махам… Ну навошта так было рабіць? Хай бы ж ты дапамог яго расквеціць, размаляваць ва ўсе колеры вясёлкі, засяліць яго добрымі духамі, светлымі вобразамі, якімі-небудзь незямнымі німфамі і наядамі, каб нам было весялей, святлей, а ты ссадзіў мяне адразу на грэшную зямлю.

— А ты думаеш, што ў гэтым лесе толькі светлыя, святыя справы рабіліся і робяцца? Тут усяго намешана, і ўсе твае маляванні разляцяцца, як пух з дзьмухаўца, толькі хай дыхне моцны вецер, наляцяць хмары і грымне гром.

— Ай, не буду я з табою ў лес хадзіць, ты толькі сум наводзіш, на нядобрыя думкі схіляеш, усю паэзію замятаеш ляжалым сатлелым лісцем. Паўзучы рэаліст, як ты пра сябе кажаш. Вельмі табе падыходзіць…

Мо і праўда — дарэмна Янка перасеў з ружовых аблокаў, на якіх яны нядаўна сядзелі, на гэту грэшную зямлю? Дарэмна і Рагнеду скінуў… Але чагосьці яму не хапала ў яе развагах, была яна далёкая ад рэальнасці, і гэта ў ёй Янка заўважаў даўно, колькі яе ведаў: яна была трохі паэткаю, мо каб яна пайшла ў філалогію, з яе атрымаўся б неблагі літаратар. Душа ў яе тонкая, паэтычная, яна можа бачыць ці адчуваць тое, чаго не бачыў і не адчуваў «паўзучы рэаліст» Янка, які мог прайсці міма чаго-небудзь такога, перад чым Рагнеда стаяла б як зачараваная, як перад святым абразом ці незвычайнаю з'явай прыроды.

Шырокая, гладкая і не такая ўжо выбітая дарога ў лесе нечакана дала адростак направа, трохі як бы ўздымалася вышэй таго ўзроўню, па якім яны ішлі дагэтуль, — калісьці даўно гэта было. Яны ледзь пралезлі праз навісь галін, дарога была малаезджаная, але звярнулі на яе не выпадкова — іх вёў інстынкт: тут яны калісьці хадзілі. Яны прайшлі яшчэ метраў сто і апынуліся на вялікай паляне.

— А Божа, дык гэта ж тут была леснічоўка! — усклікнула Рагнеда. — Тут жыў ляснік Вячорка. І хата яго стаяла во каля гэтай вялізнае грушы, што цяпер тут адна раскашуецца.

Рагнеда гаварыла праўду, гэтае месца Янка добра ведаў, бо хадзіў па грыбы, як прыязджаў да сястры Жэні, якая тут, непадалёку, пасялілася

некалькі гадоў назад. І бачыў яшчэ адзінокую вялікую хату, у якой ніхто не жыў, бо яе гаспадара, польскага лесніка Вячорку, вывезлі Саветы пасля вайны разам з сям'ёю, і дзе яны цяпер — ніхто не ведаў.

А далей, на тым баку паляны, яны ўбачылі некалькі чалавек, якія падграбалі атаву і складалі ў невялікія копкі. Пры дарозе стаяў чырвоны «масквіч» з адчыненымі дзверцамі, ля яго на траве віднеўся трохлітровы слоік з вадою.

— Хоць ты папрасі ў іх вады, — сказала сама сабе Рагнеда. — Але не буду, выцерплю…

Зграбалі атаву малады мужчына, адных гадоў з ім жанчына, мо яго жонка, і старэйшая за іх жанчына, няйначай, маці некаторага з маладых.

Яны мінулі паляну, і Рагнеда пачала расказваць:

— Ведаеш, у вайну зімою я тут была, у гэтых Вячоркаў. Яны мелі дачку, яна вучылася ў гарадку. Моладзь ужо хапалі і вывозілі ў Германію. І вось аднойчы мы ўцякалі ад аблавы, я і яшчэ адна дзяўчынка, прымчаліся да іх. І гаспадар нас разам са сваёю дачкою схаваў у капцы бульбы. Бульбу ўжо бралі, там былі пустоты, шмат саломы. Мы залезлі ўсе трое і прасядзелі некалькі гадзін. Было сыра і холадна, я моцна прастудзілася, балелі ныркі. Прабач, я мачылася крывёю. Усе ўжо лічылі, што мне канцы, нават дактары. Але мяне выратаваў нямецкі доктар, жыў недалёка ад нас, вайсковы. Нават яго прозвішча запомніла — Губер, ужо ў гадах чалавек.

— Дык і мы прывозілі да яго маю старэйшую сястру, у яе быў нейкі нервовы зрыў, і ён яе вылечыў таксама, — сказаў Янка. — Толькі я не ведаў яго прозвішча.

Так яны ішлі лесам, гаворачы, успамінаючы. Тут былі густыя зараснікі грабу, пераважна маладога, тонкага і гонкага, многія дрэўцы проста гнуліся ў дугу і верхам сваім ледзь не даставалі да зямлі. Пачалі сустракацца грыбы — сыраежкі, падбярозавікі, нават праўдзівікі, але нейкія падазроныя, ці не фальшывыя. Янка спрабаваў іх нават на зуб, і яны не былі горкія, але Рагнеда не дала іх браць з сабою.

Урэшце яны выбіліся на край лесу, пайшлі па дарозе. Справа віднеліся хаты вёскі, у якой жыла Янкава сястра. Да яе хаты яны па сцежцы падышлі з тылу, ад хлява, якраз на двары ўбачылі жанчыну, і Янка адразу пазнаў сваю матку. Невысокая, у доўгай чорнай спадніцы, у камізэльцы на мультановую, у клетачку, кашулю, у светлай хустцы на галаве, твар быў у маршчынах, загарэлы, вочы запалі. Маці несла з летняе кухні ў хату вялізную патэльню, накрытую анучкаю, і каструлю з адваранаю бульбаю, з якой яшчэ ішла пара — няйначай, толькі што адцэджаная.

— А дзеткі ж мае, я ж нават не падумала, што гэта вы. Палічыла, што так якія людзі ідуць з лесу праз наш двор. А вас мы чакалі з аўтобуса. Ажно вы пехатою! Мо стаміліся? Мо прагаладаліся? Якраз во будзем палуднаваць. Картопля параная, скаварада сала, хопіць на ўсіх.

Рагнеда падзякавала за клопат, сказала, што вельмі вінаватыя перад імі, ішлі лесам, не праз магазін, таму і з пустымі рукамі, хай яны ўжо даруюць.

— Такое бяды! — супакоіла іх маці. — Хіба мы тут тае цукеркі не бачым? Дзецям часам купляем, то і сабе іншым разам якую цукерку ў рот возьмеш. Выкіньце з галавы, каб што…

Тут выйшла на двор Жэня, павіталася — пацалавалася з братавою, з братам, паўшчувала, што не заглядаюць да іх, бедных сваякоў, запрасіла на абед. Яна была паўнацелая, нейкая непаваротлівая, як усё роўна хворая.

У агародчыку перад хатаю стаяў столік, яго накрылі настольнікам, вынеслі некалькі табурэтак, невялікі ўслончык на два пасадачныя месцы, расселіся ўсе, хто быў на той час дома, — яшчэ з хаты выйшла Жэніна малодшая дачка Наташа з дзяўчынкаю гадоў двух, вяла яе за ручку. Гаспадар недзе адлучыўся, пайшоў да сваіх «братоў» — тут у іх арганізавалася нейкае «брацтва», начальнік у горадзе нешта на яго сварыцца.

Жэня распытвала, як яны жывуць, ставіла перад кожным жалезную пабяляную талерку, давала відэлец, лыжку, раскладала скрылікі смажанага сала, клала вялікаю лыжкаю бульбу, кіслыя гуркі, а кіслае малако са смятанаю сказала браць усім з аднае місы, як гэта рабілі некалі нашы дзяды. Дачка Наташа толькі што-небудзь прыносіла, дапамагала, а першую скрыпку вяла сама Жэня, як у Будніках Рагнедзіна маці. Старыя не хацелі здаваць сваіх пазіцыяў, цягнулі ўсё самі, пакуль ёсць яшчэ сілы.

Рагнеда стала расказваць пра сябе, пра Янку — што вось яшчэ варушацца-працуюць, а яна сама ўжо збіраецца на пенсію, а там праз некалькі гадкоў пойдзе і Янка. Пра дзяцей гаварыла як нехаця: што кватэру давялося размяняць, Янкавы дзеці атрымалі двухпакаёўку-хрушчоўку, а Янка асобны пакой у яе, Рагнедзінай кватэры.

— А навошта было разменьваць трохпакаёўку? Няхай бы і жылі там дзеці, — сказала маці, як бы папракнуўшы сына, што ён так зрабіў — размяняў кватэру пасля смерці першае жонкі.

— Можа, я і не разменьваў бы, але ж там сталі пасяляцца Вальчыны сваякі. Адна дзяўчына заняла адзін пакой, другая — другі, а маіх дачок сагналі ў адзін пакой, самы меншы. Ну, я павінен быў зрабіць выгляд, што перасяляюся да дзяцей і прашу іх вызваліць жылплошчу. Я там яшчэ быў прыпісаны, кватэра была на мне. Ну, як яны выселіліся, мы і пачалі шукаць абмен. Гэта доўгая гісторыя, быў пецярны абмен-размен. Выйшла так, што я свой пакой памяняў з жанчынаю, якая жыла ў Рагнедзінай кватэры, стаў яе суседам, — кіўнуў на жонку.

— А Божа, я і не разабралася, што ты нагаварыў, як разменьваў, — успляснула рукамі маці. — Гэтыя гарады — не дай Бог людзям тае пакуты, я там і дня не магу выжыць. Я ж была ў цябе, калі ты з дочкамі і Валькаю жыў яшчэ на нейкай Чарняўскай ці Чарнышэўскай вуліцы.

Янка добра памятаў той прыезд маткі, яна пажыла ў іх некалькі дзён і папрасілася дадому: вада з крана здалася ёй не толькі нясмачнаю, але нават шкоднаю для яе. Як потым казала яму сястра Жэня, маці збіралася пажыць у сына хоць бы зіму, ажно не вытрымала і аднаго тыдня. Ёсць няпісанае правіла: старое дрэва не перасаджваюць, яно можа засохнуць. Так і стары чалавек: да чаго ён прывык, да чаго прырос, ад таго ўжо яго нельга адарваць.

Але маці хацела ўсё ведаць — як пра дзяцей, так і пра ўнукаў, ёй здавалася, што яны там робяць нешта не так, як трэба, што не раяцца са старымі бацькамі, усё хочуць жыць сваім одумам, таму і жывуць не так, як трэба, таму ў іх і ўсякіх-усялякіх напасцяў аж задужа. А яшчэ — што ў царкву не ходзяць, Богу не моляцца. Але што ў царкву? Цяпер сваіх багоў напрыдумлялі, вунь як яе зяць Анупрэй. Збяруцца кампаніяй і моляцца, Біблію чытаюць, а потым — віно п'юць. Дома нічога не глядзіць. Вунь у хляве страха цячэ, то накрывае сена плёнкаю з сярэдзіны, гніе сена, а страхі не паправіць. Веранду падшыць ужо дзесяць год збіраецца, і тут страха цячы пачынае. Падлога не пафарбавана, шпалеры паклеіць Жэні няма з кім, мо дзеці з Мінска прыедуць ды памогуць. Цяпер трохі менш п'е, але ўсё

роўна сварыцца, крычыць: куры на дварэ корміце, зерне на зямлю сыплеце! Чаму карову не так корміце, чаму застаецца ў жолабе? Трэба каб усё з'ела, нават цыбуры. А не хоча — хай стаіць, пагаладае — даесць… Пчолы прыбіліся, распладзіліся, было тры вуллі, дык сталі прападаць. Адзін вулей у хату ўнеслі на зіму, а другі застаўся — кажа, што ўцяпліў. Але не той бок уцяпліў, пчолы і пагінулі. Не любяць пчолы, што ад яго бензінам дыхціць, ды і вінам таксама. А тут яшчэ гэтае пратручванне пустазелля... Нічога не выходзіць з пчолаў… Гаспадар — не дай Бог такіх бачыць. Карова яго баіцца, куры баяцца, нават каты ўцякаюць, як яго ўгледзяць… Летась ішоў п'яны, а якраз цялушку заганялі. Ён стаў на праходзе пры плоце і стаіць, як пень — як знарок. Ледзь прагналі тую цялушку, так яго баялася. Потым прыходзіць, здымае туфель — ды бух Жэні па галаве, я крык узняла — дык ён і мне, я і абсунулася. Жэня крычыць: яшчэ раз падымеш руку — пайду ў міліцыю, у суд, хай даюць рады… А як раней сядзеў дзесяць сутак, дык стараўся перад начальствам падлізацца, перабраў пракурораву машыну, зрабіў яе як новую… А грошай Жэні не дае, калі часам дробнае што купіць — і ўсё, як іх і не было. Дык Жэня павінна была дзве стаўкі браць: здароўе надарвала, ціск падымаецца, збіраецца кідаць тую работу — нейкаю тэхнічкаю там робіць у канторы, дзе і Анупрэй шафёрыць.

Зачапіла маці і ўнучак, стала расказваць пра адну, другую, трэцюю. Жэня крывілася, але выслухоўвала, не перабівала, часам і сама што дадавала:

— Гэта ж во, самая меншая мая, Наташка, замуж выскачыла — за жанатага, яшчэ не развядзёнца, жонка разводу не дае. Пазнаёміліся недзе ў гарах, альпіністы, ён нават нейкі інструктар, водзіць групу. Збіраюцца аж на Памір — абое. Навошта ім той Памір здаўся — адзін Бог ведае. А жывуць асобна — яна ў інтэрнаце, а ён на кватэры. Разводу трэба чакаць тры гады — па законе. Ад яго бацькі адракліся, не пішуць, не прыязджаюць. Яны, мусіць, і багатыя, нейкія па гандлі ці дастаўцы. А тут ім сынок новую нявестку знайшоў…

Наташка слухала, што пра яе матка кажа, чырванела, усхоплівалася з месца, потым вярталася — пераживала.

— Мо і не трэба было табе, Жэня, нам расказваць гэтую гісторыю з Наташкай, бачыш, як ты яе ўразіла? Дзяўчына сама не свая, — зазначыў як між іншым Янка.

— Ты праўду сказаў, што не свая, а ўжо невядомая чыя. Навошта ёй чужы муж? Хіба мала вольных хлопцаў? Не, знюхалася ў тых гарах, пагрэліся! Цяпер ім будзе цёпла, як стануць жыць па чужых кватэрах, а ён яшчэ аліменты будзе плаціць на дваіх дзяцей.

— А гэтая дзяўчынка не яе, што з ёю гуляе? — спытаўся Янка.

— Не, гэта старэйшае, тая ж таксама ў Мінску, на чужой кватэры дзяцей гадуе. Усё грошы на кааператыў збіраюць, апошнія сілы кладуць. А тут ад нас пры такім гаспадары якая дапамога? Ніякай! Тут і сабе не хапае, а не яшчэ дзецям памагчы, як ім трэба. Адзінае, што яшчэ карова нас корміць — ды яшчэ кабанчыка ў год раз заколем, гэтым і жывём. Праўда, цялушачку нядаўна здалі ў калгас, то трохі дапамога была…

Тут на дварэ паказаўся хлапчук на гадоў дзесяць-дванаццаць, Янка яго бачыў год назад, і тады ён быў яшчэ маленькі, як вузельчык, а тут падлетак ужо, глядзі, стане хутка і на дзяўчат заглядацца.

— Сынок, ідзі палуднаваць, ты ж галодны з самага ранку, дзе ты быў? — загаварыла Жэня да сына Алега, які быў самы малодшы ў яе сям'і, перад ім ішлі тры дзяўчыны, пра якіх вось яны тут гутарылі.

— Мамка, дзякую, мо потым, я не галодны, — адмовіўся хлопец і пачырванеў. На матку ён быў зусім не падобны, хутчэй на бацьку.

Тут яшчэ Янкава маці дадала трохі пра ўнука:

— Бацька называецца! Хлопца зусім замэнчыў — па дзесяць вёдраў вады цягаць прымушае, цэлую бочку. А цяпер салому ўсім вазіў, то хлопец машыну таптаў — адну, другую, трэцюю, — дык ужо зусім ашлягнуў. Рука пачала тузацца, вока левае скакала, да доктара вазілі…

Так, слова за слова, перайшлі да сваякоў. Маці Янкава зноў пачала:

— Гэта ж нядаўна памерла Верка, дзеда Івана дачка. Яшчэ і жыла б, але дзеткі давялі, дачка з зяцем. П'юць на пару, на матку не зважаюць, яшчэ лаюцца. Перад гэтым зяць быў прапаў, думалі, уцёк з дому. А ён пайшоў на работу, у канцы п'яны зваліўся з ног у некім закутку — і ляжыць. А дачка ледзь знайшла яго, прыцягнула дадому. Маці кажа дачцэ: кінь ты гэтага п'яніцу, вунь цётка Ганя адна пражыла, не захацела другога мужа, пагадавала дзяцей. А дачка крычыць: лепш ты падыхай, ты нам жыць не даеш, а яго я не кіну, ён мне ў сто разоў даражэй, чым ты… Як памірала Верка, сабраліся сваякі, суседзі, прыйшла сястра Ганя. Пазнавала ўсіх, была пры памяці. Потым клікала: мама, мама! Колькі дзён назад зяць сніў сон: прыйшоў Костусь, цесць — ён ужо даўно памёр — ды нейкі заклапочаны вельмі. Пытаюць у яго мужчыны: мо па маму Верку? Не, кажа, па яе прыйдуць два мужчыны. І падае шмат фатаграфіяў, паказвае на двух: во гэты і гэты. А другі і быў якраз яго зяць-зяцёк, што давёў яе да дамавіны…

У Янкі, здаецца, ажно спухла галава ад таго, што тут яму нараcказвалі яго родная маці і сястра Жэня. Добра, што ёсць у цябе, Яначка, свае крэўныя людзі, што з імі ты можаш пагаварыць па душах, што яны, як трэба, паспачуваюць табе ў бядзе, і памогуць, і парадзяць, і ў крыўду не дадуць. Праўда, яны не вунь якія, не багатыя, у іх няма таго, што маюць многія, але затое ў іх шчырыя, адкрытыя душы, гатовыя адклікнуцца на чужое гора і бяду. Бо яны самі шмат яго бачылі, шмат чаго перажылі, а перажытае вучыць чалавека, робіць яго больш відушчым, больш абачлівым і нават мудрым.

Відаць, нешта падобнае перажывала і Рагнеда, якая ў кампаніі не любіла заставацца ў цені, магла паспрачацца, магла стаць першаю скрыпкаю. А сёння яна неяк ненатуральна паводзіла сябе ў кампаніі гэтых людзей, якіх яна яшчэ мала ведала, але якіх добра ведаў яе муж Янка, які вырас побач з імі, якія памагалі яму ўсім, чым маглі, ён пайшоў у свет, у людзі, стаў нейкім трохі вядомым — сяму-таму — пісьменнікам. Таму яна і не хацела «паказвацца», дала ім поўную волю і ўсякую ініцыятыву: я тут госця, вы гаварыце што хочаце, я гатова слухаць — хоць, можа, што і не надта прыемнае для сябе. Нават згодна і на такое…

І ўсё ж такі Рагнеда паставіла кропку ў гэтай доўгай бяседзе-гутарцы, і нават, відаць, здзівіла ўсіх, у тым ліку і самога Янку, бо для яго тое, што яна сказала, было навіною.

Яна пачала трохі здалёк — пра свой дом, пра родны кут і яго ролю ў жыцці кожнага чалавека — не пра сябе канкрэтна. Як гэта важна, калі чалавек, яшчэ дзіцем, расце ў сваім доме, са сваімі бацькамі, братамі і сёстрамі, дзедкамі і бабкамі, побач з нейкаю там жыўнасцю — канём, кароваю, свіннямі, авечкамі, курамі і гусямі. Усё гэта яго выхоўвае, памагае яму расці — і любіць гэта ўсё, і цаніць, і абараняць, калі трэба, нават пакласці галаву, калі так давядзецца. Ён прырастае да ўсяго гэтага, зжываецца з ім, яно ўсё ўваходзіць у яго свядомасць, у душу, робіцца часткаю, а мо нават асноваю, падмуркам яго чалавечага «я».

І тут налятае нейкі віхор, усё гэта, што ён меў і любіў, разбурае, разносіць у шчэпкі, руйнуе — і на тым месцы, дзе стаяў яго дом ці дом яго бацькоў, не застаецца нават і следу, нават падмурка.

— Мы ішлі да вас лесам, — пасля кароткай перадышкі зноў загаварыла Рагнеда, — і па дарозе якраз і бачылі два разбураныя гнязды, бачылі толькі астаткі падмуркаў, і яны ўцалелі толькі таму, што ў лесе. А як у полі — там не застанецца і следу. Як не засталося следу ад тых — не дамоў, а хатаў, у якіх жыў ваш і мой Янка, у якіх жылі вы. Дык вось, вы малайцы, вы збудавалі сабе новы дом ці хату, называйце як хочаце, а вось Янка застаўся без хаты. У яго ёсць толькі гарадская кватэра, адзін выменяны пакой. Ён сам не надта наракае на лёс, ну і няхай. А вось я падумала сабе: няхай у нашага Янкі будзе хоць нейкая сімвалічная хата, трохі падобнае да тое, у якой ён нарадзіўся і рос да дзесяці гадоў у той глухой лясной і балотнай вёсачцы Вадзяніца. І таму я хачу пабудаваць тут на бацькоўскім котлішчы ў нашым гарадку такую хатку, мо яна з цягам часу стане літаратурным клубам, дзе будзе збірацца літаратурная моладзь, а потым можа быць і стане літаратурным музеем Янкі Баркуна. І ўдзячныя нашчадкі нашы будуць прыходзіць туды і здымаць шапкі перад сціплым бюстам свайго земляка, разглядаць яго рукапісы, яго кніжкі — і ганарыцца чалавекам, які праславіў свае мясціны — і сваё імя. Што вы на гэта скажаце, шаноўныя сваякі і родзічы?

Усе былі проста як аглушаныя — і маўчалі. Першы апамятаўся Янка, і мо таму, што ў гэтай задуме яму належала першая роля. І паколькі першым ён мала калі быў і мала да гэтага рваўся, дык яго трохі ўкалола тое, што яго, не спытаўшыся, хочуць пасадзіць на белага каня. Па той народнай показцы: не ўмею ні пісаць, ні чытаць — хочуць за караля абраць. Мо каб Рагнеда параілася з ім, каб хоць сказала аб сваёй задуме, ён, падумаўшы, мог бы з усякімі агаворкамі і згадзіцца, але так раптоўна, як гром з яснага неба? Яго проста разабраў смех, і ён разрагатаўся, і ўжо на яго глядзелі як на нейкага калі не дзівака, дык парушальніка парадку — этыкету: тут гаворыць чалавек пра сур'ёзныя рэчы, а ён выскаляецца! Хіба ж так можна? Нарагатаўшыся, ён сказаў, як заклікаў усё роўна:

— Апладысменты! Прашу апладысменты нашай прамоўцы, мецэнатцы, фундатарцы, папулярызатарцы і гэтак далей спадарыні Рагнедзе, якая хоча ўвекавечыць сціплую постаць свайго мужа і пабудаваць яму музей пры жыцці, як бы ён там ні выглядаў — ці як хатка на курынай назе, ці як замак Радзівілаў.

Рагнеда, відаць, пакрыўдзілася, таму маўчала — нават надзьмулася, маці мо шмат чаго не зразумела з таго, што сказаў Янка, і таму таксама як чакала працягу размовы, таму першай азвалася на яго смех і такія модныя чужыя словы яго сястра Жэня:

— Што ты зубы прадаеш, братко, як блазан? Што смешнага ты пачуў? Тут якраз не смяяцца, а плакаць трэба. Над тваім лёсам, над нашым, а ты рагочаш, як п'яны, хоць сёння мы, дзякуй Богу, і не пілі.

— А што, табе не смешна? Ты пастаў сябе на маё месца, дык і табе будзе смешна. Ніколі я пра ніякія ўшанаванні самога сябе не думаў і думаць не збіраюся. Калі я нешта варты — хай потым што робяць, калі не — тым болей не трэба загадзя агарод гарадзіць.

— Калі ўсе так будуць разважаць, у нас ніколі культуры не будзе, а будзе роўнае поле, зарослае пустазеллем, без ніякага знаку, нібы тут і людзі ніколі не жылі, нічога не збудавалі, нічога не мелі, — далучылася

да Жэні Рагнеда. — А ў сціплага гуляеш мо па сваёй ляноце: навошта табе лішні клопат? Гэта ж твой лозунг: навошта мне лішні клопат?

— Правільна! Навошта ён мне лішні? Мне і запланаваных клопатаў хапае. Лішніх я не хачу мець! — пачаў ужо злаваць Янка.

— Што, літаратура — гэта лішні клопат? Ты пра яе не дбаеш? А колькі ты людзей вывеў у літаратуру, памог маладым знайсці сваю дарогу, свой голас? Гэта быў запланаваны клопат, як ты кажаш? — прыпірала Янку да сценкі Рагнеда. — Аддай сэрца людзям — усё, без астатку! Тады ты нешта значыш, а калі ты вымяраеш: адгэтуль дагэтуль — маё, а там, чыё хочаце, — так ты шмат не зробіш, даражэнькі, і сапраўды цябе не стануць увекавечваць, знойдуцца іншыя — і іх увекавечаць, бо яны аддалі сэрца людзям без астатку, згарэлі на працы — у імя ідэі, калі хочаш ведаць. А ты ў імя ідэі не хочаш паварушыць лішні раз і пальцам. Навошта табе лішні клопат?

Сапраўды, Рагнеда ўлавіла слабае месца ў Янкавай абароне і пачала яго разбіваць па частках — па-ротна, па-батальённа, дабярэцца і да штаба, да галоўных яго козыраў: што ён такі ўжо абыякавы да таго, што пра яго скажуць — ну проста, як той Людовік некаторы, які казаў, што пасля нас — хоць патоп. Ці, прасцей, наша, беларускае: пасля нас хоць трава не расці… Не такі ўжо ён абыякавы, і рады ён быў бы, каб яго хвалілі, як якога Караткевіча, ды што зробіш, калі яму, Янку, далёка да яго, вунь як далёка! Але ж Караткевіч выкладваўся да астатку, сілаў сваіх не шкадаваў, па начах не спаў, пісаў. А пакуль пачаў пісаць, колькі ён кніжак перачытаў, колькі ў архівах выседжваў, у бібліятэках. Ён не казаў, што не трэба мне лішняй работы, усякая работа яму была патрэбна, не была лішняю. Таму і зрабіў ён шмат, і зрабіў так, што на вякі застанецца. Вось ужо хто сапраўды аддаў сэрца людзям, дык гэта Караткевіч! Ці той жа Васіль Быкаў! А ты ж іх, Яначка, рэдагаваў, вучыўся ў іх, ды слаба, відаць, вучыўся, што не дагнаў іх, не хапіла табе пораху…

— Беларуская ідэя для мяне, — ужо спакойна гаварыў Янка, — не лішні клопат, не перабольшвай, для яе я не пашкадую сілы, будзь пэўна… Але распыляцца не хачу, разменьвацца на дробязі — не буду. Я сур'ёзны чалавек, можа, гэта і дрэнна, але гэта так… Урэшце, што скажа на гэта маладое пакаленне? — звярнуўся Янка да пляменніцы Наташы, якая пераважна маўчала, толькі пераводзіла позірк на тых, хто спрачаўся, хто гаварыў, часам усміхалася сама сабе.

— Я ў гэтым не вельмі разбіраюся, але, мне здаецца, што цётка Рагнеда гаворыць праўду. Кожны чалавек павінен пакінуць пасля сябе добры след. Каб людзі пра яго памяталі, калі ён заслужаны — каб у яго вучыліся, бралі прыклад. Не думайце, што з вас не бяруць прыклад, у школе пра вас часта гавораць, на ўроках літаратуры настаўнікі часта вас успамінаюць…

— Бач ты! Дзякую! А я і не ведаў, — неяк лёгка сказаў Янка, нібы з іроніяй ці насмешкаю.

— Вы не смейцеся, гэта не гіпербала. Вы для нас, маладых — вельмі добры прыклад. Каб раўняцца на вас… Гэта вам здаецца, што вы не так ужо і многа зрабілі…

— Ну, дзякую, ты мяне трохі супакоіла, Наташка. Буду старацца, каб вас не падводзіць. Але ўсё роўна музеяў мне не трэба, што хочаце гаварыце.

— Як заслужыце, дык будзе і музей, — усміхнулася Наташа.

— А не заслужу — музея не будзе. Сам сабою напрошваецца вывад. Дык мо яшчэ рана думаць пра музеі? Мо яшчэ трэба пачакаць? Мо яшчэ

ў мяне прарэжуцца зубы мудрасці? Га? Што вы ўсе як вады ў рот набралі? — пытаўся Янка ў публікі за сталом. — Абмяркоўваецца такое важнае пытанне! — Янка дадаў трохі іроніі ў свой голас, спадзеючыся, што гэта можа ажывіць гутарку, выклікаць спрэчку, хоць спрэчка фактычна скончылася, і пляменніца Наташа як бы падвяла рысу: па заслугах аплата. І з гэтым трэба згадзіцца.

— Што тут гаварыць, таўчы ваду ў ступе? — умяшалася Рагнеда. — Ты рабі сваё, а мы будзем рабіць сваё, і толькі ты мне не пярэч, не кажы, што я рабіла не тое, што трэба, а ты сам — тое. Час пакажа, ці тое мы рабілі, ці так мы рабілі, як трэба. Можа, скажаш — не?

— Тут я згодзен, час пакажа, усё расставіць па сваіх месцах. А мы пра гэта можам думаць, можам не. Як хто хоча, — скончыў Янка.

— Не веру я, што ты не думаеш пра сваё будучае, — не згадзілася з ім Рагнеда. — І што цябе не цікавіць, якое яно будзе. Не веру!

— Ха! Можаш не верыць. Мо я думаю, але нікому не скажу. Нават табе! Бо можна гадаць, колькі хочаш, а будзе так, як ты нават і не думаў.

— Ой, цяжка мне з табою, — уздыхнула Рагнеда і больш нічога недадала.

— А мне — з табою. Бо ты не даеш мне спакою, усё цябе нешта як падмывае, пацвельвае: і гэта трэба, і тое трэба. А мне мала трэба. Вось такі я нядобры, такі-сякі, абы-які.

— Ты не абы-які, а абыякі, абыякавы. А гэта вельмі нядобра.

Спрэчка хоць і па дробязях, але працягвалася. Калі адказваць на закіды, канца ёй не будзе. Але праўда застаецца за тым, хто сказаў апошні — такое ёсць няпісанае правіла. Таму спрэчка можа і не скончыцца. Таму ён замоўк, і хай ён будзе абыякі, абыякавы. Хай Рагнедзе будзе лягчэй. Мо толькі маці з гэтым не згодзіцца, мо сястра паспрачаецца. Але яны прамаўчалі. Можа, проста стаміліся. Бо сам Янка адчуваў сябе вычарпаным да дна, як той калодзезь, з якога бралі ваду на нейкую вялікую патрэбу, мо на пажар. Трэба вунь колькі часу, каб ён папоўніў свае запасы. Янка ўстаў і сказаў старую беларускую прымаўку:

— Пара, госцікі, дадому, бо паелі конікі салому.

Усе засмяяліся, устала Рагнеда, потым усе астатнія.

— Зараз жа будзе аўтобус, — сказала сястра Жэня. — Мы як ведалі, калі завязаць. Трэба мне даць вам малака з сабою. Наша смачнейшае за ваша, гарадское. — І яна знікла ў хаце.

Рагнеда і Янка развіталіся з маткаю: абняліся, пацалаваліся, маці, як заўсёды, заплакала, стала гаварыць, каб часцей заходзілі, пакуль яны тут блізка, а то заходзяць гады ў рады, як усё роўна чужыя. Сястра Жэня вынесла трохлітровы слоік малака ў сетцы, сказала пра слоік — каб другі раз прывозілі два, тады лягчэй абменьвацца — слоікі патрэбныя. Яна хацела яшчэ перадаць ім салодкіх яблык, але яны адмовіліся: хапае і сваіх.

Прыпынак быў блізка ля хаты, віднелася крытая будка без адной сценкі, там ужо стаялі людзі, пераважна жанчыны. З хаты выйшаў падлетак Алег, падышоў да іх і спытаўся ў дзядзькі, ці выйшла яго новая кніжка. Янка сказаў, што хутка павінна выйсці, і ён прывязе яе сюды. Малы падзякаваў і адышоў ад кампаніі.

Якраз пад'ехаў аўтобус, яны селі і паехалі ў горад.

Толькі ў аўтобусе Янка адчуў, які ён стомлены. І што дзень сённяшні быў страшэнна доўгі.

## III

Раніцою на зарадку было збіранне ападу. Узяў кошык — і кідай у яго тое, што на зямлі ў траве хаваецца: яблык за яблычкам, пакуль кошык не стане цяжкі, не стане поўны. А тады яго высыпаеш у дашчаную скрынку — і пайшоў новы круг. Збіраеш, высыпаеш — глядзіш: поўная скрынка. Але гэта не так хутка, як здаецца. Пяць кошыкаў на скрынку — нямала, трэба пабегаць, пашукаць, патаптацца. Яблыкі ўмеюць хавацца ў траве. З аднаго боку глядзіш — не відаць, а глянеш з другога — дык і там ляжыць, і там. Чамусьці ўспомнілася польская песенька, якую яны вучылі ў школе: «Пуйдэ я сень пуйдэ, поклоне яблоні, можэ, мі яблушко в чапэчкэ уроні. Яблушкі, яблушкі, пшэслічнэ грушэчкі, свецон сень, як гвязды помендзы лістэчкі». Калісьці, даўным-даўно гэта было, а вось не забываецца. Недзе ў трэцім класе польскай «повшэхнэй» — пачатковай школы ён вучыўся, а можа, і раней, калі яны карагодам хадзілі вакол школьнай ялінкі і спявалі гэтую песеньку. Недзе гадоў восем-дзевяць яму было, а ўжо ўмеў гаварыць па-польску. На сваёй мове гаварылі на пераменках — «пшэрвах», за што настаўнік мог даць «лану» — выцяць лінейкаю па далоні. Потым дзядзька, матчын малодшы брат, прывёз яму беларускі буквар, выдадзены ў Вільні, і Янка стаў вучыцца чытаць па-беларуску. І паступова паэзія польскай мовы стала гаснуць, паяўлялася нават пагарда — як да чужога, што табе навязваюць. Калі не сілай, то паступова, мякка, непрыкметна, каб ты гэта палюбіў, каб яно ўвайшло ў тваю свядомасць, у тваю кроў — і каб здалося сваім, родным, а сваё, тое, што ў тваёй хаце, — ужо не сваім, а чужым, непатрэбным, лішнім, нейкім нават ніжэйшым за тое, што табе падалі ў бліскучай абгортцы і сказалі: вазьмі, гэта лепш за тое, што ты меў дагэтуль. З гэтым ты будзеш мець будучыню, а са сваім — не. Проста і ясна, як божы дзень!

І што ж? Прайшло пасля таго некалькі дзесяткаў гадоў — і ўжо Янкаваму дзіцяці кажуць тое самае, толькі па-руску: брось ты этот свой язык — мову, она устарела, на ней говорят только старухи в глухих деревнях, а весь культурный народ говорит на великом русском языке. Это язык мирового значения, язык коммунистического будущего. І ўжо ў рускай школе яго дзяцей, якія хочуць гаварыць на мове сваіх бацькоў і дзядоў, дырэктар школы Дзівакоў называе «врагами народа» — перад вучнямі, публічна. Ну а што робяць з ворагамі народа, усе яшчэ не забыліся: колькі сіротаў засталося, колькі ўдоваў, у якой беднасці яны жылі і раслі, колькі выцерпелі, пакуль зноў сталі на ногі, выбавіліся з галечы!

Вось неяк так атрымліваецца з намі, увесь час мы паміж молатам і кавадлам, і лёс ці хто хоча перажаваць нас то на палякаў, то на рускіх, нібы не можам мы застацца самі сабою, нікога не слухаць і нікому не служыць, а толькі сабе, і карыстацца тым, што нам даў Бог, і каб ніхто гэтага дабра ў нас не забіраў, каб не казаў, што яно не добра, а г… і не даваў на замену сваё, лепшае ў сто разоў за наша. Але ж мы бачым, для чаго гэта робіцца: для таго, каб мы ўмерлі, каб расталі ў вяках як народ, бо без мовы свае мы — ніхто, нас няма! І пакуль гэтага мы ўсе не зразумеем, датуль мы будзем кідацца то ўлева, то ўправа, прыстасавацца то да Усходу, то да Захаду, а сваё ўсё будзе меншаць і меншаць, знікаць і знікаць, покуль і зусім не прападзе… бясследна…

Яго думкі перабіла Рагнеда — запрашала на сняданне, была, як яму здалося, модна апранутая: у клятчастай, як шатландскай, кароткай спадніцы, у белай вышыванай блузцы з кароткім рукавом, гладка прычасаныя цёмныя валасы спадалі на плечы, прабор быў пасярод галавы.

— Ты нейкая вельмі святочная, хоць нядзеля была ўчора, а не сёння, — пахваліў яе Янка.

— Для цябе, для цябе стараюся, — з усмешкаю сказала Рагнеда. — Шмат назбіраў? На сняданне зарабіў? Бо я зрабіла смачны сняданак. І мама не пярэчыла, як ні дзіўна.

— Гэта праўда, лейцаў яна не хоча аддаваць, баіцца, што не вернуць.

— Мо не таму, проста ў яе такі характар: усё сама. Бо колькі гадоў — амаль трыццаць — усё адна, усё сама.

— А колькі ты была адна, сама? Амаль дваццаць! І ў цябе ёсць гэтае самае «я сама». Ты проста не заўважаеш, а я бачу, на сабе адчуваю: як я сказала, так і будзе. Мо не так?

— Нешта ты не тое гаворыш, Яначка. Я стамілася быць і маткаю, і бацькам, таму хачу скінуць з сябе гэты груз, перакласці на твае плечы хоць палову яго.

— На мае худыя плечы? Усяго я не пацягну, — засмяяўся Янка.

— Вось як паснедаеш, дык падужэеш. І гэтыя тры скрынкі пацягнеш, як міленькі.

— Усё залежыць ад снядання, ад яго каларыйнасці.

— Каларыйнасць для цябе галоўнае. А для мяне — смак.

— Смак — гэта ўжо як наясіся. Дэсерт, так бы мовіць. А калорыі — аснова.

— Па табе не відаць, што ты так калорыямі захапляешся.

— Дык я ж іх трачу не шкадуючы.

— Нешта я не бачу, на што ты іх траціш, — з нейкім як намёкам сказала Рагнеда.

— Бо поначы не відаць, — падкалоў яе Янка.

— Ах ты, нягоднік! На што намякаеш! Хопіць зубы скаліць, там сняданне стыне. Пайшлі!

Яны падышлі да калодзезя, Янка скінуў сваю кашулю, майку, стаў мыцца з зялёнай вываркі, якая тут стаяла з вадою.

— А мыла? Што ты, як першабытны чалавек? — здзівілася Рагнеда.

— Менавіта першабытныя мыліся без мыла. І былі такія дужыя, што мамантаў перамагалі.

Рагнеда толькі сказала «пачакай!» і пайшла ў хату. Янка ўжо канчаў сваё мыццё, як яна вярнулася з мылам і ручніком.

— Ой, дзякую, тое, што трэба! — Янка ўзяў ручнік, мыла, але памыў мылам толькі адны рукі.

— А твар? Ты што? — абурылася Рагнеда.

— А твар? Абыдзецца рыла і без мыла, як той казаў, — аджартаваўся Янка, і Рагнеда ад яго адстала.

Яны пайшлі ў хату. Янка павітаўся з маткаю, сеў на сваё месца. Усё ўжо стаяла на стале гатовае. Пачалі з салаты: гуркі, памідоры. Потым пайшла смажаная рыба, халодная вараная свініна, на апошняе — гарбата са шпундзікамі: запечаная ў цесце доктарская кілбаса.

— Хто такія смачныя шпундзікі рыхтаваў? — спытаўся мо і недарэчы Янка, бо баяўся як-небудзь пакрыўдзіць матку: падумае не тое.

Адказу доўга не было, а потым матка сказала як нехаця, што гэта работа «твае жоначкі».

— Глядзіце, дык яна можа сябе паказаць, — узяў хвалебны тон Янка. — Адразу ўспамінаецца стары анекдот, як селі есці, а малады муж пакаштаваў суп, рассмакаваў, ды ажно скрывіўся, ды пытаецца, хто такі

нясмачны суп варыў? Няйначай, думаў, што маці. А маці і кажа: гэта твая жоначка варыла. Малады муж памаўчаў, яшчэ пакаштаваў дый кажа: а нішто суп, падсаліўшы-падбяліўшы, можна есці.

— Чуеш, мама, як ён мяне хваліць, на што намякае, гэты нягоднік? — гнеўна-жартаўліва сказала Рагнеда. — Нягоднікам я ўжо другі раз за сёння яго называю.

— Ну, нечым жа ты яму недагадзіла. Ці ён табе, — адказала маці.

— Яна мне казала, што нешта пакажа. Вось цяпер я і бачу, што гэта шпундзікі, — растлумачыў Янка сітуацыю.

— Выходзіць, што на большае я не здольная? — пакрыўдзілася Рагнеда — так здалося Янку.

— Даруйце, я так не сказаў, — пачаў апраўдвацца Янка. — Ад цябе можна ўсяго чакаць.

— Усяго — гэта чаго? І добрага, і благога?

— Як той казаў: у Бога ўсяго многа. Але жыць трэба спакойна. І не азірацца — са страхам.

— Неяк ты пачаў загадкамі гаварыць, — ужо больш мірна сказала Рагнеда. — Але не буду цябе заводзіць. У цябе важная работа — здаць яблыкі.

Янка падзякаваў за смачнае снеданне матцы і Рагнедзе, устаў з-за стала. Цяпер ён пайшоў да суседзяў Аляксейчыкаў пазычыць тачку. Гаспадар, невысокі лысы мужчына, падобны да артыста Сарокіна, апрануты цёпла, але ў тапках на босую нагу, павёў Янку ў адрыну, што стаяла пры самых сотках Жаркоўскай Раісы Сцяпанаўны, Рагнедзінай маткі, адчыніў дзверы і выкаціў «тачанку» — двухколку з жалезным кузавам, у які ўлезла б сама мала два цэнтнеры «сыпучых цел». А ў Янкі былі тры скрынкі па сорак кілаграмаў яблык-ападкаў.

— Вам памагчы загрузіцца? — спытаўся гаспадар — як кінуў за сабою.

— Ды не, справімся самі, дзякую. Праз якую гадзіну вярну вам «тачанку».

І Янка лёгка, узяўшыся за ручкі, як у плузе, пакаціў «тачанку» са двара. Яна ішла лёгка, была на гумовым ходзе, на падшыпніках. Каб паставіць скрынкі, спатрэбілася якіх дзесяць хвілін. Янкавы жанчыны заўважылі яго, калі ён ускінуў апошнюю скрынку. Рагнеда закрычала на яго, чаму не сказаў ім, яны памаглі б, але ён толькі махнуў рукою і пакаціў «тачанку» на вуліцу. Прамінуўшы некалькі хатаў, павярнуў у вузенькую вулічку, праехаў у патрэбны двор, у якім у канцы стаяла вялікае гумно — як яно толькі і ўцалела за войны і калектывізацыю! — адчыненае насцеж. Там, відаць было, варушыліся людзі. Янка пад'ехаў да самых дзвярэй, паставіў «тачанку» і зайшоў у сярэдзіну, павітаўся з мужчынамі. Адзін стаяў ля вагі — высокі, худы і зарослы, хоць яшчэ не стары, важыў мяшкі з яблыкамі, якія прывезлі сюды прыблізна на такой жа «тачанцы» два мужчыны, адзін вясковага выгляду, другі — гарадскога, у чыстых адпрасаваных штанах, у паласатай кашулі, з голаю калматаю галавою. Абодва былі на лёгкім падпітку. Яны сцягнулі з вагі свае мяхі, апаражнілі іх у вялізную кучу ў прыстаранку, забралі грошы і пайшлі.

Высокі худы і аброслы мужчына цяпер убачыў яго, кіўнуў галавою і сказаў:

— Што, ад настаўніцы Жаркоўскай прывезлі? Што ж так мала? Давайце памагу пакласці.

— Адкуль вы ведаеце, што ад Жаркоўскай? — здзівіўся Янка.

— Як не ведаць? Лічыце, суседзі, усё відаць. Трэці дзень, як прыехалі ў госці? Не памыліўся?

— Не памыліліся, мы тут прыехалі на адпачынак, — сказаў Янка.

— Ну, і пагоду вы добрую заказалі. На возеры яшчэ не былі?

— Не паспелі, але збіраемся.

Так гаворачы, яны ўскінулі скрынкі на вагі, было ўсяго восемдзесят кілаграмаў, атрымаў Янка на рукі ажно дванаццаць рублёў — больш як на тры пляшкі «Зуброўкі». Выгружалі-высыпалі таксама калектыўна, усё прайшло ў тэмпе. А там пад'язджалі ўжо людзі, нават адзін з возам, поўным мяшкоў.

Янка лёгка пакаціў «тачанку» з пустымі скрынкамі, якія цяпер падскоквалі і грымелі па блясе, — дарога была ў выбоінах. Пачатак зроблены, — думаў ён, можна брацца за яблыкі, якія яшчэ сядзяць, страсаць іх ды патроху здаваць, бо потым, як пойдзе канвеер, цяжка будзе ўціснуцца ў чаргу. Але раз гаспадыня маўчыць, то што ім лезці са сваімі падказкамі? Яна не любіць, каб ёй падказвалі, яна ўсё вырашае сама. Янка здаў суседу «тачанку», падзякаваў, сказаўшы на ўсякі выпадак, што, калі трэба, ён гатовы ім памагчы завезці пару «тачанак» з яблыкамі на прыёмны пункт. Але гаспадар таксама падзякаваў і сказаў, што ў іх мала тых яблык, сад у іх малы. Янка ўсміхнуўся сам сабе: кінеш за сабою — знойдзеш перад сабою…

— Нешта ты хутка справіўся, — прывітала яго Рагнеда. — Шмат утаргаваў?

— Ажно дванаццаць рублёў! — пахваліўся Янка і паклаў грошы перад маткаю, якая сядзела за швейнаю машынкаю і нешта кроіла-шыла.

Гаспадыня ўзяла грошы, адняла пяцёрку і сказала Янку:

— Бяры ганарар, як вы кажаце. Зарабіў.

— Ну што вы, — стаў аднеквацца Янка. — Не трэба нам грошай, у нас і сваіх поўна. Наадварот, мы вам павінны даваць, а не вы нам!

— Хто каму павінен, яшчэ падлічым. А вось як даю — дык бярыце і дзякуйце. Усяго толькі. Як гэта беларусы любяць казаць? Як б'юць — уцякай, як даюць — бяры.

Каб не пакрыўдзіць маткі, ён узяў. Рагнеда не ўмешвалася, а прамаўчала, толькі неяк з асуджэннем паглядзела на Янку: не мог адстаяць сваю лінію. Слабак! А яму ўспомніўся анекдот пра беларуса — як яго б'юць трое сутак.

— Добра, калі б'юць, ды яшчэ можна ўцячы. А як не? Вось такі анекдот пра нашага братку-беларуса. Два паны за некую кару прывязалі яго да лаўкі ды давай дубасіць. Дзень б'юць, два, перадыхнуць, перакусяць, вып'юць выбаровай — і далей. А ён маўчыць, як вады ў рот набраўшы, як той нямко. І трэці дзень пачаўся, а яны ўсё б'юць, стаміліся страшэнна, але перадыхнуць — і зноў б'юць. І раптам небараку прарвала, ён ажно заплакаў, узмаліўся: «Ну як так можна, шаноўныя! Я трэці дзень не еўшы, з голаду паміраю, а вы і не падумаеце мяне пакарміць! Злітуйцеся, Богам прашу!»

— А з чаго тут смяяцца? — спыталася Рагнеда з недаўменнем.

— Як з чаго? З нашай цярплівасці. Што нас б'юць — толькі тае бяды. А вось што есці не даюць — гэта ўжо вялікая бяда.

— Выходзіць, што нас можна ўзяць толькі голадам? — спыталася Рагнеда.

— Во-во, як не стане чаго есці, тады зразумеем, чаго мы вартыя. Падумаем і ацэнім, і вывады зробім. А пакуль што — пацерпім, скура ў нас тоўстая! — падвёў вынік Янка.

На гэтым іх ранішняя гутарка скончылася, і Янка пайшоў займацца сваімі справамі, якія яго чакалі сёння. Яблыкі былі пачаткам, і даволі ўдалым, гэта яго трохі падбадзёрыла. Цяпер трэба брацца за касу. Хоць яна, відаць, тупая, даўно не кляпаная. Пабачым, пабачым... У адрыне знайшоў касу, агледзеў. Усё рассохлася: каса на коссі варушыцца, кулька таксама паязджае, клёп амаль што зрэзаны. Малатком падбіў клін-запатылак, каса як прырасла да кассе, заціснуў кульку, каб не варушылася на кассі, намянціў, прайшоўся па ўзмежку. На роснай траве каса рэжа як мае быць, можна касіць, хоць кляпаць усё роўна трэба. Цікава, хто і калі тут кляпаў матцы гэтую касу? Яшчэ добра, што яна ёсць, а так давялося б пазычаць у суседзяў.

Касіў выбарачна — дзе больш павылазіла крапіва, дзе раскашаўся лопух, лебяда. Лопух быў высозны, магутны, з вялізнымі, як у слана вушы, лісцямі, з ружовымі калючымі макаўкамі-галоўкамі цвету і насення, якое патрохі пачынала выспяваць, а потым пачне рассыпацца-разносіцца па ўсім садзе і агародзе, а сабакі на сваіх хвастах разнясуць яго па ўсім горадзе. Лопух — лекавая расліна, з каранёў робяць настойку, а лісце ўжываюць як кампрэсы ад усякіх рэўматычных і сустаўных боляў, пры ўдарах і пухлінах, нават прыкладваюць да галавы — некалі так рабіла яго бабка Ганна, ды і маці таксама.

Паваяваўшы з лопухам, касіў крапіву, зелле, старыя трускаўкі, каб яны пайшлі ў новыя парасткі.

Касьба — праца хоць і даволі цяжкая, але прыемная, нават карысная — самая лепшая фізкультура, бо працуе-трэніруецца ўвесь арганізм, нават шыйныя мускулы. І часта пасля касьбы на першы-другі дзень баліць менавіта шыя, але ж не толькі шыя, а ўсё ніжэй — рукі, брушны прэс, ногі, нават ступакі. Але праз два дні ўсе болі праходзяць, і чалавек — пасвяжэлы, падужэлы — гатоў касіць ад раніцы да вечара. Хоць найлепей касіць з расою, каса тады рэжа, як брытва, і работы касец зробіць у два разы больш, як па сухой траве. Усё гэта Янка ведаў добра, давялося яму касіць нямала, пачынаючы з якіх дзесяці гадоў — і да цяперашняга часу, хоць цяпер усё менш і менш, бо касьба, як і малацьба, і варка, — усё стала цяпер не ручное, а машыновае. Гэта і добра, гэта лёгка, але тая паэзія, якая была ў фізічнай працы селяніна, прапала разам з гэтаю працай. І Янка не раз аб гэтым шкадаваў, думаў, што дарэмна людзі пайшлі ў гарады, дарэмна адарваліся ад зямлі і ад прыроды. Такое не на карысць людзям, гэта якраз на зло. У гарадах яны больш хварэюць, хутчэй таўсцеюць — і без пары паміраюць, бо не дыхаюць свежым паветрам, бо не працуюць фізічна, больш, чым трэба, п'юць. Хоць і вёска цяпер у гэтым кірунку не адстае ад горада, мо нават апярэджвае. Бо механізатар у вёсцы — гэта той жа гарадскі фабрычны рабочы. Але ў таго сем ці восем гадзін — і ён ужо вольны, а ў вёсцы трактарыст, ці камбайнер, ці шафёр — ад цямна да цямна цягне сваю лямку, як той вол ярмо, аж покуль не ўпадзе.

Усё цяпер памянялася, толькі пытанне — ці ў лепшы бок? Начальнікі верашчаць, што ў лепшы, а практыка паказвае, што наадварот. Не ўгару мы ідзём, а апускаемся ўніз. І калі гэта пакуль што не ўсе бачаць, дык потым, калі мы грукнемся аб дно, адчуюць усе, але будзе позна...

Толькі Янка стаў мянціць касу, як убачыў, што да яго ідзе Рагнеда. Няйначай, нешта важнае. Але памыліўся: Рагнеда сказала, што трэба схадзіць у горад, купіць хлеба, яшчэ ўсяго шмат.

— А ты адна не магла б? — здзівіўся Янка. — Я толькі ўвайшоў у смак.

— Нічога, адпачынь. А то прыехаў у адпачынак, а з хамута не вылазіш.

— Ах, як ты мяне шкадуеш! Фізічная праца ў меру — найлепшы адпачынак, ты ж сама ведаеш.

— Не распачынай дыскусіі, пайшлі! — настойвала Рагнеда.

— Хай будзе, як Сара казала, — скончыў «дыскусію» Янка вядомым у яго мясцінах прыслоўем.

Яны сабраліся і пайшлі ў горад. Яно гучала нават трохі смешна — ісці ў горад. Па-першае, які гэта горад: якіх дзесяць тысяч чалавек, па-другое, ісці было не больш як пяцьсот метраў, можна было па іх вуліцы выйсці ў самы цэнтр, на плошчу, трэба толькі абагнуць некалькі вясковага тыпу дамоў і мясцовы трохпавярховы гатэль, ля якога звычайна стаяла некалькі легкавікоў ці невялікі аўтобус.

Універмаг, двухпавярховы, прасторны, стаяў упрытык да рэстарана, а з другога боку — упрытык да кнігарні, а трошкі далей — гастраном, у якім звычайна людзей было шмат, асабліва як прыязджалі з бліжэйшых вёсак, каб купіць што-небудзь свежае і смачнае, бо ў вясковых крамах выбар быў малы. У вялікую перамену і ў канцы заняткаў тут было поўна школьнікаў з блізкае адсюль школы, дзеці куплялі марожанае, булачкі ці цукеркі.

Пастаяўшы трохі ў чарзе, яны ўзялі смятаны, кефіру, хлеба і батон, масла, тварагу ў брыкецiках, дзесятак яек і нават «Зуброўкі» — на «зробленыя» Янкам грошы. Матцы ўзялі марожанае і бутэльку напітку. Дарэчы, хлеб у гастраноме быў рэдка, і сёння ім пашэнціла купіць яго, а звычайна ён прадаваўся ў хлебным магазіне, давалі на рукі толькі адзін бохан, яшчэ нават пыталіся, ты гарадскі ці госць. Як госць — маглі не прадаць. А чарга выстройвалася такая, што вылазіла з магазіна, і хвост яе віўся на метраў пяцьдзесят па тратуары. Адным словам, было весела, калі апошнім у чарзе хлеба не хапала: людзі мацюкаліся, лаялі савецкія парадкі, некаторыя іх супакойвалі — глядзіце, дадуць вам лёгкага хлеба, больш не захочацца.

Ішлі дадому — і Рагнеда стала пераказваць гутарку з маткаю, якраз пра яго. Яна шмат чаго ведае з Янкавага жыцця, няйначай, ёй расказвалі знаёмыя праз знаёмых, яго былых і цяперашніх сяброў, а мо нават са слоў Альбіны, якая нагаворвала матцы і пра Рагнеду ўсялякія непраўдападобныя гісторыі. То, што ёй варта было не паслухаць пра Янку, калі толькі пайшла гутарка пра яго збліжэнне з Рагнедаю: што ён не такі, як здаецца, што ён вунь які злыдзень, загнаў у магілу першую жонку, цяпер кінуў дзяцей і пайшоў да гэтай развядзёнкі на чужыя дзеці, хоць гэтыя дзеці ўжо маюць сваіх дзяцей. Смешна ўсё гэта было слухаць, і не першы раз, і не ад адной Рагнеды, а з другога боку — і балюча, бо ўсё гэта былі звычайныя плёткі, дзе ўсё перавернута, перакручана, перабольшана, а праўда там і не начавала. Але хіба забароніш людзям пра сябе гаварыць? Хай гавораць: пана клянуць, а пан таўсцее.

Вярнуўшыся, яны перакусілі салодкімі гуркамі з малінавым варэннем— і за работку. Па плане, які Янка атрымаў ад маткі, ён павінен быў зрабіць паддашак да хлеўшка, каб пры ім можна было складаць дровы, і яны не моклі. Яна паказала сякі-такі матэрыял — тонкія дошчачкі, якія ляжалі ў гэтым хлеўшку. Цяпер трэба было сабраць начынне, без якога нічога не зробіш: сякеру, малаток, абцугі, цвікі, нажоўку-пілку, усё гэта недзе ляжала, але трэба цяпер сабраць яго ў адно месца, каб усё было пад рукою. Як агледзеўся Янка, не хапала звычайнае, але патрэбнае рэчы — нейкага кавадла, на якім можна было раўнаваць старыя цвікі і рабіць новыя — са звычайнага дроту. У магазіне летам цвікоў не было, іх даўно разабралі.

Янка ўспомніў, што бачыў у адрыне нейкую металічную дэталь, круглую, як невялікая патэльня, але тоўстую, з дзюркаю пасярэдзіне. Вось яе, насадзіўшы на калодку, можна будзе скарыстаць, як круглае кавадла. Так ён і зрабіў: знайшоў круглы цурбан, падчасаў адзін канец, каб «патэльня» налезла на яго, пасадзіў на месца — і сапраўды, атрымалася добрая прылада для ўсякага кляпання. Потым ён устаўляў у гатовую дзюрку вострую бабку і кляпаў касу. Маці аднойчы ўбачыла яго «кавадла» і пахваліла за вынаходства, а Рагнеда жартам прапанавала ўзнагародзіць яго прэміяй і медалём з рэдзькі.

Як пераканаўся Янка, у кожнай справе важны быў пачатак. Калі ўсё на месцы, калі ўсё добра падрыхтавана, работа пойдзе як па масле. Праўда, на падрыхтоўку патраціў нямала часу, але што зробіш? Затое потым усё можна нагнаць.

Жанчыны займаліся нечым сваім, Янку гэта мала турбавала. Яны нешта рабілі, нешта шылі-мылі, гаварылі між сабою, часам спрачаліся, асабліва калі гутарка заходзіла пра нябожчыка-бацьку, пра яго апошнія гады. Рагнеда хацела ведаць праўду, па якой прычыне бацьку адправілі ў Мінскую бальніцу для душэўнахворых, на што маці не давала яснага адказу. Янка сам не чуў такое гутаркі, але пра гэта яму расказвала сама Рагнеда. Нешта нядобрае было ў заблытанай гісторыі — нібы маці так ратавала сябе і сваіх дочак ад нейкае там бяды, нібы бацька ў нечым быў вінаваты…

Работа ў Янкі ішла спорна. Прымацаваўшы дзве рэечкі да ключоў, ён пачаў прыбіваць да іх кароткія, мо на паўметра, трохі даўжэйшыя, чым звычайнае палена ў печку, тонкія дошчачкі, якія будуць ахоўваць складзеныя ля сцяны дровы ад дажджу. Дошчачкі ён клаў не адна да адной, а рабіў невялікую шчыліну, а потым накрываў тую шчыліну трэцяю дошчачкаю, каб вада не магла прасачыцца на дровы.

Можна сказаць, што работа яго была гультайская, пад яе добра думалася, успаміналася, часам — марылася. Але такое здаралася рэдка. Чамусьці Янка баяўся будаваць ружовыя замкі, складаць нейкія планы, бо яны, як правіла, не збываліся, і тады было вельмі крыўдна, што ўсё пайшло прахам. Некаторыя на гэта не глядзяць, а вось Янка быў ці нясмелы ад прыроды, ці прымхлівы, але ў такую гульню не хацеў гуляць. Час пакажа, што рабіць, у які бок кіраваць. Яго больш турбавала нацыянальная ідэя, да якой ён часта звяртаўся ў сваіх думках-марах.

Ён адчуваў, што састарэлая палітыка Крамля ў гэтым пытанні прывядзе да нядобрага канца. Бо ўсе народы, якія насяляюць і ўтвараюць Савецкі Саюз, ужо адчулі сваю сілу і здольны кіраваць сваімі рэспублікамі, будаваць сваю гаспадарку на свой лад, без ранейшай назойлівай апекі Масквы. І рана ці позна можа надысці той крытычны момант, калі калос на гліняных нагах не вытрымае свайго цяжару і грымнецца долу. Будзе шмат ахвяр, шмат крыві і слёз. Лепш зрабіць так, каб усё абышлося мірна, спакойна, без усялякіх закалотаў. Няўжо людзі не могуць зразумець адно аднаго, хоць яны і думаюць кожны на сваёй мове, але гаварыць яны могуць на адной — расейскай, якая раней аб'ядноўвала — сілай! — а цяпер — раз'ядноўвае, бо па-ранейшаму хоча стаць адзінаю для ўсіх.

Такое могуць зразумець тыя, хто хоча, каб яна была адзінаю для ўсяго чалавецтва, але ніколі не зразумее і не пагодзіцца той, хто цэніць сваё і ніколі не прамяняе яго на чужое, бо яно яму такое ж дарагое, як дарагое яго ўласнае для расейца. Бог стварыў людзей і даў ім розныя мовы для

таго, каб яны іх любілі, шанавалі і не давалі ў крыўду, каб не адракаліся ад іх, бо мова родная — гэта самае галоўнае з таго, чым адзін народ адрозніваецца ад другога. Як прырода страціць ад таго, калі прападуць яе хоць і нямногія роды і віды, так і чалавецтва нашмат збяднее, калі нейкі народ страціць сваю мову і стане карыстацца суседавай. Такі народ прападзе для гісторыі, пра яго хутка забудуць — нібы яго і не было зусім.

Дык няўжо мы здольныя на такое дзікунства? Няўжо ў нас высахлі мазгі, што мы не можам адрозніць праўды ад няпраўды, дня ад ночы? Такога не можа быць!

Запрацаваўшыся ці задумаўшыся — цяжка сказаць, — Янка не заўважыў, што побач з ім стаіць Рагнеда і назірае за яго работаю. Азірнуўся — стукнуў сабе па пальцах, засыкаў.

— Бачыш, якое ў цябе вока, — сказаў ён жартам, — што я б'ю не па палене, а па калене.

— Не заглядайся на спадніцу, — сказала Рагнеда. — Я бачу, што яна табе падабаецца — мая шатландка.

— Не яна, а ты ў ёй — разумееш розніцу? — паправіў яе Янка.

— Так я табе і паверу! Не падлізвайся, — жартавала Рагнеда. — І не загаворвай мне зубы. Я прыйшла аб'явіць канец рабочага дня. Мы з мамаю зрабілі сабе перапынак, прыгатаваўшы вячэру.

— Не пакідай на заўтра тое, што можна зрабіць сёння, — азваўся на гэта Янка. Рагнеда была вясёлая, нават гуллівая, значыць, з маткаю ў яе ўсё ідзе нармальна. «Гэта вельмі добра», — падумаў сам сабе Янка. — Тут у мяне на дзесяць хвілін работы.

— Даю табе дваццаць. Але не спазняйся, астывае вячэра.

— Пастараюся, даражэнькая. Скажы маме, што я па вас ужо засумаваў. Няма з кім загаварыць, паспрачацца. Поўная дэградацыя асобы. Каб не страціць кваліфікацыі поўнасцю... Не забывайся, што я рэдактар, а гэта такі чорны вол, які цягне і маўчыць. Маўчыць і цягне.

— Ах, як ты надарваўся на сваёй рабоце! Проста жах! Трэба будзе цябе падкормліваць, каб трымаўся на нагах. Скажу маме, каб яна што прыстаралася для цябе, — і Рагнеда пайшла ў хату.

Янка хутка завяршыў сваю «мазольную» працу, прыбіў апошнюю дошчачку, палюбаваўся зробленаю спарудай — здаецца, нічога, можна збоку падумаць, што рабіў гэта нейкі нават майстар, а не такі дылетант, як Янка, які ўмудрыўся паабіваць пальцы на левай руцэ — некалькі разоў пацэліў малатком па тым месцы, дзе не трэба. Але такое бяды, жыць можна. Проста яшчэ не вярнуўся да яго той спрыт у руках, які быў раней. Чым больш працуеш, тым больш ты спрытнейшы ў сваім фаху, хоць бы і ў такім мізэрным, як уменне заганяць цвікі.

Янка зайшоў пад калодзезь, каб памыцца. Скінуў кашулю, абліваўся вадою да пояса. Вада ў выварцы была трохі падагрэтая, не то што з калодзезя, і не так дражніла, як свежая. Рукі памыў мылам, як і раней. Добра было б памыць і ногі, але гэта пасля, перад сном. Тым больш, што ён хадзіў босы, і тут ужо без мыцця нельга было абысціся.

Сонца заходзіла хараша. Неба было чыстае, як шклянка, паказвала на добрую пагоду. Сям-там на вуліцы чуліся галасы людзей, брахалі сабакі, з поля — не гналі, як раней, — а вялі на павадках хто карову, хто казу. Машыны праязджалі па іх вуліцы рэдка, як і фурманкі — мала ў каго быў конь, а калі і быў, дык належаў нейкай там гарадской арганізацыі ці канторы. Тут панаваў спакой, трохі запаволены рытм жыцця, не было шмат

мітусні, спешкі, якія характарызавалі жыццё вялікага горада. Вось чаму тут можна было адпачыць — і душою, і целам.

Ужо на парозе Рагнеда падала яму ручнік, і ён выціраўся з асалодаю, ажно стагнаў, шаруючы сябе льняным шорсткім палатном — любата вось так зрабіць сабе масаж, разагнаць кроў, расцерціся да чырвані, адчуць сябе паздаравелым і памаладзелым.

На вячэру Янку чакалі дранікі са смятанаю, ён еў і хваліў, не дапытваючыся, хто іх рыхтаваў, па прымаўцы: еж і хвалі, каб болей далі, а апетыт яго пабольшыўся яшчэ ад таго, што за добрую працу атрымаў кілішак «Зуброўкі». Злёгку захмялеў, адчуў як бы нейкую стому, якой не было там, за работаю. Але стома не была цяжкаю, хутчэй гэта млявасць, якая хутка праходзіць і не пакідае прыкрага следу.

За сталом зайшла гутарка пра драўляны дом, які нядаўна вырас перад іх вокнамі на самай мяжы, так што дзверы, калі іх адчыніць, будуць ужо на іхніх сотках. Маці гаворыць, што гэта іх новы сусед, які купіў недзе гэтую хату, заняў тут пляц і збіраецца потым яе прадаваць, калі знойдзецца ахвотнік.

— Давай купім, Яначка, — сказала Рагнеда. — Я думаю, ён шмат не заломіць. Будзем суседзямі з мамаю, будзем ёй памагаць, яна нам. Як ты лічыш?

— Прапанова цікавая, але я такое цяжкае пытанне рашыць адразу не магу. Трэба падумаць, — сказаў Янка, а сам сабе ўжо рашыў: пустая справа, дзе яны возьмуць грошай?

— Пакуль ты будзеш думаць, нехта возьме ды купіць. Як ты, мама, на гэта глядзіш, скажы?

Маці не адразу адказала, мо лічыла, што дачка жартуе. Таму спыталася пра самае галоўнае:

— А дзе ты возьмеш грошы, дачушка? Ці мо яны табе з неба зваляцца? — спыталася ў Рагнеды, нібы не заўважаючы зяця.

— У мяне няма грошай, але ў мяне ёсць гаспадар, які павінен клапаціцца, дзе мы будзем жыць на старасці гадоў. Так, Яначка, ці не?

— У сэнсе: у горадзе ці ў вёсцы, падобнай на гэты наш горад? — не зусім зразумеў Янка. — Па-мойму, тут жыць можа толькі малады здаровы чалавек, якому нічога не страшна. А старым…

— Дык мы ж яшчэ з табою не старыя, — запярэчыла Рагнеда. — Вось мама жыве ўжо колькі гадоў адна. Жывы прыклад…

Янка чакаў, што маці скажа: навошта вам які дом, калі вось у мяне дом, яшчэ ў ім можна жыць ды жыць. Што яна думае пра гэта? Урэшце яна загаварыла.

— Да ўсяго чалавек прывыкае. Я прывыкла жыць адна. Хоць кватаранты ў мяне не зводзяцца. Адны паставілі сабе хату, пайшлі нядаўна. Але ўжо знайшліся другія, праз які месяц ці два засяляцца. Так што зусім адна я не жыву… А калі вас узяць… Дык не ведаю, як вам, а мне будзе цесна.

Ну вось, — падумаў Янка, на чужы каравай рота не разяўляй. Мы тут будзем чужыя, як тыя кватаранты. А з чужымі лепш, чым са сваімі. Яны заплацяць — і парадак. А свае могуць і не заплаціць, скажуць: мы табе памагаем, мы маем права на гэтую хату, мы тут не чужыя…

І пачнецца! Дойдзе да сваркі. Са сваіх станем чужыя, чаго добрага, узненавідзім адны другіх. Што тады? Зрывацца — і зноў у сталіцу? А як там ужо занята? Лёгка парушыць статус кво, цяжка яго аднавіць.

Загаварыла Рагнеда, неяк асцярожна, не так напорыста, як напачатку.

— Чаго цесна? Хата ў два канцы. Большы канец падзелены на два пакоі. Другі — суцэльны пакой. Мы можам жыць там, дзе ты жадаеш. Кватарантаў можаш не браць…

— Я не люблю, калі ў мяне хто будзе ўстанаўліваць свае парадкі. Я гаспадыня, і свайго права нікому не аддам, — дадала, падумаўшы маці.

— Бачу, што з табою, мама, мы кашы не зварым, — заключыла неяк паныла Рагнеда.

— Калі і зварыш, дык не з'ямо, — дадаў у такім жа тоне Янка. І чакаў, што скажа на гэта маці. Няўжо яна не заўважыць гэтага каменя, кінутага ў яе агарод? Каб яна ды не заўважыла!

— Як заслужыце, дык з'ясце, — адказала яна ім двайм за раз. — Калі не кашы, дык хоць заціркі.

— А як мы павінны заслужыць, мама? Скажы, каб мы ведалі, — папрасіла Рагнеда, ужо трохі ажывіўшыся.

— Не маленькія, буду вас я вучыць, як першакласнікаў, — адказала маці і больш нічога недадала.

Гутарка неяк заглухла, кожны задумаўся пра нешта сваё. Не хапала агню ў іх спрэчцы, калі такую роўную размову можна назваць спрэчкаю. Пра першакласнікаў Янку спадабалася: менавіта яна адносіцца да іх як да першаклашак, не верыць, што яны самі могуць зрабіць нешта вартае, разумнае.

Як скончылі вячэру, маці назаўтра заказала Янку новую работку: прарэдзіць зараснікі бэзу, і тут ля вуліцы, перад вокнамі на захад, і там, ля суседскай адрыны, яшчэ высекчы сухі куст смуродніку, мусіць, мурашкі падтачылі карані. А яшчэ сусед сказаў ёй забраць усякія абрэзкі, аполкі, трэскі, якія застаюцца пры рабоце ў новым доме. Дом не новы, толькі перанесены, і ўсё старое, тое, што трохі падгніло, трэба мяняць, таму і застаецца шмат непатрэбнага ламачча.

Янка думаў, чаму Рагнеда не спыталася ў маткі — ці могуць яны паставіць на яе пляцы невялікую хатку і жыць у ёй, выйшаўшы на пенсію, але потым зразумеў Рагнеду: не трэба прыспешваць падзеі, хай яны ідуць сваім натуральным ходам. Калі яны тут пражывуць месяц і добра сябе пакажуць, не будуць лезці ў камандзіры, чаго маці не можа цярпець, дык тады пытанне можа вырашыцца на іх карысць. Калі ж маці іх неўзлюбіць, асабліва гэтага новага зяця — што за птушка такая? — то тады і гаварыць няма чаго, усё застанецца па-ранейшаму.

Позна вечарам, ужо лежачы ў пасцелі, Янка і Рагнеда яшчэ доўга гаварылі пра свой план — фактычна, Рагнедзін, — пабудаваць тут невялікую хатку, якая потым стане музеем, застанецца памяткаю, што вось тут жылі людзі, якія думалі не толькі пра тое, каб пад'есці, а дбалі пра заўтрашні дзень, пра культуру тых людзей, з якіх яны выйшлі і сярод якіх жылі, потым пайшлі ў людзі, у вялікі горад, але ўрэшце на старасці вярнуліся і захацелі пражыць свае апошнія гады сярод сваіх людзей, блізкіх ім па духу, па мове, па інтарэсах. Няхай не ўсё ў іх жыцці, іх паводзінах, у іх поглядах і пажаданнях было да душы гэтым ужо гарадскім людзям — Рагнедзе і Янку, — аднак жа яны востра адчувалі сваю далучанасць да гэтых людзей, якія складалі сабою ўвесь той маналіт, які завецца нацыяй. Янка і Рагнеда трохі разыходзіліся ў ацэнцы гэтага «маналіту», Янка быў больш паблажлівы і дараваў яму шмат якія хібы, у той час як Рагнеда заўважала больш цёмных плямаў у гэтым маналіце, якія псавалі яго вартасць, рабілі шчыліны, што маглі пры пэўных умовах разрасціся,

паглыбіцца, ператварыцца ў нешта такое, што можа стаць пагрозаю яго будучыні, і галоўная з іх: мы не адчулі яшчэ як след таго факту, што мы такія ж людзі, народ, нацыя — як тыя, што нас акружаюць, як расейцы, як палякі, як украінцы і літоўцы. Нам нешта яшчэ замінае ўзняць вышэй галаву і ўбачыць усё гэта.

## IV

— Хто рана ўстае, таму пан Бог дае, — сказала Рагнеда, як толькі расплюшчыла вочы. — А мы гультаі, ляжым, дзявятая гадзіна пачынаецца. Ну, хто першы? Хто прыма? Хто сэкунда?

Але Янка не стаў яе апярэджваць, нібы не чуў бадзёрых слоў. Ён не любіў усхопліваццa, пачынаць спяваць, маршыраваць на месцы, весяліць сябе і ўсіх, а разварушваўся паволі, не спяшаючыся, разаграваў матор, як кажуць шафёры, на малых абаротах.

— Па-мойму, твая маці ўжо даўно прыма — золата, я чую яе рух за сцяною, так што ты будзеш ужо другая — сэкунда — срэбра, а я трэці — бронза, — без усякага энтузіязму сказаў, як сам сабе, Янка, нават не расплюшчваючы вачэй, якія проста як зліпліся і не хацелі раскрывацца. Каб гэта дома, у Мінску, дык паваляўся б яшчэ з гадзіну ў пасцелі, а тут трэба ўставаць, што-небудзь рабіць, не прыехалі ж яны сюды адсыпацца.

Зранку, яшчэ не паснедаўшы, Янка пайшоў у горад, сёння адзін, купіў малака, смятаны, тварагу, у кіёску ўзяў газету. Ля хлебнага магазіна ўбачыў Алега, Жэнінага сына, ён чакаў бацьку, які недзе адлучыўся, будуць купляць хлеб, выстойваць доўгую чаргу-калейку, станавіцца па некалькі разоў, бо на рукі даюць толькі адзін бохан. А на добры лад праблемы з хлебам не павінна быць: дзесятага жніўня, жыта павінна быць зжата-абмалочана, а новы хлеб — спечаны. Тым больш, што пагода стаіць добрая, ніякіх затрымак, раса абсохла — і жні-малаці, пускай камбайны на ўсю магутнасць. Але хіба мы прывыклі да такога жыцця, каб усё ішло гладка, без усякіх там зрываў і збояў? Мо такое калі і будзе, але чакаць давядзецца доўга.

Сняданне было лёгкае: кожнаму па вараным яечку, па кавалку кілбасы, да гарбаты — тварог са смятанай, малінавае варэнне. Чаго больш трэба? Янка быў нейкі насцярожаны, баяўся, каб Рагнеда не сказала якога рэзкага слова сваёй матцы, каб у тае не прапаў апетыт. Але ўсё абышлося гладка, маці неяк мала прыслухоўвалася да таго, што яны гавораць, была нейкая задуманая, нібы нешта ўспаміналa, была далёка адгэтуль. І гэта натуральна, бо старога чалавека цягне на ўспаміны, тым больш, калі ёсць каму паслухаць. Якраз у яе цяпер ёсць такая мажлівасць, хай бы яна ёю карысталася, а не адкладвала на потым. Рагнеда казала, што калі маці задуменная, значыць яна думае пра сваю малодшую дачку Альбіну, пра яе сям'ю. І тады яе лепш не чапаць, не лезці з роспытамі, з парадамі, — не наступаць ёй на любімы мазоль, як кажуць у такіх выпадках.

Але нічога не здарылася, маці была спакойная, толькі ў канцы спыталася, ці Янка не забыўся пра яе ўчарашні заказ, на што Янка адказаў, маўляў, сніў сон, быццам насіў трэскі і ўсякае палечча ад суседа, а той усё цягне яму больш і больш — бяры, мне замінае. Маці кажа, што насіць трэскі ў сне — гэта як сварка, капанне ў дробязях, выкалупванне чагосьці непрыемнага.

Але чаго можна чакаць ад суседа, які толькі нядаўна ім стаў, чаго яны не падзялілі? Адзінае, што дом свой ён паставіў зусім блізка пры мяжы,

па правілах будаўніцтва такое не дапускаецца, гэта Янка ведаў. Напэўна, ведаў і сам сусед, аднак жа свядома ішоў на парушэнне. Спадзяваўся, што старая суседка адрэжа яму пару метраў ад сваіх сотак? Але за якія такія заслугі? Галоўнае, ён не спытаўся ў яе дазволу ставіць так блізка дом пры мяжы, а яна прамаўчала. Значыць, можна ехаць далей? Ну вось, аддаць ёй гэтыя трэскі, усякае ламачча...

Як толькі Янка стаў пераносіць аскабалкі, трэскі і трухлявыя дошкі на свой дрывотнік, прыйшоў і сусед, яны пазнаёміліся. Аказваецца, ён, Раманюк, родам з вёскі непадалёк ад Буднікаў, мо якіх пяць кіламетраў, там нарадзіўся і жыў, а цяпер вось перабраўся ў горад, мае свой дом. А гэты набыў па таннай цане, ставіў сыну, ды ў таго нешта памяняліся планы, і цяпер даводзіцца прадаваць.

А галоўнае, што гэты Раманюк жыў пры лесе на хутары побач з Янкавымі сваякамі, адкуль была родам яго бабка Ганна, матка яго маці, ён іх там усіх ведае, і бабчынага брата Івана ўжо няма, а сын іх, Ілля Блізнюк, не вярнуўся з вайны. Усё гэта Янка ведаў і сам, але ўжо даўно там не быў, мо хіба за гэты час надарыцца вольная хвіліна…

Трэскі, палечча і трухлявыя дошкі, розныя абрэзкі і калодкі Янка насіў мо якіх гадзіны дзве, амаль што да абеду, наклаў мо воз дроў. Работа не сказаць каб цяжкая, але пачынала ўжо балець сярэдзіна, хацелася ўпасці на траву і паляжаць, каб зямля адняла стому. Але нешта не дазваляла — сумленне ці што іншае, мо нават чалавечая годнасць: як гэта, не скончыўшы работы, ты разлёгся тут на траве, як апошні гультай? Мо яшчэ каб адна Рагнеда такое бачыла, ён сцярпеў бы, а як яе маці — нізавошта! Каб потым упікала: во які слабак, панасіў таго ламачча пару гадзін — і ўжо зваліўся з ног, нібы ён тут горы варочаў.

Да абеду Янка яшчэ паскідаў сахаром у кучкі прывялае зелле, скошанае ў суботу, парэдзіў зараснікі бэзу, які так разросся, што вылазіў з усіх дазволеных яму межаў.

Дзіўная рэч выходзіць! Калі ёсць занятак, час ляціць непрыкметна і хутка. Паўдня прамчалася як на крылах: тут ёсць, тут няма. Пасля абеду хацеў прылегчы, з гадзіну паляжаць, але Рагнеда сказала, што збіраецца на дождж, не шкодзіла б накрыць плёнкаю тыя дровы, якія ён цягаў да абеду. Давялося так і зрабіць, бо, калі яны намокнуць, за іх будзе не ўзяцца. Дождж спачатку быў невялікі, як падражніўся, а потым сыпануў буйны і часты. Зелле паспеў паскідаць пад застрэшак, які зрабіў учора, там яшчэ было пуста, якраз вось тут будуць ляжаць дровы, якія ён возьмецца секчы.

У хату ісці не хацелася, але што зробіш? Дождж не пераставаў. Прынёс два вядры вады, хоць трохі і змок. Жанчыны займаліся хто чым: маці шыла, дачка мыла. Нешта яны былі надзьмутыя, ці не пасварыліся. Потым Рагнеда гаварыла Янку, што маці не дае ёй мыць яе рэчы, бялізну: «я сама!» — яе любімае выслоўе. І ўжо ж слабая, ужо няма сілы, але ўсё роўна не хоча трацiць фасону — «я сама!». А для чаго прыехала да цябе твая дачка? Каб любавацца вясковымі пейзажамі? Яна прыехала, каб табе памагчы, каб аблегчыць тваю працу, даць адпачынак тваім рукам. Потым будзеш сама, як мы паедзем, яшчэ нацешышся, а цяпер я за цябе зраблю. Не, яе ўгаварыць, пераканаць немагчыма!

Янка ўзяўся за газеты, але толькі прагледзеў загалоўкі, чытаць не хацелася, трэба было адпачыць ад усякай палітыкі, хоць яна лезла ў вушы з усіх бакоў. Добра яшчэ, што ў маткі не было тэлевізара, яна хадзіла глядзець

навіны ці які серыял да суседзяў Аляксейчыкаў, у сваёй хаце была толькі радыёкропка. Трывожныя падзеі адбываліся ў Ліване: ізраільскія войскі ўвайшлі ў Бейрут, пачаліся жорсткія вулічныя баі. Палесцінскаму лідэру Арафату ніхто не дапамагае, усе арабы ганебна маўчаць — такое было меркаванне аглядальнікаў.

Але вайна ішла далёка, яна не закранала нашых інтарэсаў, таму адносіны да яе даволі халодныя, і хто пераможа — не надта хвалявала людзей. Мо хіба што палітыкі ламалі галовы хто выйграе, хто прайграе, але гэта быў іхні хлеб. Напэўна, для некаторых было важна, каб перамог той, а не другі бок, мо ад гэтага залежаў іх лёс як палітыкаў, таму яны былі актыўныя, выказвалі свае меркаванні, прыводзілі свае довады. На іх думку, усё вырашалі не маленькія дзяржавы — Ізраіль, Ліван ці яшчэ не дзяржава Палесціна, а тыя, хто стаяў у іх за плячыма, такія, як Злучаныя Штаты і Савецкі Саюз. І чый уплыў там мацнейшы, той і пераможа.

Трэці дзень адпачынку быў трохі падобны да папярэдніх, але былі і свае нюансы. Рагнеда, параіўшыся з маткаю, сказала Янку пашырыць плантацыю трускавак. Ён з прыемнасцю згадзіўся, навастрыў рыдлёўку, ачысціў ад іржы і ўзяўся капаць — дзе перакопваць гатовую глебу, а дзе капаць цаліну. Тут было цяжэй, карані травы і малачаю так моцна ўгрызліся ў зямлю, так спрытна перапляліся, што трэба было вунь як рассякаць-драбіць тыя цагліны, якія адразала рыдлёўка, а потым вытрасаць траву і карэнне, выграбаць іх жалезнымі граблямі, даводзіць да кандыцыі. Потым Рагнеда ці маці будуць садзіць тут флянсы трускавак, якіх шмат разраслося на кожнай старой, ужо ўтравелай градцы, дзе Янка касіў.

Дзіўная істота гэты чалавек! Усё яму трэба, усё яму мала, ёсць смачнае, а хочацца яшчэ смачнейшага. Ці не на гэтым трымаецца прагрэс? Нехта недзе сказаў пра мільянера, які не стамляецца множыць свае мільёны, што, калі ён скажа сабе: хопіць! — дык лічы, што ён памёр. Так і кожны чалавек — шараговы, звычайны, калі ён скажа: больш не буду сеяць, малаціць, хадзіць на працу, — значыць, спыніўся прагрэс, чалавек і чалавецтва дэградуе, вяртаецца да пячоры, з якое выйшла дзякуючы таму, што трэба было карміць сям'ю — мо тады сям'і яшчэ і не было, — трэба было карміць тых, хто заставаўся ў той пячоры, хто паліў вечны агонь, нешта гатаваў, карміў тых, што ішлі на паляванне, на здабычу новых і новых сродкаў для свайго пражытку.

Кожны чалавек, кожная жывая душа дбае перш за ўсё пра сябе, а потым — пра тых, хто яму родны, хто блізкі, ад каго залежыць у нейкай меры і яго ўласнае жыццё. Бывае, што ён клапоціцца толькі пра сябе, і больш ні пра каго, ён ужо як бы адгароджваеццав, адколваецца ад грамадства, лічыць, што яно яму не патрэбна, як не патрэбна і дзяржава, якая хоча яшчэ ўварваць сабе ад яго лішні кавалак, нібы яна такая бедная, што без таго кавалка не зможа існаваць, а ён такі багаты, што гатовы раскідацца лішнім кавалкам. Ды няма ў яго лішняга! У яго толькі тое, што на ім, толькі тое, што сёння ён з'есць, а што будзе заўтра — ён не ведае. Але мо такая сітуацыя з чалавекам — як выключэнне?

А вось узяць Рагнедзіну матку. У яе ўсё ёсць: хата, пенсія, сад-агарод. Бракуе ўжо толькі здароўя, няма далягляду — блізіцца фініш. А яна яшчэ вунь як казырыцца: я тут гаспадыня, не люблю, калі што робіцца не памойму, я сама і г.д. У яе няма крытычнага погляду на ўсю тую сітуацыю, у якой яна апынулася. Хай бы сказала: і добра, што вы хочаце тут жыць пасля пенсіі, якраз і мяне дагледзіце, не буду гібець адна, нібы ў мяне няма сваіх дзяцей. Калі ласка, пераязджайце! Хоць сёння!

Але не, і не блізка! У яе ёсць свае меркаванні, свае планы. Рагнеда для яе не тая фігура, галоўная для яе — малодшая, Альбіна. Для яе яна жыла і жыве цяпер, яе лічыць сваёю апорай. Але якая яна апора, калі толькі бярэ? Дагледзіць на старасці гадоў? Яшчэ пабачым…

Урэшце, што Янку да яе меркаванняў, да яе прэтэнзіяў і жаданняў? Хай усім сваім яна распараджаецца сама, гэта яе законнае права. Яго толькі здзіўляе, чаму ў яе дочкі такія розныя, такія непадобныя, такія па-рознаму блізкія сваёй матцы? Ці не таму, што яны жылі і нават раслі ў розных умовах? Малодшая пры матцы, любімая дачушка, старэйшая — больш пры бацьку, як падчарка, а не родная дачка.

Не хочацца верыць, што Рагнеда кіруецца толькі сваім інтарэсам, жадаючы перабрацца сюды жыць. Яна думае перш за ўсё пра матку: яна будзе не адна, яна будзе пад апекай свае дачкі, яна будзе дагледжана, і накормлена, і абагрэта. А матка — у Янкі такое ўражанне — думае: «Нешта вы мяне раптам убачылі, нешта вас я зацікавіла. Ці не мае соткі, сад-агарод, ці не мой дом вас больш зацікавіў? Дарэмна, даражэнькія! Усё гэта не для вас, не вам яно свеціць. У мяне вунь любімая дачушка Альбіна, яна мяне дагледзіць, яна ад мяне атрымае ўсё тое, што я сёння маю… А вы пажывіце тут месяц ці болей, хто вам не дае? Сёе-тое паможаце, не задарма будзеце мой хлеб есці, я такога не люблю. А работкі ў мяне для вас знойдзецца — і мужчынскай, і жаночай…»

Няхай не тымі словамі, няхай не так рэзка і катэгарычна яна думае, але нешта падобнае круціцца ў галаве.

Капанне Янка скончыў да першага дажджу, праўда, невялікага і не доўгага. Другая задача ў яго была — падрыхтаваць цяпліцу для памідораў. Мо і позна пра гэта падумалі, але хай: ён зробіць так, як яму сказана, не такая тут ужо складаная навука. Зрабіў аснову, каркас, а потым абцягвай яе плёнкаю, мацуй, каб не сарвала ветрам. Ад першага дажджу прайшла мо гадзіна ці болей, як пачаўся другі. Тут ён ужо схаваўся пад плёнкаю, якую нацягваў на раму, у хату не ўцякаў, як раней. Але доўга не ўседзеў, Рагнеда з ганка паклікала яго ў хату, гатовы полудзень. З гэтаю ежай цэлая бяда: не паспееш увайсці ў азарт, як тут цябе ўжо валаюць на абед, на вячэру, і застаецца такое ўражанне, што ты цэлы дзень тое і робіш, што ясі, а на работу сапраўдную проста не хапае часу. Але, відаць, такое адчуванне тады, калі твая праца не цяжкі абавязак, а нейкая як гульня, размінка-разрыўка, якая раз-два і скончыцца. Гэта не тое, што цяжкая сялянская праца ад раніцы да ночы, калі ажно цямнее ў вачах, цябе пачынае вадзіць у бакі, ногі ажно падрыгваюць у каленях, як у перагружанага каня. Тут даператамлення не даходзіць, тут цябе ніхто не падганяе, не ідзе за табою з касою, а ты баішся, каб табе не падрэзалі пяты, бярэш з усяе сілы. Тут ты можаш у любы час зрабіць перадышку, паляжаць на траве ці схадзіць у хату, каб напіцца якога квасу. Адным словам, ты ў адпачынку, хоць і робіш нейкую нязначную для сябе работу. Мо тут матцы яна здаецца вунь якою важнаю, цяжкаю, а для яго — гэта забаўка, гульня, гімнастыка ці фізкультура.

Абед быў смачны: салата з памідораў і гуркоў, галубцы — не надта мясныя, але затое шмат, на дэсерт — свежая сліва з цукрам, кампот з яблыкаў, піражкі гарадское выпечкі. Алкаголю — ні кроплі, хоць гутарка пра яго была, праўдзівей, гутарка пра Янку — што ён вядомы як вялікі прыхільнік Бахуса, градуснага бога, з якім ён вельмі сябруе, што няма таго дня, каб ён не прыклаўся да чаркі і не лёг спаць у абдымку з пляшкаю. Гэта быў як бы працяг тае гутаркі, пра якую расказвала Янку Рагнеда,

цяпер яе ўдзельнікам быў ужо і Янка, пра якога і была гэтая гутарка-пагаданка. Быццам да маткі такія чуткі даходзілі паступова, порцыямі, яна іх збірала, хоць і не марынавала, яны забываліся, а потым узнаўляліся кімнебудзь і калі-небудзь.

Янку, як і кожнаму на яго месцы, не надта прыемна было слухаць такія байкі пра сябе, тым больш, што ў іх да праўды было, як ад зямлі да неба.

Рагнеда спачатку пасмейвалася з Янкі — вось глядзі, які ты ў анфас і ў профіль, мо нават і не падазраваў, што ты такі герой, — а потым пачала злаваць: ёсць жа людзі, якім прыемна некага абліць брудам, змяшаць з гразёю, каб яго не пазнавалі нават родныя. Але, дзякаваць Богу, усе, хто добра ведае Янку, могуць сказаць толькі, што ён чалавек як чалавек, нічога грахоўнага і антымаральнага за ім не водзіцца, на што маці тут жа знаходзіла контраргумент: а чаму ён кінуў першую жонку? Калі ён ужо такі добры ды справядлівы, чаго кінуў дзяцей? Няйначай, яму мала было аднае жонкі, яму патрэбны былі палюбоўніцы, якіх у яго было нямала, дык жонка не вынесла такога сямейнага шчасця і выгнала з кватэры.

— Не думайце, — казала маці, — што мне прыемна вам пра такое гаварыць, пераказваць гэтыя плёткі ў розных варыянтах, але яны плятуцца ўжо даўно, вы напэўна іх і самі чулі не раз.

Плёткі на тое і плятуцца, каб прынізіць чалавека, зрабіць яму балюча, каб даверлівы слухач ім паверыў і павыскаляўся, каб сказаў: бач, які ён разумны, які вучоны, які пісьменнік? Ды ён яшчэ горшы за мяне, хоць я і не выгінаўся, не вылузваўся са скуры, каб уцячы ў горад…

— Каб усё гэта была праўда, — умяшалася Рагнеда, — дык ад Янкі даўно адвярнуліся б усе яго сябры, яго выгналі б з працы, не выдавалі б яго кніжак. Гэта, мама, не проста плёткі, гэта папулярны сродак прынізіць ролю нашай інтэлігенцыі: вось паглядзіце, хто такія вашы пісьменнікі, эліта нацыі: гэта звычайныя п'янтосы і бабнікі, не верце ім, не чытайце іх кніжак, бо там нічога цікавага няма. Не могуць беларускія пісьменнікі стаць інжынерамі чалавечых душаў, бо яны не дараслі да такое высокае місіі, яны разбэшчаныя і некультурныя пісакі — усяго толькі.

Маці задумалася, стала сур'ёзнаю, пакратала пальцамі правай рукі свой высокі лоб, нібы шукала нейкую патрэбную думку, і спыталася:

— А каму гэта так трэба бэсціць твайго Янку, калі ён не такі?

— Ёсць чорныя сілы, якім не падабаецца ўсё наша, беларускае, яны тым і займаюцца, што чэрняць нас, паказваюць у крывым люстэрку.

— Мо ты прыдумляеш, Рагнеда? — усумнілася маці. — А што Янка скажа?

Янку было няёмка апраўдвацца, гаварыць пра сябе нешта такое ружовае, светлае, чаго ён не любіў рабіць. Лаюць — ну і няхай лаюць, рана ці позна праўда наверх вылезе, як бы яе глыбока ні закопвалі.

— Трэба сказаць, што ў гэтым пытанні ёсць два бакі: афіцыйны і звычайны, бытавы. Калі ўсё тое, што пра мяне гавораць знізу, на бытавым узроўні, даць у прэсу ці сказаць з нейкай афіцыйнай трыбуны, будзе скандал: дасведчаныя людзі скажуць, што гэта хлусня, звычайная лухта, што такое можа гаварыць толькі несумленны чалавек, якога можна прыцягнуць да судовай адказнасці за грубы паклёп. Але можна распускаць знізу, без усякай там прэсы і высокіх трыбунаў, вось такую гразюку, якая некаму ды здаецца праўдзіваю, нехта ды паверыць у гэта і будзе перадаваць сваім сябрам і знаёмым такія вось пікантныя падрабязнасці пра Янку Баркуна. І з плёткамі, як ні дзіўна, нічога нельга зрабіць, іх нельга злавіць і паса-

дзіць на лаву падсудных. Можна каму-небудзь набіць морду, але што гэта зменіць? Нічога. І плёткі будуць хадзіць датуль, пакуль не пахудзеюць і, як тыя асеннія мухі, самі не перадохнуць.

— А як жа адмыцца ад такога бруду, не насіць яго на сабе? — спыталася маці мо трохі іранічна — ці ёсць такі спосаб?

— Адзінае выйсце, мне здаецца — гэта трапіць пад праліўны чысты дождж, — адказаў Янка. — Я маю на ўвазе чысты дождж праўды. Ён і змые ўвесь бруд. Але ўсё яно не здарыцца так хутка, як хацелася б. Трэба набрацца цярпення — і працаваць. А кім памрэш — суседзі скажуць, — як раней казалі.

— Як раней казалі, дыму без агню не бывае, — нібы ўсё яшчэ сумнявалася маці ў Янкавых аргументах.

Янка ўжо канчаў свой кампот, вылоўліваў лыжачкаю скрылікі разваранага яблыка. Што ён мог адказаць цешчы? Яна да яго ставіцца з недаверам, ён адчуваў гэта яшчэ напачатку, калі яны з Рагнедаю прыязджалі да яе першы раз. Той недавер не прапаў у яе да цяперашняга часу, тым болей, што ён падаграецца такімі вось чуткамі пра яго — бабнік і алкаш. Не так лёгка змыць з сябе такі ярлык, калі ён на табе даўно, калі яго ўвесь час падмалёўваюць, паднаўляюць.

— Такія прымаўкі якраз для тых, хто вінаваціць некага ў нейкіх грахах, а вось як знайсці такія, каб апраўдацца? Так адзін казаў: як ні ары, абы чорным дагары. Святых на грэшнай зямлі няма, але людзі ўсё роўна не аднолькавыя: адны лепшыя, другія — горшыя, адны бліжэй да неба, другія — да зямлі. А ёсць такія, што паміж небам і зямлёю. Відаць, я адзін з такіх тыпаў: то я на зямлі, то ў неба пушчуся, то зноў на зямлю спушчуся. Раней я быў адзін, а цяпер мы ўдваіх з Рагнедаю. Яна таксама любіць лятаць, на зямлі ёй робіцца нудна, моташна, сумна. Вось яна і гатова палятаць — у думках, у марах, у снах. Каб далей ад зямнога тлуму-гаму, гвалту, віску, калатнечы, крыўды-няпраўды. А цяпер яна хоча з сёмага неба, з сёмага паверха спусціцца на грэшную зямлю, каб быць бліжэй да людзей, да жывёл, да птушак і мурашак. Яна і мяне ўсё агітуе, спакою не дае: кінем гэты горад-мурашнік, паедзем туды, дзе мы нарадзіліся, дзе нашы карані, дзе нашы дзяды-прадзеды пахаваныя, каб і мы леглі потым побач з імі… Часам я згаджаюся з ёю, а часам спрачаюся, за нейкія амаль што трыццаць гадоў у горадзе я ўжо адчуў, што ў мяне там выраслі карані, што яны праламалі асфальт і знайшлі сабе глебу, што яна мо нават і не горшая за гэтую вось нашу, вясковую. А тут мне трэба пабыць, каб, як адзін казаў, падзарадзіць акумулятар, набрацца свежых сіл, уражанняў, сюжэтаў, пазнаёміцца з цікавым чалавекам, каб ён расказаў мне нешта такое, пра што варта напісаць… І хто ва мне пераможа — не ведаю, мо хіба Рагнеда выведзе нас на правільную дарогу.

Янка спыніўся, каб перадыхнуць, здаецца, ён ужо стаміў сваіх слухачак, а вось ці пераканаў хоць трохі — не быў упэўнены.

— Ну, Яначка, ты так умееш гаварыць, што цябе спачатку заслухаешся, а потым заснеш пад тваю няспешную гаворку, — сказала Рагнеда і знарок пазяхнула, нібы яна сапраўды толькі што прачнулася. — Ты тут намяшаў і бобу, і гароху, і яшчэ нечага троху. Мо ты перад мамаю і апраўдаўся, а вось перада мною ты будзеш заўсёды вінаваты.

— У чым жа я так правінаваціўся перад табою? — здзівіўся Янка.

— Не прыкідвайся, што ты не ведаеш, што ты забыўся. А калі забыўся, дык я табе нагадаю. Чаму ты тады, як нам было па дваццаць гадоў, не

падышоў да мяне і не сказаў: давай разам пойдзем па жыцці, бо мы вельмі падыходзім адно аднаму. А ты адвярнуўся — і прайшоў міма.

— Вось ты пра што! А я думаў... Што вы, мама, скажаце на словы свае дачкі?

Відаць, маці не чакала такога пытання, неяк скрывілася, павяла плячыма, нібы ёй стала холадна, і загаварыла:

— Магу пэўна сказаць, што ў вас нічога не выйшла б. Як і дзе вы маглі б збудаваць сваё шчасце, сваё жыццё, за якія сродкі? Аднаго кахання мала... А мы былі бедныя, твае ж бацькі былі яшчэ бяднейшыя. У цябе было дзве сястры на выданне. А тут ты жэнішся. Скончыў дзесяць класаў — і наце, бацькі, радуйцеся! А што далей? Дзеці, калгас... Сямейны тупік. Якая можа быць вучоба, якое можа быць будучае? Ніякага...

— Мама, ты малюеш усё чорнаю фарбаю! — не згадзілася Рагнеда. — Мы былі маладыя, дужыя, з гарачымі сэрцамі, акрыленыя каханнем. Мы не прапалі б разам, наадварот, мы выбіліся б у людзі, былі б шчаслівыя, мелі б паўтузіна дзяцей... Янка стаў бы шафёрам, вучыўся б завочна, а я пайшла б выхавацелькай у дзіцячы садок, гадавала б чужых і сваіх дзетак. А праз якіх пяць-дзесяць гадоў мы мелі б сваю кватэру... І нам было б усяго па трыццаць. Самая сіла! Янка канчае завочна інстытут, ідзе настаўнічаць, а мо кіруе ў журналістыку, я станаўлюся шматдзетнаю мамаю, нам даюць прасторную кватэру. Мы жывём, як людзі! Любата! А ўспомні, мама, як ты выходзіла замуж за майго бацьку. Колькі табе было? Дваццаць!

— Параўнала! — не згадзілася маці. — Я выходзіла замуж за настаўніка, у мяне самой за плячыма быў інстытут «благородных девиц», які я скончыла ў Полацку, а потым вучылася ў Вільні на курсах настаўнікаў, я магла весці пачатковыя класы. Там і пазнаёмілася з тваім бацькам, былым афіцэрам, які ваяваў на румынскім фронце, а потым у бальшавікоў... А ты параўнала! Ды і бацькі — і яго, і мае, тады нешта мелі, не былі галадранцамі, як некаторыя...

— Не паказваючы пальцам, — пакрыўдзілася Рагнеда. — А я ўпэўнена, што, каб мы тады пабраліся, наша жыццё было б шчаслівейшае за наша сённяшняе. Бо мы ішлі да яго вельмі доўга і вельмі пакутна, мы патрацілі ўсе свае лепшыя сілы, сваю маладую энергію. І ўжо недзе на сярэдзіне дарогі мы апынуліся разам, заплаціўшы за гэта дарагою цаною. Нават занадта дарагою...

— Дорага плаціць за што? — умяшаўся Янка. — За тое, што дорага каштуе, ці не так? Мы з табою дорага заплацілі за наша шчасце, таму мы павінны яго шанаваць... Чамусьці я падумаў, калі ты гаварыла, як мы жылі б, каб сышліся ў дваццаць гадоў... Я падумаў: нам было суджана разысціся са сваім першым выбарам: і табе, і мне. Таму я ўдзячны лёсу, што ты мне трапіла не першая, а другая, і што мы ўжо больш не разыдземся. Што ты на гэта скажаш?

— Ой, ты хітры! Так скрытна ставіш пастку, што ў яе лёгка трапіць, ды назад дарогі няма, — памахала яму пальцам перад носам Рагнеда.

— А ты хацела, каб з мае пасткі можна было выскачыць? Не выйдзе, дарагая! Ды і чаго з яе выскокваць? Гэтая пастка нам на дваіх. У ёй мы і дажывём — ці пражывём — свае лепшыя гады, адпушчаныя нам Усявышнім...

— Ты добра сказаў, Яначка. У мяне проста слёзы на вачах. Каб жа твае словы ды Богу ў вушы.

За гэты час, што яны палуднавалі і гаманілі, прайшоў невялікі дожджык, пастукаў, як гарохам, па шыферным даху, нібы кажучы: не спяшайцеся, пагаварыце спакойна, я тут трохі пакраплю зямельку і ўсё жывое

на ёй, каб яно расло, цвіло, выспявала, каб людзям лягчэй жылося, каб іх праца аплацілася, акупілася…

Янка думаў, што на гэтым усё і закончыцца, але памыліўся. Рагнеда нечакана перавяла гутарку на тэму, якую яны закраналі, але яна не была абмеркавана з усіх бакоў, якую яны адкладвалі на канец свайго адпачынку, каб маці магла канчаткова вырашыць, прымаць іх сюды ці не прымаць.

Рагнеда паўтарыла амаль слова ў слова тое, што гаварыла тады, як яны хадзілі ў госці да Янкавай сястры Жэні: пра важнасць такой рэчы ў чалавечым жыцці, як уласны дом.

— Як гэта сказаў нейкі мудрэц? Кожны мужчына павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць дом і нарадзіць сына. Тады толькі яго жыццё не будзе дарэмным.

— Тут маецца на ўвазе чалавечая сям'я, а не адзін мужчына. Адам без Евы яшчэ не паўнацэнны мужчына, — лёгка паправіў яе Янка.

— Згодна, што маецца на ўвазе чалавечая пара, якая народзіць сына, што прадоўжыць іх род. Дрэва — будучыня, сімвал даўгалецця, бясконцасці жыцця. А дом — гэта ачаг, агмень, агонь, які некалі гарэў бясконца, калі людзі толькі навучыліся ім карыстацца, які ім, па грэцкай легендзе ці міфу, перадаў Праметэй, украўшы яго ў громавержца Зеўса. Дом і агонь у ім — гэта той знак, які чалавек пакідае пасля сябе, ужо для свайго сына, для новай сям'і. Чаму качэўнікі не пакідалі слядоў на зямлі? Таму што яны не былі прывязаны да зямлі, да пэўнага месца, яны вандравалі і рабавалі тых людзей, якіх сустракалі на сваёй дарозе. А мы прыраслі да зямлі, яна нас і поіць, і корміць. Нашы дамы — гэта і ёсць тая самая прывязка, без іх мы прапалі б, растварыліся б у свеце, як тыя качэўнікі. А мы, крывічы-ліцвіны-беларусы, моцна трымаемся за сваю зямлю, за свае дамы і хаты, і колькі прышлыя ворагі ні палілі іх, ні разбуралі — нічога ў іх не выйшла, — мы будавалі новыя. Гэта нешта падобнае да мовы нашага народа: як яе ні таптал, як ні нішчылі, а яна засталася, яна жыве, і, як сказаў адзін вучоны, пакуль не вымерла мова ў вуснах народа, датуль жыве народ. Вымерла мова — вымер і народ. Пакуль будуць стаяць дамы, будзе жыць народ, пакуль жыве народ — будзе жыць мова. Ці згодны вы са мною, я вас пытаюся? — звярнулася яна ў канцы да маткі, потым да Янкі.

Хіба можна было з ёю не згадзіцца? Яны, не згаворваючыся, кіўнулі галовамі, а Янка сказаў:

— Мы слухаем цябе, як музыку нябёсаў. Гавары, гавары!

— Гаварыць можна бясконца. Але што толку з адной гаворкі? Да яе патрэбна прыкласці справу, працу. Толькі тады яна набудзе нейкія рэальныя абрысы, — адказала Рагнеда.

— Першым было слова, — падказаў Янка.

— І слова было Бог, — прадоўжыла Рагнеда. — За словам павінна ісці справа. І ў нас з табою таксама... Я вельмі хачу, каб ты знайшоў у сябе сілы, сабраў усе сродкі і пачаў будаваць наш дом. Каб у ім мы былі гаспадарамі, а не гасцямі. І я буду табе дапамагаць з апошніх сіл, буду рабіць усё, каб мы на старасці год жылі ў сваім уласным доме.

— А дзе ж вы збіраецеся ставіць свой дом? — спыталася матка, гатовая выносіць посуд на кухню, хоць гэта магла б зрабіць Рагнеда.

— Вось тут блізка, ля дома майго дзеда і бабкі Жаркоўскіх, — адказала Рагнеда. — Няўжо ты не дасі?

— Жаркоўскіх — дзеда і бабкі — ужо даўно няма. І твайго бацькі Паўла Жаркоўскага ўжо няма. Цяпер я тут гаспадыня. І вы павінны прасіць

дазволу ў мяне, а не ў дзеда і бабкі, — сур'ёзна сказала маці, нібы дачка і зяць ужо гатовы сілаю, без яе дазволу, ставіць тут дом побач з яе домам.

— А гэты дом, у якім ты жывеш, мама, ён трохі і мой, а не толькі твой. Мо не так я сказала? — таксама сур'ёзна спыталася Рагнеда.

— Трохі не так, дачушка, — адказала маці. — Ты тут не жывеш, значыць, ніякіх правоў на гэты дом не маеш. Тут жыву я, і мая добрая воля дазволіць вам тут будавацца ці не.

— Дапусцім, што так. Але няўжо ты не дазволіла б нам паставіць тут які домік? Няўжо мы сякія-такія, што станем табе замінаць, а не памагаць, клапаціцца пра цябе?

— Пакуль што я абыходжуся без памочнікаў. Мо абыдуся і далей. Час яшчэ ёсць… — упэўнена сказала маці.

— Ой, мама, не гавары так, — паківала галавою Рагнеда. — Ніхто не ведае, што яго чакае. І трэба быць гатовым да ўсяго…

— З якога гэта часу пачалі яйкі курыцу вучыць? — адказала пытаннем матка. — Я сама ведаю, што мне рабіць. Не люблю ехаць на чужых падказках.

— Я даўно ўжо не яйка, а курыца, як і ты, так што мы, я лічу, роўныя, і я табе жадаю толькі дабра. Калі мы станем суседзямі, табе будзе не горш, а ў дзесяць разоў лепш. Вось чаму я хачу пасяліцца з табою побач, хоць нам спакойна можна было б жыць у нашай — ты скажаш тваёй — хаце. І нам не трэба было б траціцца на будоўлю цяпер, калі мы яшчэ не сталі моцна на ногі.

— А калі ж вы станеце моцна? Як на пенсію пойдзеце? Не думаю, што тады вы будзеце мацней стаяць на нагах, чым цяпер, калі ў вас зарплата.

— Зарплата ў нас сярэдняя, пенсію мы будзем мець меншую, ясна. Але я думаю, што Янка хутка атрымае ганарар за кніжку.

— Ну і як, таго ганарару на падмуроўку хопіць? — з іроніяй спыталася маці.

— Можа, трохі болей, чым на падмуроўку, — не падала віду Рагнеда, што разумее яе іронію. — Але я думаю, што і ты нам паможаш, а мы табе патроху будзем вяртаць.

— Чакай Пятра, з'ясі сыру, — сказала маці не вельмі далікатную прымаўку, устала з-за стала, пайшла на кухню. І адтуль дадала гучна: — Мне і так ёсць каму памагаць, а тут яшчэ — вы… Не разлічвайце на мяне. А не можаце самі — не бярыцеся, бо нічога не выйдзе.

— Дзякую за шчырасць, мамачка. На большае я і не разлічвала, я ведала, што ты так скажаш. Вось каб цябе папрасіла Альбіна, ты сказала б не тое…

— Не чапай Альбіны, табе далёка да яе, — ужо сярдзіта сказала маці, выходзячы з кухні з міскаю, поўнаю сліваў-ападу, які яна збірала раніцай, і паставіла на стол.

— А як жа, яна ж палкоўнічыха, не абы-хто!.. А колькі я ёй памагала, як яна яшчэ паступала ў інстытут, які кінула, бо не хацела вучыцца… У яе ў галаве было адно — як замуж выйсці…

— А ў цябе? Хіба не тое? Чаго ж ты на першым курсе выскачыла за…

Гутарка-спрэчка гатова была перарасці ў сварку, і Янка чакаў моманту, каб спыніць канфлікт на самым яго пачатку. Здаецца, далей ужо нельга цягнуць. І ён перабіў матку, хоць разумеў, што так рабіць неэтычна:

— Дарагая мама, дарагая Рагнеда! Ці не здаецца вам, што хопіць раскідаць камяні? Давайце іх лепей збіраць — і масціць дарогі, якія ў нас надта гразкія.

Маці і дачка мо нават узрадаваліся, што Янка не даў разрасціся спрэчцы да вялікіх памераў, і абедзве замоўклі. Што далей?

— Натуральна было чакаць, што я падтрымаю сваю жонку Рагнеду, але няхай яна мне даруе, я прымаю бок нашай мамы. Чаму? Ды таму, што будоўля для нас — гэта цяжар, які мы не адолеем. І не толькі таму, што ў нас фінансы пяюць рамансы... Дом пабудаваць — гэта нават прэстыжна, але як падумаць, дык навошта ён нам здаўся? Мы маем трохпакаёўку. На горшы выпадак мы можам абмяняць яе на такую ж у вашых Будніках, бо дзеці нашы ўжо маюць сваю жылплошчу і жывуць асобна. Дапусцім, мы пабудуем хату, будзем у ёй жыць, а тую, гарадскую, прадамо, атрымаем грошы, купім машыну, сядзем на колы — і ў дарогу, у турнэ, любавацца новымі пейзажамі, новымі гарадамі. Але што рабіць з маёю прафесіяй? Кідаць, адракацца? Бо мая прафесія патрабуе спакою, шмат часу, каб сядзець і пісаць. А яператваруся ў звычайнага шафёра, які будзе толькі танцаваць вакол свае машыны: бензін, гараж, запчасткі, рамонты, тэхагляды і ўсякая іншая каламуць... А ў мяне ёсць свае літаратурныя планы, я павінен напісаць яшчэ некалькі кніжак, каб нейкім чынам падтрымаць свой прэстыж у літаратуры, замацаваць пазіцыі. А калі я пайду ў быт, у будаўніцтва, у нейкія камбінацыі, я проста прападу як прафесіянал, я развучуся пісаць. Канечне, Рагнедзе такі расклад жыцця не спадабаецца, бо ёй хочацца паказаць сябе, паглядзець на людзей, на новыя краявіды і незнаёмыя гарады. На гэтай аснове ў нас можа ўзнікнуць канфлікт. І я не хацеў бы, каб наша мама стала яго прычынаю...

— Як гэта разумець? — першай падала голас маці, якая ўважліва слухала Янкаву тыраду і выраз яе твару не мяняўся, быў па-ранейшаму напружаны.

— Вельмі проста, — адказаў Янка. — Калі вы згодзіцеся даць нам месца на будоўлю, гэтым вы, самі таго не жадаючы, парушыце наш статус кво, як казалі рымляне, наша раўнавага страціць устойлівасць, і чым усё скончыцца — невядома. Таму я за тое, каб вы не давалі нам месца для будоўлі.

Сказаўшы так, Янка глянуў па парадку на сваіх жанчын: маці павесялела, а Рагнеда стала змрочная, нават злая. Каб не маці, яна магла б сказануць нешта такое, што Янку не паздаровілася б. Яна ўсхапілася з месца і на хаду сказала:

— Ты думаеш толькі пра сябе. На жонку табе начхаць. Вось які ты!

— Памыляешся! — адказаў ёй удагонку Янка. — Я думаю пра нас!

Але яго адказу яна магла не пачуць, бо была ўжо на дварэ.

— Не чакаў я такога павароту, — звярнуўся Янка да цешчы. — Не думаў, што Рагнеда такая катэгарычная: толькі так, як я хачу!

— Яна ў нас упартая — як што наможацца, дык не саступіць, — згадзілася з ім цешча. — Ідзі, вытры ёй слёзы. Хоць не вельмі яна заплача...

Янка паслухмяна, як малы, устаў з-за стала і пайшоў шукаць Рагнеду. Яна адкрывалася для яго яшчэ невядомым бокам, і мо нават не надта прывабным. Ён і сам быў упарты, а калі ў адной сям'і два ўпартыя, тут ужо трэба падумаць.

## V

Назаўтра Янку чакала новая работа: навесці парадак у адрыне — што выкінуць, што прасушыць, потым усё зноў скласці, але так, каб менш месца займала. Калі ён агледзеў усю маёмасць, якая месцілася ў адрыне,

то падумаў, што тут ніколі нельга будзе зрабіць нават падабенства парадку. Але раз ёсць «загад зверху», дык трэба паспрабаваць.

За ўсякую новую працу Янка браўся як нехаця, з недаверам: а ці выйдзе што з гэтага, ці варта пачынаць, а тым больш — даводзіць да канца? Але паступова разварушваўся, уцягваўся — і праца патроху, непрыкметна пачынала яго захапляць, ён ужо не лічыў яе лішняй ці непатрэбнай, а стараўся давесці да канца.

Спачатку трэба было ўсё павыносіць, праветрыць, праверыць, а што гэта, а што там у тых скрынках — дашчаных, фанерных, кардонных — самых розных памераў і формы, у кашах, у карзінах, у выварках, вёдрах, слоіках — вялікіх і малых, шкляных і бляшаных, у каністрах, бутлях і пляшках, у кансервавых бляшанках, у самым розным посудзе, які толькі ўжываюць людзі. Была нават ванна з цынкавай бляхі з прадраным дном, і гадоў ёй магло быць сто ці трохі меней, у якой ляжала нямала ўсякага «багацця», асабліва наглядных дапаможнікаў для вучняў малодшых класаў, муляжоў агародніны, садавіны, жывёльнага свету — і няблага зробленых, і, напэўна, даўно-даўно.

Іх праца толькі на некалькі хвілін на самым пачатку была перарвана прыходам Янкавай сястры Жэні з сынам, якія з пустымі рукамі да сваіх не заяўляюцца: прынеслі слоік малака, сала кілаграмы два, слоік свінога тлушчу, нават салодкіх фіялетавых яблыкаў, нібы ў іх тут нічога такога няма. Жэня хацела пазнаёміцца з Рагнедзінаю маткай, але выйшла неяк так, што яны размінуліся — маці толькі павіталася з госцяй і пайшла ў адрыну наводзіць парадкі. Жэня нават пакрыўдзілася, што іх проста не заўважылі, але Янка як мог супакойваў яе, што не трэба крыўдаваць на старога чалавека, мо яна не разабралася, хто да іх прыйшоў. Але Янку здалося, што Жэню ён не пераканаў, насупленая, яна пайшла з сынам купляць яму школьную форму.

Правёўшы сястру і падзякаваўшы за перадачу, Янка зноў вярнуўся да работы, узяўся за перарваны занятак, і хутка ўсё зноў пайшло сваім заведзеным парадкам. Час ішоў непрыкметна. Янка выносіў скрынкі, раскладваў іх на траве, маці і Рагнеда глядзелі, што там складзена, нешта перабіралі, нешта выкідалі, нешта зноў вярталі на месца. Ішоў свайго роду канвеер па адборы і выбракоўцы старога дабра, якое вельмі трапна кладзецца пад беларускае слова старызна. Лепш і не скажаш, лепш не прыдумаеш! Умелі нашы продкі абазначыць з'яву, ацаніць яе і назваць адпаведна — як у сук уляпіць!

Але часам траплялася і нешта такое, што было як бы адбіткам свайго часу, які ўжо не вернеш назад, а след яго, ужо невыразны, ужо зацёрты ці зацярушаны, усё ж застаўся, і гэта ўжо «музейная рэдкасць» абуджала ці нараджала ў душы нейкае шкадаванне: вось было, вось служыла чалавеку, потым састарэла, знасілася ці зламалася — і стала непатрэбным хламам, які больш не здатны служыць чалавеку і павінен быць выкінуты — за непрыгоднасцю. Нешта вельмі-вельмі падобна на чалавечы лёс… Усё, што мае пачатак, мае ўрэшце і канчатак.

Паступова поплаў перад адрынаю рабіўся ну проста выставаю экспанатаў, якія не так проста знойдзеш і ўбачыш у якім музеі-антыкварыяце. Скрынкі, самыя розныя — яблычныя, апельсінавыя, памідорныя, з-пад масла, кардонныя — з-пад віна, запалак, яшчэ невядома чаго, — былі вынесены, перагледжаны, ператрэсены, зноў спакаваныя або спарожненыя. Напаўненне скрынак — пераважна гаспадарчага толку і кухоннае

начынне, стары абутак, які даўно трэба выкінуць, Рагнедзіны падарункі бацькам... Маці кажа: «Сяргеевы кеды, я купіла яму новыя, гэтыя ён пакінуў». Пайшлі настаўніцкія дапаможнікі, дзіцячыя малюнкі, выразанне і выпальванне з фанеры, геаграфічныя карты, геаметрычныя фігуры, касцюмы і ўпрыгожванні да ёлкі, для мастацкай самадзейнасці, працы юных натуралістаў — муляжы садавіны-гародніны. Маса ўсялякай паперы — ужо на распалку дроў зімой — ажно некалькі скрынак, некаторыя зацяклі, спарахнелі. Дровы, палечча, абрэзкі дошчак, сечанае галлё з саду. Бутэлькі рознага калібру, адна цёмная — поўная, корак як з цяперашняга піва — бляшаны, абціскны, але засургучаны, няйначай віно. Латунная гільза да снарада, трохдзюймовага, не менш. І нейкія свайго роду трохлістовыя жалезныя разеткі, як трохлістовае зайцава шчаўе, — аказваецца, падстаўкі для снарадаў: тры снарады ўверх насамі ставяцца ля гарматы, і беглы агонь: пералёт — недалёт, трэці — вілка — прамое пападанне... Гэтых падставак тут знайшлося штук дзесяць — сляды нядаўняй вайны.

«Пейзаж» ля адрыны быў такі, што разбягаліся вочы: дзіцячая ванначка на скрынцы для яблык, у ёй — кіпа папераў, кардону, газеты, кавалкі чорнага толю, вялікая кансервавая бляшанка з-пад селядцоў, у ёй — «grüne erbsen» — зялёны гарошак, «Башкирский мёд», пенапласт, кузаў дзіцячай машыны, дзве поліэтыленавыя баначкі з нечым застылым-засохлым на дне; старое вядро без вочапкі з рагожкаю ў ім, рукаў ад шэрае старое кофты, стары замурзаны фартух; тазік-шайка з дратамі, з вочапкаю ад вядра, з сіняй накрыўкаю да чайніка ці бітончыка, палівачка без рыла, іржавая, пагнутая банка чырвонага колеру — «Хромос катран кутралий. Загреб. Югославия», тры бляшанкі на літры два-тры: адна з чырвонаю яркаю фарбай, засохлай на дне — пажарная, другая — з рагамі засохлае блакітнае фарбы, з яшчэ адною бляшанкай усярэдзіне, не адкрыванай, наверсе — пустая бляшанка «Завтрак туриста», трэцяя — пустая, са слядамі белае фарбы. Побач — плецены з дроту круглы кош, у ім пустыя бляшанкі ад сількі-кількі латвійскага паходжання, пяць ці болей пляшак ад алею, яшчэ вядро з вочапкаю з тонкага меднага дроту ў дзве столкі, а ўсярэдзіне — рогі і лабаціна быка недзе на гадоў пяць, калі лічыць па кольцах на рагах, — чаго яны сюды трапілі? Некалькі бляхаў-праціўняў, праржавелых, на дзюрачках, як пастраляных, побач — бляшаныя вядзёркі на пяць літраў, яшчэ польскага часу, з Радзівільмонтаў, некалі прадаваліся ў іх марынаваныя гурочкі, адзін у адзін, побач — два вядры з попелам, накрытыя праржавелаю-прапаленаю бляхай-праціўнем, на ёй рэшата вялікай даўнасці, яшчэ са слядамі лычаное сеткі, цяпер такога не ўбачыш; побач зноў два вядзёркі радзівільмонтаўскай фабрыкі — з пустымі бляшанкамі ў іх ад даваеннага часу і да нашых дзён, пачынаючы з «Аместек де ле Гуме» і канчаючы «Говядиной тушеною». Яшчэ адно вядзёрка было з чарназёмам, на паверхні якога паказалася некалькі зялёных лісточкаў — няйначай, якая свірэпа ці лебяда, самыя жывучыя расліны нашых палёў і агародаў; нейкая міса самаробнага выгляду — тоўстае драўлянае дно авальнай формы абабіта-абагнута фанераю, посуд для сыпучых целаў, драўлянае вечка з крыжападобным мацаваннем, такім прыціскаюць капусту ці гуркі ў селядзёўцы на зіму.

Далей-болей: блакітны «пабяляны» бітончык на тры літры, пусты, з праржавелым дном, побач — таксама пусты трохлітровы слоік, яшчэ далей — зноў дзіцячая ванначка (раней сказалі б — начовачкі), а ў ёй мокне старая эмаліраваная каструля-рондаль з дзюравым дном, капрона-

выя баначкі з-пад нейкіх пастаў, чарніліцы з-пад тушы, стары алюмініевы чыгунок са слядамі вокіслу, як пабіты воспаю твар; тры падстаўкі для экспанатаў, на адной стаіць літровы шкляны слоік, а ў ім сохне букецік старога кропу і яркі на яго шэрым фоне букецік фізалісу — аранжавых ліхтарыкаў; яшчэ — блакітны пузаценькі чайнік на літры два без накрыўкі, бутэлечкі — ад лекаў, ад адэкалонаў, пеніцыліну, гарчыцы, накрывак ад кансерваў розных дыяметраў — мо штук дваццаць ці болей. Для чаго? У гаспадарцы ўсё прыдасца? Яно так… А тут нешта падобнае да корпуса ад будзільніка — але не, з нейкага незнаёмага прыбора; лязо сякеры — без абуха! Гэта ж трэба такое сілы, каб распалавініць сякеру! Чвэрць нейкай рамкі — зроблена з дубу, моцная, старая; скрыначка-куфэрак без вечка, са слядамі ад садранай накрыўкі: адзін медны завес застаўся, а замок выдраны, уцалела жалезнае сэрцайка, куды ўстаўляўся ключ, моцна прыкляпанае, не адарвалася. Нешта ж там такое цікавае ляжала, што яго ламалі-раздзіралі… А цяпер у куфэрку ляжала начынне мужчынскага ўжыўку: пераламаная нажоўка па метале, яшчэ адна нажоўка, кароценькая, цэлая; кусачкі, якія так заржавелі, што не развесці рычагоў-ручак, два доўгія напільнікі-рашпілі, таксама заржавелыя, фарфоравыя ролікі для электраправодкі, цвікі featuresрознага памеру, прабоі кавальскай работы, адзін нават з невялікае падковы, клямкі, два старой работы шпінгалеты да дзвярэй ці весніц, партсігар — пасярэбраны, іржа разбурыла бліскучую паверхню.

Пяткаю ляза сякеры Янка адчыніў яго, чакаючы якога сюрпрызу: хоць бы якой запіскі, але было пуста. На зямлі стаяў саракалітровы ржавы бітон для малака, з даху ў яго трапляла цяпер ужо іржавая вада, побач стаялі дзве скрынкі: адна запоўнена трэскамі на распалку, другая, як ні дзіўна, пустая, нібы ў яе не было чаго пакласці. А старая дубовая лаўка пры сцяне была застаўлена пляшкамі шматгадовае даўнасці: дзве-тры як з-пад шампанскага, астатнія — звычайныя паўлітроўкі, але з розным напаўненнем у свой час, якое пакінула свой след: алей, фарба, чарніла, нават вапна ці мел, яшчэ некалькі паўбутэлечкаў; яшчэ пасуда на вазон, бляшанка з нейкім тлустым растворам, два старыя рэпрадуктары мінулага фасону — груваcткія, няспрытныя. Сваё яны ўжо даўно адгаварылі, хай адпачнуць… у ганаровым месцы…

Маці знайшла старую пудраніцу, дала Янку адчыніць, бо сама не змагла. Янка, як спец па такіх тонкіх справах, адчыніў правераным спосабам — пяткаю сякеры. Там ляжала запудраная ружовая ватка, а люстэрка аказалася зусім нармальнае, не памутнелае, як можна было чакаць. Рагнеда зрабіла намёк, што ў яе якраз няма пудраніцы, але маці толькі хітра ўсміхнулася і схавала знаходку ў кішэньку свае камізэлькі.

А нехта з іх, здаецца, Рагнеда, знайшла цікавы стары матэрыял — яшчэ дарэвалюцыйныя школьныя справы Рагнедзінага бацькі Паўла: пасведчанні аб поспехах у вучобе, шмат пахвальных грамат і лістоў. Проста нейкі цуд, што яны ўцалелі за дзве вайны, за розныя пераезды і пераходы. Тут ужо Рагнеда пакінула знаходку сабе.

На палатках адрыны, апрача яблычных скрынак, якіх там стаяла мо з паўсотні, Янку здзівілі запасы дроту рознага сячэння, пераважна алюмініевага. Былі вялікія скруткі-маткі, і малыя, былі і канцы — даўжэйшыя і карацейшыя. З гэтага дроту маці рабіла каркасы вянкоў, потым іх аздабляла рознымі кветкамі, якія таксама майстравала сама, рознага колеру, і, змочаныя ў парафіне, яны выглядалі прыгожа, як жывыя. За гэта маці мела сабе лішні, а мо і не лішні, рубель на дробныя патрэбы.

Паступова брыгада-тры, як яны смехам сябе празвалі, стала згортваць сваю гіганцкую працу. Яшчэ дзіўна, як маці магла цэлы дзень сланяцца сярод сваіх скарбаў і яе яшчэ трымалі ногі, калі сам Янка ўжо адчуваў, што ён выдаў усе свае запасы энергіі да апошняй калорыі і можа толькі сядзець. Праўда, Рагнеда і маці адлучаліся некалькі разоў з рабочай пляцоўкі, мо там у хаце што пілі ці перакусвалі, нават Янку прыносілі то памідор, то яблык ці грушу, але ўсё роўна яны перабралі ўсякую меру і заслугоўвалі самай вялікай пахвалы за сваю проста гераічную працу.

Зрабілі яны шмат і вынеслі, расфасавалі, разабралі па палічках, аддзялілі патрэбнае ад непатрэбнага, склалі патрэбнае, нешта ўжо ўнеслі і паскладалі, нешта яшчэ засталося, каб завяршыць заўтра. Як на тое, з пагодай ім шэнціць, дажджу ўвесь дзень не было, сонца і лёгкі ветрык ім усё акуратна прасушылі, правентылявалі, сагналі стары пыл, і ўсё старое нібы абнавілася, на вачах набыло не такі ўжо і старадаўні выгляд. Адбыўся цуд абнаўлення — так можна было б назваць вынік іхняй працы: без абеду, не разгінаючы спінаў, не даючы рукам і нагам перадышкі.

Добра памыўшыся — Янка дык да пояса, халоднаю вадою, — дружна пайшлі палуднаваць, ён нёс «трафейную» пляшку віна. Віно аказалася смачным, саладкавата-гаркавым, як вермут-палын. Абед таксама быў смачны: салата, вараная курацiна, рысавы суп, смажаная на патэльні бульба.

Ад выпітага старога віна ў Янкі прыемна закруціла ў галаве, ён пазіраў на хату, на жанчын за сталом нейкімі злагоджанымі вачыма, яны здаваліся яму больш прывабнымі, чым былі там, у час работы, ён знаходзіў больш падабенства паміж маці і дачкою, хоць гэтага падабенства было вельмі мала — насы ў іх былі розныя, авал твару ў кожнай быў свой, нешта агульнае праглядвалася толькі ў форме рота і ніжняй часткі твару. Але мо таму, што дачка была маладзейшая за матку недзе на дваццаць гадоў, яна і выглядала прыгажэйшай.

Вось характарамі яны былі больш блізкія, як зразумеў апошнім часам Янка, вось таму яны і часта сутыкаюцца адна з другою, як тыя аднародныя зарады — сутыкаюцца і адштурхоўваюцца.

— Нешта ты, Янaчка, падазрона маўчыш, — пасля працяглай паўзы загаварыла Рагнеда, якая таксама была трохі разагрэта старым віном. — Ці мо табе маміна віно не прыйшлося да смаку? Ці мо табе наша застолле не па гусце?

— Якраз усё добра, — не хацеў збівацца на іранічны ці жартоўны тон Янка. — Я вось усё думаў, як мы перабіралі ў адрыне, ці знойдзем мы нешта такое, ад чаго ўсе ахнем і ў адзін момант станем багатымі, — сказаў Янка, хоць такое думкі ў яго не было, ён спадзяваўся знайсці які наган ці вінтоўку старога выпуску, а больш нічога.

— А ведаеш, і я так думала, і вельмі хацела знайсці што-небудзь каштоўнае, а яшчэ лепш — нешта звязанае з нашымі продкамі: бабкаю Марыяй, дзедам Пятром. І добра, што хоць знайшлі бацькавы пахвальныя граматы і пасведчанні, ён быў здольны вучань, старанны студэнт, таленавіты настаўнік. Шкада, што рана нас пакінуў. Мама, а на колькі гадоў ён быў старэйшы за цябе?

Маці была, відаць, моцна стомленая, уся ў сабе, у сваіх перажываннях, успамінах, звязаных сёння з разборам некалешняга дабра, якое з часам ператварылася ў непатрэбную старызну. А яшчэ ёй, пэўна, было непрыемна, калі хвалілі яе мужа, з якім яна апошнім часам жыла не ў добрым ладзе. Ды яшчэ калі хваліла яго родная дачка, якую яна недалюблівала, і менавіта

за тое, што яна ўвесь час трымала бацькаў бок, у той час як малодшая, Альбіна, падтрымлівала заўсёды матку.

— Нібы табе гэта так цікава? — неяк холадна спыталася маці. — Нібы ты не ведаеш? Колькі разоў пра гэта гаворана, а ты ўсё пытаешся. От Янка ў цябе пытаецца, у мяне пытаецца: ці думалі мы знайсці што дарагое? А я ведала, што нічога мы там не знойдзем, бо там, дзе нічога не паклалі, нічога не возьмеш.

І маці пачала расказваць, як у вайну, ужо калі яўрэяў пазганялі ў гета, але сяды-тады вечарамі яны вырываліся з-за дроту, каб абмяняць што дарагое са сваіх пажыткаў на ежу, заходзілі і да іх. І аднойчы нешта доўга шапталіся з бацькам, нешта як угаворвалі яго, а потым пайшлі. Пазней бацька сказаў, што дамаўляліся яны пакінуць у яго золата, схаваць дзе-небудзь, каб яно ацалела. Бацька не захацеў браць на сябе адказнасць за чужое дабро — і адмовіўся.

Яны заходзілі мо яшчэ да каго, хто ведае? Але прайшоў час, па вайне ўсе жылі аднолькава, у большасці бедна, у многіх усё пагарэла, у многіх з вайны гаспадары не вярнуліся. А тут недалёка жыла сям'я, таксама, як усе, а тут раптам — новы дом паставілі, машыну купілі, дзяцей адзелі-абулі не абы ў што, у навуку пусцілі. Але ў хуткім часе неяк усё паблякла: гаспадар стаў піць, за ім і дзеці пайшлі яго дарогаю, дочкі паразводзіліся, унукі сталі расці, як якія сіроты, гаспадыня захварэла ад такога жыцця…

— Так што чужое дабро пайшло людзям у рабро, — закончыла маці. — Каб яны ведалі, мо і не чапалі б таго золата, хай бы яно чакала свайго гаспадара, можа, хто з яго сям'і ацалеў за вайну. Але відаць, што не, было б чуваць…

— А я чула, што адзін яўрэй з гета ўцёк у партызаны, і потым яны прыходзілі ў горад да людзей, якія за золата прадавалі яўрэям збожжа, муку і іншыя прадукты. А некаторыя і пакідалі свае зберажэнні. Дык той чалавек падказваў, у каго што браць, колькі хто вінаваты…

— А я чуў, — далучыўся Янка да кампаніі, — як адзін паліцай убачыў, што яўрэй з гета, якое ўжо гарэла, схаваўся ў калодзезь, спусціўся па ланцузе на дно. Паліцай падышоў ды кажа: вылазь, а то я цябе прыстрэлю. Той пачаў прасіцца: не чапай мяне, я табе золата аддам. Паліцай згадзіўся, памог яўрэю вылезці, узяў у яго з рук пакунак з золатам, ды бах яму ў грудзі. Той і паляцеў у калодзезь… Але не скарыстаў паліцай чужога дабра, казалі, што яго застрэліў яго таварыш, таксама паліцай. Яны чысцілі вінтоўкі, нібыта той незнарок пажартаваў: от каб я табе пекануў, — і націснуў на спуск, вінтоўка аказалася зараджанаю — і гатова, паліцая няма.

— Адсюль мараль: золата нікому не прыносіць дабра, — падвяла вынік Рагнеда.

— Асабліва чужое, захопленае, нажытае ашуканствам, — дадаў Янка.

— Але золата спакон веку мае цану, нездарма кажуць, што яно адмыкае ўсе замкі і ўсе дзверы адчыняе. Нават цары і каралі схілялі перад ім галаву, — сказала маці, і можна было падумаць, што яна не згаджаецца з дзецьмі, якія ў золаце зусім не разбіраюцца, можа, яго нават не трымалі ў руках. — Што сёння вартая дзяржава, калі ў яе няма залатога запасу ці залатога фонду?

— Але-але, — падхапіў Янка, — чым большы гэты фонд, тым большая верагоднасць, што яго могуць украсці, адабраць хітрасцю, захапіць сілаю. І так ці інакш яно ўсё будзе паліта крывёю тых, хто яго здабываў.

На ім закляцце вякоў, на ім кроў многіх пакаленняў. З-за чаго пачынаюцца войны? З-за перадзелу багацця, перш за ўсё — золата.

— А хто гэта сказаў, што мы, бальшавікі, будзем рабіць з золата унітазы? — спыталася Рагнеда, зрабіўшы на твары вальтэраўскую міну.

Усе трое дружна зарагаталі, бо ведалі, хто гэтак мудра сказаў. Ці мо нават яму такое прыпісалі, хто ведае?

Яны яшчэ пагаварылі на новую для іх тэму, але адчувалася, што яны ў ёй былі закончаныя дылетанты, плавалі плытка, проста пялёхаліся, як тыя дзеці ў лужыне: не было ў іх сусветнага досведу ў такім важным эканамічна-гістарычным фактары, не былі яны амерыканцамі, якія ўсё пераводзяць на грошы, нават час, для іх грошы лепш за паветра і ваду. Здаецца, нават, што яны жывуць для грошай, а ўсё астатняе — можна купіць, абы ў цябе былі мільёны, ужо нават мільярды.

Не былі яны нават яўрэямі, з якімі жылі побач шмат гадоў вось на гэтай зямлі, якія ў золаце разбіраліся не горш за амерыканцаў. А мо гэта яны і навучылі амерыканцаў разбірацца ў золаце, множыць яго, лічыць мільёнамі і мільярдамі? Ці не таму Гітлера так раздражняла яўрэйская нацыя, што яна хацела забраць пад сваё крыло ўвесь сусветны капітал, а дзе капітал — там і ўлада? Ці не таму ён аб'явіў бязлітасную вайну яўрэям — аж да поўнага знішчэння? І ў выніку быў знішчаны сам.

Так, пакружляўшы, яны зноў прыйшлі да вываду, што золата не прыносіць дабра, што золата ўвогуле не патрэбна, без яго можна абысціся — па Пушкіну: «Не нужно золото ему, когда простой продукт имеет». Але і ў таго ж Пушкіна: «Всё моё, — сказало злато. Всё возьму, — сказал булат».

— Але найлепш сказаў наш народны мудрэц: «Золата — з г…м змолата». І кропка! Золата мы не навучыліся цаніць у яўрэяў, хоць жылі і жывём побач з імі. А можа, і дарэмна? А мо нават і добра? — пакінуў пытанні адкрытымі Янка, завадатар такое цікавае і нечаканае ў іх кампаніі тэмы.

Усе пасмяяліся і на гэтым таксама паставілі кропку.

Спаць клаліся недзе ў гадзін дзесяць, тут амаль як у вёсцы: людзі спаць кладуцца раней, чым у горадзе, але і ўстаюць раней, бо шмат у каго ёсць свая жыўнасць — козы, свінні, куры і гусі, некаторыя трымаюць яшчэ і карову, калі ёсць магчымасць назапасіць ёй корму на зіму.

Янка нагадаў Рагнедзе ўчарашні вечар, калі яна пакрыўдзілася на яго, лягла раней і нават не стала з ім размаўляць, праляжала халодная і недаткнёная ўсю ноч. Тады Янка расказаў ёй анекдот, як вялікі начальнік паехаў у камандзіроўку са сваёю маладою сакратаркаю. Там ім далі нумар у гатэлі на дваіх, але з адным ложкам, як для мужа і жонкі. Вось начальнік і пытае маладую сакратарку, калі яны леглі ў пасцель: «Як будзем спаць — як муж і жонка ці як муж і палюбоўніца?» І сакратарка адказвае: «Канечне, як муж і жонка». Тады начальнік кажа ёй: «Спакойнай ночы, дарагая», паварочваецца да яе спіною і тут жа засынае. Сакратарка гатова кусаць сабе локці…

Учора Рагнеда ніяк не адрэагавала на яго анекдот, а сёння, нібы пачуўшы яго першы раз, разрагаталася.

— А ўчора ён не быў табе смешны? — спытаўся Янка. Ён і сам пасмяяўся з нерастароплівай зялёнай сакратаркі, якая яшчэ не ведала жыцця і яго няпісаных правілаў.

— Учора мне чамусьці хацелася плакаць, — адказала Рагнеда, скідаючы з сябе сукенку, трусікі, станік, адвярнулася ад Янкі і ўзлезла ў доўгую начную кашулю ружовага колеру з кароткімі рукавамі і вялікім дэкальтэ, ад чаго яе поўныя грудзі ажно выставалі краямі з кашулі і моцна дражнілі

позірк. — Я чакала, што ты возьмеш мой бок, а ты захацеў дагадзіць сваёй любімай цешчы, ці не так?

— Зусім не так, дарагая, зусім не так, як ты кажаш. І ўчора я хацеў узяць за твой бок, ды ты... Прабач, не тое... Няўжо ты не разумееш псіхалогіі чалавека, які жыве адзін, прывык да свае адзіноты і не любіць, каб яму пярэчылі? Не слухалі яго, нават вучылі, як трэба жыць? Улічы яшчэ яе незалежны характар... Мо нават падобны да твайго...

— Ну, ты зноў нешта не тое гаворыш. Каб мы сёння не праляжалі так, як той начальнік з сакратаркай.

— Дык мо сёння сакратарка скажа не так, як яна першы раз гаварыла? Мо паразумнее?

— Яшчэ пабачым, якія ты мудрыя словы скажаш, каб яе скарыць, каб яна адчула цяпло твайго сэрца.

— Я падумаю, падумаю... Але дай мне закончыць пра матку. Што змянілася б, каб я цябе падтрымаў? Нічога! Маці так ці інакш не дасць нам тут будавацца. Дык хай яна думае, што ты адна так хочаш, а я — не, я не іду наперакор яе волі. Я не хачу, каб яна заставалася адзінокай у сваім рашэнні, каб ёй было крыўдна, што дзеці яе не разумеюць, не хочуць з ёю лічыцца. Я знарок перайшоў на яе бок, хоць я, можа, і падзяляю тваю думку: трэба, каб кожны чалавек пабудаваў дом, пасадзіў дрэва і нарадзіў сына. Потым усё гэта падвоіў, пасля патроіў. Ты згодна? Толькі тады краіна будзе развівацца, толькі тады нацыя будзе расці. І тры дамы — якраз для трох сыноў, трэці, свой, ён аддасць малодшаму сыну, а сам пойдзе ў лепшы свет са спакойным сэрцам — што ён не пакінуў сваіх сыноў беднымі, што ў іх ёсць будучыня. А яго верная палавіна яшчэ будзе памагаць нявесткам гадаваць унукаў, перадаваць свой багаты жыццёвы вопыт, як мацаваць сям'ю, каб яна не рассыпалася на часткі, як той цагляны дом, які пабудавалі на дрэнна замешаным растворы, у якім шмат пяску і мала цэменту.

— Здаецца, што ўсё гэта толькі ў ідэале — пра тры дамы, тры сыны, тры дрэвы. Цяпер нешта не тое робіцца. Усё якраз і развальваецца, як той кепска складзены дом. Мала наша ўлада думае пра нашу будучыню, нібы яна жыве толькі сённяшнім днём. А дзяржава — гэта збудаванне на вякі, у якім быў пачатак, але не павінна быць канца.

— Ты вельмі правільна разважаеш, Рагнеда, у цябе дзяржаўны падыход да праблемы, якая здаецца такою відавочнаю, а шмат хто яе не заўважае, ці ігнаруе, ці хоча, каб было не лепш, а горш, каб дом наш развапіўся — і як мага хутчэй, і тады нам збудуюць такі дом, што мы ў ім будзем не гаспадарамі, а гасцямі...

— Што ты маеш на ўвазе, Яначка? — з трывогаю спыталася Рагнеда.

— А тое, што нас хочуць перамяшаць, адарваць ад родных каранёў, каб мы сталі грамадзянамі без адраса, без роднага дома. Каб нам усюды было добра, а насамрэч — няўтульна, адзінока, каб наша душа не знаходзіла сабе месца — і засыхала, як тая кветка без вады. Вось чаго я баюся...

Яны ляглі ў сваю мяккую, на панцырнай сетцы, пасцель, прытуліліся адно да аднаго, паступова адключаючыся ад свету, ад таго, чым яны жылі цэлы дзень, — і хутка адчулі, што яны — мужчына і жанчына, яны патрэбны адно аднаму, а іх сэрцы і целы прагнуць зліцца ў адно нешта непадзельнае, неабдымнае, найвышэйшае, святое ці грэшнае, што адрознівае чалавека ад астатняга жывога свету, — гэта момант кахання, ні з чым не параўнальны ўзлёт чалавечага духу над усімі зямнымі турботамі і нягодамі. То была знаёмая — і новая, непаўторная песня кахання ў два галасы,

яны вялі яе вольна і плаўна, шырока, як спрактыкаваныя спевакі, не парушаючы тэмпу і рытму, не забягаючы адно перад другім, адчуваючы кожны нязначны нюанс. То была новая мелодыя, можна сказаць, імправізацыя, падобная і непадобная да тое, што спявалі яны раней. То быў нават як бы працяг, новыя словы і новыя акорды ўпляталіся ў тыя, што гучалі раней, пашыралі мелодыю, надавалі новую афарбоўку. Іх галасы сягалі ў самае неба, усё вышэй і вышэй, і абрываліся разам на недасяжнай ноце, за якой ужо нічога не засталося, апроч нематы.

І жаночы ўскрык, поўны самых складаных пачуццяў, якіх цяжка сабраць разам, — радасці і болю, шчасця і роспачы, расчаравання і надзеі, — прагучаў фіналам іх двухгалосай песні кахання. Іх сэрцы стукалі моцна, ажно разрываліся, іх дыханне было бурным, як горная рэчка, але паступова вярнуўся спакой. Яны ляжалі спакойна і ціха, нібы прыходзілі да памяці, вярталіся да сябе, як бы нават не верачы, што яны вось тут побач, у пасцелі.

— Пацалуй мяне, Яначка, моцна-моцна, — папрасіла Рагнеда Янку.

Такая нечаканая просьба здзівіла Янку, прымусіла яго страпянуцца.

— Дык я ж цябе нядаўна цалаваў, аддаў усе сілы…

— Не думала я, што ты такі скупы, — з крыўдай у голасе прамовіла Рагнеда.

Янка павярнуўся набок, прытуліў Рагнеду да сябе, моцна пацалаваў у вусны, адчуваючы на іх прысмак солі.

— Што цябе трывожыць, дарагая? — спытаўся ён у жонкі.

— Ведаеш, я баюся за цябе… Цяпер такі час…

— Ну і што час? Час заўсёды быў не такі, як людзі хацелі… Але што такое час, каб не людзі? Уяві сабе, што на Зямлі людзей няма. І што тады час? А нічога-ніякага. А час робім — напаўняем яго, ажыўляем — мы, людзі. І якія мы, такі і час. Мы яго фарбуем у свае, так сказаць, калёры: у чорны, чырвоны, белы, зялёны, ва ўсе колеры вясёлкі і іх адценні. Мо не так?

— Ты добра сказаў, Яначка. Часам ты гаворыш, як паэт.

— А ты часам гаворыш, як філосаф, — не застаўся ў даўгу Янка. — А жанчын-філосафаў не так ужо і шмат.

— Вось бачыш, табе пашэнціла…

— Мне здаецца, хай жанчыны лепш будуць паэткамі, а мужчыны — філосафамі.

— Дык выходзіць, што ты мяне не пахваліў? Ты расчараваны?

— Чаму? Я цябе цаню… і хвалю. Як ты сказала нядаўна: аддай сэрца людзям. Добра сказана, праўда? Можна ўзяць назваю для якой аповесці.

— Ну вось, бяры назву, я табе дару. І напішы аповесць. Хай гэта будзе табе маё заданне. Згода?

— Згода, — адказаў Янка і пацалаваў жонку ў шчаку.

Сёння яны засыналі шчаслівыя.

## VI

Янку ўжо здавалася, што ён жыве тут даўно. Дні сталі падобныя адзін на другі, работа яго таксама была звыклая, стала паўтарацца ўжо — пазаўчора, учора, сёння: капаць, секчы, касіць, нешта папраўляць-падпраўляць, схадзіць у краму. Нейкага такога адпачынку, як загараць, купацца, ён не прагнуў, яму больш падабаўся актыўны, вось такі, як у яго, адпачынак — то быў адпачынак ад гарадскога застою, сядзячай працы кожны дзень па восем ці болей гадзінаў. Вось гэта быў адпачынак!

Сёння зранку ён заканчваў парадкаваць ля адрыны, ставіў на месца скрынкі: поўныя знізу, адна на адну, па тры-чатыры, а пустыя, для яблык, заносіў наверх, на палаткі, дзе ўжо стаяла іх шмат, назапашаных даўно, калі быў жыў гаспадар. Цяпер ужо гэта ўсё старэла, трухлела, развальвалася — і Янка сёе-тое, што яшчэ можна, падраўняць, прыладжваў, прыбіваў — і гэткім чынам як ставіў на сваё месца. Вось трэба будзе выкінуць некалькі скрынак смецця, адразу ў адрыне папрастарнее. Тут будзе месца для дроў — пры сцяне, аж да самага вільчыка, сцяна з дошчак, ёсць шчыліны, прадзімае ветрам-паветрам, дровы будуць вунь як сохнуць.

А сусед Раманчук абяцаў Рагнедзінай матцы яшчэ падкінуць усякага ламачча, дык Янка мо па абедзе будзе яго пераносіць, скідаць на дрывотнік ды патрохі секчы.

Янку падабалася быць вось у такой старой адрыне, дзе ён адчуваў сябе зусім не чужым, дзе ўсё было для яго такое знаёмае, як сваё, як тое, сярод чаго ён рос, але тут усякага такога дабра было нашмат болей, чым некалі ў іх. Сякераў тут было тры, а з тупіцаю — чатыры, пілак папярочных — тры, малаткоў розных калібраў таксама штук пяць, некалькі абцугоў, некалькі пласкагубцаў, напільнікаў, рашпіляў, долатаў — ажно тры, рознай шырыні, некалькі бабак для кляпання касы, круглых і вострых, брусоў, мянташак, — усяго тут было ў множным ліку, у той час як у яго бацькі, дома, усяго па адным прадмеце: пілка адна, сякера — адна, яшчэ была і тупіца, малаток — адзін, абцугі таксама, пра пласкагубцы ён нават не ведаў, што яны такія ёсць, долата адно, трохкантовы напільнік — адзін, каса — адна, толькі потым, як Янка падрос, бацька купіў яму касу, пяцёрку ці шасцёрку, асадзіў, падагнаў да яго росту і сказаў: касі! І пайшоў касіць Ясь канюшыну!

Пра што ўсё гэта гаварыла, на якія думкі наводзіла Янку? Што тут жылі заможныя людзі, не раўня яго бацьку, для якіх усё здавалася простым і лёгкім — нейкая там сякера ці каса, ці плуг — былі не праблемаю, у той час як для яго бацькі нейкая там другая каса ужо трата некалькіх лішніх рублёў, а адкуль іх возьмеш, калі яны ідуць на самае неабходнае — на вопратку, на абутак — для сям'і, а гэта шэсць чалавек. Толькі паспявай круціцца!

Вось чаму такога селяніна, як яго бацька, лёгка можны было настроіць супраць таго, хто меў усякага дабра ўтрая больш за яго, хто жыве лепш за яго. А чаму так атрымалася, што адзін багаты, а другі бедны — цяжка сказаць, неяк усё згубілася ў мінулым, і бедны застаецца бедным, а багаты — багатым, і бедны ўсё бяднее, а багаты — усё багацее. Ці не таму я бедны, што ты багаты? А што, калі ўраўняць усіх, падзяліць пароўну, мо тады будзе лепш? Але ж пакрыўдзяцца тыя, у каго адымуць, будуць коса глядзець на беднякоў-галадранцаў, якія стануць карыстацца іх дабром — і нават дзякуй не скажуць... Калгасы — вось той кацёл, у які кінулі варыцца ўсіх разам — бедных і багатых, а частку багатых адправілі далёка-далёка, каб не заміналі рабіць грандыёзную справу — будаваць жыццё на камуністычным грунце.

Балюча ўсё гэта адбілася на свядомасці людзей, яны падзяліліся яшчэ горш, чым былі дагэтуль, хоць і рабілі выгляд, што ўсе «роўныя». Вельмі-вельмі памыляліся тыя, што хацелі ўраўняць людзей, зрабіць іх аднолькава «шчаслівымі». Чамусьці людзі такія істоты, што кожны жыве па-свойму, не хоча ён рабіць так, як усе, а робіць неяк па-свойму і жыве таксама па-свойму: адзін лепш, другі — горш, адзін багаты, як раней казалі, а другі бедны, і што хочаш рабі, а нічога не хоча мяняцца.

Чаму гэта чалавек, які так любіў зямлю і быў да яе моцна прывязаны, цяпер адцураўся яе, стаў уцякаць у горад, зрабіўся рабочым, службоўцам, а то і дворнікам-падмятайлам, але праз нейкі час набыў кватэру, мае пэўную зарплату, спіць спакойна і не баіцца за заўтрашні дзень. І за карак яму не капае, і на работу яго брыгадзір не гоніць, а ён сам ездзіць — на трамваі ці тралейбусе, а часам і пешкі, для гімнастыкі ног. Не скажаш, што ён багата жыве, але і не бедна.

А вось як калгаснік жыве, адразу і не скажаш. Тут і слова такое цяжка знайсці, каб адпавядала сэнсу. Памятаеце калгаснага каня, якога вясною трымалі на вяроўках, каб ён не лёг, бо ўжо як ляжа, то і не ўстане? Не было чым карміць бедную жывёлу, стрэхі ішлі на корм. Аджываў, як выходзіў на траву… Замест каня прыдумалі трактар. Яго можна кінуць не паіўшы, ног не працягне… Хоць нямала гэтых жалезных коней раней часу скончылі свой век, не дацягнуўшы да прызначанага яму тэрміну прабегу. Ці выратуе трактар сённяшні калгас? Калі прыдумаць да трактара яшчэ і жалезнага трактарыста, мо і будзе толк. А жывыя людзі хутка не змогуць вынесці тае нагрузкі, якую яны сёння маюць. Іх проста шкада, яны надрываюцца, яны хворыя: ад перагрузак, ад недасыпання, ад перапою. Сэрцы ў іх не жалезныя, яны такія ж далікатныя, як і ў кожнага жывога чалавека. Як і ўсякаму жывому арганізму, яму патрэбна мера. Як таму калгаснаму каню не было меры ў працы і не было меры ў харчах (не давалі належнай меры, бо кралі), так цяпер трактарысту няма меры ў працы. Нельга ўсё дарослае жыццё працаваць за траіх і за «таго парня», які сёння жыве ў горадзе і толькі ў страшных снах бачыць сябе на трактары ці на свінаферме. Каму цяпер добра ў калгасе, хто цяпер багаты ў калгасе? Старшыня, сельскія спецыялісты? Трактарысты і камбайнеры? Мо даяркі? Мо пенсіянеры і настаўнікі? Ды сёння ўсе яны гатовы ўцячы ў горад, дайце ім толькі належны транспарт.

Дык куды ж мы ідзём, браты беларусы? Куды кіруемся? У горад? А мо ў гора? А мо ў голад? Нешта трэба рабіць. Начальства ўжо задумалася… Але яшчэ нічога не робіцца… Як гэта ў Якуба Коласа? Фурман з панам уцяклі, а карэта ўсё глыбей у балота грузне…

З такімі вось невясёлымі думкамі канчаў Янка эпапею ператрусу цешчыных скарбаў, якія збіраліся тут увесь пасляваенны час, бо даваенны будынак, які стаяў на гэтым месцы — гэта было вялікае гумно, — згарэў, калі гарадок вызвалялі ад нямецкіх акупантаў. Пра гэта расказвала яму Рагнеда. Пажар, які спаліў паўвуліцы, спыніўся на іхняй хаце, і згарэла толькі гумно, хлевушок, яшчэ дробныя пабудовы. А хату яны выратавалі ад агню таму, што бацька Рагнеды, сусед Паўлюк і яна палівалі гонтавы дах вадою, каб ён не заняўся полымем ад недалёкага пажару…

Пераключацца на іншую работу было неяк цяжка і непрыемна, як заўсёды, хацелася нейкае паўзы-адбіўкі. Янка проста механічна, а не свядома, павярнуў не налева, да хаты, а направа, у сад. Добра было прайсціся па дарожцы, якая вяла між яблынь аж у канец саду, да суседняй сядзібы, дзе праходзіла мяжа і стаяла агароджа з драцяное сеткі. Янка любіў гэты свой «маршрут», ён мераў яго часта, асабліва вечарам, пасля вячэры ці перад сном, часам яны прагульваліся тут з Рагнедаю, але ёй не заўсёды ўдавалася адарвацца ад нейкіх сваіх клопатаў і пахадзіць перад сном, падыхаць густым паветрам, насычаным пахам яблык і траваў, пастаяць каля адной-другой яблыні, падзівіцца на яе ўраджай, які густа абсыпаў галіны, паспрабаваць, ці моцна трымаюць жэрдкі-падпоркі ацяжэлыя

галіны, падняць яблык, які зусім нечакана ўпаў перад табою на дарожку, прымусіўшы здрыгануцца.

Чамусьці вечарам такія прагулянкі давалі больш адпачынку душы, і мо нават таму, што вочы не ахоплівалі ўсяго наваколля, не выходзілі за рамкі таго, што было перад ім, і думкі таксама неяк гуртаваліся, круціліся вакол таго, што вось тут, перад табою, хоць часам і залятала далёка — часцей за ўсё ў мінулае, вырываючы з памяці нейкія падзеі ці эпізоды, якія здаваліся тут, у гэтую хвілю, нават недарэчнымі: чаго іх прынесла, чаго яны тут апынуліся ў гэтую вось часіну, і чаму менавіта яны?

Але так здаралася рэдка, часцей думкі круціліся вось ля гэтага дома, ля яго насельнікаў, якіх цяпер тут няшмат засталося, а да вайны, яшчэ нават да тае, першай, было нямала. А войны руйнуюць, разганяюць людзей па свеце, іншых заганяюць без пары на той свет — і робіцца вунь як прасторна — аж страшна і зусім нязвыкла. І гэтак адбывалася не толькі тут, у сям'і Жаркоўскіх...

Ападу пад яблынямі рабілася ўсё больш і больш, давядзецца збіраць, каб дабро не прападала. На высокай грушы, ля шпакоўні, сядзеў шпак, але маўчаў, як думаў аб нечым. Яго малыя ўжо вылецелі з гнязда, пайшлі-паляцелі шукаць сабе новае месца. Мудра прыдумана ў гэтых птушак, як у буслоў, напрыклад. Старыя штогод прылятаюць у сваё старое кубло, а маладыя робяць сабе новае, сваё. Сярэдзіна жніўня — а буслы часта збіраюцца чародамі, часам кружляюць над іхнім садам, няйначай, вучаць маладых, трэніруюць да палёту ў вырай — далёка-далёка, мо ў Афрыку, а можа, і ў Турцыю. Успомніўся даўно прачытаны ў газеце допіс пра тое, як недзе на ўзбярэжжы Чорнага мора ў Турцыі буслы некалькі дзён біліся з арламі. Нешта падобнае, як у апошняй вайне біліся лётчыкі — савецкія і нямецкія, недзе пад Растовам, над Курскам, над Каўказам... І дзіўна, што ў гэтым паветраным баі буслоў і арлоў пераможцамі выйшлі нашы — хочацца думаць, што менавіта нашы — буслы, і арлам, гэтым магутным ганарыстым птушкам, давялося ўцякаць з поля — з неба — бою ў свае горныя цясніны, каб ратавацца ад удараў магутных крылаў і вострых, прамых, як кароткі кінжал, бусліных дзюбаў. Мо нават таму, што буслоў было нашмат больш, як арлоў. Але сіла перамагла сілу, як сказаў вялікі Гогаль...

Колькі ён прабыў у садзе — мо якой паўгадзіны, не больш, але выразна адчуў, што нябачны груз стомы скаціўся з яго плячэй, стала вольна і лёгка дыхаць, вочы сталі бачыць далей і шырэй, чым дагэтуль, галава стала ясная, а кепскія, трывожныя думкі з яе як вымела свежым ветрам, прапахлым водарам спелага саду.

Вось цяпер можна брацца за нешта іншае, няйначай, трэба панасіць тыя абрэзкі і аполкі, якія нарыхтаваў яму сусед. Будоўля ў яго яшчэ няскончана. Дом яго паступова набывае гарадскі выгляд, а значыць — расце яго кошт. Кажуць, што ўжо знайшоўся тут адзін палярнік, у якога жонка з гэтых мясцінаў, і збіраецца купіць. Палярнікі — людзі не бедныя, нездарма ім плацілі за працу, а яшчэ — за страх.

Гэтым разам было шмат трухлявых дошак, напсаваных грыбком, вось чаму сусед і ўзяўся класці новую падлогу — каб не было ніякага тандэту. Цягаць дошкі, аполкі, абрэзкі не так ужо і цяжка, іх можна не насіць, браць на пуп, а менавіта цягнуць адным канцом па зямлі. Вось яму, Янку, падваліла работка. Дошкі добра разбіваць, іх пілаваць не трэба, а калоць сякерою на тонкія ашчапкі і іх ужо секчы, як звычайную ламачыну.

Мала таго, сусед даў Янку невялікай авальнай формы сталешніцу з тоўстае фанеры — гатовы столік, толькі трэба яго паставіць на ножкі. Яшчэ даў дзве невялікія дошкі для лавак, каб было на чым прысесці. Выбіралі месца для альтанкі ўсе разам, нават спрачаліся, але прыйшлі да згоды, што вось тут, між сліваў, якія раслі на двары трохі далей ад вялікай бярозы, утвараючы нейкае нават кола, хоць і крывое, лепшага месца не знайсці. Янка ўзяўся за працу: забіў у зямлю тры калкі, на іх замацаваў фанерыну, затым узяўся ставіць лаўкі па баках століка. Альтанка атрымалася на заказ: па-першае, тут цень, не пячэ сонца, тут можна пасядзець, пачытаць ці нават перакусіць што лёгкае — выпіць кавы ці малака, з'есці маліны ці сліваў. Адным словам, месца сустрэчы за круглым сталом. А то тут гэтулькі вольнай прасторы, а каб было якое месца прысесці, дык няма. Вось што значыць гаспадарка без мужчынскіх рук!

Скончыўшы з альтанкаю, Янка ўзяўся за дровы. Секчы для яго — звыклая рэч, усякія трухлявыя дошкі, аполкі колюцца і сякуцца лёгка, але трапляюцца цвікі, якіх адразу і не ўбачыш, а потым адчуваеш, што сякера не так сячэ — ступілася, глядзіш — на лязе некалькі шчарбінаў. Янка браў рашпіль, зараўноўваў шчарбіны, зноў сек. Работа, як кажуць — не бі ляжачага, але праз пэўны час пачынаў адчуваць, што пабольвае паясніца, а ногі дранцвеюць, просяць адпачынку. Рукі, як ні дзіўна, асабліва правая, на якую падае ўся нагрузка, яшчэ не скардзяцца на лёс, яшчэ трываюць.

Янка разлічваў, што скончыць усё да абеду, але не паспеў — нешта рана сёння паклікалі палуднаваць. Хацеў адмовіцца — куды там, і жонка, і маці былі не такія, каб іх не слухалі: рабіць трэба тое, што яны кажуць. Хіба варта было з-за гэтага спрачацца? Памыў рукі з мылам, твар, шыю, прычасаўся і пайшоў у хату.

— Нешта сёння я яшчэ апетыту не нагуляў, — сказаў Янка, сядаючы за стол, на якім усё ўжо было расстаўлена і чакала свайго часу.

— Слаба гуляў, таму і не нагуляў, — падсекла яго Рагнеда. — Мы тут з мамай напрацаваліся, таму і есці захацелі.

Абед быў, як заўсёды, смачны, мо нават занадта каларыйны: тлусты ўкраінскі боршч, дранікі са смятанаю, на закуску памідоры са смятанаю. Самое салаты, зялёнае і сакаўное, на градках ужо амаль не засталося — яна адцвіла, састарэла, зрабілася цвёрдая — не для ўжытку.

Рагнеда распытвала Янку, ці не падвярэдзіў ён руку, ці не баляць у яго ногі, паясніца.

Янка смяяўся: для яго гэта проста фіззарадка, усё сваё жыццё ён любіць фізічную працу, а калі часам што і баліць, дык па гэтым жыць можна: пабаліць ды перастане.

Пакуль яны палуднавалі ды гаварылі, да іх нечакала зайшла — хто мог падумаць? — старая настаўніца, якая вучыла Рагнеду і Янку, выкладала хімію і біялогію. Цяпер яна ўжо даўно на пенсіі, але яшчэ бадзёрая і рухавая. Зваць яе Ніна Кірылаўна, яна прыветлівая і гаваркая жанчына, з добра пастаўленым голасам, вучні яе заўсёды паважалі і любілі. Пасля роспытаў: як здароўе, як жывецца, чаму доўга не прыязджалі? — з яе боку, пасля пытанняў да яе: як на пенсіі, ці цягне ў школу, ці не сумна дома? — яны ўсе трохі супакоіліся. І Ніна Кірылаўна перайшла на дзелавы тон.

— Ведаеце, чаго я да вас прыйшла? — спыталася Ніна Кірылаўна, сеўшы ў крэсла непадалёк ад стала, за якім яны канчалі палуднаваць. — Ніколі не адгадаеце! Можна сказаць, з дыпламатычнаю місіяй. Не здзіўляйцеся, у нас ёсць мясцовыя пісьменнікі, вось яны напісалі тоўсты раман

ці цэлую эпапею. Два гісторыкі, ужо таксама пенсіянеры, вы іх добра ведаеце. Гэта Рыжанкоў і Маеўскі, адзін — былы партызан, другі — абараняў Севастопаль… Не скажу, за колькі часу — напісалі, перадрукавалі на машынцы і быццам ужо аддалі ў нейкае выдавецтва. А мяне папрасілі, каб я занесла вам экземпляр, — яна называла Янку на «вы», як і некалі ў школе, — бо ведаюць, што вы самі пішаце, у выдавецтве працавалі, а цяпер у часопісе… Можа, вы знойдзеце час ды прачытаеце, для іх важна ведаць, як вы ацэніце іх вялікую працу…

Тут яна дастала з гаспадарчай сумкі тоўсты рукапіс, перавязаны чырвонаю тасьмою крыж-накрыж, узважыла яго на далоні, усміхнулася — здаецца, нават вінавата, — і перадала Янку.

Янку стала трохі не па сабе ад такога сюрпрызу, ён ведаў, што значыць прачытаць такі рукапіс, колькі на яго трэба патраціць часу. А ён чытаў павольна, з алоўкам, не мог прымусіць сябе чытаць па дыяганалі, нават лаяў сябе за гэта. Але такі ён ужо быў рэдактар па натуры. Ён узяў рукапіс, развязаў матузкі, паглядзеў на тытульны ліст, зазірнуў у канец рукапісу — тысяча з гакам старонак! Ну, малайцы правінцыйныя празаікі! Ні з таго, ні з сяго, не напісаўшы ні аднаго апавядання, узяліся і адбухалі цэлую эпапею! Вось дык смелыя хлопцы! Каб яны нават новую «Вайну і мір» напісалі, дык цяпер такога аб'ёму кніжку нідзе не выдадуць, а яны, пачаткоўцы ў такой справе, хочуць выдаць сваю таміну! Што тут можна сказаць? Янка нават разгубіўся, але загаварыў бадзёра:

— Ніна Кірылаўна, перадайце аўтарам рукапісу, што я іх віншую з такім аб'ёмам… Не ведаю, які ён будзе на смак… пастараюся прачытаць, пакуль мы тут заселі недзе да канца месяца.

Настаўніца пабыла ў іх яшчэ з паўгадзіны, гаварылі пра свае балячкі, пра беды, пра няшчасці — неяк нічога вясёлага навокал не знаходзілася, і дзе яно ўсё падзелася? Ці гэта таму, што мы ўжо ў такім узросце, калі чалавек глядзіць назад і таму нічога светлага ў сённяшнім дні не бачыць? — думаў Янка.

Пры развітанні Ніна Кірылаўна сказала:

— Дык я ўжо і далей буду сувязною, пацікаўлюся праз які тыдзень-другі, як вы, Яначка?

— Буду рады вас бачыць, Ніна Кірылаўна. І мы ўсе таксама, — ад усіх запэўніў Янка сваю былую настаўніцу.

Рагнеда і Янка праводзілі яе да весніц, ім было прыемна бачыць такую шаноўную госцю, як Ніна Кірылаўна.

— Ну вось, Яначка, — сказала Рагнеда, як госця пайшла. — Цяпер ты не будзеш сумаваць без працы.

— Менавіта, але дам і табе пачытаць, што там нашы пімены напісалі. Мо і праўда якую Амерыку адкрылі. Але гэтулькі напісаць! Гэта як для мяне, дык гадоў пяць я такую таміну пісаў бы.

— Дык яны ж на пенсіі, не забывайся. Колькі ў іх вольнага часу! А колькі ў цябе? Пасля працы ў рэдакцыі які ты ўжо работнік?

— Гэта праўда! Трэба ісці на пенсію — тэрмінова!

— Не спяшайся, — асадзіла яго Рагнеда. — Я хутка пайду, а ты яшчэ пасядзіш у сваім рэдактарскім крэсле — гадоў пяць ці болей…

— Але-але, ніколі не думаў, што стану рэдактарам. Нават і ведаць не ведаў, што гэта за звер такі — рэдактар. Ажно давялося ўлезці ў яго скуру…

— Бачыш, прафесія твая прэстыжная, толькі паспявай чытаць. Нават тут, у нашай глухой правінцыі, знайшлі табе занятак — па прафесіі.

Янка не хацеў нічога гаварыць кепскага пра настаўнікаў-гісторыкаў, якія напісалі такі фаліянт, ён нават быў рады, што вось знайшліся смелыя хлопцы, не пашкадавалі часу ды заселі за такую няўдзячную працу. Не можа быць, каб усё тут было кепска, як і не можа быць, каб усё было добра. Ён быў упэўнены, што проза нараджаецца не такімі вось вялізнымі глыбамі, як гэтая, што яна нараджаецца не раптоўна: да вялікай прозы трэба ісці доўга, пакутліва, цяжка.

— Пабачым-пабачым, што яны мне далі. Адразу не раскусіш. Трэба ўчытацца, — сказаў Янка. — Хоць, наколькі я ведаю гэтых людзей, можна ўсяго чакаць. Яны не просценькія, не ў адну столку. І жыццёвы запас у іх вялікі і багаты... Бач, якія хітрыя хахлы: знайшлі тут сабе беларускіх дзяўчат, пажаніліся ды пусцілі карані. Шкада толькі, што пісалі не на роднай мове, і не на нашай, а на сярэдняй — расейскай. Хочуць узбагаціць расейскую літаратуру... А яна і так багатая, хопіць, што яе ўзбагачалі наш Дастаеўскі і іхні Гогаль.

— Ты праўду кажаш, Янaчка, — кіўнула галавою Рагнеда. — Чаго ім трэба было пісаць па-расейску, чаму не на роднай?

— Бо расейскую яны ведаюць найлепш. Яна вярхоўная ў саюзе, а наша — гэта ўжо ніжэйшы гатунак. Няўжо ты не разумееш?

— Так яно і ёсць, яны ж выкладалі гісторыю па-расейску, яна стала іх роднаю моваю. Як і для многіх з нас...

— Вось такія мы патрыёты-ідыёты, пра якіх пісаў Максім Багдановіч у сваёй «Пагоні»: «Біце ў сэрца іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць...» Моцна сказана, але ці мы пачуем, ці да нас дойдзе?

Абед іх зацягнуўся, а прыход Ніны Кірылаўны выбіў са звыклага рытму, таму пачынаць нешта новае ўжо не мела сэнсу, трэба было закругляць пачатае. Але маці ўспомніла, што ў яе склепе непарадак, сёе-тое трэба прыбраць-перабраць.

Ну і добра! Яны спусціліся ў склеп па крутых каменных сходах. Янка быў тут першы раз. Склеп размяшчаўся пад меншым, усходнім канцом хаты, і лаз быў зроблены так, што яго, хто не ведае, і не знойдзе. Скінуўшы з-пад ног дыванок-ходнік, маці паказала на квадратную, метр на метр, накрыўку. Янка ўзяўся за невялікае ржавае колца, узняў накрыўку — цяжкую, з тоўстых дошак, маці ўключыла святло — і ён першы пайшоў уніз. Патыхнула замешаным на розных прымесях застаялым паветрам, адчуўся нязвыклы халадок, узмоцнены вільгаццю падзямелля. Склеп быў складзены з чырвонай абпаленай цэглы, прасторны, са скляпеністым пукатым перакрыццём, якое магло б вытрымаць наезд трактара ці танка — так была па-майстэрску выкладзена столь, трохі як прыпыленая павуціннем, з ледзь бачнаю плоймаю камароў, якія дзвюма вялікімі плямамі-калоніямі звісалі ўверх нагамі на гэтай цаглянай скляпеністай столі, ціха прытаіўшыся — нібы спалі.

Па баках пры сценах былі нішы, палічкі, дошкамі былі адгароджаны клеткі-засекі: для бульбы — самая вялікая, для капусты, буракоў, морквы, рэдзькі — усяго, што давала зямля. На паліцах і палічках, у нішах стаялі слоікі, банкі, глякі, збанкі, пляшкі розных памераў і напаўненняў, адны пустыя, другія поўныя, цьмяныя, мо леташнія ці яшчэ старэйшыя, а іншыя яшчэ свежыя, незапыленыя, няйначай, гэтага года.

Маці стала пераглядаць, перабіраць слоікі. Рагнеда кінулася ёй памагаць, але дарэмна.

— Не чапай, я сама, — сказала маці адрывіста. — Ты не ведаеш, дзе што браць.

І Рагнеда паслухмяна апусціла рукі, стала разглядаць нарыхтаваныя запасы, *Янка таксама не ведаў, што яму рабіць. Маці перабірала слоікі,* боўтала, кратала, некаторыя накрыўкі былі сарваны і слоікі працяклі, яна ставіла іх на ўтаптаны, уплясканы нагамі некалькіх пакаленняў гліняны дол. «Вось гэтыя бяры і вынось на ганак», — сказала яна Янку, і той адразу ўзяўся выконваць каманду, схапіў у кожную руку па слоіку і хацеў выносіць наверх. «Не бяры па два, яшчэ выпусціш з рук», — параіла маці. Каб так яму сказала родная маці, ён адказаў бы нешта такое: а мне не цяжка і два, але Рагнедзінай матцы Янка не стаў пярэчыць і паслухаўся яе парады, паставіў адзін слоік на дол, а другі панёс наверх, асцярожна ступаючы па каменных сходках, і ледзь не разліў і той адзін, бо спатыкнуўся наверсе аб парожак. Вось было б смеху, каб ён тут упаў! Так ён вынес слоікаў дзесяць розных саленняў, якія паспелі сапсуцца, — гэта гуркі, памідоры, кампот. Пад канец маці падала яму пляшку старога віна, пажартавала: «Ты ж хоць не разбі, не пакаштаваўшы».

Ходзячы па гэтых каменных сходках уверх-уніз, Янка ўвесь час думаў, як па іх ходзіць старая жанчына, Рагнедзіна маці: то ж такая рызыкоўная рэч — прайсці і не спатыкнуцца, крый Божа, не ўпасці! Але казаць штонебудзь матцы не стаў, яшчэ пакрыўдзіцца ці спалохаецца, а гэта яшчэ больш небяспечна.

Скончыўшы са склепам, жанчыны ўзяліся рыхтаваць вячэру, а Янка пайшоў у сад — праветрыцца і пабыць на прыродзе. Ён ужо думаў, што тут трэба будзе зрабіць у бліжэйшыя дні. Перш за ўсё агледзець плот, бо тамсям паадрываліся штыкеты, пачынаюць лазіць чужыя сабакі. Трэба будзе абабраць слівы пры плоце, сабраць тыя, што пападалі самі. Потым пазбіраць апалыя яблыкі, якіх усё больш ляжыць пад яблынямі. Яшчэ — трэба выкасіць траву ў садзе, скасіць картафлянік да канца, а то ён скасіў раней толькі тое, дзе выбіралі бульбу. Адным словам, пашукаўшы, тут занятак сабе знойдзеш, без працы сядзець не будзеш.

Сонца зайшло, неба на захадзе яшчэ ружавелася — знізу больш густою фарбаю, а ўверсе — святлейшаю, размытаю, паступова прападаючы ў прасторы. Неба было чыстае, без аблокаў, па ўсім відаць, чакалася добрае надвор'е.

За вячэраю каштавалі старое віно, было яно з чырвоных парэчак, не надта салодкае, і таму смачнае. Янка падліваў сабе, дадаваў па кроплі жанчынам, і яны сёння чамусьці не адмаўляліся.

За час, які яны знаходзяцца тут, Янка заўважыў, што маці нібы стараецца адгарадзіцца ад іх, не хоча змяншаць тую дыстанцыю, якая захоўваецца між людзьмі малазнаёмымі, якіх яшчэ не ведаеш, хоць маці іх ведала добра, асабліва дачку, але затое яна мала ведала Янку, трымала ў галаве тое, што пра яго гаварылі чужыя людзі. Таму, відаць, і трымала лінію адчужэння, ці, як яе назваць: не спяшайся, я яшчэ да цябе прыгледжуся, мо ты не той, за каго сябе выдаеш, хоць ты мой і зяць, але, ведаючы сваю дачку, якая можа вунь як памыліцца ў чалавеку, я не ўпэўнена, што ты якраз той, за каго яна цябе прымае. Яна можа памыляцца, я ведаю, таму я ёй не надта давяраю, а, значыць, не давяраю і табе. Таму ніякага такога панібрацтва я не дапушчу, ты павінен ведаць сваё месца, хоць ты нейкі там пісьменнік, нешта напісаў, нешта надрукаваў. Твая кніжка стаіць у мяне на пачэсным месцы, разам з абразамі, хай стаіць, мо ўзімку, як будзе вольная часіна, і пачытаю, хоць па-беларуску неяк ужо і адвыкла. Такое вось жыццё…

Янку падумалася, што нешта такое варушылася ў галаве цешчы, калі яна сядзела вось тут побач з імі за гэтым круглым сталом, дзе яны елі, пілі віно і гаварылі.

— Я бачу, Яначка, што ты надта прыліп да гэтай пляшкі, гатоў з ёю і ў пасцель легчы, — пажартавала Рагнеда, бачачы, як падлівае сабе Янка.

— Ну, у мяне ёсць з кім у пасцель легчы, а з паняю-пляшкаю можна і пафліртаваць, пакуль яна не апусцела, — адказаў Янка на закід.

— Апусцее адна — знойдзецца другая, — падтрымала гутарку маці. — У тым і бяда, што людзі ні ў чым меры не ведаюць, асабліва ў піцці. Цяпер гэтулькі аматараў выпіць горкага зелля, што проста бяда. Вось настаўнік наш адзін, яшчэ малады, так запіў, што дайшоў да белае гарачкі. Усё яму чэрці здаваліся, палохалі яго, ганяліся за ім, а ён уцякаў ад іх як мог, нават у халадзільнік схаваўся. Забралі ў бальніцу… А наш сусед Паўлюк таксама любіць з пляшкаю ў абдымкі хадзіць, але робіць перадышкі. Казаў, што і ён бачыў чарцей — невялічкія, у чорных капелюшах і з хвастамі. Зайшлі на кухню, а ён як угледзеў іх, дык ледзь не абамлеў.

Яны смяяліся разам, але, як падумаць, было не да смеху. Бо ледзь не ў кожнай хаце, у кожнай кватэры жыў чалавек, які ўжо не мог абысціся без таго, каб не выпіць хоць адзін раз у дзень, а былі ж і такія, што не абыходзіліся адным разам. Цяжка нават паверыць, што чалавек за дзень можа выпіць адну, а то і дзве пляшкі гарэлкі — і так з дня ў дзень. Як жа можа вытрымаць сэрца такую нагрузку? Як можа вытрымаць сямейны бюджэт такія выдаткі? Урэшце, як можа вытрымаць жонка, бедныя дзеці, што іх бацька прыходзіць дадому вечна п'яны, грубы, сярдзіты?

І вось такія людзі паміраюць без пары: сорак-пяцьдзесят — і іх няма. Самая сіла, а яны гатовы… Доктар неяк гаварыў па тэлевізары: нам прывозяць людзей і просяць — ратуйце! А іх ужо нельга выратаваць — інфаркт або інсульт. Потым, пры ўскрыцці, бачыш сэрца гэтага чалавека і можаш падумаць, што яму сто гадоў, яно, як зношаны лапаць. А яно належала саракагадоваму мужчыну!

— А чаму людзі п'юць без усякай меры? — спыталася Рагнеда нібы знарок, каб пачуць працяг гэтай не надта вясёлай гутаркі.

— О, кэль кэсцьён, — як кажуць французы, — якое пытанне! — усклікнуў Янка, адчуваючы спрэчку за іх круглым сталом. — Адны скажуць, што самі людзі вінаваты, другія — гэта Бог карае людзей за іхнія грахі, трэція кажуць: п'янства — хвароба сацыяльная, не людзі вінаватыя, а тыя ўмовы, у якіх людзі жывуць. І сказаў гэта не хто-небудзь, а сам Карл Маркс барадаты. Чалавек робіцца бесчалавечным таму, што жыве ў бесчалавечных умовах. І з гэтым тэзісам нельга не згадзіцца, з ім можа спрачацца толькі прэм'ер якой-небудзь дзяржавы, будзе перакладваць віну за ўсе зямныя грахі на самога чалавека.

— Выходзіць, я вінавата, што мой першы муж піў? Так ты хочаш сказаць, Яначка? — абурылася Рагнеда, вочы яе загарэліся ад нейкага ўнутранага агню. Няйначай, ад успамінаў…

— Я так не кажу, але і тое акружэнне, у якім ён быў, мела нейкі, хай сабе неістотны ўплыў. Была нейкая душэўная незадаволенасць, незаспакоенасць, адным словам, варушыўся чарвяк, якога трэба было заспакоіць, даць яму чаго градуснага — як найменш.

— Ды ён з вайны ўжо вярнуўся алкаголікам, сам казаў, што ўсю вайну афіцэры пілі, не прасыхаючы. А ён маёрам быў, дывізіёнам камандаваў…

— Пілі недзе ў другой палове вайны, а ў першай ім і вады не хапала, не тое, што гарэлкі, — не згадзіўся з Рагнедаю Янка. — А ў сорак чацвёр-

тым-сорак пятым ужо і салдатам давалі перад боем, гэта мне не адзін чалавек казаў. Каб смялей салдат на смерць ішоў, думаў, што яго куля абміне. А як вайна скончылася, дык афіцэры чаго плакалі? Не ад радасці, а наадварот! Што іх маліна канчаецца, што трэба будзе скідаць пагоны ды нейкую работу цягнуць, а тут іх і пояць, і кормяць, і рабіць нічога не трэба, яшчэ і кабета якая падвернецца, тэлефаністка ці медсястра. Гэта мне таксама не адзін афіцэр расказваў. А афіцэры хто былі? Учарашнія салдаты: выжыў год ці два, не забіла яго — вось яму спачатку лычкі на пагоны, а потым і зорку. І пайшло, у канцы вайны мог у маёры выбіцца, а то і вышэй. А ў самога пяць-сем класаў за плячыма. І так вось яны і камандавалі, таму ў нас і страты такія — самі ішлі на ўбой і салдатаў не шкадавалі.

— Усё ты ведаеш, Яначка, нібы ты сам усю вайну прайшоў, — сказала Рагнеда, якой, відаць, прыелася слухаць такую доўгую Янкаву тыраду, ды яшчэ з нейкімі закідамі ў яе агарод. — Але ж не ўсе з вайны вярнуліся п'яніцамі, як быў чалавек, дык і застаўся чалавекам. Параненым у вайну наркотыкі давалі, а вось жа не сталі людзі ад гэтага наркаманамі. Як слабы чалавек духам, дык яго і лёгка зламаць, а як моцны, усё вынесе.

— Ты хочаш сказаць, што ёсць людзі, а ёсць героі, да якіх нічога не прыстае, яны ў попеле блішчаць, як тое золата?

Рагнеда нешта хацела адказаць, але тут уступіла ў гутарку маці, якая дагэтуль маўчала, і цяжка было сказаць, на чыім яна баку, хто яе больш пераканаў.

— Паслухайце, што я скажу, — пачала яна, выціраючы пальцы папяровую сурвэткаю. — Тут у нас па вуліцы ходзіць кабета, высокая, худая. Яна ў тым канцы вуліцы жыве, пад рэчку. Ужо на пенсіі, ледзь ходзіць, дабітая кляча... Яна на піўзаводзе працавала. Дык што вы думаеце? Сама хвалілася, што па пятнаццаць пляшак піва за рабочы дзень выпівала. І што ж, пайшло яно ёй на карысць? Наадварот, бокам вылезла: здароўе прапіла, алкагалічкаю стала. І цяпер без пляшкі не можа жыць, без канца ў людзей пазычае, часам пад плотам валяецца. І хто тут больш вінаваты? Яна ці тыя ўмовы?

— Тут прасцей за ўсё можна сказаць, што сама вінаватая, прагнасць яе загубіла, — першы азваўся Янка. — Але, відаць, было нешта такое, што яе грызла, быў нейкі агонь, які яна гэтым півам залівала.

— А каб не дармовае піва, дык чым бы яна яго залівала, той агонь? — умяшалася Рагнеда. — Саракаградуснаю? Дык яна гарыць. Вось бы ўжо і згарэла дагэтуль, а так яшчэ ходзіць. Вось такі прыклад ну зусім супярэчыць твайму Марксу барадатаму, дарагі Яначка. Шмат мы звальваем свае віны на некага, а як няма на каго, дык на ўмовы, акружэнне, яшчэ невядома на што. Абы не мы самі!

На гэтым і скончылася «п'яная» тэма сённяшняга вечара.

## VII

У нядзелю зранку Янка з Рагнедаю адразу пасля снядання вырашылі схадзіць у музей — гісторыка-краязнаўчы музей іх райцэнтра, ля якога яны праходзілі ледзь не кожны дзень, а іншым разам — і часцей. Збіраліся даўно, як толькі прыехалі, а вось ужо недзе палова адпачынку праляцела! Добра, што і так...

Музей, невялікі двухпавярховы домік, стаяў побач з новаю цаглянаю школаю, у якой ён і пачынаўся, доўга быў у падсуседзях, разрастаўся,

і настаўнік геаграфіі Чарняк, заснавальнік усёй гэтай справы, стаў дамагацца, каб пабудаваць музею свой будынак.

Якраз яны засталі дырэктара Чарняка на месцы, былі і дзве маладыя дзяўчыны, навуковыя супрацоўніцы-экскурсаводкі. Як ганаровых землякоў гасцей хацелі правесці без білетаў, але Янка запратэставаў: як гэта? Не за плату, а па блату? Заплацілі, узялі квіткі, і сам дырэктар Чарняк, сярэдняга росту сімпатычны мужчына, менавіта чарнявы, павёў іх аглядаць экспазіцыю: спачатку па першым паверсе, потым па другім.

Была і ўступная гутарка: з чаго ўсё пачыналася, як пашыраліся, хто дапамагаў, хто перашкаджаў. Як вынікала з аповеду, хоць гэта не падкрэслівалася, ва ўсім была відаць работа яго, дырэктара і заснавальніка музея — Чарняка, асабліва з будаўніцтвам памяшкання: дабіцца права на пабудову, правесці каштарыс, выпрасіць ці выбіць грошы, арганізаваць будаўніцтва, потым пашырэнне, але не ў бакі, а ўверх — надбудова другога паверха, — гэта вунь якая доўгая і цяжкая эпапея! Але свет не без добрых людзей: дапамагалі і ў райсавеце, і так у розных установах, дзе здараліся затрымкі, дзе не клеілася, дзе гатова было сарвацца. Хто праз гэта не прайшоў, той не ведае, а хто прайшоў, як яны — ніколі не забудзе, — гаварыў ім дырэктар.

Пачалі агляд з дагістарычнага перыяду, можна сказаць, пячорнага: крэмневыя нажы, скрэблы, камяні, вострыя косткі, якія цудам захаваліся, урэшце вырабы з жалеза, якія ўцалелі толькі таму, што ляжалі ў спрыяльных умовах — без доступу паветра, не маглі акісліцца. Далей — болей: наканечнікі стрэлаў, дзідаў, сякеры, потым пайшлі рагаціны, мячы, кісцяні, арбалеты і іншыя забойчыя прылады. Тут прагрэс быў! Знаходкі сустракаліся цікавыя, дырэктар казаў, што іх хацелі выкупіць у музея, давалі немалыя грошы, але ён не аддаў. То былі ўзоры старажытнае зброі, як аркебузы, мушкеты, стрэльбы пачатку семнаццатага стагоддзя, гарматных руляў асаднага тыпу невялікага калібру, каменных ядраў featureнага дыяметру — ад памеру курынага яйка да сярэдняй велічыні капуснае галоўкі. Дзе ўсё гэта было знойдзена, хто падараваў — было запісана на тлумачальных таблічках, нават на дзвюх мовах, што вельмі здзівіла Рагнеду.

— А чаму гэта на дзвюх мовах? Няўжо сюды шмат расейцаў прыязджае? — спыталася яна ў дырэктара.

— Такая ўстаноўка, — усміхнуўся дырэктар, — такая палітычная лінія: а што скажуць зверху? Вось яны кажуць, а мы выконваем. Будзем спадзявацца, што гэта часова.

— Няма нічога больш трывалага, чым часовае, — перайначыў Янка вядомае выслоўе пра часовыя цяжкасці.

— У нас так, — далучыўся дырэктар. — А што павінна быць даўгавечным, тое развальваецца. Парадоксы нашага часу.

— Ці памагаюць разваліць, як касцёл, які стаяў зусім блізка ад вашага музея, — дадала Рагнеда. — Ёсць тут у вас хоць фотаздымак гэтага храма?

— Ёсць, чаму ж не? І ранейшы, нармальны выгляд, і абгарэлы, без даху, а таксама і разабраны, фрагмент, так сказаць, адной сцяны, не далі рады разбіць… Хоць, на добры лад, яго лёгка можна было аднавіць, бо згарэў фактычна толькі дах пасля артабстрэлу, вы ж самі ўсё гэта ведаеце… Ну вось, пусцілі людзям на цэглу, хоць хто з тае цэглы што зрабіў? Але навошта нам культавы будынак? Пабудуем Дом культуры… Колькі гадоў пра яго гаворым, а яго ўсё няма… Але пайшлі далей, а то мы доўга будзем дабірацца да канца экспазіцыі. Вось бачыце, удзельнікі сялянскага

бунту ў вёсцы Гускі перад аб'ектывам. Была забіта адна жанчына і некалькі чалавек паранена, калі царскія салдаты падаўлялі бунт. Цікавы факт. Адзін з удзельнікаў гэтага бунту, Шэўчык, тады малады хлапец, пасля стаў бацькам… вучня нашай школы, цяпер вядомага вучонага. Яго партрэт вы ўбачыце на стэндзе ў канцы экспазіцыі.

— Добра, вельмі добра пабачыць гэтага Шэўчыка, з якім я вучылася, — зарадавалася Рагнеда. — А яшчэ наш былы вучань, Баркун, ёсць у вашай экспазіцыі?

— Баркун ёсць на стэндзе, — адказала за дырэктара маладая насатая супрацоўніца, — вы будзеце бачыць.

— А ведаеце, што … не, нічога… Пабачым Шэўчыка і Баркуна, яшчэ каго-небудзь, — перамяніла тон Рагнеда і замоўкла.

Дырэктар, між тым, працягваў:

— Вось тут мы бачым фота стала — выдатнай работы, інкруставанага, з усіх пародаў дрэў, якія растуць у Беларусі. На пачатку вайны ён апынуўся ў Магілёве. Яго збіраліся, ці праўда, перадаць самому Гітлеру, але партызалі выкралі стол. А праводзіў гэтую аперацыю чалавек, якому потым давялося вызваляць наш горад ад нямецкіх захопнікаў…

— А дзе цяпер той стол? — спыталася Рагнеда.

— На вялікі жаль, ніхто не ведае, дзе ён падзеўся. Пошукі нічога не даюць, — адказаў дырэктар.

— Як і крыжа Святое Еўфрасінні Полацкай, — дадаў Янка.

— На жаль, так, — згадзіўся дырэктар.

— А мне здаецца, што ўсё гэта ляжыць у запасніках недзе ў Маскве, — не згадзілася з мужчынамі Рагнеда. — І ніхто яго не знойдзе, ніхто не адкапае…

— Калі ляжаць, дык гэта яшчэ паўбяды, нехта цікаўны адкапае, — прадоўжыў тэму Янка. — Горш, калі той стол нехта пасек на дровы — каб ні вашым, ні нашым…

— Ёсць і такія герастраты. Шкада, што мы не ведаем іх імёнаў, — закругліў тэму дырэктар. — А цяпер падымемся на другі паверх.

Па вузкай рыпучай лесвіцы яны ўзняліся на другі паверх. Тут як быццам было крыху прастарней, але ўсё роўна экспанаты стаялі ці віселі ўпрытык адзін да аднаго. Было такое ўражанне, што не хапае паветра.

Дырэктар, як дырыжор з палачкаю, абвёў прастору перад сабою. Указкаю з арэхавага кійка, нават неабструганага, як для экзотыкі, і сказаў:

— Тут у нас сабраны прадметы быту і працы нашых людзей, што жылі на гэтай прасторы — у горадзе і вёсках навокал, тут прылады рамёстваў, разьбярства, ткацтва — усяго, што акружала нашага чалавека, што дапамагала яму жыць і працаваць. Хоць бы ўзяць гэты безадвальны плуг, які, як ні дзіўна, ёсць у Сібіры. А як ён туды пранікнуў? Няўжо з нашымі перасяленцамі? А вось бачыце барану? Гэтая старая сялянская прылада зроблена без адзінае жалезнае дэталі. Жалеза было, але яго трэба было шукаць недзе ў горадзе. Вось і рабілі без жалезных дэталяў, без якіх цяпер, здаецца, ну ніяк нельга абысціся… Ці ўзяць кросны, жорны — усё гэта нам вядома, з гэтым мы выраслі, былі не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі гэтага працэсу. Бачыце, кросны ў нас не стаяць, як запылены экспанат, яны, можна сказаць, жывыя, яны ў руху. Тут у нас ёсць адна старая жанчына, Лабажэвіч яе прозвішча, дык яна набрала сабе са школы групу дзяўчатак, і яны прыходзяць сюды, яна вучыць іх ткаць.

— Гэта вельмі пахвальна — як з яе боку, так і з вашага таксама, — падаў голас Янка. — Я сам гатоў запісацца ў такі гурток. Некалі матцы

і сёстрам дапамагаў: дошчачку варочаў, цэўкі сукаў, маткі матаў і размотваў, клубкі віў… Тут і сукала ёсць, цэўкі сукаць, некалькі чаўнакоў… Выдатна! З вашага дазволу…

Янка сеў на месца ткаллі невялічкі ўслончык, правёў рукамі па палатне ад сярэдзіны да краёў, як бы расцягваючы яго, як пругамі, якіх тут чамусьці не было, пакратаў набіліцы, прыстукнуў бёрдам па вутку, націснуў на адзін понаж — і зеў асновы адкрыўся шырэй, можна было запускаць у яго чаўнок з цэўкаю і ніткаю, потым мяняць понаж, зноў прыстукнуць набіліцамі — і пайшло б ткацца палатно.

— Мае сёстры ткалі вунь якія перабіранкі, а якія ручнікі, набожнікі! Нават шоўкам патыкалі, блакітным, бліскучым. Заглядзенне было. Але ўсё потым марна прапала, — сказаў ён сумна. — Прабачце, што я перабіў ваш працэс, — закончыў Янка і ўстаў.

— Нічога страшнага, гэта як вяртанне ў мінулае, супакоіў яго дырэктар. — Ткалі раней добра, вёска была ўся ў палатняным, што і казаць… Ды нават і сукно ткалі — на жакеткі, на буркі. Цяпер буркі — гэта абутак, пашыты з сукна. А тады наша бурка была падобная да каўказскай, толькі тая без рукавоў, не зашпільваецца, а толькі накідаецца на плечы, а наша з рукавамі, з башлыком, яе на кажух надзявалі, як ехалі зімою ў далёкую дарогу. Конь бяжыць, грэецца, а ты сядзіш у вазку ці ў санках, у валёнках, у кажусе, а наверх яшчэ і бурка — і табе хоць бы што, можна ехаць хоць паўдня — і не змерзнеш.

— У гэтым была свая рамантыка, — зазначыў Янка. — Цяпер другая: машына, цягнік, самалёт. Але ці стала ад гэтага чалавеку лягчэй?

— Мо не так лягчэй, як цікавей, — адказаў на гэта дырэктар.

— Толькі за такую вось цікавасць трэба дорага плаціць. Часам нават жыццём, — згадзіўся і не згадзіўся з ім Янка.

Спыніліся і доўга разглядалі разьбярскія работы самадзейнага майстра. Шкада, што іх не бачаць іншыя людзі, бо майстар быў незвычайны, яго ўсе фігуркі жылі і смяяліся, у іх паставах адчуваўся і бачыўся гумар: ці то былі людзі — бабкі-дзедкі, малыя дзеткі, ці звяры-звераняты, пачынаючы з мядзведзя і канчаючы вожыкам. А якія былі забаўныя свойскія жывёлы: конь, які задраў галаву і, аскаліўшы зубы, смяецца да ўпаду, карова, гатовая ўзяць на рогі злога сабаку; добры сабака, які, агарнуўшы лапамі ката, разлёгся на дыванку, а кот спіць сабе, скруціўшыся абаранкам, і нічога не баіцца, бо ў яго такая надзейная ахова.

Ці старыя замурзаныя жорны… Колькі з імі звязана ўспамінаў ваеннага часу! Яны нас кармілі, а мы іх не любілі, але ішлі да іх, жыць без іх не маглі, бо, як кажуць, самы смачны хлеб — жарнавы, асабліва калі ты сам круціў жорны і малоў муку на гэты хлеб. О, хлеб той быў смачны, ён нават сніўся ў галодных снах: чорны жарнавы хлеб.

Вось кавадла на тоўстай калодзе, ціхае, маўклівае, не звініць, не абсыпаецца іскрамі ад жалеза, адпачывае — на пенсіі. І рабацягі, малаткі і молаты, таксама маўчаць, не перазвоньваюцца, не падварваюць сякераў, не куюць нарогаў. Такое знаёмае, такое калісьці блізкае — і такое ўжо забытае начынне! Што ні кажы, Янка, а трэба часам акунацца ва ўсё гэта, як у жывую ваду, каб не забыць, хто ты і адкуль узяўся, адкуль пачаўся, што страціў, а што набыў…

Была на другім паверсе і невялікая зала з крэсламі, тут маглі адбывацца нейкія сустрэчы са знакамітымі людзьмі, адзначацца нейкія круглыя даты. На сценах віселі карціны мясцовых мастакоў, і, трэба сказаць, прафесія-

нальна выпісаныя: пейзажы, партрэты, знаёмыя і незнаёмыя куткі і мясціны, якіх так шмат навокал і якія так мала пакладзены на музыку — сказаў бы які музыка.

Урэшце спусціліся ўніз — вось яна наша сучаснасць, наш сённяшні дзень: перадавікі вытворчасці, героі сацыялістычнай працы, даяркі, трактарысты, камбайнеры. Тыя, хто нас корміць хлебам і поіць малаком. Нейк нават дзіўна робіцца, што ёсць яшчэ такія людзі, што яны не зваліся, і зямля яшчэ родзіць, бо ёсць яны — змораныя працаю, недаспаныя, паджарыстыя і зарослыя шчаціннем, у сваіх вечных гумовых ботах, у зашмальцаваных ватоўках зімою і летам, часам падпітыя, часам няетыя, — але яны ёсць яшчэ на нашай зямлі, мы можам там, у вялікіх гарадах, спаць спакойна: заўтра хлеб будзе. Калі сёння і няма, дык заўтра будзе — абавязкова! А ў вялікім горадзе некаму здаецца, што батоны растуць на дрэвах, як заморскія бананы! Няпраўда! Часцей прыязджайце ў вёску!

На фота перадавікі вытворчасці выглядалі салідна: паголеныя, гладкія, пад гальштукамі, выспаныя і дагледжаны, як і належыць выглядаць добрым людзям. Пэўна, яны, калі бачылі тут сябе, не верылі, што гэта яны — такая была вялікая розніца між тымі, якія яны былі тут на фота, і тымі, што ў жыцці: неба і зямля!

Не абышлі, не абмінулі яны ўрэшце і фота Шэўчыка, з якім вучылася Рагнеда, убачылі і Баркуна — вельмі падобнага да Янкі, толькі маладога, кучаравістага, а не амаль што аблыселага, як цяпер.

— А дзе вы ўзялі гэтае фота? — спыталася Рагнеда ў дырэктара, паказваючы на свайго Баркуна. — У мяне яго няма…

— Ды ўзялі ў яго сястры, — сказала маладая супрацоўніца. — Перазнялі і вярнулі.

— Несалідны ён тут нейкі, праўду кажу, — не адставала Рагнеда ад Янкавай фатаграфіі. — Трэба было б памяняць, калі можна…

Як Рагнедзе, а Янку было ну зусім нязвыкла бачыць сваё фота ў нейкім музеі побач з іншымі, ледзь не знакамітымі ў маштабах раёна, людзьмі, а хто ён быў тут для іх? Як адзін пісьменнік сказаў, калі яго назвалі вядомым, што ён вядомы толькі сваёй жонцы і яму самому, а наконт іншых — ён вельмі сумняваецца. Такое мог бы сказаць пра сябе і Янка.

— А я вам лепш раскажу з такое нагоды гістарычны анекдот. Недзе ў Рыме за часам Цэзара ці Нерона ідуць два знатныя патрыцыі ці сенатары і гавораць між сабою. Ніжэйшы па рангу кажа: вось мы тут ідзём па алеі знакамітых людзей Рыма, я гляджу, а твайго бюста не бачу. Навошта такая сціпласць? А той, вышэйшы рангам, гэтак з усмешкаю адказвае: ведаеш, лепей хай людзі пытаюцца, чаго яго тут няма, чым пыталіся б, а чаго ён тут апынуўся… І я так сказаў бы: лепш недабраць, чым перабраць, — закончыў Янка.

Анекдот быў да месца, і ўсе зарагаталі, нават сама Рагнеда. Але пасмяяліся, і дырэктар сказаў, што, калі яны хочуць, дык фота можна памяняць.

— А мо не варта мяняць? Тут жа я яшчэ малады, мо лепш буду падабацца дзяўчатам? Як ты, Рагнеда? — звярнуўся ён да жонкі. — Пакінь мяне такога, не рабі клопатаў сабе і людзям, — папрасіў Янка, і яна згадзілася — заставайся маладым.

— А цяпер, шаноўныя госці, просім запісаць у кніжку водгукаў свае ўражанні, думкі, пажаданні, — сказаў дырэктар да новых наведнікаў. — Ларыса, прынясіце кніжку. А вы сядайце вось тут пры стале і пішыце. Хто — выбірайце самі. — І ён усміхнуўся.

Натуральна, што Рагнеда адразу перадала кніжку Янку, а ён хітра адказаў: «Я пішу, а ты дыктуй», — на што Рагнеда паківала галавою і сказала: «Пішы-пішы, можа, ужо развучыўся?»

Янка быў тугадум, экспромты ў яго не выходзілі, ён задумаўся, «пацягаў» сябе за нос, нібы ў ім была ўся загвоздка, паплюскаў вачыма, як правяраючы іх рэзкасць, — і пачаў пісаць:

«Проста каюся, што да гэтага часу абыходзіў ваш прыгожы домік-музей, што мая жонка Рагнеда не прымусіла мяне зайсці сюды раней. Сёння мы ўрэшце зрабілі гэты крок і радыя, бо так шмат мы ўсяго тут пабачылі, што нам хопіць надоўга матэрыялу для прыемных успамінаў. Тут і наша сівая мінуўшчына, далёкая, глыбокая, таямнічая, калі нашы продкі хадзілі тут мо яшчэ ў звярыных скурах, хадзілі на паляванне і рабілі ўсё, каб на гэтай зямлі жылі людзі. Яны жылі — і дажылі да нашага часу: гэта мы з вамі, гэта тыя, хто засяляе наш гарадок, хто засяляе навакольныя вёскі. Крывічы-палачане-ліцвіны-беларусы — вось такі наш доўгі гістарычны шлях, так мянялася наша гісторыя і наша найменне, пра што мы не павінны забываць. Падзякуем сваім продкам за мужнасць, за працавітасць, за любоў да родных мясцін. Падзякуем тым, хто сёння вакол нас, хто хоча зрабіць наша жыццё прыгожым і шчаслівым. І шчыра дзякуем тым, хто стварыў гэты культурны асяродак, хто ўклаў у яго душу, ажывіў яго — і сёння ён ужо робіць вялікую важную справу — ён абуджае нацыянальную свядомасць нашых школьнікаў, нашай моладзі. Яны тут вучацца любіць свой край і ганарыцца яго здабыткамі і людзьмі, якія ўсё гэта стварылі. Ён вучыць іх быць беларусамі.

Новых Вам сіл, новых знаходак, новых адкрыццяў!»

Янка паставіў дату, падпісаўся, а потым даў падпісацца Рагнедзе.

— А цяпер прачытай уголас, мо я тут не тое напісаў, — папрасіў ён Рагнеду.

Яна ўзяла кнігу водгукаў, стала чытаць, часам з цяжкасцю разбірала некаторыя словы, і Янка ёй падказваў. Навокал ужо збіраліся наведнікі, яны таксама з цікавасцю слухалі. Калі Рагнеда скончыла чытаць, усе запляскалі ў ладкі, а Янка нават пачырванеў — не чакаў такое падзякі.

Дырэктар паціснуў рукі гасцям, запрашаў заходзіць часцей, і яны развіталіся, як лепшыя сябры.

Калі выйшлі на ганак, на свежае паветра, у Янкі ажно закруціла ў галаве: ён толькі цяпер адчуў, як стаміўся.

— Бачыш, якія мы? Як не былі, дык не былі, а як зайшлі — дык роўна на тры гадзіны, — сказала Рагнеда, глянуўшы на гадзіннік. — У мяне ажно разбалелася галава. І ты нейкі стомлены…

— Нічога, пройдзе. Стаміліся, хоць нічога не рабілі, — адказаў Янка. — Але цікава было пабыць, паглядзець, падумаць. А між іншым, ёсць над чым…

Яны ішлі ў горад якраз міма школы, у якую яны ўжо не хадзілі, яе пабудавалі пазней, а іх школа месцілася ля гістарычнага месца — ля вала, які быў некалі абарончым збудаваннем, — у будынку былога вайсковага шпіталю, узведзенага яшчэ да Першай сусветнай вайны.

— Кажаш, ёсць над чым падумаць, — загаварыла Рагнеда, як бы прадаўжаючы яго нясконччаную думку. — Я не хацела пытаць у Чарняка, дзе ён падзеў тую кніжку, якую яму перадала мая мама. Гэта быў летапіс горада, які рабіў адзін польскі настаўнік яшчэ да вайны разам з вучнямі. Была гэта тоўстая самаробная кніжка з вучнёўскіх сшыткаў. Не ведаю, як

яна трапіла да нас, але бацька перадаў мне яе на захаванне. Потым я аддала яе маме, як паехала ў Мінск вучыцца, а мама перадала Чарняку, дырэктару музея. Цяпер я бачу, што многія звесткі пра гісторыю горада ўзяты адтуль, але ніякіх спасылак на крыніцу няма. А ці можна замоўчваць такі факт? Хоць бы назвалі прозвішча таго польскага настаўніка. Як ты лічыш?

— Я згодзен з табою, прозвішча яго павінны ведаць усе, і фрагменты яго працы — а гэта ж праца! — павінны былі б таксама экспанавацца.

Так гаворачы, яны дайшлі да хлебнага магазіна, паглядзелі на вялікі збор народу, на доўгую чаргу, але хлеба яшчэ не было, і з'явіцца ён мо праз гадзіны дзве, так ім сказалі. Заняўшы чаргу і трохі пастаяўшы, яны вырашылі схадзіць на магілкі сваіх блізкіх: у Янкі тут ляжаў бацька, а ў Рагнеды — дзед і бабка.

Дзіўная рэч, што яго бацька апынуўся тут, на гарадскіх могілках! Апошнім часам бацькі жылі ў малодшай дачкі і зяця, якія купілі былі сабе невялікую хатку ў Прышчэпах, бліжэй да горада, дзе зяць працаваў шафёрам, а тую хату і будынкі, што былі ў Дабрынічах, перавезлі сюды на дровы. Бацька доўга хварэў, ляжаў у гарадской бальніцы, яго тут і пахавалі на гарадскіх могілках. А Рагнедзін бацька быў пахаваны ў Мінску, ён таксама ляжаў у бальніцы, там памёр і быў пахаваны далёка ад родных мясцінаў. Гэта цэлая гісторыя, якую Янка збольшага чуў ад Рагнеды. Такі вось лёс чалавечы: ведаеш, дзе нарадзіўся, дзе жыў, не ведаеш толькі, дзе цябе пахаваюць.

На могілках чалавека агортвае нейкае незвычайнае пачуццё, тут ты робішся нейкі сам не свой — нейкі як сувязны паміж светам жывых і светам нябожчыкаў, якія тут ляжаць пад магільнымі плітамі і абеліскамі і спяць вечным сном. А вось здаецца, што яны не спяць, што іх душы выйшлі на гэтыя помнікі, крыжы, абеліскі, што яны пазіраюць на іх, што сюды прыйшлі, нешта як бы хочуць сказаць, нешта параіць, аб нечым папярэдзіць, а мы, жывыя, не можам пачуць іх мову, бо яна недаступная нам, і мо ў гэтым наша бяда, што мы не можам скарыстаць іх парады і жывём так, як не трэба было б жыць, а неяк інакш, па нейкіх лепшых правілах і нормах, якія так і застаюцца невядомымі нам.

А каб мы маглі іх пачуць, улічыць іх парады, мы зрабілі б сваё жыццё і жыццё сваіх дзяцей нашмат-нашмат лепшым. Але мы глухія да іхніх слоў, таму яны, душы нашых продкаў, таксама не маюць спакою, бачачы нашы беды, нашы пакуты, нашы няшчасці, — усё тое, што перажылі яны самі, жывучы на гэтым свеце, такім неўладкаваным, такім няўтульным і жорсткім, які ўкараціў ім жыццё і скончыў яго ў цяжкіх пакутах. І ўсё гэта давядзецца перажыць нам, яшчэ жывым. Няўжо ў гэтым і ўвесь сэнс жыцця, і мо таму нам не дадзена ведаць таго, што нас чакае, бо, каб ведалі, яшчэ невядома, ці захацелі б мы жыць далей?

— А ці не здаецца табе, Рагнеда, што на гэтых могілках мы не адны? — спытаўся Янка ў жонкі, якая, як і ён сам, неяк нязвыкла сцішылася, перамянілася, нібы яе вочы бачылі адно, а думкі ляталі далёка, шукаючы адказу на таямніцы жыцця і смерці.

— Мы не адны, Янка, не адны, — сказала Рагнеда, нібы пацвярджаючы яго думкі-сумненні. — Тут побач з намі душы нашых продкаў. Вось твой бацька ляжыць пад гэтым абеліскам, а душа яго мо вось тут, побач з намі, і ён хоча нам нешта сказаць, а мы не чуем, і ён злуе на нас за гэта. Мо яму нават здаецца, што мы не чуем знарок, прыкідваемся, што нічога не чуем? Для таго, каб не браць на сябе лішні клопат за тое, што трэба

нешта перарабляць, памяняць, каб людзям жылося заўтра лепей, чым жывецца сёння?

— Ты ведаеш, нешта падобнае мроілася і мне, як мы ішлі ля гэтых абеліскаў, крыжоў, прыкладоў. Дзіўна, што мы падобна ўспрымаем свет — як гэты, так і той, якога мы не ведаем… — з роздумам сказаў Янка і дадаў: — Але ты бачыла, што на помніках трапляюцца надпісы па-беларуску? Ці не азначае гэта, што мы ўжо скідаем чужую адзежу з душы, робімся самі сабою?

— Я здзівілася, калі ўбачыла вось гэты помнік тваім бацькам на роднай мове. І што матка тут запісана, а яшчэ жыве. І парадавалася. А ў майго бацькі надпіс на помніку па-руску. Але тады яшчэ рана было гаварыць па-беларуску, вельмі рана — у год смерці тырана. Пад рыфму… Мой бацька перажыў яго на некалькі месяцаў, казаў, што гэта яго, бацькаў, трыумф, — закончыла яна сваю думку. — А цяпер сходзім да маіх — дзеда і бабкі, гэта тут, ля самай царквы.

І яны пайшлі, віляючы між магілаў і агароджаў, выбіраючы ледзь прыкметны пратоптаны след.

— Якія прозвішчы — усе нашы, чутыя і перачутыя з маленства, — гаварыў Янка, аглядаючы помнікі-абеліскі з крыжамі наверсе або ляжачыя, прыклады. — Чуеш, Рагнеда? Батура, Акуліч, Корбут, Патоцкі, Стальмаховіч, Кsměнановіч, Зялёнка, Кулік, Каспер, Буката, Кудзелька, Пястун, Панкратовіч, Новік, Гесь,. Бабыр… Для мяне гэта — як музыка арганаў…

Яны выйшлі да царквы з купалам-цыбулінай, пафарбаваным у салатавы колер, яна стаяла на самым узвышэнні, у цэнтры могілак, якія тут былі падзелены на дзве паловы — каталіцкую і праваслаўную. Гісторыкі кажуць, што царква была уніяцкая, нават арыянская, але потым, па далучэнні да Расейскай імперыі, яе зрабілі праваслаўнаю, і такая яна і да гэтага часу, хоць у самым горадзе, у цэнтры, стаіць яшчэ адна праваслаўная царква, таксама перароблена з каталіцкага касцёла. Невялікая царква на могілках фактычна была капліцай, у якой ляжалі нябожчыкі перад пахаваннем, тут за іх маліліся, плакалі, адпявалі і рыхтавалі ў апошнюю дарогу.

Не раз і не два Янку даводзілася быць тут, яшчэ нават хлапчуком перад вайною, калі ён з такімі ж хлапчукамі хадзіў сюды пад усяночную — на Вялікдзень, свянціць фарбаванкі. Ён памятае, што ў той год каталіцкі Велькаnац і праваслаўны Вялікдзень супалі, і яны, падшыванцы, бегалі то ў адну царкву, то ў другую, то ў касцёл, які стаяў на ўездзе ў горад з паўночнага захаду, яго потым, пасля вайны, разабралі на цэглу.

Тады было, ды і цяпер ёсць змяшанне паняццяў: каталіцкая вера — польская, праваслаўная — руская. Так і лічылі тады, ды і цяпер: ты каталік — значыць, паляк: ты праваслаўны, значыць, рускі, забываючы пра тое, што католікам у Вялікім княстве Літоўскім, цяперашняй Беларусі, мог быць і ліцвін, сённяшні беларус, а калі ён праваслаўны, то ніякі ён не рускі, а той жа беларус, а раней — ліцвін. Бо тады такога перасялення людзей, як цяпер, не было: кожны трымаўся свайго гнязда, свайго наседжанага месца. І толькі вялікія войны, канфлікты значных маштабаў зрывалі людзей са свае зямлі і гналі іх у свет, але не па сваёй волі: у палон да татараў, у палон да расейцаў. У палон да палякаў ліцвіны, сённяшнія беларусы, трапіць ніяк не маглі — на той час яны былі саюзнікамі, мелі агульную дзяржаву — Рэч Паспалітую, і карысталіся роўнымі правамі: мелі ўласнае войска, мелі свае грошы: у Кароны, Польшчы — злоты, у Вялікім княстве Літоўскім — талер.

Але стары міф, што каталік — гэты паляк, а праваслаўны — рускі, жыве і дагэтуль і яму, як ні дзіўна, не даюць памерці, бо ён яшчэ патрэбны, каб падзяліць беларусаў на дзве палавіны і пасварыць іх. Каму гэта патрэбна?

Нарэшце яны прыйшлі на месца, дзе былі пахаваны Рагнедзіны продкі, спыніліся, агледзеліся.

— Дзеда Жаркоўскага Паўла бачу, а дзе бабка Мар'я? — спытаўся Янка ў прыціхлай Рагнеды.

Ён разглядаў помнік-абеліск у форме камля дрэва з адпілаванымі сукамі, як некалі любілі ставіць такія помнікі багатыя людзі, дзе было месца для таблічкі, на якой напісана пацямнелымі літарамі прозвішча, імя і імя па бацьку нябожчыка, дата яго смерці і колькі ён меў гадоў: калі нарадзіўся — лёгка падлічыць.

— А бабка вось тут — мы стаім на яе магілцы, — сказала Рагнеда сумна. — Бачыш, яна пахавана пры самай сцежцы, мо тады яе зусім і не было. Яна памерла нашмат гадоў пазней за дзеда, яму ўжо стаяў помнік. А бабка вось так за гэтымі войнамі, за розныміператрусамі засталася беднаю сіратою — без помніка, без агароджы. І я не буду мець спакою, пакуль не прывяду яе магілку да ладу. І цябе прашу: ты мне памажы, адна я не спраўлюся.

Янка не чакаў такога павароту падзей і быў не тое што расчараваны пачутым, а падумаў, што спакою ў гэтым жыцці яму не будзе і далей. Вось яшчэ адзін непрадбачаны клопат. Патрэбны будуць выдаткі… Нібы адказваючы на свае невясёлыя думкі, ён сказаў:

— Добра, што ў твае бабулі Мар'і такая залатая ўнучка. Мо толькі яна адна зробіць тое, чаго не зрабілі яе дзеці, якіх было, здаецца, шасцёра, і шматлікія ўнукі, якія разляцеліся па ўсім свеце. А я табе буду дапамагаць, вось пабачыш.

— Запомні, мы гаворым на бабчынай магіле, душа яе чуе — і будзе чакаць, калі нашы словы спраўдзяцца. І яна будзе ўдзячная нам, і я тады толькі супакоюся, мой ты Яначка. Будзем разам старацца, я табе веру.

— Дзякую за давер, — адказаў Янка. — Але ці не пара нам ісці? Мо там разабралі ўвесь хлеб?

— Але-але, думай пра душу, але і пра хлеб не забывайся. І наадварот. Такое наша жыццё. — Рагнеда перахрысцілася перад магіламі сваіх продкаў, і яны пайшлі — міма царквы, уніз па камяністай, размытай дажджамі сцяжынцы, да выхаду.

Вароны, галкі, гракі ўжо выбіралі сабе месца начлег, шукалі лепшага, гарланілі, пералятаючы з аднае таполі на другую. Ім тут было добра і зацішна, яны гняздзіліся ўжо, напэўна, некалькі стагоддзяў, як тут паявіліся магілы і выраслі дрэвы. Птушкі ішлі за чалавекам, праводзілі яго ў апошні шлях, нават вартавалі месца яго вечнага спачыну.

Падышоўшы да хлебнае крамы, яны ўбачылі, што чарга мала паменшала, але прадаўцы сказалі, каб людзі больш не станавіліся ў чаргу, хлеб ужо канчаецца.

Давялося ісці дадому з пустымі рукамі.

— Ну, сёння мы пастараліся, мама нам не даруе, — сказала Рагнеда.

Так яно і атрымалася: маці сустрэла іх на ганку, пахмурная.

— Я тут чакаю вашага хлеба, ажно вы ні з чым. Малайцы, хвалю, стараецеся…

— Мама, не хвалі, мы стараліся, але нічога не выйшла. Шмат было народа.

— За гэты час можна было ў Нясвіж з'ездзіць і купіць, а вы там стаялі невядома чаго, — не згадзілася маці.

— Мы адразу хадзілі ў музей, даўно збіраліся. А потым былі на могілках, — тлумачыла Рагнеда. — Занялі чаргу і пайшлі.

— Ну няхай у музей, а чаго яшчэ і на могілкі? — здзівілася маці.

— Як чаго? У нас там святыя магілы. У Янкі — яго бацькі, а ў мяне — дзеда і бабкі Мар'і, бацькоў майго бацькі. Хацела б я, каб ты, мамка, там пабыла і пабачыла, як па бабулінай магілцы ходзяць людзі — у прамым сэнсе. Магілка з аднаго боку зарасла травою, пустазеллем, а з другога ўтаптаная, і ніякага следу, бо няма помніка, агароджы. Колькі часу прайшло! — успляснула рукамі Рагнеда. — А ніхто не падумаў паставіць ёй помнік. І бацька жывы быў, і ты, мама, і мы, твае дочкі і зяці — і нічога не зроблена дагэтуль. Проста грэх і сорам!

— Каму сорам, каму грэх? Мне? За што я пастаўлю той помнік? За сваю пенсію? — ужо выходзіла з раўнавагі маці, твар яе рабіўся халодны.

— Не за пенсію, мамачка! Праз год у цябе родзіць сад, можна было сабраць на помнік, каб ты хацела. Але ты беднай палкоўнічысе даеш апошнія свае зберажэнні, сваёй дачушцы Альбіне. Вось прыедуць на машыне, нагрузяцца і паедуць. І што ім да таго, што яны бяруць з саду іх дзядоў?

Пры ўпамінанні Альбіны маці проста перамянілася ў твары, вусны ажно скрывіла сударга, а вочы акругліліся.

— Ты мне не ўказвай, як жыць, што рабіць і каго любіць, — сказала яна сярдзіта. — Хочаш жыць спакойна, дык жыві, а не падабаецца табе тут у мяне — скацеркай дарога. Жыла без вас дагэтуль — пражыву і далей. Бачыш, я помніка не паставіла сваёй свекрыві! А чаму я павінна ставіць? За якія заслугі? — працягнула яна рукі да Рагнеды, нібы просячы літасці.

— За якія? А хоць бы за тыя, што ты тут ужо жывеш у яе хаце — колькі ж гэта? Больш як сорак гадоў! Падумай толькі! І ты лічыш, што яна не заслужыла сабе помніка ад цябе, нейкай там агароджы, хоць бы самае таннае? Калі ты так лічыш, то я не ведаю, што і казаць, — ужо загарэлася Рагнеда, яе панесла ўжо. — І хата гэтая такая ж твая, як і мая…

— Ну навошта такія эмоцыі, гучныя словы? — урэшце ўмяшаўся Янка. — Не трэба абразаў, я вас прашу. Пра ўсё можна гаварыць спакойна і дайсці да згоды. А так мы можам давесці сябе да інфаркту, не дай Бог. Я вас прашу — і вас, мама, і цябе, Рагнеда: не трэба перабольшваць праблемы, яна ёсць, але не такая ўжо вялікая, каб мы яе спакойна не вырашылі.

Янка разумеў, што спрэчка можа перарасці ў сварку паміж маткаю і дачкою, бо ён ужо трохі ведаў іх натуры: маткі, па расказах Рагнеды, а самой Рагнеды — па сумесным, хоць яшчэ і нядоўгім жыцці. Яны абедзве вельмі катэгарычныя, гарачыя і крыўдлівыя, іх можна ўгнявіць не так сказаным словам, таму ён рашыў перахапіць ініцыятыву:

— Рагнеда, ты дарэмна спяшаешся з помнікам, трэба абгаварыць гэтае пытанне спакойна. Маму нам не трэба турбаваць, у яе хапае і сваіх клопатаў, а мы павінны параіцца з Рагаткінымі, і я лічу, што яны не адмовяцца на нейкія там расходы, бо гэта і іх святы абавязак.

Маці прамаўчала, а Рагнеда не ўтрымалася, каб не кінуць некалькі камянёў у агарод свае сястры Альбіны.

— Ой, не ведаю, ці Альбіна пойдзе на такую ахвяру. Ёй усё нечага не хапае, яна думае толькі, каб накарміць-напаіць сваю сям'ю, а там — хоць трава не расці. Што ёй да помніка бабе Мар'і — ці ён ёсць, ці яго няма.

Цяпер ужо маці не магла стрымацца, каб не абараніць малодшую дачку. Яна ўскіпела, з-пад ілба глянула на Рагнеду.

— Не падлічвай чужыя грошы, дачушка, гэта неэтычна. Ніхто не вінаваты, што ў цябе іх менш, як у іх. У каго варыць лепш галава, той больш і мае. А табе я памагала не менш, чым ёй, табе я і дзяцей пагадавала, бо табе ўсё не было калі, ты ўсё на рабоце прападала, а што ты вельмі мела з тае медсястрынскае зарплаты? Я не пярэчу, помнік трэба паставіць, але ў мяне лішніх грошай няма, хай яна мне даруе, мая свякроў.

— Ой, мама, не будзем падлічваць, каму ты больш гадавала дзяцей — мне ці Альбіне, дзякуй табе за гэта, але таго, што я перажыла, Альбіне і не снілася. А яна мне нават у малым не памагала, нават у дробязях. Памятаю, яны пераехалі з Цюмені ў Мінск, пакуль знайшлі кватэру, жылі ў мяне. Аднойчы Альбіна купіла сетку бананаў, стала карміць сваіх дачушак, а маім хлопцам нават па банане не дала. А потым пасярод ночы будзіць мяне: ратуй, у дзяцей жываты баляць, яны ванітуюць, ты ж медык… Знайшла я ў сябе фталазол, яшчэ нешта, дала дзецям, супакоіліся яны… А туфлі? Ты купіла мне туфлі на дзень нараджэння, яны аказаліся цесныя, я хацела іх прадаць ці памяняць, а Альбіна забрала — і мне хвігу, ёй падышлі…

— Гавары што хочаш, але табе да Альбіны далёка. Ты ўвесь час хочаш яе ачарніць, а ты б лепей у яе жыць павучылася. Яна жыве на адну мужаву зарплату і сям'ю з чатырох душ корміць і апранае. І ў яе хапае. А ў цябе і таго няма, і гэтага, заўсёды я павінна табе дапамагаць, — не стрымалася маці.

— Яна жыве на адну палкоўніцкую зарплату, ды яшчэ на тваю гаспадарку, на тваю пенсію — і ёй усё яшчэ мала. І ты верыш, што яна бяднейшая за мяне, што ёй трэба даць бульбы, яблык, агародніны, каб хаця яны не галадалі? — пыталася Рагнеда.

— Я не гэтулькі магу расказаць пра цябе, але не буду пры Янку, бо сорамна стане і табе, і яму. Яшчэ раз кажу: не вучы мяне жыць, я ўжо вучаная, глядзі, каб сама ў дурнях не засталася. Чаго ў цябе першы муж піў? Ты забылася? Глядзі, каб і другі не пайшоў па яго слядах, не ў крыўду Янку будзе сказана.

Яна завярнулася і пайшла ў хату, пакінуўшы іх адных.

Янка і Рагнеда яшчэ пастаялі на ганку, не ведаючы, куды кіравацца, ды рашылі, што сказанага даволі, каб зрабіць для сябе пэўныя высновы.

— Будзем лічыць, што гутарка павінна мець нейкі пазітыўны зрух. Хоць яна і не была надта прыемнаю для абодвух бакоў. Як ты лічыш, Рагнеда? — звярнуўся Янка да жонкі.

— Праўда не заўсёды прыемная рэч, яна вочы коле, — адказала Рагнеда. — Але без яе, як без паветра, нельга жыць. Яна патрэбна.

На гэтым яны і скончылі доўгую размову.

***Працяг будзе.***



*ПАЭЗІЯ*



## Генадзь ПАШКОЎ

* * *

Ты мудры,
Стваральнік!
Дзіўлюся прыродай.
Пасля залюцелай
зімовай пары
ударыў Пярун вогнебароды,
і трэск, і раскаты
пайшлі па бары!

А сціхла, —
званы ажылі ў акалотках.
Туман заклубіўся
па майскай траве.
Гляджу:
з-пад абрыву
выплыла лодка
і па вірынах кудысьці плыве.

А можа, сам лёс,
апавіты туманам,
мне шлях пракладае
закуткам лясным?
Іначай, чаму,
бесперастанна
любуюся гукам і пахам вясны?

Жадаю,
сагрэты ёй,
добрыя людзі,
у новым стагоддзі,
на грознай мяжы:
— Мір дому і душам!
І гэтак хай будзе,
як сёння ў лагоднай
вясновай цішы.

* * *

Празвінеў камар на вуха:
Пара венікі вязаць!

---

***Пашкоў Генадзь Пятровіч*** *нарадзіўся 23 сакавіка 1948 года ў вёсцы Ліпавічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1971). Працаваў на Беларускім радыё, у часопісах «Полымя» і «Тэатральная Беларусь», быў галоўным рэдактарам «Цэнтральнай газеты». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Кляновік», «Дыстанцыя небяспекі», «Гравюры дарог», «Зямлю слухаю», «Маналог на кастрышчы», «Крокі», «Люблю, спадзяюся, жыву», «Пціч», «Журавінавы востраў», «Зорнае поле», вершаванай кнігі для дзяцей «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» і інш., кніг нарысаў «Будзень як свята», «Палескія вандроўнікі». Пераклаў кнігу рускага паэта Юрыя Воранава «Масты памяці».*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1998).*

Сухавейным
горкім духам
ажно выпетрала гаць.

Ды, зняверaны,
у скрусе,
згаладалы балазе,
на карчы
звуглелы бусел
на адной стаіць назе.

А над поймай
сонна-млявай
прасіпеў сасмаглы свіст.
І бярозавы,
духмяны
да рукі прыліпнуў ліст.

У бярэзнікавым сквары
акурат і паспытаць,
як у лазні,
яе жары,
будзеш енчыць
і канаць!

## НА ЗЯМЛІ ПІСЬМЕННІКА САУЛІЧА

Расхінаю полаг
смалянога бору
на зазыўны голас
злога камара.
Скрозь каля Глыбокага —
глыбіня азёрная.
За яе глыбейшай,
пэўна што, няма.

А павее вецер,
узаўецца ка́ня.
І ў дугу вудзільны
выгнуць чараты.
Можа, гэта сонца ў завадзі люстранай?
Мо карась на лёсцы б’ецца залаты?

Паглядзі навокал —
прыгажосць і сіла!
Рэкі і азёры,
вёскі —
як гучаць! —
Мнюта...
Пліса...

Свіла...
Свіліца...
Падсвілле...
Музыка жывая —
Лепш не перадаць!

Глыбачанін,
вогнішчам ля вады азораны,
з лёгкаю усмешкай сёння недарма:
скрозь такія людзі,
вёскі і азёры!
І глыбей глыбінкі анідзе няма!..

## ЖОЎТАЕ МОРА

Іду сустракаць прыліў
аголеным дном марскім.
Ляжаць на баку караблі.
Сняцца прыбоі ім.

А на спякоце паўдня
у лужынах, на каленях,
як жоўтыя крабы, дзятва
поўзае
у захапленні.

У дымцы вільготнай
здалёк
гара вырастае сцяною.
Ці маніць уражлівы зрок?
Ці нешта пачварнае, злое?

— Глядзіце!.. Глядзіце!..
Ідзе!
Вяртаецца наша мора!
І бераг знямог па вадзе:
прыкрыць бы аголены сорам!

Гара ўсё бліжэй і бліжэй.
Паперадзе —
хвалькі-разведчыцы.
А раптам не ўберажэ
круг ратавальны?
Свеціцца
жаўтлявым адлівам гара.
Навісла.
Ракоча.
Паруе.
З першаю хваляй
пара —
на бераг,
пакуль не бушуе,
бо ўжо ўзварухнула муць
іржавыя груды лому.
І шхуны са дна
устаюць,
і ажываюць паромы.

...Прылівы... Адлівы...
Жыцця
грымяць механізмы адвеку
Сусвету ўсяго.
Як працяг
яны — у малым чалавеку.

* * *

На жыццё спазніліся з табой.
Толькі лепей позна, чым ніколі.
Побач мы. І сведчыць лістабой —
нас малюе фарбамі на волі.

І душу запаланіла штось.
І рака не страшная без кладкі.
Я цябе прыняў такой, як ёсць,

Ты мяне —
таксама без аглядкі.

Поўню нам запаліць далячынь,
закалыша шапатлівым гаем.
Мілая!
Мы сёння
уначы
песню і складзём,
і праспяваем.

* * *

За табою — дарога.
І за мною — шляхі.
Спадзяёмся на Бога,
хоць і маем грахі.

І, за іх не караючы,
бо вініцца дарма,
я вязу цябе ў далечы,
дзе знаёмых няма.

За дрымотнаю пушчаю,
ля азёрнай вады,
мы дагонім,
што ўпушчана
у былыя гады.

Будзе сонца і цемень.
Будзе — наадварот.
Пражывём і за дзень мы,
што калісьці — за год.

* * *

Дай руку!
Смялей ідзі за мною
у завею сонца і лісця
звераю і чыстай, і святою,
з маладою прагаю жыцця.

І вятры,
і лёгкія аблокі,
і пагорак, ад лісця руды,
і твой светлы,
залацісты локан,
як туману пасак ля вады;
і ў зацішку
сцішаныя хаты
пад галлём раскідзістым
бяроз —

гэта тое,
чым з табой багаты я,
гэта тое,
што даруе лёс.

І кажу я
з âераю святою,
з маладою прагаю жыцця:
– Дай руку!
Смялей ідзі за мною
у завею сонца і лісця!

## УТРАПЕННЕ

Смаляны —
ва ўсю шыр —
акалот
хор стазвонны навёў і наладзіў.
Калыхнуўся шапоткі чарот,
што крыло на падсіненай гладзі.

Дух чарніцаў,
гаркавы на смак,
будзем піць мы з табой да спатолі.
— Я люблю цябе, мілая, так,
не любіў як нікога,
ніколі...

Гэты спеў,
гэты бор,
гэты час —
наша радасць,
ад шчасця нямая,
захліснула
і кінула нас
у абсяг,
што граніцаў не мае!..

* * *

Бусел адкруціў у небе кола.
І прыціх, і затаіўся дол.
Горача так пахнуць перамолам
і зямля, і ветры навакол!

Шырыню,
развергнутыя далі
скрозь слязу гаручую акінь:
як паўнюткі крышталёвы шкалік, —
чыстая, празвоненая сінь!

Мы з табою
з перабытым, з жыццямі
выйшлі ў поле лёсу напаказ.
Вяжуць, вяжуць залатымі ніцямі
павучынкі цененькія нас.

Так і ёсць!
Нішто ў жыцці не вечнае,
Ранкам — лета,
вечарам — мароз.
Вунь ляціць і падае на плечы
ліст згарэлы
з маладых бяроз.

Не гадай, не думай, што шчаслівыя,
а паслухай далечы спярша.
Чуеш, як, асветленая ніваю,
у душу ўліваецца душа?..

## РЭХА СВІТАЛЬНАЕ

Так імгненна праходзіць,
мінаецца час,
і апалым лістом
завяршаецца восень.
І прыходзіць пара,
і ўглядаецца ў нас
на згарэлым лісці
стылавокая просінь.

Не пра лёс,
не пра ўласны,
гаворку вяду.
Што казаць пра яго,
калі лёс чалавечы,
ён — па шляху адным:
я прыйшоў — адыду.
Так з часовым усім,
што працягвае вечнасць.

Чую рэха на сцежцы
у сонным бары,
як зарою разліўся
па верасе ранак, —
быццам трубы з латуні
высока ўгары
загулі, затрубілі
грудзямі арганаў.

Паплыла гэта вешчая музыка
скрозь:
над прыціхлай зямлёй,
над пажухлым абшарам.
Вочы ўскінь утрапёна
з-пад шатаў,
і вось
журавы паплылі,
рассякаючы хмары.

Нада мной, шэракрылыя,
цяжка лятуць,
вывяраючы карту
па выстылых зорах.
Пэўна ж, ім
развітальна іграе латунь
пад нябесным скляпеннем
адвечнага бору.



Мікола ДУБОЎСКІ

# МЯДОВАЧКА

## *Аповесць*

### 1

— Косця! Досыць спаць! — маці раскатурхвала сына. — Сонца ў покуць глядзіць. Тата Маліну да бычка ў Хамічы павёў. Мядовачка сваю Лысуху даўно пасе. Уставай, сынок.

Косця, семнаццацігадовы юнак, незадаволена буркаў, нацягваў на галаву коўдру.

— Уставай! Вернецца тата — Ядзю падыму, — не адступала маці. — Вунь Вантробаў на досвітку на ровары ў Лютаўку, як звар'яцелы, паляцеў, аж тая вінтоўка, што немцы далі, за плячыма тузалася, быццам жывая.

Косця зусім ачухаўся ад сну, калі апынуўся пад павеццем, дзе трэба было касою рэзаць аўсяную салому парсюку.

Плыў ціхі ранак. На жыце, якое вось-вось закрасуе, залацілася раса. Пяшчотнае сонца вісела над Хамічамі, лашчыла твар. Хлопец скінуў адтуль саломы і прынёс пад павецце, але секчы не стаў — вельмі захацелася паглядзець на Марысю, сваю аднагодку. За рудаватыя, залацістыя, як мёд, валасы хамічоўцы і празвалі яе Мядовачкай. Яшчэ ў маленстве чуў, што Марыся — дачка не Лявона Пазняка,а крамара Іцкі, у лаўцы якога за польскім часам Марысіна маці мыла падлогу. Плёткі забыліся, а мянушка засталася. Спачатку Марысю называлі Жыдовачкай, а пасля за дабрыню і прыгажосць — Мядовачкай. Вясною, калі пачалі выганяць кароў на ранкі, Косця як упершыню ўбачыў Марысю — яго ўразіў дзявочы тварык, а больш галасок, такі шчыры і вабны. З таго дня, што б ні рабіў, толькі і думаў пра яе. Неяк з захапленнем пераказаў Марысі толькі што прачытаную аповесць Івана Тургенева «Вешние воды». Пастушка была так уража-

---

***Дубоўскі Мікалай Аляксандравіч** нарадзіўся 17 студзеня 1933 года ў вёсцы Самойлавічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна (1956). Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Барадзініцкай СШ Браслаўскага раёна і Тэльмаўскай СШ Брэсцкага раёна. Працаваў у брэсцкай абласной газеце «Заря», а пераехаўшы ў Мінск, — у «Чырвонай змене» і «Настаўніцкай газеце», у рэспубліканскім «Белсаюздруку», у часопісе «Першацвет».
Аўтар кнігі прозы «Шапэн», друкаваўся ў шэрагу калектыўных зборнікаў.*

на, што не ўстрымалася і пацалавала юнака. Некалькі дзён Косця хадзіў як апантаны — на шчацэ гарэў дотык дзявочых вуснаў.

Марыся ў стракатай спадніччы хадзіла басанож па поплаве, памахвала дубчыкам, назірала, як карова скубе канюшыну. Убачыла Косцю і памахала рукою. Ён гэтак жа адказаў і задаволены вярнуўся пад павецце. Каса, накляпаная бацькам, была вострая, і сечка густа сыпалася ў падстаўлены цэбар. У гэты час Марыся заспявала.

«Упраўлюся з сечкай, схаджу да яе», — Косця шпарчэй зацюкаў касою. Саломы не хапіла, каб напоўніць цэбар. Косця намерыўся ісці яшчэ набраць, але раптам песня дзяўчыны абарвалася. Косця ўстрывожыўся і пашыбаваў да канавы, што межавала з поплавам, глянуў на жыта. Раптам адтуль пачуўся трэск жытнёвых сцёблаў, чыйсьці цяжкі дых і здаўленыя воклічы. Сэрца ў хлопца закалацілася. Праз крокаў дваццаць ледзь не ўпаў — нага зачапілася за пасак нямецкага аўтамата. Побач валяўся яшчэ адзін. Нарэшце за некалькі метраў ад сябе ўбачыў, як Марыся з усяе сілы адбівалася ад двух мажных мужыкоў, апранутых у форму чырвонаармейцаў. Адзін заганяў ёй у рот кляп — брудную пілотку, другі раскрыжаваў рукі і прыціснуў іх да зямлі.

«Рукі ўгору, гады!» — Косця нацэліў аўтамат на гвалтаўнікоў. Тыя, як ашпараныя кіпенем, адхіснуліся ад пастушкі і ўзнялі рукі.

— Наперад! — загадаў Косця. На поплаве, калі выйшлі з жыта, ён пазнаў гвалтаўнікоў. «Гэта ж тыя ваеннапалонныя, што зімавалі ў Самойлавічах, у Мар'яны Прымаковай. Муж Мар'яны не вярнуўся з польска-нямецкай вайны, і немцы аддалі палонных, каб дапамагалі па гаспадарцы».

— Прама, вунь у той двор! — Косця паказаў руляй аўтамата на сваю хату. Другі аўтамат вісеў у яго на плячы.

Косця спешна гнаў гвалтаўнікоў на свой двор і, як толькі ступіў на яго, голасна закрычаў:

— Мама, хутчэй сюды!

На сынаў голас з хаты выскачыла маці і ад убачанага ледзь не абамлела:

— Сыночку! Не кліч бяду — аддай зброю і хай ідуць, куды ім трэба.

— Адамкні склеп, мама! Гэтыя сволачы згвалцілі Марысю.

Бачачы, як узрушаны сын, маці пайшла назад у хату і хутка вярнулася з ключом.

— Марш у склеп! — Косця ўзмахнуў аўтаматам. Арыштаваныя пакорліва падпарадкаваліся. «Канваір» зачыніў за імі моцныя дубовыя дзверы, замкнуў і паклаў ключ у кішэню. Потым падняўся па прыступках са склепа, кінуў аўтаматы і зняможана паваліўся на зямлю.

— Сволачы, гады! Што зрабілі! — Ён енчыў і драў пазногцямі стаптаную зямлю. Маці ўкленчыла каля яго, і таксама плакала. Так доўжылася, аж пакуль не вярнуўся бацька. Убачыў аўтаматы і намерыўся закінуць іх у бульбу, але Косця імгненна ўсхапіўся на ногі:

— Не дам!

— Ты што, здурэў? — у бацькі ад злосці заблішчэлі вочы.

— Чакай, Хама, разбярыся. Бяда прыйшла да нас, — маці стала паміж мужам і сынам і, плачучы, пачала расказваць пра тое, што здарылася. Плач і крык у слепе пачулі «арыштаваныя» і моцна загрукалі ў замкнутыя дзверы.

— Хутчэй выпусціце нас, не рабіце сабе горш. Мы — партызаны, разведчыкі. Нас будуць шукаць і абавязкова знойдуць. Камандзір не даруе вам — усіх расстраляе.

— Зараз жа выпусці, — Хама закрычаў на сына, падскочыў да яго, абмацаў кішэні і выхапіў ключ.

— Выпусціш — і ў цябе не будзе сына, — Косця падняў з зямлі аўтамат і прыставіў рулю сабе да горла.

— Хама, апомніся! — жонка ўкленчыла мерад мужам. — Ці ж ты не бачыш? Ён загубіць сябе, бо да бяспамяцця кахае Мядовачку.

— Сапляк! — бацька з усяе сілы смалянуў сына па шчацэ. — Яны праўду кажуць. Іхнія прыйдуць сюды і ўсіх нас паб'юць. А то Вантробаў апярэдзіць, прывядзе немцаў... Што тады?

У склепе зноў пачалі патрабаваць волі. Але Косця не кранаўся з месца. Хама нейкія хвіліны вагаўся — не ведаў, як быць, а потым сказаў:

— Хай будзе па-твойму. Смерць дык смерць. — На бацькавы вочы наплылі слёзы.

Косця да вечара сядзеў каля склепа. Маці вярнулася ў хату і без прычыны перастаўляла гаршкі на прыпечку. Малая Ядзя не разумела, што адбываецца. Хама сноўдаў па гумне, як бы шукаў работу.

## 2

На змярканні маці з міскаю паранай бульбы і акрайцам хлеба падышла да Косці:

— Сынок, іх трэба пакарміць. Адамкні...

— Не! Яны — не людзі, мама.

— Ты тут будзеш усю ноч?

— Ні на крок не адыду.

— А заўтра што?

Хлопец зацята маўчаў, хоць па твары каціліся слёзы. Гаспадыня пастаяла на месцы, потым усхліпнула і пайшла ў хату. На двары зусім сцямнела, але гаспадары не запальвалі святла. Ядзя залезла на печ і сядзела там цішком. Маўчалі і бацькі. У сенях нехта зашкрабаў — шукаў клямку. Дзверы адчыніліся, і гаспадары пазналі яўрэя Нёму. Усіх ягоных суродзічаў у мінулую восень немцы сагналі ў гета. Нёма меў ад немцаў пропуск, бо працаваў інжынерам на электроўні і мог хадзіць па вёсках, каб разжыцца харчам.

— Ці ёсць тут хто? — госць пераступіў парог.

— Праходзь, Нёмка! — усхліпнула гаспадыня. — Бяда ў нас.

Яна расказала, што адбылося. Інжынер уважліва выслухаў гаспадыню, нейкі час маўчаў, потым раптам ажывіўся:

— Хама, ты ведаеш, дзе грэбля на Казакаў Груд, ну, той востраў сярод багны?

— І што? — не зразумеў гаспадар.

— Косцю і Марысю трэба туды — там іх не знойдуць. У тую вайну казакі прасядзелі на востраве аж да рэвалюцыі. Зямлянка яшчэ цэлая, не завалілася. Не марудзь, паспяшай да Пазняка і гэтай жа ноччу вядзіце дзяцей. Я прыхаваў бы іх у сябе, але адчуваю, што мяне з электроўні забяруць.

— Як — забяруць? У цябе ж ад немцаў і паперка ёсць?

— Хутка ўсіх нас туды, на неба... — жаласліва вымавіў Нёма.

— Барані Бог! Што ты гаворыш? — усклікнула гаспадыня.

— Я чуў, як немцы гаварылі пра знішчэнне гета ў Пружанах, Кобрыне. І наша чарга прыходзіць. — Госць стаў укладваць у торбу хлеб і бульбу, якія падрыхтавала гаспадыня.

— Ты вось нам параду даў, а сам не ўцякаеш. Пакуль яшчэ магчыма, давай на Пабежыну да маёй цёткі. Я дапамагу, — захваляваўся Хама.

— Як жа я кіну бацьку — другі год з ложка не ўстае? — Нёма закінуў за плечы хатуль, развітаўся і пайшоў. Хама з жонкаю доўга абмяркоўваў Нёміну параду і ў рэшце рэшт вырашыў:

— Іншага ратунку няма. Збегаю да Пазняка па Марысю і пойдзем на выспу, вярнуся — гэтых паганю, як гнаў Косця, да іхняга камандзіра. Мо не застрэліць — зразумее, калі чалавек. Аўтаматы закінем на вышкі.

Апоўначы Хама Матузкоў з Косцем і Марысяй пакіравалі на Казакаў Груд. Ноч выдалася цёмная — збіраўся дождж. Хама не спяшаўся, ледзь не вобмацкам вёў дзяцей глухімі сцежкамі. Да багны, з якой пачынаўся груд, прыйшлі перад світанкам. У лесе на розныя галасы заліваліся спевамі птушкі. Матузкоў загадаў дзецям прысесці адпачнуць, а сам паходжваў па ўскрайку багністага балота, дзе густа ўзняўся аер-плісняк, высіўся чарот. Нявопытнаму воку здавалася, што тут няма ніякай твані, так, трохі чорнай неглыбокай мулі. Але Хама добра ведаў, што гэта падман, ступіш не туды — засмокча з галавою. На выспу толькі адна дарога — калісьці вымашчаная дубовымі круглякамі грэбля, якая з часам знікла з паверхні. Пасля агляду балота Матузкоў высек доўгія бярозавыя жэрдкі, аддаў дзецям.

— Будзем шукаць грэблю, — Хама апусціў жардзіну ў багну ў адным, другім, трэцім месцы і толькі дзесьці на дзесятай спробе абрадавана прамовіў:

— Кажысь, яна!

Стары зняў порткі, накінуў сабе на плечы і ступіў у балота. За ім асцярожна рушылі Косця і Марыся. Пераход быў цяжкі і рызыкоўны. Месцамі муля даставала да паясніцы, густая і ліпкая, моцна трымала, хапалася за ногі. Камары аблеплівалі твар, рукі і балюча кусалі. Адганяць іх не выходзіла — трэба было трымаць жардзіну, што, як посах сляпога, вяла наперад.

## 3

Больш за гадзіну доўжыўся пераход да цвёрдага берага, з якога і пачынаўся Казакаў Груд.

— Дзякуй Божа, што дапамог, — паглядзеў Хама на багну, якая засталася ззаду і ўжо схавала іх сляды. Ад багны ў глыб вострава ішоў змешаны лес: альха, бяроза ўперамешку з сасной, дубам і грабам. Яны адмыліся ад гразі ў неглыбокім ручаі, што плыў з-пад карэння старой сасны, селі адпачыць. Маўчалі ды ўслухоўваліся, ці не тоіцца тут, у дзікай нерушы, небяспека. Але наўкола стаяла размораная цішыня, ды ўгары высілася без ніводнай аблачынкі неба.

— Адпачылі, — Матузкоў падузняўся, павесіў на плечы напакаваны да верху харчам заплечнік.

Па лесе кружылі, пакуль не натрапілі на вялікі, як хапала вока, абсяг някошанай травы, па якой у розныя бакі разбегліся буйныя, што стажкі, купы лазы. Удалечыні, на самым ускрайку сенажаці, ледзь прыкметна адлівала, што акраец блакітнага неба, вада.

— Вунь там далёка — возера, ля яго і зямлянка павінна быць, — Матузкоў паказаў рукою на ваду.

Хама прабыў з дзецьмі больш як два дні. У былым сховішчы царскіх казакаў падгніла столь, і яе трэба было паднавіць, паставіць свежыя падпоры, насцаць з жэрдак нары, каб беглякі не спалі на сырой зямлі. Калі зямлянку зрабілі больш-менш прыдатнай для жылля, Хама напілаваў ліпавых

калкоў, звязаў іх лыкам, прымераў да адтуліны-ўвахода, падраўняў канцы і кінуў пілку-аднаручку на траву:

— Вось і новыя дзверы ў вашу хатку, дзеткі.

Паклаў вечка на адтуліну і патупаў па ім. Раптам запяршыла ў горле, гарачыя слёзы набеглі на вочы. Хама хуценька ўцёрся рукавом, каб, крый Божа, не заўважылі маладыя, што непадалёку перабіралі лапнік, які збіраліся пакласці на жэрдкі-нары.

— Пайду, пашукаю ля вады каменняў пад вогнішча ў зямлянцы пакласці. Грэць будуць даўжэй, — наўмысна голасна сказаў Хама і пакіраваўся да возера.

За вячэраю амаль не размаўлялі, а потым усе пайшлі спаць у схрон. Маладыя заснулі досыць хутка, а Хама круціўся да поўначы — невясёлыя думкі рвалі на часткі ягонае збалелае сэрца. Раніцай схадзілі да возера, памыліся. Селі снедаць. Матузкоў ад вялікага, што рэшата, бохана хлеба, адрэзаў некалькі скібак, наскрыляў сала. Але ежа нікому не лезла ў рот. Матузкоў адчуваў, што час вяртацца дахаты, але не ўяўляў, як пакіне тут дзяцей.

Толькі пасля палудня сказаў, што вымушаны пайсці.

— Бывайце, бывайце, родныя. Будзем абавязкова наведвацца да вас — я ці твой бацька, Марысечка. А калі якая замінка — не хвалюйцеся. Беражыце адно аднаго... — Хама змахнуў слёзы і пайшоў да нябачнай багны.

Была поўнач, калі Матузкоў вярнуўся дамоў. Над хутарам плыла поўня. Паплавы дыхалі свежасцю. Гаспадар асцярожна падышоў да акна і ціхенька пастукаў у шыбу.

— Хто тут? — пачулася за фіранкай.

— Я, Анэлька, — як мага спакайней азваўся Хама.

Калі Матузкоў пераступіў парог, Анэля загаласіла:

— Ой, Божачка, ой, да чаго мы дажыліся, што мусімо дарагіх дзетачак адных у глухім лесе пакінуць.

— Супакойся, — Хама стаў гладзіць шурпатаю далонню худыя плечы жанчыны. Анэля намаглася і ўняла плач. Хваляванне выдавалі рукі — яны не пераставалі дрыжэць. Гаспадар счакаў нейкія хвіліны, а потым асцярожна спытаў:

— А як тыя ў склепе?

— А іх ужо няма ў нас, пайшлі з хутара.

— Як пайшлі?..

— Я іх выпусціла. Аддала аўтаматы, яны і пайшлі. Адзін нават падзякаваў.

— Што цяпер рабіць? Чакаць, калі прыйдуць?

— Не, яны кляліся, што не з'явяцца. Сорам узяў, баяцца, каб пра гэта іхні камандзір не даведаўся, бо адразу пастраляе. Гаварылі так жаласліва, і сэрца маё не вытрымала, узяла і выпусціла.

— Пазняку паведаміла? — Хама падняўся з лавы і стаў хадзіць па хаце.

— Адразу ў той дзень, — адчуўшы мужава хваляванне, заспяшалася адказаць Анэля. — Спачатку Пазняк замітусіўся, хацеў адразу з жонкаю і малодшымі дзецьмі ехаць з Хамічоў, каб схавацца дзе. Але я адгаварыла. І ты, Хама, трымай язык за зубамі, пойдзеш да дзяцей — не кажы, бо Косцік вернецца сюды, возьме нож, сякеру ці вілы і будзе дзе-небудзь на дарозе ў лесе гвалтаўнікоў чакаць. Ён ім ніколі не даруе... Дык што лепей, Хама?

— І так, і гэтак дрэнна, Анэлька. Не веру, што будзе, як спадзяешся. Нёма — чалавек разумны, параіў, як найлепей. Дарэчы, ён не заходзіў больш?

— Не, пэўна, праўда, што немцы іх хутка панішчаць, — цяжка ўздыхнула гаспадыня.

— Што ты мелеш? — занерваваўся Хама.

Анэля разабрала ложак, памалілася ў куце, дзе віселі абразы, і прымасцілася каля мужа. Хама заплюшчыў вочы, ляжаў моўчкі. Жонка адчула, што сон яго не бярэ, ціха зашаптала:

— Пазаўчора забягала да мяне Маркава Ганка пазычыць солі, казала, што хадзіла ў мястэчка, была ля таго гета. Немцы ўзмацнілі варту, да жыдоў нікога не падпускаюць, крычаць «вэк, вэк». П'яны Вантробаў на вяселлі ў Асвейкавых таксама крычаў, што восенню з іх у жывых ніхто не застанецца. Мабыць, сапраўды будзе тое, чаго яны ўвесь час так баяліся.

— Бедныя, — застагнаў Хама. — Казаў я Нёме ўцякаць у лес, а ён не паслухаў... Трэба сабраць торбу і схадзіць туды.

— Не пушчу, — захвалявалася Анэля. — Ганка ўжо спрабавала бохан хлеба перакінуць цераз дрот — вартаўнік у яе адразу стрэліў. Дзякуй Богу, куля толькі спадніцу прабіла.

— Нёміна хата ля могілкаў, там густая альха. Залезу ў яе і перакіну торбу. У Нёмы бацька хворы, разумееш?

Матузковы прагаварылі амаль да раніцы. Анэля вельмі доўга пераконвала мужа не хадзіць у мястэчка. Урэшце ён паабяцаў некалькі дзён счакаць — мо што больш прасветліцца.

## 4

Далейшыя дні для гаспадароў хутара былі напоўнены трывогай. Насцярожанасць і страх ні на хвіліну не пакідалі, хоць на хутары, у Хамічах і іншых навакольных вёсках нічога незвычайнага не адбывалася. Немцы сядзелі ў мястэчку ды па-ранейшаму пільнавалі гета і чыгуначны мост. Пра партызан нічога не было чутно. І Матузкоў стаў часцей думаць пра гаспадарку — ладзіў касу, бо пачынаўся сенакос. Але спярша вырашыў наведацца ў Казакаў Груд. Сказаў пра свае намеры Анэлі і загадаў збіраць масла, тапіць шмалец са здору ад каляднага парсючка. Адною раніцай гаспадар заглянуў у склеп, каб пабачыць, колькі жонкаю назапашана тлушчу, і паглядзеў на два кумпякі, якія яшчэ ў красавіку падвесіў на гарышчы вяндліцца. Упэўніўшыся, што кумпякі даспелі, Хама прыйшоў да жонкі:

— Заўтра рушу, рыхтуйся, а я — на Купчую, гляну траву.

— Ідзі, не адкладай. Сэрца збалелася па іх, — узрадавалася Анэля.

Купчая — лапік сенакосу — была ад хутара недалёка — вярсты дзве, не болей. Трава толькі-толькі бралася ў добры рост. «У канцы чэрвеня паспее, і я тут укашу», — задаволены, Матузкоў вярнуўся назад. Надвячоркам наведаў Марысіных бацькоў і прыйшоў ад іх з добрым кавалкам сала, глечыкам мёду і двума высушанымі сырамі.

— Ну, Анэлька, мы пастараліся — ім гэтага хопіць больш чым на месяц. — Хама паклаў на стол прыпасы ад Пазняка. — Упакуем — і адпачываць. Вунь як сцямнела.

Гаспадыня адразу абрынулася ў глыбокі сон, а гаспадар круціўся, не засынаў — у галаву лезлі розныя думкі. Сон да яго прыйшоў апоўначы.

За вокнамі мілавалася з залатым круглым месяцам кароткая чэрвеньская ноч, люляла, як маці дзіця, зямлю, натоленую пахамі шчодрага лета. Аднак Хаме не выпала спаць да золку. Ён прахапіўся ад святла ў акне:

«Сонца! Праспаў...» Але хутка ўцяміў: гэта — не золак. Ён заўсёды палымнее ва ўсходнім акне, а гэтая чырвань — з боку Хамічоў. Хама ўскочыў з ложка, выбег на вуліцу і жахнуўся — у вёсцы шугала полымя.

— Анэля! — закрычаў Матузкоў. Але тая ўжо сама выбегла на двор у адной начнусе.

— Божачкі! Гарыць Пазняк!

— А не Платончык? — усхвалявана ўдакладніў Хама.

— Пазняк! Глядзі, вунь высокая дзічка, якраз насупраць яго сялібы.

— Хутчэй будзі Ядзю, — загадаў Хама, — трэба ўцякаць.

— Ад каго?

— Ад тых. Гэта — яны.

— Хто? — жонка не зразумела мужа.

— Хто, хто? Гвалтаўнікі. Не немцы ж. Сама кажаш: Пазняк гарыць. Будзі Ядзю!

## 5

Матузковы сабраліся хутка і гатовыя былі адыходзіць, ды ў сенцах гаспадар раптам спахапіўся:

— Чакайце, — і на паліцы, дзе захоўваліся міскі, лыжкі ды відэльцы, пачаў шукаць нож. У гэты момант на двары зашасталі крокі, і нехта моцна загрукаў у дзверы. Анэля з дачкою зашыліся за грубку. Хама ступіў у сенцы:

— Хто там?

— Свае, адчыняй! — пачулася звонку.

— Хто свае? — дрыжачым голасам удакладніў гаспадар.

— Адчыняй, а то гранату праз акно кінем, — зноў моцна бухнулі ў дзверы, аж загулі сцены. У Хамы зайшлося ад страху сэрца. Адкінуў засаўку, і ў хату ўваліліся чацвёра ўзброеных аўтаматамі мужчын у цывільным адзенні. Адзін з іх наставіў на гаспадара аўтамат і зарагатаў:

— Што, сваіх не пазнаеш? Я — Салавей, а ён, — мужчына паказаў вачыма на напарніка, які стаў побач, — Алёша. Забыў? Дзе свайго падшыванца схаваў, кажы! — Матузкоў ціха адступаў да печы, халодны пот абдаў ягоны твар.

— Кажы! — цясніў яго дулам аўтамата Салавей. — Кажы, калі жыць хочаш!

— Ах ты, звяруга, падманшчык, падляка, — Анэля, як кошка, выскачыла з-за грубкі, схапіла аберуч дула аўтамата і пацягнула да сябе. Бухнуў стрэл, гаспадыня войкнула і павалілася мужу ў ногі.

— Мамачка-а-а! — са страшным енкам Ядзя рынулася да маці, але забойца схапіў дзяўчынку за руку і зароў: — Кажы, дзе сын, а то зараз і дачку пакладу ля маці.

Матузкоў тросся, як у ліхаманцы, адкрываў рот, але з горла вылятаў толькі хрып. Да яго падскочыў названы Алёша і рукою сціснуў шыю:

— Кажы, падла! Ты, пэўна, так налажыў ад страху ў порткі, што яшчэ не пазнаў нас.

Хама хапаў ротам паветра, намагаўся штосьці гаварыць, але не мог.

— Шутаў! Вунь вядро, аблі яго — мо голас прарэжацца, — Салавей паказаў на ўслончык, дзе гаспадары трымалі ваду. Названы Шутаў ухапіў ваду і выліў Хаме на галаву. Той здрыгануўся, аблізаў вусны:

— Збег ён, да немцаў. Вось-вось з'явіцца з імі... — Голас бацькі як абудзіў Ядзю: яна ўкусіла Салаўя за руку і кінулася да сенцаў. Але не

дабегла — нагнала аўтаматная куля. Дзяўчынка паспела толькі жаласліва ўсклікнуць «татачка!» і бухнулася на падлогу.

— Дачушк-а-а-а! — закрычаў Хама, з усяе сілы адпіхнуў Салаўя і пабег. Зноў трэснуў стрэл, і Матузкоў бразнуўся за некалькі крокаў ад Ядзі. Салавей наблізіўся да яго, тыцнуў нагою ў бок:

— Гатовы, падла. — Потым злосна зірнуў на напарніка: — Шутаў! Разлівай бензін! — Але, убачыўшы хатулі з харчам, якія Матузкоў паставіў пад самаю паліцаю, падышоў да іх, памацаў і паглядзеў на Шутава, які ўжо выліў на падлогу паліва і збіраўся чыркнуць запалкай.

— Чакай чыркаць, — Салавей развязаў адзін хатуль і засунуў унутр руку. — Аддалі Богу душу, а сваё гадзяня не выдалі. Харч сабралі. Ну нічога, дабяромся і да яго, знойдзем. Палі, Шутаў! Хай з дымам да Бога ляцяць.

Да сялібы Матузкова хамічоўцы прыбеглі толькі раніцаю. На пажарышча адначасова з вяскоўцамі зайшоў і Вантробаў, які ўважліва аглядзеў чорныя асмалкі, быццам нешта шукаў, а потым сказаў з дакорам:

— Вось павучальны ўрок усім вам. Я папярэджваў і іх, і Пазняка неаднойчы — ніякіх сувязяў з бандытамі. Гэта іх рук справа.

Але хамічоўцы як не чулі паліцая — маўчалі і выцiралі слёзы. Праз дзень, калі на папялішчы перасталі курыць галавешкі, некалькі мужчын з Хамічоў пералапацілі на сядзібах Пазняка і Матузкова прысак, выбралі недагарэлыя людскія рэшткі і паклалі ў тры труны. Хавалі іх усёй вёскаю. На могілкі за калёсамі ішлі дарослыя і дзеці. З мястэчка прыехаў бацюшка, адслужыў малебен. Труны апусцілі ў дзве магілы і паставілі крыжы, паклалі вянкі з хвоі і валошак. Пасля бацюшкі ніхто не прамовіў ніводнага слова — усе ўсвядомілі, што для іх пачаўся страшны час, калі вечарам кладзешся спаць і не ведаеш, ці ўбачыш раніцу.

У Хамічах, іншых бліжэйшых да іх вёсак у хуткасці пайшлі чуткі, што Пазнякова Марыся і Матузкоў Косця не згарэлі з бацькамі, ураталіся. Недзе хаваюцца. Але ж гэта былі здагадкі, бо ніхто іх не бачыў, не сустракаў.

## 6

Першыя дні Косця і Марыся баяліся далёка адыходзіць ад зямлянкі. Не пакідаў страх — перажытае не забывалася, хоць і стараліся яго не ўспамінаць. Размаўлялі мала, больш маўчалі. Марыся амаль штодня адчувала моцны галаўны боль. Косця браў яе за руку і вёў, як малое дзіцятка, да возера ў цянёк пад старою чорнаю бярозаю, дзе Марыся клалася на мяккую шаўкавістую траву. Сам садзіўся побач і пяшчотна гладзіў яе валасы:

— Паляжы, родненькая. Вада — лекі.

Марыся заплюшчвала вочы, спрабавала заснуць. Часам гэта ўдавалася. У такія хвіліны Косця баяўся варушыцца, а толькі глядзеў на Марысін твар, як маліўся на яго. Наўкола панавалі ціша, млявасць і размаранасць. Толькі перад самым вечарам возера ажывала. З'яўляліся чайкі — давалі нырца і выхоплівалі з вады то бліскучую плотку, то залатога карася, то нават акуня.

Косця не памыліўся ў сваім спадзяванні, што вада дапаможа Марысі. Праз колькі дзён яна паспакайнела.

З возера да зямлянкі Косця і Марыся вярталіся на захадзе сонца, распальвалі вогнішча і гатавалі вячэру. Марыся задумліва глядзела на полымя, што радасна лізала чыгунок з бульбаю. У зямлянку лезлі тады, калі на Казакаў Груд апускалася глыбокая ноч. Марыся моцна тулілася да Косці

і толькі так засынала. Ён адчуваў цяпло дзявочага цела, але нічога сабе не дазваляў — баяўся, што гэта можа стаць для яе напамінкам пра страшнае. Косця яшчэ добра памятаў, як у першыя дні на выспе Марыся доўга не спала, а калі сон трохі адольваў, усхоплівалася і моцна крычала.

Сплываў блакітнавокі чэрвень. Высокая мятліца ад подыху ветру ледзь чутна шапацела спелымі каласкамі. Косця амаль штораніцы, пакуль Марыся смачна пасопвала на нарах, выбіраўся з зямлянкі і бег на сунічную палянку. Вяртаўся і асцярожна ставіў каля Марысінай галавы міску суніц. Пах ягад запаўняў зямлянку, і дзяўчына адразу прачыналася:

— Песціш мяне, любы, лепей за маму.

Косця не адводзіў ад дзяўчыны вачэй, а твар яго цвіў ад радасці.

Неяк надзвычай цёплым да парнасці ранкам яны прыйшлі да возера, і Косця прапанаваў:

— Давай скупнёмся. Глядзі, вада — што шкло, пясочак — што золата.

Марыся скінула з сябе ўсё і голая плюхнула ў ваду. Косця разгубіўся — глядзеў на купальшчыцу, а сам баяўся распранацца.

— Чаго марудзіш? — Марыся радасна замахала рукамі. — Вада цёплая.

Косця нейкія хвіліны таптаўся на беразе, потым адважыўся — распрануўся і адразу даў нырца. Пад вадою плыў доўга, каб не апынуцца побач з голаю Марысяй, але памыліўся — вынырнуў і пачуў яе радасны смех:

— Лаві, — дзяўчына зноў сіганула пад ваду.

Косця кружыў, хацеў трапіць на месца, дзе яна ўсплыве, але Марысіна галава паказалася далёка. І зноў пачулася яе ласкавае: «Лаві»!

— Чакай, русалка, я цябе дастану, — адказаў хлопец, знік пад вадою і ў чарговы раз памыліўся. Гульня доўжылася мо з гадзіну, і Косця ніяк не мог злавіць Марысю. Нарэшце яна, наталіўшыся купаннем, выйшла на бераг і лягла на траву. Косця кружыў у вадзе, не ведаў, як быць — зноў сорам апанаваў. Марыся ляжала нерухома і глядзела ў высокае неба. Потым зірнула  на возера, дзе ўсё яшчэ плаваў Косця, і неяк вельмі лагодна, клапатліва, па-мацярынску паклікала:

— Ідзі, паляжы каля мяне.

Косця хутка выскачыў і асцярожна прылёг каля дзяўчыны. Яна глянула на яго, усміхнулася:

— Не бянтэжся, дарагі. Дай палюбавацца табою...

Марысіна цела дыхала прахалодаю, пахла вадою. І раптам дзяўчына моцна прыпала гарачымі сухімі вуснамі да Косцевых.

## 7

Яны пасля тае шчаслівай для абаіх раніцы зусім забыліся пра сваю бяду, як Адам і Ева ў раі, цешыліся каханнем. Абняўшыся, бясконца хадзілі па анямелым ад цішыні, напоеным пахамі разнатраўя востраве, вярталіся да зямлянкі стомленыя, але шчаслівыя, няспешна вячэралі і клаліся спаць на траве, каля зямлянкі. Апрытомнелі ад свайго шчасця, калі хапіліся, што на дне мяшэчка з харчамі застаўся кавалачак сала, шклянкі дзве проса і сухая чвэртка ад бохана хлеба. Косця ўспомніў, што даўно мінуў тэрмін, калі бацька абяцаў прыйсці з правіянтам. Абаіх ахапіла трывога, нядобрае прадчуванне. Яны штодзень сталі хадзіць да грэблі і сядзелі там да вечара ў чаканні, ці не пакажацца на супрацьлеглым баку хто з блізкіх. Міналі дні, але ніхто не прыходзіў.

— Відаць, дома нешта здарылася, — сказаў аднойчы Косця. — Больш чакаць няма сіл. Заўтра на золку пайду, а ты не бойся — пра грэблю мала хто ведае.

— Аднаго не пушчу, — Марыся абвіла рукамі Косцеву шыю. Той спрабаваў адгаварыць яе, пераканаць, але дарэмна. У рэшце рэшт пагадзіўся:

— Добра, пойдзем разам.

На наступны дзень Косця і Марыся ўдала мінулі багну і падаліся ляснымі сцежкамі да роднай вёскі.

— Бачыш, пакошана, можна напрасткі — будзе хутчэй, — Косця паказаў Марысі на стажкі, што там-сям высіліся на зялёнай атаве. Праз колькі часу яны дасягнулі прысадзістых лазнякоў абапал вузенькай рачулкі, якая плыла-вілася па сенакосах да далёкай Прыпяці. Не паспелі аддаліцца ад кустоўя, як пачулі ўсхваляваны вокліч:

— Гэй! Чакайце!

Косця і Марыся азірнуліся. Ад рачулкі подбегам спяшаўся да іх хамічовец дзед Хведар.

— Нельга вам, дзеткі, паказвацца ў вёсцы. Вас шукаюць, — аб'явіў стары.

— Хто? — насцярожыўся Косця. У дзедавых словах яму пачулася нешта нядобрае. Хведар зморана сеў на траву і папрасіў прызямліцца маладых. На яго вочы нагарнуліся буйныя слёзы, і ён расказаў, што здарылася. Хведар гаварыў, плакаў, задыхаўся, але ўсё даказаў да канца. Марыся і Косця як аслупянелі, глядзелі на дзеда вачыма, поўнымі страху і роспачы, а калі нарэшце ўсвядомілі, якое гора іх спаткала, заенчылі, залямантавалі, абхапіўшы рукамі галовы. Нават намерваліся бегчы да сваіх двароў, на могілкі. Але Хведар, колькі меў сілы, утрымліваў іх:

— Куды? На сваю пагібель! Бацькам ужо не дапаможаце, а сябе згубіце. Пабудзьце тут, я схаджу дамоў, збяру харч...

Хведар вярнуўся, калі цёмная ліпеньская ноч апусцілася на сенакос. Прывёў за аброць коніка, які вёз два звязаныя кулі з харчам.

— Вось і добра, дзеткі, што чакаеце, — узрадаваўся стары. — Пакуль выйдзе месяц, датупаем да грэблі. Дасць Бог, пяройдзем.

На трэція суткі дзед пакінуў Косцю і Марысю. Яны кожны дзень ішлі куды вочы глядзяць. Змучаныя ад гора, адчаю, безвыходнасці, не ўяўлялі, як жыць далей. Над імі нямела блакітнае неба, сонца без спачыну ліло гарачыя промні. Ноччу ў зямлянцы доўга не засыналі, туліліся адно да аднаго, не гаворачы ані слова.

Праз тры тыдні, як абяцаў, дзед завітаў да іх і не пазнаў:

— Што з вамі, дзеткі? Ці не захварэлі? Нельга ж так даводзіць сябе! Гэта грэх перад Богам!

## 8

Дзед прабыў на востраве больш, чым меркаваў. Ён не мог не ўпэўніцца, што дзеці знойдуць сілы, каб пераадолець сваё гора, таму не адыходзіў ад іх: то вёў на возера, дзе выглядзеў ціхую затоку, сплёў з лазы таптуху і лавіў буйных карасёў, то цягнуў углыб вострава на імшыстыя ўзвышшы і там знаходзіў пруценькія падбярозавікі, буйнагаловыя падасінавікі. Рабіў усё, каб дапамагчы дзецям хоць трошачкі забыцца пра тое, што сталася з іхнімі бацькамі. Пастулова жыццё пачало кволым агеньчыкам прабівацца ў засмучаных маладых вачах. Хведар узрадаваўся, счакаў яшчэ дзень і сабраўся назад у Хамічы.

Каля грэблі было па-ранейшаму — ніякіх чужых слядоў, маўкліва, глуха. Косця і Марыся правялі Хведара, здаля памахалі яму рукамі, а калі пайшлі назад, трымаючыся за рукі, Марыся раптам ускрыкнула:

— Глядзі! Вунь вялікая качка з распушчаным крылом. Пэўна, параненая? — Косця за метраў пяць ад сябе ўбачыў шэрую птушку на высокіх нагах. Яна няўклюдна падалася ад людзей уперад.

— Гэта не качка, а журавель-падлётак. Лаві яго! — Марыся пабегла за птушкай, і хутка тая затрапятала ў яе руках. Косця абмацаў жураўлінае крыло і адразу вызначыў пералом.

— Так і ёсць — падлётак. Пэўна, хацеў разам з бацькамі ляцець, ды не разлічыў сілы. — Мабыць, разбіўся вунь аб той сушак. — Убаку, куды скіраваўся Косцеў позірк, Марыся ўбачыла высокую сухую сасну, ад тоўстага ствала якой звісалі, як казачныя рагачы, магутныя галіны.

— Яму нельга дапамагчы? — занепакоілася Марыся. — Прападзе ж — воўк ці ліса з'есць.

— Неяк мой тата якраз гэткаю парою касіў атаву і натрапіў на маладога бусліка з акурат такім жа, як і ў жураўля, перабітым крылом. Прынёс дахаты, згарнуў крыло і шнурком перавязаў, каб не раскрывалася. Буслік хутка прывык да нас, браў сала з рук, пасябраваў з гусямі. Праз тыдні два тату захацелася паглядзець, што сталася з крылом. Ён разрэзаў шнурок і выпусціў з рук птушку. Бусел спачатку баяўся распускаць крылы — як забыў, што ўмее лятаць, а потым разбегся і ўзляцеў.

— Возьмем, Косцік, яго, перавяжам крыло, мо і зрасцецца?

— Возьмем, любая. Аднак не ўпэўнены, што і ён з цягам часу паляціць.

— Усё роўна возьмем, хай лепей жыве з намі.

З таго дня Марыся не пакідала птушку: то паіла, то карміла, то ладзіла загарадку, каб не адыходзіла ад зямлянкі. Марысіна захапленне жураўлём радавала Косцю: яна зноў вярталася да спакою, менш плакала, лепей спала. За два тыдні журавель прызвычаіўся, не адыходзіў ад Косці і Марысі ні на крок. Гэта вельмі бавіла дзяўчыну. Яна бегала вакол зямлянкі з радасным смехам, бачачы, як за ёю налягае з усіх ног паранены птах. Цяпер у Косці і Марысі, куды б ні ішлі, заўсёды наперадзе тупаў журавель. Неяк раніцаю Косця абмацаў крыло:

— Мо ўжо зраслося, давай развяжам.

— А не рана? Ты ж не птушыны доктар, — завагалася Марыся.

— Давай рызыкнём?

— Давай! — дзяўчына ад хвалявання сціснула кулачкі. Косця асцярожна разрэзаў матузок на крыле птушкі і выпусціў яе з рук: «Ляці!» На здзіўленне, журавель паводзіў сябе так, быццам нічога не адбылося, — прайшоўся каля Косцевых ног і патэпаў да Марысі ў надзеі атрымаць чарговы пачастунак.

— Мусіць, адчувае, небарака, што не можа ляцець, — хлопец скрушна глядзеў на птушку. — А мо ён так прывык да нас і зусім забыў, як лятаць. — Косця падышоў да жураўля і пацягнуў за хворае крыло. Журавель адскочыў, а потым вярнуўся да Марысі.

— Не можа.

## 9

— Го, дзеткі, у вас прыбаўленне, — нечакана ля зямлянкі з'явіўся дзед Хведар з наладаваным пад завязку клункам. — Дзе злавілі прыгажуна? Пэўна, ён у вас даўно, калі паспелі прыручыць.

Косця распавёў дзеду пра птушку.

— А ён паляціць, дзядуля? — Марыся з надзеяй зірнула на старога.

— А хто яго ведае, дзіцятка, — стары зняў з плячэй клунак. — Бачу і радуюся, што вы тут ужо трохі абжыліся.

Косця і Марыся, як і ў мінулы раз, зноў праводзілі дзеда да самае грэблі, пачакалі, пакуль стары пяройдзе на цвёрды грунт, рушылі ўсцяж багны назад. Журавель крочыў наперадзе, быццам ведаў дарогу.

— Косцік, адчуваеш, якое сёння надзвычай лагоднае сонейка, — Марыся моцна сціснула руку хлопцу і прытулілася да яго пляча. — Скажы, любы, няўжо гэтае лета для нас апошняе?

— Вядома, не. У нас наперадзе яшчэ вельмі багата дзён, летаў, гадоў.

— Чаму ты так упэўнены?

— Веру, Бог нас уратуе, бо забраў самае дарагое — нашых бацькоў і сясцёр.

— Косцік! — захвалявалася Марыся. — Прашу, не ўзгадвай пра гэта. Лепш раскажы што з якой кніжкі...

— «Вешние воды»?

— Во, во, з яе...

Журавель раптам спыніўся і моцна падаў голас.

— Няўжо разумее нас? — Марыся здрыганулася ад нечаканага крыку птушкі.

— Не нас, а іх, — Косця паказаў на неба, дзе з поўдня на Казакаў Груд нізка і павольна плыў клін жураvoў. Зверху данеслася маркотнае і працяжнае «курлы, курлы». Косця і Марыся глядзелі на свайго выхаванца, а ён зноў падáў голас, разбегся, распусціў крылы і... адарваўся ад зямлі.

— Ляціць! — Марыся захоплена запляскала ў далоні. Журавель, робячы кругі, узнімаўся ўсё вышэй і вышэй, меншаў на вачах, а чарада ягоных сародзічаў, як чакала таго, закружыла над ім, яшчэ мацней закурлыкала. Косця і Марыся ўзрушана глядзелі ўверх, на свайго жураўля. Той хутка дагнаў клін і заняў у ім месца. Доўга маладыя стаялі і ўзіраліся туды, дзе ў празрыстым жнівеньскім блакіце знікалі журавы, дасылаючы на маўклівую выспу развітальную песню.

## 10

...Косця прачнуўся, калі сонечнае святло праз шчыліну маленькаю плямкай упала на вочы. Асцярожна працягнуў руку да адзення.

— Паляжы яшчэ, — праз сон мовіла Марыся.

— Трэба карміць князёўну.

Косця пацалаваў яе пунсовыя вусны, апрануўся і падняўся па прыступках.

— Я зараз, Косцік, таксама, — Марыся ўзяла спадніцу, але не паспела апрануць — у гэты самы момант Косця не спусціўся, а скаціўся, як мячык, назад:

— Яны наверсе...

— Хто? — Марыся дрыжачымі рукамі зашпільвала гузікі кофты і спадніцы.

— Чырвонаармейцы!

— Ваеннапалонныя?..

Косця не паспеў адказаць — у адтуліну прасунулася руля карабіна і пачулася:

— Вылазь, а то стрэлю.

Косця і Марыся вылезлі з зямлянкі. Зыркае сонца біла ў вочы, і яны спачатку ўбачылі перад сабою толькі вайскоўца з усхваляваным чырвоным тварам і вінтоўку, нацэленую на іх:

— Хто такія?

— Мы... тут хаваемся, — не пазнаў свайго голасу Косця.

— Васін, ты што іх, з-пад зямлі дастаў?

Косця і Марыся азірнуліся і ўгледзелі яшчэ аднаго вайскоўца ў галіфэ, бліскучых ботах і ў доўгай гімнасцёрцы, на чырвоных пятліцах якой сонцам высвеціліся вішнёвыя ромбы.

— Так, таварыш камандзір, адтуль. Вунь іх логава — замаскіраваная зямлянка.

Камандзір зірнуў на адкінутае вечка і загадаў:

— Глянь, Васін, што там?

Васін знік у праёме і доўга не вяртаўся. Камандзір чакаў яго, маўчаў і дапытлівым позіркам аглядаў затрыманых. Калі Васін вылез, запытаў:

— Што ў іх там?

— Лахманы ды яда — сала, хлеб, проса.

— Зброі не знайшоў?

Вартавы адмоўна матлянуў галавою.

— Гэта ўжо лепей, — камандзір зноў пранізліва зірнуў на Косцю і Марысю: — Дык ад каго вы тут хаваецеся?

— Мы тут... — Косця блытана пачаў тлумачыць, але ў гэты момант падышлі яшчэ два вайскоўцы.

— Знайшлі? — запытаў у іх камандзір.

— Так, Надзя там на беразе яе правярае, ці не сапсавалася пры прызямленні.

— А палаткі, боезапас, харчы?

— Усё знайшлі, — прагучэла ў адказ.

— Слухаю вас далей, — камандзір зноў звярнуўся да Косці.

— Мы тут хаваемся ад бандытаў. Яны спалілі нашых бацькоў... — Косця гаварыў цяпер спакайней, бо зразумеў, што гэтыя чырвонаармейцы не з тых былых ваеннапалонных. Ён падрабязна апавядаў пра ўсё, што здарылася. Усе вайскоўцы слухалі яго ўважліва, спачувальна, акрамя старшага са шпаламі на пятліцах, які глядзеў на Косцю і Марысю недаверліва. Калі Косця закончыў, камандзір доўга маўчаў, як узважваў пачутае, потым цяжка ўздыхнуў:

— Усё, калі праўда, страшна. Але ж мы вымушаны затрымаць вас, пакуль не ўпэўнімся, што так і было. А таму давядзецца пабыць вам пад арыштам.

Дзень і наступную ноч Косця і Марыся сядзелі ў зямлянцы, але не хваляваліся: была ўпэўненасць, што праз колькі дзён дзед Хведар абавязкова прыйдзе і пацвердзіць вайскоўцам, хто яны і чаму тут. За гэты час іх двойчы пакармілі: у абед адвараным гарохам са шмальцам і лустай хлеба, вечарам — кавалачкам салёнай рыбы і кубкам гарбаты. Пасля вячэры Косця і Марыся падзякавалі вартавому, які зверху перадаваў яду, і ляглі спаць. Вечкам праём не закрылі, каб у зямлянку ішло свежае паветра.

Ноччу Косця абудзіўся ад моцнага піску, сеў і пачаў услухоўвацца. І раптам здагадаўся, што гэта радыёстанцыя. Такі піск ён чуў узімку перад самай вайною. Тады чырвонаармейцы ладзілі вучэнне між Хамічамі і бацькавай сялібай. Ён наведваўся да іх і бачыў зялёную скрын-

ку, з якой ішоў такі ж піск, калі радыст паварочваў чорныя эбанітавыя круглыя ручкі.

«Значыць, гэтыя вайскоўцы з-за лініі фронту. Ах, як нам пашэнціла», — узрадаваўся Косця і задаволены хутка зноў заснуў.

## 11

У гэты самы час на беразе возера палкоўнік Кароцін, камандзір спецыяльнай вайсковай групы, якая сапраўды прыляцела з-пад Масквы, і яго намеснік камісар Ражанцоў амаль не хапалі адзін аднаго за грудкі.

— Яны — вышкаленыя шпіёны, — злосна даводзіў партыец, — усё, што расказалі, — легенда, гестапа ці абвер. У іх мэта — натрапіць на такую групу, як мы, увайсці ў давер, а далей сам ведаеш што. На світанку іх трэба... Гэтага патрабуюць інструкцыі ГРУ. Нам забаронена раскрывацца.

— А калі праўда тое, што яны гаварылі? — вытрыманы заўсёды, Кароцін нерваваўся. — Хораша ж мы пачынаем.

— Тут не да следства, палкоўнік, вайна ўсё спіша.

— Не, Ражанцоў, на такое я не пайду. Інакш, хто нам будзе верыць?

— Там не будуць чакаць, пакуль мы высветлім, хто яны?

— А хто збіраецца адседжвацца? Праз два дні рушым туды, куды загадана.

— З гэтымі?

— Канешне. Яны ведаюць мясцовасць, заадно і праверым іх.

— Палкоўнік Кароцін! — Ражанцоў раптам расшпіліў кабуру і дастаў пісталет. — Ты здраджваеш, і я застрэлю цябе — маю паўнамоцтва на гэта.

— Не ведаў, што ты такая дрэнь. Інакш ні за што не пайшоў бы з табою. Заб'еш мяне — мае хлопцы цябе адразу прыкончаць без усялякага разбору. Кожнага сам выбіраў і ведаю, як сябе. — Твар Кароціна наліўся крывёю. — Зараз жа загадаю цябе арыштаваць і расстраляць як старшы. Разумееш, камісар? — Ражанцоў скрыгатнуў зубамі і неахвотна паклаў пісталет назад у кабуру:

— Няхай будзе па-твойму, але праверыць затрыманых трэба неадкладна. Я пайду з хлопцам, хай пакажа, дзе ягоная спаленая сяліба, распытаю пра яго ў мясцовых жыхароў і ўпэўнюся, дзе праўда. А паспрабуе збегчы — застрэлю адразу. Дзеўка застанецца тут, як заложніца. Так, Кароцін?

Палкоўнік некалькі хвілін абдумваў прапанову камісара, потым, як бы ўзважваючы, наколькі той шчыры ў сваіх словах, доўга і пільна глядзеў у камісаравы вочы:

— Вымушаны пагадзіцца, бо інакш высветліць, што і як — няма часу. Але з табою, акрамя арыштаванага, пойдуць сяржант Андрушын і радавы Тарасаў.

## 12

Перад вечарам наступнага дня Косцю і Марысю выклікаў наверх Кароцін:

— Цалкам паверыць вам, даруйце, не магу — трэба ўпэўніцца. Пацвердзіцца тое, што гаварылі, адпушчу.

Кароцін паглядзеў на арыштаваных і перавёў позірк на Ражанцова, які таксама свідраваў Косцю і Марысю вачыма і зацята маўчаў. Потым палкоўнік падышоў бліжэй да Косці.

— Зараз з камісарам і двума байцамі пойдзем туды, дзе была сяліба тваіх бацькоў.

— Так, згодны, пакажу ўсё...

— Выдатна, — палкоўнік задаволена ўсміхнуўся. — За дзяўчыну не хвалюйся, застанецца тут з намі.

У прыцемках рушылі да грэблі. Наперадзе ішоў Косця, за ім амаль след у след — Ражанцоў з пісталетам у руцэ, Андрушын і Тарасаў з карабінамі напагатоў. Каля грэблі Косця прапанаваў зняць усім боты і порткі. Вайскоўцы засумняваліся, ці варта распранацца, але, калі Косця адшукаў у лазовым кусце бярозавыя жэрдкі і адною стаў мацаць багну, яму паверылі. Косця вельмі асцярожна прасоўваўся па грэблі, азіраўся на вайскоўцаў. Праваднік хваляваўся — ведаў, калі хто з ягоных спадарожнікаў саслізне з грэблі, будзе бяда, могуць застрэліць. Ён супакоіўся, як апошні шараговы Тарасаў ступіў на цвёрды грунт.

— Усім апрануцца, — загадаў Ражанцоў і запытаў Косцю: — Далей аж да твайго бацькі лес?

— Кіламетраў пяць — бор, потым — сенажаці, поле, — Косця да канца не зразумеў камісаравага пытання.

— Тады наперад, — Ражанцоў узняў на Косцю пісталет. — Папярэджваю: пры самай нязначнай спробе ўхіліцца ад мяне ўлажу напавал.

Сцежка, якой рушылі далей, бачылася выразна — над лесам вісеў зыркі рог маладога месяца. Ад бярэзніку, ельніку моцна пахла грыбамі.

Бясхмарная ноч плыла насустрач новаму дню. Маладзік пакінуў зорнае неба, але Косця выдатна арыентаваўся, як выйсці да бацькавага двара. На падыходзе дыхнула гарэлым. Гэта адчуў не толькі праваднік, але і яго спадарожнікі.

— Мо падыдзем да асмалкаў, пакланюся роднай хаце.

— Не толькі падыдзем, але і памацаем попел, — Ражанцаў спрытна пераскочыў цераз плот і імкліва накіраваўся да папялішча. Косця памкнуўся за ім. Ногі падкошваліся, вочы заслязіліся. Андрушын і Тарасаў таксама не адставалі. Каля падмурка роднае хаты Косця ўкленчыў і голасна заплакаў. Ражанцоў не звярнуў ніякай увагі на ягоны плач — мацаў галавешкі, нюхаў попел, расціраў пальцамі. Сяржант і шараговы аслупянела замерлі побач. Камісар спусціўся ў склеп, чыркнуў запалкай — аглядаў сцены, хацеў, пэўна, упэўніцца, што склеп не закінуты. Косця працягваў плакаць. Ражанцоў падняўся па прыступках склепа, буркануў:

— Ты перад намі нюні не распускай. Артыстаў такіх я досыць бачыў. Я пакуль не пераканаўся, што тут згарэла іменна твая хата. Таму вядзі нас у тыя, як казаў, Хамічы. Трэба спяшацца — другая палова ночы адлічваецца.

Вёска сустрэла Косцю і ягоных спадарожнікаў насцярожанай маўклівасцю. Сядзібы ледзь угадваліся. Цьмяна вызначалася вясковая вуліца, бо на ёй было багата жоўтага пяску, які намыла яшчэ ў майскія навальнічныя дажджы. З агародаў пахла кропам, кменам і свежымі агуркамі. Каля былой сядзібы Пазняка Косця спыніўся і азірнуўся на камісара, які па-ранейшаму трымаў нацэлены на яго пісталет:

— Тут другое папялішча — Марысін двор. Таксама нічога не ацалела.

— Зразумела, глядзець яго не буду, — злосна адказаў Ражанцоў. — Давай стукай у хату, што насупраць гарэлага. Хто ў ёй жыве, ведаеш?

— Іван Карпеш.

— Пабарабань у акно, якое выходзіць на вуліцу.

Косця прасунуўся праз прыадчыненыя веснічкі і ціха пагрукаў. Ражанцоў ступіў за ім следам. Спачатку ў доме ніхто не адзываўся. Косця яшчэ раз асцярожна стукнуў. Адхінулася белая фіранка:

— Хто тут?

— Дзядзька Іван, гэта я, Косця, сын Хамы Матузкова, што жыў на хутары. Адчыніце...

— Косця? — гаспадар заспяшаў у сені. Адкінулася засаўка, і дзверы з працяжным рыпам расчыніліся наўсцяж. Калі зайшлі ў хату, Ражанцоў загадаў не запальваць святла і пісталетам падштурхнуў Косцю бліжэй да акна:

— Яго ведаеш?

— Як сябе самога, — захваляваўся гаспадар. — На маім вачах вырас.

— Расказвай усё пра яго.

— Што ўсё? — гаспадар яшчэ больш захваляваўся.

— Хто бацькі? Калгаснікі, рабочыя, а мо кулакі? Дзе вучыўся, калі пайшоў на службу да немцаў?

— Якіх немцаў? Хлопец ледзь ад смерці ўратаваўся, бацькоў, сястру малую... пабілі, спалілі. Вунь там, на хутары, яшчэ згарэлымі людзьмі дыхае, а вы пра службу немцам...

— Ты мне зубы не загаворвай. Адказвай, пра што пытаю, станеш хлусіць — тут, у тваёй хаце, укладу. — Ражанцоў узмахнуў пісталетам перад Карпяшовым тварам.

— Я цябе самога прыкончу, д'ябал, — імгненна не саскочыла, а скацілася з печы гаспадыня Ганна. — Косця — наш чалавек, тут вырас, да вайны хадзіў у школу... За тое, што абараніў ад гвалтаўнікоў, такіх жа, як і ты, нашу вяскоўку Марыську, яны мальца штоноч тут пільнуюць. А ты яго, быццам якога бандзюгу, арыштаваў, допыт учыняеш, ворагам лічыш. Цьфу на цябе! Страляй мяне! Я не баюся. Страляй! — Ганна стала між Косцем і мужам.

Камісар ніяк не чакаў такога адпору, аж разгубіўся, але хутка апамятаўся і прадоўжыў свой допыт, праўда, ужо спакойна і без пагрозаў. Гаспадар цяпер гаварыў больш упэўнена:

— Косця — не шпіён. Кожны тут гэта пацвердзіць. Калі вы сапраўды адтуль, з-за фронту, то лепш арыштуйце бандытаў, якія выдаюць сябе за партызан, здзекуюцца з безабаронных людзей.

Але яго Ражанцоў ужо не слухаў — прысеў да стала, пачаў разважаць услых сам з сабою:

— Значыць, мая версія не пацвярджаецца, трэба варушыць глыбей. Зразумела, зразумела...

Ражанцоў устаў з-за стала і спытаў Карпеша:

— Кажаш, так званыя партызаны шукаюць хлапца?

— Прыходзяць, пытаюцца, ці не бачылі мы тут Косцю з Марысяю. Дні два назад у нас былі, учора — у Адася Квяткоўскага, і ўсё распытваюць.

— А хто з вяскоўцаў пайшоў у паліцыю? — зноў запытаў камісар.

— Знайшоўся адзін, але ў Хамічах не жыве.

— А часцей у вёсцы да каго гэтыя партызаны прыходзяць?

— Адкуль нам ведаць, — Ганна зноў не стрымалася. — Яны да кожнага ўвальваюцца. У аднаго хлеб бяруць, у другога свінчо, карову, у трэцяга скрыню да дна абчысцяць...

— Значыць, яны не з тутэйшых? Кажаце, з ваеннапалонных чырвонаармейцаў? — зацікавіўся пачутым Ражанцоў.

— Так. Немцы іх спачатку трымалі ў мястэчку за дротам на старых могілках. Восенню ў сорак першым распусцілі па вёсках. Яны зімавалі

ў салдатак, дапамагалі па гаспадарцы, карміліся, ад'еліся, а з прыходам цяпла ў лес падаліся... А немца каб якога забілі, пакуль не чуваць. Тых, што Марысю ў жыта зацягнулі, многія з нашых людей у твар ведалі. У Амолавічах, суседняй ад нас вёсцы, ва ўдавы Мар'яніхі жылі.

— А ў мястэчку немцаў многа?

— Хто ж іх лічыў? — адказаў за жонку Іван. — Разы два быў там, некалькіх бачыў, з бляхамі на грудях. А гэтымі, былымі чырвонаармейцамі, кажуць, кіруе нейкі былы палітрук, клічуць Генай, тоўсты, высокі, гарэлку жлукціць жбанамі...

— Палітрук? Не можа быць. Ён — камуніст, а камуністы на гэта няздольныя.

— Мо й не палітрук, але ж расказвалі: ля Круглага, вёска ў нас так завецца, за рэчкаю, ён вайскоўца, маёра, застрэліў. Той, як толькі-толькі гэтая банда збілася, саскочыў на хаду з эшалона, на якім немцы везлі нашых, і да іх прыбіўся — хадзіў разам, аднак не піў, не рабаваў... Тым ранкам мой швагер на свае вочы бачыў: яны вярталіся з Кудзельскіх хутароў, усе, акрамя маёра, пад добрай мухай. Там у аднаго смалакура дачку хацелі з сабою забраць. Бацька салам, кілбасамі і самагонам здолеў адкупіцца. Маёр пачаў ушчуваць Гену, маўляў, з цывільнымі людзьмі трэба прыстойна сябе паводзіць. А той Гена, не азірнуўшыся на яго, цераз плячо стрэльнуў прама ў твар. Тутэйшыя потым закапалі на абочыне.

Ражанцоў не перапыняў гаспадара, але незадаволена моршчыўся — відаць, яму было вельмі непрыемна чуць пра такое. Карпеш замоўк, і камісар заспяшаўся:

— Пайшлі, усё зразумела. Пра нас, гаспадар, нікому ні-ні, асабліва гэтым, што ходзяць з тым Генай.

Апынуўшыся на двары, Ражанцоў угледзеў наўскос ад сялібы Карпеша цьмяны агеньчык. Святло прабівалася з-за фіранак у акне новага дома Івана Бульвана. Камісар, пакуль кіраваліся на святло, маўчаў — пэўна, у яго вельмі сапсаваўся настрой пасля размовы з Карпешамі. Аднак у хаце Бульвана зноў ажывіўся. Гаспадыня ўвіхалася ля запаленай печы, у якой нешта варылася ў вялікіх чыгунах, і адтуль смачна пахла. Гаспадар паводзіў сябе спакойна — зусім не здзівіўся, што ў хату ўвайшло трое ўзброеных, у савецкай вайсковай форме, нечаканых гасцей. Адразу запрасіў да вялікага стала. Не адрэагаваў нават на Косцю, а толькі запытаў:

— Ты, Косцік, з імі?

Здалося, што Бульван ведае прычыну прыходу вайскоўцаў у ягоную хату. Ражанцоў паклаў пісталет на ўслон паміж сабою і Косцем і пачаў, як і ў Карпеша, дазнанне. Гаспадар на ўсе пытанні адказваў дакладна і без усялякага хвалявання. Жонка часам устаўляла сваё, лаяла тых, што панішчылі Косцевых і Марысіных бацькоў. Ражанцоў прапускаў міма вушэй яе словы, працягваў роспыт. І якія закавырыстыя пытанні толькі ні задаваў, Бульван адказваў хутка і ніяк не пацвярджаў яго версію наконт юнака. У рэшце рэшт камісар не вытрымаў:

— А чаму ты гаворыш, як па-пісанаму, мо і сам ужо з немцам знюхаўся?

Бульван голасна засмяяўся:

— Канешне, яшчэ ў трыццаць дзевятым пад Гдыняю, калі мы, маракі, колькі дзён іх крышылі, як капусту, пакуль былі патроны. Ва ўсялякім разе без портак не несліся ад першых бомбаў, а ваявалі. А вы, таварышчы, спачатку да самае Масквы з пераляку дапёрлі, а цяперака крадком прыйшлі, каб даведацца ў мяне, ці не шпіён гэты хлапчук?

Ражанцоў, якому гаспадар пабіў усе карты, сумеўся і махнуў рукою:

— Хай па-твойму. Падсілкавацца трэба. Але ж скажы: ты ваяваў у Гдыні, а цяпер дома, чаму не трапіў у палон да немцаў?

— Трапіў, ды збег. Немцы рухаліся на ўсход, а я начамі за імі праз усю Польшчу. — Бульван дастаў з паліцы ёмістую бутлю з самагонам. — Вып'ем, хлопцы, закусім свяжынкай — парсючка прыйшлося прырэзаць, каб не здох. Дужа ласы быў да яды, усё ўскокваў на плот і пракалоў горла іржавым цвіком.

Гаспадыня прынесла з каморы маласольных агуркоў, паклала на стол хлеб і выцягнула з чыгуна ладны кавалак мяса.

— Частуйцеся, таварышчы, — гаспадар узяў з паліцы гліняныя кубкі і хацеў наліць самагону, але камісар спыніў яго:

— Не, не. Гарэлкі нельга. Вось падсілкавацца — не адмаўляемся. Ешце, — ён зірнуў на Андрушына і Тарасава, узяў лустачку хлеба і кавалачак мяса. Сяржант і шараговы не прымусілі сябе ўпрошваць — накінуліся на яду. Косця сядзеў ля Ражанцова і нічога не браў са стала.

— Паеш і ты, Косцік, — гаспадыня ласкава паглядзела на хлопца, і на яе вачах заблішчэлі слёзы.

## 13

Не паспеў Косця адкалупнуць відэльцам свініны, як у сенцах моцна ляпнулі ўваходныя дзверы і на парозе, нібы здань, вырасла постаць пузатага чалавека ў чорным гарнітуры, бліскучых чобатах, з ручным кулямётам у руках.

— Гена! — усклікнула гаспадыня і вельмі пашкадавала, што, упускаючы ў хату вайскоўцаў, у мітусні, забылася зашчапіць у сенцах дзверы. Бульван аслупянеў з бутляю ля стала і са страхам глядзеў на няпрошанага госця.

— Хто такія? — Гена ўзняў рулю кулямёта на вайскоўцаў.

— Я — маёр Чырвонай Арміі, — выразна, па-вайсковаму пачаў дакладваць камісар і, зірнуўшы на Андрушына і Тарасава, дадаў: — Гэта — мае байцы.

— А ён? — Гена паказаў на Косцю і злосна паглядзеў на гаспадара. Той хацеў патлумачыць, але не паспеў — яго апярэдзіў маёр:

— Ён тутэйшы, намі затрыманы, падазраём, што нямецкі агент.

— Гэты — і агент? — Гена кісла ўсміхнуўся, і вочы яго раптам пашырыліся. — Хто дазволіў яго без нас затрымаць? Тут наша тэрыторыя — значыць, і ўлада.

— Я дазволіў як упаўнаважаны разведкі, — падняўся з месца Ражанцоў.

— Ты-ы!? — дзярмо. Рукі на стол! — закрычаў Гена. — Яшчэ хоць адзін рух — і ўсіх прашыю навылёт. Тут я камандзір — Гена. Што, не чуў пра мяне?

— Не, таварыш Гена, — збянтэжана вымавіў Ражанцоў.

— Выкладвай далей, — Гена задаволена апусціўся насупраць вайскоўцаў на табурэтку, якую гаспадар падрыхтаваў для сябе.

— Што выкладваць? — Ражанцоў разгубіўся.

— Усё выкладвай! І не ўздумай спрабаваць збегчы — на вуліцы мае хлопцы. — Гена падняўся, падышоў да акна, адчыніў яго і голасна гукнуў: «Хлопцы!»

— Што, камандзір? — у акне паказаўся прыгожы твар маладзёна ў чорным капелюшы, з нямецкім аўтаматам у руках.

— Чакайце! — Гена вярнуўся за стол і ўталопіўся на гаспадара, які стаяў з бутляю. — Ты чаго грэеш яе ля пуза? Налівай, люблю допыт з чаркаю.

Гаспадар набулькаў у кубак з бутлі, Гена ўхапіў пітво, паднёс да рота і хітравата паглядзеў на Ражанцова:

— Давай, маёр, выкладвай.

Камісар спачатку гаварыў і заікаўся, а потым, яго як прарвала, стаў падрабязна расказваць, як адазвалі з фронту ў Маскву, дзе доўга правяралі ў ГРУ, потым пра падрыхтоўку на спецыяльных зборах, пра пералёт і дэсантаванне на Казакаў Груд. Увесь час, пакуль гаварыў Ражанцоў, Гена разоў колькі падстаўляў гаспадару апарожнены кубак, каб той яго зноў напаўняў.

— Дапусцім, ты не лжэш, — Гена, наталіўшыся самагонам, перапыніў Ражанцова, — але пры чым тут гэты сапляк?

Камісар узрадаваўся:

— Мы ж калі спусціліся на груд, знайшлі яго з дзеўкаю ў спецыяльна замаскіраванай зямлянцы.

— Ну і што? Вядома для чаго з дзеўкаю ў зямлянку залез?

— А тое. Ён расказвае, быццам сам і дзеўка адсюль, з гэтай вёскі. Быццам яе двое партызан зацягнулі сілком у жыта, каб ну...

— Што каб?

— Каб згвалціць. А ён, — Ражанцоў паказаў на Косцю, — як быццам захапіў іхнюю зброю і саміх прыгнаў да свайго бацькі ў склеп. Потым са сваёй каханкай уцёк на Казакаў Груд.

— Досыць, маёр, далей — нецікава, — Гена ляпнуў далонню па стале. — Разведчык з цябе, хоць вучыўся ты аж у Маскве, дзярмовы. Гэты шчанюк праўду казаў. Мае хлопцы яго даўно шукаюць. Дзякуй табе, маёр, за дапамогу. Твайго «шпіёна» бяру з сабою, а вас усіх адпускаю. Перадайце свайму камандзіру — неадкладна пакінуць маю тэрыторыю. Трапіце яшчэ раз на вочы — перастраляю. Зразумеў?

Збялелы, разгублены камісар не мог вымавіць ні слова, ад чаго Гена зарагатаў на ўсю хату:

— Што — мову адняло? Жыва вымятайцеся адсюль, пакуль не перадумаў, — Гена падышоў да акна і гукнуў: — Хлопцы, прапусціце ваякаў... А ты, гаспадар, налівай! Хачу выпіць за грэшную душу гэтага шчанюка.

Бульван пакутліва зірнуў на Косцю, які трымаўся абедзвюма рукамі за ўслон, каб не ўпасці на падлогу. Гена ўзняў кубак і з заплюшчанымі вачыма, мабыць, каб лепш адчуць смак першака, паднёс да рота.

— Ну й пяршак у цябе, гаспадар, — Гена выцер губы рукавом. На двары чуўся смех і ўлюлюканне Генавай варты.

— Хлопцы, не лякайце ваякаў, а то дарогу не знойдуць дамоў. Лепш давайце сюды, на свежаніну.

У хату ўвайшло чацвёра маладых узброеных мужчын. Яны адразу прыселі да стала, пачалі наліваць сабе з бутлі і закусваць. Гамані лі, смяяліся і раптам адзін засяродзіў позірк на Косці:

— Атаман, а гэта хто?

— Наш трафей, — Гена моцна ляпнуў рукою хлопцу па плячы. — Гэта той, якога шукае Сцепанкоў з Ключавым.

— Той, што іх у склеп загнаў?..

— Ён самы! Ты, Вайскаўцоў, адказваеш за яго галавой.

## 14

Ад сялібы Бульвана да канца Хамічоў ішлі вуліцаю, потым пакіраваліся грунтоўкаю да мосціка. Абапал яе, як памятаў Косця, высіўся непралазны, цяпер нябачны з-за цемені, альхоўнік.

Прыстаўлены да Косці канваір то моцна трымаў яго за каўнер, то штурхаў у шыю і адпускаў, пагражальна трасучы ў руцэ пісталетам. Наперадзе галасна гаманілі Гена і паплечнікі. Чуліся задаволеныя выкрыкі, мацюкі і смех. Вайскаўцову трымаць за каўнер арыштаванага і не адымаць пісталета ад яго патыліцы было вельмі нязручна. Моцна соп, ікаў, смярдзеў самагонам, але не пераставаў падштурхваць сваю ахвяру. Нейкі час Вайскаўцоў трываў, а потым гукнуў:

— Атаман, у мяне рука стамілася ўсю дарогу трымаць шчанюка за каўнер...

— Не дуры. Сцепанкоў і Ключавы самі з ім разбяруцца... Калі рука стамілася, накінь на шыю дзягу і вядзі, як цяля.

Вайскаўцоў, пэўна, вырашыў так і зрабіць. Ён засунуў пісталет у кішэню і ўзяўся за дзягу.

Косця ясна ўсвядоміў, што трэба ўцякаць, і лепшага моманту не будзе. Толькі б дабегчы да кустоў перш, чым прагучыць стрэл. Ён штурхануў Вайскоўцава так, што той паляцеў дагары нагамі, і шалёна панёсся да альхоўніка. Вось і першы куст! Ззаду бахнуў запознены стрэл! Дарэмна! Пругкае голле балюча біла па твары, руках і грудзях, але Косця не зважаў на гэта, пёр праз гушчавіну, як лось. Калі праскочыў альхоўнік, спыніўся, прыслухаўся. Ад мосціка даносіліся крыкі, тупат па грунтоўцы, потым загучалі стрэлы.

«Хутчэй да рэчкі, каб апярэдзіць іх», — Косця ірвануў далей, хоць не ведаў дакладна, ці трымаецца патрэбнага напрамку — хацелася як мага хутчэй адбегчы ад вёскі. Пад нагамі зашастала пожня, і ён узрадаваўся, бо ўспомніў, што тут расло жыта, гоні якога спускаліся аж да сенажацяў, а там і рэчка. Пот паплыў па твары, узмакрэлі плечы, але хлопец бег і бег далей. Толькі за рэчкаю, на сярэдзіне якой вада даставала да шыі, у наваколлі трохі пасвятлела. Непадалёку праглядваліся лазовыя, прысадзістыя, што стажкі, кусты, а ўдалечыні — невыразны зубчаты лес. Косцю ахапіла радасць — няўжо ўратаваўся?

На світанні хмарнасць, што вісела ўсю ноч, распаўзлася — чырвонае сонца павольна паднялося з-за бору.

Па лесе Косця ішоў, пакуль трымалі ногі, аднак стома ўсё больш і больш адчувалася ва ўсім целе, няўмольна хіліла да сну. Далей ён не мог трываць, збочыў са сцежкі, забіўся глыбей у непралазны бярэзнік.

Хлопец спаў і не ведаў, што ў гэты самы час недалёка прайшлі Ражанцоў, Андрушын і Тарасаў. Ішлі моўчкі — не хацелася варушыць толькі што перажытае: адно б хоць адпачыць душою. На гэта настройваў і лес. Гронкі чырванаватай каліны звешваліся над сцежкаю, якая ўслалася першымі жоўтымі лісточкамі бяроз. Млявая немата шатаў схіляла да спакою. Ражанцоў, які ўвесь час крочыў першы, запаволіў крок. «Уляпаўся па самыя вушы, — варочаліся ў галаве скрушаныя думкі. — Вяртаемся без хлопца і зброі. Што патлумачу Кароціну?» Камісар баяўся нават падумаць пра тое, што напаткае яго, калі скажа праўду камандзіру. «Праявіў трусасць, выдаў дыслакацыю групы, не выканаў заданне», — у Ражанцова на нейкі момант аж пацямнела ў вачах. Андрушын і Тарасаў бачылі яго пакуты, але

маўчалі. Нарэшце прыйшлі да грэблі. Ражанцоў агледзеўся, прыслухаўся, а потым накіраваўся да куста, дзе Косця схаваў жардзіну. Узяўшы тычку, уважліва глянуў на падначаленых:

— Будзем фарсіраваць. Я — першы, вы — за мною след у след.

Камісар патыкаў жардзінаю дрыгву і ступіў у яе. Пастаяў і зрабіў яшчэ крок, потым другі, трэці. За ім ішлі Андрушын і Тарасаў. Паступова ўсе трое прасунуліся да сярэдзіны, а далей — на самае вузкае месца на нябачным насціле. Ражанцоў азірнуўся, быццам прыкідваў, ці ўпэўнена падначаленыя трымаюцца на нагах. Ягоная рука абмацала пісталет. Ён ведаў, што будзе рабіць.

## 15

...Апоўдні Кароцін з радысткай і Марысяй завіхаліся каля вогнішча — прынесеныя Васіным дровы не загараліся. Усе трое ўкленчылі каля іх, дзьмухалі на вугельчыкі, каб усхапілася полымя. Камандзір падняўся на ногі, каб адкашляцца ад дыму. І раптам убачыў Ражанцова, які ўвесь у твані набліжаўся да зямлянкі.

— Кузьма Пятровіч, — Кароцін рынуўся яму насустрач. — Вы адзін? А астатнія дзе?

— Утапіліся, загінулі, — прагучэла ў адказ.

— Няпраўда, — закрычала Марыся, — Косця добра ведаў чортава месца, тройчы пераходзіў.

— Твой вырадак збег, — Ражанцоў павярнуў да Марысі злы, запэцканы брудам твар. — Давай, камандзір, тэрмінова адсюль здымацца.

— Ён ілжэ! — Марыся рынулася з кулакамі да камісара. Яе перапыніла радыстка, павяла назад у палатку.

— Дакладвай падрабязна, як загінулі Андрушын і Тарасаў! — Кароцін свідраваў вачыма камісара.

— Як, як? Аступіліся і ўпалі ў багну.

— Не магло быць такога — Андрушын і Тарасаў са мною зборы прайшлі, абучаныя, як трымацца на дрыгве.

— Як, як? Без праваднiка ішлі... Мае ногі саслізнулі з насцілу, і я ніцма ў твань з галавою. Боўтаю рукамі жыжу, і няма за што ўхапіцца. Думаю: «Хана». І раптам рука адчула жардзіну, якая разам са мною ўпала ў дрыгву. Ухапіўся за яе, падцягнуў сабе пад ногі. Адчуваю, што адзін канец на нечым цвёрдым, а другі правальваецца ў бяздонне. Глянуў, а ні Андрушына, ні Тарасава не відаць. Зноў хапаюся рукамі за тычку, штурхаю наперад, як перакочваю, і сам рухаюся за ёю. Праз колькі такіх штуршкоў ногі адчулі цвёрды грунт. Я адразу рынуўся на грэблю ў надзеі, мо хлопцы, як і я, яшчэ боўтаюцца ў твані. Але, як ні ўглядаўся, іх нідзе не было.

Кароцін белы, што палатно, пакутліва паклаў рукі на галаву, снаваў туды-сюды каля дымнага вогнішча. Ражанцоў зыркаў па баках, як нешта шукаў, потым схапіў кацялок з вадою і заліў агонь: «Ніякага агню».

— Усё так неверагодна, — спыніўся каля камісара Кароцін. — Не ўцямлю, як ад цябе, вопытнага разведчыка, чэкіста, мог уцячы падлетак?

— Уцёк, бо быў абучаны.

— Не і не! — выбегла з палаткі Марыся. — Косця не мог уцячы!

— Супакойся, Марыся, — жаласліва паглядзеў на яе Кароцін. — Васін, выдай камісару новае абмундзіраванне акрамя дзягі.

— Што, я арыштаваны? — Ражанцоў сціснуў кулакі, аж задрыжэў.

— Так, арыштаваны! Васін, вядзі яго ў зямлянку і без майго дазволу не выпускай.

— Ты мне не верыш?

— Дзейнічаю па статуце. Абавязаны правесці расследаванне.

— Што? Вылавіш у багне тапельцаў?

— Васін, — не адказваючы камісару, загадаў камандзір, — выконвай загад!

Рэшту дня Кароцін правёў у роздуме. Усё прыкідваў, куды маглі падзецца Косця, Андрушын і Тарасаў. Ніводная версія не давала супакаення. Ён то хадзіў да возера, то вяртаўся, садзіўся ля зямлянкі і не пераставаў шукаць адказу. Раптам успомніў словы Ражанцова.

«Пэўна, усё ж яны ў багне. Камісар нездарма смела спаслаўся на яе, бо ведае: вылавіць хлопцаў немагчыма. Вазьму крук ад парашута і змайструю на месцы нешта накшталт багра. Ім памацаем твань абапал насцілу. Мо што й зачэпім — хоць бы вінтоўку ці палітрукову дзягу. Рэчы могуць дакладней усё патлумачыць».

Пасля вячэры камандзір загадаў Васіну быць ля жанчын і сам узяўся вартаваць арыштаванага.

— Не будзеце спаць усю ноч? — паспачувала яму радыстка.

— Магу і пяць, калі трэба, — Кароцін усміхнуўся. — На перадавой даводзілася і болей вачэй не зводзіць, прывык. А ты спі, але прыслухоўвайся. Рацыя для нас важней за хлеб.

— Патрабую аб маім арышце паведаміць Маскве, — закрычаў з зямлянкі Ражанцоў.

— У свой час, камісар, — Кароцін узяў у Васіна карабін і прылёг каля зямлянкі.

Усю зорную вераснёўскую ноч Кароцін правёў без сну. Ён ніяк не мог дакладна ўявіць і паверыць, што ягоныя падначаленыя проста так паслізнуліся і апынуліся ў дрыгве. «Нешта іншае здарылася, — разважаў Кароцін. — Тое, што Косця ўцёк праз акно, канешне, лухта. Калі сапраўды збег, была на гэта прычына. Верыць цалкам Ражанцову не магу ды і права не маю. Заўтра пашукаю разгадку на пераправе. Калі пошук нічога не дасць, давядзецца ўдакладняць у Маскве, як быць».

З зямлянкі да Кароціна даносіўся моцны храп. «Спіць, і моцна. Такі сон, — успомніў камандзір недзе прачытанае ці пачутае, — бывае пасля ўзрушэння ці смяротнай стомы, і тады, калі няма пакутаў сумлення. Вось і здагадайся, Кароцін, чаму камісар дрыхне, як пшаніцу прадаў». Камандзір яшчэ трохі слухаў храпенне Ражанцова, потым зірнуў на неба і зразумеў, што хутка пачне днець.

Золак разгараўся пунсовай плямай, што ўзнялася над шатамі старога бору, які ва ўсходнім баку днём бачыўся выразна, хоць напрамкі да яго было мо вёрстаў пяць.

«Будзе вецер», — гледзячы на крывавы разліў світанку, мімаходзь адзначыў Кароцін. У гэты момант з зямлянкі пацягнула тытунёвым дымам, і вартавы здагадаўся, што Ражанцоў прачнуўся. Раніца наступала актыўна: спаўзала з някошанай травы цемень, і замест яе з багны наплываў густы высокі туман. Кароцін чуў, як у палатцы апраналіся жанчыны, раіліся наконт сняданка. Васін прыхапіў вёдры, сякеру і пакіраваўся да возера па дровы і ваду.

— Хачу на двор! — галава Ражанцова паказалася ў праёме зямлянкі. Кароцін зняў з пляча карабін:

— Давай вунь да кусціка, што за зямлянкаю.

Арыштаваны вылез на паверхню, пацягнуўся і павольна рушыў да паказанага Кароцінам месца. Вартавы пайшоў следам. Ражанцоў досыць доўга спраўляў патрэбу, але Кароцін яго не прыспешваў.

— Мо мне хопіць там сядзець, — камісар паказаў на зямлянку, — цвіллю дыхаць. Дазволь тут пабыць. Трымаеш там, быццам я сапраўды здраднік.

— Дзейнічаю па статуце.

— Ну, ну, — арыштаваны хацеў прадоўжыць, але раптам насцярожыўся. — Чуеш? Там нехта ідзе.

Камандзір прыслухаўся — сапраўды ў тумане шалясцела трава, вызначаліся выразныя чалавечыя крокі.

— Хутчэй дай мне зброю. Пэўна, немцы ўжо тут, — заенчыў Ражанцоў.

— Сціхні, — цыкнуў на яго Кароцін і пачаў пільна пазіраць у той бок, адкуль усё выразней і выразней наплывалі крокі.

Шаргаценне травы пад нагамі нябачнага яшчэ хадака чулася зусім выразна. Праз колькі хвілін праявілася і ягоная постаць. Незнаёмец кіраваўся на зямлянку, з кожным крокам бачыўся ўсё выразней і выразней.

— Гэта ж Косця, — узрадаваўся камандзір.

— Які Косця? — Ражанцоў вельмі захваляваўся.

— Косця, ты? — гукнуў Кароцін.

— Я! — данеслася зблізку.

— Давай хутчэй вінтоўку, палкоўнік, — пацягнуўся да камандзіравага карабіна камісар. — Хлопца трэба адразу ўлажыць, каб немцам...

— Стаяць! — гаркнуў на яго Кароцін і замахаў рукою: — Косця, Косця, сюды!

Пачуўшы гаману, з палаткі выбеглі Марыся з Надзяй і кінуліся насустрач хлопцу. Ражанцоў памкнуўся за імі.

— Назад, — Кароціну падалося, што Ражанцоў рынуўся да Косці, каб напасці на яго, аднак адвярнуў ад хлопца і пасігаў яшчэ хутчэй.

— Стой, страляю! — Кароцін ускінуў карабін і стрэліў угору. Ражанцоў не спыніўся.

— Камандзір, ён уцякае, страляйце! — закрычаў голасна Васін, хоць у самога на плячы вісеў карабін.

Кароцін злажыўся і, доўга не цэлячыся, націснуў на спускавы кручок. Бахнуў стрэл. Ражанцоў, як падсечаны, упаў.

— Напавал, камандзір, — павярнуўшы цела няшчасніка, пацвердзіў Васін.

Камандзір перавёў позірк на хлопца:

— Адкуль ты, Косця, узяўся?

— А вам што — Андрушын і Тарасаў не расказалі?

— Няма хлопцаў, Косця.

— Як няма? — Косця пачаў расказваць пра ўсё, што адбылося ў Хамічах. Хваляваўся, замаўкаў, бо душылі слёзы, а потым зноў працягваў. Кароцін не перапыняў, хацеў, каб хлопец выгаварыўся. Марыся з Надзеяй аслупянелі і толькі безупынна змахвалі з вачэй слёзы. Кароцін таксама хваляваўся, але не паказваў выгляду. Урэшце Косця скончыў.

— Та-а-к! — Кароцін зірнуў на забітага. Потым пакутліва ўздыхнуў і звярнуўся да радысткі: — Аб усім паведаміць Маскве. І пра банду — таксама. Ідзём, Надзея, прыкінем тэксты.

Андрушына і Тарасава шукалі двума самаробнымі баграмі амаль што да заходу сонца. Кароцін, зусім стомлены, вярнуўся з грэблі і прысеў на траву:

— Кідайце, хлопцы, час вяртацца. Жанчыны будуць хваляваща.

Васін і Косця выйшлі на бераг, апусціліся побач з камандзірам. Ён пакутліва глядзеў на анямелае балота, а потым прамовіў:

— Думаю, што яны знайшлі тут спачын.

Вечарам каля вогнішча выпілі спірту, які прынесла з палаткі радыстка, памянулі Андрушына і Тарасава.

На наступную раніцу Косця і Марыся ўбачылі, што вайскоўцы спешна ладкуюць у вялікія заплечнікі свае рэчы. А калі ўсё было сабрана, Кароцін паведаміў:

— Ноччу я атрымаў радыётэлеграму з Масквы. Загадана пакінуць выспу і перайсці ў Ружанскую пушчу. Там нас будзе чакаць папаўненне. Маю таксама дазвол залічыць вас у групу. Як, залічваць ці тут застанецеся?

— Залічваць! — узрадаваліся Косця і Марыся.

— Значыць, будзем ваяваць разам, — усміхнуўся камандзір і загадаў Васіну: — Пераапрані папаўненне і выдай зброю.

На змярканні група палкоўніка Кароціна пакінула Казакаў Груд і скіравалася на новае месца.

* * *

Адным цёплым вераснёўскім днём сорак пятага года з дарогі, што вяла ў Хамічы, збочыла палутарка і спынілася каля парослага лебядою пажарышча, дзе стаяла сяліба Пазняка. З кабіны выйшла маладая жанчына з двухгадовым хлопчыкам. Яна была ў вайсковай форме без галаўнога ўбора, дзіцятка — у паліто з цёплым каўнерыкам. Жанчына ўкленчыла каля пажарышча і абняла хлопчыка. Хамічоўскія кабеты, якія прыбеглі да машыны ў надзеі, што яшчэ нехта вярнуўся з вайны, глядзелі на яе здзіўлена — не маглі ўцяміць, чаму незнаёмая стаіць на каленях. І толькі калі жанчына азірнулася, спахапіліся і рынуліся да яе:

— Марысечка, ты?

— Я, — ледзь вымавіла маладзіца, і слёзы ручаём паплылі па яе твары.

Марыся паднялася з каленяў і пачала абдымаць кожную з кабет. Тыя цалавалі яе, гладзілі галаву, рукі, а потым спыталіся:

— А хлопчык чый?

— Мой.

— Выліты Косця, — наперабой затараторылі хамічоўкі: — А бацька дзе, жывы?

— Няма майго любага, — усхліпнула Марыся, — загінуў пад Берлінам.

Вяскоўкам зрабілася няёмка, што напомнілі Марысі пра самае балючае. Счакалі, калі яна выплачацца, і зноў пачалі дапытвацца:

— Дзе ж цяпер ты, Марысечка, жывеш?

— У Маскве, у дзеда.

— Якога дзеда? — здзівіліся хамічоўкі.

— Нашага камандзіра. Каб не ён, каб не адправіў мяне цяжарную на самалёце ў тыл, за лінію фронту, не ўбачыў бы свету маленькі Косцік.



# СЛАВЯНСКІ ПАЭТЫЧНЫ КОСМАС

## З македонскай

**Міхаіл РЭНДЖАЎ**

### ГРОМ

*(Паэт)*

Ноччу хаваецца
Ў нары цёмнай сонца
І за коньмі яго назірае.

Раніцою крадзе каня
І, ускочыўшы на яго,
Вогненным мячом
Па вязу б'е,
А затым спускаецца
На купал
Манастыра.

Апоўдні прыходзіць да людзей
І, каго сустрэне першым,
Джаліць паміж вачэй.

Уджалены, кажуць,
Спяваць пачынае.

**Радаван ПАЎЛОЎСКІ**

### ДВА ПЕЎНІ: ЧЫРВОНЫ І ЧОРНЫ

Чорная і чырвоная хусткі
падкінутыя ў паветра
Два струмені бурлівай крыві
што схляснуліся на месцы
дзе павінна раздзяляцца душа
На ляту выпісваюць крыж
Як жа стрымаць плач
і куды ж падзецца
Душы іхнія крадзе цыганка
завязвае ў цёмную анучу
і ўцякае па рэчцы
каб не пакідаць слядоў
Трое цыганятак
тройка жоўтых кветак
з палавінкамі душ у целах
чытаюць зоры
Закапайце іх у цёплы пясок
каб ім холадна не было
Чую ваяўнічыя два поклічы
На пальцы мае чырвоная пена сцякае
Нашто іх разводзіць
Нашто забіваць іх
калі нарадзіліся яны байцамі
Сяджу на ганку
каля халаднакветных макаў
Вы пакрывалі накідкай
шызыя камяні грому
тады як дзеці вашы
рвалі чырвонае лісце шчаўя
і думалі пад якое воблака стаць
каб дачакацца расы
Сон
а ў сне вас перабілі
крыкам сумнай савы
якая жоўць вылівае
ў дупло знойдзенага дрэва

Я закапаў іх у садзе
Як жа стрымаць плач
і куды ж падзецца
Чырвоны і чорны пеўні
вядуць бойку на небе.

**Слаўка ЯНЕЎСКІ**

## ЯЗЫК

Калі галава твая скочваецца
ніжэй дна жыцця
і рот раскрываецца
для нячутнага ўздыху
язык памяркоўна высоўваецца
каб залізаць зямлі раны.

Лекавасцю сваёй дрэвы ацаляе
мохам камень цяплей апранае
мяккасцю сваёй шорсткасць сунімае.

Нібы пояс кантыненты ён абвівае.

Калі ж там і тут высілкуецца
на ранейшае месца вяртаецца
узбагачаным мудрасцю
ў вечным спакоі памаўчаць
на яўрэйскай
на армянскай
ці на македонскай мовах.

Так ці інакш, душа мая,
на ўсіх мовах язык аднолькава маўчыць.

Гэтак ён і маўчанне сваё замоўчвае.

**Матэй МАТЭЎСКІ**

## БАЛАДА ПРА ЧАС

Слухаю як памірае час

Пры лістоце што ападае
і лёдзе што рукі шчыпае
калі яго я кранаю

Час памірае ва ўсім што нараджаецца
і я ў ім няспынна памяншаюся
з кожным крокам

Восень багатая марамі
хоць часам і сумная
па вадаспадах
не плаваюць

У лістападзе густыя туманы
пакалькі высмоктваюць рэкі

А па плыткай вадзе
куды ж я траплю

Слухаю як памірае час

Ад восені ў холадзе
застаецца адзін плод
які пасінелымі вуснамі пытае
куды ён трапіць

Атанас ВАНГЕЛАЎ

## ІСНАВАННЕ

Існуе мноства слоў і мноства складоў
Існуе мноства мудрых словаскладальнікаў
І мноства рэчаў якія прамаўляюць
Словы тыя што я прадчуў

Існуюць даследчыкі існуюць экспедыцыі
Назаўжды заведзеныя назаўжды адведзеныя
Якія рэдка вяртаюцца з вынікамі і водгукамі
Трэба каб існавала і нейкая краіна
У якой дождж — адзіны паэт

Ведаю
Усё што крану мяне кранае
І па тым невыслоўным
З пэўнасцю мяне вылучаюць
Бо існуеш і ты
Са сваім маўчаннем
Якое стаўлю ў канец верша
Як кропку

Блажа КАНЕСКІ

## РУІНА

Руіна.
Ні то мур, ні то друз?
Мох зялёны ва ўсіх шчылінах.
Яшчарка жоўтая за гаспадыню.

Такая вось ісціна.

Гане ТАДАРОЎСКІ

## ВЕРШ ПРА РОБАТА

Шкада мне робата, што ён не стане рабом
па сваёй віне, што не можа раптам стаць ерэтыком!

Шкада мне яго, бо не можа ён быць гультаём,
не можа быць абыякавым, раззлаваным, дурным!

Шкада мне яго, бо яму не можа быць нудна
побач з надта разрэкламаванай прыгажуняй!

Шкада мне яго, бо не можа ён трапіць
у венерычную ці псіхіятрычную бальніцу!

Шкада мне яго, бо не зможа ён ідэалам здрадзіць
альбо ў афекце парэзаць сабе вены!

Шкада мне яго, бо ён не баіца на рак захварэць!
Шкада мне яго, бо ён застаецца заўжды толькі
робатам!

## *З славенскай*

**Божа ВАДУШАК**

### ПАЛЯВАННЕ

Страх выскачыў, а за страхам панёсся час,
за ўстрывожаным зайцам шэры хорт,
у імклівым гоне па садзе райскім
зямлі, і я назіраў гэта.

Нерухома каля мяне твар
нямога лёсу, да палявання звернуты,
я чытаў па ім, што канец — гэта смерць
і што хорт вядзе гон па яе загадзе.

Чытаў таксама, што я дарэмна ілгаў,
калі на ахвяру ставіў, ідучы ў заклад
і кажучы сабе, што я толькі назіральнік:

няўтомны ганчак тым часам
і мяне самога ўжо гнаў
да яе ног як ахвяру палявання.

**Каэтан КОВІЧ**

### АГОНЬ І ВАДА

Вада — празрыстая дзяўчына.
Агонь — спакуснік.

Вада — халодная і палахлівая.
Агонь — палкі і неадступны.

Вада яго, ненавідзячы, пакахае.
Агонь яе, цалуючы, узненавідзіць.

Агонь у яе адбірае нявіннасць.
Вада яму вяртае смерць.

# *З славацкай*

**Павал ЯНІК**

## ЗАЎЧАСНА

Як быццам бы апоўдні,
дакладна ў адпаведнасці з раскладам руху цягнікоў,
я страціў памяць.

Ты так пранізліва і недвухсэнсоўна адыходзіш.

На апусцелай прасторы бушуе зіма,
нібыта невялікі землятрус.

Гэта пад зямлёю выбухваюць пахі,
пакуль ты нацягваеш усё танчэйшую струну.

Калі яна парвецца,
у гэтым краі ўспыхне вясна.

## ЦЯГЛАВЫЯ АНЁЛЫ

І ў канцы будзе слова,
і ў каго будзе,
у таго будзе апошняе.

А пакуль што вецер
будзе разносіць заразныя весткі
пра абсалютныя душы,
вольныя ад зместу,
алкаголю, паветра, зямлі
і іншых нечыстотаў.

Жанчыны — гэтыя цяглавыя анёлы,
створаныя з агню і вады, —
будуць у далейшым цярпліва зносіць
ціск паветра,
рэдукаванага на ўзровень мужчын.

І ў рэшце рэшт
будзе пачатак.

# З украінскай

**Мікола МАТОЛА**

## ЖЫЦЦЯСТОЙКАСЦЬ

У вырай дрэвы зноў не паляцелі —
Чакаюць сцюжу, непагадзь начэй.
Кладуцца ў іх, кальцуюцца падзеі,
І кроў цячэ між колцамі, цячэ.
Напэўна, вецер голле абламае
Ці ствол, нібыта шабляй, рассячэ...
Ды час міне, паглянеш: ажывае!
У дрэвах кроў так, як у нас, цячэ.

## ЧУЖОЕ...

Чужое пачынаецца
з суседскага —
з гэтым гадуешся, вырастаеш.

Вятры зацятыя стараюцца
галаву тваю, ад думак цяжкую,
нахіліць ажно за паркан,
але ты,
як той арэх пры варотах,
з двара свайго ані на крок.

З гадамі ўжо і крона-карона
махае галлём, трапеча лістом
па-над вуліцай
і над суседскім дваром
ды гародам,
але ты — з двара ні на крок.

Чужое пачынаецца
з суседскага.

І няхай там,
за агароджаю,
адпачываюць
у засені тваіх галін,
няхай падбяруць пару арэхаў,
табою народжаных, —
стой з гонарам за двор свой
ды за добрых суседзяў.

І як бы гора ні налягала,
свайго ад цябе вымагала,
ты стаіш, бо ўсведамляеш:

па-за тым, дзе ты вырас —
чужое.

І ніяк цябе не спакусіць
абяцанкамі раю далёкага,
і табе не ступіць ані кроку;
хіба ўпасці ствалом зламаным
за агароджу, бо
з суседскага пачынаецца
чужое.

## Уладзімір ФЕДЗІНІШЫНЕЦ

* * *

Гэта не смех,
Гэта не смех —
Растае снег,
Растае снег...
І сплывае
Зіма, зіма...
І сплывае
Сама, сама...
Я сустрэнуся, пэўна, з вясной —
Са сваёй прывабай былой!
Растае снег!..

*Пераклады са славянскіх моў*
*Івана Чароты.*







# ПІЛІП ПЕСТРАК
## (1903—1978)

Яго раман «Сустрэнемся на барыкадах» у вясковай бібліятэцы ніколі не залежваўся. Як тыя лістоўкі, ён перадаваўся з рук у рукі. І сам я, тады яшчэ школьнік, перачытваў яго некалькі разоў. Малому, мне здавалася, што добра ведаю той час, у якім сам не жыў, і яшчэ лепш знаёмы з героямі твора, вельмі ж характэрнымі для нашых мясцін людзьмі. Добра пазнаваліся тыя жаўтаватыя старашляхецкія вусы, пульхныя твары, распешчаныя жываты. Цешылі і самі прыпеўкі на польскі лад са знаёмым: «Ой-ра, ой-ра». Усё гэта я адважваўся зачытваць свайму бацьку, зусім недасведчанаму ў літаратуры чалавеку.

— Гэты, — казаў бацька, — відаць, што недзе з нашых блізкіх мясцін, бо піша ж пра наша.

Далей я маўчаў, таму што біяграфіі пісьменніка зусім не ведаў. Хоць што тут складанага было ведаць яе, сказаў бы я сабе сёння, чытай раман, — і яна там уся ёсць. А ўжо калі стаў студэнтам і сам пачаў нешта друкаваць, цяга ў мяне да пісьменніцкай асобы ўзнікла незвычайная. Пачаў шукаць сустрэч, хадзіць на вечары ў Саюз пісьменнікаў. Неяк пабачыў і аўтара «Сустрэнемся на барыкадах». Нагадаў мне чамусьці ён Мікіту Хрушчова: і той лысы — і гэты таксама, і той носіць саламяны капялюш — і гэты зноў жа... Аднак асоба Мікіты Сяргеевіча не выклікала ў мяне столькі павагі, колькі заслугоўваў яе Піліп Сямёнавіч. Прычынай была тая ж біяграфія пісьменніка, якую я неўзабаве прачытаў у біяграфічным зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі», што выпусціла Дзяржвыдавецтва БССР. Піліп Сямёнавіч паўстаў перада мною сапраўдным героем, мужным, нязломным рэвалюцыянерам. Сама героіка заўсёды захапляе маладых, захапіла і мяне, але яна ні ў якім разе не прыніжала ў маім захапленні і Пестрака-пісьменніка. Скажу, што ў тыя гады мы больш схіляліся сваёй увагаю да яго як празаіка, мала цанілі ў ім паэта. Хоць, як мне здаецца, Піліп Сямёнавіч лічыў сябе ў першую чаргу менавіта паэтам. Пра гэта сведчаць і вершы, і яго незвычайная зацікаўленасць шэдэўрамі сусветнай паэзіі, іх частае цытаванне. У кампаніі ён мог выкалупнуць з памяці зусім нечаканыя радкі і тут жа хітравата запытацца:

— А чыё гэта?

Як заўсёды, пачыналася гаданне. Гэткім чынам ён «клаў на лапаткі» вельмі многіх занослівых калег.

Паэзіяй для яго было само жыццё. Крытыка наша не так і часта звяртала ўвагу на ягоны верш «Паэзія». У апошнюю анталогію айчыннай паэзіі ён не ўключаны. Хоць для самога аўтара верш быў вельмі дарагім. Недзе пра гэта ён нават прызнаваўся. Верш выпакутаваны і перажыты. Паэзія для П. Пестрака — гэта яшчэ і зброя, з якой ён змагаецца за лепшае жыццё:

Дай, паэзія, меч прамяністы,
Слова-гарт, слова-кліч, слова-бой!
Дай палёт мне арліны, агністы,
Гімнам-полымем біць да нябёс!

Гэта, бунтоўнае, як барыкадныя воклічы, з'яўляецца ўслед за шчымлівымі, нават маркотнымі радкамі пра наша мінулае, дзе аўтар сам «загінены хлопчык-паэт».

Само жыццё вымагала ад П. Пестрака бунтоўнасці, ён не мог абысціся без яе і ў творах. Але толькі аднаго закліку, толькі бунту для паэзіі, відаць жа, малавата. Ёй патрэбна як мага больш душы. Гэта, пэўна ж, разумеў і вялікі знаўца паэзіі П. Пестрак. Ён у далейшым аддае перавагу прозе.

Нават сама біяграфія П. Пестрака, калі браць яе ва ўсіх падрабязнасцях, чытаецца як той праўдзівы, непрыдуманы раман. Яшчэ ў 1936 годзе ў вершы «Дарожка», напісаным у віленскім астрогу «Лукішкі», малады вязень паспрабуе азірнуцца на сваю жыццёвую дарогу, хоць гэта было на той час толькі паўдарогі. І вось што ён там пабачыць:

Ішла ты борам, сумная,
дзіцячаю пятой,
прыціхлая, задумная,
забытай сіратой.

Бор ціхім шумам дзедаўскім
цябе багаслаўляў
і, як бы нешта ведаўшы,
нічога не казаў.

Павяла «дарожка» хлапчыну з вёскі Сакоўцы бліз Косава на Берасцейшчыне і надта далёка. Бацька працаваў на будаўніцтве чыгункі, гаспадарыла дома маці. Будучы пісьменнік займаўся ў мясцовай двухкласнай школе. Але пачалася імперыялістычная вайна, і сям'я эвакуіравалася ў Расію. Якое гэта было жыццё, сёння мы збольшага ведаем па рамане Ул. Гніламёдава «Усход». Там, у Бузулукскім павеце Самарскай воласці, П. Пестрак працягваў вучобу ў народным вучылішчы, вучыўся ў гімназіі ў Бузулуку, працаваў памочнікам бухгалтара валвыканкама, потым вучыўся на рабфаку. А далей быў сацыяльна-гістарычны факультэт Самарскага універсітэта. У 1921 годзе на Паволжы ўспыхнуў голад, і ўсе бежанцы рушылі дахаты ў Заходнюю Беларусь. З голаду вярнуліся ў той жа голад. «Пачалася цяжкая паласа жыцця» — гэта радок з аўтабіяграфіі. У той паласе чакае П. Пестрака праца лесаруба і лесніка, і служба ў польскім войску, і вяртанне з яго ў чыне капрала.

Пасля звароту з арміі жыццёвая «дарожка» крутнулася яшчэ круцей. У 1926 годзе ён уступае ў Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. А яна працавала ў падполлі, праследавалася. З гэтага часу і пачынаюцца сапраўдныя этапы барацьбы за лепшую долю тагачаснага заходнебеларускага люду, доўгія гады турэмнага зняволення, якія таксама акрэслены мужнасцю і змаганнем.

Мае крыху старэйшыя калегі часта расказвалі ды і пісалі пра свае сустрэчы, нават паездкі з былым паэтам-рэвалюцыянерам. Усё гэта выглядала вельмі смешна, часам надумана. Чужыя малаверагодныя легенды шкодзяць і чалавеку легендарнаму. Але, як заўсёды бывае ў гэтым жыцці, прыдуманае ды прыхлушанае тут жа, як чужацвет, ападае, а застаецца, як заўсёды, толькі праўда. Мы не так і часта сустракаліся з Піліпам Сямёнавічам, але і па сёння ў душы засталося адчуванне, быццам я, ну зусім блізка, ведаў гэтага непаўторнага і таленавітага чалавека. А тыя, хто сапраўды яго так ведаў, заўсёды падкрэслівалі тую непаўторнасць ды яшчэ непадабенства да ўсіх іншых, грэшных і нягрэшных.

Цікава было і паназіраць, як сядзеў і паводзіў ён сябе, ужо не ў турме, а ў прэзідыумах пісьменніцкіх сходаў. Многім здавалася, што Піліп Сямёнавіч проста спіць ці прыдрамаў на хвіліну ад цяжкай прамоўнай нудоты: галава быццам і не схілёная, а вочы заўсёды заплюшчаныя. На самай жа справе слухаў кожнае слова прамоўцы з найпільнай увагай і мог у любую хвіліну асекчы яго дасціпнай, а то і знішчальнай рэплікай. Відаць, нагадвала пра сябе вялікая турэмная школа, дзе кожнае слова, недарэчна абронене, магло каштаваць нават жыцця. Там была свая суровая крытыка.

І сёння яшчэ згадваюць пісьменніцкі сход, на якім сурова «клеймили позором» аўтара нашумелага «Доктара Жывага». Такія сходы праходзілі тады па ўсёй «бязмежнай» Савецкай краіне. Гарачых выступоўцаў там было многа — ляжачага, як кажуць, біць заўсёды проста. А тут і сам віноўнік цябе не пачуе. Казалі, на сходзе найбольш стараўся акадэмік Барысенка. Ды так захапіўся клеймаваннем, што ў запале на ўсю залу выпаліў: «І вось гэты... Пестрак!..»

Зала ўскалыхнулася, зашумела, а потым замерла. Усе чакалі рэакцыі самога Пестрака, які і на гэты раз па звычцы сядзеў у першым радзе. Схамянуўся, пачырванеў і змоўк ад сораму сам прамоўца, і спакойна падняўся са свайго крэсла Піліп Сямёнавіч. Ён сказаў толькі адну фразу: «Пётр Першы казаў, і я кажу, што і акадэмікам трэба гаварыць толькі па паперцы!» Вось тады зала выбухнула сапраўдным рогатам. І ўсё, што пачыналася так ваяўніча, знішчальна, закончылася вельмі весела. Не ведаю, ці расказваў хто калі пра гэта самому Б. Пастэрнаку, але думаю, што яно і вельмі пацешыла б апальнага аўтара.

Пра П. Пестрака мне шмат і з захапленнем расказваў Анатоль Вялюгін. Выдатны расказчык, Анатоль Сцяпанавіч за маруднаватым бяседным сталом часта прыпыняў свой прыпамін пытаннем: «А ці не гаварыў я ўжо раней пра гэта?» І дадаваў: «Не люблю, калі паўтараюцца. Гэта Пестракова навука. Той ніколі не паўтараецца».

Сапраўдныя творцы не павінны паўтарацца анідзе — ні ў творчасці, ні ў гаворцы. Гэтак лічыў не толькі А. Вялюгін. У П. Пестрака тое было правілам.

Цяжка мне было ўявіць яго з гітарай і з тым жа напевам пад яе:

По ступенькам-
пенькам-
пенькам...

Гэтая імітацыя вельмі ўдавалася некаторым маім калегам. Любіў ён спяваць і «Ваньку-ключніка» і «Ты падгорна, ты пад'ёмна». У яго народным «рэпертуары» былі песні толькі малавядомыя, але дужа кідкага зместу. Адну з іх я зусім нядаўна пачуў у выкананні Таццяны Мархель:

А дзед бабку разуваў-разуваў,
Пад спаднічку заглядаў-заглядаў...

Слухаў ён субяседніка, звычайна прыклаўшы руку да вуха. Гэта была не нейкая там хітраватасць, а вынікі таго ж змагання. Як-ніяк адзінаццаць гадоў правёў паэт у астрогах, зведаў холад і адзіноту карцэраў, катаванні і галадоўкі. Зняволеныя вучыліся слухаць і бачыць нават праз тоўстыя турэмныя сцены. Іх слых і зрок проста калечылі. Вось чаму Піліп Сямёнавіч заўсёды садзіўся ў першыя, але не чыноўныя крэслы.

Неяк мы з Хведарам Чэрнем сустрэлі яго на вуліцы Карла Маркса, усяго абвешанага нейкімі бідончыкамі, авоськамі. Павіталіся.

— Куды вы гэта, галубы маладыя, — пацікавіўся ён, весела прыжмурыўшы вочы, — хоць здагадваюся... Шкада, што не магу скласці кампанію, іду папаўняць харчовыя запасы.

Не думаю, што слыў пісьменнік нейкім гурманам, але, пэўна, памятаючы далёкія турэмныя галадоўкі, стравай на ўласны сялянскі густ ніколі не грэбаваў.

Многа анекдатычнага перадавалася з вуснаў у вусны пра так званы пестракоўскі партфель, дзе заўсёды побач з рукапісам добра пачуваў сябе слоік з марынаваным у часнаку селядцом ды брусочак сала — самая лепшая закусь Піліпа Сямёнавіча. Я нават у свой час напісаў пра гэта верш. Прывяду тут толькі некалькі строф:

Хто ля партфеля не цёрся?!
Бачыў ён столькіх і столькі.
Кагосьці сцягнуў з трыбуны,
Камусьці не дагадзіў.
Быў ён сваім у рэдакцыях,
Каля бяседных столікаў.
І ў баравых Каралішчавічах
Ён каралём хадзіў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не знік ён і не растварыўся
Між выскачкамі-іменамі.
Гром барыкадны ідзе з ім
І лесавічанкі сум.
Шлях не з гары, а з-пад гора.
Цяжка, Піліп Сямёнавіч?
Ведаю, што нялёгка.
Дайце партфель паднясу!

Дадам да гэтага невялікую згадку Хв. Жычкі з тых жа Каралішчавіч: «У Каралішчавічах Піліп Сямёнавіч нас вучыў, як правільна сушыць абутак і шкарпэткі, марынаваць селядца, варыць яйкі ўсмятку, як на базары выбіраць смачнае сала. Сапраўды, ужо смачнейшае, чым было ў Піліпа Сямёнавіча, сала наўрад ці знойдзеш. Аднойчы ён прывёз з Камароўкі ў Каралішчавічы ладны кус і не панёс яго на кухню, а засунуў пад падстрэшак ганка, а сам пайшоў адпачываць. Каты, а іх было там многа, разнюхалі тое сала і пачалі дзерціся па слупках, каб дабрацца да прынады. Мы ледзь дагадаліся, чаго яны туды дзяруцца. Адагналі, разбудзілі Піліпа Сямёнавіча.

— Во фашыстоўцы! — абурыўся той».

«Фашыстоўцы» — слова менавіта пестракоўскае, вынесенае з тых жа турэмных сутарэнняў. Не раз ім адбіваўся пісьменнік ад сваіх крыўдзі-

целяў і нядобразычліўцаў, а з часам на вуснах маладзейшых яно набыло і зусім жартаўлівы сэнс.

Такі гэта быў чалавек. У выбары сяброў ніколі не зважаў на ўзроставую розніцу, цаніў у чалавеку талент, шчырасць, няхітрасць, ну і, вядома ж, дабрыню. З маладымі яго можна было бачыць часцей, чым са старэйшымі.

Антон Бялевіч неяк расказваў нават з крыўдай:

— Заходжу я ў «тэлевізар» (так называлі кавярню на рагу Дома друку. — **К. К.**). Прысеў да століка, за якім гамоняць Піліп і Саня Шлег. Пестрак на мяне ніякай увагі. Я загаварыў, а ён паварочвае сваю лысую галаву і кажа: «Антоша! Не перашкаджай мне размаўляць з маім рэдактарам Шлегам». Я ўзлаваўся, паслаў яго... і пайшоў.

Незадоўга да смерці ў пісьменніка прапаў яго партбілет. Дзе ні шукаў — няма. Ці ўкралі, ці згубіў?.. Па тым часе гэта лічылася ледзь не злачынствам. Партыйныя калегі горача абаранялі старога бальшавіка і рэвалюцыянера ад вышэйшага партыйнага начальства. На сходзе, дзе «прапясочвалі» вінавата, нехта нават згадаў той даўні сход з асуджэннем Б. Пастэрнака і знайшоў у гэтым нейкую сімвалічную аналогію. Пакаралі Піліпа Сямёнавіча па партыйных мерках сурова, але не самай суровай карай, выдаўшы новы білет. Пасля смерці пісьменніка яго жонка, праглядаючы кнігі з дамашняй бібліятэкі, між старонак адной з іх знайшла тую самую згубу.

Аб пісьменніцкай працы мяркуюць не па колькасці напісанага, а па яго значнасці. І калі, называючы імя, мы тут жа называем самыя галоўныя творы, — гэта ўжо адзнака вялікай павагі да гэтага імя. Прамаўляючы імя Піліпа Пестрака, я з вялікай пашанотай называю і яго раманы «Сустрэнемся на барыкадах», «Серадзібор», і той, незакончаны, — «Лесавічанка». Дадаю сюды яшчэ вершы, апавяданні, публіцыстыку, пераклады. Прачытайце іх, хто не чытаў, і вы самі скажаце: «Гэта — значна!»

*Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў*
*Казіміра Камейшы.*

## ДАРОЖКА

Дарожка з вербаў выбегла,
памчала за сяло,
як быццам з дому выгнану
бяздолле павяло.

Ляцела, прыпынілася,
цыгнула за масток,
мураўкай пакацілася,
нырнула у лясок.

Зялёнаю красуняю
трашчала па сучках,
пастушкаю-пявунняю
шугнула па кустах.

З лясочка ў жыта роўнае,
як хваля, паплыла
і жнейкаю працоўнаю
далёка жаць ішла.

То хусткаю кяцістаю
між хваляў прамільгне,
то дужкай залацістаю —
сярпом на міг блісне.

А як за жытам вольная
дыхнула сенажаць, —
цябе яна, прасторная,
ляцела абнімаць.

То стан твой стужкай красачнай
абніме-абаўе,
прытуліцца, як ласачкай,
вянок табе саўе.

І так пляла-старалася
дзявочы твой прыбор,
пакуль ты не схавалася
ў далёкі цёмны бор.

Ішла ты борам, сумная,
дзіцячаю пятой,
прыціхлая, задумная,
забытай сіратой.

Бор ціхім шумам дзедаўскім
цябе багаслаўляў
і, як бы нешта ведаўшы,
нічога не казаў.

Як з бору ў поле, шчырая,
разбегшыся, пайшла,
махнула птушкі крыллямі,
ляцела, як страла.

А потым бабкай згорбленай
на горку — ў добры час!
Там дзед-гасцінец з торбаю
бандураю брынчаў.

І ў далі акунулася,
як з ношкай, пабрыла,
прыстала, аглянулася,
слязамі заплыла.

Жабрачкай-папрашайкаю
ў шырокі свет пайшла,
няскончанаю байкаю
ты гора панясла.

Калі ў каптан адзенешся,
лахманная сям'я?
Калі ж багачкай вернешся,
дарожанька мая?

***1936, сакавік,***
***Вільня, астрог «Лукішкі»***

## ПУШКІНСКАЯ ВОСЕНЬ

На полі ціш. Даўно пажаты нівы,
І даль мярэжыцца асенняю імглой,
Напевы дальнія, як бомы-пералівы,
Плывуць з далін над ціхаю зямлёй.

Міжволі хочацца заслухацца ў прасторы,
Адчуць свае дзіцячыя гады,
Дзе кожны паварот дарогі мне гаворыць
Аб пройдзеным, далёкім, маладым.

Не развітацца мне з таёмным шумам сосен,
Што ўдаль глядзяць з курганнай вышыні,
Дзе ліраю звініць мне пушкінская восень
І будзіць спеўныя для сэрца думы-сны.

І любасць цёплая, як хмарка ў небе чыстым,
Плыве у сэрца з пушкінскіх карцін, —
Той спеў дзяцінства ўвечар серабрысты
Кранае «Бурею» і «Вновь я посетил...»

Здалёку чую шум знаёмы сосен,
Нясу заветнае любові плынь
Да тых бяскрайніх, светлых далячынь,
Дзе ліраю звініць мне Пушкінская восень...

***1949***

## ДЗІВАСІЛ

Ёсць расліна дзіўная ў народзе,
Яна ходзіць казкаю па ўсіх,
Мо калісьці пры цяжкой нагодзе
Так празвалі людзі — «дзівасіл».

Мы сядзім ля плота. Бабка з намі —
Ўсё вядзе свой даўні, дзіўны сказ,
Як жылося цяжка пад панамі,
Як пабіты сын быў — Апанас,

Як паны яму пабілі грудзі,
Бо змагаўся ён за долю ўсіх...
«Я ўжо думала, што жыць не будзе,
Аж знайшлі ратунак... дзівасіл...

Ён падняў на ногі майго сына...»
Бабка кажа рознае пасля,
Як раслінку гэтую так дзіўна
Напаіла сокамі зямля.

А ён вось за плотам жоўтым квеццем
Ўсё ківае нам над галавой
І не ведае, што ён на свеце
Так здружыўся з людскаю бядой.

«Калі вам на сэрцы цяжка стане,
Адбярэ вам немач рэшту сіл,
Не сумуйце, дзеткі... — Бабка ўстала. —
Дам вам на дарогу дзівасіл».

***1956***

## ЖУРАЎЛІ

Станьма. Цішыня. Як адпачын зямлі.
Ледзь чутны дзятла стук у гушчыні далёкай...
Як толькі можа ўвысь заглянуць вока,
У вырай цягнуць ў небе жураўлі...

Ўсё чуе тут асеннюю пару:
Бяроз на ўскраіне задума расставання,
Ў някошанай траве вужакі шалястанне
І сумнае пад небам: кру-кру-кру.

Ляціце, родныя! І я б хацеў мець вашы крыллі,
Аб чым у цяжкі час не раз душой згараў.
Мне і цяпер к палёту мары не астылі —

Я ж мушу тут адкрыць нязнаны рай!
І што б часы нам ні судзілі,
Я не пакіну родны край!

***1959***

## ДРУГУ НЕВЯДОМАМУ

Знаць, недарма сплятаў вянкі Петрарка,
клаў на алтар любві свяшчэнны дар
і на пасмех нікому не аддаў
сваіх праменняў сэрца яркіх.

Бо ад тугі да шчасця шлях не гладкі,
яно куецца сэрцам кожны дзень
і за сабой нястрымліва вядзе
агеньчыкам патульным, як украдкам.

Вось так і я, нязнаны, сэрцам жудны,
услухаўся ў асенні шум густы
і у прастор задуманы і мудры,

і за лістком сачу я залатым —
і скрозь з павевам ветра прыгалубным
шлю другу невядомаму лісты...

*1959*

## ВЯЧЭРНІЯ ДАЛІ

***Памяці Веры Харужай***

Вячэрнія далі вялі за сабой
Вячэрняю, шэрай задумай,
Нямой пуцявінай, знаёмай журбой,
Сірочаю казкаю сумнай.

Сярод камяністых палёў праляглі
Любімыя сэрцу дарожкі,
Па долах да ціхай стаптанай зямлі
Прыпалі дрымучыя вёскі.

Туды ты ляцела з гарачай душой
І сыпала кветкі уцехі,
І шум захаплення з табою ішоў —
Цвілі саламяныя стрэхі.

Быў шумны і верны народны гушчар,
Ён знаў залатыя прамені —
Цану непадкупных, крывавых ахвяр
І гарт запаветных імкненняў.

Ён ведаў і ведае, чым ты была
Для долі кайданнай, цямрычнай, —
Ты ўсё для народа нясла, аддала,
І смерцю сваёй гераічнай

Ты памяць пакінула ў сэрцах жывых,
Святую пакінула памяць,
І ведай — у буднях і днях баявых
Наш край нашай славы не сплямíць,

І там над шляхамі, дзе шум баравы
Пра штурмы і смерці гаворыць,
Не згасне шырокі прастор агнявы,
Што выткалі ціхія зоры...

*1960*







**Уладзімір ГУСАКОЎ,**

намеснік старшыні Прэзідыума
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

# ЯКІМІ ПАВІННЫ БЫЦЬ ІНФРАСТРУКТУРА І СТРАТЭГІЯ ІНАВАЦЫЙНАЙ ЭКАНОМІКІ

Галоўнай адметнасцю беларускай эканомікі ў апошні час з'яўляецца ўстойлівае збалансаванае развіццё. Практычна ўсе буйныя прадпрыемствы, ад якіх залежаць асноўныя аб'ёмы вытворчасці прадукцыі для ўнутранага рынку і экспарту, развіваюцца дынамічна і маюць добрыя перспектывы. Умацоўваецца фінансава-крэдытная сістэма краіны, гарантам якой з'яўляецца прапарцыянальнае таварнае і валютнае забеспячэнне. Актыўна развіваецца малое і сярэдняе прадпрымальніцтва, якое займае стабільныя нішы на рынку спажывецкіх тавараў і сервісу, растуць якасць і канкурэнтаздольнасць гатовай прадукцыі і прадукцыйнасць працы. Усё гэта стала базай для ўстойлівага росту ўзроўню і аб'ёмаў нацыянальнай вытворчасці, нарошчвання інвестыцый у асноўны і абаротны капітал, паступовага тэхнічнага і тэхналагічнага пераабсталявання прадпрыемстваў і інтэнсіфікацыі вытворчых, працоўных і гандлёва-збытавых працэсаў.

Пры захаванні сучасных тэмпаў развіцця нацыянальнай эканомікі неабходна разлічваць, што валавы ўнутраны прадукт краіны ў наступныя пяць гадоў (у сярэднім за 2006—2010 гг.) узрасце ў параўнанні з сярэднегадавым узроўнем за 2001—2005 гады ў 1,5 раза, а за 201—2015 гады — у сярэднім не менш чым у два разы. Па ацэнках айчынных і замежных экспертаў, гэта даволі высокія тэмпы развіцця эканомікі, уласцівыя нямногім дзяржавам (праўда, тут трэба ўлічваць зыходны ўзровень, або пункт адліку ўстойлівага росту). Гэта падкрэслівае своеасаблівасць беларускага шляху сацыяльна-эканамічнага росту ці з'яўленне на сусветным рынку асаблівага феномена — беларускай мадэлі ўстойлівага развіцця.

Тым не менш для таго, каб краіна захавала дасягнутыя тэмпы эканамічнага росту ў перспектыве і выйшла на прагнозныя паказчыкі Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця, устаноўленыя на 2006—2010 гады і далей, беларуская эканоміка павінна набыць зусім іншыя рысы і рэгулятары.

Трэба сапраўды прызнаць, што метады прамога цэнтралізаванага кіравання і фінансавага забеспячэння эканомікі практычна сябе вычарпалі. Яны, зразумела, могуць і павінны мець месца ў будучым, але ўжо наўрад ці магчыма «выціснуць» дадатковыя тэмпы росту эканомікі за кошт узмацнення жорсткасці адміністрацыйных рычагоў. На ўсё свой час і месца. Адміністрацыйныя механізмы былі незаменныя і адыгралі сваю станоўчую ролю ў 90-я гады мінулага стагоддзя, калі трэба было ўтрымліваць эканоміку ад развалу, прымаць экстраныя меры па спыненні крызісу і знаходзіць хуткія рашэнні «выратавання» важнейшых галін народнай гаспадаркі і прадпрыемстваў.

Аднак цяпер, калі відавочныя крызісныя з'явы ўжо ўстаранёны і эканоміка краіны ступіла на шлях хуткага аднаўлення, калі для забеспячэння далейшага прагрэсу неабходны новыя эфектыўныя эканамічныя, прававыя і рыначныя механізмы, роля адміністрацыйных метадаў павінна быць істотна зменшана. Акрамя таго, захаванне жорсткай цэнтралізацыі ў новых умовах можа толькі стрымліваць станаўленне і развіццё дзейсных эканамічна-прававых і рыначных адносін, а значыць і саміх тэмпаў узнаўлення нацыянальнай эканомікі. Такім чынам, у рэальных галінах народнай гаспадаркі павінна адбывацца паступовае замяшчэнне адміністрацыйных рычагоў — прававымі і эканамічнымі, цэнтралізаваных метадаў кіравання — самакіраваннем і самарэгуляваннем, бюджэтных фінансаў — самафінансаваннем і ўменнем саміх прадпрыемстваў і таваравытворцаў зарабляць сродкі. Пры гэтым неабходны самыя спрыяльныя ўмовы для ўмацавання рыначных адносін, стварэння разгалінаванай рыначнай інфраструктуры, падтрымання высокага духу канкурэнтаздольнасці эканомікі, станаўлення розных форм вытворчасці і гаспадарчай дзейнасці, распаўсюджання і ўмацавання прыватнай уласнасці, паскоранага развіцця розных форм прадпрымальніцтва, а таксама для стымулявання якасці тавараў, прадукцыйнасці працы і творчай ініцыятывы.

У сувязі з гэтым самай важнай і вялікай задачай, якая стаіць перад краінай і прызначана ўключыць у сябе вырашэнне ўсіх акрэсленых пытанняў, з'яўляецца паступовае (можна сказаць паскоранае) фарміраванне асноў эканомікі інавацыйнага тыпу, без чаго немагчыма не толькі захоўваць наяўныя тэмпы росту на перспектыву, але і вытрымліваць канкурэнцыю з замежнымі пастаўшчыкамі спажывецкай прадукцыі (асабліва пасля магчымага ўступлення Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, якое запатрабуе максімальнай лібералізацыі знешняга і ўнутранага гандлю і поўнага адкрыцця нацыянальных рынкаў для замежных пастаўшчыкоў). Як вынікае з вопыту найбольш развітых краін і рэгіёнаў, толькі паскоранае фарміраванне інавацыйнай эканомікі, здольнай да актыўнага засваення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, дазволіць павысіць эфектыўнасць нацыянальнай сістэмы вытворчасці і сэрвісу, зрабіць айчынную эканоміку канкурэнтнай у сусветнай гандлёва-эканамічнай прасторы і сфарміраваць устойлівыя перспектывы для яе развіцця.

Інавацыйная эканоміка патрабуе шырокага асэнсавання. Гэта не толькі дадатковыя і апераджальныя ўкладанні ў навуку і інавацыі і не толькі атрыманне некаторай часткі навукаёмістай і канкурэнтаздольнай прадукцыі для паставак на ўнутраны і міжнародны рынкі, але гэта перш за ўсё скразное тэхніка-тэхналагічнае пераабсталяванне ўсіх вядучых галін і прадпрыемстваў народнай гаспадаркі навейшымі тэхнічнымі сродкамі, хуткае асваенне ва ўсіх галінах сучасных і перспектыўных тэхналогій і асартыменту прадукцыі, здольнай дамінаваць на рэгіянальных і міжнародных рынках, паскоранае нарошчванне навукаёмістасці ўсіх відаў вытворчасці. Навука і інавацыі з лакальных і фрагментарных пазіцый у развіцці эканомікі (для даведкі: высоканавукаёмістая прадукцыя нават у вядучых галінах народнай гаспадаркі ў цяперашні час не перавышае 5 працэнтаў) павінны стаць прыярытэтнымі, задаваць умовы, тэмпы і аб'ём вытворчасці канкурэнтнай прадукцыі з рознымі крытэрыямі якасці пад разнастайны спажывецкі попыт, але зыходзячы пераважна з самых высокіх стандартаў.

Разлікі паказваюць, што для захавання і ўмацавання канкурэнтаздольнай вытворчасці інавацыйная прадукцыя ў валавым унутраным прадукце краіны да 2010 года павінна складаць у сярэднім не менш як 20 працэнтаў, а да 2015 года — не менш як 40 працэнтаў. Гэта, зразумела, каласальная задача для сучаснай эканомікі Беларусі, у якой не створана неабходная інавацыйная інфраструктура. Але іншага шляху няма, калі краіна сапраўды жадае на раўнапраўных умовах канкурыраваць з вядучымі замежнымі партнёрамі і інтэгравацца (без дыскрымінацыі) у сусветную эканамічную прастору.

Складанасць вырашэння задачы ў тым, што вядучыя міністэрствы і спецыялісты ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва і кіравання да цяперашняга часу яшчэ кан-

чаткова не ўсвядомілі важнасці і неабходнасці для краіны інавацыйнага развіцця. На розных узроўнях можна сустрэцца з відавочным неразуменнем інавацыйнага шляху, а то і адкрытым ігнараваннем такой перспектывы, са спасылкай на тое, што гэта як быццам бы толькі віртуальныя ідэі некаторых «неўтаймоўных» вучоных.

Менавіта таму вырашэнне гэтай маштабнай і неадкладнай задачы патрэбна пачынаць з арганізацыі сістэмнай работы па навучанні, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў кіраўнікоў усіх рангаў вышэйшага і сярэдняга звяна, а таксама з павышэння іх кваліфікацыі ў пытаннях інавацыйнага развіцця нацыянальнай эканомікі. У роўнай ступені гэта датычыцца ўсіх — і спецыялістаў, і кіруючага персаналу, і вядучых вучоных.

Інавацыйная эканоміка — не выдумка і не абстрактная ідэя. Гэта рэальнасць цяперашняга часу і непазбежнасць перспектыўнага развіцця. Чым раней краіна ўсвядоміць гэту непазбежнасць і зможа стварыць неабходную інфраструктуру інавацыйнага развіцця, тым больш пэўнымі, празрыстымі і ўстойлівымі будуць яе перспектывы.

Сёння альтэрнатывы інавацыйнаму развіццю няма, як і няма неабходнасці пошуку іншых шляхоў арганізацыі нацыянальнай эканомікі. Шлях паскоранага інавацыйнага прагрэсу даказаў сваю перавагу, гэта шлях, які правераны сусветнай практыкай. Зразумела, пры гэтым павінны захоўвацца нацыянальныя інтарэсы, асаблівасці, тэндэнцыі і дасягненні.

Што патрэбна зрабіць для фарміравання мадэлі «беларускай інавацыйнай эканомікі»? Бясспрэчна, гэту мадэль неабходна ўсведамляць як комплекс і шырокую разнастайнасць навейшых матывацыйных і рэгулятарных механізмаў. Падрабязна апісаць яе ў невялікім артыкуле практычна немагчыма, таму паспрабуем канцэптуальна раскрыць толькі элементы інфраструктуры і сутнасць пабудовы такой эканомікі.

Інавацыйная эканоміка, як і эканоміка наогул, уяўляе сабой сістэму механізмаў, метадаў, мер, сродкаў, катэгорый і адносін. Зыходзячы з самых строгіх патрабаванняў, структура і набор элементаў інавацыйнай эканомікі мала чым адрозніваюцца ад традыцыйных. Аднак па змесце сукупнасць і сэнс элементаў інавацыйнай эканомікі маюць не толькі прынцыповыя адметнасці, але і іншую пабудову. Акрамя таго, інавацыйная эканоміка ўключае ў сябе шэраг элементаў, якія адсутнічаюць у традыцыйнай эканоміцы або ёй не ўласцівы. Гэта, напрыклад, венчурныя структуры і фонды, інавацыйныя паркі, рызыкоўныя даследаванні, навукова-вытворчыя кластэры і інш. У інавацыйнай эканоміцы важна найперш правільнае разуменне, а потым мэтавае фарміраванне скразной інфраструктуры і напаўненне элементаў гэтай інфраструктуры канкрэтным інавацыйным зместам.

З навуковых даследаванняў вынікае, што стварэнне інфраструктуры беларускай інавацыйнай эканомікі можа быць прыкладна наступным:

фарміраванне стымулюючага заканадаўства (найперш у сферы абароны інавацыйнай і інтэлектуальнай уласнасці);

станаўленне сістэмы кіравання інавацыйнай дзейнасцю і яе рэгулявання;

пераструктурызацыя галін і вытворчасцей народнай гаспадаркі па прыярытэтах інавацыйнага развіцця і фарміраванне новай структуры нацыянальнай эканомікі інавацыйнага тыпу;

фарміраванне дзейсных матывацыйных механізмаў стымулявання інавацыйнай дзейнасці, навуковай і інтэлектуальнай працы;

стварэнне новай скразной сістэмы падрыхтоўкі кадраў;

стварэнне развітага і разгалінаванага рынку інтэлектуальнай уласнасці і інавацыйнай прадукцыі.

Коратка ахарактарызуем гэтыя элементы, або, іншымі словамі, карэнныя складальныя эканомікі інавацыйнага тыпу.

*Распрацоўка і прыняцце заканадаўства, накіраванага на падтрымку і стымуляванне інавацыйнага развіцця нацыянальнай эканомікі.* Навуковыя працы пацвярджаюць, што такое заканадаўства павінна быць скразным, усебаковым, неадваротным і вызначальным. У ім не можа заставацца месца для адвольных распараджэнняў адміністрацыйных структур. Дзейнасць галін і прадпрыемстваў, гэтак жа як і дзей-

насць кіруючых і кантралюючых органаў, павінна быць заснавана на заканадаўчым праве, на скразным дзеянні прававых механізмаў. Пры гэтым прадпрыемствы, таваравытворцы і прадпрымальнікі з аднаго боку, і органы дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання — з другога, павінны стаць партнёрамі ў ажыццяўленні скразной інавацыйнай дзейнасці і ўзаемна зацікаўленымі суб'ектамі паскоранага інавацыйнага развіцця краіны. Любая проціпраўная дзейнасць бакоў (асабліва кіруючых структур), якая не ўпісваецца ў інавацыйнае заканадаўства, павінна строга карацца па законе або па праве. Пры гэтым заканадаўства не можа быць абмежавальным, яно павінна стымуляваць інавацыйную і прадпрымальніцкую дзейнасць: нельга караць ініцыятыву, калі яна накіравана на пошукі інавацыйных шляхоў і крыніц развіцця.

Асаблівае месца ў заканадаўстве павінна належаць прававой абароне інавацыйнай і інтэлектуальнай дзейнасці і ўласнасці, якая ствараецца ў яе выніку. Вучоным, спецыялістам, таваравытворцам і прадпрымальнікам павінны быць гарантаваны прававая абарона, падтрымка, ахова і недатыкальнасць інавацыйнай і інтэлектуальнай уласнасці. Краіна толькі такім чынам можа набыць імідж прававой дзяржавы, у якой аб'екты інтэлектуальнай уласнасці ахоўваюцца законам і куды без асцярогі можна ўкладваць капітал.

*Станаўленне адэкватнай сістэмы рэгулявання інавацыйнай дзейнасці і кіравання ёю.* Зразумела, гэты важны атрыбут інавацыйнай эканомікі павінен грунтавацца выключна на прававых і эканамічных механізмах. У адрозненне ад права і эканамічнага інструментарыя ён прызначаны вызначаць, выпрацоўваць і кантраляваць прававыя і эканамічныя адносіны. Такім чынам, сістэме кіравання і рэгулявання ў інавацыйнай эканоміцы ўласцівы дваісты характар. Гэта сістэма, па-першае, сама павінна быць спараджэннем прававых і эканамічных механізмаў і адносін (яе неабходнасць вызначаецца правам і эканамічным інструментарыем), а, па-другое, служыць індыкатарам выпрацоўкі адэкватных прававых і эканамічных мер, інструментам прывядзення іх у дзеянне і забяспечваць кантроль за іх функцыянаваннем. Разам з тым трэба падкрэсліць, што арганізацыя і функцыянаванне сістэмы кіравання інавацыйнай дзейнасцю і яе рэгулявання павінны зыходзіць з паўсядзённай неабходнасці інавацыйнага развіцця краіны і з яе інтарэсаў у нарошчванні інавацыйнага патэнцыялу. У заканадаўстве важна прадугледзець, што пабудова гэтай сістэмы павінна быць простай, празрыстай і малазвеннай, а дзейнасць кіруючых і рэгуляцыйных структур выключаць складаныя і дэструктыўныя бюракратычныя працэдуры. Выніковасць дзейнасці кіруючых структур павінна ацэньвацца і стымулявацца ў залежнасці ад тэмпаў і вынікаў развіцця інавацыйнай эканомікі і павышэння эфектыўнасці канкрэтных галін і прадпрыемстваў.

*Пераструктурызацыя традыцыйнай эканомікі і фарміраванне новай структуры нацыянальнай эканомікі інавацыйнага тыпу.* Гэта карэнны і найбольш складаны элемент будучай эканомікі, ён патрабуе не толькі правільнага выбару і выпрацоўкі перспектыўнай стратэгіі развіцця, але і немалых намаганняў па ажыццяўленні стратэгічных прыярытэтаў на практыцы.

Тут важна аб'ектыўна ацаніць магчымасці і перспектывы дзеючых у краіне галін і прадпрыемстваў з пункту гледжання іх канкурэнтных магчымасцей і пераваг, наладзіць сістэмны маніторынг сусветнага і рэгіянальнага рынкаў канкрэтных відаў прадукцыі, атрымаць узважаныя характарыстыкі мэтавай адаптацыі нацыянальных таваравытворцаў і пастаўшчыкоў да патрабаванняў міжнароднага гандлю, а таксама ўстанавіць рэальныя магчымасці бездыскрымінацыйнай інтэграцыі нацыянальнай эканомікі ў сусветную. Першасным арыенцірам такой пераструктурызацыі нацыянальнай эканомікі ў адпаведнасці з умовамі сусветнага гандлю павінна стаць маштабная падрыхтоўка галін і прадпрыемстваў краіны да ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.

Што для гэтага неабходна зрабіць у першую чаргу?

Па-першае, патрэбна вызначыць вядучыя галіны і прадпрыемствы (або гэтак званыя «пункты росту», паскоранае развіццё якіх дазволіць вывесці на перадавыя

*пазіцыі ўсю астатнюю эканоміку, зразумела, з умовай яе паралельнага карэннага* абнаўлення) і на іх паскоранай мадэрнізацыі засяродзіць усе магчымыя рэсурсы і капіталы — бюджэтныя, цэнтралізаваныя, уласныя, пазыковыя і інш. Безумоўна, на першым часе «пунктаў росту» павінна быць не так і многа, бо для адначасовага развіцця ўсіх галін і вытворчасцей мы не маем адпаведных сродкаў. Акрамя таго, у краіне можна сфарміраваць «прарывы» ў эканамічным развіцці пакуль толькі па асобных ключавых напрамках, дзе ёсць адпаведныя напрацоўкі і карэнная мадэрнізацыя на самай справе можа даць патрэбныя вынікі. Ужо сёння яны забяспечваюць пастаўкі (могуць пастаўляць) прадукцыі, якая актыўна і бесперашкодна запатрабавана на сусветным рынку.

Па-другое, на базе прыярытэтных і вядучых галін і прадпрыемстваў, якія могуць стаць «пунктамі росту», неабходна сфарміраваць своеасаблівыя кластэры, куды павінны ўваходзіць пастаўшчыкі рэсурсаў і сыравіны, перапрацоўчыя падраздзяленні, гандлёва-збытавыя структуры, фінансава-крэдытныя падраздзяленні і г. д. Такія кластэры дазволяць стварыць тэхналагічныя ланцужкі — ад атрымання сыравіны да збыту (унутранага і знешняга) гатовай якаснай прадукцыі, якая адпавядае самаму патрабавальнаму спажывецкаму попыту, і атрымліваць неабходныя прыбыткі для ўстойлівага развіцця. Кластэры могуць стварацца ў розных формах: у выглядзе кааператыўна-інтэграцыйных аб'яднанняў, фінансава-прамысловых груп, карпарацый, холдынгаў і іншых разнастайных вертыкальна-гарызантальных аб'яднанняў галін і прадпрыемстваў. Кластэры могуць быць як чыста нацыянальнымі кампаніямі, так і транснацыянальнымі, дзе нацыянальны капітал будзе кааперавацца з замежнымі інвестыцыямі і бесперашкодна выходзіць на сусветныя рынкі. Гэта вельмі важна, бо інтэграцыя ў сусветную эканоміку і заняцце на міжнародных рынках устойлівых ніш магчымы толькі пры ўмове актыўнага прыцягнення замежнага капіталу ў айчынную вытворчасць у розных формах — прамыя і партфельныя інвестыцыі, найноўшыя машыны і тэхналогіі, ноу-хау, сучасныя веды і лепшыя спецыялісты.

Па-трэцяе, неабходна актыўна фарміраваць карпаратыўную навуку. Па сутнасці, уся прыкладная навука павінна быць у складзе галін, вядучых буйных прадпрыемстваў і кластэрных структур. Прыкладная навука — гэта неад'емны структурны элемент усіх перспектыўных нацыянальных і транснацыянальных карпарацый, без чаго, шчыра кажучы, немагчыма іх інавацыйнае развіццё. Толькі моцная і здольная навука, якая валодае метадамі і тэхнікай самых найноўшых даследаванняў і распрацовак, можа забяспечыць кластэрным структурам канкурэнтныя і інавацыйныя перавагі. Такую навуку ў сваю чаргу патрэбна актыўна фарміраваць і па вартасці стымуляваць і цаніць. Нізкааплатная і недастаткова ацэненая навука, як правіла, не можа даваць маштабных інавацыйных распрацовак, у лепшым выпадку гэта будуць фрагменты. Эканомія на навуцы — гэта не выйгрыш дзяржавы, галін і прадпрыемстваў, як некаторыя лічаць, а іх прамы пройгрыш, хоць і не бачны на першы погляд. Можна сказаць — гэта ўпушчаная выгада і абмежаванне магчымасці паскоранага інавацыйнага развіцця.

*Фарміраванне дзейсных матывацыйных механізмаў стымулявання інавацыйнай дзейнасці, навуковай і інтэлектуальнай працы.* Трэба падкрэсліць, што ў аснове любой стваральнай дзейнасці ляжыць матэрыяльная зацікаўленасць. У развіцці інавацыйнай дзейнасці і станаўленні інавацыйнай эканомікі матэрыяльная зацікаўленасць тым больш з'яўляецца вызначальнай. Значыць, паступова патрэбна адыходзіць ад схемы: спачатку вынік, а затым яго аплата — і ўводзіць падвойную мадэль, якая можа складацца з дзвюх частак: а) першапачатковая дзейсная сістэма матывацыі (зацікаўленасці) для стварэння надзейнай базы і зыходнага пачатку высокаэфектыўнай інавацыйнай (ініцыятыўнай, прадпрымальніцкай) працы; б) зыходны пачатковы ўзровень матывацыі важна ўвязаць з вынікамі інавацыйнай дзейнасці, пры неабходнасці (магчымасці) скарэкціраваць яго на канчатковыя вынікі вытворчасці і ў рэшце рэшт вызначыць аптымальныя памеры матывацыі высокаэфектыў-

най дзейнасці. Бясспрэчна адно — выніковая праца, якая забяспечвае паскоранае інавацыйнае развіццё, павінна мець вышэйшую ацэнку і стымулы.

Адначасова з дзеючымі формамі і метадамі стымулявання высокапрадукцыйнай і эфектыўнай працы (павышаныя стаўкі і разрады аплаты працы, прэміі, дадатковыя формы аплаты і інш.) павінны шырока ўводзіцца новыя рынкавыя высакадзейсныя формы (удзел у прыбытках, налічэнне працэнтаў ад даходаў і дывідэнды, назапашанне і ўзнаўленне капіталу і рэальнай маёмасці і г. д.).

*Стварэнне новай скразной сістэмы падрыхтоўкі кадраў.* Гэта карэннае звяно інавацыйнай эканомікі. Без прафесійна падрыхтаваных кадраў у галіне станаўлення і развіцця інавацыйнай дзейнасці, якія валодаюць найноўшымі метадамі арганізацыі і ажыццяўлення інавацыйных працэсаў, а значыць без адпаведнага менталітэту шырокага кола кіраўнікоў і спецыялістаў цяжка спадзявацца на станаўленне ў краіне разгалінаванай інавацыйнай сістэмы і паскоранае развіццё інавацыйнай эканомікі. У цяперашні час у нацыянальнай сістэме кадравага забеспячэння гэта самае слабое звяно. Сэнс, метадалогію, методыку арганізацыі і ажыццяўлення інавацыйнай дзейнасці, на жаль, слаба ўяўляюць не толькі кіраўнікі і спецыялісты галін і прадпрыемстваў, але нават многія вучоныя. Таму ў краіне практычна з самага пачатку неабходна разгортваць арганізацыю сістэмы падрыхтоўкі кадраў па інавацыйным развіцці як у ходзе асноўнай падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай прафесійнай кваліфікацыі ў вышэйшых навучальных установах у разрэзе галін, так і ў працэсе перападрыхтоўкі кіраўнікоў і спецыялістаў пасля заканчэння ВНУ. Для гэтага павінны быць задзейнічаны розныя формы — падрыхтоўка, перападрыхтоўка, павышэнне кваліфікацыі, стажыроўкі, вучэбныя семінары і інш. Пры сур'ёзнай пастаноўцы работы асноўныя азы ведаў па інавацыйным развіцці патрэбна даваць ужо ў агульнаадукацыйных школах, затым паглыблена вывучаць гэты прадмет у вышэйшых навучальных установах і ва ўстановах перападрыхтоўкі пасля заканчэння ВНУ. Такім чынам, у бліжэйшай перспектыве ў краіне зможа сфарміравацца скразная сістэма адукацыі і падрыхтоўкі прафесійных кадраў, якія добра ведаюць сутнасць інавацыйнага развіцця і здольны арганізаваць выніковую інавацыйную дзейнасць.

Дзеючая ў краіне сістэма адукацыі, уключаючы разнастайныя прадметы і дысцыпліны на ўсіх узроўнях агульнаадукацыйнай і прафесійнай падрыхтоўкі, павінна зыходзіць з неабходнасці інавацыйнага развіцця краіны, нацэльваць на яго непазбежнасць і выкладаць асновы (з улікам прадметнай спецыфікі) арганізацыі і ажыццяўлення інавацыйных працэсаў. Пры такой пастаноўцы справы за кароткі час змогуць сфарміравацца патрэбная інавацыйная інфраструктура і эканоміка, усе яе галіны набудуць адпаведна мэтавыя тэмпы інавацыйнага развіцця.

*Стварэнне развітага рынку інтэлектуальнай уласнасці.* Бясспрэчна, гэта патрабуе заканадаўчага зацвярджэння аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці і прыняцця адпаведных гарантый яе свабоднага руху (абароны, перадачы, матывацыі, аплаты, выкарыстання і г. д.). Па сутнасці, інтэлектуальная ўласнасць павінна мець практычна тыя ж формы праваадносін, што і маёмасная, — валоданне, карыстанне, куплю-продаж, перадачу ў спадчыну, дарэнне, ацэнку, абарону, аплату і інш. Пры яе нармальным функцыянаванні не павінна ўзнікаць пытанняў, не ўрэгуляваных заканадаўствам.

Разам з тым інтэлектуальная ўласнасць па сваім першапачатковым паходжанні і фарміраванні — гэта перш за ўсё персаніфікаваная або прыватная ўласнасць, няхай нават у калектыўнай форме. У далейшым яна можа мець і набываць розныя формы і выяўленні — як прыватныя (уключаючы калектыўныя), так і дзяржаўныя або грамадскія (у выпадках, скажам, фінансавання інавацыйных распрацовак за кошт дзяржаўных сродкаў ці продажу аб'ектаў прыватнай інтэлектуальнай уласнасці дзяржаве).

Нягледзячы на тое, што інавацыйная дзейнасць павінна як мага паўней рэгулявацца (кантралявацца, стымулявацца і г. д.) дзяржавай, яна павінна мець і ўсе ўмовы для бесперашкоднага развіцця ў адпаведнасці з прынцыпамі свабоднага рынку.

Толькі неабходная эканамічная свабода фарміравання і руху інавацыйнай (інтэлектуальнай) уласнасці, у тым ліку ў выглядзе міжгаліновых і міжрэгіянальных пералівaў капіталу, можа дазволіць сфарміраваць дзейсныя самарэгулявальныя механізмы ўзмацнення, умацавання і пашырэння інавацыйных пачаткаў у эканоміцы.

*Стварэнне разгалінаванага і развітага рынку інавацыйнай прадукцыі.* У краіне павінны дзейнічаць мэтавыя праграмы і бізнес-планы мадэрнізацыі галін, буйных вытворчых аб'яднанняў і канкрэтных прадпрыемстваў, у якіх важна вызначыць канкрэтныя задачы інавацыйнага развіцця. Дзяржава, у сваю чаргу, прызначана кантраляваць, рэгуляваць і стымуляваць інавацыйныя працэсы. Гэта значыць, што дзяржава ў мэтах узмацнення інавацыйных пачаткаў і прадухілення механізмаў тармажэння павінна мець дзейсныя метады інтэрвенцыйнага ўмяшання ў эканоміку. Асноўным інструментам, пры дапамозе якога яна можа і павінна ўздзейнічаць на прадпрыемствы, з'яўляецца рынак інавацыйнай прадукцыі, які падтрымліваецца дзяржавай. У сувязі з гэтым дзяржава спрыяе ўмацаванню і развіццю рыначных адносін, якія дазваляюць ствараць патрэбныя ўмовы для канкурэнтнасці і спаборнасці галін, прадпрыемстваў і таваравытворцаў. Дзяржава адначасова абавязана стымуляваць вытворчасць і збыт інавацыйнай прадукцыі, ствараць перавагі галінам і прадпрыемствам, якія пастаўляюць на рынак інавацыйна-інтэлектуальную прадукцыю, і дэстымуляваць пастаўкі састарэлай і няякаснай прадукцыі. Для гэтага павінен быць задзейнічаны ўвесь арсенал макра- і мікраэканамічных метадаў і прававых рычагоў рэгулявання і санкцыянавання.

Разам з тым, як і ў адносінах да інтэлектуальнай уласнасці, неабходна актыўнае фарміраванне эканамічна свабоднага, даступнага, канкурэнтнага і збалансаванага рынку інавацыйнай прадукцыі, які валодае ўсімі неабходнымі якасцямі рыначных адносін. Важнейшай умовай гэтага рынку трэба прызнаць эканамічна свабоднае функцыянаванне інавацыйнай уласнасці, уключаючы бесперашкодны рух інавацыйнага капіталу, што рэгулюецца толькі правам, гэта значыць рух капіталу, які ўтвараецца ў выніку куплі-продажу інавацыйнай прадукцыі і ўласнасці.

Такім чынам, прадстаўленая структурная пабудова інавацыйнай сістэмы дае агульнае паняцце аб элементах, механізмах, метадах і сродках інавацыйнай эканомікі, якое з'яўляецца толькі канцэптуальным і патрабуе канкрэтнага напаўнення. Акрамя таго, многія іманентна ўласцівыя інавацыйнай дзейнасці катэгорыі арганізацыйнага, матывацыйнага або тоўарнага характару ў гэтым невялікім артыкуле ўвогуле не прадстаўлены. Яны патрабуюць спецыяльнага даследавання. Але нават разгледжаныя элементы інавацыйнай інфраструктуры ўказваюць на даволі няпросты характар інавацыйнай сістэмы па сваім змесце і на вельмі складаны працэс яе арганізацыі, станаўлення і развіцця. Нягледзячы на тое, што інавацыйная эканоміка з'яўляецца часткай агульнай эканомікі і яе заканамерным вынікам, яе змест значна глыбей і шырэй, а працэсы — нашмат складанейшыя. Гэта новы ўзровень эканомікі, яе пошукавы вынік (калі так можна сказаць), заснаваны на высокіх і найвышэйшых тэхналогіях. Інавацыйная прадукцыя хоць і з'яўляецца рыначным таварам з усімі ўласцівымі яму рысамі, але ў той жа час гэта і праграмна-мэтавы тавар, у вартасці якога значную частку, часцей пераважную, займае інтэлектуальная (навуковая) складаючая. Гэта тавар, створаны навукай, інтэлектам на аснове матэрыяльных сродкаў вытворчасці.

Калі краіна зможа ўсвядоміць важнасць і непазбежнасць інавацыйнага развіцця і перабудаваць у сувязі з гэтым усю ўнутраную структуру эканомікі, то яна зможа стаць раўнапраўнай удзельніцай сусветнага інавацыйнага працэсу.





## ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ

### Алег ЛОЙКА



Алег Антонавіч Лойка нарадзіўся 1 мая 1931 года ў горадзе Слоніме Гродзенскай вобласці ў сям'і фельчара.

Дзяцінства будучага пісьменніка прыпала на час пастаяннай змены рэжымаў і ўладаў. У 1939 годзе ён скончыў два класы польскай школы № 4 у Слоніме, а пасля таго, як Заходняя Беларусь была далучана да СССР, паступіў у рускую сярэднюю школу. Аднак да вайны паспеў закончыць толькі трэці клас. Падчас Вялікай Айчыннай вайны Алег Лойка вучыўся ў IV і V класах народнай школы горада Слоніма, а пасля — у II класе Слонімскай прагімназіі. У 1944 годзе паступіў у VII клас беларускай школы, якую скончыў у 1948 годзе. Магчыма, менавіта ў гэты складаны і вельмі супярэчлівы час пачала складвацца сістэма каштоўнасцей будучага пісьменніка, дзе асноўная перавага надаецца класіцы і нацыянальнай традыцыі. Устойлівым формам, агульначалавечым сюжэтам, гісторыі Айчыны і яе духоўнай спадчыне.

Так ці інакш, усё далейшае жыццё А. Лойкі аказалася звязаным з філалагічнай навукай, з вывучэннем класічнай беларускай літаратуры.

Алег Лойка быў студэнтам філфака аднаго з першых пасляваенных выпускаў. У 1953 годзе ён атрымаў дыплом з адзнакай, пасля чаго таленавітага выпускніка рэкамендавалі ў аспірантуру, якую пісьменнік закончыў у 1956 годзе.

З 1956 года Алег Лойка працаваў выкладчыкам. У гэтым жа годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па беларускай філалогіі, а ў 1970 — доктарскую.

Алег Лойка працаваў на многіх пасадах, з 1991 па 1996 год з'яўляўся дэканам філалагічнага факультэта БДУ, але праца яго заўсёды звязана з выкладаннем і навуковым даследаваннем беларускай літаратуры.

Пісаць Алег Лойка пачаў даволі рана. Яго першыя вершы былі надрукаваны яшчэ ў 1943 годзе ў «Баранавіцкай газеце». Першы зборнік вершаў пабачыў свет у 1959 годзе, ён меў назву «На юначым шляху». Пасля былі шматлікія кнігі, яны выходзілі з перапынкам усяго ў некалькі гадоў: «Задуменныя пералескі» (1961), «Дарогі і летуценні» (1963), кніга вершаў і паэм «Блакітнае азерца» (1965), «Каб плакалі кані» (1967), «Дзівасіл» (1969), «Калі ў дарозе ты...» (1971), «Шчырасць» (1973), кніга вершаў і паэм «Пачуцці» (1976), «Лінія жыцця» (1978). У 1981 выходзіць кніга выбраных твораў «Скрыжалі», а пасля, у 1983-м — «Няроўныя даты», «Грайна» ў 1986-м, «Пралескі ў акопах» (1987), «Балады вайны і міру» (1989), «Талая вясна» (1990)... Усяго каля 30 паэтычных зборнікаў.

Паэзія Алега Лойкі вызначаецца асаблівай музычнасцю, уменнем перадаць эмоцыю не толькі праз слова, але і праз рытмічны лад, гучанне радка. Паэт імкнецца да гармоніі сэнсу і гучання. Сярод тэм яго творчасці — каханне і прырода, філасофскі роздум, гісторыя радзімы. Музычнасць, напеўнасць вершаў Алега Лойкі прыцягвае да іх увагу кампазітараў. Класічная рыфмоўка і фальклорная мелодыка шэрага вершаў Алега Лойкі зрабіла яго творы вельмі прыдатным матэрыялам для песень. Многія вершы з розных зборнікаў паэта сталі песнямі, іншыя з самага пачатку задумваліся як песенныя тэксты. У іх спалучаецца высокая мастацкасць, лірызм, яркі нацыянальны каларыт, часам гумар. Асаблівай папулярнасцю карысталіся песні вядомага спевака Алега Атаманава на вершы паэта.

Алег Лойка піша вершы і для дзяцей. Яны змешчаны ў зборніках «Як Тоня рэха шукала» (1962), «Карагод дзівосных прыгод» (1966), «Каля млына» (1972), «Дзе хто начуе?» (1977), «Пра дзеда аяяй і бабу оёёй» (1984).

Для вершаў паэта характэрна яркая вобразнасць, якая злучае здабыткі класічнай літаратуры і фальклорныя элементы. Як навуковец і педагог Алег Лойка прысвяціў сябе вывучэнню класічнай беларускай літаратуры. Яна стала неад'емнай часткай яго жыцця і творчасці.

Фактычна ўсе беларускія паэты і пісьменнікі старэйшага пакалення надаюць асаблівую ўвагу вясковай, фальклорнай аснове нашай культуры. Яшчэ Максім Багдановіч, сын вядомага фальклрыста, шырока ўжываў вобразы беларускай міфалогіі. Не менш цікавымі падаюцца і фармальныя прыёмы, рытміка, асаблівасці рыфмы, паўторы, характэрныя для вуснай народнай творчасці. Алег Лойка з тых паэтаў, якія засвоілі гэтыя прыёмы, і ўжывае ён іх надзвычай удала. Гэта дазваляе паэту надаць нацыянальны каларыт нават тым вершам, якія прысвечаны такім «агульным» тэмам, як каханне і прырода.

Алег Лойка з'яўляецца аўтарам больш як 450 публікацый, у тым ліку 6 манаграфій, двухтомнага падручніка для філалагічных факультэтаў універсітэтаў «Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд» (у двух выданнях), падручніка «Старабеларуская літаратура». Выступае як літаратуразнавец, крытык. Сярод публікацый найбольш значныя: «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура» (1959), «Новая зямля» Якуба Коласа. Вытокі, веліч, хараство» (1961), «Максім Багдановіч» (1966), «Беларуская паэзія пачатку XX ст.». Аўтар праграм па старабеларускай літаратуры і беларускай літаратуры XVIII — пачатку XX стагоддзяў. Адзін са складальнікаў хрэстаматыі для ВНУ «Беларуская літаратура XIX стагоддзя».

Але гісторыяй беларускай літаратуры, беларускай грамадскай і філасофскай думкай Алег Антонавіч Лойка цікавіцца не толькі як навуковец. У 1990 годзе выходзіць яго раман-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» і аповесць «Скарына на Градчанах». У 1998 аповесць «Кельты не ўміраюць».

Нарэшце, у 1990 годзе па яго сцэнарыі здымаецца дакументальны фільм «Максім Багдановіч».



*Алег Лойка з Іванам Мележам і Піменам Панчанкам.*

Тут важна сказаць пра спецыфіку рамана-эсэ. Гэты даволі рэдкі жанр спалучае ў сабе навуковую дакладнасць і мастацкае выкладанне матэрыялу. У адрозненне ад дакументальнага рамана ў рамане-эсэ знаходзіцца месца і для мастацкага вымыслу, і для аўтарскіх развагі. Пры гэтым аўтар не адхіляецца ад навуковай дакладнасці ў перадачы падзей. Узнаўляе фон, на якім разгортваецца дзеянне, падсвечвае кожную характэр-



*З Рыгорам Семашкевічам , Жэняй Янішчыц, Юркам Голубам.*

ную дэталь. Тут і вуліцы старажытных гарадоў, і побыт, і асаблівасці жыццёвага ладу ў розных краінах. Жыццё Францыска Скарыны, які шмат падарожнічаў і з'яўляўся, так бы мовіць, носьбітам некалькіх культур, стала прыдатнай асновай для стварэння каларытнага, як прынята цяпер казаць, — атмасфернага твора.

Вобраз Францыска Скарыны падаецца securities рознабакова, ён раскрываецца ў развагах і ўчынках, у сваіх стасунках з людзьмі і ўласных марах. Алег Лойка ў рамане «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» здолеў паказаць лёс чалавека як пастаяннае ўзыходжанне ад адной вяршыні да другой. Як працэс бесперапыннага ўдасканалення, росту. Нават у самых цяжкіх абставінах герой не спыняе свайго руху, не кідае працаваць на здзяйсненне мэты. Перад намі паўстае яркая асоба, моцны неардынарны характар.

У рамане гістарычная аснова спалучаецца з тонкімі філасофскімі развагамі. Напоўненае падзеямі жыццё Францыска Скарыны дазволіла аўтару стварыць цікавы, даволі напружаны сюжэт, які складаецца са знешніх перыпетый і эмацыянальных рухаў героя. Сацыяльны, гістарычны бок падсвечвае багатае духоўнае жыццё асобы.

Раман-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» лічыцца адным з лепшых твораў пра Скарыну. Ён быў перакладзены на рускую мову і выйшаў у серыі ЖЗЛ. Гэта дало магчымсць пазнаёміцца з жыццём і творчасцю Скарыны шырокаму чытачу за межамі Беларусі.

За гэты раман у 1990 годзе Алег Лойка быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.

Акрамя рамана-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» Алег Лойка напісаў і раман пра Янку Купалу «Як агонь, як вада». Ён таксама выйшаў у серыі ЖЗЛ у перакладзе на рускую мову.

Алег Лойка актыўна працуе і як перакладчык. Ён выдаў зборнікі паэзіі П. Верлена, Ё.В. Гётэ, Ф. Шылера, асобныя творы рускіх, украінскіх, літоўскіх, латышскіх, польскіх і іншых паэтаў.

Член-карэспандэнт НАН Рэспублікі Беларусь.

Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалём Ф. Скарыны, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР (1976, 1980), дзяржаўнай узнагародай Польшчы «Заслужаны перад польскай культурай», Сярэбраным знакам ГДР (за пераклад паэзіі Гётэ) і інш.

***Пра Алега Лойку пісалі:***

Арочка М. Галоўная служба паэзіі. Мн., 1974.
Брыль Я. Найти луч света… «Дружба народов», № 4, 1967.
Кароткая Л. Жывое, роднае. Мн., 1989.
Саламевіч Я. У славу Янкі Купалы. «Маладосць», № 4, 1985.
Семашкевіч Р. Выпрабаванне любоў'ю. Мн., 1982.
Сіненка Г. Насуперак канону. Мн., 1997.

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА, або СОНЦА МАЛАДЗІКОВАЕ

### *З рамана-эсэ*

Introductio, або Уводзіны ў кнігу пра шматдастойнага вучонага мужа Францыска Скарыну, у якіх вельмі коратка расказваецца пра зацьменне сонца ў Полацку, канец свету божага і вялікую радасць на зямлі Полацкай.

На кожнага чалавека — свой час. На яго ж часу як быццам не хапіла: час канчаўся. Час, або свет божы, як тады называлі свет, меўся канчацца ў 1492 годзе. Таго чакалі ўсе хрысціяне — і праваслаўныя і каталікі. Бо тое паўтары тысячы гадоў назад напрарочылі іх першыя пракрокі: сем тысяч гадоў жыць чалавецтву, а тады свет скончыцца. Прарокі ніяк не задумваліся над тым, што час усё ж бяжыць вельмі хутка і што вельмі хутка набяжыць і год 1492 — сямітысячны. Калі была тая нулявая дата, з якое прарокі пачалі пачатак свету, ніхто ўжо з жывых перад 1492 годам праверыць не мог. Але грамацеі, тым больш купцы, маглі лёгка палічыць, што калі да Хрыста свет існаваў 5508 год, то якраз у 1492 годзе існаванню яго спаўнялася сем тысяч год. Бацька Францішка Скарыны быў полацкім купцом. Лічыць ён умеў і, як і ўсе палачане, у бога верыў. Верыў бацька — галава сям'і, верыла яго жонка — маці двух сыноў — старэйшага Івана і малодшага Францішка.

Дакладна яно невядома, ці ў 1490 ці ў 1486 годзе нарадзіўся Францішак. Але, так ці інакш, ён нарадзіўся н а п я р э д а д н і, ды прытым яшчэ ці не ў сам год падзеі, якая была для яго бацькоў, як і для ўсіх палачан, чорным прадвесцем канца, бо падзеяю тою было зацьменне сонца.

Тады ніхто не любаваўся ім, не задымліваў шкельца з-пад зялёнай бутэлькі, каб выразней бачыць гэты цуд. Тады чалавек, як і проста ўсё жывое, рэзка, панічна, ашаламлёна рэагаваў на зацьменне. Зацьменне ў той год было поўным, і, як заўсёды пры такім зацьменні, коні дзіка ржалі, каровы злашчасна мычалі, авечкі спалохана бляялі, а сабакі ў адчаі вылі, і ўсё птаства зямное змоўкла. Рыбы з-пад кожнай карагі, з віроў, глыбінь і водмеляў Дзвіны з усімі яе блізкімі і няблізкімі ад Полацка прытокамі — з Палаты і Улы, Ушачы і Обалі, з усіх блізкіх і няблізкіх ад Полацка азёр — з Чарсвятаў, Язны, Умільна, Расны, Вячэлы, Усомніц, Віроўлі, Няшчэрды і многіх іншых раптам выбіліся-выскачылі вонкі — па-над гладдзю завоін і плыняў. Бо ўсё жывое вырывалася да сонца, якое чэзла, усё жывое раптам як бы ў адно імгненне зразумела, што без святла нельга. І было тое ўсё натуральнай мудрасцю нямудрай жывой прыроды. Ды ні конь, ні сабака, ні плотка не звязвалі таго зацьмення з канцом свету, як звязвалі яго з ім у сваіх адчуваннях і настроях тадышнія людзі.

Бацька Францішка Скарыны як гаспадар сям'і быў з той нагоды больш стрыманы, памаўклівы. Жонка ж яго, маці дзяцей, і таму, што была жонкай, і таму, што маці, стрыманай, як яе муж, быць не магла. Можа, у той час яна яшчэ чакала Францішка, можа, нараджала яго, можа, ужо нарадзіла. Ды ці чакала ці ўжо нарадзіла, і ў тым і ў другім выпадку яна хадзіла, ступала па зямлі палахліва, з сэрцам, як лісце на асіне, дрыготкім. Калі ж было, што яна Францішка яшчэ насіла, адчуваючы ўсім нутром пругкія ўдары разгуляных ножак, што яшчэ не краналіся зямлі, то тады, напэўна, не маглі не мільгаць у яе выабразні прывіды мёртванароджаных немаўлят і мёртвых парадзіх. Калі ж якраз нараджала, то, можа, бегла якраз у сполаху зацьмення з дворышча ў замак, падала на бярвенні, намошчаныя ў дварышчы іх купецкага дома, ці на вузкай вулцы-маставой, у якую ўпіралася брама іх падвор'я, праз якую яна на мошчаную вулку выскоквала, як бы ўцякаючы ад пацямнелых шчылін-вокан Скарынічавых забудоў. А можа, яна дабегла была і на суседскі пасад — на Верхні замак, на дзядзінец, куды ў кожнай трывозе

беглі палачане, там шукаючы паратунку ад розных напасцяў, там спраўляючы свае вечы? Можа, кленчыла там, верачы, што гэта ўжо — канец, — і ўздымала рукі ў пачарнелае неба, і захіляла імі свае вочы ад неба, нібы захіляла ад яго і таго, каго ў сваім чэраве мела?..

Сам Францішак усяго таго не ведае, бо чалавек жа, пакуль яго няма, не ведае, што ён будзе, як напачатку не ведае і таго, што ён ужо ёсць, што ёсць ужо яго бацька і маці, якія на яго чакалі, ёсць зямля, селішча ці места, дзе ён нарадзіўся. Але Францішак з таго, што тады дзеелася ў Полацку, усё ж вычувае нямала. Чаму, з якой прычыны, таго ён не вельмі ведае: яйка ж курыцы не памятае, немаўля немаўлём сябе не памятае. Ды ён вось як бы памятае сябе немаўлём. І ён цяпер думае, ці не таму памятае, што, слепячыся над Полацкім летапісам, з асаблівай прагнасцю чытаў заўсёды пра пагібель сонца:

«Изьгибе солнце и сокры луча своя от земля... и зьвезды явишася яко в нощи, «в солнци аки гвоздие черно...», «...солнъце потемнело, и страх был великий на земли Руской...», <...и видели двѣ звездѣ в той же час на заход от слонца, одна бѣла, а другая черлена. А всего того могло быти полътори годины, а потом темность одышла проч...»

Колькі часу цемната не сыходзіла з полацкага неба над маці Францішка Скарыны, калі тое было, мы не ведаем. Але мы можам лічыць пэўным, што падчас усёй т о й цемнаты, уся т а я цемната была часам жаху маці Францішка Скарыны, часам яе абмірання, захлынання страхам. І ці гарэлі ці не гарэлі ў полацкай цемрадзі неба дзве зоркі — адна белая, другая — чырвоная, як дзве зоркі надзеі, выратавання, спагады, мы таксама не ведаем. Ведаем толькі напэўна, што, колькі зацьменне т а д ы ні трывала, яно скончылася, маці Францішка Скарыны перетрывала яго, вытрывала. Але вытрываўшы, як і кожная сярэдневяковая палачанка, да скону аб ім як аб з н а м е н н і думала ўжо: «Як жа з-пад яго плыць яе сынам стругамі купецкімі на Гоцкі бераг?! Як шляхам Альгердавым у бок Вільні падавацца?!. Як увогуле вырушваць у любую старану — блізкую ці далёкую, знаную ці нязнаную, чутую ці нячутую?!»

Ды адышло, як найшло, апраметнае знаменне, адышоў, як прыйшоў, год 1492, а свет не канчаўся, і заставаліся жыць на гэтым свеце маці і бацька Скарынічы, і падрасталі іх дзеці — браты Іван і Францішак, і стаяў па-ранейшаму пад сонцам горад Полацк, і ляжала наўкруг яго зямля Полацкая. Здавалася, нічога не змянілася, і разам з тым колькі ўжо чаго змянілася на гэтай зямлі.

Страх быў вялікі на зямлі Полацкай, ды наколькі ён быў вялікі, настолькі ж і радасць, вяселле вялікія зямлю Полацкую ахінулі. І, можа, яны былі яшчэ большымі ад таго страху, што перад імі апаноўваў людзей. Ведаў ці не ведаў пра тую безбярэжную радасць малы Францішак, але яго думкі і адчуванні былі ўжо не толькі з памяццю етраху ад зацьмення і страху божага, у якім увогуле жыў сярэдневяковы чалавек, але і ў пары з радасцю, што канца свету не наступіла.

Пра што гаварылі тады ў той радасці простыя людзі ў гарадах і весях, на торжышчах і ў харчэўнях? Пра веру гаварылі простыя людзі скрозь на ўсёй Рускай зямлі, аб тым гаварылі ў сваёй радасці, што вось канца свету не наступіла, а «святых отец писання ложна суть и подобает сих писаний огнем сжещи». І, напэўна, чуў галасы тых гарадоў і весяў, торжышчаў і кірмашоў і сын полацкага купца Лукаша Скарыны Францішак Скарына, але для яго званы Сафеі і Сяльца, Бельчыц і Вострава, святой Тройцы і Барысаглебскага манастыра, касцёла бернардзінцаў з урачыстым надпісам на ім «Arcus Caeli»[1] былі галасней галасоў на торжышчах, аўтарытэтней. У новым часе, што наступіў пасля канфузу царкоўнікаў з канцом свету, Францішак застаўся пры святым пісанні, пры кніжнай мудрасці. Іншай мудрасці ў яго часе ў яго Полацку не было, акрамя ў галубятніцы Сафеі, акрамя ў скляпенчатых сутоннях Свята-Троіцкай царквы, землі якой з 1501 года былі

[1] Брама Нябёс *(лац.)*.

перададзены бернардзінскаму касцёлу; акрамя за сцэнамі Барысаглебскага манастыра, што стаў неўзабаве базіліянскім. Сафея дала яму грамату русінскую, бернардзіны, а то, можа, і базіліяны, якія правілі службу па абраду грэка-праваслаўнаму, але на мове лацінскай, маглі даць яму грамату лацінскую. Няхай у праваслаўных — свецкіх і духоўных — феадалаў перадача бернардзінцам зямель Свята-Троіцкай царквы польскім каралём і вялікім князем літоўскім Аляксандрам і выклікала рэзкае незадаволенне, ды ў самім Полацку і баяры, і месцічы, і купцы, і люд рамесны не палавініўся і не траіўся тады яшчэ варожа, ваяўніча на праваслаўных, бернардзінаў, базыліянаў. І тое было ўдзячнай глебай, тое было прычынай шырыні светаразумення маладога сына купецкага Францішка, ягонага ўзвышэння па-над верамі з вылучэннем як першаснага свайго палачанства, сваёй прыналежнасці, па-першае, да яго, а затым ужо да царквы ці да касцёла, да той ці іншай веры. І, зрэшты,у канцы для Францішка стала першаснай кніжная мудрасць — па-за царквой і касцёлам як такімі — дзеля паспольства[1], дзеля полацкага агулу, дзеля славы мовы матчынай. Хто ў гэтай мове ёсць, будзе народжан, таму ён, Францішак Скарына, непасрэдна і заадрасуе кніжную мудрасць сваю — кнігу.

Дзякуй жа шматлюднаму, мудраму ў сваёй верацярпімасці Полацку, які падрыхтаваў на тое сына свайго Францішка.

# ВЕРШЫ

## ЛЕДЗЬ СКРЫПНУЎ ЖУРАВЕЛЬ

Ледзь скрыпнуў журавель — і я прачнуўся,
На ганак выбягаю з ручніком…
Зноў журавель у пояс перагнуўся,
Ваду драўляным зачарпнуў вядром, —
І паплыло яно ўгару памалу,
Напоўненае зыркай сінявой,
Нібы з глыбінь падземных падымала
Нябёсы, хмаркі, твар заспаны мой…

А журавель скрыпеў, — і мне здалося:
Так спачувальна, як тады, калі
У міжпланетны шлях,
Мурзаты, босы,
Я верхам вылятаў на жураўлі:
Ці як тады, калі мяне кабеты
І маці са слязой і рамянём
Выцягвалі з калодзежа, — пры гэтым
Я так і не пабачыў зорак днём…

Змоўк журавель… І я з вядра паволі
Празрыстую ваду ў карыта лью,
І мыюся, і рады як ніколі
Вадзе, нябёсам, хмаркам, жураўлю!..

*1958*

[1] Ад старабеларускага «поспал» — агульнаўсіхнае, агульнаграмадскае.

* * *

Любоў прыходзіць не ў семнаццаць,
Прыходзіць крышачку пасля,
Як пачынаеш захапляцца
Усім, чым любая зямля.

Бо не ў семнаццаць прыкмячаеш,
Бяспамятлівы маладзён,
Як ля знаёмых хат ярчае
Затоптаны ў пясок драсён,

Як паказыча твар травінка
Ці дакране пляча лісток,
І кожную тваю крывінку
Аж прабівае шчасця ток,

І ў захапленні ледзь не плачаш!..
Бяспамятлівы маладзён,
Ў семнаццаць кветак ты не бачыш,
Сам — нераспушчаны бутон.

*1964*

* * *

Заўсёды трошкі таямніцай
Была ты для мяне і ёсць:
Чагосьці светлага крыніцай,
Перад якім я — толькі госць.

Прывабнай зоркай з яснай высі
Сышла ў мае семнаццаць год.

Узяць пад ручку баючыся,
Цябе праводзіў да варот.

Ты мне і сёння — таямніца,
І, можа, шчасце ў тым і ёсць,
Каб не напіцца з той крыніцы,
Перад якой ты — вечны госць!..

*1965*

* * *

Клён за туманамі ціха растане,
Ясны твой воблік далеччу стане —
Што гэта творыцца толькі са мною?!.
Бліжай становішся ты — у расстанні!..

Як неспазнанай, нябачанай госці,
Не пазнаю зноў, нібы ў маладосці,
І не ўяўляю бязмежнасці іншае
Ласкі, і шчырасці, і прыгажосці!..

Імі да сэрца глыбінь прасвятлёны,
Змогла каўтаю скіпелую горыч,
Каб не вяртацца ніколі пад клёны
Той слепаты, што была з табой поруч!..

*1974*

## ДЗЕНЬ СНЕЖНЫ, ПАЛЕСКІ...

Дзень снежны, палескі, шырокі, як Піна,
Як сэрцу адкрытая белая даль,
Вітае, як сына, прымае, як сына,
Задумай, спакоем і веліччу хваль.

У гэтай цішы снегу белага-белага,
Цішы, па якой сумаваў я так,

Жыву толькі светлым, часцінячка цэлага,
Якое душой не абняць ніяк.

У гэтай цішы мне так хораша, хораша —
Не Піна выходзіць тут з берагоў,
Душа мая з іх разлілася па ўзгорышчы —
Па ўратаваныя вечы стагоў.

Няхай таямніц іх размоў не адолею,
Хай заўтра не мне ля стагоў начаваць,
Шчаслівы я тым, што маёй стала доляю
Радзімы святло, хараство адчуваць;

Што снег, бы ў маленстве, зноў сыплецца, радуе,
На цёплых далонях растаючы,
Што ўвесь я — струна, снег якую ледзь кратае,
Аб вечным, спрадвечным ва мне пеючы;

Што ў сэрцы наплыў сілы гэткай збіраецца, —
Ствару ўсё, змагу ўсё, а трэба — сцярплю…
Плячо ў небасхіл заінелы ўпіраецца —
Мне — лёгка, як лёгкі снег белы галлю!..

*1974*

## ІДУ ПА ПЕРШУЮ ПРАЛЕСКУ…

Іду па першую пралеску,
Па жаўруковы першы спеў, —
Іду з маленства, з тых узлескаў,
Куды з рук матчыных зляцеў;

Зляцеў, як птушка гаманкая,
Як брат пралесак веснавы, —
Квітнее дол, і я — жывы,
Пяе блакіт, і я — спяваю;

Іду па іх, як па сябе,
Забытага самім сабою,
Ацiхлага ці то ў журбе,
Ці ў шчырай працы без адбою;

Іду па іх, як па цябе,
Маё шчаслівае каханне,
Каб маладзець пад пташы спеў,
Пялёсткаў ловячы дыханне;

Іду па іх, як па ўвесь свет
Вам, дзеці шчырыя і ўнукі, —
За мной — пралескавы мой след,
За мной — гамонкавыя гукі;

А заблуджуся дзе, калі,
Паміж замглёных пералескаў,
На гэтай, на бацькоў зямлі
Мяне шукайце між пралескаў.

*1978*

## ЧЫТАННЕ ВЕРШАЎ

*Рыгору Барадуліну*

Як вершы мы чыталі калісь!..
Начэй студэнцкіх не хапала
На бульбе — пад стагамі ў полі
І ў скверы, дзе стаяў Купала;

На інтэрнацкіх падваконнях,
У пачакальнях на вакзале,
У прыпар сесіяў бяссонных
І ў маразы, што дух займалі!..

Так прабіваюцца крыніцы
І першае грудзей дыханне,
Так вусны ў вусны таямніцы
Не даверае нат каханне!

Гул сэрцаў нашых чулі зоры.
Няпэўнасць. Вочы, як пытанне.
Як не да месца светафоры
На апусцелых скрыжаваннях!

І як далёка нашы маці, —
Ці спяць пад зоркамі паўночы?
Па непадмеценым асфальце
Нясхочна ў інтэрнат мы крочым.

Уранцы хлопцы будзяць, будзяць,
Ды штось не дачытаў і ў снах ты.
Як за прагул, цябе асудзяць
Студком і камендант вусаты.

І будзеш ехаць ты да маці
І там, як я, у ціхай хаце —
Святочны, малады — чытаць ёй
Напісанае на асфальце,

Каб чуць мне твой фальцэт натхнёны
Праз тоўшчу дзён жаўром прыветным,
Туліць, нібы твае рамёны,
Куточкам сэрца запаветным.

*1978*

## ПЕРШЫ СНЕГ

І я, і я ўжо быў пад скрыдламі бяды,
Як снег, і я стыў над магіламі няўцешна,
Ды нібы ўпершыню, шчаслівы назаўжды,
Лаўлю сняжынкі першыя паспешна.

І ў чым я вінаваты, што, нібы дзіця,
Я радасцю адчуць іх светлату — не сыты
І што чым болей страт прымаю ад жыцця,
На светлату тым болей прагавіты,

Што вось жыве ва мне, як нейкі чарадзей,
Нічым не пераможаная сіла,
Што ў першы снег, бы ў першы дзень, вядзе,
Як маці, шалік павязаўшы мне, вадзіла.

*1979*

* * *

Высокі колас — сэнс высокі,
Вазьмі мяне ў высокі цень,
Яднаючы зямныя сокі
І ціхі сонечны прамень.

Не марнай пустальгой-былінкай
Сысці пад плыву павець, —
З табой у полі, хоць хвілінку,
Упоравень нашалясцець.

А лепш, каб цень мой непахілы
Пры залатым аб зерні сне
Блакітнай песняй небасхілы
Насычвалі, як грунт вясне,

І цень мой з гонкім тваім ценем
Там, дзе бясконцасці мяжа,
Дрыготкім сонечным спляценнем
Пад сэрцам песні задрыжаў —

Той, крэўнай для цябе, мой колас
Спаконвяковых баразён,
Якога ціхі мудры голас,
Нібы грамы, зямлі чуцён.

*1985*

***Падрыхтоўка да друку У. Марука.***



# МАРЫЯ ЗАХАРЭВІЧ: «НАВОШТА ТОЙ ТАЛЕНТ, КАЛІ НЯМА СЭРЦА...»

*Прыгадваю адзін даўні эпізод.*

*Лета 1989 года. У Мінску сабраўся чарговы пленум Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. Чарговы, але далёка не шараговы. У краіне чацвёрты год ішла перабудова. Нарастаў вал галоснасці і дэмакратыі. Хаця што гэта такое тады, па праўдзе кажучы, ніхто толкам не ведаў. Большасць чамусьці разумела галоснасць як магчымасць гаварыць усё, што ўздумаецца, а дэмакратыю звязвалі галоўным чынам з выбарамі кіраўнікоў сваіх калектываў ды бязлітаснай крытыкай высокага начальства, і перш за ўсё — партыйных функцыянераў.*

*Гэткі ж настрой панаваў і на пленуме СТД. Дзіва што: і там, у Маскве, і тут, у Мінску, у першых шэрагах актыўных перабудоўшчыкаў былі менавіта тэатральныя дзеячы, пісьменнікі.*

*Ідучы на пленум, я разумеў, што мне як намесніку загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ дастанецца на арэхі. Гэта было зразумела нават з пісьмовага запрашэння, у якім кіраўніцтва СТД патрабавала (так, так, не прасіла, а менавіта патрабавала), каб на пленуме прысутнічаў сакратар ЦК, ці па меншай меры — загадчык аддзела.*

*Аднак і адзін, і другі, спаслаўшыся на занятасць больш пільнымі справамі, даручылі гэтую місію мне. «Ты як журналіст і пісьменнік лепш знойдзеш з імі агульную мову».*

*Але ўжо з першых хвілін было бачна, што знайсці кансенсус, як тады любілі гаварыць, будзе складана. Выступленні — адно за адным — гучалі эмацыянальна, задзірыста, ваяўніча. Людзі як бы спаборнічалі між сабой: хто скажа больш смела, больш востра. Самых адчайных аўдыторыя заахвочвала гарачымі апладысментамі. Атмасфера ў зале накалялася, і я не ведаю, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б раптам не папрасіла слова актрыса Купалаўскага тэатра Марыя Захарэвіч.*

*Разварушаная зала стала прыкметна ціхаць, і пакуль Марыя Георгіеўна ішла да трыбуны, усталявалася чуйная, паважлівая цішыня. Усе з цікаўнасцю чакалі, што скажа Захарэвіч, якая мела не толькі вялікую папулярнасць у гледачоў, але і высокі аўтарытэт сярод калег. Я гэта добра ведаў і вельмі спадзяваўся, што, можа, хоць яна паверне гаворку ў больш спакойнае, канструктыўнае рэчышча.*

*— Шаноўныя таварышы! — нягучным хрыплаватым голасам сказала Марыя Георгіеўна. Яна была прыкметна ўсхвалявана, узрушана. — Мне вельмі шкада, што ў нас атрымоўваецца нейкае непаразуменне. Непаразуменне балючае, недарэчнае. Мы абвінавачваем улады ва ўсіх смяротных грахах, а ўлады папракаюць нас у дэстабілізацыі абстаноўкі, у тым, што мы расхітваем лодку, у якой усе разам сядзім. І гэта праўда: расхітваем! Ды яшчэ як!..*

*Захарэвіч моўчкі абвяла прыціхла-насцярожаную залу позіркам, у якім былі адначасова і дакор, і недаўменне, і боль, і працягвала:*

*— Вы ведаеце, сапраўдныя інтэлігенты заўсёды, перш чым кідаць абвінавачванне каму-небудзь, найперш прад'яўлялі прэтэнзіі да сябе. Давайце ж сёння шчыра і чэсна скажам, запытаем самі ў сябе, а ці ўсё мы зрабілі для таго, каб тых праблем, пра якія тут слушна гаварылася, было як мага меней...*

*І Марыя Георгіеўна пачала гаварыць пра тое, што ў тэатрах празмерна захапіліся палітыкай і занядбалі мастацтва. Мала цікавых прэм'ер. Зусім забыліся пра шэфства над вёскай. А што тычыцца прапановы выбіраць галоўнага рэжысёра большасцю галасоў — дык гэта наогул нонсенс...*

*Перапала і нам, партыйным работнікам. Трэба, гаварыла далей Захарэвіч, каб нашых кіраўнікоў людзі бачылі часцей, каб творцы маглі з імі адкрыта і шчыра гаварыць. Больш увагі надаваць асобе артыста, талентам. За ўсёяднасцю, ураўнілаўкай вельмі многае праглядваем, упускаем. Усяго баімся. Вось у тэатры акцёры сталі больш актыўна сябе праяўляць. І гэта добра! Хай людзі выказваюцца, а ўлады — прыслухоўваюцца. Разам мы зможам зрабіць і больш, і лепш...*

*Ад гэтага моманту гаворка на пленуме сапраўды стала больш разважлівай, больш канкрэтнай. Выступоўцы ўжо не толькі крытыкавалі, але і выказвалі разумныя, дзелавыя прапановы. Ды і рашэнне было прынята спакойнае, талковае, ёмкае.*

*Пасля пленума мне нават хацелася падысці да Захарэвіч і падзякаваць за своеасаблівую, нечаканую падтрымку, але, прызнаюся чэсна, не рашыўся. Якніяк — народная артыстка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прыма праслаўленага тэатра! Пазней, калі мы пазнаёміліся ўжо крыху бліжэй, мне прыемна было адкрыць для сябе, што Марыя Георгіеўна — чалавек надзвычай сціплы, просты, душэўны. А яшчэ — вельмі і вельмі інтэлігентны.*

*Вось гэтая інтэлігентнасць нярэдка замінае ёй у жыцці. Яна не ўмее і не любіць прасіць для сябе. Таму, на маю думку, не толькі абдзелена матэрыяльна, але і далёка не поўнасцю рэалізавала свой творчы патэнцыял. А ўсё, што на сённяшні дзень мае — званне, узнагароды, папулярнасць, — усё гэта актрыса заслужыла дзякуючы выключна свайму таленту і вялікай, нястомнай працы. Хоць у свой час сярод яе тэатральных паклоннікаў было нямала ўплывовых асоб, якія маглі б выканаць любую просьбу. Але — не прасіла.*

*Адзін, праўда, раз не выцерпела, пайшла да міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі, каб памог збудаваць які катушок на дачы — летам там была б выгода для дзяцей. Усе ж яе калегі ўжо даўно пабудаваліся.*

*Міністр уважліва выслухаў Марыю Георгіеўну, якая хвалявалася, як перад прэм'ерай, і прыязна ўсміхнуўся:*

*— Ну чаму ж катушок? Для любімай актрысы мы можам пабудаваць і больш прыстойнае жыллё...*

*Па тым часе верхам прыстойнасці аказаўся звычайны шчытавы фінскі домік памерам пяць метраў на шэсць. Ён і цяпер нясе сваю сціплую службу.*

*А вось што тычыцца чужых праблем, прафесійных інтарэсаў альбо важных грамадскіх спраў, то тут Марыя Георгіеўна не можа заставацца абыякавай. Знаю, сам не раз быў сведкам такой яе актыўнасці і настойлівасці. То разам з землякамі, устурбаваная тым, што забруджаная вада з палёў фільтрацыі падступіла да самых могілак, просіць мясцовыя ўлады тэрмінова разабрацца; то заклапочана шукае грашовых і чулых людзей, якія памаглі б адрамантаваць Мікасецкую царкву, якой спаўняецца 80 гадоў.*

*Колькі ведаю Марыю Захарэвіч — столькі і захапляюся ёю. А ведаю яе ўжо больш за пятнаццаць гадоў. Зрэдчас мы бачымся — нашыя лецішчы ў адным напрамку, і пакуль едзем, за дзве з паловай гадзіны пра многае перагаворым.*

*Я люблю слухаць Марыю Георгіеўну. Асабліва цёпла, пранікнёна расказвае яна пра сваё дзяцінства, родную вёску, пра сваіх бацькоў...*

## Бярозы пад акном

**— Марыя Георгіеўна, мы сядзім і гаворым у вашай бацькоўскай хаце. Знаю, вы даволі часта тут бываеце. Што для вас гэтая хата — памяць пра бацькоў, успаміны маленства?**



*У родных мясцінах.*

— Не, маленства маё, маё дзяцінства прайшло не тут, а ў нашай ранейшай хаце. Яна стаяла з паўкіламетра адсюль. У вайну яе немцы спалілі. І мы жылі ў дзеда, а пасля ў доме знаёмых, якія выехалі ў Польшчу. Але гэты перыяд я помню кепска — малая была. А вось ужо як пераехалі ў сваю новую хату — памятую добра. Нам так хацелася хутчэй займець уласны кут, што перасяліліся сюды, нават не дачакаўшыся, каб бацька паклаў падлогу. Ён клаў яе ўжо жывучы ў хаце.

Хатка, як бачыце, невялічкая — на адзін пакой, дзе значнае месца займала і займае цяпер печ, стаялі два ложкі, абедзенны стол... Столь нізенькая, вокны маленькія. Але тады, у суровыя пасляваенныя гады, нам і такая хата здавалася сапраўднай святліцай. Як радасна нам тут было, як светла! Колькі помню сябе, бацька ўсё нешта майстраваў — то лаўку якую, то ручку да дзвярэй, то рамку для люстэрка, для фотакартачкі. Словам, усё, што вы зараз тут бачыце, зроблена ягонымі рукамі. Таму я нічога і не мяняю, берагу кожную дэталь, кожную рэч. Мой тата адзін будаваў яе. Толькі самае складанае рабілі талакой — які гэта добры быў звычай!

Для мяне гэтая хата — не проста маё лецішча. Гэта — мая памяць, мая душа, мой найдаражэйшы скарб. На жаль, я бываю тут не так часта, як хацелася б. Усё ж такі далекавата — 150 кіламетраў, дый занятасць не заўсёды дазваляе вырвацца. Але як толькі выпадае магчымасць, я бяру білет на аўтобус і еду сюды. Мне тут, ведаеце, камфортней, чым у любым санаторыі, у якіх я, дарэчы, не была ўжо вельмі даўно.

**— І што, хата захоўваецца ў належным стане?**

— Каб жа... Патрабуецца немалы рамонт. Даўней вясковай талакой мы хутка гэта зрабілі б. А цяпер ужо такой завядзёнкі няма, дый майстравітых людзей у вёсцы амаль не засталося.

**— Марыя Георгіеўна, нядаўна райвыканкам узначаліў новы старшыня. Кажуць, ён чалавек уважлівы, чулы да людзей і гаспадарлівы. Пайшлі б да яго, пагаварылі.**

— Ай, што я буду чалавеку дурыць галаву. У яго і без мяне клопатаў хапае. А я бываю ў вёсцы звычайна ў самую гарачую для земляробаў пару.

**— Вернемся тады ў вашу маладосць.**

— О, каб гэта было магчыма!..

**— І што, не задумваючыся, вярнуліся б?**

— Яшчэ як!.. Ведаеце, час тады быў нялёгкі, жылі беднавата, працавалі многа і цяжка, але ж якія мы былі шчаслівыя!.. Якім аптымізмам, якімі светлымі надзеямі акрыляліся нашы душы. Людзі былі намнога дабрэйшыя, без чорнай зайздрасці, дапамагалі адно аднаму.

Бацькі мае былі немаладыя, часта хварэлі. А на працу ў калгас трэба было хадзіць. Аднаго разу, помню, прыходзіць брыгадзір у хату, просіць тату пайсці гной вывозіць. А гэта ж работа не кожнаму маладому ды здароваму па сіле. Маці і кажа: «Куды яму! Вунь на печы ляжыць, дрэнна яму». А брыгадзір ціха так, ласкава: «Трэба, Юрка. Трэба...» І бацька моўчкі апрануўся і пайшоў на работу.

Маці таксама часта хварэла. Помню, недзе ў класе сёмым я ўжо ўмела жаць і, шкадуючы маму, хадзіла замест яе. Няблага атрымоўвалася, старалася ж вельмі. Іншым разам бабы сваё пажнуць ужо, дадому вяртаюцца, а я дажынаю яшчэ. «Давай мы табе паможам...» «Не, не!» — кажу. Ні за што не дазваляла. Хацелася самой усё зрабіць і каб мяне пахвалілі дома.

А то любіла яшчэ з жанчынамі сена грэсці. Тады гэта было так прыгожа! Усе апраналіся ў белае, чыстае — хустачкі, сукенкі. Працавалі з жартамі, з песнямі. І назад вярталіся абавязкова з песнямі. А вечарам, як бы ні натаміліся, збіраліся на лаўцы каля чыёй-небудзь хаты і спявалі. Песні былі лірычныя, душэўныя. І што цікава: гаспадары той хаты ніколі нікога не праганялі — відаць, слухалі нас і засыналі пад нашыя песні.

**— Вы былі адна ў бацькоў. Песцілі яны, напэўна, сваю дачушку?**

— Любіць, безумоўна, любілі, але не песцілі. Дый я нічога не патрабавала ад бацькоў. Першыя туфлі, прыгожанькія такія, бліcчаста-чорненькія, купілі мне ў класе восьмым. То я ў іх толькі ў школу ды ў царкву хадзіла. І то ўсю дарогу ідзеш басанож, а перад самым храмам абуваешся.

Не, расла я ў цеплыні, у ласцы, але не спешчаная. Я разумела, што бацькам цяжка, і мне хацелася ім памагчы. З татам я неаднойчы ездзіла і па сена, і па снапы, і па дровы. Мне і цяпер з пяшчотаю ўспамінаецца: сяджу я высока на возе і любуюся краявідамі. А тата, трымаючы лейцы, ідзе побач з канём. Так хораша!

На жаль, тата памёр рана, на шэсцьдзесят сёмым годзе жыцця. Цяжка хварэў... Цярпеў, пакуль можна было цярпець. А пасля сам паехаў у раённую бальніцу.

І от здарылася так, што ў гэтую ж бальніцу неўзабаве трапіла і я. Помню, мы тады як раз рэпеціравалі спектакль «Людзі на балоце». Мне пазванілі з Мядзела, сказалі, што бацьку блага, прыязджай. Я кінула ўсё і паехала. Іду да бальніцы, а дарога коўзкая, злева і справа цэлыя гурбы снегу. Іду, задумаўшыся. І раптам, насустрач — аўтобус. Я не паспела адскочыць. Словам, апынулася ў бальніцы з мноствам пераломаў. Таго ж дня да мяне ў палату зайшоў тата. А я ляжу ў гіпсе. І падбадзёрваю яго: «Нічога страшнага, татачка, усё будзе добра». Але і ў яго, і ў мяне на вачах слёзы.

Месяцы два мы ляжалі з ім у бальніцы разам. А пасля было самае страшнае. Мне дазволілі некалькі дзён пабыць дома: развітацца з бацькам, падтрымаць маці. Пасля вярнулася ў бальніцу назад, далечвацца.

І ведаеце што: у тыя няпростыя, горкія дні жыццё нечакана адкрыла для мяне столькі харошага, светлага. Наведвалі аднавяскоўцы, неслі ўсялякія прысмакі. Прыязджалі з тэатра, аўтобусам, прывезлі мне радыёпрыёмнік, каб слухала. Мяне акружылі такой увагай... А колькі пісем прыходзіла — па 7-8 на дзень! Мне гэта вельмі і вельмі памагала...

Калі выпісалася з бальніцы, стала ўгаворваць маму пераехаць да мяне, у горад. Але яна катэгарычна адмовілася. Я пасля зразумела: куды ж яна адгэтуль? Ад роднай хаты, ад магілак блізкіх. Ад сваіх бярозак...

Калі мы перасяліліся сюды, хату паставілі, а вакол — ні душы, ні дрэўца. Толькі вузкі памежак ды балота. От бацька і ўзяўся наводзіць парадак. На сушэйшым даў месца яблынькам, слівам, вішням, а дзе ніжэй — уторкнуў колькі таполяў. А вось тут, перад хатай, прынёс з лесу і пасадзіў дзве бярозкі, блізенька, адна пры адной. Падазваў маці і кажа: «Вось, Ганэтка, гэта мы з табой. Хай растуць доўга-доўга... А калі нават нас ужо не будзе, каб стаялі, радавалі людзей. Як помнік нам...»

Вось чаму мама вельмі любіла гэтыя бярозкі, размаўляла з імі, нібы з жывымі. Цяпер-то яны ўжо высозныя — шапка спадае, разгалістыя, прыгожыя... Я, калі прыязджаю, перш за ўсё іду да іх, абдымаю, гладжу... А мінулай вясной нешта здарылася з дрэвамі, сталі на вачах марнець. Дык я іх лячыла, цэлы месяц ратавала-выходжвала. І, дзякуй Богу, выхадзіла.

Але гэта я ўжо забегла наперад.

Ну дык вось, пасля смерці таты мама доўгі час тут жыла адна. Я, канечне, часта прыязджала. І ў водпуск, на цэлае лета, і так, на тыдзень, на выхадныя. Але ж гэтыя сустрэчы былі кароткія, часовыя. У горад яна таксама не спяшалася. Як пакінуць хатку, дзе ёй так добра, так усё міла?

Калі ж мама стала ўжо зусім слабая, на зіму брала да сябе. Але яна сумавала ў горадзе. Усё ніяк не магла дачакацца вясны, птушкай бы паляцела, казала яна, прымаўляла. Лічыла дзянёчкі...

Памерла ж мама, як і хацела, у сваёй хаце. На маіх руках. Я была з ёю да апошніх хвілін. Адышла яна ціха, са спакойным, нават прасветленым тварам. Святая цярплівіца... За свой доўгі век нацярпелася ўсяго — і цяжкай працы, і нішчымніцы, і хвароб... Але ніколі не скардзілася на сваю долю. Нікому не зайздросціла, нікому блага не зрабіла. Бог яе бярог. І яе малітвамі жылі мы, таму што мама міжволі адмольвала і нашыя грахі — мае асабістыя, а пасля і маіх дзяцей. Я заўсёды бегла то на работу, то на радыё, то на нейкія сходы, мерапрыемствы. Мама глядзела на маю мітусню і жаласна ківала галавою: «Якая жызь!.. Якая жызь...»

Я цяпер успамінаю гэта і плачу. Няправільна я жыла, ох як няправільна. Мне б тады прыслухацца да мамы, спыніцца, азірнуцца... Але дзе там, хацелася ўсюды паспець, абняць неабдымнае. А ўсё гэта — «суета сует и всяческая суета…»

Толькі цяпер я пачынаю спасцігаць жыццёвую мудрасць мамы. Хоць яна і скончыла ўсяго царкоўнапрыходскую школу. Але колькі ведала малітваў, колькі царкоўных песнапенняў! А колькі чытала на памяць вершаў — і Пушкіна, і Някрасава, і Коласа!.. А якая была пявуння — з чыстым, звонкім голасам. На ўсіх купальскіх вечарах, вяселлях гучаў яе цудоўны голас.

Яшчэ мама ўмела ткаць. Дываны, посцілкі, ручнікі. Я памятую яе за кроснамі. Як цярпліва, як скрупулёзна выводзіла яна ўзоры. Яе нават запрашалі, як цяпер бы сказалі, на майстар-клас у суседнія вёскі. І яна ніколі не адмаўлялася. Усё, што ўмела сама, расказвала і паказвала іншым. Не кожнаму гэта даецца. Тут таксама патрэбна мець свой талент.

**— А ці засталося што з маміных вырабаў?**

— Засталося. Некалькі настольнікаў, ручнікоў. Але яны ўжо старэнькія... Ёсць нават сувой тканага палатна. Усё гэта я захоўваю. Берагу і некаторыя, самыя дарагія маміны рэчы — хусткі, спадніцы, кофты. Яна была вельмі акуратнай, усё да толку, як кажуць.

**— Марыя Георгіеўна, у вёсцы ўжо, відаць, нікога не засталося з блізкіх вам людзей?**

— Ну, чаму ж... Ёсць яшчэ мае цёткі, пляменнікі. Родная сястра мамы, цётка Паўліна. Цётка Гунэфа ў свае дзевяноста гадоў мае яшчэ выдатную памяць і добры голас. Як заспявае — заслухаешся. Цётка Вера — яе няма ўжо — таксама спявуха была не абы-якая. Да гэтага часу помню і яе песні, і яе прычытанкі: «А мой барочак — мой браточак!.. А мая зямліца — мая сястрыца!». З цёткай Марыляй калісь разам хадзілі ў царкву. Любіла гасцяваць у цёткі Клаўдзіі — нядаўна яе не стала. З ёю заўжды было так утульна. З якім бы настроем ні прыехаў — праз гадзіну ад яе дасціпных баек, прыпевак, жартаў пра ўсё забудзеш.

Я вельмі ўдзячная лёсу, што гадавалася ў такіх мудрых, інтэлігентных бацькоў, расла і выхоўвалася сярод такіх шчырых і праўдзівых людзей, як мае цёткі, многія мае аднавяскоўцы. Усё, што я ўвабрала ў сваю чуйную дзявочую душу, усё, з чым я сутыкалася ў гады майго маленства, майго юнацтва, вельмі і вельмі прыдалося пасля, падчас работы ў тэатры.

## А мой парог на сто дарог

**— Ну, вось мы лагічна і падышлі да вашай прафесіі. Як і калі нарадзілася ў вас мара стаць артысткай?**

— Па праўдзе кажучы, я пра гэта ў школе зусім і не марыла. Хаця актыўна ўдзельнічала ў мастацкай самадзейнасці — чытала вершы, спявала, выконвала ролі ў спектаклях. Помню, аднойчы мы ставілі аднаактоўку, мне трэба было сказаць свайму партнёру такія словы: «Мой мілы, дарагі! Нарэшце ты прыляцеў!» і абняць. Але я вельмі бянтэжылася, усё ніяк не магла гэта сказаць, а калі нарэшце пераадолела сваю сарамлівасць, кіраўнік гуртка пахваліў мяне. Аднак, паўтараю, не ўспрымала гэта ўсур'ёз, адносілася менавіта як да гульні. І ў думках не было ісці вучыцца ў тэатральны.

**— А куды вы збіраліся паступаць?**

— У педагагічны. Я хацела быць настаўніцай. У нашай школе рускую мову і літаратуру выкладала Валянціна Маісееўна Ерашова. Гэта была прыгожая, шляхетная маладая жанчына. Яна з густам і, як мне тады здавалася, модна апраналася. Насіла такую элегантную карычневую сукенку з белым каўнерыкам. Мы ўсе зайздросцілі ёй — яе ўменню ладзіць з дзецьмі, яе эрудыцыі, абаяльнасці і, канечне ж, многія з нас марылі стаць такой жа настаўніцай, як яна.

**— І што ж стала прычынаю памяняць гэтыя планы?**

— На выпускным вечары да мяне падышоў настаўнік замежнай мовы і запытаў, куды я збіраюся паступаць. А тады і кажа: «А пра тэатральны інстытут не думала?» І пачаў хваліць мае выступленні на школьнай сцэне: «У цябе, Марыя, несумненныя здольнасці да гэтага. Падумай...» І от нешта ў маёй душы як бы ўспыхнула, загарэлася.

Назаўтра я знайшла патрэбную газету, прачытала ўсё пра тэатральны інстытут — і што трэба здаваць, і якія ўмовы прыёму, і адчула, што маё неакрэсленае, няўпэўненае жаданне пачынае крэпнуць, набываць канкрэтныя абрысы. Але гэта было яшчэ настолькі асабістым, патаемным, што я нават нічога не стала гаварыць бацькам. Сказала, калі ўжо трэба было ехаць у Мінск на экзамены. Маці адразу ўстрывожылася, завохкала: а навошта табе гэта трэба? А ці ж гэта прафесія? Але я ўжо цвёрда рашыла: толькі тэатральны! І адгаварыць мяне было немагчыма.

Што рабіць — сабралі мяне бацькі (увесь мой скарб — кніжкі, вопратка, ежа — змясціўся ў невялікім фанерным чамаданчыку, абцягнутым палатном. Чамаданчык гэты недзе захоўваецца ў мяне і цяпер), правялі на вакзал, і я паехала. А тады яшчэ прамых рэйсаў да Мінска не было. Спачатку трэба было дабірацца да Маладзечна, а тады ўжо, чыгункаю, у Мінск.

Прыехала я ў сталіцу, знайшла Оперны тэатр, дзе месціўся тады інстытут, і калі ўбачыла, колькі тут сабралася такіх, як я, разгубілася. Але адступаць было позна. Пачаліся экзамены. Конкурс быў вялікі, ды я пра гэта не думала. Хвалявалася страшэнна.

Але ўсё прачытала някепска. Нават эцюд паказала той, што падрыхтавала. І раптам нехта з членаў прыёмнай камісіі просіць мяне паказаць яшчэ адзін эцюд. Даюцца яго ўмовы, але я ўжо нічога рабіць не магу. Адна думка: «Усё! Правал! Інакш бы яны не папрасілі мяне зрабіць новы эцюд».

Стаю за сцэнаю і плачу. І тады адзін малады хлопец падыходзіць да мяне, супакойвае і нават паказвае, што трэба рабіць, і выштурхоўвае на сцэну. Я плачу і раблю тое, што ён паказваў. Скрозь слёзы бачу: камісіі гэта, здаецца, спадабалася.

Так вось і паступіла ў інстытут. А той хлопец, які мяне выручыў і які стаў пасля маім аднакурснікам, вырас у знакамітага народнага артыста СССР. Гэта быў Віктар Тарасаў. На вялікі жаль, яго ўжо няма з намі.

**— Марыя Георгіеўна, я ведаю, што вы яшчэ студэнткай былі запрошаны ў тэатр імя Янкі Купалы на галоўную ролю ў спектакль па п'есе І. Мележа «Пакуль вы маладыя». Як аднесліся да вас купалаўцы? У той жа час там працавалі сапраўдныя карыфеі сцэны...**

— Так, для мяне, студэнткі чацвёртага курса, гэта была цэлая падзея. Падзея радасная, узнёслая, хвалюючая. Тэатр Янкі Купалы! Трапіць туды і мець магчы-

масць працаваць побач з такімі зоркамі сцэны, як Ірына Ждановіч, Барыс Платонаў, Вольга Галіна, Раіса Кашэльнікава, Павел Пекур... Менавіта яны былі заняты ў спектаклі «Пакуль вы маладыя», першым драматычным творы Івана Мележа.

Вядома ж, напачатку я адчувала на сабе ўважлівыя, выпрабавальныя позіркі старэйшых акцёраў. І гэта было натуральна: яны ж мяне не ведалі, і хацелася дазнацца, каго ж гэта ім рэкамендаваў мой педагог К. М. Саннікаў.

Але хутка я адчула, як першая насцярожанасць змянілася поўным даверам і вельмі цёплымі, зацікаўленымі адносінамі. Я многаму вучылася ў праслаўленых майстроў сцэны. Гэта была школа ў дзеянні.

Што тычыцца самой ролі, то галоўная гераіня была для мяне блізкая і зразумелая. Яна — мая равесніца, і погляды на жыццё ў нас былі, можна сказаць, аднолькавыя. Іграць мне было хоць і няпроста, але цікава, прыемна. Пасля некалькіх рэпетыцый я працавала ўжо думаючы толькі пра дзею п'есы. Хацелася не падвесці не толькі тэатр, але і знакамітага пісьменніка. І, канечне ж, Канстанціна Мікалаевіча Саннікава.

**— У гэтым жа спектаклі вуснамі сваёй гераіні на рэпліку партнёра «Ён такі талент!» вы пераканана адказваеце: «А нашто той талент, калі ў яго няма сэрца». Як актрыса вы падзяляеце гэты погляд?**

— Безумоўна, падзяляю. І не толькі як актрыса, але і як чалавек. Той, хто думае толькі пра сябе, які любіць толькі самога сябе, калі ў чалавека няма дабрыні, няма добразычлівасці, ён нецікавы не толькі ў жыцці, але і на сцэне. Якім бы таленавітым гэты акцёр ні быў. Гэта лёгка прачытваецца, адразу ж відаць. Гэтага не схаваеш.

**— Пасля амаль дзесяцігадовага аднастайнага існавання на сцэне ў вас адбыўся нечаканы ці, можа, якраз чаканы прарыў. Адну за адною вы ствараеце буйныя, яркія, каларытныя ролі — Лізы Хрэнавай у спектаклі «Традыцыйны збор» В. Розава, Зоі Савіч у «Сэрцы на далоні» па І. Шамякіну, Варвары з «Навальніцы» А. Астроўскага, камісара з «Аптымістычнай трагедыі» Ус. Вішнеўскага... Якая з гэтых роляў для вас самая дарагая? Самая складаная? Самая памятная?**

— Самая дарагая?.. Цяжка сказаць. Сёння мне ўсе мае ролі здаюцца аднолькава значнымі. Кожная з іх была па-свойму цікавая, лёсы маіх гераінь былі самыя розныя. Часам нават дыяметральна процілеглыя. І ў гэтым заключалася асаблівая цікавасць.

А самая памятная роля... Відаць, тая, над якой было складаней працаваць, дзе былі нейкія таямніцы, загадкі, якія трэба было разгадваць.

Ведаеце, асноўнае для акцёра, для яго раскрыцця — вера рэжысёра ў гэтага творцу, яго ўвага і дапамога. На жаль, часам мы бываем кінутымі на самавыжыванне. Што сам зробіш — тое і зробіш. Ніякай зацікаўленасці тваёй асобай.

А часам здараецца цуд: табе прапаноўваюць нечаканую, але такую жаданую ролю! І тады яна становіцца для цябе самай лепшай, самай цікавай. Іншы раз такі вось шчаслівы выпадак мяняе тваё творчае жыццё.

**— А няўдачы ў вашай акцёрскай практыцы былі?**

— Калі ў рэжысёра ёсць задума, калі матэрыял ім перажыты і вынашаны, калі ён ведае што сказаць, падказаць, параіць акцёру, калі ён верыць усім выканаўцам роляў — няўдачы не будзе. Асабіста ў мяне, безумоўна, былі ролі, якімі я не магла быць задаволена. І я лічу, гэта добра. Калі ўсім задаволены — не на карысць прафесіі.

**— Каго вы хацелі, марылі сыграць і не сыгралі? Каго б вам хацелася яшчэ сыграць?**

— Марыць — гэта цудоўна! Мара сапраўды дапамагае іншы раз выжываць. Але ў нашай прафесіі гэтыя мары часта так і застаюцца марамі. Многа розных прычын і нюансаў не даюць магчымасці падобным марам здзейсніцца.

Я, на жаль, не сыграла вельмі многа з таго, што магла б сыграць. Галоўнае маё шкадаванне — Чэхаў. Я магла б іграць ва ўсіх яго п'есах. І Машу ці Ірыну ў «Трох сёстрах», і Ніну Зарэчную ў «Чайцы», і іншых гераінь.

І ў п'есах Шэкспіра, лічу, магла б быць занятая. Магла б! Але не мы, акцёры, вырашаем, не мы выбіраем.

Цудоўныя п'есы Уладзіміра Караткевіча не пабачылі свет на сцэне нашага тэатра. Шкада. Незразумела, чаму. Можна толькі каяцца перад вялікім пісьменнікам.

А сыграць хацелася б проста харошую ролю са складаным характарам і няпростым лёсам гераіні. Іграць акцёрам хочацца заўсёды, і чым больш. У любым узросце. Я не выключэнне. Але гэта ўжо як Бог дасць.

**— У адной з тэатразнаўчых прац я прачытаў: «...роль произрастает из прозы быта, из мусора будничности, из соринок мимолетности — и из ежедневных жанровых сцен и фарса пошлости. И вместе с тем из трагедии и поэзии бытия...» Сказана трошкі мудрагеліста, але думка зразумелая. Скажыце, калі ласка, а як у вас ідзе праца над роляю? Па нейкіх вызначаных канонах ці кожны раз па-свойму?**

— Кожная новая роля — гэта новы характар, новы лёс. І кожная з іх патрабуе свайго падыходу. Заўсёды пачынаеш з пытання: што за чалавек гэты персанаж? Што ў яго за плячыма, чым жыве зараз, чаго ён хоча, з чым змагаецца і што абараняе, чаму так, а не інакш? Многа пытанняў трэба задаць і адказаць на іх. Тады будзеш ведаць, як гэтую ролю пражыць на сцэне, каб гледачу было і цікава, і зразумела, чаму я плачу на сцэне, пра што думаю, што мяне хвалюе. І, безумоўна, эмацыянальна патраціцца. Душу разверадзіць.

У кожнага акцёра ёсць свае, нікому не вядомыя таямніцы. Тое, што гаворыцца на рэпетыцыі, — гэта адно, а ёсць тое, пра што не гаворыцца. Асабістае жыццё, асабістыя жыццёвыя сітуацыі — гэта, я думаю, асноўнае. Тое, што табой пражыта, напэўна, важней, чым тое, аб чым ты не маеш уяўлення. Хоць фантазія творчая павінна гэта ўявіць, намаляваць. Галоўнае, каб усё было праўдзіва табой пражыта, каб гледачу, паўтаруся, было зразумела, што цябе хвалюе, што ты хочаш сказаць са сцэны.

**— У свой час у рэпертуары купалаўцаў быў спектакль «Тэатр — любоў мая». Асаблівага рэзанансу ён не атрымаў, але цікавы быў тым, што размова ў ім ішла пра тэатр. Пра тэатр знутры. Пра клятую і такую блаславёную прафесію артыста.**

**Тэатральныя крытыкі пісалі, што Марыя Захарэвіч, здаецца, іграе саму сябе, свой «Мільён пакут» і сваё шчасце. Іграе з рэдкай свабодай сталага майстра і віртуознасцю.**

**А што насамрэч значыць для вас тэатр? Ці змяніліся з гадамі вашы адносіны да прафесіі артыста?**

— Што такое тэатр «знутры»? Гэта вельмі складанае пытанне. Артысты (у асноўным) вельмі ранімыя людзі. І кожная заўвага ці сур'ёзная крытыка ўспрымаецца балюча. Гэтая крытыка бывае часам справядлівая, а часам і наадварот. І таму акцёры вельмі насцярожваюцца пасля такіх ацэнак і не разумеюць, дзе ж праўда.

Праўду знайсці цяжка. Таму з цягам часу пачынаеш адносіцца да ўсіх ацэнак даволі раўнадушна і больш давяраеш сабе, свайму густу.

Вельмі парушае творчую атмасферу ў тэатры зайздрасць. Яна ёсць усюды, напэўна. Але ў творчых калектывах праяўляецца больш яскрава.

І як бы з гадамі ні мяняліся твае адносіны да тэатра, усё роўна ён застаецца для цябе прыцягальным. Напэўна, таму, што столькі здароўя, нерваў, душы яму падаравана. А калі тэатр патрэбен людзям, калі яны кожны вечар запаўняюць залу, чакаюць нечага ад цябе, то ён становіцца патрэбен і табе. І ўсё больш сур'ёзна задумваешся, што ты ім гаворыш са сцэны, чым ты ім дапамагаеш, каб стаць нераўнадушнымі, лепшымі, дабрэйшымі.

**— Як вядома, амаль адначасова, на працягу двух-трох гадоў, на купалаўскую сцэну прыйшлі Віктар Тарасаў, Марыя Захарэвіч, Ганна Талкачова, Ліля Давідовіч, Генадзь Гарбук, Генадзь Аўсяннікаў, Аўгуст Мілаванаў. Прыйшлі ўслед за старэйшымі, ступілі на купалаўскую сцэну — і засталіся на ёй на ўсё жыццё, прыняўшы на сябе і адказнасць за яе, і славу.**

**Так, яны самі сталі гонарам і славай тэатра, адзначаны ганаровымі званнямі і ўзнагародамі. Але жывуць нялёгка. Не проста ў працы і клопатах, але і ў бясконцым чаканні — адметных роляў, добрых спектакляў, цікавай работы.**

**Гэта было сказана тэатральнай крытыкай 20 гадоў назад. Ці змянілася сітуацыя цяпер?**

— Работы ў тэатры, тым больш цікавай, для акцёраў заўсёды не хапае. Але, безумоўна, многае, а можа, і ўсё, залежыць ад мастацкага кіраўніка, які павінен так планаваць рэпертуар, каб заняць максімальную колькасць артыстаў, якія іншы раз гадамі не маюць магчымасці праявіць свае здольнасці. Гэта няпроста, але магчыма. Калі людзі заняты працай, тады і атмасфера ў тэатры мяняецца ў лепшы бок, і гэта яднае калектыў. І тады свята прэм'ер становіцца святам не для некалькіх чалавек, а для ўсяго калектыву. Трэба любіць тых людзей, з якімі працуеш.

**— У гэтай сувязі не магу не зрабіць яшчэ адну спасылку. У свой час тэатральны крытык Лілія Брандабоўская з горыччу і недаўменнем публічна задавала пытанне: «Чаму ж мы такія нядбалыя? Такія лянівыя і нецікаўныя? Хіба не наракаем на тое, што тэатр перастаў узрушаць? Што на сцэнах часта ідуць «нармальныя» спектаклі, на якіх глядач ахвотна смяецца, але не плача, пасля якіх разважае, але не гарыць!**

**Што ж павінна яшчэ адбыцца, каб тыя, каму па родзе іх дзейнасці належыць клапаціцца пра лёс акцёраў, зрабілі менавіта гэтае — клапаціліся? Не толькі пра званні, кватэры, бальніцы ці там пра дачныя ўчасткі альбо машыны, — не, пра галоўнае: пра ролі! А энергія цудоўных акцёраў у гэты час праходзіць бясконцы «перыяд накаплення»... А час мінае, мінаюць ролі, у якіх яны маглі б узрушаць і — не ўзрушылі. Не адбылося...**

**Мы прывыклі гаварыць: талент — дзяржаўная каштоўнасць, народны набытак. І гэта сапраўды так. Але міжволі ўзнікае пытанне: калі прастойвае дарагое, за валюту купленае абсталяванне, людзі абураюцца, б'юць у набат, шукаюць вінаватых. А калі прастойвае акцёр — свой, родны, жывы, непаўторны, калі гадамі не выкарыстоўваецца талент — унікальны, іншага такога не будзе, калі мінаюць гады — а ён іграе мала альбо не тое? Як быць?»**

**Прабачце за даўгаватую цытату, але я знарок прывёў яе цалкам, бо кожнае слова тут напоўнена болем і любоўю да нашага тэатра, да лёсу выдатных майстроў сцэны. Дык як жа быць, Марыя Георгіеўна? Што яшчэ павінна адбыцца, каб сітуацыя змянілася?**

— Дабаўлю да сказанага толькі адно. Каб сітуацыя змянілася, павінны змяніцца і самі акцёры. Не маўчаць. Раней мы варушылі адно аднаго на сходах. Але іншы раз такім чынам дабівацца ролі не тое што не хочацца, а нават прыкра. А таму нярэдка маўчанне ставіцца вышэй за асабісты поспех. Гэта няправільна. Трэба гаварыць.

## І там душою спачываю...

**— Ведаю, што тэатр — не адзінае вашае захапленне. Вы ў свой час вельмі актыўна супрацоўнічалі з Беларускім радыё, прымалі ўдзел у пастаноўках на тэлебачанні. А яшчэ — маеце цесныя сувязі з многімі беларускімі пісьменнікамі. Рэдкі літаратурны вечар у сталіцы абыходзіцца без вашага ўдзелу. Раскажыце пра гэта крыху падрабязней.**

— Вы так падрабязна пра гэта запыталі, што мне ўжо і расказваць няма чаго.

**— Я меў на ўвазе вось што. Ваш удзел адбываўся заўсёды па просьбе ці было і сустрэчнае, уласнае жаданне?**

— Я разумею. Скажу, што на ўсіх літаратурных вечарах я была заўсёды па запрашэннях. Па асабістых запрашэннях пісьменнікаў альбо арганізатараў гэтых вечароў.



*Марыя Захарэвіч і Зіновій Прыгодзіч.*

І я ніколі не адмаўлялася. Калі была вольная, заўсёды ўдзельнічала, таму што не ўяўляла свайго жыцця без таго, каб не прысутнічаць на любым мерапрыемстве ў Доме літаратара.

Да гэтага дома цягнулася душа. Там былі такія вечары, якія нельга забыць. Уражвала надзвычайная цікавасць да беларускай паэзіі, беларускай прозы. Зала заўсёды была перапоўненая. І ў юбілейныя вечары, і на паэтычных пятніцах, і на прэзентацыях новых кніжак. Гэта былі сапраўдныя святы.

Мы, запрошаныя акцёры, рыхтаваліся да гэтага вельмі сур'ёзна: вывучвалі на памяць (на адзін вечар!) па некалькі вершаў ці цэлыя кавалкі прозы. Помню, да вечара Івана Шамякіна я вывучыла вялікі ўрывак з апавядання «Хлеб». І вельмі хвалявалася: каб жа хоць не забыцца, бо тады выходзілі на сцэну без шпаргалкі, без кніжкі. І вось стаю ля кулісаў, паўтараю тэкст, а міма праходзяць Шамякін з Макаёнкам.

— Што, Маша, яшчэ тэкст вучыш? — пытаюцца жартам.

— Ды не, — адказваю, — проста хвалююся.

— Не хвалюйся. Мы ж усе свае.

Але мы тады надзвычай сур'ёзна адносіліся да свайго ўдзелу ў літаратурных вечарах. Толькі на памяць! Такая была завядзёнка, такі прынцып.

Цяпер усе чытаюць з кніжак. І гэта, магчыма, правільна. Таму што можна вельмі хораша прачытаць верш і па кніжцы, знаючы яго сюжэт, яго сэнс.

О, гэта вельмі важная, неад'емная частка майго жыцця. Я ганаруся тым, што пэўны час была цесна звязана з беларускаю літаратурай. У маёй бібліятэцы некалькі паліц кніжак з аўтографамі нашых пісьменнікаў. Гэта для мяне — самая галоўная ўзнагарода. Вось такія шчырыя словы, шчырыя пажаданні, такая ўдзячнасць за мой удзел у вечары. Адкрываеш часам кніжку пісьменніка, якога ўжо й няма, чытаеш яго радкі і ўспамінаеш добрым словам.

Я і цяпер не ўяўляю свайго жыцця без такіх вось цесных творчых кантактаў з беларускай літаратурай, асабліва паэзіяй.

**— Ведаю, што не так даўно вы падрыхтавалі кампазіцыю па вершах Генадзя Бураўкіна. Кампазіцыю незвычайную, бо вы там не толькі чытаеце, але і спяваеце. Як нарадзілася такая задума?**

— Пэўны час назад мне трапіла ў рукі кніга інтымнай лірыкі «Чытаю тайнапіс вачэй» Генадзя Бураўкіна. Кніга, якая мне не проста спадабалася, а якая глыбока мяне ўзрушыла, усхвалявала. І захацелася зрабіць кампазіцыю на гэтыя цудоўныя вершы. Захацелася некаторыя з вершаў прачытаць, а некаторыя праспяваць — так вось, як адчула мая душа.

З асобнымі ўрыўкамі з гэтай кампазіцыі я выступала на многіх вечарынах. Прымаюць выдатна. А ў цэлым кампазіцыю я выканала толькі адзін раз, на святочным вечары ў нас у тэатры, у Дзень абаронцаў Айчыны. Гэта быў як бы падарунак нашым мужчынам, але больш за ўсё гэта быў падарунак самой сабе. Я мела магчымасць выказаць сваю душу, тое, што я адчуваю зараз так, як адчувала многа-многа год назад.

Пасля гэтага вечара да мяне падыходзілі некаторыя акцёры, у асноўным маладыя, якія былі вельмі ўражаныя кампазіцыяй, і дзякавалі, і глядзелі на мяне здзіўленымі вачыма: хто ж гэта такая, актрыса Марыя Захарэвіч, калі яна так вось безаглядна вырашыла адкрыць сваю душу перад калегамі.

**— Раскажыце крыху падрабязней аб вашай рабоце на Беларускім радыё.**

— Разумееце, беларускую літаратуру я адчула ўсёй душой і на радыё. Тое, што было створана на радыё (пастаноўкі, паэтычныя кампазіцыі, чытанне твораў беларускіх пісьменнікаў), — гэта добрая палавіна майго творчага жыцця, а можа, і больш.

Менавіта на радыё я сыграла такія ролі (у пастаноўцы Соф'і Гурыч), аб якіх у тэатры нават марыць не магла. Ролі разнапланавыя: і камедыйныя, і лірычныя, і драматычныя, і трагедыйныя.

Соф'я Якаўлеўна вельмі, вельмі мне давярала. Мы разумелі адна адну не тое што з паўслова, а проста з позірку. Яна толькі паглядзіць на мяне, і я ўжо ведаю: падабаецца ёй тое, што я раблю, ці не. Гурыч ажыццявіла больш за дзвесце спектакляў, якія цяпер захоўваюцца ў залатым фондзе Беларускага радыё. І на ўдзел амаль у кожным запрашала мяне.

Кожны дзень пасля тэатра мы, група беларускіх акцёраў, ішлі сюды. Запісвалі перадачы не толькі днём, але і начамі, таму што студыя нярэдка была занятая. І ніхто з акцёраў не адмаўляўся, таму што яны атрымлівалі ад гэтай працы вялікае задавальненне.

Скажу нават больш: рэжысёры радыё выхоўвалі многіх і многіх акцёраў, яны больш дэталёва разглядвалі іх індывідуальнасць, чым у тэатры. Таму радыё было сапраўды маім другім домам.

**— Дарэчы, вы і Дзяржаўную прэмію рэспублікі атрымалі за радыёспектакль.**

— За радыёспектакль, так... Але цяпер, аглядваючыся назад, я, канечне, разумею, што не магла адмовіцца ад удзелу ў многіх і многіх спектаклях. Тым больш, што ў тэатры такіх роляў мне ніхто не прапаноўваў. Але разам з тым часам і шкадую, што столькі часу, свайго, асабістага, я адрывала ад сям'і, ад дому і прастойвала ля мікрафона.

Тады радыё было на такім высокім узроўні, яму такая ўвага ўдзялялася, што было толькі жаданне працаваць і працаваць.

**— Цяпер вось Беларускае радыё пачынае аднаўляць добрыя традыцыі. Не так даўно ў эфіры прагучаў спектакль па п'есе гомельскага драматурга Васіля Ткачова.**

— І гэта цудоўна! У спектаклі, які вы ўзгадалі, я таксама брала ўдзел. Пастаноўка прысвечана чарнобыльскай аварыі. Там апавядаецца пра незвычайную, трагічную сітуацыю, пададзены яркія, каларытныя характары. Усе акцёры, што былі заняты ў гэтым спектаклі, гралі захоплена, з надзвычайным уздымам.

І гэта проста здорава, што ў нас зноў пачынаюць праяўляць увагу да радыёкампазіцый. Яны патрэбны народу. Людзі слухаюць і вельмі актыўна адгукаюцца — тэлефануюць, прысылаюць пісьмы. Дарэчы, мяне да гэтага часу, куды б я

ні прыехала, у самую аддаленую вёсачку, пазнаюць па голасе. Гэта прыемна. Гэта дарагога каштуе.

**— Вы ж і ў кіно былі занятыя?**

— І ў кіно таксама. Я знялася больш чым у 20 кінафільмах. У асноўным у беларускіх кінарэжысёраў — у Турава, Пташука, Чацверыкова, Зайцава і іншых.

Акрамя таго, у кіно я вельмі многа агучвала. Агучыць жа ролю ў кінафільме — гэта значыць зрабіць гэту ролю. Тваім голасам гаворыць гераіня. І можна ролю сапсаваць, а можна ў нечым нават палепшыць.

**— Гэта была праца таксама над фільмамі беларускіх рэжысёраў?**

— Так.

**— Дык навошта было пераагучваць?**

— А таму што рэжысёру іншы раз нешта не падабалася альбо не было актрысы, яна не змагла па нейкіх прычынах прыехаць на агучванне. А фільм жа чакаць не можа... І тады на студыю запрашаліся іншыя артысты. Здаралася, як аднойчы ў фільме Турава, мне даводзілася агучваць адразу тры ролі. Бывала і такое...

**— Апошнім часам вы даволі плённа працуеце і як тэатральны рэжысёр. У Маладзечанскім абласным драматычным тэатры, якім вы апякуецеся, паставілі некалькі выдатных спектакляў — «Апошнюю ахвяру» па п'есе А. Астроўскага, «Характары» паводле В. Шукшына. А на сцэне Купалаўскага тэатра ажыццявілі пастаноўку адной з самых складаных, глыбока псіхалагічных п'ес замежнага драматурга М. Саймана «Я не пакіну цябе». Гэты спектакль не толькі карыстаецца вялікай папулярнасцю ў гледачоў (вось ужо трэці год ідзе з нязменнымі аншлагамі), але і атрымаў высокую ацэнку тэатральных крытыкаў. На Міжнародным фестывалі «Славянскі тэатр. Сустрэчы» за ролю Нэці вы сталі пераможцай у намінацыі «Лепшая жаночая роля».**

**Марыя Георгіеўна, рэжысура — гэта яшчэ адзін спосаб рэалізаваць сябе ці за гэтым стаіць нешта большае?**

— Мая рэжысура — гэта не ад добрага жыцця. Мы ўжо з вамі гаварылі аб няпоўнай занятасці акцёраў, аб іх творчых прастоях, аб тым, што так не павінна быць, што такой няўвагай можна загубіць любога творчага чалавека. Таму, зразумела, кожны акцёр знаходзіць нейкія шляхі, каб трымаць сябе ў форме. У мяне гэта, па-першае, праца са студэнтамі, з якімі я працую над самымі рознымі творамі класікі, — і беларускай, і замежнай.

Па-другое, спробы самастойна ставіць спектаклі. Можа, гэта крыху загучна сказана, але ж я не бралася за спектаклі па п'есах Стрынберга, ці, скажам, Ібсэна, ці нават Чэхава. Гэта — для прафесіяналаў. А вось п'еса Майё Саймана мне падалася блізкай і зразумелай. Я адразу ўбачыла, як яна будзе ўвасоблена на сцэне.

І пасля мне вельмі дапамагла сустрэча з Наталляй Гайдай. Гэта проста шчаслівы дарунак лёсу. Хаця многім мая спроба даручыць актрысе Тэатра музычнай камедыі складаную драматычную ролю здавалася незразумелай і рызыкоўнай.

Аднак рызыка цалкам апраўдалася. Наталля Гайда менш чым за месяц вывучыла беларускую мову і бліскуча сыграла сваю ролю. Выдатна валодаючы голасам, яна праявіла і незвычайны талент драматычнай артысткі. А гэта — вялікая рэдкасць.

Таму, як кажуць, нам Бог памог. Спектакль атрымаўся, ён ідзе з нязменным поспехам. За ўсё сваё жыццё я не атрымлівала столькі задавальнення і столькі ўвагі гледачоў. Пасля кожнага спектакля мы пакідаем сцэну з букетамі кветак. Заўсёды за кулісы прыходзіць шмат нашых прыхільнікаў. Часам яны нават не змяшчаюцца ў маленькай грымёрцы, і мы ідзём у больш прасторную і там яшчэ гадзіну ці дзве сядзім, абмяркоўваем перыпетыі спектакля.

Ну і, як вы правільна зазначылі, спектакль атрымаў прызнанне не толькі ў гледачоў. За тры гады мы пабывалі на чатырох міжнародных фестывалях — два разы ў Маскве, адзін раз у Кіеве і адзін раз у Гомелі — і ўсюды атрымоўвалі ўзнагароды. Ад журы чулі самыя высокія ацэнкі і шчырыя словы ўдзячнасці.

Я нават раскажу вам адну незвычайную і вельмі кранальную гісторыю, звязаную са спектаклем «Я не пакіну цябе». У горадзе Барысаве праводзіўся конкурс вядучых. Я была там старшынёй журы. І вельмі парадавалася, колькі ў нас таленавітых юнакоў і дзяўчат.

А пасля заканчэння конкурсу да мяне падышла адна жанчына, павіталася, сказала, што чула пра наш спектакль і вельмі хацела б на ім пабываць. «Дык у чым справа, — кажу ёй, — прыязджайце». — «Абавязкова прыеду». І яна сапраўды прыехала. Паглядзела спектакль. Узрушаная, падарыла нам кветкі. Падзякавала за сапраўднае задавальненне.

І вось нядаўна гэтая ж жанчына звоніць мне і пытаецца: «Калі яшчэ будзе ісці ваш спектакль? Я хачу прывезці сваю старэнькую маці. У яе таксама катаракта, як у вашай галоўнай гераіні. І я хачу маму падтрымаць, таму што ваш спектакль пры ўсім тым, што там многа драматычнага, такі аптымістычны».

**— Марыя Георгіеўна, а якім чынам лёс вывеў вас на Маладзечна?**

— Ведаеце, у артыстаў бываюць перыяды прастою. Часам яны зацягваюцца надоўга. І гэта вельмі кепска, калі ты нікому не патрэбен.

Дык вось Маладзечанскі тэатр стаў у свой час выратавальным кругам. Мяне спачатку запрасілі займацца з артыстамі толькі мовай. Працавалі над урыўкамі з тэкстаў, над вершамі. А потым была занята ў некаторых спектаклях. І нарэшце рашылася на рэжысёрскую работу. Для дэбюту выбралі «Апошнюю ахвяру» А. Астроўскага. Спектакль атрымаўся, ідзе ён і цяпер.

Там такія добразычлівыя людзі — і дырэктар тэатра Сяргей Валькові, і рэжысёр Мікалай Мацкевіч. Такія працалюбівыя артысты. Яны могуць за два тыдні зрабіць спектакль. Усе так сур'ёзна адносяцца да сваёй справы. Таму з кожным годам расце іх прафесійнае майстэрства. Расце тэатр. Цікавыя спектаклі выпускаюцца. Прызнаюся, што я — магу ці не магу — заўсёды еду ў Маладзечна, каб пабыць у гэтым тэатры, паглядзець новы спектакль, прыняць удзел у пасяджэнні мастацкай рады.

Словам, у гэтым тэатры вельмі харошы калектыў. Там адпачываеш душою. І я да гэтага часу не парываю з ім сувязі. І, калі дасць Бог, хачу яшчэ разам з тэатрам папрацаваць над адным драматычным творам Івана Мележа.

**— Цяпер, калі вы паспрабавалі і рэжысёрскага хлеба, і акцёрскага, якімі вам бачацца адносіны паміж акцёрам і рэжысёрам? Ці могуць яны быць ідэальнымі?**

— Адназначна на гэта і не адкажаш. Калі рэжысёр, як я ўжо гаварыла, верыць у акцёра, калі яны разумеюць адно аднаго, калі акцёр прыслухоўваецца да рэжысёра, а рэжысёр — да акцёра, калі такое вось узаемнае разуменне, тады і ствараецца нешта значнае, цікавае.

Канешне ж, акцёр адчувае, як да яго адносіцца рэжысёр. Нават калі ў акцёра нешта не атрымліваецца, але калі рэжысёр падтрымае яго, скажа добрае слова — душа адразу адгукаецца. На жаль, бываюць выпадкі, калі рэжысёр увесь час незадаволены, крытыкуе акцёра перад усімі, то тут, безумоўна, ніякага выніку не будзе. Акцёрская душа не раскрыецца.

Я вычытала нядаўна ў Бергмана, што ён мог вельмі доўга працаваць з акцёрамі. Нават без адпачынку. Але калі рэжысёр адчуваў, што ў яго не той настрой, альбо ён дрэнна сябе адчувае, альбо той ці іншы акцёр не ў форме, то рэпетыцыі спыняліся. Усе разам ішлі ў кавярню, пілі каву і вялі простую, шчырую гаворку. Альбо гулялі ў парку. І, між іншым, працягвалі абмяркоўваць некаторыя сцэны будучага спектакля, характары яго асобных персанажаў. Работа такім чынам працягвалася, але ўжо ў іншых абставінах, у зусім іншай атмасферы. Мне здаецца, што гэтым самым знакаміты рэжысёр праяўляў не толькі ўвагу, але і павагу да сваіх акцёраў. Ён не эксплутаваў іх бяздумна і жорстка. Ён іх любіў.

**— Дык гэта, можа, якраз і ёсць мадэль ідэальных адносін?**

— Ну, можа, яны і не ідэальныя, але гэта справядлівыя і правільныя адносіны. І менавіта дзякуючы такім адносінам і ствараюцца сапраўдныя спектаклі, спектаклі-падзеі.

**— А ці былі апошнім часам у нашым тэатры такія падзеі?**

— Я не магу сказаць, што той ці іншы спектакль мяне надзвычай узрушыў ці, кажучы па-руску, «потряс». Але, безумоўна, былі спектаклі, якія пры ўсіх іх недахопах можна назваць дабротнымі, значнымі. На жаль, бываюць і такія: выйшаў з тэатра — і забыў.

**— Ці не здаецца вам, што сённяшні тэатр перажывае пэўны крызіс? Пасля таго ўздыму, які назіраўся ў шасцідзесятыя-сямідзесятыя гады з пастаноўкай новых п'ес Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка, Мікалая Матукоўскага, Анатоля Дзялендзіка. Пазней Аляксея Дударава, Яўгена Шабана і іншых беларускіх драматургаў, абазначыўся відавочны спад, наступіла нейкае зацішша...**

— Не, я не магу сказаць так катэгарычна. Разумееце, і тады, і цяпер рознае было. Былі і ўзлёты, і правалы. Былі спектаклі-падзеі, але былі і няўдачы. Гэта — жыццё. І я аптымістычна гляджу ў будучыню. Тэатр неабходны людзям. Тэатр заўсёды будзе запатрабаваны. Бо нішто — ні кіно, ні тэлевізар, ні самы сучасны камп'ютэр — не заменіць жывога акцёра, той магіі дзеяння, якое разгортваецца тут і зараз, на тваіх вачах.

## Радасць незабыўных сустрэч

**— Марыя Георгіеўна, лёс падараваў вам нямала сустрэч з цікавымі, знакамітымі людзьмі. Давайце прыгадаем некаторыя з іх.**

— Найперш мне хацелася б прыгадаць свайго педагога Канстанціна Мікалаевіча Саннікава. Гэта быў таленавіты, яркі, надзвычай добрай і шчодрай душы чалавек, які нас, сваіх выхаванцаў, клапатліва расціў, гадаваў, які быў дужа зацікаўлены ў нашым прафесійным удасканаленні, які не пакідаў нас і тады, калі мы ўжо інстытут скончылі.

Канстанцін Мікалаевіч, дарэчы, падтрымліваў не толькі акцёраў, але і драматургаў. Менавіта ён адкрыў і вывеў на сцэну Андрэя Макаёнка. Яны доўгія гады вельмі хораша сябравалі, дапамагалі адзін аднаму, дзяліліся і сваімі радасцямі, і засмучэннямі.

Дзякуючы К. М. Саннікаву я пазнаёмілася з Кандратам Крапівой. Была многа разоў у яго дома. На жаль, такіх сустрэч выпала не так багата, але яны і дагэтуль грэюць душу.

Вельмі светлым, вельмі шчодрым чалавекам у маёй памяці застаўся Андрэй Макаёнак. Вы ведаеце, у беларускім тэатры Макаёнак — гэта цэлая эпоха. Без яго мы ўсе як бы асірацелі.

Вось ужо хто любіў тэатр дык любіў — усёй душой, да самазабыцця. Прыносіў сваю новую п'есу і заўсёды сам чытаў яе на мастацкай радзе. І так чытаў, што калі акцёры слухалі, то яны не проста ўяўлялі, а яскрава бачылі, як трэба кожную ролю сыграць. Ён сапраўды быў яшчэ і цудоўным акцёрам.

Андрэй Ягоравіч прыходзіў і на кожную з генеральных рэпетыцый. Уважліва глядзеў, вельмі тактоўна, далікатна рабіў нейкія заўвагі, даваў слушныя парады. А як радаваўся кожнай творчай знаходцы, кожнай удалай сцэне! Канечне ж, гэта падтрымлівала, акрыляла акцёраў, памагала ў працы. Невыпадкова амаль кожная прэм'ера макаёнкаўскіх спектакляў была ў нашым тэатры падзеяй, хоць яны ў той час і нялёгка выпускаліся.

Сёння можна сказаць, што дзякуючы Макаёнку Купалаўскі тэатр набыў у свой час вялікую папулярнасць, а многія нашы акцёры — вядомасць і шырокае прызнанне.

**— Мы ўжо гаварылі пра тое, што вы ігралі ў многіх п'есах Івана Шамякіна. Напэўна ж, вам даводзілася з ім сустракацца?**

— Вядома! Сустрэчы гэтыя заўсёды былі вельмі цёплыя, сардэчныя. Я іграла галоўныя ролі ў спектаклях «Сэрца на далоні», «І змоўклі птушкі», у тэлепаста-

ноўцы «Трывожнае шчасце». На радыё чытала многа твораў Шамякіна — апавяданні, урыўкі з аповесцей і раманаў.

Дык вось кожны раз Іван Пятровіч абавязкова званіў мне, шчыра дзякаваў. Не забываў сказаць добрыя словы і пры сустрэчах. Было бачна, што ён прымаў нашыя пастаноўкі, інсцэніроўкі ўсім сэрцам, расчульваўся часам аж да слёз.

**— А ці былі вы знаёмыя з Іванам Мележам?**

— Упершыню я ўбачылася з ім на рэпетыцыі спектакля «Пакуль вы маладыя». Іван Паўлавіч быў такі сарамлівы, маўклівы, засяроджаны, часам з нейкай патаемнай усмешкай. Нешта ўвесь час думаў, думаў. На рэпетыцыі ён прыходзіў ужо толькі ў канцы, калі дзеянне пераносілася на сцэну. Сядзеў моўчкі, заўваг амаль ніякіх не рабіў.

Тое ж самае было і калі мы ставілі «Людзей на балоце». Ён прыходзіў нават да нас у грымёрку. Падахвочваў, падбадзёрваў, дзякаваў. Можа, яму і не ўсё ў спектаклі падабалася, бо бачанне аўтара і рэжысёра-пастаноўшчыка, акцёраў не заўсёды супадае, але ён аб гэтым не гаварыў.

Часта пасля рэпетыцыі мы з Іванам Паўлавічам падоўгу гулялі ў скверы, гаварылі. Ён, мабыць, хацеў бліжэй са мной пазнаёміцца — усё распытваў, адкуль я, хто мае бацькі, як жыву, чаму выбрала прафесію артысткі. Я адчувала гэтую ўвагу, але яна мяне зусім не бянтэжыла, наадварот, мне было вельмі ўтульна з ім, ці, як бы цяпер сказалі, камфортна.

На жаль, я тады была яшчэ маладая, легкадумная і не разумела ўсёй значнасці гэтых прагулак, гэтых размоў. Помніцца адна з апошніх нашых сустрэч. Іван Паўлавіч гаварыў, што едзе на лета ў Крым, у Дом творчасці. Ён тады якраз працаваў над другой кнігай палескай хронікі. А я казала, што зайздрошчу яму, бо сама яшчэ ні разу не бачыла мора. Іван Паўлавіч паблажліва-дабрадушна пасміхаўся і глядзеў на мяне чамусьці задумлівымі, сумнымі-сумнымі вачыма. Як я цяпер разумею, ён ужо тады няважна сябе пачуваў і, напэўна ж, здагадваўся, што яго чакае наперадзе.

І быў яшчэ адзін незабыўны вечар. У нас у тэатры адзначалі 50-годдзе Івана Мележа. Пісьменніка віншавалі прадстаўнікі ўлады, грамадскасці, калегі. Прыехалі землякі, якія спявалі юбіляру яго любімыя песні. Купалаўцы таксама падрыхтавалі сваё віншаванне, у якім удзельнічала і я.

Пасля вечара Іван Паўлавіч запрасіў мяне на сяброўскую вячэру ў рэстаран. І не проста запрасіў, а пасадзіў побач з сабою. Я была, канешне, узрушана, кранута такой увагай. І калі далі слова, шчыра падзякавала Івану Паўлавічу і за яго высокую чалавечнасць, і за яго цудоўныя творы, дзе гэтулькі праўды, любові, святла. Асабліва захапленне выказала жаночымі вобразамі. Якое тонкае разуменне душы, якое глыбокае пранікненне ў псіхалогію кожнай гераіні! І можна толькі нізка пакланіцца пісьменніку, які стварыў гэткі цуд.

Безумоўна ж, гэты вечар я не забуду ніколі. Гэта быў такі падарунак для мяне, такая ўзнагарода, што ўсю значнасць падзеі я пачынаю ўсведамляць толькі сёння. Сваім запрашэннем Іван Паўлавіч як бы падкрэсліваў, што ён разумее мяне, разумее маё жыццё, верыць у мяне, у мае творчыя і жыццёвыя сілы.

Гэту падтрымку я адчувала ад Мележа ўвесь час. Ён прыходзіў на ўсе больш-менш значныя прэм'еры ў нашым тэатры, не забываўся павіншаваць мяне з Новым годам, са святам 8-га Сакавіка. Прысылаў кранальныя паштоўкі часцей за ўсё з такім подпісам: «Машы з Навасёлак ад Івана з Глінішча».

І яшчэ ўзгадваю адзін факт, які, як мне здаецца, таксама сведчыць аб ягоным даверы да мяне. Аднойчы Іван Паўлавіч прынёс мне ў такой аб'ёмнай ружовай папцы рукапіс свайго драматычнага твора «У новым доме». Гэты рукапіс захоўваецца ў мяне і дагэтуль.

**— Цікава, а пра што п'еса? Таксама на палескую тэматыку?**

— Не, гэта тыповая бытавая драма. Дзея адбываецца ў горадзе. Апавядаецца пра тое, як муж, многа гадоў пражыўшы з жонкай, кідае яе і ідзе да маладой. А яго жонку кахае іншы мужчына. І, як гэта звычайна бывае ў жыцці, усё тут пера-

блытана, пераплецена, узнікаюць вельмі напружаныя маральна-псіхалагічныя канфлікты. І ў рэшце рэшт усе застаюцца пры сваіх інтарэсах. Злучыць лёсы закаханых людзей аказалася немагчымым, і як яно ўсё будзе далей — невядома. Словам, атрымалася драматычная і вельмі праўдзівая жыццёвая гісторыя.

І вось цяпер якраз я чытаю, перачытваю гэту п'есу, і ў мяне ўсё мацнее і мацнее жаданне ўвасобіць яе на сцэне Маладзечанскага тэатра. Калі мая задума разам з калегамі ажыццявіцца, калі спектакль атрымаецца, я буду бясконца рада. Такім чынам мы аддадзім сваю сціплую даніну павагі, даніну памяці вялікаму беларускаму пісьменніку Івану Паўлавічу Мележу.

**— Ведаю, што ў вас было даволі працяглае сяброўства і з яшчэ адным нашым слынным пісьменнікам — з Уладзімірам Караткевічам.**



*Марыя Захарэвіч чытае вершы беларускіх паэтаў.*

— О, Караткевіч!.. Гэта асобная старонка ў маім жыцці.

А пазнаёміў нас зноў-такі тэатр. Як я ўжо казала, у тыя гады многія пісьменнікі прыходзілі да нас на прэм'еры. Зазіраў і Уладзімір Караткевіч. Я тады яшчэ толькі пачынала сваю працу ў тэатры. І пасля кожнай удалай прэм'еры Уладзімір Сямёнавіч прыходзіў за кулісы, віншаваў, дарыў свае кнігі. Я невыпадкова сказала пасля «ўдалай прэм'еры». Таму што яму многае і не падабалася. Асабліва, калі чуў няправільную беларускую мову. Тады ён уставаў і выходзіў з залы.

Наша знаёмства перарасло ў сапраўдную дружбу пасля аднаго не зусім вясёлага выпадку. У той год я рэпеціравала разам з Ліляй Давідовіч Ганну ў спектаклі «Людзі на балоце». І менавіта тады ж трапіла пад аўтобус, праляжала каля трох месяцаў у Мядзельскай раённай бальніцы. У гэты нялёгкі для мяне час я атрымала ад Караткевіча столькі дабрыні, столькі душэўнай шчодрасці. Ён прысылаў мне вельмі цёплыя, кранальныя пісьмы ў бальніцу, прыязджаў туды, у Навасёлкі, праведаць мяне. Падбадзёрваў, падтрымліваў, акрыляў. Хіба ж такое можна забыць?

Зразумела, што пасля майго вяртання ў Мінск наша дружба працягвалася. З Караткевічам заўсёды было цікава. Але я ў той час, пасля перажытага, пасля ўсіх сваіх сямейных перыпетый, была такая закрытая, насцярожаная, адчужаная. Да таго ж па сваёй маладосці я не разумела ў поўнай меры, з кім сустракаюся, хто да мяне прыходзіць. Сам Караткевіч!

Апошнім часам пісьменнік жыў непадалёку ад нашага тэатра. І часам сядзеў у скверыку, на лавачцы, ля скульптурнага лебедзя, і альбо нешта чытаў, альбо глядзеў на ваду і аб нечым думаў. Мы выходзілі з тэатра, бачылі яго, віталіся. І звычайна пыталіся: «Ну, як справы? Як здароўе?» Але ён пра гэта не любіў гаварыць. Вельмі не любіў. Нават нерваваўся. Але паступова адыходзіў, прыязна ўсміхаўся, жартаваў.

Я ведала, што Уладзімір Сямёнавіч хварэе. І аднойчы прапанавала яму зёлак, якія прывезла са знакамітай Рубяжэвіцкай аптэкі. Састаў з 22 лекавых траў. Уладзімір Сямёнавіч здзівіўся: навошта так многа? Але з удзячнасцю прыняў.

Калі я прынесла гэтыя зёлкі да яго на кватэру, Уладзімір Сямёнавіч гасцінна мяне сустрэў, завёў у свой рабочы кабінет (я з надзвычайнай цікаўнасцю і ўвагай разглядвала ягоны пісьмовы стол, на якім ляжаў пачаты рукапіс), паказаў біблія-

тэку. Я здзівілася: колькі кніг! А ён сказаў, што гэта ўжо рэшткі, што час ад часу праглядвае сваю бібліятэку і тыя кнігі, да якіх ужо не будзе вяртацца, пасылае ў школы, у бібліятэкі, аддае тым, каму яны спатрэбяцца. Пасля Уладзімір Сямёнавіч запрасіў мяне на кухню, прапанаваў пачаставацца бярозавікам. Але мне было няёмка, можа, я адрываю чалавека ад пільнай справы? Падзякавала і адмовілася.

Праз нейкі час мы зноў убачыліся ў нашым скверыку. Караткевіч сказаў: «П'ю твае травы. Горкія». «Нічога, — адказала я. — Абы на карысць...» Пасля гэтага мы больш не сустракаліся. Караткевіч адышоў ад нас вельмі рана. Страта аказалася непапраўнай для нашай літаратуры, для Беларусі, для ўсіх нас. І я вельмі ўдзячна лёсу, што ён падараваў мне сяброўства з такім светлым чалавекам, з такім вялікім пісьменнікам.

**— Марыя Георгіеўна, а вы яшчэ забыліся расказаць пра свайго знакамітага земляка, Максіма Танка. Напэўна ж, былі знаёмыя...**

— Я, канечне ж, ведала, што Максім Танк — мой зямляк. Мы не раз сустракаліся, калі ён яшчэ працаваў у Саюзе пісьменнікаў. Віталіся. Перакінемся колькімі словамі і разыдземся. А пасля ўжо, як я пачала чытаць ягоныя вершы на многіх літаратурных вечарах, нашы сустрэчы і размовы сталі больш працяглымі. Асабліва зблізіліся мы пасля прэзентацыі кнігі «Дарога, закалыханая жытам».

Я вельмі добра памятаю той вечар. Было ўсё цудоўна — гарэў камін, ляжалі каласы на стале... Мы, артысты Купалаўскага тэатра, падрыхтавалі цікавую кампазіцыю. Максім Танк, узрушаны, усхваляваны, шчыра, сардэчна дзякаваў усім удзельнікам. Пасля гэтага вечара нашы адносіны сталі не проста зямляцкія, а, можна сказаць, сяброўскія. Яўген Іванавіч дарыў мне кожную сваю новую кніжку з цудоўнымі, душэўнымі надпісамі.

Ну і быў яшчэ вялікі паэтычны вечар у Мядзелі, прысвечаны 80-годдзю Максіма Танка. Мядзельчане выдатна падрыхтаваліся да гэтага вечара. Яўген Іванавіч не дужа любіў розныя афіцыйныя ўрачыстасці, але тут было ўсё вельмі шчыра, вельмі душэўна, і гэта расчуліла яго да слёз. Тады ж Яўген Іванавіч запрасіў нас на сваю малую радзіму, у Пількаўшчыну, вадзіў у старую хату, дзе прайшло яго маленства, расказваў падрабязна, як тады жылі.

Памятаю, я запытала, як ён у гады свайго юнацтва дабіраўся адгэтуль у Вільню, а Яўген Іванавіч жартаваў: «Толькі з Боскай дапамогай. На сваіх дваіх, пехатою...»

Неўзабаве пасля гэтага Максім Танк трапіў у бальніцу. Я наведвала яго там колькі разоў. Была і на кватэры. Мы прыйшлі разам з Нінай Загорскай. Доўга сядзелі з Яўгенам Іванавічам. Ён чытаў новыя вершы, расказваў розныя вясёлыя гісторыі, смяшыў нас і сам з бачным задавальненнем смяяўся.

Нішто знешне не паказвала, што паэт цяжка, безнадзейна хворы. Хіба толькі прыкметна схуднелы твар ды крыху глухаваты, як бы асіплы, голас. Але я спісвала гэта на доўгае знаходжанне ў бальніцы. І нават не думала, што бачу Максіма Танка ў апошні раз.

## Трохі пра вечнае

**— Давайце крыху пагаворым пра вечнае. Ваша ўяўленне пра шчасце? Ці мяняецца яно з гадамі?**

— Раней я нават пра гэта не думала. Што такое шчасце?.. Была маладосць. Былі бацька, маці. І наперадзе — цэлае жыццё. Вось гэта, можа, і былі самыя шчаслівыя гады.

І наогул, мне думаецца, што шчасце — гэта проста жыць. Быць здаровым і бачыць здаровымі сваіх родных. І каб у кожнага з тваіх дзяцей было ўсё добра. З гадамі гэтыя маральныя, агульначалавечыя каштоўнасці становяцца ўсё больш важнымі, усё больш неабходнымі.

**— А ў чым, на вашу думку, сэнс жыцця?**

— О, гэта вельмі складанае, філасофскае пытанне!.. Ну, каб яно не было, тваё жыццё, бяздарным, пустым. Каб нешта талковае зрабіў... У вёсцы людзі во як

працуюць, можна сказаць, ад цямна да цямна. Але ж яны не думаюць, што сэнс жыцця для іх у нечым незвычайным. Трэба проста жыць, працаваць, радавацца зробленаму, радавацца навакольнаму.

А яшчэ сэнс у тым, каб людзі навучыліся адносіцца адно да аднаго з павагай, з любоўю. Каб знікла зайздрасць. Каб нехта парадаваўся чужому поспеху, чужой удачы.

Кажуць, што чалавек за сваё жыццё павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць дом і выхаваць дзіця. Але ж я не думаю, калі саджаю дрэўца, што гэта мой сэнс жыцця. Альбо стаўлю сабе задачу: абавязкова нарадзіць дзіця. Жыццё ёсць жыццё. І сэнс яго ў тым, каб яно было дастойнае, не пустое. А ў нечым карыснае — і для сябе, і для людзей.

**— Якія рысы характару ў чалавеку вы найбольш цэніце?**

— Дабрыню. Бескарыслівасць. І яшчэ вельмі важна, каб чалавек быў справядлівы, шчыры.

**— А што не прымаеце?**

— Найперш, напэўна, ганарлівасць, зайздрасць. Не люблю крывадушнасць, нядобразычлівасць, зласлівасць. Бывае, што чалавек з табою размаўляе, усміхаецца, а вочы гавораць пра іншае.

**— Кажуць, што сіла жанчыны ў яе слабасці?**

— Гледзячы, у якія абставіны яна пастаўлена. Бывае, слабая, кволая жанчына вытрымлівае тое, што не можа вытрымаць любы мужчына. Усё залежыць ад абставін і ад сілы духу, ад характару. Па-мойму, вельмі мала слабых жанчын. А сёння дык наогул на яе кволыя плечы ўскладзены галоўны цяжар нашага жыцця. Сіла жанчыны — у яе самаахвярнасці. Дзеля сваіх дзяцей, дзеля блізкага чалавека жанчына можа ўсё.

**— Паэт неяк сказаў: «Если в женщине есть доброта — значит, женщина состоялась». А як вам падаецца, якая галоўная рыса павінна быць у жанчыны?**

— Сапраўды, калі ёсць дабрыня, калі ёсць нейкая безабароннасць, сціпласць, то ўжо толькі адным гэтым жанчына цікавая.

**— А вось жаноцкасць — гэта рыса характару ці якасць, дадзеная прыродай?**

— Я думаю, гэта ад Бога. Таму што бываюць жанчыны і добрыя, і чулыя, і прыстойныя, а жаноцкасці, абаяльнасці няма. Дабрыня, канечне ж, прыцягвае да сябе, яе адразу ўгадваеш. І хочацца з гэтым чалавекам пагаварыць, падсілкавацца яго станоўчай энергіяй.

**— Ёсць такая трыяда: вера—надзея—любоў. І, відаць, зусім невыпадкова вера стаіць тут на першым месцы. А што значыць вера для вас?**

— Наогул, вера — гэта самае галоўнае. Без веры нічога не бывае. Калі я веру, што я гэта зраблю, і ў мяне няма ніякіх ваганняў, то тады нешта і атрымаецца. А калі ні тое, ні сёе, я, маўляў, веру, але, але... У гэтым выпадку, канечне ж, нічога не будзе.

Вельмі многа дае чалавеку і вера духоўная, вера ў Бога. У мяне яна яшчэ з дзяцінства, ад маці. У вёсцы ў той час дзеці праходзілі неблагую рэлігійную школу. Перад кожным сном маці вучыла мяне малітве. Не з аднаго ж вечара дзіця запомніць няпросты тэкст. Кожнадзённае паўтарэнне давала свой плён.

Пасля дзяцей вадзілі ў царкву і вучылі, падказвалі і паказвалі, як сябе паводзіць, рабілі заўвагі. Словам, што можна рабіць, а чаго нельга. Вучылі ўваходзіць у храм з глыбокай пашанай, са шчырай верай.

А пасля доўгія гады мы не мелі магчымасці хадзіць у храмы, хрысціць сваіх дзяцей... Гэта — страшна!

Таму сёння, калі сустракаю ў храме маладую пару з дзіцёнкам на руках альбо бачу, як прыносяць хрысціць немаўля, то я не магу стрымаць слёз. Таму што мы пэўны час гэтага былі пазбаўлены. Павінны былі ці хавацца ці, наогул, не думаць

пра царкву, пра Бога. Лішні раз нельга было перахрысціцца, таму што нехта можа заўважыць, данесці ў адпаведныя службы.

Я шчыра зайздрошчу сённяшнім маладым, што яны жывуць у такі час, калі можна адкрыта вянчацца, хрысціць дзяцей, можна свабодна прыходзіць у храм.

Праўда, лёс злітасціўіўся і падараваў мне сваю дарогу да храма, да Бога. Пасля ўсяго пражытага і перажытага я знайшла вялікую духоўную падтрымку ў царкве. Вось ужо больш як дзесяць гадоў, кожны верасень прымаю ўдзел у навукова-творчай экспедыцыі з Благадатным агнём ад гроба Гасподня па ўсёй Беларусі. Гэта сапраўды падарунак ад Бога. Я мела шчасце праехаць шмат тысяч кіламетраў па нашай рэспубліцы. Дзе мы толькі не былі! І ў чарнобыльскай зоне, і ў самых аддаленых вёсачках і незнаёмых гарадах.

Я ўжо недзе гаварыла пра гэта і сёння паўтаруся: калі б у маім жыцці нічога не было, акрамя гэтага падарожжа, то і тады я сказала б, што жыццё пражыла не марна. Каб вы толькі бачылі, як нас сустракаюць людзі, якія бываюць шчырыя размовы-споведзі!

**— Ці ёсць у вас цяпер вольны час, і калі ёсць, то чым вы яго займаеце?**

— Ведаеце, вольнага часу амаль няма. Па-першае, я ўсё-такі занята ў тэатры: спектаклі, рэпетыцыі... Акрамя таго, час ад часу наведваю Маладзечна. Не магу жыць без гэтага калектыву. Па-другое, не адмаўляюся яшчэ і ад педагагічнай работы. Трэба сустракацца са студэнтамі, а гэта патрабуе часу.

Ды і на літаратурныя вечарыны запрашаюць, на сустрэчы ў музей тэатра і кіно. Апошнім часам было шмат юбілейных дат тых людзей, якіх ужо няма. І музей робіць вялікую справу, расказваючы пра іх.

А яшчэ — радыёспектаклі, тэлеперадачы. Словам, сумаваць няма калі.

**— А сесці паглядзець тэлевізар, пачытаць кніжку... Ці ўдаецца?**

— Тэлевізар я гляджу пад настрой. Сачу за навінамі. Але таксама нерэгулярна, як давядзецца.

Кніжка — гэта абавязкова. Апошнім часам захапляюся дакументальнай літаратурай: мемуарамі, дзённікамі, пісьмамі. Чытаю і перачытваю Флабэра, Чэхава, Максіма Танка.

І, канечне, стараюся сачыць за сучаснай беларускай прозай і паэзіяй. Можа, я і не ўсё чытаю, што выходзіць у нашых выдавецтвах, але шмат якія кніжкі трапляюць у маю хату. Многа ёсць цікавага.

**— А ці ёсць у вас любімы пісьменнік?**

— Не, я не магу назваць некага аднаго. Не магу. Напрыклад, з рускай класікі гэта Талстой, Чэхаў, Дастаеўскі. Да іх твораў я час ад часу вяртаюся, перачытваю, удумваюся, нешта пераасэнсоўваю.

І сярод беларускіх пісьменнікаў каго-небудзь выдзеліць вельмі цяжка. Тут цэлы шэраг імён, пачынаючы ад Купалы, Багдановіча і заканчваючы сённяшнімі маладымі, сярод якіх нямала арыгінальных, самабытных, таленавітых і празаікаў, і паэтаў.

**— Ці верыце вы ў прымхі, забабоны, благое вока?**

— Я ведаю, што верыць у гэта нельга. Гэта — грэх. Нават думаць пра гэта нельга. Але ўсё-такі калі нешта здараецца, ці сон які благі прысніцца, то адразу задумваешся...

Вы ведаеце, у мяне быў такі выпадак. Я падрыхтавала кампазіцыю на вершы Бураўкіна, пра якую мы ўжо гаварылі, і павінна была з ёю выступіць на адным вечары. І што вы думаеце? Раптам, калі я пачала чытаць, то на першай фразе ў мяне як бы што замкнула ў галаве. Я начыста ўсё забыла. За ўсё маё жыццё такога не здаралася. Я выступала на самых вялікіх, адказных сцэнах і ні разу не забыла тэксту, а тут, пасля двух радкоў, — поўны правал памяці. Як бы хто сурочыў. Думай, што хочаш...

**— Якіх свойскіх жывёл вы любіце?**

— Усіх. І працаўніка-коніка, і кароўку-карміцельку.

Спачатку я абыякава адносілася да катоў. Але пасля таго, як у нас, у вёсцы, паявілася кошка Мурзя і я ўбачыла, якая яна разумніца, то перамяніла свае адносіны. Мурзя стала і маёй любіміцай. А не стала мамы, і Мурзя засталася адна. У горад узяць яе нельга было, не давалася. Яна — вясковая.

Затое, калі я прыязджала сюды і толькі пераступала парог хаты, Мурзя была тут як тут. Я клала ёй кавалак каўбаскі, а сама плакала. Дык ведаеце што? Кошка гэтую каўбасу не ела, а падыходзіла да мяне і вось гэтак, каля ног, церлася, лашчылася, глядзела ў вочы.

Аднойчы, калі зіма была надзвычай суровая, я вырашыла ўсё-такі забраць Мурзю ў горад. Лепш бы я гэтага не рабіла! Котка пажыла тыдні са два, і што здарылася — не ведаю: раптоўна памерла. Я не паспела нават выклікаць ветэрынара.

**— Вашы любімыя кветкі?**

— Рамонкі і васількі.

**— А птушка?**

— Бацян. І яшчэ салавей. Ах, як ён сёлета спяваў каля нашай хаты!..

**— Ці ёсць у Вас які жыццёвы дэвіз?**

— У мяне, як падумаю, дык ніякага спецыяльнага дэвізу і не было. Акрамя тых будзённых спраў, якіх было навалам. Я ніколі далёкіх планаў не строіла, не прыдумляла сабе нічога. І нават самыя простыя мае планы... Я думала пра іх, пасля забывалася, таму што была занятая іншым.

Жыла бясконцымі штодзённымі клопатамі. І дзеці ў мяне раслі дастаткова самастойнымі, усяго дамагаліся самі. Іх не трэба было асабліва выхоўваць, настаўляць.

Адзінае, чаго і я, і мае дзеці прытрымліваліся ў жыцці, — гэта няўхільнага правіла: жыві па сумленні. Так вучыла мяне мая мама. І маіх дзяцей. І калі жыць так, як жылі нашы бацькі, а яны жылі па запаведзях Гасподніх, то гэта, можа, і ёсць самае галоўнае.

**— Як вы ўспрымаеце сённяшнюю моладзь і што б вы хацелі ёй пажадаць?**

— Сённяшняя моладзь розная. У нашы гады мы ўсе былі нейкія аднолькавыя. Цяжкае ваеннае дзяцінства. Галодныя пасляваенныя гады. Мы спачувалі сваім бацькам, нічога лішняга ад іх не патрабавалі. Саромеліся нават папрасіць новую сукенку ці, скажам, туфлі, бо трэба было другое ў дом купляць, больш патрэбнае.

Таму ў гэтым сэнсе мы ўсе былі падобныя. Хацелі, вельмі хацелі вучыцца, нечага дамагчыся, не падвесці сваіх бацькоў, якія дзень і ноч працуюць. Як гэта паехаць і дрэнна вучыцца — гэта ж сорамна. Амаль усё наша пакаленне вось такое было. Сумленнае. Без зайздрасці. Сустракаліся часта. Радаваліся поспехам.

Цяпер, канешне, у моладзі зусім іншае жыццё. І матэрыяльна маладыя жывуць значна лепш. Нават цяжка сказаць, што для іх важна. Для кагосьці і цяпер гэта вучоба, жаданне не падвесці бацькоў: для кагосьці — дабіцца ў жыцці пастаўленай мэты. Але многа і такіх, што выклікаюць засмучэнне. Часам з вуснаў маладых хлопцаў — ды і дзяўчат таксама! — чуеш такія словы, ад якіх хочацца бегчы.

Таму кожнаму юнаку, кожнай дзяўчыне, усім, хто нечага дамагаецца, хто добрасумленна адносіцца да вучобы, да сваіх бацькоў, хацелася б пажадаць галоўнага — быць чалавекам. І думаць у першую чаргу пра сваіх родных, пра сваіх бацькоў, пакуль яны жывыя. Не забывацца пра іх. Пісаць пісьмы, тэлефанаваць. Часцей наведваць. Самім жа маладым — дамагчыся таго, чаго яны хочуць. А для гэтага трэба многа і шчыра працаваць. Толькі і ўсяго.

*Гутарку вёў Зіновій Прыгодзіч.*



**Уладзімір МАРУК**

# А ДЗЕ Ж ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА...

***Рэтраспектыўныя асацыяцыі над радкамі Ніла Гілевіча***

***«А дзе ж тая крынічанька?..»***

І ў самыя малітоўныя, і ў самыя неміласэрныя, немалітоўныя часіны, калі вусціш у душы і непамысна ў думках, а ў крыві тое, што накіпела-пеpакіпела, робіцца слязлівым ледзяшом, згадваю, як прымройваю, упадабаныя радкі. Часцей тыя, што не змушаюць, а просяць паразважаць, бажаюць зазірнуць у іх не кожнаму зразумелую патаемнасць. А дзе ж тая сапраўдная паэзія, калі ў ёй няма таямніцы, каб ты сваімі падумкамі не спрабаваў праз свае хай сабе і неадэкватня асацыяцыі разгадаць яе. І гучыць у памятлівай яшчэ душы: «А дзе ж тая крынічанька?..» (У радка ёсць працяг, але пра гэта далей.) Дзе ты, мая крынічанька? Я ўсё яшчэ шукаю цябе. Каб знайшоў, я б намольваў над табой свой свет, у якім без крэсіва паэзіі свету няма, як не стае святла і цяпла. Без паэтычнай крынічанькі не заўважыш і ў чалавеку, і наваколлі вытанчонасці, пекнасці, вабнасці... А яшчэ — і непрадказальнасці. Бо якая ж сапраўдная паэзія без яе. Хіба не? Запярэчце, калі можаце, хто стварыў хоць адзін адмысловы радок. Калі думаеце іначай, дык яшчэ раз перачытайце любімых паэтаў, бо паэзія не ўважае бяздумных і бяздушных, а па пеpажытым і спатоленым ці неспатоленым, а ўрэшце, па прамінулым і спрахлым не спраўляе хаўтураў. Жыве ім. Я шукаю сваю крынічаньку, Ніл Сымонавіч. Хачу ведаць, які глыток надае моцы і неспатольнасці, які — нясцерпнасці і ўзбуджанасці, а яшчэ ласкі і спакою... І, хоць і агідна, — ці пілі з яе прыхадні?..

Вечны матыў.

***«Ах, якая над Гайнай купальская ноч!***
***Самы раз бы шукаць кветку-папараць».***

Даруйце, Ніл Сымонавіч, але калі згадваю гэтыя радкі, Гайна ў мяне асацыіруецца найперш з воблікам майго шчырага, добрага таварыша Міхася Зарэмбы, які спачыў на Замкавай гары над вашай ракою ў вёсцы Свідна, куды некалі з Мінска датэпваў ягоны сябра Анатоль Сербантовіч (а вы, я веру, любілі таленавітага паэта) і сярэдначы будзіў усіх. А потым — ваша Гайна. Я ўяўляю яе ў аеры, асацэ ды чароце пры берагах, плынь, дзе спакойна зноў вясло пялёхала, намройваю вашы купальскія ночы. А вось кветка-папараць... Ну вядома ж, вы яе не знайшлі. Ці не праўда? Між тым вы яе адшукалі насуперак начной цемры, цяжкому дзяцінству, непрытульнасці свету... Адшукалі ў душы, у тым яе патаемным куточку, дзе няма месца больш нічому, толькі яе святлу. Адтуль і азоранасць, і любаванне тым, што ніхто і не заўважыць, не прыгрэе ды прылашчыць у паэтычным радку. Папараць-кветка — цэлы змястоўны свет. Не, гэта не ўвесь свет, а ваш, які нельга перадаверыць камусьці, а толькі падзяліцца ім і спакусіць на пошукі сваёй кветкі-папараці. Гэтакі свет, як ваш, ніхто не створыць, бо адмыслова, да драбнічкі не зможа зразумець яго невычарпальнасць і здольнасць пераўтвараць чалавечае і навакольнае ў сваё «я». А з яго нараджаецца споведзь. Яна ў кожнага свая. А каб споведзь нарадзілася, трэба найперш спасцігнуць сябе, каб стварыць свой свет. А хоць бы і паўсвету. Бывае ж, хапае аднаго радка, каб упэўніцца, што мы неа-



дольныя і неспатольныя, а тое, што даруецца часам, — усеабдымнае, сусветнае.

Вечны матыў.

***«Летняй ночкай, чуйнаю, як звон...»***

***«У гэты век, што адвучыў маўчаць...»***

Ляжыш у мурожнай капе сярод шырачэннай лугавіны, толькі зоркі мігцяць угары, і цвіркуны прыціхлі, і камары, як на тое, не зумчаць, і жабоцькі не перагукваюцца... Нават лёгкі нядаўні ветрык заснуў пад высокім стогам. Ад гэтакай нязвыклай цішыні ажно звініць у вушах. Гэта твой звон, які не дае заснуць і на ўсё забыцца, а прымушае думаць. Думаць пра што хочаш, але найперш, бо калі яшчэ напаткаеш такую цішыню, — пра свой лёс і свой час. Ды хоць бы пра гэта — «век, што адвучыў маўчаць». Вядома ж, тут пра мінулае стагоддзе, бо напісана ў ім. Але ж маўчанне не бывае толькі «ўчора». Яно ўжо даравана мінуламу, ёсць жа маўчанне, якое як быццам хоча выратаваць, а напраўду зневажае «сёння». Адны маўчаць, бо іх такімі зрабіла прырода, іншыя — свядома, той-сёй шмат гаворыць, але і нямала хлусіць. Вы, насуперак ім, казалі праўду.

Вечны матыў.

***«Жнівень, арэхі і жоўтыя восы,***
***Што заміналі цябе цалаваць...»***

Пра каханне? Так, пра яго, незгасальнае, неадольнае і жыццядайнае. А для мяне гэтыя радкі не толькі пра яго, таямнічае. Жнівень. Не ведаю, ці даспадобы вам жнівень, а гэта мой любімы месяц. Усе адпачынкі — у жніўні. Усе грыбы — у ім. Ніводная прыгода не мінула мой месяц. А яшчэ — Успленне, наша вясковае свята, што прыходзіцца на 28 жніўня. Арэхі — у гэтыя самыя жаданыя мною дні. Цэлы мех лузанцоў сушыўся на печы, каб мы, малеча, маглі паласавацца імі ўзімку. Мне, колькі сябе помню, здаецца, што ў сярэдзіне ў іх нешта магічнае ці проста дзіўнае, але колькі не расколваў — не злічыць, — нічога, акрамя смакаты, не знайшоў. Восы... Не, пра іх потым. Лепш пра жнівеньскія пацалункі. Пацалунак — гэта ўжо чараванне, пабуджальнае да працягу жыцця. Але ж восы — нідзе ад іх не дзецца. Па мне — дык гэта тое, што джаліць не проста цела, а мілосць і любасць, дабрыню і зычлівасць, радасць і ўсмешку... І нават святое. А ўсё ж — радкі пра каханне.

Вечны матыў.

***«Не пакідай мяне, мой светлы сум,***
***З табой мне хораша на адвячорку***
***Хадзіць і слухаць лесу ціхі шум,***
***Пакуль суцемак не запаліць зорку».***

Люблю і кранальна-асцярожна аберагаю свой светлы сум. Як жа адрозніць яго ад проста суму? Апошні — застаецца сам у сабе, любіць сябе і не можа выйсці за межы сваіх, ім жа і надуманых памкненняў, якія трымаюцца адно аднаго, якія робяцца бязвольнымі, так і застаюцца толькі памкненнямі да... нічога. Чакаю не дачакаюся светлага суму, бо ён змушае да роздуму, развагі і разважлівасці, нават пакепліваеш над сабою з лёгенькай такою смяшынкаю на вуснах і ў душы. Бо гэта сум па ўжо страчаным — і добрым, і нават благім, — але запамінальным да



*З балгарскімі пісьменнікамі Э. Эўцімавым і Л. Эленкавым.*

драбніц, якія, можа, і надаюць гэтай самай «лёгкасці» адвечнаму звычайнаму суму. Гэта ж і сум па тым нязбытным, што будзе з табою ўсё жыццё: непадробнае, натурлівае, вярэдлівае... Сваё. Асабліва ж часта находзіць лагодны лёгкі сум пад ціхамірны лясны шум на адвячорку. Ты спыняешся. Перад табою — «жыта, сосны і валуны». Наставіўшы руку брылікам, глядзіш на захад сонца, якое хацела сказаць табе адзінае слоўка, але не паспела, схавалася за вершалінамі сіне-зялёнага бору. «Якое ж слоўка яно хацела сказаць?» — думаеш-гадаеш ужо ў суцемку. Ды так і не здагадаешся, яно застанецца таямніцаю — зноў лёгкі сум. Зноў і зноў, бо на небе загарэлася першая зорка, самая зыркая. У кожнага ж свая зорка: калі не ў небе, дык у сэрцы, якое яна запальвае сваім нязгасным святлом. Напісаў — у кожнага. Так, яна ёсць, але ці ўсе хочуць бачыць яе, пачуць яе? Жыццёвыя знямогі, неразуменне і занядбанне сябе не даюць многім паспавядацца сваёй зорцы.

Вечны матыў.

***«Не баюся, што мой век нявечны,***
***Што падамся за дзядамі следам».***

Зноў жа згадваю Ніла Гілевіча: «Жыта, сосны і валуны». Колькі паўз іх давялося пахадзіць на нашы могілкі, пастаяць перад помнікамі і прымшэлымі камянямі з імёнамі прапрадзедаў, прадзедаў, дзядоў... І думаць пра вечнае, што не мінае кожнага. Аднаго разу незабыўны мой сябра Алесь Пісьмянкоў спытаўся: «Слухай, Стары (так назвалі мяне на першым курсе філфака, калі фальклор выкладаў у нас Ніл Сымонавіч), чаму ты так часта пішаш пра смерць?» Я памятаю, што адказаў яму. «Алесь, заўваж, што я пішу не пра ўласную смерць, а пра смерць увогуле. Гэта пытанне філасофскае і вечнае. Колькі існуе паэзія і колькі будзе яшчэ існаваць, тэма смерці і бессмяротнасці хвалявацьме творцаў...» Мой гаваркі сябра на імгненне змоўк, а потым задуменна сказаў: «А ты, Стары, праўду кажаш...» Бо калі і пісаць пра непазбежнае, дык так, каб і сам, і чытач верыў, што жывеш ты не абы праіснаваць, і што нам наканавана Вечнасць, і хоць містычная, ды сустрэча з продкамі.

Вечны матыў.

***«Страціў слова, страціў спадчыннае слова —***
***Штосьці страціў у душы абавязкова!»***

***«Жывеш і будзеш жыць ты, мова матчына,***
***Пакуль народа сэрца будзе біцца».***

Душа і слова. Што вабіць адно да аднаго? І ці бывае такое? Толькі тады, пры ўсёй спрэчнасці думак пра яе існаванне, калі душа ў паэта ёсць. Павінна быць, хоць і ў розных, сваіх, іпастасях. Калі ў свеце няўтульна — і ёй няўтульна, калі радасна — і ёй радасць, як непамысна — і ёй таксама, калі хочацца спяваць «Каліну» — і яна спявае, толькі расцвіце першая краска — цвіценне і ў душы... Гэтак і слова.


Васіль Быкаў, Ігар Лучанок і Ніл Гілевіч.

Калі нарадзілася ў душы, то яна яго і выпесціць, і выпусціць у свет гжэчным, паглядным і ўсім прыналежным. А калі яно спадчыннае — дык будзе беражонае праз усё жыццё. І як жа забыць яго? Хіба што жывучы з чужою крывёю, нянаснай памяццю і незадумным розумам. Калі ў любога слова няма часцінкі душы, дык пра яго паэтычнасць і заікацца нельга, гэта ўсяго толькі набор літар. З двума апошнімі радкамі ў мяне ўзнікае вельмі простая асацыяцыя. З пазадаўнім часам, калі людзі маглі размаўляць толькі мовай жэстаў, мімікі і невыразных гукаў. Той далёкі чалавек пыкаў, мыкаў, жэстыкуляваў, але гаварыў на сваёй мове, канкрэтна і зразумела ўсім. А ў нас і гаворыць той-сёй складна, хоць і няўцямна, крутліва, ды толькі не на матчынай мове. А няўцямнасць і крутлівасць на якой хочаш мове слухаць не толькі прыкра, але й агідна.

Вечны матыў.

***«І ўсё шукаць, а дзе ж тая крынічанька?***
***І ўсё пытаць: а ці не замучона?»***

Шмат вы пахадзілі-перахадзілі: «І зноў іду здарожаны і стомлены...» Спачатку па ўзгорках, лугавінах і барах на радзімнай Лагойшчыне, а пасля дарога прывяла ў населеную паэтамі сталіцу. А потым — нескончоныя вандроўкі па такім любімым і цудоўным родным краі, краса якога зачаравала. Па бальшаках, гасцінцах, брукаванках... Не сумняваюся, паўз замкі, палацы, курганы, курганішчы і валатоўкі... Вас чакалі са сваім векавым напевам бярозы і незабыўны явар на паваротцы, сустракалі азёры, рэкі, рачулкі і ручаі... Вы шукалі незамучоныя крыніцы. І хай глядзяцца ў іх немаўляткі, хоць і нічога пакуль не разумеюць, але крыніца намовіць ім толькі добрага. Няхай узіраюцца хлапчукі і дзяўчаткі. І хоць яны яшчэ гарэзы, пырскаюцца крынічнаю вадою, але гэтыя бліскучыя пырскі загояць іх неспадзяваныя раны. Не забудуць прыйсці сюды дзяцюкі і маладзіцы — бо дзе ж лепей можна мілавацца, каб заручыцца каханнем на ўсё жыццё. Не пpraмінуць яе і жанкі ды мужчыны, бо ўжо зведалі смак і складанасці жыцця, а крыніца давала ім палёгку і спакой. Хоць і цяжка ім, прытупаюць сюды дзядулі і бабулі запытацца ў гаючай вады, ці як трэба жывуць іх дзеці, унукі і праўнукі. Дзякуй вам, Ніл Сымонавіч, што ёсць яшчэ крыніцы — незамучоныя.

А дзе ж тая крынічанька?..



# «ДУША МАЯ НАЙШЛА РОДНУЮ САБЕ ДУШУ...»

## Перапіска Фабіяна Шантыра і Зоські Верас

*Фабіян Шантыр — першы муж Зоські Верас. Пазнаёміліся яны ў 1915 г. у Мінску. У 1917 г. (з гэтага года — Зоська Верас, да гэтага — Людвіка Сівіцкая) яна стала яго жонкаю.*

*Фабіян Гіляравіч Шантыр нарадзіўся 2 красавіка 1887 г. у Слуцку. Што скончыў, пакуль невядома. Працаваў хатнім настаўнікам, мулярам, прыватным адвакатам. У 1905—1907 гг. за рэвалюцыйную дзейнасць сядзеў у турме. З 1914 г. служыў у арміі. У 1915—1917 гг. удзельнічаў у рабоце мінскага клуба «Беларуская хатка». Пазнаёміўся з М. Багдановічам, Ядвігіным Ш., А. Смолічам, Р. Зямкевічам і інш. У 1918 г. загадваў Смаленскім аддзяленнем Беларускага нацыянальнага камісарыята, працаваў у Слуцкім павятовым ваенным камісарыяце. У 1919 г. — камісар па нацыянальных справах Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі, у распараджэнні ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, у Беларускай рэдкалегіі ЦК КП(б) ЛітБел. 29 мая 1920 г. расстраляны бальшавікамі пад кіраўніцтвам А. Ф. Мяснікова ў Навазыбкаве. Рэабілітаваны ў 1992 г.*

*Друкаваў апавяданні, абразкі-імпрэсіі, публіцыстычныя артыкулы ў «Нашай ніве» з 1909 г. (тут з 1911 г. друкавалася і Людвіка Сівіцкая). Аўтар брашуры «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народу» (Слуцк, 1918, рэпрынтнае выданне. Мн., 1992).*

*Перапіска, якая прапануецца чытачам, друкуецца ўпершыню па арыгіналах пісем Фабіяна Шантыра (пісаў гражданкай і лацінкай).*

## З дзённіка Людвікі Сівіцкай «Хворыя душы»

*15 снежня [1915 г.]*

Хмарны зімовы дзень... Відныя праз акно бязлістыя шкілеты дрэў, шэрасць наступаючага змроку, стук пасудзіны ў суседняй сталоўцы і гоман абедаючых наводзілі нейкую цягучую жуду на апусцелую душу. Аж тут: «Знаёмцеся, наш беларускі пісьменнік і дзеяч Ш...». Прывітанне абыякавае, халоднае. Беларускі пісьменнік? Не вялікае дзіва. Так іх многа ёсць... А пасля самая звычайная, штодзённая гутарка. Толькі густы, энергічны голас аставіў сімпатычнае ўражанне і збудзіў нейкую дзіўную веру.

*17 снежня [1915 г.]*

Ізноў некалькі гадзін, праведзеных з Ш. Чытаў мне пару сваіх твораў. Ахопленая незразумелай шчырасцю, я ўзялася крытыкаваць іх і смела выказывала свае погляды. А ён, такі горды, што выяўляецца з кожнага тону, не загневаўся... Пасля чытаў мае мініятуры і, здалося мне, разумеў іх. Што значыла пры самым ад'ездзе: «Пазвольце пісаць Вам». Неяк смешна здалося, а ўсё ж няхай піша... Не здаецца мне, каб ён быў годны такой вострай крытыкі, якой паддаюць яго людзі. Горды, заразумелы, праз меру гарачы... Так што ж з таго? У кожным з нас знойдзецца і мёд і палын.

*18 снежня [1915 г.]*

Ш. паехаў... Зніклі і высокая фігура, і шэрая салдацкая шынель... А голас астаўся. Зычны, глыбокі голас, у каторым адбіваецца дзікая, бунтаўнічая душа... Але што гэта за сентыментальны настрой? Спадабаўся ён мне, ці што? Ха, ха, ха! Што за думка? Мне, мне бы мог хто спадабацца? Хіба так на хвілінку заінтарасаваў новы абразок у жыццёвым калейдаскопе, але ж не болей. Гэта ўжо пастаноўлена: за сімпатыю без узаемнасці — шчыра дзякую, а на ўзаемнасць з чыйго колечы боку не маю надзеі, бо няма на гэта ніякіх шанцаў... Эх, што там, і так жыць можна. А ўсё ж цікава, ці напіша?..

*22 снежня [1915 г.]*

Ёсць ліст... Нешта недагаворанае, нешта... адным словам, нешта незразумелае. Але даўся яму гэты «Сум». Праўда, з глыбіні маёй душы ён вырваны, але чым гэта можа цікавіць чужога чалавека. Ну што ж, абяцала, то і пашлю. Толькі так не хочацца перапісваць!..

**Сум**

Шэры, як асенняя мгла... ціхі і спакойны, як уздох заснуўшага дзіцяці. Пад яго лёгкай ступою галінка не трэсне, лісток не ўскалыхнецца. Травінка не задрыжыць... У сваім вечным падарожжы не мінае ён ні хатак курных, ні палацаў багатых, ні працы цяжкай, ні гульні вясёлай і ўсюды па волі сваёй ахвяр сабе выбірае. Ускалыхнецца душа выбранага чалавека, ускалыхнецца і дрогне, калі ўпадзе на яе пагляд яго вачэй. Дзіўныя гэтыя вочы!.. Шэрыя, як ён сам... вялікія, незгаданыя... а на дне іх нямеранай глыбіні свеціцца матавым бляскам маленькая іскрачка нейкага таемнага, бяссмертнага жыцця. Дзіўная сіла іскрачкі тае... Зачаруе яна душу тваю, чалавеча... выкіне з яе даўнейшыя ўсе думкі і жаданні, напоўніць адным вялікім чуццём жуды за нечым нязнаным і прыкуе да сябе, прыкуе ланцугамі жалезнымі. Адгэтуль душа ўжэ не твая... Прападуць твае смехі вясёлыя, загінуць думкі радасныя, знікнуць песні прывольныя... Перад табою як дзень, так ноч гарыць іскрачка таемная на дне вялікіх, шэрых вачэй. Душу тваю і думкі твае апануе густою сеткай моцная шэрая павуціна, у вачах тваіх разліецца шэры цень «яго» вачэй. Кожная капелька крыві тваёй належыць да «яго», твайго пана. І не цяжкая табе, чалавеча, гэта няволя? Не, яна робіцца патрэбай жыцця твайго: не пераўжыў бы ты разлукі з гэтай парай бліскучых, дзіўных, магучых вачэй. Іх сіла дадае духу твайму моцы вялікай. Як бы скрыдлаў прыдбаўшы, узносіцца ён над дробяззю штодзённага жыцця і лунае ў краіне нязбытных ідэалаў. І расце дух твой і мацуецца, толькі ж коштам цела твайго. Бо гэтыя шэрыя павуцінкі, што абматалі душу тваю і сэрца твае, выпіваюць кожную капельку крыві тваёй: бо гэтыя вялікія, шэрыя вочы зганяюць сон з галавы тваёй. І робішся ты і кволы, і бледны, а людзі дзівуюцца і кажуць табе: «Лячыся». А калі спаткаеце, людзі, чалавека і бледнага, і кволага, і без усмеха на пабялеўшых вуснах, і з шэрым ценем у задуманых вачох, то не пытайцеся, што яму, а так і ведайце, што яго ўзяў у свае нявольнікі вялікі, усемагучы Сум.

*Мінск, 13/1-15*

(Друкуецца ўпершыню паводле аўтарскага рукапісу, напісанага лацінкаю.)

## Лісты Фабіяна Шантыра

*[да 22.12.1915 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Толькі што прыехаў з Мінска. Ехаць прышлося на тормазе, а дзеля гэтага страшэнна змерз... Даведаўся, што заўтра ад нас едзе ў Мінск пасыльны,

і, як бачыце, шлю Вам свой адрас, каб не адкладваць гэта ў доўгі час. Будзьце ласкавы і перашліце прасімую рэч («Сум»).

Выбачайце, што я гэтакі назойлівы. Хацелася б Вам напісаць яшчэ штось больш, выказаць штось недагаворанае, але не маю ніякае на гэта моцы: ні фізічнае, ні духоўнае...

Настрой духа такі, як рэдка калі быў... Но, будзьце здаровы, і не забывайце.

*Ваш Фабіян*

Адрас: «Действ. армия. І Головной Эвакуационный пункт. Ф...Ш...»

P.S. Заставіў у вас на стале ў сталоўцы пакеты з тытунём — будзьце ласкавы ўручыць майму чалавеку.

## З дзённіка Людвікі Сівіцкай «Хворыя душы»

*4 студня [1916 г.]*

Цэлы паэмат у чэсць майго «Суму»... І што мне цяпер з гэтым фантам рабіць? З адной стараны рада, пакрэўнасць душ і ўсё такое, а з другога боку так зараз і працягнуць рукі на пекныя слоўкі? Не, братка, зразумець то я зразумею і ўсёй душой адчую, але выявіць свае пачуцці і погляды, а не, гэта не ў маіх звычаях. У штодзённыя жыцці я надта шчырая, мо залішне нават, але дзе ўходзіць у ігру глыбокі погляд, пачуццё душы, там у мяне ўжо ёсць граніца: гэта для мяне, а гэта для людзей. Мо гэта да пары толькі, сама не ведаю... Але пакуль што так, не інакш.

Усё ж адпісаць на лісты трэба... Сколькі ў іх паэзіі і якая зычная і поўная эстэтыкі мова... Як бачу, Ш. беларус з эстэтычнай душой, такіх дагэтуль не спатыкала...

*[да 3.01.1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Выбачайце, што я Вас зноў трывожу. Каб жа вытлумачыць Вам сваю назойлівасць, мушу быць шчырым. Чы памятаеце, калі я выязджаў з Мінска і прасіў Вас прыслаць свой «Сум»? Думаю, што Вы тады ж згадалі маю думку, укрытую ў маёй просьбе, што не адно толькі я хацеў яшчэ раз заглыбіцца ў водкліку Вашага чуцця — «Суме», а меў на мэце блізшае пазнанне Вас. Так, гэта праўда...


*Зоська Верас.*

Прачытаўшы Ваш «Сум», я аж жыхануўся ўнутры ад велізарнасці глыбокага смутнага чуцця і сімфанізму містэрыйнага надчалавечага болю, перапоўненага ўсёабхватываючаю жудою, болю пакорнага, ціхага, як смутны вобраз нашай роднай краіны, — што хавала ў сабе Ваша душа.

У дабавак, я пазнаў, чы скарэй адгадаў сваім інстынктам, што душа, якая магла спарадзіць гэткую песню маркотнасці, мусіць быць страшэнна адзінокай. Акружаючы яе паток людзей, што надзяюць на сябе тогі судзей чалавечага чуцця, так жа ёй чужы, як чужы бярозцы пальмы... Не дзіў, што пасля гэтага я зажадаў пазнаць Вас бліжэй і, калі можна, адкрыць тыя

таемнікі, што крыюць тую раллю, каторая зрадзіла «Сум».

Нашто? — запытаеце.

На гэта пытанне я Вам адказу не дам, бо і сам не ведаю, але думаю, то для таго, што ў «Суме» — вобліку Вашай душы, я ўбачыў сваю душу. Тыя ж нявідзімыя сілы тайны быту, што звязваюць душу з усім акружаючым: на кожны бытавы праяў гэтага акружаючага, будзяць у ёй водклік, водклік, каторы змяшчае ў сабе і песню пташкі, і шэпт лесу, і плач дзіцячы, і смех дзявочы, і стогн маткі, і шэпт ночы, і ход часу, і казку зорнага неба, і жальбу пахілага на раздарожжы шэрага крыжа, і маркотнасць, што сцелецца ў раннім і вячэрнім тумане па зямлі, і тугу, што чуецца ў песні мужыка-гаротніка, і скаргу за прошлым родных курганоў... Так, той жа «Сум» — велізарны боль духу, што кутае быт у церні і шыпы, але без каторага душа была б мёртваю. Так, усё гэта тое, апроч пакорнасці. Не знае душа мая пакорнасці: замест пакорнасці пануе ў ёй бунт. Ён без упынку распальвае маю душу і рве і кідае ўсё ў ёй... Думаю, што яшчэ для таго пацягнула мяне к Вам, што я за апошні час страшэнна змогся. Хацелася б, каб хтось свой зразумеў, памог бы найці адпачынак для змардаванага духу...



*Фабіян Шантыр.*

Не знаю, чы патрафіў вытлумачыць Вам, што хацеў, чы зразумелі Вы мяне. Калі зразумелі — адпішыце.

*Ваш Фабіян*

Адрас: «Действ. армия. I Головной Эвакуационный пункт. Шантыру (Западный фронт)».

*17/1[1916 г.] Фаніпаль*

Паважаная панна Людвіка!

Пішу Вам, па выездзе з Мінска, другі ліст, і, як бачыце, закідваю Вас лістамі, хаця не ведаю, чы Вы гэтаму давольны, — бо ад Вас не маю ніводнага ліста. Ну, як там ні было, а пішу... Надта доўга прыходзілася маўчаць і шукаць таго, каму бы мог выказацца, хто бы мог цябе зразумець. І за гэты час нематы і воўчага адзіночаства столькі сабралася ў душы, што цяпер, калі нашоў таго, перад кім мог бы выказацца, гэта ўсё хлынула хваляй і адно другога здавіла.

Пакуль не сустрэў Вас, казалася, от прыйдзе хтось з нязмерна вялікай думкай, з дзіўнай чуткай, як веснавая ноч, душою, з тым братня-шчырым, сумным, з усёабхватваючым узрокам вачэй, прыйдзе, «возьме цябе за руку і ўвядзе ў панства цішы і спакою», дзе дух твой будзе снуць песню, вялікую песню скаргі, жальбы аб сваёй адзінокай цярністай жыццёвай пуціне, дзе твая думка, гордая ў сваім адзіночастве, думка, што гарыць у вечным бунтарскім агні, пакорна абаўе вянком сваіх летуценняў братнюю думку і замрэ з ёю...

Так казалася гэта тады, калі я таміўся і чакаў, змагаўся ў марах маркотнасці і чараў... А цяпер? Цяпер замест цішы і спакою буры чуцця з страшнай сілай кідаюць мяне па выдмах маіх мук і рвуць душу і думку на шматкі. Замест песні

жальбы і скаргі, дух глушыць сябе гоманам мукавага пратэсту, клікам гразьбы... Толькі «сум» усё далей і далей ідзе ўглыб мае духовае краіны...

Казалі Вы мне быць шчырым і от бачыце, я шчыры нават больш, як трэба. Кажуць людзі, што шчырасць родзіць шчырасць: будзьце ж і вы шчыры.

Пішыце, Вашы лісты цяпер для мяне надта патрэбны.

*Ваш Фабіян*

## З дзённіка Людвікі Сівіцкай «Хворыя душы»

*17 студня [1916 г.]*

Ах, каб я магла нейкай нявіднай іскаркай пранікнуць у яго душу і паглядзець, наколькі гэта ўсё шчыра і праўдзіва... Наколькі больш шчаслівы етыя людзі, што не прывыклі паддаваць аналізу і сябе і другіх. Ужо, ужо чуткая душа, упоеная салодкай гармоніяй слоў, гатова раскрыцца, як кветка вясновая пад сонка праменнямі, аж тут выпаўзае вяка-крытык і шапоча: пачакай, не спяшы. Хто ведае, ці гэта праўдзівае, цёплае сонца, мо гэта мана... сцеражыся — замерзнеш. І душа ізноў хаваецца ў сваю глыб і маўчыць. Не дзеля таго, каб шкадавала сябе, не, я не маю той заразумеласці, што мая душа так многа вартая, што яе трэба сцерагчы, як нейкую далікатную кветачку ад халоднага сіверу, не, не дзеля таго. А таму, што там, у яе глыбіне, ляжыць глыбокая светлая вера ў людзей... Гэтую веру баюся надарваць... страціць яе баюся. Веру ва ўсіх людзей... баюся верыць аднаму... А так бы хацелася... Не, не, яшчэ не можна. Трэба ізноў звярнуцца, скруціцца ў клубочак і чакаць, чакаць. А мо прыйдзе такі моцны, такі шалёны парыў, што разаўе клубочак у пышную кветку?..

Паважаная панна Людвіка!

Тое, што я перажываў і перажываю ў апошнія часы і што, як глухое адарванае рэха, даняслося да Вас у маіх лістах, — асталося для Вас незразумелым... Не знаю, што ў гэтым вінавата: чы я слаба перадаў Вам перажыванае, чы брак у Вашай душы родных водгаласаў, чы што іншае? Но, але аб гэтым няма чаго гаварыць: сам вінават, што, не зведаўшы броду, сунуўся ў воду... Бачыце, хто доўга брадзіў у цемры, той усякаму праблiску светлага прамення рад, не ўзіраючы на тое, што часта гэтае перажыванне бывае зводным. Але аб гэтым рэч скончылася.

Цяпер пастараюся даць Вам адказ на паднятыя Вамі пытанні. Пытаеце, чы дух мой не мог бы часамі, у барацьбе з сабою аслабнуць і зламацца? Скажу, не! Дух слабее і заміраe тады, калі ўнутры яго чуецца спакой, сытасць, задаволенне... Для таго, каб дух панаваў над будзёншчынай быту і ўзносіўся ўгару к зорам ідэалаў і крапчаў, для гэтага патрэбны цярпенні, мукі душы, бо ў іх толькі дух гартуецца, бо яны толькі робяць яго чуткім і трывожным на ўсялякую праяву быцця... А цярпенні і мукі творыць толькі барацьба. Барацьба — гэта векавы пасувач росту чалавечага духу. Мукі, цярпенні вечна павінны стаць на варце ў чалавечай душы і будзіць, і будзіць яе. Замры яны, і замрэ душа чалавечая, а замест яе ўстане жывёлавы інстынкт. Каб стварыць мукі, дух чалавечы павінен вечна шукаць спрэчнасць у сабе і ў акружаючым, а знайшоўшы такую, павінен бунтавацца і бунтавацца без канца. Калі дух чалавечы чуе спрэчнаць, а слабы для бунту, тады ён родзіць «Сум». Не, не той «сум» здаровы, што збірае з усёй зямлі ў сабе цені таемнасці і вядзе з імі карагод містычнага хараства, што дае чалавеку сілу чуць мову магіл і ход часу, а зусім другі: кволы, слабы «сум», што расслабляе сабою душу і ядам свае гнілізны яе забівае... Такі мой погляд на паднятае Вамі пытанне. Думаю, што Вы мяне зразумелі. Я Вам выказаў не пустыя словы, а сваё глыбокае перакананне, к катораму я прыйшоў надта труднай пуцінай...

Далей Вы пытаеце, чы ж я не прызнаю над сабою ніякай вышшай сілы, для каторай мой дух мусіць быць моцным, не кранутым самай маленькай слабасцю? І тут жа пацвярджаеце, што я сам прызнаў, што мы не павінны разбіваць сваіх сіл, сваёй энергіі... Бачу, што мяне не зразумелі... Па-першае, дух некранутым ніколі не можа аставацца, бо абсалютная некранутасць духу — гэта яго смерць. Дух вечна павінен быць у творчым палажэнні... Тварыць, гэта значыць, як я казаў, шукаць спрэчнасцей, загарацца бунтам і вясці барацьбу, барацьбу страшную, што родзіць мукі, праз каторыя толькі дух можа ісці да сінтэзу агульных ідэалаў. Зусім другое, трата энергіі на бясплодную і бесцэлёвую працу над канкрэтнымі актамі, каторыя плодзіць не дух, ахоплены полымем бунту, не ясны погляд крытычнага светапазнання, не позывы вышшых ідэалаў, а брак моцнае волі, брак глыбокіх маральных задаткаў чалавечага «я», двухстароннасць гэтага «я»; спасобнасць засыпання пустаты душы смеццем абыдзёншчыны... Гэткая праца — гэта жаданне абмануць сябе, акружаючае.. Але аб гэтым падробна калі другім разам...

Што касаецца вышшай сілы над маім духам, то такую я маю і прызнаю: гэта — ідэя. Ёй я не толькі служу сваім духам, але нават усім сваім бытам. Часам дух, страшна галодны па эстэтычным корме, змаркатнелы брыдзе ў пашуканні гэтага корму, перастаўшы служыць, ад слабасці, ідэі, — розум жа ніколі не перастае ёй служыць і працаваць па яе расказах... Як я разумею працу для ідэі, я вытлумачу Вам пры спатканні, калі такое яшчэ здарыцца.

Вы думаеце, што я вяду барацьбу духу за неразгаданыя пытанні быцця? Гэта не так: мэта прызначэння чалавека для мяне ясная. Якая ж барацьба майго духу? Вытлумачу другім разам. Цяпер, у канцы, хачу адказаць яшчэ на адну Вашу думку. Вы пішаце, што «толькі праца, адна толькі праца можа даць здаволенне і спакой»... Тут Вы маеце маленькую памылку. Праца можа здаволіць, калі гэта праца ідэёвая, розум чалавека і яго жыццёвыя мэты. Працуючы, чалавек чуе, што ён робіць тое, што павінен рабіць у жыцці, да чаго ён прадназначан. Гэта адна старана чалавечага быту; другая — гэта яго дух. Душа чалавека жыве і можа быць здаволенай не працаю, а эстэтыкаю. Чым больш перажывае чалавечая душа эстэтыкі, тым яна вышшая, пачутнейшая. Эстэтыка творыць у душы чалавека музыку, каторая злівае ў адну гармонію ўвесь чалавечы быт...

Но, хіба ж на гэты раз будзе. Думаю, што і так змарыліся, чытаючы мой ліст.

Пакуль будзьце здаровы, не памінайце ліхам і не забывайце. Пішыце.

Пытаеце, чаго я іду на пазіцыю і чы гэта добрае пастанаўленне? Скажу Вам аб гэтым, калі астануся жыў. Пакуль што гэта пытанне яшчэ не рашонае.

Чакаю Вашай фатаграфіі, прышліце яе і чым скарэй.

*Ваш Фабіян*

*20/I[1916 г.] Фаніпаль*

## З дзённіка Людвікі Сівіцкай «Хворыя душы»

*21 студня [1916 г.]*

І так: «Вы мяне не зразумелі»... Ці я папраўдзе заслужыла на гэтыя словы? Не. Гэта няпраўда... Я зразумела ўсё. Зразумела ўсю жуду яго братняй душой, усю моц, з якой ён на спатканне гэтай душы ляцеў, усю сілу жадання пачуць пацвярджаючыя словы, што гэта і ёсць тая родная, братняя душа, спатканая на жыццёвай пуціне па волі спрадвечнага Кона... Мне добра знаёмая адзінокая пуціна з таёмнай зоркай надзеі там далёка, наперадзе далёка... Зорка далёка... а ўвакруг цябе адзінокі дух чалавечы, жудасная цемра і глухое выццё ветру, што плача і наракае на свой лёс і твой... І як тады страшна!.. З якой шалёнай жудою цягнуцца рукі ўдаль, а душа крычыць нямым голасам «прыйдзі... прыйдзі, духу

братні»... сілы слабеюць, сэрца заціхае... Аж зноў ясней замігаціць зводная зорка надзеі; апошнімі сіламі рвецца чалавек уперад, спяшыць... а там ізноў цёмна, ізноў вецер рагоча-насміхаецца... Ха, ха, ха... як страшна... як балюча... І ён мне піша: «Вы не зразумелі»... Хаця гэта мая віна. Я ж ні слова не напісала, каб было можна зразумець маю праўдзівую думку. Чаму? — сама не ведаю. Ці гэта нейкая дзікасць? ці баязнь паказаць глыб сваёй душы?.. Ці нейкае недавер'е?.. Я ж хачу верыць... Хачу верыць у шчырасць яго слоў, у праўдзівасць перажываемага... А нейкія злыдні шапочуць: смейся, не вер! Гэта фразэсы, дэкламацыя, даволі артыстычна адыграная штука... Адыйдзіце, злыдні, сціхніце... Хачу верыць, хачу веру высказаць. А калі гэта толькі блудны аганёк?.. Ізноў той голас. Як трудна паладзіць... Як цяжка.

Паважаная панна Людвіка!

Атрымаў Ваш ліст. Дзякую, што не забываеце.

Напрасна мучыць сябе думкай, быццам я на Вас разгневаўся, што мяне не прынялі. Бачыце, я вырас у атмасферы пэўнай незалежнасці і ніколі не прызнаваў якіх бы то ні было варункаў, што так чы іначай агранічваюць волю індывідуума. Гэта незалежнасць навучыла мяне заўсёды шанаваць чужую праяву волі ў асабістых пытаннях каждага чалавека, — гэта раз. Другое — я ніякага, ані маральнага, ані пачуццёвага права не меў, каб мог дамагацца якіхсь прывілеяў у Вас перад другімі.

Дзякую і за дэкларацыю прыслаць сваю фатаграфію, хоць што праўда — слова ўзяў я ў Вас подступам...

Пішаце, што мне прывет шле М. Гарэцкі. З ім я зусім не знаёмы. Будзьце ласкавы, перадайце яму маё шчырае «дзякуй» за прысланы прывет і папрасіце, каб ён мне напісаў — хацеў бы з ім пазнаёміцца і аб сім-тым пагаманіць.

Пытаецеся, чаму я сказаў, што не хутка буду ў Мінску і што гэта значыць? Рэч простая: са дня на дзень чакаю свайго ад'езду... Па-другое, хочацца некаторы час пабыць аднаму, пачакаць, пачакаць, пакуль усё перагарыць... Дадаеце, што каб мяне «хто папрасіў надта і надта», чы прыехаў бы? Трудна адказаць; гэта залежала б ад таго, наколькі быў бы важан мой прыезд для «кагось».

Рад, што Вы ачунялі і можаце працаваць. Я баяўся, што пры Вашай кволай камплекцыі Вы маглі б расхварэцца на добра. Но, але добра ўсё тое, што добра канчаецца. Цяпер жадаю Вам здароўя і як найбольш здароўя.

*Ваш Фабіян*

29/І [1916 г.]
Пішыце.

## З дзённіка Людвікі Сівіцкай «Хворыя душы»

*25 студня [1916 г.]*

Перачытывала ізноў апошні ліст Ш. Так хочацца сказаць самой сабе: «Ага, сястрычка, шукаеш «моцнага пункту», каб на ім абаперці свае дальнейшыя крокі...» Не, напраўду не тое... Упрост нешта таемнае цягне, кліча, маніць... Гм... з некаторымі думкамі не згаджаюся. Ён піша: «Каб стварыць мукі, дух чалавечы павінен вечна шукаць спрэчнасці паміж сабой і акружаючым» і зноў: «Дзеля гэтага патрэбны цярпенні, мукі душы, бо ў іх толькі дух гартуецца, бо яны толькі робяць яго чуткім і трывожным на ўсялякія праявы жыцця» ...Па-моему, гэта не так. «Стварыць мукі» нейкім штучным спосабам нельга. Шукаць «спрэчнасцей». Спецыяльна шукаць іх, можа, па нейкім выпрацаваным метадзе? Гэта для мяне незразумела. Спрэчнасцей не шукаюць, яны знаходзяцца самі сабою, вызваныя

індывідуальнымі асобнасцямі данай душы. А бываюць жэ ж душы, створаныя пад зусім маленькую агульную мерку, ніякіх асобнасцей яны не маюць і ніякія спрэчнасці для іх існаваць не могуць. Адкуль жа ў іх можа з'явіцца думка «шукаць» гэтых спрэчнасцей? І шукаць яны не будуць і барацьбы за іх вясці не будуць. Астануцца шэрым тлумам, шэрай, марнай грамадою. Толькі душы, выбраныя паміж сотняў, носячы на сабе пячаць глыбокай індывідуальнасці, пабачаць паміж сабой і акружаючым пропасць спрэчнасцей, і, калі яны душы сільныя, «каторых ветры няньчылі», як кажа наш паэт, то яны павядуць крывавую барацьбу і будуць старацца зваяваць розніцу, падвесці яе пад сваю меру. Слабыя душы адыйдуць у цемр адзіноцтва і звянуць у бязплоднай тузе. Тое самае з «цярпеннем». Не кожная душа цярпець умее; а каторая не ўмее, то ці яна ведае прынамсь аб гэтакай штуцы і пастараецца яе сабе прысвоіць? Не, гэтага не бывае. Мукі не ствараюцца, яны самі ўстаюць аж з дна душы і тузаюць і рвуць яе і кроўю абліваюць. Што яны патрэбныя, гэта справа другая і аб гэтым гутаркі быць не можа. «Не затрымывай, о Божа мой, крыві плывучай, не адбірай яе агню жывога, бо акамянее душа мая, Пане, і цвёрдай масаю зробіцца. Няхай плыве кроў гарачая, няхай жыве Боль магутны, абы не сталася яна падобнай да скалы горнай, нячулай на енкі і стогны ветру бяздольнага». Гэта з майго «Псалму». А ўсё ж такі: «Вы мяне не зразумелі»... Праз якую гэта горкую іронію я не маю той цывільнай адвагі высказаць усё «яму» самому, а не толькі сабе ў дзівачнай таямнічасці:

*29 студня [1916 г.]*

Хоць ён піша, што «ўмее шанаваць чужую праяву волі», але гэта яшчэ не значыць, каб яму не было прыкра, калі я не хацела прыняць і пагаварыць. Праўда, надта дрэнна чулася, толькі што гэта мая вымоўка. На гэты раз выявілася эгаістычная жылка: дзеля ўласнай выгоды зроблена чалавеку прыкрасць. Так не можна.

Паважаная панна Людвіка!

Даруйце, што я яшчэ раз патрывожу сваім лістом Ваш спакой. Але гэта бадай апошні раз: хачу дагаварыць недагаворанае...

Хачу, хоць знаю, што мая шчырая першая і, мусіць, апошняя споведзь не прабудзіць Вашай душы для мяне. Думаю, што пішу для таго, што душа не можа стрываць агарнуўшай яе буры і бадай для таго, што споведзь глушыць боль і сцішае смутак...

Можа, шчырыя мае словы і ўздымуць Ваша чуццё ў краіну чараў, але не верце Вы гэтай злуднай хвілі: я і Вы гэта два праціўныя бегуны. Хоць мы і надта родныя і блізкія па духу, затое страшна далёкія па інтэлекту і псіхалогіі: іх выгадавалі ў нас дзве спрэчныя раллі. Аб гэтым Вы самі ведаеце...

І ў гэтым уся сіла мук духу, што Вы для мяне і родная, і чужая... Але па парадку...

Зачалося гэта тады, як прачытаў я Ваш «Сум». Не, тады, як першы раз убачыў Вас, як заглянуў першы раз у поўныя разжаленага смутку Вашыя вочы. Тады я ўжэ адчуў, як ціха, ціха, нібы голас Эолавай гарфы, плакала Ваша душа... Ніхто не чуў, можа, не чулі ў сабе і Вы гэтага плачу, а я чуў... Я слухаў і ўвесь, усім сваім бытам, рваўся к гэтай дзіўнай, глыбокай у сваім суме Вашай душы... Як злодзей, я чатаваў кожды яе парыў, кожды яе бытавы праяў. Усё далей і далей, і далей, паміма сваёй волі, я стараўся пранікнуць у яе глыб і пазнаць, і зведаць усе, лёгкія, як цень, яе ізгібы. І я яе спазнаў... А чы ведаеце Вы сваю душу?.. Ваша душа — гэта сінтэз рэха зыкаў нашых палёў, лясоў, нашых забытых магілак, усёй нашай, асабліваў у сваёй шэрай сумнай красе, бацькаўшчыны; сінтэз болю нашага народу, таго велізарнага, усясветнага болю, што акутаны жудою, бродзе па роднай краіне і стамлёны, і змучаны, прыпаўшы к трухляваму крыжу, што стаіць пахілены на раздарожжы і сцеражэць матку-долю, і галосе, і моліцца ў экстазе і самабічаванні... сінтэз роднай песні-стогну, што маркотна сцелецца а захадзе

па імшарах і хмызняках і недзе, з недасказанай жальбой, канае ў светазмроку за векавечнымі курганамі...

Я не маю ў сабе сілы абрысаваць яе так, як я зразумеў, адчуў Вашу душу сваім чуццём.

А пазнаўшы яе, Вашу душу, мой дух паў перад ёю ніц і пеў: «Асанна»... Адсюль і пачалася смяротная барацьба між духам і розумам, і збароў не апошні, а першы...

У зможанай барацьбою і стамлёнай чаканнем ад пачатку свядомага быту свайго, маёй душы, чаканнем стрэчы з роднай, братняй душою, нарадзілася песня... Песня мукі і радасці, жыцця і бязмернай трывогі, малітвы і праклёну... Песня, ад каторай уся душа гарэла полымем нявыясненага чуцця і рвалася, рвалася, як раненая птушка ў сілах... Што гэта была за песня? Ці песня кахання?.. Не, зусім не гэта. Па-за Вашай душой я не бачыў нікога і нічога... Чуў толькі адно, што душа мая найшла родную сабе душу, па каторай так доўга тамілася ў чорнай маркотнасці; каторую звала ў гадзіны цяжкага адзіноцтва, гадзіны сумнага, нявыясненага болю; каторую шукала не між людзей, а ў тайніках прыроды, у шэпце прадвечнасці; каторую звала на ратунак, калі дух падаў зранены, збіты жыццём і мучыўся ў цемры бездарожжа, без братняга водкліку, без братняга спачуцця... Тую душу, вобраз каторай тварыўся ў марах-летуценнях, як сімвал хараства, што чалавечае чуццё падымае ў панства зор і там грае на ім адвечную сімфонію творчасці неба... А, адчуўшы гэта, адчуў і тое, што ўладарка братняй душы ніколі не прабудзіць яе для мяне. Чуў усё гэта і знаў, што ў гэтым спазнанні роднай душы, поруч з прабуджэннем майго чуцця, разам — і яго смерць... Аднак ляцеў да яе, як матыль да полымя, ахвачаны чарам дзіўнага містычнага павабу. І калі падыйшоў і заглянуў у Вашу душу, адчуў такія мукі, ад каторых нямеў мой быт, — ад той спрэчнасці, ад таго дысанансу, які мелі між сабой Ваша душа і псіхалогія...

У апошні памятны вечар мне так нястрымана хацелася прыпасці да Вашых ног і прасіць, і прасіць, каб Вы прыслухаліся к ціхаму шэпту-плачу сваёй душы і пашлі за яе зовам, пашлі ад усяго акружаючага Вас будзённага, злуднага, нікчэмнага ў светлую краіну мар родных абшараў, куды звала Вас Ваша душа... Але было відаць, што надта сільна для Вас акружаючая будзёншчына, надта слабая Ваша, вырасшая не сярод бур жыцця, а ў цепліку, воля, каб змагацца з пахланяючым яе налётам мішуры... Я адчуваў усё гэта і боль безміласэрны рваў на шматы маё чуццё. У гэту гадзіну я перажываў нешта такое пякельнае, чаго і цяпер не магу сабе ані крыху ўясніць... То мне хацелася схапіць Вас і ляцець з Вамі шалёным пэндам у даль снежнай пустыні і там, тулячы да сваіх грудзей, як дзіця, калыхаць і песціць і змагацца за Вас з ураганамі, уюгамі і зверам, з усёй дзікасцю галоднага звера; то хацелася ўтуліць у Вашы рукі сваю атуманеную галаву і плакаць усёй сілай душы, крывавымі слязамі сэрца і скаржыца без слоў стамлёным тугаю адзінокім чуццём; то хацелася стаць грозна ў абароне чагосьці блізкага, дарагога, даражэйшага над уласны быт і гнаць і руйнаваць усё навокал. Бунт і боль маёй душы быў над мае сілы, над сілы чалавека... Я павінен быў як найхутчэй бегчы ў прастор адзіноцтва і там гарэць у сваіх цярпеннях, пакуль усё перагарыць, але скуты якойсьці сілай, не мог... І калі мукі дайшлі да таго крэсу, калі ўсё рунецца і ляціць у пропаць, я ледва, сабраўшы ўсю моц сваёй, гадамі гартованай у горы, волі, мог адысці... Я ішоў, а ў грудзях штосьці рвалася і чэзла, а замест усяго перажытага радзіўся і ўзрастаў дзікі горкі смех...

Не знаю, чы я дагаварыў недагаворанае, але цяпер гэта ўсёроўна...

Даруйце за ўсё...

Будзьце шчаслівыя!

*Фабіян*

*4/II [1916 г.] Фаніпаль*

*[1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Даруйце мне, што я не выпаўніў Вашай просьбы і не астаўся на сабранні.

Ведаеце, нешта ў грудзях прарвалася і падняло там цэлую буру... Хацеў, чым скарэй, уцякаць з Мінска, бо мусіў астацца адзін і прыслухацца, і разабрацца ў тым, што робіцца ў душы.

Прыехаўшы ў Фаніпаль, пашоў у лес і там блудзіў да самага рання. Сядзеў адзін у лесе і слухаў яго спеў. А лес дзіўна, чароўна пеў пра сягонняшнюю ноч... Казалася, ён сваёй адвечнай казкай-жальбой хацеў утаймаваць, заглушыць той боль і агонь, што гарэлі ва мне... Дух мой так жа бушаваў, як і збунтованы лес. Думка без упынку рвалася і рвалася кудысь... Сышліся ва мне чалавек зямлі і чалавек мар і пачалі страшэнную барацьбу, збароў чалавек мар. Ён схваціў маё «я» і ўзнёс яго ўвысь, над зямлёй, у вечнае царства духу. А чалавек зямлі ляжаў збіты, зламаны і слаў у бяссіллі пракляцці свайму ворагу... Так сышліся для мяне сённяшняя ноч, ноч страшнай барацьбы. Зможаны, змучаны я вярнуўся сягоння ў сваю хату, але моцны на духу... Пішу Вам гэты ліст, яшчэ не астыўшы ад толькі што перажытага. Чаму звяртаюся да Вас з гэтым лістом — сам не ведаю. Думаю, што той, хто патрафіў напісаць «Сум», патрафе зразумець і мяне... Пішыце, бо Вашы лісты для мяне цяпер надта патрэбны. Здаецца, што на днях альбо за тыдзень, перавядуся на пазіцыю. Не дзівіцеся, што страшэнны праціўнік крыві, іду туды, дзе льецца кроў!.. Аб гэтым напішу пасля.

*Ваш Фабіян*

*18/III [1916 г.]*

Панна Людвіка, — на высланыя Вам два лісты не маю адказу. Што гэта, — чы пагарда, чы здзек? На першае я не заслужыў, на другое не пазволіць Ваша душа.

А як жа мне цяжка, як я стаміўся, чакаючы яго... Чым ён мае быць, чы ратункам, чы атрутай, — чым, не усёроўна? Каму ад калыскі было жыццё палыном, для таго не так страшна і атрута для душы...

Калі Ваша жывая [душа], чуткая, як рэха жыцця, хоць крыху для мяне прыхільна — дайце адказ.

Жадаю Вам шчасця.

*Ф. Ш.*

*25/III [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Атрымаў Ваш ліст. Дзякую, што дакляруеце, хоць калі, выпаўніць раз данае слова.

Вы наракаеце, чаму так мала напісаў?.. Пішаце, што я мог здабыцца толькі на пару слоў, што «паміма ўсяго» магла астацца ўва мне хоць капля веры ў Вас, каторая пазволіла б напісаць больш?.. Дзіўная Вы, дапраўды! Калі я Вам паслаў свой апошні з Фаніпаля ліст — адбітак майго чуцця, у полымі каторага корчыцца праз увесь гэты час мая душа, — Вы, хоць ведалі, што гэты ліст пісаны кроўю маіх мук, што ў ім — гэта адзін зык жадаць усяго майго быту, — аднак у адказ гэтага стогну, пратэсту, жальбы Вы не «пацікавіліся», не напісалі пытання, як я жыву...

Баяліся патрывожыць агнішча, каб не ўзгарэлася ярчэй полымя?.. Напрасна, пажарышча патухае тады толькі, як усё выгарыць.

Што ж, даруйце, можа, па-свойму Вы і справядлівы. Аднак, ведаеце, так цяжка, цяжка...

*Фабіян*

P.S. Калі будзеце мець вольную хвілю, то кіньце колькі слоў...

*20/IV [1916 г.]*

Атрымаў Ваш ліст. Нязмерна рад, што Вы пераканаліся хоць у тым, што ўрэшце я «магу папраўдзе лічыцца прыяцелем»...

У мяне зашла маленькая перамена: мяне перавялі на службу ў Бабруйск завядоўцам шпіталю. Цяпер знаходжуся на новай пасадзе. У Бабруйск прыехаў 17-га і цяпер прымаю ад быўшага завядоўцы рухомасць і грошы. Работы больш як шмат. З гэтага повалу не мог прыехаць на з'езд у Мінск 20-га. Выбачайце за гэта. Як трохі буду вальнейшы, то пачну працу ў Бабруйску над беларускай справаю. Адно толькі кепска, што я тут зусім адзін. Мо там у камітэце ест адрасы якіх-небудзь Бабруйскіх беларусаў, то завядоміце. За колькі дзён публічна прачытаю лекцыю па тэме: «Патрэбнасць жыцця для беларусаў». Прыязджайце, памажыце...

Я маю надта выгадную кватэру ў крэпасці. Калі прыедзеце, будзеце мець выгадны асобны пакой, калі захочаце, то і фартап'ян, адпачынеце душою і акрэпнеце целам. Тут мейсца надта харошае. Ды сваім прыездам мне і дасце нейкую радасць, пакой душы, бо шчыра кажучы, чым больш выпаўняюцца задуманыя мною жыццёвыя планы, чым больш я знаходжу задаволення ў рабоце, тым больш я чуюся адзінокім, тым больш нешта так горка, сумна ў душы плача...

Праз усё жыццё ад малых дзён заўсёды адзін, без усялякага братняга спогаду, без роднай адзыўчывай душы... Так, у гэткім жыцці воля і энергія не надрываюцца, не ломяцца, а гартуюцца, і каб Вы бачылі колькі мне цяпер прыходзіцца працаваць і як працаваць, то б Вы задзівіліся б, але душа... душа з каждым днём чуе ўсё мацнейшы і мацнейшы боль... Но, выбачце, даруйце... Знаю, што Вы мяне зразумееце, але чы адчуеце, чы заглыбіце сваё чуццё.

Калі час пазволіць, пішыце.

*Ф. Шантыр*

Адрас: Бобруйск М. г. 220 полевой запасный госпиталь, мне.
P. S. Пашкадуйце сябе і беражыце здароўе.

*Май, да 7-га [1916 г.]*

Атрымаў Ваш ліст. Дзякую за хуткі адказ. У гэту ж хвілю Вам адказваю. Адразу прыступаю да таго, што мне найбольш баліць... У Мінск я хутка прыехаць не магу, бо не кончыў яшчэ работы па прыняцці шпіталю... Прыедзьце Вы хоць на адзін дзень, на лекцыю. Буду чытаць яе 7-га мая. Калі Вы к гэтаму дню не прыедзеце, то адлажу на далей. Прашу на ўсё, прыедзьце!.. Вялікую радасць мне справіце і дасце дарагія хвілі адпачынку маёй душы... Адзін дзень, толькі адзін дзень... Прашу Вас...

Сягоння к вечару меў вольную хвілю часу з таго поваду, што ахрып. Дагэтуль не меў ні адной вольнай хвілі і працаваў, як ніколі. Цэлы дзень праца ў шпіталі, а вечарам, штодня, салдацкія мітынгі і сабрання. У Бабруйску я стаў за гэты час свайго роду папулярным чалавекам з поваду штодзённых мітынгаў. Пашоў за места, і наколькі ўвесь час было паднята чуццё, учуў сябе задаволеным, настолькі цяпер пачуў сябе сіратою і горка адзінокім... Не ведаю, чаму-та толькі сёння я так глыбока, як ніколі, адчуў, што праз увесь жыццёвы шлях, ад малых дзён да астатніх, я заўсёды адзін... Чы Вы ведаеце, чы можаце згадаць, як цяжка без братняй душы, каторая б зразумела цябе, выслухала скаргу тваёй душы, чы проста ў ціхім чулым усціску дала б ёй хоць хвілёвы пакой... Шоў з поля дадому і чуў, як сэрца ўсё сільней і сільней сціскала нейкая наваліўшая на яго ледзяная глыба... Дома застаў Ваш ліст. Цяпер пішу Вам, знаю, што пішу без лагічнай мыслі, без сэнсу, але даруйце, трудна ўстрымаць разбушаваўшы боль душы...

Я цяпер увесь час жыву толькі нервамі і чуццём, каторыя нацягнуты да астатку. Баюся крызісу. Прыедзьце, зробіце вялікую ахвяру для мяне. Дайце адказ

тэлеграмаю, бо буду лічыць мінуты і мучыцца. А так трудна, трудна, як ніколі... Бывайце здаровы! Чакаю Вас! Тэлеграфуйце.

*Ваш Фабіян*

Адрас для тэлеграмы: Бобруйск 220 госпиталь Ш…

P.S. Пачынаю працу над пісаннем раду палітычных папулярных брашур для Беларусаў. Каб прыехалі, надта памаглі б у гэтым.

Чакаю Вас!

*7/V [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Атрымаў Ваш ліст. Дзякую за памяць. Як бачыце, я шмат акуратней за Вас, бо адказваю на Ваш ліст не праз колькі тыдняў, як робіце часамі Вы, а на другі дзень...

Пытаеце, як жыву? Звычайны бег жыцця салдата на вайне. Жыццё крывавай барацьбы ў наш час багата ўражаннямі. На свежага чалавека ўражанні гэтыя чыняць вытужна-ашаламляючы захват. З пераходам жа ў будзёншчыну гэтыя ўражанні сваёй сілай утамляюць чалавечае чуццё, прытупляюць яго і глушаць. І трэба мець надта развітыя чуццявыя інстынкты, каб, жывучы ў будзёншчыне вайны, не атужэць, не адзеравянець. Іначай кажучы, трэба мець жывую, вечна хаваючую ў сабе рэха водклікаў акружаючага, душу, каторая б стаяла на варце. А якімі мукамі плаціць за гэта такая душа, аб гэтым і гаварыць не трэба. Што датычыць мяне, то нічога а сваёй асобе не магу пісаць, бо думаю, што ніхто не ў сілах улавіць асноўны матыў перажыванняў на вайне. І наогул трудна быць кантролем сябе...

Пытаеце, як тут у нас, у Піншчыне?.. На мяне асабліва моцнае ўражанне робіць Палессе. Палессе — цікавае хараство прыроды. Калі ёсць дзе захаваная адвечная тайна ў прыродзе, так гэта ў Палессі. Гэта не маркотны, пануры вобраз, як яго рысуюць, а дзіўны, поўны захвата першабыту, цэльнасці. Здаецца, такой толькі павінна быць прырода непарушаная, несашпэчаная чалавечымі прыметкамі. Палессе — загадка непасцігнутаага, безгранічнага... Вы думаеце, Палессе ў большай частцы заліта вадою, як гэта пішуць па вучэбніках? Нічога падобнага! Палессе — панства зелені ў поўным смысле гэтага слова. Куды Вы ні кінеце вокам, усюды аксаміт зелені. І не аднастайны, роўны, як у стэпе, абшар зелені, а зялёны, бязмерны, не абхвачаны ўзрокам, абшар, чароўна прыбраны то вянкамі лоз, чароту, альхі, то букетамі бярозавых гайкоў, то хаўтурнымі, бязмерна голымі, пясчанымі ўзгоркамі, па каторых сумрачна, гордыя ў сваім адзіноцтве, цягнуцца к небу, к хмарам, выносныя сосны. Між гэтай зелені, сотнямі невідомых, паблытаных жыл, цякуць рэчкі. Наколькі павабны вобраз гэтага краю, настолькі ён і страшны ў сваёй непрыступнасці (далейшы тэкст згублены. — **Я. С.**).

*9/V [1916 г.]*

Толькі што атрымаў Ваш ліст. Тэлеграмы ад Вас ніякае не атрымоўваў. Атрымаў толькі тэлеграму Алексюка а прыездзе 13-га ў Мінск. Даруйце, я не знаю, што зашло: я, выслаўшы Вам ліст, з такою змогаю чакаў адказу, а тут выходзіць, што адказ быў... Слухайце, я цяпер не разумею ні Вас, ні сябе, нічога... Два словы ў Вашай адкрытцы перавярнулі ўсю маю душу. Якім шалёным запалам ахоплівае кожны маленькі проблыск надзеі на шчасце... Розум не пазваляе верыць, пратэстуе, а душа так рвецца, такой нязмернай ахоплена радасцю. Не, гэтыя словы хіба памылка, бо іначай як жа можа быць... А так хочацца верыць, так хочацца верыць... Напішыце! Буду так чакаць Вашага адказу.

У Мінск не змагу прыехаць, бо якраз ідзе зверка прынятаму і працягнецца нядзелі паўтары. Хіба, можа, як удасца адлажыць. Бабруйскі аддзел нічога не робіць, ды і самога аддзела кажацца няма. Учора ў мужчынскай гімназіі чытаў

лекцыю. Уражанне добрае. Атрымаў поўнае маральнае задавальненне, а на душы было так пуста, такі самотны боль яе цісную...

Пішыце! Няўжо і на адну гадзіну Вас не ўбачу? Прыязджайце хоць на мінуту! На гэтых днях устрою мітынг.

*Ваш Фабіян*

*8/VI [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

А дакляраванага я ўсё чакаю і ніяк не магу дачакацца. Выбачайце, што дакучаю.

*Ф. Ш.*

Паважаная панна Людвіка!

Калісьці Вы дакляравалі прыслаць сваю фатаграфічную картачку — чаму ж гэтак доўга прыходзіцца чакаць выпаўнення данага Вамі слова? — Чакаю.

З пашанай

*Фабіян*

27/VI [1916 г.] Буды

*24/VII [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Не дачакаўшы ад Вас адказу на адасланы ліст, а што найважней, не атрымоўваючы дагэтуль калісь дакляраванае фатаграфіі, хачу быць назолай да канца, хоць гэта апошні раз, бо ўсё ж дапамінаюся аб абяцаным.

Будзьце ласкавы даць адказ падацелю гэтага ліста.

Паважаючы Вас

*Фабіян Ш.*

*29/VII [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Атрымаў Ваш ліст з фатаграфіяй. Шчыра дзякую за прысланае. Сёння я яшчэ раз пераканаўся, як разумны пасловіцы нашага народа, як многа ў іх схавана крысталізавана-разумнай мыслі: «Чым госця даўжэй чакаеш, тым ён мілейшы» — кажа пасловіца, і гэта праўда. Доўга я чакаў дакляраванае фатаграфіі і ўжэ быў страціў надзею калі-небудзь яе атрымаць, а атрымаўшы, гэтак рад, што забыў і пра доўгі маркотны час чакання, і пра тое, з якой назойлівасцю я яе выпрасіў ад Вас, і стаў такі добры, што і сабе, і Вам, і ўсім гатоў дараваць усе вольныя і нявольныя грахі.

Но, але выбачайце, гэта, мабыць, Вас мала цікавіць. Но — пішу Вам колькі слоў пра цяперашняе сваё жыццё. Найперш апішу Вам краявобраз мае рэзідэнцыі. Калі памятаеце, калісь я Вам пісаў а Піншчыне, а нашым глыбокім Палессі. Цяпер я жыву ў роднай Случчыне і вобраз краю зусім другі. Ані балот, ані працяглых лясоў, ані запусцелых пясчаных ніў, паросшых хмызняком і каржакаватым сасоннікам, тут няма. Случчына — гэта хлебародная суглiністая раўніна, пакрытая густа параскіданымі дварамі і вёскамі. Усё гэта купаецца ў раскошных зялёных садах і ў багатай залатой апратцы ніў. Кажацца, што гэта абраз не Беларусі, а якогась палуднёвага краю, каб не смутныя пахіліўшыеся крыжы па раздарожжы, каб не адзінокія, прытуліўшыеся сям-там сіратліва пад бярозаю курганы. Што яшчэ родніць Случчыну з другімі абразамі Беларусі, так гэта якіясь таемныя

жалобна-сумныя цені, што нязначна пакрываюць сабою ўсё. Урэшце Случчына нічым не адмяняецца ад другіх кутоў Беларусі.

Што датычыць мае асобы, то я не ведаю, чы я жыву, чы хто другі ўвайшоў у мяне і жыве самаўласна маім чуццём, рассудкам, — жыве нейк механічна, дзераўлянай поступ'ю жыцця.

Часамі кажацца, што я ашалеў і ашалела ўсё навакол мяне і ўсё са мною круціцца і нясецца ў дзікім карагодзе ў чорную, напоўненую пропасць. І не дзіва: усё вакруг стогне, енчыць, моліцца... Кідае страшныя праклёны, скрыгоча зубамі... І так два гады. Два гады чалавечых мук растуць і растуць. Адна смерць прыносіць, як каханка, і «радасць» і спакой. Я чую, што ўмардаваўся жыць, чуць... Калі пастаянна дражніць факт, то чалавек увесь становіцца ранай і боль так паглынае яго, што ён перастае яго чуць. Таксама і з чуццём... Хоць у прошлым інтэлект мой шоў па дарозе жыцця поўнай здрадных пропасцей і злыбеднай цемры, аб якой Вам і не прышлося ніколі падумаць, хоць у вечнай барацьбе дух мой загартаваўся для непамерных над чалавечыя сілы спраў, усё ж я цяпер чую сябе разбітым і бязвольным. Сіла кахання бацькаўшчыны і народа сцеражэ толькі ва мне веру ў ідэалы чалавечаства. Крывавыя туманы крыюць будучыну: усё ж хочацца верыць, верыць хоць чаму-небудзь. А будзёншчына рве і рве гэту веру.

Но, напісаў Вам так многа, што замардуецеся чытаючы, а звлашча мае кітайскія іерогліфы.

Пакуль будзьце здаровы!

Пішыце.
*Фабіян Ш.*
Выбачайце, што гэтак брыдка напісаў. Нешта трохі не ў сабе.

*7/VIII [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

На атрыманы праз пасланца Ваш ліст з фатаграфічнаю картачкаю я зараз жа паслаў Вам у адказ ліст. Баюся, што Вы яго не атрымалі. Будзьце ласкавы заведаміць мяне, чы атрымалі гэты ліст.

Маю надзею ў хуткім часе пабачыцца ў Мінску — чы мог бы Вас бачыць? — напішыце.

Маю вялікую патрэбу ведаць адрасы Смоліча і Гарэцкага — чы не напісалі б мне іх?

З пашанай
*Ф. Ш.*

*28/VIII [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Карыстаючы з пасланца, спяшу паслаць Вам успамінку а тым, што я жыву на свеце, а разам і адказ на Ваш апошні ліст. Меў надзею быць у Мінску і ў власнай асобе засведчыць свой быт, але гэта не ўдалося. Гэтымі часамі пабываў дома, шмат душой адпачываў. Як кажуць, падагрэў падзею. Урэшце, усё тое ж, што і было. У апошнія часы пераглядаю ўсю беларускую літаратуру і нават пачаў сёетое пісаць. Усё гэта, натуральна, работа на чорна, але рад і гэтаму, бо да гэтых пор быў жывы мяртвец.

Пішыце а сабе і не ляніцеся ў пісанні, а то кінеце пару слоў і годзе. Як там у Вас з новымі Вашымі фатаграфічнымі картачкамі, а то такі праўда, што на прысланай Вы не зусім падобны да сябе. Занадта глыбокую напусцілі на сябе містэрыю, хоць што праўда, вачэй Вам не ўдалося змяніць. Пішыце!

Ваш прыяцель
*Ф. Ш.*

*10/X [1916 г.]*

Паважаная Панна Людвіка!

Як бачу, Вы надта вялікі маруднік у пісанні лістоў. А можа, гэта толькі мне? Ну, як сабе там не было, але, як бачыце, гэта не адбівае мне ахвоты пісаць Вам. А каб напрыкрыцца Вам да канца, я пастанавіў напісаць Вам доўгі-прадоўгі ліст. Пачынаю.

Як памятаю, калісь Вы звалі мяне да супольнай працы з Вамі, каторая мелася выразіцца, калі не мыляюся, у падтрыманні руху кружка Вашага, т.е. Мінскіх беларусаў, у тым цікавым руху, што выліўся ў пастанове «беларускай» батлейкі, каторую, так характарна памятаю, назваў якісь пан «балаганшчынаю» і «шарлатанствам». Гэтыя словы тады цяжкімі камянямі ўпалі на маю душу і мне было да нявытрымання цяжка за імя маёй няшчаснай бацькаўшчыны, за Вас... Знаеце, па ўспамінах гэтага і цяпер мяне душыць шалёная злосць за гэткі праяў духоўнага быцця беларусаў.

Не менш цікавая форма руху гэтага кружка і другая, — гэта залажэнне ткацкіх варстатаў, дзе (на манер стара-Слуцкіх) вясковыя кабеты і дзяўчаты-ўцекачы пад прынукай неатрымання пайка ў разе адказу, мелі ад рання да вечара прасці і ткаць. І чы ж не цікавая і вартая ўвагі форма руху? Кабеты і дзяўчаты, чы праўдзівей белыя нявольніцы, будуць прасці і ткаць узорныя дываны, а пры працы спяваць свае смутныя вясковыя песні... Дываны будуць пасылаць паны завядоўцы на выставы: на працу дзяўчат будуць дзівіцца і хваліць беларусак, да чаго яны здольныя. Якая мілая этнаграфічная ідылія! Так і ўспамінаюцца «Слуцкія ткачыхі» Максіма Багдановіча... Адно толькі самае важнае ўпусцілі з увагі, што няшчасныя ўцякачкі пры працы могуць успамінаць пра свае зруйнаваныя, спаленыя вёскі, пра сваіх гаротных дзетак, магілкамі каторых усеяна ўсё прыдарожжа роднай старонкі, успамінаць праз усё гэта і пад навалай жалю і слёз зусім не быць здольнымі да працы.

Шкада, што не ведаю, як удалася да зрэалізавання гэта ідэя «руху» і меўшаеся ўстройства курсаў садаводства. Ідэя сама па сабе разумная, у прымяненні яе ў гэты час і к уцекачам паказалася б не менш нявыпаўненай і смешнай ад першай, не гаворачы ўжэ аб тым, што яна сама па сабе не магла мець ніякай сувязі з нацыянальным рухам.

Не ведаю, чы там былі ў пэўным кружку якія яшчэ ідэі «руху», але даволі і выменянага, каб рэльефна абрысаваўся маральны і духоўны воблік «руху». Праўда, цікава яшчэ ўспамянуць аб арыгінальным вербаванні несвядомых беларусаў у свой лагер — гэта суботнія вечарынкі, дзе пад мінорныя і мажорныя зыкі фартап'яна, пад пластычныя «па» вальсаў і мазурак у «кавалераў» і «барышень» радзілася і апрадзялялася свядомасць свайго нацыянальнага «я»... Ну, падумайце самі, чы не вялікі гэта ідэёвы «рух» к нацыянальнай свядомасці?.. Чы не можа ён сабою задаволіць той асобы, каторая магла зглыбіць сваёю душою «Сум»?..

Выбачайце, Вы, мабыць, чытаючы гэты ліст, думаеце, што я паставіў сабе мэтай на колькі дзён сапсаваць Ваш гумар і нервы. І не, барані Божа! Занадта я Вас знаю, занадта Ваша душа, Ваша чуццё дарагія для мяне, каб я мог дапусціць гэткі жарт. Вы не раз прасілі мяне ў сваіх лістах, каб я быў шчыры перад Вамі і я хачу быць шчырым, і толькі. Сваёю шчырасцю я хачу пралажыць сабе дарогу к Вашаму чуццю і к Вашай думцы, хачу паказаць Вам у другім святле працу для Бацькаўшчыны, якою яна павінна быць на мой погляд. Сваёю шчырасцю я хачу адарваць Вас ад ролі манекенства ў Вашым праслаўленым «руху», ад той ролі, каторая даводзіцца чуць не да шыцця сукенак балванчыкам батлейкі... Праца вялікая, праца святая для Бацькаўшчыны, для народа зводзіцца к вывальненню сваіх братоў з няволі, к асведамненню іх ва ўразуменні свайго нацыянальнага «я», к узвядзенню ў панства кахання, брацтва і праўды... Гэта вечна старыя і вечна новыя формулы, да каторых без упынку павінна доўжыць кожная ядыностка. І для гэтага не трэба ні батлеек, ні ткацкіх варстатаў, ні вечарынак. Слова, з сэрца вынятае гарачае слова досць для гэтага. Для нас жа, беларусаў, для адраджэння краю, гэта толькі можнае і карыснае ў нашы часы аружжа, каторым мы можам

ваяваць. У нас яно павінна выходзіць з судараг ахопленага горам Бацькаўшчыны сэрца, з полымя кахання душы, каторым яна гарыць за краем, з крыку-пратэсту скованай нявольніцтвам думкі. Гэткім сваім словам мы павінны паліць чуццё братоў, будзіць іх сумленне, іх забітую горам думку. Слова гэта павінна ахапіць у працы ўвесь прастор нашай Бацькаўшчыны. Яно не павінна знаць крыёвак. Праца з словам не павінна знаць кампрамісаў і палавінак: яна ахоплівае працаўніка ўсяго і, калі трэба, вядзе яго на эшафот. Усе святыя і вялікія ідэалы народаў пануюць дзякуючы толькі працы гэткага слова... Я слабы ў сваіх выразах, я не магу Вам абмаляваць, як чуе, як разумее гэту працу для Бацькаўшчыны мая душа, мая думка. Але Вы, каторая сваім інтэлектам, сваім чуццём патрафіла сабраць з родных палёў, лясоў, з усяго вобраза роднага краю «Сум» і ўсадзіць яго ў таемную глыб сваей душы, Вы патрафіце зразумець мяне, зразумець, аб якой працы для Бацькаўшчыны я гавару...

Даруйце, панна Людвіка, за доўгае мазоленне лістом вачэй, але яшчэ не канец. Самае важнае, што хачу Вам перадаць, пачну толькі цяпер выкладаць. Знаеце, у паветры ўжэ носіцца пачатак канца вайны. Усе народы з вялікаю гарачнасцю гатовяцца да ўсясветнага суда чалавечаства, да перагляду ўсіх вартасцей. Усе, самыя маленькія нацыі маюць пратэставаць прад светам і патрабаваць платы за ўчыненыя крыўды. На вялікім судзе народаў усе нацыі будуць раўнапраўнымі ў сваім вялікім пратэсце за ганьбу культуры і праў чалавека, усе голасна будуць гаманіць за сябе, прэч нас, беларусаў. Адна толькі наша бацькаўшчына ляжыць мёртвым пластом магілак паміж жывых народаў. Яна адна толькі не сабіраецца высказаць, якія цяжкія крывавыя раны на доўгія гады ёй учынілі. Другія, чужыя нам народы, будуць судзіць душу Беларусі і дзяліць між сабой яе апратку. Мы мёртвыя пакорныя нявольнікі, а не жывы народ, зноў павінны вякамі іці ў чужым ярме, араць чужую ніву. Зык кайданоў — гэта будзе голас нашага пратэсту. Другога голасу мы не можам чы не хочам выдаць... Чы не горка гэта?! Чы не акаляе боль сэрца на самую думку аб нашай бяспомашчнасці?.. Не, так быць не можа! Мы павінны падаць свой голас, беларусы павінны сказаць, што яны жывы народ, а не нявольнічая пакорная чарада. Што мы павінны для гэтага зрабіць — гэта мець свой голас, каторы бы чулі ўсе, мець сваё друкаванае слова. Цяпер, як ніколі, Беларусь мусіць стварыць друкаванае слова, у каторым бы магла высказаць усё. Беларусь мусіць мець свой шчыра-праўдзівы духоўны воблік, а не кіслае жартаўлёўства, каторым у большай часці дагэтуль было друкаванае слова Беларусі. Пытанне, хто павінен узяцца за гэту працу? Мы, усе тыя, хто любіць сваю Бацькаўшчыну над жыццё, над усё ў свеце; тыя, для каторых наш край — гэта наша душа, наша думка, каторыя для свайго духоўна-маральнага жыцця бярэм у ёй сокі. Усімі сіламі свайго быту, не астанаўліваючыся ні перад якімі перашкодамі, мы павінны старацца стварыць сучасны голас Бацькаўшчыны — друкаванае слова.

Панна Людвіка, на гэты раз будзе і гэтага. Падумайце над усім вылажаным перад Вамі і дайце шчыры хуткі адказ. Атрымаўшы ад Вас ліст, або прыеду сам, або напішу Вам падробна а тым, што я зрабіў у гэтым кірунку, што магу зрабіць і якія будуць планы.

Пакуль жадаю Вам усяго найлепшага.

*Ф. Ш.*

P.S. Будзьце ласкавы и перадайце кс. Астрамовічу ліст. Калі не можаце яму перадаць, вярніце мне яго назад; скажыце, чы ён у Мінску.

*15/X [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Атрымаў два Вашы лісты: адзін з Петраграда, а другі з Мінска. Рад за Вас, што Вы пачынаеце бачыць і распазнаваць благія стораны нашага жыцця. На

Ваш Петраградскі ліст адкажу ў колькіх словах. Для аднаднёўкі нічога не магу прыслаць, бо не ведаю хто і як яе выдасць. Для мяне друк — гэта не мейсца, дзе можа красавацца мая фамілія, а справа маёй душы, маіх пераканань. Напішыце падрабязна на гэтыя два пытанні, і я з ахвотаю прышлю Вам сваю працу. Калі аднаднёўка будзе згодна з яе характарам. Што датычыць выдаўніцкага таварыства «Заранкі», то Вы зусім памыліліся ў тым, што я стану яго членам, бо зусім не згаджаюся з мэтай яго працы. Гэта ж усё тое ж старое пераліванне з пустога ў парожняе. Падумайце добра: таварыства ставіць у задачу выдаваць учэбнікі і папулярныя брашуры. Ідэя вартая смеху: людзі, чы скарэй гурток людзей, маюцца выдаваць учэбнікі, тады як няма каму і каго вучыць. Народ беларускі зруйнаваны і распарошаны па ўсім абшары свету. Мала таго, за выняткам колькі дзесяткаў людзей, увесь народ зусім не свядомы свайго нацыянальнага «я», бо толькі ў апошнім разе можна надзеяцца на дабравольнае абучанне дзяцей па-беларуску, пры няможнасці выпаўніць гэта ў афіцыяльных школах, калі б народ знаў патрэбу гэткага абучання. Выдаваць учэбнікі, калі няма ніякага крытэрыюму культурнага нацыянальнага жыцця, калі праца для прабуджэння беларускага народа да ўласнага жыцця для многіх яшчэ ўсё ж тая модная забаўка і жартаплётства, — гэта больш, чым абсурд. Тое ж можна сказаць і пра папулярныя брашуры. Як я балею за Вас душою, панна Людвіка, такая шчырая, поўная агню і самааддання сябе працы, Вы вязнеце ў павуціне нейкіх хімер і марнуеце сілы ў непатрэбнай працы... А працы так многа, патрэбнай, неадложнай працы для народа, для краю. У чым, спытаеце? Аб гэтым я Вам ужэ адчасці пісаў, цяпер жа толькі разаўю гэта шырай. Для нас цяпер, як і ў пачатку нацыянальнага руху, найпершай і найважнейшай патрэбай ест збудаванне сталага фундаменту нашага нацыянальнага жыцця, т. е. прабуджэння і павалання да нацыянальнай працы абшырнага круга інтэлігентных працаўнікоў, каторыя б разняслі ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння ва ўсе канцы нашай Бацькаўшчыны і ўвялі б яе практычна ў прыватнае жыццё. Без такіх кадраў працаўнікоў наш рух заўсёды астанецца толькі рухам групы ядыностак. Каб пазваць да працы гэты патрэбны круг, трэба ўмець прабудзіць яго і ў дальнейшым даваць яму матэрыял для яго духоўнага жыцця, каторы запоўніў бы яго ўсяго. Найважней першае, т. е. прабуджэнне да працы гэткіх сіл краю. Для таго патрэбна друкаванае слова, шчырае ў перакананні, глыбока пачуццёвае ў патрэбе працы, слова, каторае б прамаўляла і да сэрца, і да душы, і да розуму, але найбольш да першых, бо заўсёды ўперад прабуджаецца чуццё, як розум. Другое будзе лягчэй, бо з прабуджэннем круга працаўнікоў будзе расці і праца, як у размеры, так і ў вартасці. Мала таго, такое друкаванае слова, прабуджаючы да працы патрэбнейшых работнікаў краю, заадно заставіць аднясціся да нас з увагай нашых суседзяў, прыслухацца да нашага голасу.

А том, як распачаць такую працу, адкуль узяць патрэбных працаўнікоў і грошы, я напішу чы пагавару з Вамі асабіста па прыездзе ў Мінск, а цяпер напішыце мне, чы згаджаецеся са мною прынцыпіяльна.

Гэта мой сталы пагляд на нашу працу, да каторай я прышоў пуцінай доўгіх і горкіх разумаваць.

Пакуль бывайце здаровы.
Пішыце.
*Фабіян Ш.*

P.S. Выбачайце, што мой ліст па кавалках — пад рукой другога не знашлося.

Перадайце пасыльнаму для мяне Вашу фат. картачку, а каторай Вы пісалі, што гатовы. Шчыра буду дзякаваць. Цікава паглядзець, якая Вы.

*23/X [1916 г.]*

Атрымаў Ваш ліст. Дзякую за спагадання, але я не маю ніякага болю. Так от трохі смешна, трохі злосна і толькі. Я паважаю і лічуся толькі з людзьмі, а не з «ша-

лухою» жыцця. Адно, што абышло, то толькі хіба тое, што сярод усіх не нашлося ніводнага чалавека, каторы б адкрыта кінуў бы праўду ў вочы зграі, што толькі і здолела закідаць гразёю з сваіх маленькіх, подленькіх думак... Людвіка, я не гневаюся на Вас і не вораг Вам. Калі я не падходжу да Вас і кажуся Вам чужым, то толькі дзеля таго, што, не маючы нічога даць Вам з сваёй душы, я не хачу прычыняць Вам боль. Я свята шаную прошлае і баюся яго чымсь-небудзь нетактычным замрачыць.

Даруйце мне за прычынены Вам боль... Хоць я ні ў чым не вінават. Душы сваёй ніхто не валадар, а крывіць ёю і лгаць перад Вамі я не здолею. Так, будзем добрымі знаёмымі і пры спатканні не будзем мець адно да другога жалю. А што датычыць маёй дарогі і маіх адносін да людзей, то яны ясны і просты. Шчырае каханне краю і ідэі і барацьба з хлусамі і людзьмі дубальтовага сумлення, гатовымі ў адзін момант маліцца ўсім багам. Бліэшыя мае планы — сазыў рады салдацкіх, рабочых і сялянскіх дэпутатаў; вытварэнне шчырай высокаідэйнай партыі, у каторую б не мелі доступу людзі, гатовыя таргаваць усім.

Будзьце здаровы.

*Ф. Шантыр*

*13/XI [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Адказу на пасланы Вам ліст не маю. Ваш адказ на мой ліст больш як важны... Ужэ колькі часу я вяду барацьбу з сабой, стараюся змагчы ахапіўшы мяне пачуццёвы кашмар і ніяк не магу. Хто я і што я цяпер, я не знаю. Часамі мне кажацца, што я нейкая пылінка, нясучаяся ў абшары прадвечнага без мэты, без усялякага звязку з быццём. Гэта бывае тады, калі боль душы і маркотнасць даходзяць да апошніх граніц і глушаць свядомасць, а самабыццё; калі нічога не бачыш і не чуеш, апроч аднаго, паходзячага з сэрца, зову жадання...

Усё ломіцца, крушыцца і нясецца ў пропасць пагарды. Штохвілю душа то з дзікім рогатам злосці над стройнасцю і хараством быту, у праклёнах, уецца ў бяссіллі свайго недасягнутага жадання, то з стогнам, з ціхім стогнам, уздымаецца на крыллях жалю і нясецца ў краіну выбранага і там, паўшы ніц перад убраным кветкамі летуценняў абразом, спраўляе містэрыі суму і моліцца... моліцца з благаннем раздзіраючых яе мук, з пакорнасцю кволага дзіцяці, моліцца з экстазам самабічавання а міласці...

Даруйце, што я не ведаю, што я пішу. Я сілюся штосьці сказаць, што большага ад маіх думак, ад майго чуцця і чую, што я бяссільны. Зразумейце, пайміце мяне, панна Людвіка, і калі ест водклік у Вашай душы, працягніце руку. Не, не, я не маю права, я не павінен надзеяцца для сябе гэткага надчалавечага шчасця. Мая дарога сцелецца па долах, болю і маркотнасці, адзінокая ў тумане, па нізінах майго жыцця...

Яшчэ раз даруйце за мой брэд, каторым я стрывожу Вашу чуткую душу. Усё ж дайце мне пачуць яе шчыры голас.

*Фабіян Ш.*

*19/XI [1916 г.]*

Паважаная панна Людвіка!

Калі маеце час і ахвоту, то адкажыце на высланыя Вам лісты.

З пашанай

*Ф. Ш.*

P.S. Будзьце ласкавы ўручыць падацелю гэтага ліста брашуру М. Багдановіча, напісаную па-расейску, каторую я меўся ўзяць у сталоўцы і забыўся, калі ест пару №№ «Дзянніцы» і «Świetača».

*14/XII [1916 г.]*

Шаноўная панна Людвіка!

Шчыра Вам дзякую за прысланыя №№ «Дзянніцы» і «□wietača»..

У гэтым і я згаджаюся з Вамі, што «лепей што-небудзь, як нічога».

Прывет Мінчукам.

З пашанай

*Ф. Шантыр*

*8/I [1917 г.]*

Сталася... а чом я толькі мог сніць у марах, да чаго так бязплодна столькі часу рвалася маё чуццё, па чым у адзіноцтве тамілася ў муках судараг бяссілля мая душа. Чорная маркотнасць нястрыманых жадань рвала яе слабавольную і казала ёй сніць і сніць а гэтай ласцы — чару... І прышла яна неспадзяваная, мімаходная, прышла памімавольным магнетычным блыскам і запаліла дух і перавярнула і зруйнавала быт... Выпадковая, кволая ласка Вашых вуст...

Ціха, я не знаю, чы я цяпер прытомны... Кожная хвіліна майго тхнення, кожны палёт маёй думкі, кожная частка майго чуцця перапоўнены гэтай ласкай... Мая воля, мой розум — гэтыя найменшыя праваднікі майго быту — слабы, бяссільны паўстрымаць ураган экстазу бязмернай нявыяснёнай радасці, ахапіўшай мяне. Напрасна яны цвярдзяць, што гэта не адказны агонь запаліўшайся шчырым чуццём душы, а мінута слабой волі і ўтрачанай раўнавагі пад навалай агрому сустрэчнага чуцця, мінута гвалту аднаго чуцця над другім... Напрасна... Душа нічога не чуе і не бачыць, апроч паглынаючага яе полымя, апроч укаханага вобразу, гэтага святая святых свайго быту, апроч нястрыманага крыку радасці, запрабаваўшай шчасця.

Туман, туман ва мне і навокал мяне... Хто я, чаго я хачу, куды я іду... Ціха... ціха!.. так мне ўжэ добра з вялізным агромам болю майго... Ён укалыша мой дух... Усё вышэй і вышэй уносіць ён яго ў краіны недасягаемых мар, у краіны надзмысловых чараў, дзе пуціны быту ўвіты зорацветам Суму... Вялікага, усёахопліваючага, над усім пануючага суму... Суму, тайніку глыбінь быту, Суму — прэдпрадвечнага, прадтворчага «я» першабыту... Суму-маркотнасці пацягу к хараству болю, ідэалу не збаданага...

Выбачайце, даруйце, што я пачынаю ўжэ брэдзіць у непрытомнасці...

Развейце туман, у бездарожжы каторага бродзе мой дух, дайце яму сілу да барацьбы за найлепшыя ідэалы, напойце яго радасцю быту, а падзе ён к Вашым нагам і сваімі марамі-летуценнямі, што дабывае з крыві сэрца, высцеле дарогу быту Вашай душы... Будзе вечна берагчы яе ад сцюж і непагод жыццёвых і, калі яна зможана ісці, зажадае спакою, паможа ў глыбі быту свайго, абвее скрыдламі палётаў сваіх і ўскалыша ў спакоі ціхай упойнасці яе, сваю каханку, свайго Бога...

Душа Ваша, вялікая хараством суму, поўная дзіўнага чарацвету, — гэта душа мусіць належаць да майго быту. Куды б ні ішлі б Вы, дзе б ні былі, да каго б ні належалі, дух мой вечна будзе іці ўслед Вашай душы, агартаць яе сілай чуцця свайго і зваць і зваць да сябе. Вачыма раскрыжаванага Суму будзе глядзець ён у Вашу душу і будзе будзіць і будзіць яе да мук — жадана. Душа Ваша гэта моц і аснова быту майго духу. Я не бачыў Вас, а ўжэ сніў аб Вашай душы мары, насіў яе ў сабе, будаваў ёй алтары і маліўся, маліўся мукамі адзіноцтва, маркотнасцю нездаволенай прагі жадань.

Не чыніце ж гвалту быту, аддайце ж мне сваю душу, бо яна нікому, апроч мяне, не будзе належаць. Я чакаю яе...

*Фабіян*

*15/I [1917 г.]*

Воля слабне ў непасільнай барацьбе... Мілы вобраз заўсюды нада мной і сыпле ў душу чары мук, чары радасці... Хачу, а не магу забыць перажытага. А думкі, чуццё, увесь быт цягнуцца да той, каторая стала больш як патрэбай жыцця духу. А дзікая сцюжа адзіноцтва лядаваціць сэрца, а маркотнасць чорнымі хмарамі скоўвае розум... Рукі спадаюць у бязволлі, непатрэбным і супрэчным усё кажацца... апроч вобраза ўкаханай, апроч тканіны летуцення, гэтага пасобніка кахання... Слухайце! Кахаю Вас, кахаю над усё, над жыцця. Душа пала перад Вамі ніц і няма павароту ёй назад... Яна не ўстане: Вы або пройдзеце па ёй і растопчаце яе, або падымеце і дасце ёй моц барацьбы, палёту да ідэалу... Рабіце ж, як кажа Вам Ваша сэрца... я змогся, я не магу больш чакаць...

*Фабіян*

*25/II [1917 г.]*

Калі ласка, дайце праз гэтага чалавека адказ, чы атрымалі мае тры лісты. Даруйце за дакучанне.

*Ф. Ш.*

*17/V[1917 г.]*

Маё шчасце!

Што гэта — чы сон, чы яў? Пасля перажытага ніяк не магу апомніцца. Няўжо ж гэта праўда, што ты, мой анёл, а каторым я з такой маркотнасцю, чы то ў скварны час працы, чы то ў доўгую бяссонную ноч, сніў не летуценні, няўжо ж ты стала маёй?

Няўжо ж ты аддала мне сваю душу?.. Дала ўпіцца праўдзівым чарам «Суму»? Не, не! Я надта многа мучыўся, надта перабалела ў барацьбе душа, каб яна магла пахлонуць у сабе гэта вялікае нязмернае шчасце...

Гэтае шчасце давіць мяне, рве мае грудзі, бо не змяшчаецца ў іх... Думка мая, арліная думка, што горда шыбала па-за зоры, ляжыць распластаная, бязволадная перад гэтым шчасцем і ціха, так ціха шэпча яму словы благання... Людвіка, я баюся гэтага шчасця, бо яно большае за маё чуццё, за мой быт. Такім шчасцем не могуць людзі карыстаць, яно па-за бытам іх.

Но, што б ні было, а перажытага ніякія сілы не вырвуць з маёй душы... Людвіка! Скажы ж, што гэта не сон, што ты мая, мая душою, целам, мая, пакуль будзе ў нас хоць адна іскарка жыцця... А як трудна мне без цябе! Калі ж, калі ж я цябе ўбачу, буду глядзець у мілыя вочы?..

Не, не магу быць болей без цябе!.. Пішы, тэлеграфуй!

Твой назаўсёды Фабіян.

*19/V [1917 г.]*

Учора вечарам атрымаў твой ліст. Колькі слоў, толькі колькі нічога не гаворучых слоў, а якую радасць далі яны мне...

Слухай, Людвіка, я пратэстую проці таго, што для цябе я яшчэ ўсё «Вы». Што гэта — брак таго чуцця ў душы, гэтага ўсёахопліваючага вялікага чуцця, што родзіць інтымнае «Ты», чы нейкае дражненне мяне? Не, Людвіська, я так не хачу, каб звала. Чаму ні паўслова не напісала а том, што так мяне валнуя?

Выбач, што больш не пішу. Іду на пошту.

Цалую.

Твой назаўсёды Ф.

*2/VI [1917 г.]*

Мая Даражэнькая!

Атрымаў ад цябе дзве пісулькі і ліст. Табе выслаў сваю падабізну. Даруй, родная, што цяпер толькі сабраўся напісаць табе абшырней. Гэта вышла не ад таго, што штось «перамянілася», не, упрост не было ніякай фізічнай змогі. Усе гэтыя дні працаваў так шалёна, што нават у адзежы спаў. А да таго праз гэты ўвесь час штодзень былі з глаўным доктарам канфлікты, каторыя не мала псавалі мне крыві. Сягоння крызіс — я падаў рапарт а пераводзе мяне на службу ў другі шпіталь. Але з майго рапарта, мабыць, нічога не выйдзе, бо ўжэ, перад хвіляй, прыходзілі дэлегаты ад салдат і прасілі астацца, мусіць, прыдзецца ўступіць. Заўтрашні дзень пакажа.

Мілая Людвіська! Цяпер, як ніколі, я чую патрэбу мець цябе каля сябе, адпачыць на тваіх утульных грудзях, бо на душы так сумна... сумна. О, як цяжка жыць! Аддаеш сябе ўсяго людзям, сваю душу, быт і за ўсё гэта вечна атрымоўваеш толькі варожы камень ад свядомых і холад ад несвядомых. Но, але яшчэ сілы ест — яшчэ буду бароцца, буду гарэць за шчасце людзей, пакуль не згару да тла... Мілая, родная, ты адна ў мяне, што разумееш мой дух, мае парывы. Ты адна на ўсём свеце для мяне, што можаш даць пакой і адпачынак маей душы. Чы ж магу я забыць цябе, раскахаць?! Не! Ніколі. Тады, калі першы раз глядзеў у твае вочы і піў сум, — ужэ знаў, што злучыўся з тваей душойназаўсюды. Вер, родная! Кахай!

*Твой Фабіян*

Цалую рукі маме.

Заўтра напішы ліст.

*3/VI [1917 г.]*

Мая Даражэнькая!

Ні ўчора, ні сягодня ад цябе не маю ніводнага ліста. Так сумна, сумна... Учора паслаў табе ліст, у каторым пісаў, што падаў рапарт а пераводзе. Сягодня гэты інцыдэнт ліквідаван. Камітэт заставіў глаўнага доктара мяне перапрасіць. Словам, шмат было зусім непатрэбнага з абедзвюх старон.

Мая родная, я з кожным днём пераконваюся, што болей без цябе жыць не магу. Ты мне патрэбна, як паветра, як хлеб для душы. Цяпер толькі, у хвілю адпачынку — хвілю суму, я бачу, як глыбока, моцна я цябе кахаю. Кахаю ўсей прастатой сваей душы, шалёным жаданнем прошлага сіроцтва. Ядыная мая, я мушу цябе бачыць, бачыць хоць на момант, хоць раз у месяц... Учора прасіўся ў Мінск, але з гэтага нічога не выйшла. Астаецца табе прыехаць хоць на адзін дзень. Цяпер, калі мы ўжэ сталі назаўсюды свае, не можа быць і рэчы а якойсь там немажлівасці прыезду. Ты мая! Альбо ты, альбо ніхто і ніколі... Заклінаю цябе на ўсё, прыязджай! Ты столькі шчасця прывязеш мне з сабою, столькі дасі радасці і сілы!.. А як добра будзе тут нам... Так ціха, толькі адзык нашых сэрцаў. Пішы, родная, скарэй і прыязджай. Пішы, як мама?

Цалую цябе, майго анёлка.

*Твой Фабіян*

*5/VI [1917 г.]*

Мая даражэнькая!

Учора атрымаў надта прыкрую ад цябе пісульку. Дзівіць мне, што ў чалавека за колькі дзён можа прапасці вера — гэта каб я ў супраўдзе быў вінват. Але ж далёка не так. Праўда, першыя два-тры дні не меў ніякае змогі напісаць. Пасля выслаў табе пісульку з сваёй падабізнай, а потым два лісты — гэта трэйці ліст.

Ведаеш, родная, так становіцца горка, калі ад самай дарагой для мяне асобы чую несправядлівасць... Но, але аб гэтым досць.

Купалле ўсё ж думаем святкаваць. Учора адбыўся ў нас мітынг: людзей трохі было. Шмат запісалася ў члены камітэту і грамады. Праз колькі дзён адбудзецца арганізацыйнае сабранне. Словам, праца ідзе ўваўсю. Аднаго толькі шкада, што дзень малы ды фізічна пачынаю слабець. Але яшчэ папрацуем. Вышлі, родная, калі можаш, спеўнікі беларускія з нотамі. Хочам на Купалле арганізаваць хор. Калі будзе на Купалле гатовіцца якая літаратура, то высылайце загадзя.

А цяпер за тое, што баліць, — калі ўбачу цябе? Каб ты была, то чуў бы, што сілы ўдзесяцярыліся.

Родненькая, міленькая, прыедзь як найхутчэй.

Чакаю.

*Твой Фабіян*

*7/VI [1917 г.]*

Мая Даражэнькая!

Толькі што атрымаў тваю пісульку. Учора вечарам атрымаў ліст. За ўвесь час атрымаў ад цябе толькі два лісты. Пісулек не лічу, бо сказаўшы папраўдзе, не люблю іх. Пішы, родная, лісты. Цяпер многа не пішу табе, бо чую сябе надта змучаным. З дня на дзень горш. Што найгорш, чую сябе змардаваным не фізічна, а духова. Інцыдэнт а маём пераводзе, як табе пісаў, ліквідован ужэ. Рапарт прышлося ўзяць назад, з просьбы камітэту і салдат. Але наогул чую сябе нецікава. Трэба адпачынку, а яго ніяк не магу дабіцца. У Мінск прыехаць не магу. Была ў мяне і бачыла, ведаеш, чы ест змога адарвацца. Што датычыць твайго прыезду, то як бы ні прагла душа цябе бачыць, як бы ні млела сэрца за табою, але ўсё ж не хачу, каб гэты прыезд быў вымушаны ад цябе. Я і так перад табою вінават: мне ўсё здаецца, што тваё каханне вымушана сілай майго чуцця, што я зрабіў над табою нейкі гвалт... Так баліць душа... Даруй, я сягоння надта прыкра сябе чую.

Цалую цябе моцна, моцна.

*Твой Фабіян*

Маме цалую руку.

*[1917 г.]*

Мілая, Родная!

Толькі што атрымаў тваю тэлеграму, што хворая. Дарагая, што табе? Чаму тэлеграма, а не ліст? Чаму не пішаш падробна? Чы хоць мамы папрасіла б напісаць, калі сама не можаш. Зараз пайду старацца, каб як-небудзь вырвацца да цябе, хоць гэта немажліва, бо паўнюсенькі шпіталь хворых, ды ўсё яшчэ прыбываюць. Адкрываемся на 600 мейсц. Працы столькі, што ўвечар хістаешся і забываеш, дзе ты і што трэба піць гарбату. І так з дня на дзень. Не знаю, калі будзе канец гэтаму пеклу... Але даруй, што цябе бедную хворую мучу. О Божа, як бы хацелася хоць бы мінуту пабыць пры табе, патрымаць тваю руку ў сваёй, глядзець і глядзець табе ў вочы... А так цяжка, так цяжка быць тут самому ў адзіноцтве. І калі ж я выйду на яснейшую дарогу? Калі ўбачу для сябе хоць крыхатку шчасця?.. Любая, даруй, што трывожу тваю душу... Ты ведаеш, што апроч цябе я нікога не маю, не маю перад кім выспаведацца, адкрыць душу, катораю так доўга маўчала... маўчала ўсё жыццё...

Папраўляйся хутчэй, бо няма змогі больш чакаць. Мы павінны як хутчэй узяць шлюб і іці ў жыцці разам. Так, разам на радасць і гора... Пішы, пішы як найхутчэй.

Цалую цябе!
*Твой Фабіян*
Прывет маме! Бедная, як яна мусіць мучыцца цяпер...

*[1917 г.]*
Родная!

Атрымаў твой ліст. Ён не толькі не зваліў з душы цяжару, але нават яшчэ прыбавіў. Мілая, што з табою? Чаму адразу не пазвалі доктара, а цягнулі аж дагэтуль? Чы вы дзеці, чы ўзрослыя? Ніяк не магу з гэтым згадзіцца і даравацъ. Буду чакаць ліста твайго, што ён мне прынясе... Што датычыць мяне, то я жыву так, як і жыў. Ах, праўда, ест маленькая перамена: шпіталь развярнуўся на 600 мейсц і цяпер патрабуе крыху прыбавіць працы. Но, але ўсё гэта глупства. Страшна мне баліць, што ніяк не магу да цябе прыехаць. Упрост цяпер днюю і начую ў шпіталі. Шкода, што не магу як захварэць. Гэта хіба быў бы адпачынак. Но, пачакайма, мо штось пераменіцца. Даруй, што нейк няскладна пішу: упрост не магу звязаць думкі. А да ўсяго гэтага яшчэ прыбавілася працы ў грамадзе, катора арганізавалася і хутка развіваецца. Купалле святкаваць будзем. Перадай Смолічу, каб прыслаў што мае з літаратуры сацыялістычнай і каб напісаў, як прайшоў у Петраградзе кангрэс. Пішы!

*Твой Фабіян*

Цалую моцна, моцна.
Мамцы шчыры прывет.

*16/VI [1917 г.]*
Мая Родная!

Сягодня атрымаў твой ліст, пісаны 13-га. Страшна мяне непакоіць, што 5 дзён не мела ад мяне ніводнага ліста: няўжо ж яны прапалі? Скарэй дапускаю, што гдзесь заваляліся. Калі і гэтага не атрымаеш у час, буду высылаць заказнымі. Нязмерна рад, што ты здаровая. Так мяне гэта цешыць. Што датычыць мяне, то і сам не ведаю, што са мною. Чы я хворы, чы здароў, не ведаю. Працаваць працую, але чую, што з кожным днём слабею на духу і на целе. Думаю, што пeратаміўся, а можа, што горш, страціў усю ўжэ жыццёвую энергію... А наогул, усё гэта дапаўняе самотнасць і пустата навокал... Часамі гэта так давіць... і прыходзяць страшныя думкі ў голаў. Но, даруй, ты хіба не разумееш усяго гэтага, бо так далёка ад той жыццёвай дарогі, якую я прашоў, але каб магла адчуць, што значыць быць аднаму ў жыцці ад калыскі, то хіба зразумела б. Так... а «паўтара года» чы мала ўняслі ў душу мук, чы мала надарвалі лепшых сіл душы...

Даруй, родная, я не хачу крыўдзіць цябе, я не хачу задаваць табе боль. Гэта так нейк вырвалася. Трэба канечне, каб ты прыехала да мяне, бо са мною можа быць зусім кепска... Трэба дагаварыць недагаворанае, дасказаць недасказанае, а гэтага шмат. А потым хай так будзе, як мае быць.

Цяпер бывай здарова. Шчыра падзякуй маме ад мяне за напісанае.

Цалую.
*Фабіян*

Што гэта значыць? Колькі часу не маю ад цябе ніякай весткі. На тры высланыя табе лісты — ні слова... Цікава ведаць, чы гэтак шмат у цябе работы, што не можа знайсціся ані мінуты вольнай. Но, але як хто не хоча, то трудна.

А сабе нічога не пішу, бо думаю, што гэта цябе, бадай, і не цікавіць, але напішу пару слоў а тым, як працякае нашая працу тут у Бабруйску. Як ведаеш,

тут арганізавалася беларуская сацыялістычная грамада. Цяпер грамада налічвае больш як 100 членаў. Грамада выдала 5000 экз. адозвы, каторай запоўнілі ўвесь Бабруйск і вёскі. 18-га грамада выступала на маніфестацыі арганізована, з сваім сцягам. Падчас маніфестацыі быў зроблены мітынг, каторы сабраў колькі тысяч народу. Наогул, работа расце і спорыцца. На Купалле будзем святкаваць у полі. Праўда, работы столькі, што часта валюся к вечару з ног, але гэта не тлумачыць, што я магу забыцца аб самым мне дарагім... Даруй, што дакучаю.

*Твой Фабіян*

20/VI [1917 г.]

*26/VI [1917 г.]*

Даражэнькая!

Даруй, што нічога не адказаў з пасланцом: упрост не меў ніякае фізічнае змогі. Як ужэ, напэўна, ведаеш, ад пасланца, мы тут у Бабруйску святкавалі Купалле. Выступалі святкаваць аргазінавана ад грамады. Наогул святкаванне прайшло добра. 25-га зрабілі збор. Было пушчана 18 скарбонак (больш не пусцілі, бо не хваціла флачкоў). Колькі даў збор, яшчэ не вядома: думаем, што не менш ад 500 рублёў. Бяда ўся ў тым, што гэта рабілася наспех. Наогул у нас у грамадзе работа кіпіць. Зарэгістраваных ёсць да 100 чалавек. Выдалі адозву, экземпляр каторае табе паслаў. І незадоўга маема рабіць нацыянальны вечар. Бяда адно, што няма каму арганізаваць хор. Вышлі, як можаш, хутчэй усе ноты і п'есы беларускія. Чаму мы не атрымовываем «Грамады»? З беларускім друкам надта кепска. Ось, як бачыш, сколькі прыходзіцца працаваць. Но, можаш зразумець, што паміма той шалёнай працы, якую маю ў шпіталі, усё гэта зроблена мною, насколькі я не маю ні мінуткі вольнай. Маю надзею, што, калі справы і далей так будуць іці, як цяпер ідуць, то ў незадоўгі час пачнем выдаваць у Бабруйску газету.

Цяпер колькі слоў а сабе і табе: пішаш, каб ставіў ультыматум, стаўлю. Прыязджай, хоць на адзін дзень... хоць на мінуту... Больш пісаць не магу, трэба лічыць скарбонкі.

*Твой Фабіян*

*28/VI [1917 г.]*

Родная!

Толькі што атрымаў твой ліст, пісаны 26-га. Аб тым, чаму не пісаў табе гэтыя дні, я ўсё напісаў ва ўчорайшым лісце. Што датычыць майго прыезду ў Мінск, то хіба па 1-м, як вырвуся на дзень, але напэўна не ведаю. Чы было мне весела на Купалле, то спытай ночкі і той хвойкі ў полі, пад каторай праляжаў каля двух гадзін з глухім страшным болем у душы. Так, было весела, ой, як весела, толькі дзякаваць Богу, што ў гэты час весялосці не было нічога пад рукою, што памагло б прайці туды, адкуль не варочаюцца. Но, але аб гэтым будзе.

Наогул скажу, што мне з кожным днём становіцца ў душы горай і горай. Чую, што трачу грунт, на каторым дагэтуль трымаўся мой дух. Што гэта, сам не ведаю... Хіба тады, як ты будзеш са мною, я вылечуся. А цяпер усё гэта трэба заглушыць працай. А гэтага хватае аж занадта...

Як табе пісаў, мы сабралі каля 500 рублёў. Мала так сабралі дзеля таго, што сабіралася наспех, хватаючы. Цяпер я ў гэтым трохі раскайваюся, бо трэба было збор адлажыць і правесці яго больш арганізавана — мелі б больш за дзве тысячы рублёў. Цяпер на чарзе нацыянальны вечар. Адно няшчасце, што няма каму арганізаваць хору. Людзі ест, але няма арганізатараў. У Бабруйску цяпер толькі і гутаркі аб нас: нарабілі такога шуму, што і самі не спадзяваліся. А грамада расце

з кожным днём. Цяпер у нас ідуць перагаворы з сацыялістычным блокам аб выбарах у думу, у савеце салдацкіх дэпутатаў ужо маема сваіх прадстаўнікоў.

Ось табе як многа напісаў, бач, не так, як нехта, што начне адным словам, а кончыць амаль не тым самым. Пішы!

Цалую моцна, моцна і да хуткага забачэння.

*Твой Фабіян*
Прывет мамцы.

*26/VII [1917 г.]*
Мая Дарагая!

Атрымаў твой ліст і пачтоўку. Даруй, што не пісаў: упрост не было ніякай змогі. Здаваў свой шпіталь, вёў агітацыю перадвыбарную ў мясцовую гарадскую думу, работа ў грамадзе, а ў дадатак і здароўе няважнае. Калі апоўначы і меў хвілю часу, то ўпрост валіўся з ног і ніякай думкі не мог сабраць. Но, і цяпер не лепш, бо мушу прынімаць другі шпіталь, чытаць лекцыі, а ў дадатак быць членам чуць не ў сотнях усялякіх камісій у савеце сал. і раб. дэпутатаў, быць гласным гарадской думы і т. д.

Ага, што датычыць да гарадской думы, то ад нашай грамады папалі туды два прадстаўнікі. Гэта павінна табе сказаць усё, колькі трэба было палажыць працы, каб у такім паганым Бабруйску прашло двох нашых прадстаўнікоў. Да ўсяго гэтага я сабіраюся ў хуткім часе быць у Мінску. Ка мне пісала мама твая. Трэба як колечы дабрацца мне дадому і дастаць твае дакументы, бо без іх нічога не будзе. Ось, калі хочаш ведаць, так не маю часу, што гэты ліст пачаў пісаць дома, а скончыў у савеце.

Родная, не гневайся. Маме прывет передай, што, як буду ехаць, то прывязу цукру. Грошы вышлю першага.

Цалую.
*Фабіян*

***Уступнае слова і падрыхтоўка да друку***
***Я. Саламевіча.***



**Валеры МАКСІМОВІЧ**

# КААРДЫНАТЫ ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫХ РОСШУКАЎ

*Сённяшні стан навукі, працэсы сацыяльна-культурнай і духоўнай інтэграцыі, узаемапранікненне, якія прызнаюць у якасці прыярытэтнай ідэю «дыялога культур», вымагаюць абноўленых падыходаў і ацэнак літаратуры як адметнага феномена культуры. Стварэнне навукова абгрунтаванай, аб'ектыўнай гісторыі развіцця літаратуры XX стагоддзя немагчыма без пошуку комплексных гісторыка-літаратурных і метадалагічных падыходаў у асэнсаванні нашай літаратурнай спадчыны. Надзвычай важнае грамадска-асветніцкае і нацыянальна-культурнае значэнне мае «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя», выданне якой ажыццёўлена пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі. За апошнія гады намаганнямі асобных навукоўцаў і навуковых калектываў выдадзены шэраг грунтоўных манаграфічных даследаванняў, навучальных дапаможнікаў, у сукупнасці прысвечаных разгляду літаратурнага працэсу розных перыядаў і гісторыка-літаратурных эпох.*

*Навуковы пошук інавацыйных метадаў і метадалогіі даследавання літаратуры, удакладненне і карэкцыя гістарычнай рухомасці каштоўнасных крытэрыяў ацэнкі мастацкага твора праходзіць па многіх лініях і напрамках. Спасцігнуць мастацкую паўнавартаснасць літаратуры мінулага ў працэсе новай эстэтычнай актуалізацыі «ў вялікім часе» дапамагае і гісторыка-функцыянальная метадалогія.*

На мяжы 80 — пачатку 90 гг. XX стагоддзя досыць акрэсленымі і адчувальнымі ў галіне тэарэтычнага літаратуразнаўства станавіліся праявы метадалагічнага крызісу, татальнае знікненне навукова-абгрунтаваных канцэпцый. Старыя стэрэатыпы, ранейшыя літаратуразнаўчыя і ідэалагічныя дактрыны, наўпрост звязаныя з нарматывісцкай эстэтыкай сацыялістычнага рэалізму, не маглі ўжо канцэптуальна вызначаць сутнасць гісторыі ўсёй беларускай літаратуры і асобных перыядаў яе развіцця. Патрэба новых метадалагічных падыходаў была прадыктавана тым, што крытэрыі ацэнак ранейшага літаратуразнаўства ў большасці фармуляваліся зверху, вывяраліся сацыяльна абумоўленымі кампанентамі літаратуры, у якой штучна вычляняліся, абсалютызаваліся пазаэстэтычныя аспекты. Стварэнне новай канцэпцыі развіцця і функцыянавання літаратуры, выпрацоўка перспектыўных навуковых універсалізаваных метадаў, метадалогій даследавання і методык інтэрпрэтацый набывалі першаступенную важнасць. Нароўні з гэтым у разрад неадкладных станавілася задача навуковай актуалізацыі і рэабілітацыі нацыянальнай літаратурнай традыцыі, гісторыка-літаратурных фактаў, якія патрабавалі новай светапогляднасці, што мела істотнае значэнне дзеля стварэння найбольш цэласнай і завершанай карціны літаратурнага працэсу першай трэці

---

***Максімовіч Валеры Аляксандравіч*** *нарадзіўся 21 сакавіка 1962 года ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці. Мае каля 100 публікацый па праблемах беларускага літаратуразнаўства. Доктар філалагічных навук. Дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

XX стагоддзя як неад'емнай часткі беларускай літаратуры ў яе гістарычным развіцці. Пазначаны вектар пошукаў у многім працягвае прадвызначаць магістральны кірунак беларускага літаратуразнаўства.

Гаворачы пра абнаўленне метадалогіі сучаснага літаратуразнаўства, мы ў першую чаргу, відавочна, павінны мець на ўвазе не радыкалізм у навуцы, не актывізацыю нетрадыцыйных метадаў і прыёмаў даследавання (хоць і гэта не выключаецца), а своеасаблівую актуалізацыю, паглыбленне тэарэтыка-метадалагічнага зместу літаратуразнаўчых набыткаў ранейшага часу, іх абагачэнне, удасканаленне з улікам новага навуковага досведу. Больш правільна (у адносінах да нашай канкрэтнай сітуацыі) гаварыць пра эвалюцыю літаратуразнаўчай метадалогіі, пра з'яву паступовай дэцэнтрызацыі наяўных методык, пра метадалагічны плюралізм. Сучаснае літаратуразнаўства, абапіраючыся на найноўшыя здабыткі ў кірунку абагачэння гісторыка-літаратурных канцэпцый, ставіць сабе задачу паглыбіць ранейшыя высновы, удакладніць і развіць папярэднія ацэнкі і назіранні. Тым самым, што ўсцешна, у навуцы забяспечана арганічная пераемнасць традыцый і вопыту папярэднікаў, што з'яўляецца адной з перадумоў паспяховага развіцця навуковай думкі.

Ужо даўно і плённа ў акрэсленым кірунку працуе вядомая даследчыца беларускай літаратуры Зоя Пятроўна Мельнікава, якой Прэзідыум ВАК Беларусі прысудзіў ступень доктара філалагічных навук за паспяховую абарону дысертацыі «Станаўленне беларускага гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства і творчасць Змітрака Бядулі 20—30-х гадоў». Матэрыялы і палажэнні дысертацыйнага даследавання змешчаны ў шэрагу публікацый, у тым ліку ў дзвюх салідных аўтарскіх манаграфіях: «Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя» (Брэст, 2001) і «Беларускае гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства» (Брэст, 2003). Іх можна аднесці да шэрагу работ, прысвечаных навуковаму падагульненню этапаў фарміравання гісторыка-функцыянальнай метадалогіі, пачынаючы з 20-х гадоў XX стагоддзя і заканчваючы гадамі 90-мі. У даследаваннях З. П. Мельнікавай пытанні гісторыі літаратуры асвятляюцца ў дыялектычнай і дыялагічнай сувязі з сацыякультурнымі, канцэптуальнымі і эстэтычнымі параметрамі з улікам агульначалавечых маральных і духоўных каштоўнасцей. Паралельна вырашаецца задача даследаваць асноўныя заканамернасці станаўлення і развіцця гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства ў цеснай сувязі з іншымі сумежнымі тыпамі літаратуразнаўчых даследаванняў, што, несумненна, спрыяе найбольш адэкватнаму разуменню агульнага літаратурнага працэсу ў ягоным адзінстве з развіццём грамадства і сцвярджэнню эстэтычнай самакаштоўнасці літаратуры. Згаданыя манаграфічныя даследаванні выявілі памкненне іх аўтара да канцэптуалізацыі, да стварэння пэўнай навуковай сістэмы, якая грунтуецца на пераасэнсаванні і паглыбленні здабыткаў папярэднікаў праз прызму гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства. Гісторыка-літаратурны і тэарэтычны аспекты вывучэння літаратуры арганічна спалучаны з параўнальна-тыпалагічным і герменеўтычным метадамі даследавання. У цэнтры ўвагі даследчыцы — сістэмнае даследаванне твораў З. Бядулі 20—30-х гадоў XX стагоддзя праз прызму гісторыка-функцыянальнай метадалогіі.

З. П. Мельнікава доказна і аргументавана, улічваючы спецыфіку і функцыі сацыялогіі літаратуразнаўства і рэцэптыўнай эстэтыкі, даводзіць, што бытаванне і функцыянаванне твора ў значнай меры залежыць ад характару новай эпохі і ад здольнасці чытачоў, у тым ліку і даследчыкаў, усведамляць, ацэньваць яго сутнасць і значэнне ў новым часе. Канстатуецца, што «гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства займаецца вывучэннем *жыцця-функцыянавання* твораў літаратуры па-за эпохай, у якую яны ўзніклі, даследаваннем іх руху праз эпохі, пошукам і высвятленнем іх ідэйна-грамадскай і эстэтычна-філасофскай ролі ў новых сацыякультурных умовах, у іншых, абноўленых сістэмах каштоўнасных каардынатаў гэтых эпох»[1].

[1] Мельнікава З. П. Функцыянальнае літаратуразнаўства. Брэст, 2003. С. 28.

У даследаваннях апошняга часу даволі перспектыўным, на нашу думку, выглядае новы ракурс праблемы, звязаны з дваістай прыродай жывучасці тэксту мастацкай літаратуры, што выяўляецца ў непарыўным тварэнні як бы ім самім новых, дадатковых сэнсаў, значэнняў, сімвалаў. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: наша духоўна-культурная і агульная жыццёвая дасведчанасць, аператыўны кантэкст часу дазваляюць уносіць новыя, часам нечаканыя, карэктывы ў навуковае спасціжэнне значных мастацкіх феноменаў. Тым больш калі апошнія — з ліку тварэнняў новага часу — XX стагоддзя, якое генерыравала істотна іншы падыход да асвятлення любой жыццёвай з'явы, іншае мастацкае мысленне ўвогуле. Як на адну з праяў падобных змен можна ўказаць на эфект своеасаблівага кантамінацыйнага звязу — спецыфічнага спалучэння ў межах аднаго твора самых розных фармальных і змястоўных «модусаў», іх перапляценне, што можа быць выяўлена ў выніку пэўнага метадалагічнага падыходу, абрання адпаведнай зыходнай пазіцыі. Канцэптуальна-інварыянтнае ядро твора ў працэсе жывога судакранання з наступнымі эпохамі як бы расфакусіруецца, пачынае актуалізаваць свой патэнцыяльна шматузроўневы характар, набываць адзнаку «вялікай метафары», разгадка якой выключна залежыць ад пэўнай рэцэптыўнай устаноўкі «творчага спаборніка» (чытача, аматара, даследчыка), які міжволі становіцца рэпрадуцэнтам — пераўтваральнікам-творцам, носьбітам энергетычнай аўры твора. Абсалютна апраўданай і заканамернай у кантэксце заяўленай праблематыкі падаецца спроба далейшага спасціжэння сэнсавых кодаў і знакаў аналізуемых твораў з улікам найноўшага навуковага досведу, зыходзячы з патрабаванняў новых літаратурна-эстэтычных і гістарычных рэалій. Гэта — досыць важны момант у вызначэнні аксіялагічнай каштоўнасці твораў мінулага ў новай сацыякультурнай сітуацыі. Ад удала падабранага «ключа», «шыфру» і залежыць, у выніку, пэўнаракурснае, імавернае адкрыццё твора, які, у сваю чаргу, працягвае ўтрымліваць у сабе патэнцыяльную магчымасць для далейшага «астаткавага» расчытання. Адзначаная акалічнасць служыць пацвярджэннем гістарычнай (сацыякультурнай, надчасавай) разамкнёнасці мастацкага твора праз пэўныя гісторыка-функцыянальныя трансфармацыі яго сэнсу.

Развіваючы і канкрэтызуючы заяўленыя палажэнні, З. П. Мельнікава даводзіць, што сапраўды таленавіты мастацкі твор мае запас і патэнцыял метакамунікатыўнасці, гэта значыць, зададзеную, імпліцытную магчымасць «прачытвацца» даследчыкамі новых пакаленняў і эпох. Умовай для такога прачытання служыць наяўнасць у творы сігнальнай, або кодавай, вобразна-кампазіцыйнай структуры, дзякуючы чаму адкрываецца патэнцыяльная магчымасць для яго новай эстэтычнай актуалізацыі.

Падобны «сігнальны» патэнцыял утрымліваюць у сабе, па перакананні даследчыцы, і творы З. Бядулі. Творчасць пісьменніка выклікала і працягвае выклікаць устойлівую цікавасць. І гэта — факт невыпадковы. Эстэтычныя пошукі пісьменніка мелі вялікі ўплыў не толькі на тагачасны літаратурны працэс, але і на постсавецкую літаратуру апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Творчая спадчына мастака-эксперыментатара наўздзіў багатая і разнастайная, як у жанрава-стылёвым, так і ў праблемна-тэматычным плане. Цяжка прыгадаць іншага пісьменніка з падобнай арыгінальнай мастацкай адметнасцю, творчасць якога ахоплівала б шырокі стылявы рэестр мастацкіх напрамкаў (імпрэсіянізм, рамантызм, рэалізм, сімвалізм, экспрэсіянізм, натуралізм) і філасофска-эстэтычных дактрын. Вось чаму новае прачытанне творчасці З. Бядулі 20—30-х гг. XX стагоддзя ў святле гісторыка-функцыянальнага даследавання падаецца надзвычай надзённым, запатрабаваным часам і станам сучаснага развіцця духоўнай асновы грамадства. Да таго ж абраны З. П. Мельнікавай ракурс даследавання цалкам сугучны з агульнай тэндэнцыяй актуалізацыі і рэабілітацыі нацыянальнай літаратурнай традыцыі, нашай класічнай спадчыны ўвогуле, што пераканаўча засведчылі публікацыі ў часопісах «Полымя», «Роднае слова», «Маладосць» і інш.

Навізной разгляду і канцэптуальнасцю высноў адзначаны раздзел пад назвай «Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя

ў святле гісторыка-функцыянальнага даследавання», прысвечаны пераасэнсаванню творчасці З. Бядулі. З новых метадалагічных пазіцый прааналізаваны Бядулевы паэмы «Беларусь», «У Ясных Крушнях», «Дзед», «З сказаў бураў і віхораў», аповесці «Салавей», «Тры пальцы», «Таварыш Мінкін», філасофская казка «Сярэбраная табакерка». Многія з гэтых твораў былі недаацэненыя, а то і закрэсленыя вульгарызатарскай крытыкай. Амаль у кожным з іх пісьменнік паспрабаваў асэнсаваць драматычны, нават трагічны шлях чалавека ў перыяд сацыяльнага і духоўнага крызісу, які быў спароджаны самой паслярэвалюцыйнай рэчаіснасцю, працэсам татальнай дэфармацыі грамадскай свядомасці. З. Бядулю нельга адмовіць у глыбокім спасціжэнні жыцця, у непадробнай заклапочанасці лёсам чалавека ва ўмовах ідэйнай нецярпімасці і астракізму, у адчайным змаганні за права быць самім сабою. Чалавек і рэвалюцыя, чалавек і эпоха, месца чалавека ў імклівай плыні гісторыі — усё гэта было прадметам глыбокага роздуму мастака-гуманіста. Менавіта мастацкае спасціжэнне пісьменнікам *духоўнага абсалюту* станавілася моцным супрацьдзеючым фактарам у дачыненні да разбуральных, хаатычных і дэструктыўных грамадскіх працэсаў, якія з канца 20-х гадоў набылі неабарачальны характар.

Нявырашанасць многіх сацыяльна-грамадскіх праблем 20-х гадоў, адчуванне супярэчлівасці, кантрастнасці, непрымірымасці жыццёвых з'яў, сфера якіх пастаянна пашыралася, прымушалі пісьменніка прыбягаць да розных мастацкіх прыёмаў і сродкаў перадачы сацыяльна-псіхалагічнай атмасферы ў тагачасным грамадстве. З. П. Мельнікава імкнецца вылучыць анталагічную мнагаслойнасць зместу твораў, пераканаўча дэманструе магчымыя і наяўныя трансфармацыі іх сэнсу, вар'іраванне сэнсавай дамінанты (канцэптуальна-інварыянтнага ядра сэнсу) пры гісторыка-функцыянальным прачытанні. Менавіта падтэкставы дыялог, па словах аўтара, арганічна ўключаны ў творчую задуму пісьменніка, з'яўляецца вызначальным і дзейсным фактарам актуалізацыі ўнутраных магчымасцей мастацкага вобраза пры расчытанні багатай сэнсавай ёмістасці і шматпланавасці твораў, што спрыяе рэцэптыўнаму ўзнаўленню тагачаснай рэчаіснасці з улікам складанай дынамікі жыццёвых фактаў, узаемасувязей і падзей.

Кваліфікавана і па-наватарску ў даследаваннях З. П. Мельнікавай вядзецца гаворка аб патэнцыяле метакамунікатыўнасці і эстэтычнай актуалізацыі рамана «Язэп Крушынскі», вызначаецца яго месца ў тагачаснай прозе, у сатырычнай плыні ўсёй беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя З. П. Мельнікава робіць шэраг слушных высноў, якія надзвычай узбагачаюць уяўленні сучаснікаў аб творчай палітры Бядулі-мастака, які, гаворачы фігуральна, адчуваў сябе ў той няпросты час «птахам з падрэзанымі крыламі». Неверагодна цяжкая па сваёй складанасці задача стаяла перад пісьменнікам: паспрабаваць асэнсаваць жыццё грамадства ў перыяд сацыяльнага і духоўнага крызісу, які быў спароджаны самой эпохай, працэсам татальнай дэфармацыі грамадскай свядомасці ў выніку парушэння спрадвечных асноў быцця.

Належнае месца адведзена і гісторыка-функцыянальнаму прачытанню філасофскай казкі «Сярэбраная табакерка» — твора, які даследчыца небеспадстаўна называе духоўным тастаментам Бядулі нашчадкам. Пры аналізе твора акцэнт зроблены на дэшыфроўцы элементаў сігнальна-вобразнай структуры гэтага твора-кода, што дазволіла ў многім па-новаму расчытаць, праясніць атрыбуцыю яго мастацкіх значэнняў — тыя моманты, што доўгі час заставаліся па-за ўвагай або аднабакова, тэндэнцыйна трактаваліся даследчыкамі. Дзякуючы абранаму ракурсу даследавання і канкрэтна-гістарычны змест, і ўвасобленыя ў аповесці «вечныя», філасофскія тэмы, ідэі ўспрымаюцца не як абсяг мінулага, а як частка актуальнага сацыяльна-гістарычнага і духоўнага вопыту, дзе не апошняя роля адведзена «драме раздвоенасці» паміж людскім, гуманістычным і падробкай пад яго — антычалавечым, антыгуманным. У творы яскрава выявіла сябе небяспечная тэндэнцыя не толькі антрапалагічнага, але і касмаганічнага распадабнення, перараджэння і гіпертрафаванасці саміх асноў цывілізацыі, а разам з тым і пера-

сцярога ад пагрозы татальнай абездухоўленасці грамадства. Глыбіня падтэксту, філасофія твора надзвычай узбагацілі яго сэнсава-выяўленчы патэнцыял, узмацнілі каштоўнасныя дамінанты агульнагуманістычнага характару.

Істотнае значэнне адводзілася пісьменнікам сістэме казачна-фантасмагарычных вобразаў як непрыступных антыномій, якія знаходзяцца ў біпалярнай пазіцыі, што ўзмацняла, факусіравала трагізм іх узаемных метамарфоз і сутыкненняў. Але ў сукупным сваім выражэнні яны складалі цэлае, узмацнялі кантрастнае ўспрыманне рэчаіснасці. У гэтым — заўважны след купалаўскай традыцыі з відавочнай установкай на гратэскавы міфалагізм, на маскарадызацыю. Сама эпоха патрабавала новых сродкаў мастацкай выразнасці, здольных адэкватна выявіць анталагічныя пытанні быцця нацыі, крызісныя з'явы ў грамадзянскай арганізацыі яго духоўнай матэрыяльна-прадметнай і духоўнай дзейнасці.

Гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства, якое прызнаецца важным звяном у гісторыка-рэцэптыўным спасціжэнні ідэйна-мастацкай змястоўнасці твораў мастацтва, і гістарызм як метадалагічна-светапоглядная пазіцыя аўтара ў спалучэнні з сістэмна-структурным падыходам да мастацкага твора (ці ўсяго літаратурнага працэсу) забяспечваюць значную меру навуковай навізны і ідэйна-эстэтычнай заглыбленасці даследаванняў З. П. Мельнікавай. Даволі абгрунтавана і лагічна ў гэтай сувязі даводзіцца думка пра неабходнасць паняційнага пашырэння гісторыка-функцыянальнай метадалогіі, у цэнтры якой — не проста субстанцыя твора як дадзенасці, не проста даследаванне працэсу яго функцыянавання ў розныя грамадска-літаратурныя эпохі, у розных сацыякультурных кантэкстах, а раскрыццё яго патэнцыяльнай функцыянальнасці. Прызнаючы наяўнасць пэўнай канстантнай сэнсавай дамінанты твора (= сэнсавага інварыянту), даследчыца звяртае ўвагу на структурнасць яго інтэрпрэтацыі, на неабходнасць разгляду сэнсавай яго змястоўнасці ў цеснай сувязі з паэтыкай. Падобны падыход абумоўлены навуковымі і эстэтычнымі крытэрыямі сучаснага літаратуразнаўства. Зразумела, што інтэрпрэтацыя ідэй пры адначасным ігнараванні эстэтычнага аналізу непапраўна збядняе сам мастацкі статус твора, вядзе да падмены прадмета даследавання. Інтэрпрэтацыя ў цеснай сувязі з эстэтычным эквівалентам справядліва можна прызнаць зыходным прынцыпам гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства.

У даследаваннях З. П. Мельнікавай звернута ўвага на тэарэтыка-метадалагічны змест гісторыка-функцыянальных даследаванняў. Са спасылкай на вядомых вучоных прыводзіцца той факт, што гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства павінна раскрываць сацыяльна-эстэтычныя, ідэйна-філасофскія і некаторыя іншыя функцыі твораў мінулага для новага часу, даследаваць аспекты сэнсавага пастаянства (сэнсавай дамінанты або, паводле Ю. Борава, канцэптуальна-інварыянтнага ядра сэнсу) і элементы зменлівасці сэнсу твора ў новых сацыякультурных умовах. «У новай сацыякультурнай прасторы вялікага часу адбываецца перамяшчэнне каштоўнасных дамінантаў, абумоўленае сучаснай эпохай і адпаведным станам літаратуразнаўства», — слушна канстатуе даследчыца. Задача гісторыка-функцыянальнай метадалогіі, паводле даследчыцкай канцэпцыі, заключаецца ў тым, каб высветліць рэальныя формы і віды ўздзеяння мастацкіх твораў у розныя гістарычныя перыяды на розныя слаі чытачоў, раскрыць мнагазначнасць твораў мастацтва, ці, інакш кажучы, іх полівалентнасць у працэсе гістарычнага існавання, высветліць суадносіны дынамічна рухомай у сэнсавых і выяўленчых адносінах структуры літаратурнага твора і яго сацыяльна-філасофскіх і ідэйна-эстэтычных функцый. Такое разуменне задач і спецыфікі гісторыка-функцыянальнай метадалогіі якасна пашыраюць межы ўласна паняцця «гісторыка-функцыянальнае даследаванне», якое імпліцытна заключае ў сабе функцыі светапоглядна-метадалагічнай катэгорыі, што дапамагае ажыццявіць аксіялагічны падыход да ідэйна-эстэтычных, агульначалавечых каштоўнасцей, сцверджаных мастаком.

Акрамя таго, у вышэйзгаданых манаграфіях па-новаму ў межах гісторыка-функцыянальнага даследавання ўстаноўлены суадносіны гісторыка-канкрэтнага

і універсальна-мастацкага ў змесце, пафасе разгледжаных твораў, раскрыты сэнсавыя даміnанты, патэнцыял метакамунікатыўнасці (вобразы-сімвалы, сэнсава-алегарычныя ўвасабленні, вобразы-архетыпы) праз вылучэнне аспектаў сэнсавай, ідэйна-сутнаснай канстантнасці і сэнсавыяўленчай дынамікі твораў, праз дзеянне механізму зменлівасці, карэляцыі сацыяльна-філасофскіх і ідэйна-эстэтычных функцый з улікам змены сацыякультурнай парадыгмы. Разгляд твораў З. Бядулі ў акрэсленым кірунку і даследчым фармаце прывёў даследчыцу да значных адкрыццяў, дапамог па-новаму ідэнтыфікаваць глыбінную сутнасць Бядулевай творчай манеры з відавочнай устаноўкай мастака на актыўнае задзейнічанне гісторыка-асацыятыўнага, мастацка-рэмінісцэнтнага арсеналу універсальных мадэляў-сімвалаў, архетыпаў у працэсе іх творчага пераструктуравання. Адзначанае стала важкай падставай для сур'ёзнай і грунтоўнай гаворкі пра патэнцыял метакамунікатыўнасці твора, пра магчымасць рэцэптыўнага ўзбагачэння і актуалізацыі яго сэнсу ў вялікім часе (словы М. Бахціна). Сігнальна-вобразная структура (сімволіка-асацыятыўны рад), паводле даследчыцкай канцэпцыі, можа сведчыць аб багатым патэнцыяле новай рэцэптыўнай актуалізацыі твора, у выніку чаго апошні, дзякуючы экстрапаляцыі і перагрупоўцы наяўных вербальна-знакавых мастацка-вобразных кодавых структур, атрымлівае дадатковае функцыянальна-сэнсавае нарашчэнне, ідэалагічна ўзбагачаецца. А гэта, у сваю чаргу, энергетычна насычае твор, паглыбляе значэнне самой мастацкай рэальнасці, якой ён з'яўляецца. Адзначаныя моманты выступаюць важнымі канцэптуальнымі складнікамі гісторыка-функцыянальнага даследавання, якое мае на мэце, па словах аўтара, задзейнічаць анталагічную мнагастайнасць твора, актуалізаваць не ўзняты папярэднім літаратуразнаўствам мастацкі пласт сімвалічных сэнсавых абагульненняў. Метакамунікатыўны патэнцыял твора, што важна заўважыць, і ствараецца дзякуючы «прыбавачнаму элементу», што абумоўлена ўласна кантэкстам і абапіраецца на рэцэптыўна-функцыянальную камунікацыю, вынікае з яе, і, перафразуючы У. Вінаградава, узводзіць над ёй падпарадкаваны эстэтычным, а таксама сацыяльна-гістарычным заканамернасцям мастацтва новы свет сэнсаў і значэнняў.

Паводле канцэпцыі З. П. Мельнікавай, гісторыка-функцыянальны тып даследавання наўпрост звязаны з мастацкай традыцыяй, якая ўстанаўлівае ўзаемасувязі паміж творам як фактам гісторыі і яго ўздзеяннем на сучаснага чытача, паміж атрыманымі намі па традыцыі вынікамі творчасці мінулых эпох і іх жывой перапрацоўкай у святле сённяшняга дня. Слушным і пазітыўным падаецца разуменне гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства як дынамічнага па сваёй сутнасці і здольнага ў літаратуры ранейшага часу, саміх з'явах мастацтва выяўляць і ўзбуйняць прыхаваныя патэнцыі, што маюць для сучасніка аксіялагічную каштоўнасць.

Цікавымі і змястоўнымі ў рэчышчы праблемы метакамунікатыўнасці падаюцца развагі пра хранатоп і вобраз-матыў дарогі, сустрэчы як знакі «цыклічнага бытавання часу бядулеўскіх твораў» і інш. На падставе аналізу ідэйна-вобразнай сістэмы рамана «Язэп Крушынскі», аднесенага да твораў сацыяльна-ідэалагічных, сацыяльна-тэндэнцыйных, даследчыца робіць слушную заўвагу, што «канцэптуальнае ядро гэтага рамана валодае патэнцыялам інварыятыўнасці», г.зн. заключае ў сабе сэнсавую шматзначнасць, паліфанічнасць, іншымі словамі, эстэтычную апераджальнасць.

Праведзенае З. П. Мельнікавай комплекснае даследаванне істотна ўдакладняе ўяўленне пра прадмет і задачы гісторыка-функцыянальнага літаратуразнаўства, спрыяе ўдакладненню навуковай рэцэпцыі развіцця беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя і паспяховай распрацоўцы тэарэтыка-метадалагічных праблем літаратуразнаўства.



Мікола МІКУЛІЧ

# «НЯХАЙ БУДЗЕ І ПРАЎДА, І ВОЛЯ...»

## *Паэзія Уладзіміра Жылкі*

Складаныя і супярэчлівыя 20-я гады мінулага стагоддзя з'явіліся перыядам творчага ўзыходжання Уладзіміра Жылкі (1900—1933), як пісаў у сваёй кнізе «Ветразі Адысея» У. Калеснік, «чалавека з выключна ёмістым лёсам», паэта «з вялікай маральна-эстэтычнаю ўражлівасцю». Яго кнігі «Уяўленне» (1923), «На ростані» (1924), «З палёў Заходняй Беларусі» (1927) засведчылі ўвасабленне рамантычнага мастацкага метаду і характару вобразнага мыслення.

Як і многіх іншых рамантыкаў, папярэднікаў і сучаснікаў, Уладзіміра Жылку востра хвалявалі духоўна-маральныя аспекты жыцця чалавека, асаблівасці сцвярджэння асобы ў неспрыяльных для яе грамадска-сацыяльных абставінах і сітуацыях. Паэт імкнуўся вызначыць і асэнсаваць вядучыя сілы грамадскага развіцця, праблемныя пытанні нацыянальна-гістарычнага вопыту беларусаў, іх няпростыя дачыненні са сваім лёсам-нядоляю. Высокай думай пра Беларусь і яе будучыню прасякнуты кожны ці амаль кожны з яго твораў.

Высокую ацэнку даследчыкаў атрымала паэма У. Жылкі «Уяўленне», пачатая ў Вільні, а закончаная ў Празе, куды па рэкамендацыі Л. Родзевіча паэт прыехаў на вучобу ва універсітэт. Твор узнік на хвалі вострага грамадзянска-патрыятычнага ўзрушэння мастака, яго заклапочанасці лёсам роднага краю і, паводле слоў У. Калесніка, «рэалізуе адзін з эстэтычных прынцыпаў рамантызму, які называюць культам уяўлення, фантазіі». Ён сведчыў пра глыбіню і напружанасць духоўна-філасофскага мыслення аўтара, сцвярджаў паэтычнае ўяўленне «як інструмент пазнання свету, як сродак арыентацыі ў грамадскіх працэсах».

Паэма «Уяўленне» вызначаецца шматгалоссем і паўнакроўнасцю гуманістычнага зместу, паліфанічным гучаннем, шырынёй і ёмістасцю вобразна-эмацыянальных абагульненняў. Асноваю яе маральна-філасофскага пафасу выступае глыбокае патрыятычнае пачуццё аўтара, напружанае перажыванне тых падзей, якія адбываліся на Беларусі ў XX стагоддзі. Носьбітам лірычнай свядомасці У. Жылкі з'яўляецца ідэя абуджэння і разгортвання сацыяльна-палітычнай і духоўнай актыўнасці народа, грамадскага абнаўлення, беларускай дзяржаўнасці. «На мапу Еўропы // Узышоў Беларус, — натхнёна сцвярджае паэт. — // У лапцях лазовых, // Па світцы ручнік, // І светам Хрыстовым // Зіяе аблік». Яго лірычны герой дарэшты аддадзены стыхіі нацыянальна-вызваленчага руху, прасякнуты адчуваннем складанай, супярэчлівай прыроды грамадска-сацыяльных працэсаў, рэвалюцый і войнаў, якія прайшліся па беларускіх этнічных землях, усведамленнем сувязі, узаемаабумоўленасці гістарычных змен, пераўтварэнняў і народнай жыццядзейнасці. Ён поўніцца бязмежнай сыноўняй радасцю ад разумення, што пазнаў, здабыў Маці-Радзіму, Бацькаўшчыну-Беларусь, якая актыўна рэалізуе свае права на духоўнае самасцвярджэнне, свабоднае развіццё ў часе і прасторы, становіцца «наймалодшай нацыяй» у кагорце народаў-суседзяў («Перуны завірух // У захапленні // Грымяць аб адным: // Паўнагучна Адраджэнне!»):

Брацці, зраблю вас багатымі,
Зорамі высаджу край.
Сонцам заззяе над хатамі
Словаў маіх каравай.

Сэрцы пратну заранiцаю
Новых надходзячых дзён;
Выпішу сказ бліскавіцаю,
Выяўлю дзедаўскі сон.

Твор насычаны напружанай эмацыянальна-пачуццёвай энергетыкай, прасякнуты высокім рамантычным пафасам, урачыстым настроем бадзёрасці і аптымізму. Так, высокі «наш Дух, // Даючы рух, // Жыццё, — кажа паэт, — Быў захаваны. // І вось — нязнаны — // Сягнуў тварыць. // І з першых дзён // Змог сну палон // І ночы глуш». П'яны ад гэтага руху і пераўтварэнняў, яго лірычны герой чуе «спеў няпетага, // Музыку нязнаную», за нацыянальным адраджэннем бачыць «Бязмерныя далі // І Вялікія вартасці».

Нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, падзел Беларусі на Усходнюю і Заходнюю, якія апынуліся ў розных дзяржавах («Пакута падзелам. // Па беламу целу // Знаком ад нажа // Крывавіць мяжа»), паэт з падкрэсленай верай і аптымізмам глядзеў на пошукі беларусамі свайго гістарычнага лёсу, увасабленне ідэі гарманізацыі народнага жыцця:

Народы! Прадбачу:
Шпаркасць коняў
Пагоні
Суліць удачу.
Вам на пасадзе
Пакутніцу
Нявечнай бачыць.
З доляй-закутніцай
Ў ладзе,
З ясным абліччам,
З глуму, з нягодаў,
Слову заручана,
Кліча
Да брацтва, згоды.

У паэме «Уяўленне» У. Жылка своеасабліва адмаўляў будзённа-побытавую сферу жыцця, пераадольваў матэрыяльна-рэчыўны пласт рэчаіснасці, раскрываў глыбокую духоўна-маральную сутнасць падзей і фактаў. Мастацкая адметнасць твора заключаецца якраз у яго філасофска-эстэтычным, эмацыянальна-падсвядомым змесце. Ідэя паэмы разгортваецца на аснове ўмоўна-асацыятыўнага мыслення паэта і рэалізуецца ў адлюстраванні яго інтуітыўна-пачуццёвага ўспрыняцця грамадскіх працэсаў. Аб'ектыўная рэчаіснасць, знешнія падзеі цалкам падуладныя ў ёй суб'ектыўнаму фактару, трансфармуюцца ў ланцуг душэўна-псіхалагічных перажыванняў, уяўленняў і ўражанняў лірычнага героя як асноўнай духоўна-філасофскай інстанцыі. Ён, лірычны герой, поўніцца мноствам таямнічых адчуванняў, лятункавых настрояў, няўлоўных і няпэўных вобразаў, асацыяцый, карцін, і малюнкаў і паслядоўна паўстае ў рамантычна-ідэалізаваным вобліку натхнёна-ўзрушанага празарліўца, своеасаблівага варажбіта-прарока, народнага вешчуна, які «Сэрцам верным» сее «Вешчы вершаў мак», пасланца народнага Духу, былiннага волата. Шмат у чым цікавымі і паказальнымі ў гэтым плане з'яўляюцца назіранні невядомых аўтараў часопіса «Вольная думка». Аналізуючы паэму У. Жылкі «Уяўленне» і зборнік Л. Родзевіча «Беларусь», яны заўважалі: «Жылка ў сваім зборнічку атварае псыхічны бок беларускага жыцця, а Родзевіч — прадстаўляе ўсё вялічча Беларусі. Момант традыцыяў мінулага — галоўная рыса яго ўяўлення…

Жылка кіруецца ў бок ідэалізму, прадстаўляючы думкі бадзёрыя і светлыя. Ён бачыць Беларусь уваскросшую і ўзышоўшую ўжо на мапу Эўропы. Родзевічжа ідзець у бок матэр'ялізму...»

У паэме дамінуе рамантычна-ідэалізаванае, лірыка-абагульненае выяўленне жыццёвых працэсаў, элементы народна-міфалагічнага мыслення пераплятаюцца ў ёй са сродкамі арыгінальнай індывідуальна-аўтарскай паэтыкі, традыцыйная фальклорная і евангельская сімволіка-алегарычная вобразнасць напаўняецца актуальным духоўна-патрыятычным, грамадска-сацыяльным зместам.

Свежасцю і непасрэднасцю светаўспрыняцця, глыбінёй і праўдзівасцю духоўна-сацыяльных перажыванняў, суладнасцю думкі і эмоцыі звярталі на сябе ўвагу зборнікі вершаў У. Жылкі «На ростані» і «З палёў Заходняй Беларусі», якія ў многім працягвалі і развівалі ідэйна-мастацкі змест паэмы «Уяўленне». Яны сцвярджалі багацце і паўнакроўнасць жаданняў і мэтаімкненняў героя, натуры летуценнай, загадкавай, рамантычна-ўзвышанай і ў той жа час сацыяльна актыўнай, дзейснай, з высокім пачуццём патрыятычнай свядомасці і грамадзянскай адказнасці, раскрывалі складанасць і неадназначнасць адносін і стасункаў асобы з грамадскай рэчаіснасцю. Тужлівая душа паэта, «Лілея між балот», што «ўзрасла, маўклівая, // Між багны сонных вод», парывалася ў неаглядныя жыццёвыя далі, да нязведанага і неспазнанага. «Ёй сніцца неба сіняе, // Дзе сонечна вясна, — прызнаваўся аўтар, — // І песняй салаўінаю // Атручана яна». Гэта душа, якая дужа чуйна і абвострана рэагавала на праявы знешняга свету, высокае і нізкае ў ім, дысгармонію паміж рэальным і ідэальным: ёй «нешта патаёмнае // Шапоча родна ціш», яе «ў ночы цёмна-цёмныя // Чаруе зорна выш» У. Жылка славіў стваральную дзейнасць чалавека, яе сацыяльна-гуманістычны змест, выяўляў высокія духоўна-псіхалагічныя рэгістры асобы, як, напрыклад, у вершы «Раніцою»:

Чароўнасцю веюць хмурынак румянцы,
І з цішаю звонкасць цалуюцца ў губы.
О ветрыку свежы, скажы там каханцы,
Які гэты свет — і салодкі і любы!
Іду я па росным зялёным каберцы,
І песня ад шчасця ў знямозе нямее,
І сэрца, як сонца, і сонца, як сэрца,
Сусветнае сэрца гарыць, палымнее!

Відаць, у многім маючы на ўвазе дадзены, а таксама іншыя падобныя да яго творы паэта, нехта Мінчук у газеце-аднадзёнцы «Каляда» пісаў наступнае: «Гармонія сэнсу і рытму, зместу і формы, духу і стыхіі — найлепшая адзнака таго, што гэтыя вершы спараджоны — у вольным акце саматварэння — з першароднага «Духа Музыкі...».

Лірычны герой У. Жылкі выступаў у вобліку рамантычнага падарожніка, які любіў, «не знаючы пуціны, // Ісці праз лес, балота, гаць, // Мінаць квяцістыя нізіны, // Пад грушай ў полі спачываць». Ён поўніўся летуценнымі адчуваннямі, мройлівымі ўяўленнямі і ўражаннямі, таямнічымі хваляваннямі, звязанымі з глыбокім роздумам над лёсам роднага краю, перажываннем яго сацыяльнай і нацыянальнай нядолі:

І напаткаць руіны ў полі,
Дзе мох на рэшце сцен узрос,
І занудзіцца мімаволі,
Згадаць замчышча сумны лёс;

Не зразумець, чаму руіны
Ў сабе таёмны тояць жах,
І ці не светлы для Краіны
Відаць наперадзе ўжо шлях?

Паэт натхняўся багатым гістарычным мінулым Бацькаўшчыны, помніў «і веча звоны, // І вольнасць роднай стараны». Ён быў упэўнены, што «з нізін, балот // З надзеяй ў шчаснасць дзён святлейшых // Устане ўзбуджаны народ», бо «дух творчы ў Беларусі // Жыве й змагае долі жах». Яго лірычны герой, якому некалі маці наказвала не забываць «Нашай долі і нядолі, // Нашых пожняў, нашых хат», цвёрда верыў «У вялікі лёс і шлях Радзімае зямлі», у тое, што «Абуджаны народ быліц дазнае сказ — // Узрушыць як адзін пры свеце бліскавіцы».

У. Калеснік слушна адзначаў, што творчасць У. Жылкі была звязана «з грамадскімі падзеямі апасродкавана, праз сістэму вобразаў-сімвалаў і ўмоўных асацыяцый», ёй уласціва імкненне «да рамантычнай універсалізацыі настрояў, роздумаў, ацэнак», «глабальная ўзвіхранасць пачуццяў...». Паэт развіваў духоўна-эстэтычныя традыцыі Я. Купалы і М. Багдановіча, будучы набліжаны да сваіх настаўнікаў асаблівасцямі мастацкага мыслення, выяўленнем глыбокіх душэўна-псіхалагічных перажыванняў, тонкіх пачуццёвых зрухаў, услаўленнем чараўнічай сілы хараства, магіі красы, дыялектыкі прыгожага. Гэта добра пацвярджаюць вершы «Беларусь», «Покліч», «Палімпсест», «Хто мужны, хто смелы, хто дужы...», «Наш лёс, бы кат з рукой забойнай...», «Млынар заставіў застаўкі...» і інш.

У поўным «імпэту і шырокага палёту», згодна са словамі Я. Святазара, вершы «Віхор» (1921) уздым народна-вызваленчага, паўстанцкага руху на абшарах Заходняй Беларусі У. Жылка ўвасобіў у рамантычна-велічным вобразе прыроднай стыхіі. Віхор, які «Гасцём і мараю трывожнаю // Зляцеў да нас з-пад самых зор», скаціўся на зямлю, захоплівае ў палон усё, што патрапляе на яго шляху, нясе сілу, бадзёрасць, абнаўленне. Ён «Імкне, гудзе, шуміць», «не злы, але бушуючы», «Ваду азёр і рэк хвалюючы, // Пусціў па пушчах песню-звон». Цікава і паказальна, што гэта хоць і навальнічны, рэвалюцыйна-ўздымны, але не разбуральна-скрышальны віхор. Ён мае лагодны, ачышчальны характар і місію, абуджае да актыўнай стваральнай, сацыяльна-гуманістычнай прысутнасці ў свеце ўсё патэнцыяльна здаровае і жыццяноснае («Услухайся, паймі адвечнае — І гімны вырвуцца з грудзей»):

Пара, пара дазнацца, зверыцца
Сваіх магутных сонных сіл!
Адважны, хто спыніць намерыцца
Размах жыцця і творчы пыл?..

Дзе йдзём? І дзе капцы канцовыя?
Дзе ходу нашаму мяжа?..
Ў адказ віхор пяе ўсё новае,
І лязіво блішчыць нажа!

Як можна заўважыць, у творы прасочваецца выразная вобразна-стылёвая паралель — ачышчальны навальнічны віхор абумоўлівае лязіво нажа, наяўнасць стыхійнай паўстанцкай зброі. У адпаведнасці з гэтым мастацкім прыёмам, суаднесенасцю розных і ў той жа час звязаных паміж сабою вобразаў-сімвалаў пабудаваны і верш «Меч» (1924), адзін з лепшых у заходнебеларускай паэзіі 20-х гадоў. Вузкі мужыцкі загон становіцца месцам незвычайнага здарэння — патомны селянін выворвае на ім старажытны меч, сімвал рыцарскага духу і высакароднасці: «Вясёлым звонам аказаўся ён, // Калі чапіў канцом майго нарога». «Абцёр пабожна йржу часу благога, — кажа герой, ад імя якога вядзецца лірычнае апавяданне, — І заблішчаў старых стагоддзяў сон, // І надпіс на клінку, нібы закон, — // «Дарэшты бой!» — зірнуў загадам строга». Гэты выпадак радыкальна перайначвае яго жыццё. Араты дарэшты пранікаецца грамадзянска-патрыятычным адчуваннем героікі мінулых часоў, слаўных традыцый сваіх далёкіх продкаў, загараецца ідэяй барацьбы за каштоўнасці і святыні

роднай зямлі. Памяняўшы плуг на меч, ён становіцца ў шэрагі ахвярных ваяроў за свабоду Бацькаўшчыны, з'яўляецца трывалым звяном у доўгім ланцугу народна-вызваленчай дзеі:

Я з грамадой іду па шчасце нам.
Мой меч зіхціць, неператможны, востры.
Змагуся сам — дык сотням перадам!

«Дух рамантыкі ахінае ягоныя творы, — пісаў пра паэта І. Навуменка, — як бы дае ім крылы, прыўзнятасць, нават экзальтаванасць».

З сімпатыяй ставячыся да дзейнасці партыі беларускіх эсэраў, У. Жылка сведчыў вернасць прынцыпам і каштоўнасцям працоўнага асяроддзя, жыцця селяніна-аратая, паэтызаваў высокі духоўна-маральны змест нацыянальна-вызваленчага руху, які ў першай палове 20-х гадоў разгортваўся ў актыўных партызанскіх формах, адмабілізаваную рашучасць барацьбы за волю і справядлівасць. Яго вершы, падкрэсліваў А. Глыбінны, — «гэта пругка нацягнены лук, выгнуты з паўніны пачуцця, развагаў і цнотаў душы чалавека-змагара, што паставіў сабе за мэту дабро Бацькаўшчыны». У. Жылка ўслаўляў рэвалюцыйны парыў, навальнічны грамадска-сацыяльны ўздым, радасць адмабілізаванага яднання ў ахвярным поступе за высокія народныя ідэалы, імкнуўся раскрыць рэзервы чалавечага духу, непазнаныя грані асобы свайго сучасніка. «Толькі той, хто вера ў цуд — // Лепшу долю курных хат, — чытаем у вершы «Толькі той, чый вольны дух…», — // Толькі той, хто любіць люд, // Толькі той — мой любы брат».

Мы мацнеем што ні раз,
Чуюць моц чужы і свой.
Жджэм: надыдзе грозны час —
Будзе радасць, будзе бой.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А мо спыніць які кат?
Мо спужаемся чагосьць?
Калі трэба, ўмерці нат
Нам не страх, а шчасце ёсць.

Якраз з мужнасцю, смеласцю, сілай, «воляй кованай, як сталь», настойлівасцю і мэтаімкнёнасцю — лепшымі чалавечымі якасцямі — звязваў паэт перспектывы народна-вызваленчага руху і будучыню роднага краю. У адмабілізаванай барацьбе ён бачыў і лагічны сэнс, і высокую эстэтыку жыцця:

Ёсць радасць у ярасці бою,
Ў змаганні скрыжованых сіл, —
Спаткаць сваю волю з чужою,
З гарачнасцю іншай свой пыл.

Не бледнуць, у час небяспекі
Стрымаць неслухмяную кроў;
Прад вокам упартым павекі
Не хінуць ганебна далоў.

Высокая патрыятычная ідэя, пачуццё ахвярнай аддадзенасці Бацькаўшчыне з'яўляюцца асноваю аднаго з лепшых Жылкавых вершаў «Наш лёс, бы кат з рукой забойнай…», напісанага ў 1925 годзе. У крытычную, вырашальную для яе часіну («Народ, Свабода і Радзіма, — // На ўсё прыйшла адна чарга»), калі «Найдаражэйшае, святое, — // Ўсё, чым натхнялася душа, // Чужою збэшчана рукою, // Сваволяй скута палаша», герой паэта, апантаны гартаванай мужнасцю і рашучасцю вой, выконвае свой галоўны духоўна-маральны абавязак, уступае ў смяротны бой з лютым ворагам:

Але пад лобам хмурым гэтым,
У гэтай думнай галаве
Імкненне да апошняй мэты
Неператожнае жыве.

Непераможнай волі шалам,
Перамагаючым і лёс,
Звініць душа з былым запалам,
Звініць без сумніву і слёз.

І покі пруткі шчэ цягніцы,
І покі ў жылах точыць кроў, —
Ніхто не ўбачыць голаў ніцы,
Пакорлівых не ўчуе слоў.

І покі сэрца поўна гневам,
І гнеў драпежней крумкача, —
Вітаю бой ваяцкім спевам
І звонам вострага мяча.

«Нацыянальнае справы ня можна выдзяліць і паставіць асобна ад сацыяльных, клясавых і, на'т, рэлігійных пытанняў, — адзначаў У. Жылка ў праграмным артыкуле «У справе ацэнкі беларускага адраджэння», змешчаным у часопісе «Перавясла». — Наадварот, само разуменне нацыі і нацыянальнага пытання, на нашу думку, лучыць у нацыянальнай справе ўсё тое, што характарызуе сучасную нацыю, а ў першай меры клясавую і сацыяльную няроўнасць». І далей: «Адраджаючаяся беларускае селянства выставіла цэлы шэраг соцыяльных, клясава-эканамічных і культурных дамаганняў. І як іх сынтэз з'явілася палітычнае дамаганьне незалежнасці. Незалежнасці ад пана і ксёндза, урадніка і папа, «казёнкі і рэстаўрацыі», ад расейскай і польскай школы, што не шануюць і даводзяць нягоднасць яго нацыянальнага. Незалежнасць — гэта значыць новае жыццё і наша культура, зямля і воля, праца і роўнасць у багацці».

Многія вершы У. Жылкі маюць выразны баладны характар, у іх паэт разважаў над сваёй жыццёвай доляй, чалавечым лёсам, вёў размову са смерцю і г. д. («Прытулі, сястра, слабога…», «Не складаць мне болей песняў…» і інш.).

Высокі лірычны пафас, характэрная рамантычная стылістыка, абумоўленыя прагай пазнання і адкрыцця, звернутасцю да ідэальнага ў грамадстве і чалавеку, паядноўваліся ў творах У. Жылкі з глыбокай заангажаванасцю ў лёсавызначальныя для народа духоўна-сацыяльныя праблемы, драматычным філасофска-медытатыўным пачаткам, пачуццёвай сумленнасцю. Натуральна, што гэта і многае іншае не зусім адпавядала класава-пралетарскім прынцыпам адлюстравання рэчаіснасці, якія тады панавалі ў Беларусі». Пасля пераезду з Прагі ў Мінск і выдання зборніка «З палёў Заходняй Беларусі» на цяжка хворага паэта была звернута тэндэнцыйная, жорсткая і бязлітасная крытыка збоку апалагетаў новага грамадскага ладу.

Высокія духоўныя прынцыпы і каштоўнасці жыцця У. Жылка адстойваў на працягу ўсяго свайго нялёгкага зямнога шляху, аб чым сведчаць многія яго творы, у прыватнасці, паэма «Тастамент», напісаная перад самай смерцю ў ссылцы. Гэта твор вялікай эмацыянальнай сілы ўздзеяння, ён вызначаецца ўнутранай цэласнасцю і гарманічнасцю і своеасабліва падагульняе ідэйна-мастацкія пошукі паэта. У аснове яго лірычнага пафасу — высокі духаносны пачатак, сцвярджэнне адвечных маральна-філасофскіх каштоўнасцей жыцця народа, гуманістычных ідэалаў, дыялектыкі нацыянальнага і грамадска-сацыяльнага. Развітваючыся з «дабродзейкай зямлёй», марамі і надзеямі, аглядаючы пройдзены шлях, У. Жылка ўслаўляў свой родны край, яго красу і веліч, выказваў веру ў росквіт і шчаслівую будучыню Бацькаўшчыны. Паэма «Тастамент» — гэта гімн Беларусі, яе працоўнаму крывіцкаму люду, праўдзе, сумленню, жыццю.

Творчасць Уладзіміра Жылкі з'яўляецца яркай старонкай у гісторыі беларускай літаратуры. Будучы цесна звязанай з сацыяльна-патрыятычным рухам, яна глыбока раскрыла асаблівасці духоўнай свядомасці народа ў адзін з самых складаных і супярэчлівых перыядаў яго жыццядзейнасці на шляху да дзяржаўнасці і суверэнітэту.



*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь*

Мікола ШАБОВІЧ

# ЯК ПЕСНЯ...

## (Развагі пра паэзію Міхася Башлакова)

Міхась Башлакоў — адзін з тых паэтаў, чыя творчасць нікога не пакідае раўнадушным. Складваецца ўражанне, што паэт не піша вершы, а пражывае іх, прапускаючы праз сэрца кожны вобраз, кожную дэталь, кожнае слова. Таму і не дзіўна, што бясконца верыш гэтаму слову, бо разумееш, што вырвалася яно не дзеля рыфмы і рытму, і нават не дзеля самой паэзіі. Проста балела і крычала душа.

Што да мяне, то, прынамсі, кнігу «Пяро зязюлі падніму», вылучаную на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 2006 года, я чытаў і перачытваў не адзін раз. Бадай, ніводны паэтычны зборнік апошніх гадоў мяне так не ўражваў, як гэты. Я быў проста ашаломлены. Шчымлівая інтанацыя, пранікнёнасць, светлая энергетыка магнетычна прыцягвалі да сябе. За многімі творамі бачылася пазіцыя аўтара — пазіцыя сумленнага чалавека, які горача любіць сваю Радзіму і кожнай сваёй жылкай жадае ёй дабра, велічы і пашаны. Уражвала і «чарнобыльская» частка кнігі, а менавіта паэма «Лілея на цёмнай вадзе». Я тады не ведаў яшчэ, што Міхась выпакутаваў гэты твор за час сваіх шматлікіх (больш за 2000) выступленняў у забруджаных раёнах.

Новыя кнігі паэта «Нетры» і «Палын» (абедзве — сумесна з мастаком Міхасём Барздыкам) кранаюць не менш. Яны, я сказаў бы, як песня. Гэты выраз («як песня») я запазычыў у Міхася. Усё добрае і таленавітае ён называе менавіта так. Думаю, што без перабольшання такія ж словы можна сказаць і ў дачыненні да паэзіі самога Міхася Башлакова. Звернемся да вытокаў.

Пачатак быў звычайны. Па тых нямногіх вершах у калектыўным зборніку «Нашчадкі» (1979), якія, безумоўна, калісьці чытаў, нават не мог адчуць-прадказаць, што ў літаратуру ідзе добры паэт. Часам не хапала культуры паэтычнага радка, часам вопыту, хоць, безумоўна, адчувалася нераўнадушнасць аўтара, яго замілаванасць роднымі мясцінамі. Радкі былі не банальныя, не шаблонныя, дый метафара таксама прысутнічала ледзь не ў кожным вершы.

Калі ж падсумоўваць здабыткі першай кнігі, дык гэта найперш даволі дасканалы па выразнасці і метафарычнай напоўненасці верш «Прыгарадны поезд»:

Мой поезд вечаровы  
Ідзе па небасхіле.  
Гарыць заход барвовы  
Над снегавым разлівам...

На дастаткова добрым узроўні напісаны «Лясная песня», «Бакены», «***За горадам пасвяцца коні...», «***Цямнее павольна-павольна...», «Чалы». Іншыя вершы неблагія, але не такія кідкія, як згаданыя вышэй.

Па не вядомых мне прычынах не ўвайшлі ў першы зборнік у цэлым дабротныя вершы «Раніцай», «***Зоркапад...», «***Ў бярозавай бялюткай хаце», «Навабеліца», напісаныя ў раннія гады і ўключаныя паэтам у зборнік выбранай лірыкі «Світальныя коні» (2001). Яны, безумоўна, маглі б значна ўзмацніць першую кніжку

паэта, зрабіць яе яшчэ больш яркай і прывабнай. І ўсё ж імя Міхася Башлакова было заўважана крытыкамі, і ад яго справядліва чакалі новых паэтычных адкрыццяў. Пэўная планка была ўзята, адступаць назад паэт не прывык. А даказаць сваё неапошняе месца ў літаратуры можна было толькі з дапамогай карпатлівай працы.

Ад «Касавіцы» да «Начнога парома» (1987) — восем гадоў. Наколькі ж плённым быў для паэта час міжкніжжа?

Зборнік адкрывае шчыры па інтанацыі, светлы верш «Дарогі Палесся».

Дарогі Палесся мяне зачаруюць —
Спынюся ля вёскі над ціхай ракой.
Завечарую, завечарую,
Як стомлены човен за асакой.

Выдатнае параўнанне «як стомлены човен» — адначасова і метафара. Такая лёгкасць і напеўнасць чуецца ў гэтым вершы, і нават не верыцца, што праз колькі часу паэт пройдзецца тымі ж дарогамі, глытаючы радыяцыйны пыл, а не радуючыся пяшчотнаму сонцу і ветрыку.

Палескія вершы Міхася напісаны настолькі шчыра, што, чытаючы іх, сам літаральна становішся палешуком: «Вечарэе Палессе. І туманяцца рэкі. // І ў сутонні паромы павольна рыпяць. // І дзявочыя песні далятаюць аднекуль. // І агні ў шызых далях таемна гараць».

Несумненная ўдача паэта — верш «***З лістападамі...», відавочна, самы лепшы верш зборніка і адзін з лепшых у Міхася Башлакова. Яго паэт уключае амаль ва ўсе свае наступныя кнігі:

З лістападамі,
з лістападамі
Завітаю я зноў сюды,
Дзе ў сцюдзёную студню падаюць,
Ціха падаюць жалуды...

Мелодыя верша, такая шчымлівая і пяшчотная, зачароўвае і разам з аўтарам запрашае чытача паблукаць па юнацкіх сцежках, завітаць да сцюдзёнай студні, у якую «ціха падаюць жалуды». Гэты гукапісны радок рэфрэнам праходзіць праз увесь верш і пакідае ў душы, нягледзячы на тое, што «ўсё праходзіць, усё мінаецца», пачуццё радасці. Увогуле, трэба зазначыць, што Міхась Башлакоў надзіва інтанацыйны, меладычны паэт. І нездарма на ягоныя вершы напісана рознымі кампазітарамі, як прафесійнымі, так і самадзейнымі, нямала музычных твораў.

Цудоўная жнівеньская карціна паўстае перад намі ў вершы «Жнівень». Паэт нешматслоўны, не імкнецца падаць усю панараму адыходзячага лета, але тыя, на першы погляд, някідкія дэталі дазваляюць чытачу выразна ўявіць трапяткую карціну жніўня — пары выспявання. І не толькі збожжа, не толькі яблыкаў. Верш, пачаты як пейзажны, пераўтвараецца ў пяшчотнае захапленне лірычнага героя (а хутчэй за ўсё, і самога паэта) прыгажосцю не толькі прыроднай, але і чалавечай, жаночай:

Усміхнешся.
Промень палахліва
На губах спакусных растае.
І глядзяць з-пад коўдры сарамліва
Спелыя два яблыкі твае...

Пераканаўчыя і цікавыя па выразнасці вершы «***Захліпнецца душа...», «Паромшчык», «Касавіца», «***Светлая восень...», «Шэрая чапля», «***Падкінь, шафёр, да Баравога...», у якіх аўтар выказаў свае шчырыя пачуцці да роднай зямлі, яе працавітых людзей. Ужо ў гэтым зборніку, невялікім па аб'ёме і сціплым па выданні, адчувалася моцная цяга паэта да палескага краю, якая пазней, у наступных кнігах, перарасце ў сапраўдную вялікую любоў да бясконцых шляхоў, таемных бароў і светлых дуброў, ціхаплынных рэк чароўнага, незабыўнага Палесся.

Кніга «Дні мае залатыя» (1993) змяшчае не толькі новыя вершы, але і лепшае з папярэдніх зборнікаў. Адносна невялікая колькасць новых твораў тлумачыцца таксама тым, што М. Башлакоў піша паэму «Лілея на цёмнай вадзе», першы варыянт якой якраз і друкуецца ў гэтым зборніку побач з меншымі па памеры паэмамі «Цар-дуб» і «Чалабітная любецкаму князю». Зрэшты, і тыя тры дзесяткі новых вершаў яшчэ больш пераканаўча гаварылі пра асобу паэта, дадавалі яму важкасці голасу, упэўненасці. Я сказаў бы, што гэта ўжо быў іншы Башлакоў. Нават у лірычна-інтымных творах сум-туга прысутнічае як у радках, так і паміж радкамі, у інтанацыі. Выразным пацвярджэннем гэтага можа служыць праграмны верш «Дні мае залатыя». У кнізе выбранай лірыкі «Світальныя коні» і ў зборніку «Пяро зязюлі падніму» ён даецца з прысвячэннем Юрыю Фатневу, сябру, фактычна настаўніку, які з вялікай любоўю і замілаванасцю неаднойчы выказваўся пра М. Башлакова ў сваіх артыкулах і прадмовах да яго кніг. Датаваны 1986 годам, верш успрымаецца як крык-плач паэта аб пражытых днях, хаця за спіной было толькі 35. Яшчэ не адчуваюцца напрамую чарнобыльскія асацыяцыі, і можна меркаваць, што твор напісаны якраз напярэдадні трагедыі. Хоць не выключана, што і пасля, але тады трагедыя здавалася не такой і страшнай (ва ўсякім разе, калі ўспомніць тагачасныя тэле- і радыёперадачы).

Дні мае,
Дні мае залатыя,
Што ж над поймай,
Як гусі, крычыце?

Што так хутка,
Так хутка ляціце,
Дні мае,
Дні мае залатыя?

Ці не з гэтага часу крык-плач, які праходзіць лейтматывам амаль праз усю паэму «Лілея на цёмнай вадзе», нязмушана прысутнічае і ў інтымнай лірыцы паэта, і ў грамадзянскіх палымяных радках пра Айчыну. «А над Кракавам дожджык крапае. // Вісла сумная бачыць сон. // І душа мая, як за кратамі, // Плача ў суцемках шэрых дзён...».

Перачытваю «Лілею на цёмнай вадзе» і разумею, што яна не толькі чарнобыльская. Яна пра Беларусь, пра стан роднай мовы, культуры, гістарычнай памяці, пра тое, што духоўны Чарнобыль не менш страшны за рэальны. Часам захапляешся смеласцю паэта, які з такім болем піша пра славяншчыну, пра еднасць усходніх славян. І гэта ў той час, калі ўжо наспявала Белавежская пушча, калі браты-славяне пайшлі шукаць шчасце паасобку. Не ведаю, пра што думалася тады, у 1991 годзе, Міхасю...

Пра кнігу «Пяро зязюлі падніму» (2001) у свой час было нямала водгукаў у друку. І ўсе рэцэнзенты сыходзяцца на думцы, што гэта самая значная, знакавая кніга не толькі ў творчасці Міхася Башлакова, але і ў сучаснай беларускай літаратуры. Цалкам згодзен. Не ведаю, у каго яшчэ з беларускіх паэтаў у адной кнізе разам сустракалася столькі шчырасці і адкрытасці, пранікнёнасці і пранізлівасці, эмацыянальнасці і самаахвярнасці, горычы і болю, святла і спадзяванняў, меладычнасці і поліфаніі.

Зборнік складаецца як бы з дзвюх кніг ці дзвюх самастойных частак, якія дапаўняюць адна адну, — шматпланавай лірыка-эпічнай паэмы «Лілея на цёмнай вадзе» і светлых пранікнёна-лірычных вершаў пад назвай «Світальныя коні». Больш падрабязна спынімся на паэме як на самым значным і вызначальным творы паэта, без якога немагчыма напоўніцу ўявіць ні самога Міхася Башлакова, ні ўвогуле сучасную беларускую літаратуру. Думаю, што гэта паэма — яго візітная картка, яго самае роднае і любімае (калі можна так сказаць) дзіця. Паэт аддаў ёй больш за 13 гадоў свайго жыцця, фактычна выплакаў яе разам з тымі, хто спазнаў на сабе ўвесь боль радыяцыі.

Паэма складаецца з уступу, чатырох частак і эпілога. Ва ўступе мы становімся сведкамі дыялога аўтара і Радзімы. Яго «Радзіма... надзей і трывог» чакае паразумення і паратунку. Ёй няўтульна, а разам з ёй няўтульна і самому паэту. Яму

балюча не менш, чым ёй, і гэты боль, як пісаў калісьці класік, «скразны». Паэт выпраўляецца ў дарогу разам з Радзімай, каб па меры магчымсці дапамагчы ёй, каб ратаваць стомленыя душы. «Будзіць трэба памяць, // Пакуль шчэ не позна...»

Першая частка паэмы мае назву «Крыжы-абярэгі». Яна складаецца з чатырох раздзелаў. У першым («Нетры») паэт запрашае ў нязведанае. Народныя абрады і звычаі, а таксама міфалагічныя персанажы ствараюць атмасферу таямнічасці:

Язычнік я...
Малюся я Зямлі,
Малюся чалавеку я і Зверу...
А вы якую веру прынялі?
Ці вам жывецца добра і без веры?..

Выдатным працягам гэтых радкоў з'яўляецца фінальны верш «***Хай жа Мікола Гусоўскі будзе ў тым сведкам...»: «Край першабытны... // Убарць згінала свой локаць, // І зіхацелі лілеі на цёмнай вадзе... // Рог паляўнічы спяваў... І далёка-далёка // Век мой гаротны віні ўся на Страшным судзе...»

У другім раздзеле «Тураўскае гарадзішча» паэт будзіць памяць народа, стараецца захінуць яго ад лжэпрарокаў. Абыякавыя адносіны да сваіх каранёў і вытокаў, гістарычнай памяці адгукаюцца ў душы паэта болем.

Трэці раздзел «Жменька сцёртых і выцвілых слоў» прасякнуты клопатам за лёс роднай мовы:

Дарэмна, дарэмна, Мікола Гусоўскі,
Твой шлях на Радзіму сягоння пралёг.
Не ў Рыме далёкім, у кінутых вёсках
На могілках моўкне, нямее твой рог...

Радкі, поўныя адчаю і безвыходнасці. Дзе шукаць паратунку? І ў каго? Дзе шукаць словы для новых песень? І калі яны з'явяцца? Ці скора?

Чацвёрты раздзел «Ёсць вёска ціхая» прысвечаны яго роднаму Палессю, землякам, тым вёскам, ад якіх засталіся тры хаты, ды і ў тых, як піша паэт, аніхто не жыве. «Нашы вёскі пагостамі сталі... // Не вайна... Вінаваты прагрэс. // Сінім полымем смутку і жалю // Дацвітае за вокнамі бэз».

Другая частка паэмы — «Радаўніца ў мёртвай зоне». Яна складаецца з трох раздзелаў: «Ветры дзьмулі з Чарнобыля», «Адзінокай свечкай стыне» і «На апошняй зямлі». У іх — боль-плач за атручаную стронцыем і радыем Беларусь:

Плача кнігаўка ў росных лугах,
Просіць піць яна, піць, піць...
А да сэрца такая туга
Падступае: жыць ці не жыць...

Трэцяя частка — «Як слёзы горкія Айчыны...». Яна таксама мае тры раздзелы: «Дзе вы, дзе вы, пракрокі Айчыны», «Я шукаю Радзіму», «Званіце, званы». Тут роспач і боль ад бяспамяцтва народа, сум-туга па Радзіме, якая памірае не толькі ад Чарнобыля рэальнага, але і духоўнага. Паэт гатовы ахвяраваць усім дзеля Айчыны: «А калі ўжо не стане Нічога вакол: //Ні Айчыны, // Ні люду,// Ні мовы, На крыжы павяжыце // Мой верш ручніком — // Хай жалобай звініць // Гэта слова...».

Не менш уражвае і апошняя, чацвёртая, частка паэмы «Дай мне, Госпадзі; светла пражыць», якая складаецца з раздзелаў «Паэт заўсёды ёсць прарок», «Ты памаліся, маці, за мяне», «Як ачышчэнне свету». Тут роспач паэта ад незапатрабаванасці на Радзіме («А калі не патрэбны паэты, // То й не трэба Радзімы такой...»). Такія радкі могуць прамовіцца толькі ў хвіліну вялікага адчаю (прыгадаем ранейшыя радкі з уступу: «Ад Радзімы, // Якой ні была б, // Не адракуся ніколі я...»).

Нібы падсумаванне да сказанага і выплаканага — таксама плач, але не плач-адчай, а хутчэй плач-надзея: «Божа, змілуйся... // Дзе я? // На Страшным судзе? //

Дык чаму ж // Адымаеш ты сілы? // Дай дайсці мне... // Наперадзе там // Засвяціла // Лілея на цёмнай вадзе... // Лілея на цёмнай вадзе...»

Хочацца верыць і спадзявацца, што беларусы пачуюць паэта і зробяць усё магчымае, каб Радзіма насамрэч расцвіла, як серабрыстая лілея на вадзе...

Што да кніг-альбомаў «Нетры» (2004) і «Палын» (2005), падрыхтаваных сумесна з мастаком Міхасём Барздыкам, то яны пакідаюць самае прыемнае ўражанне. Абедзве кнігі прадуманы да кожнага штрыха і выдадзены на высокім паліграфічным узроўні. І невыпадкова на Міжнародным кніжным кірмашы ў Франкфурце-на-Майне 2005 года, дзе былі прадстаўлены кнігі больш як 10 тысяч выдавецтваў са 135 краін свету, «Нетры» ўвайшлі ў лік ста найлепшых кніг свету, а на Міжнародным конкурсе ў Бельгіі (2006) «Нетры» і «Палын» адзначаны залатым медалём.

Калі ж разгледзець літаратурны матэрыял асобна, то можна сказаць, што паэт імкнуўся не страціць таго запалу, які ён прадэманстраваў у кнізе «Пяро зязюлі падніму». У сумесных кнігах-альбомах трэба было прытрымлівацца пэўных тэматычных пластоў, не выходзіць за межы агульнай задумы, і таму, як мне падаецца, вершы паэта не маюць такой раскаванасці, нязмушанай вольнасці (ці вольнай нязмушанасці), як, прынамсі, у кнізе «Пяро зязюлі падніму». Хаця выдатна, што паэт дэманструе перад чытачом сваё бачанне пэўных з'яў, пэўных праблем. Вельмі добра, што побач даюцца і пераклады на рускую (у «Нетрах») і на рускую і англійскую (у «Палыне»). У гэтай сувязі варта адзначыць пераклады вершаў на рускую мову, зробленыя Андрэем Цяўлоўскім. Яны ўражваюць лёгкасцю радка, поўнай перадачай інтанацыйнай структуры вершаў, іх сэнсавай напоўненасці.

Задума як адной, так і другой кнігі дазваляла паэту шырока выкарыстаць матэрыял ранейшых сваіх зборнікаў. Асабліва гэта бачна пры знаёмстве з альбомам «Палын». Тут толькі чатыры новыя вершы. Куды больш новых твораў у «Нетрах». Некаторыя з іх уражваюць сваёй жывапіснасцю і дэталізацыяй вобраза, як, напрыклад, «Яблычны Спас»:

Святочна апранутаю
Кабетай
Рассядзецца на лаве
Важна лета:
Спакусай млеюць
Сонечныя грудзі,
Гарачы шал
І вецер не астудзіць.
Смяецца звонка,
Весела гамоніць,
Трымае
Яблык спелы
На далоні...

Акварэльна-тонка выпісаны вершы «***Серабрыстай павуцінкай...», «Бабіна лета», «Дарога», «Ліпень», «Замарожанае рэха», «Сіні сон», «***Стоена, стоена...» і інш. У творах «***Пракрычыць душа...», «***Жораў вячэрні...», «Паэзія», «Радзіма», «Не захінайце неба зайздрасцю», «Credo» ёсць трывога, смутак, боль, спадзяванне. Яны вылучаюцца ўсё тым жа аўтарскім неспакоем за лёс Бацькаўшчыны, за лёс паэта і паэзіі і тэматычна як бы працягваюць гаворку, распачатую ў паэме «Лілея на цёмнай вадзе». Ягоныя вершы-споведы, адрасаваныя часцей Айчыне, чым жанчыне, несумненна, паслужаць справе выхавання новых пакаленнў шчырых беларусаў. А гэта, зрэшты, на сёння ці не самае галоўнае...



**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

# СТАРАЯ НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## *Рэцэнзія ў форме эсэ*

Хто не ведае славутую паэму Якуба Коласа «Новая зямля»? Міхал, паміраючы, дае Антосю такі наказ:

Вядзі ж ты рэй, вядзі... адзін...
Як лепшы брат, як родны сын.
Бог не судзіў мне бачыць волі
І кідаць зерні ў свае ролі.
Зямля... зямля... туды, туды, брат...

Зямля для нашых дзядоў і прадзедаў была неацэнным скарбам, і той, хто меў зямлю, меў і сваю гаспадарку, і ўсё, каб неяк жыць. Зямля была асновай жыцця селяніна.

Якія ж змены адбыліся на роднай зямлі за нейкае стагоддзе? І перш-наперш у жыцці селяніна, у жыцці беларускай вёскі?

І вось я трымаю ў руках новую кнігу паэзіі Міколы Маляўкі з крыху незвычайнай у нашы дні назвай «Старая зямля». На тытульным лісце пад назвай кнігі стаіць падзагаловак: «Санеты, спавітыя дзеразой».

Мікола Маляўка родам са Стаўбцоўшчыны — тых самых мясцін, дзе некалі жылі героі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Тое, што ўсё ў гэтым свеце змяняецца і старэе, — не навіна. Галоўнае, як гэта адбываецца, і найбольшую цікавасць выклікае сам працэс гэтай як быццам усім зразумелай і заканамернай з'явы, вядома ж, у канкрэтных гістарычных умовах і сацыяльна-грамадскіх абставінах.

### *Аўтар і герой кнігі*

Паэт Мікола Маляўка — адзін з таленавітых прадстаўнікоў сучаснай беларускай паэзіі, якія носяць ганаровы тытул землякоў класіка роднай літаратуры Якуба Коласа.

У гэтай кніжцы (менавіта кніжцы, а не зборніку вершаў) трыста тры санеты і дзве вершаваныя ўстаўкі. Сабраныя разам, у часавай паслядоўнасці, яны ў пэўным сэнсе трацяць сваё першапачатковае амплуа і ператвараюцца ў строфы паэмы — калі не рамана, напісанага вершам, — паэмы, прысвечанай роднай Мікалаеўшчыне, вёсцы са слаўнай гісторыяй, добра вядомай у Беларусі. Да яе быў прыпісаны і засценак Акінчыцы, дзе ў 1882 годзе ў сям'і лесніка нарадзіўся Канстанцін Міцкевіч — будучы народны паэт Беларусі Якуб Колас.

Жыхары Мікалаеўшчыны і навакольных вёсак называюць яе Мікалаўшчынай, а сябе — мікалаўцамі.

Строфамі паэтычнай кнігі Міколы Маляўкі сталі класічныя санеты (з рэдкімі інтанацыйна-метрычнымі адхіленнямі ад жанравага канона), якія па сваёй архітэктоніцы і колькасці радкоў нагадваюць анегінскія строфы, толькі напісаныя не чатырохстопным, як раман Пушкіна, а пяцістопным ямбам.



*Мікола Маляўка, «Старая зямля». Мінск, 2005 г.*

Строфы вялікага паэтычнага палатна ў форме санетаў — такога яшчэ не было ні ў беларускай, ні ў іншых, прынамсі, славянскіх літаратурах. На гэта, бясспрэчна, трэба было адважыцца. Салонная вытанчанасць санетнай формы, якая вызначаецца строгасцю версіфікацыі і тэматычнай абранасцю, можа паставіць перад паэтам нямала творчых праблем, нягледзячы на тое, што ён віртуозна валодае санетнай версіфікацыяй. І ў нас ёсць усе падставы аднесці кніжку санетаў Міколы Маляўкі «Старая зямля» да ліра-эпічнага жанру паэзіі.

Гэта — вялікае паэтычнае палатно, якое ахоплівае жыццёвую рэальнасць Беларусі другой паловы XX стагоддзя, і тэматычна такое ж драматычнае і разнастайнае, як і само жыццё. Прытым у «Старой зямлі» лірычная аснова мастацкага твора насычана паэтычнай дакументалістыкай і непрыхаваным публіцыстычным пафасам.

Прататыпам лірычнага героя «Старой зямлі» з'яўляецца сам аўтар, паэт Мікола Маляўка, паходжанне і біяграфія якога ідэнтычныя біяграфіі яго героя. Кніга адлюстроўвае жыццё рэальнай вёскі, і ў ёй няма нічога, што можна было б аднесці да мастацкай выдумкі.

Сюжэт кнігі склалі ўражанні (і, вядома ж, успаміны) «вясковага гараджаніна» ад паездак у сваю вёску на працягу сарака пяці, калі не болей, гадоў. Тут ён нарадзіўся, адсюль, скончыўшы школу, выйшаў у свет.

Надзелены пяшчотнай і ўражлівай душой, неабыякавы, назіральны чалавек, якому абыходзіць усё, што адбываецца і на свеце, і на роднай зямлі, у горадзе і ў вёсцы, герой кнігі Міколы Маляўкі не можа не зацікавіць чытачоў тым, што ён бачыць вакол. Колькі добрых і кепскіх, вясёлых і сумных навін чакае яго ў незабыўных і дарагіх мясцінах!

Бяры да Мікалаўшчыны білет —
І сон дакументальны явай стане.

У «Старой зямлі» — усё дакументальнае: імёны, прозвішчы, мянушкі мікалаўцаў, як і іх няпростыя і нялёгкія жыццёвыя лёсы.

Як і ў кожнай вёскі, у Мікалаеўшчыны — свая прапіска. Паблізу няма ні вялікіх гарадоў, ні шумных магістральных аўтастрад. Затое ёсць Нёман! І варта пачуць назву гэтай легендарнай, дарагой кожнаму беларусу ракі, як на памяць прыходзяць знаёмыя ўсім са школьных часоў радкі з незабыўнай «Новай зямлі»:

І дзе на свеце ёсць такая,
Як Нёман, рэчанька другая?

Нёман «працякае» праз усю кнігу Міколы Маляўкі. І «ціха дыхае пад кручай, спакоем жывіць, сілаю гаючай», і, бывае, у паводку выходзіць з берагоў, шуміць, бунтуе, «морам стаўшы нечакана». У адзін са сваіх прыездаў на радзіму героя «Старой зямлі» сустракае сумная вестка: крутая хваля збіла з ног дзетак, — і яны загінулі.

Чаму ты, Нёман, чуйны, добры гэткі,
Не перасох ад плачу, як ручай,
На месцы тым, дзе патанулі дзеткі?

З гэтым змірыцца немагчыма, але такое чалавечае жыццё.

Мікалаеўшчына стаіць на правым беразе Нёмана і назву сваю, паводле падання, атрымала ад імя палясоўшчыка Мікалая.

З паданнем кожны згодзіцца, бадай.
На Нёман ціхі, пад лясныя шаты,
Паны з'язджаліся на ловы-святы.
І палясоўшчык княжы, Мікалай,
Дзічыну гнаў на іх — адно страляй.
..................................................
Паверым, з леснічоўкі Мікалая
І вышлі ўсе мы, вёска немалая.

### *Мікалаеўшчына*

Мікалаеўшчына, якой магло б і не быць, каб не панскія забавы, са сваімі хутарамі, былымі засценкамі, навакольнымі маляўнічымі мясцінамі не проста вялікая вёска, а цэлы «мегаполіс», у якім жывуць і працуюць людзі ўсіх прафесій, патрэбных насельніцтву, — ад каваля да музыкі.

Лячу душою я, зямляк далёкі,
Да вас, Альбуць, Ласток, Канцывалокі,
Дуброўкі, Смольня, Клешчыцы, Маргі —
Куточкі лесавыя, палявыя:
Да радасці маёй, маёй тугі
Даўно вы — ілюстрацыі жывыя.

У Ластку і Альбуці прайшлі раннія дзіцячыя гады Якуба Коласа, а ў Смольні створаны музей паэта.

Першае, што кідаецца ў вочы пры наведванні беларускіх вёсак (магчыма, больш дакладна сказаць, кідалася), гэта маякі, якія стаялі на самых высокіх мясцінах ваколіцы і былі абавязковым сімвалам часу. А вось кузні і ветракі былі крыху наводшыбе і таксама на пагорках — зусім не сімвалічна і не дзеля красы: яны забяспечвалі вяскоўцаў прыладамі працы і хлебам надзённым, і калі кузня звяртала на сябе ўвагу несціханым звонам і грукатам, дык вятрак яшчэ здалёк зачароўваў пагляд няспынным і бязгучным рухам сваіх вялізных крылаў. А хіба можна было не заўважыць на лясной паляне цыганскі табар?

Касцёр на ўзлессі ўсё яшчэ не згас,
І бачу цыганят — вясёлых, босых:
Вандроўны табар быў тады для нас
Тэатрам чарадзейным на калёсах.

Тады — у незабыўныя гады дзяцінства, адным з яскравых успамінаў для паэта быў і прыезд анучніка. Чаго ў яго толькі не было! «Нажы, пруткі, іголкі, напарсткі, ніткі, каснікі-вясёлкі, каралі, хусцінкі... «А мы пыталі, ці свісцёлкі ёсць?» Вядома ж, у анучніка было ўсё! І паэт прызнаецца: «Я гатовы быў кашульку зняць — за пеўніка ці салавейку з гліны».

Пра пеўнікаў у «Старой зямлі» аўтар не згадвае, а вось пра буслоў, салавейкаў, жаўранкаў і шпакоў, якія «спявалі на ўвесь сельсавет», ні аўтар, ні галоўны герой кнігі не забылі. І не толькі пра іх:

Ці бачыў хто, як верабейка плача?
І холадна, і голадна яму
Каля пустой кармушкі, аднаму.

Мы «песцім увагай» буслоў і жаўранкаў, складаем пра іх казкі, прысвячаем песні. А вось верабейкам даводзіцца нялёгка, асабліва зімой, калі на дварэ пранізлівы вецер, і за крошку хлеба трэба «сварыцца з сарокай». Аднак ім «і гордыя буслы зайздросцяць там, у Афрыцы далёкай».

Не менш радуе і хвалюе душу паэта раслінны свет прынёманскага краю і, вядома ж, самой Мікалаеўшчыны — ясені, бярозы, ліпы ўздоўж вуліцы і вакол школы. І за кожнай хатай — сады:

Лячу сваю вясковую душу
Зялёным лісцем і травой зялёнай.

### *Настаўнікі, бацькі, сябры*

Школа! Колькі ўспамінаў звязана з ёю! І каго-каго, а іх, настаўнікаў, паэт з удзячнасцю ўспамінае ў кожны свой прыезд дадому. А жыццёвыя лёсы іх — складаныя: ГУЛАГ, вайна, выпрабаванні ў мірны час і непазбежныя страты. Многіх Мікола Маляўка называе пайменна, як і славутых людзей свайго краю (Язэп Лёсік, Леанід Біруля), як і майстроў на ўсе рукі — печнікоў, сталяроў, муляраў, майстроў пляцення кошыкаў, вырабы якіх сталі сапраўднымі творамі мастацтва. Пра дзесяткі трагічных лёсаў сваіх землякоў, родных і блізкіх расказвае паэт у кнізе.

Радкі збіраў я сэрцам і душой,
Як кветкі, рассыпаліся санеты...

Спырснуўшы іх расою, паэт з любоўю спавіў свае санеты дзеразой, і вось яны ў «адным букеце» зазззялі на сонцы сціплаю красой усіх пор года.

Праўда, у гэтым букеце не менш санетаў, якія апякаюць болем душу, санетаў, прысвечаных і лёсу роднай вёскі, па якой у XX стагоддзі бязлітасна прайшоўся пажар. Мікалаўцы паднялі яе з попелу, і —

Не ў казцы нейкай, а ў жыцці скупым
Старая вёска стала вёскай новай.

Да жыцця сваіх бацькоў і родных, сваіх равеснікаў і аднавяскоўцаў можна зайсці па сцежцы ўспамінаў, з якой ніколі не хочацца вяртацца назад, у рэальнасць, асабліва калі ты блукаеш па сцежках, пратаптаных бацькам. І вандроўкі на цягніках, параходах, самалётах «не варты сцежкі бацькавай адной, нагамі пратаптанай на радзіме».

Што дапамагло бацьку вярнуцца з франтавых дарог дамоў, вярнуцца з Перамогай? Апрача ўсяго, і ён, сын, які стаўшы «бацькавай трывогай на фронце», бярог яго ад смерці.

Аднак пасляваеннае жыццё вёскі было нялёгкім, і, перакінуўшы «тоненькую кладачку ўспамінаў» у сваё маленства, паэт узгадвае, як бацька казаў: «Ох парадкі! Прыдумаюць падатак на падаткі — і хоць жывы ў труну кладзіся, брат».

Вобраз маці пранізвае пяшчотным святлом увесь «букет санетаў».

З даёнкай у руках, з вянком цыбулі
Якія вы прыгожыя ў жыцці,
Жанчыны нашы — маці і бабулі!

І паэт лічыць дні, каб хутчэй вярнуцца ў «хату з матчынай душою». У родных мясцінах сустракаешся з прыгажосцю на кожным кроку: не толькі ў садзе, лесе, на Нёмане, які ў засуш пакінуў старое рэчышча і праклаў сабе новае, але і ў хаце. Зімою мароз на вокнах малюе свае палотны, ператвараючы іх у карцін-



*З пісьменнікамі-землякамі Я. Хвалеем, К. Камейшам, А. Камароўскім і мастаком Я. Ларчанкам, які афармляў кнігу М. Маляўкі.*

ныя галерэі. А вясною маці дастае з куфра свой «кужэльны скарб», які выносіць з хаты і прасушвае на сонцы, ствараючы рукатворны кветнік, і над гэтым скарбам, шукаючы нектар, «кружыцца пчолка залатая».

А як не ўспомніць цётку Маню, якая любіла дзяцей сястры, як сваіх, і была такой жа добрай і ласкавай, як мама! Або хросную маці, у якой хоць і няма сваёй сям'і, але затое яна, як ніхто іншы, мае паўвёскі пляменнікаў і хроснікаў.

У землякоў паэта быў «мужыцкі сан», і ўсё, чым бы ні займаліся, рабілі пагаспадарску дбайна, грунтоўна. Хто падсочваў сосны, хто сталярнічаў, хто шыў вопратку, хто лячыў мікалаўцаў ад усіх хвароб. А кладаўшчык, нібыта чараўнік, частаваў дзяцей вясковымі прысмакамі і загадкамі.

Гарохам, кукурузнымі зярняткамі.
І ў сад вадзіў на казачны пчальнік,
Каб нам, гасцям, «падсаладзіць язык».
Яшчэ і цешыў хітраю загадкай:
«Хто падарожнічае разам з хаткай?..»

У букеце санетаў — у кожнага чалавека свая кветка.

Каго ж яшчэ нельга забыць, перакідаючы тоненькую кладачку ўспамінаў? Ну, вядома ж, таго, хто прыносіць людзям праменьчыкі радасці ў канвертах, — паштальёна. Я назваў не ўсіх, каму прысвяціў калі не санеты, дык асобныя катрэны і тэрцыны герой і аўтар «Старой зямлі».

### *Успаміны, успаміны, успаміны...*

Непрыкметна прыходзіць час, калі ўжо «не выйдзе з хаты мама, не абдыме». Ды як жа лёгка дыхаць на радзіме! Нават тады, калі даводзіцца сказаць:

Асірацеў мой спадчынны куток, —
І ходзікі не цікаюць, заснулі,
І печ астыла за зіму, як ток,
І змрочна ў хаце без вянкоў цыбулі.

Убачыўшы стары пажоўклы фотаздымак, на якім ён стаіць у абдымку з канём, паэт вяртаецца ў мінулае. Рэальнасць міжволі прымушае зрабіць не зусім вясёлую выснову:

Дарэмна я стараюся знайсці
Падкову шчасця на сваёй дарозе.

Тым больш, што і сустрэчы з роднай вёскай наводзяць на сум: каля хат ужо ніхто не сядзіць на лавачках, і няма каму спытаць: «Як жыў-здароў?» А сэрца апальвае думка:

Чаму я сам у веку маладым
Саромеўся спытаць пра іх здароўе?

Ластаўка, якая нечакана заляцела ў прыбудоўку, навявае згадкі пра маці: можа, гэта матчына душа прыляцела ў адведкі?

Побач з вобразам маці праз усю кнігу праходзіць вобраз каханай і вобразы тых дзяўчатак, якія пакінулі ў сэрцы непагаснае святло. І першай гэта зрабіла... маладая настаўніца, «гарадская чараўніца», якая і сама яшчэ глядзелася як школьніца. Менавіта яна «прынесла вясну» свайму вучню.

І, тоячы ад хлопцаў хваляванне,
Я ў школе думаў пра яе адну:
Імя шаптаў, нібы кранаў струну,
І слухаў мілых літарак гучанне.
Чакаў урокаў новых, як спаткання,
Акрылены, лятаў у небе сну.

А з кім гэтага не было! І самае загадкавае тое, што нам, падлеткам-юнакам, прыносілі вясну задоўга да першых пралесак не нашы равесніцы ці аднакласніцы, а маладзенькія настаўніцы, бібліятэкаркі, доктаркі... адным словам, выпадковыя прыгажуні, звычайна на пяць-сем гадоў старэйшыя за нас, якія траплялiся на нашым шляху. І чамусьці ўсе мы шукалі гэтых чараўніц не побач — у сваім класе, школе ці вёсцы, а «недзе там... за Нёманам». Наўрад ці я памылюся, калі скажу, што абсалютна ўсё тое, што перадумаў і перажыў герой «Старой зямлі», перажылі і перадумалі мы, яго равеснікі, хто б дзе ні жыў. І, думаю, не толькі равеснікі.

У дзяцей і падлеткаў-школьнікаў — два жыцці: адно — у школе, другое — дома, у дарослым свеце бацькоў, суседзяў, аднавяскоўцаў. Спасцігаючы і адно, і другое жыццё, мы набіраліся ведаў, паступова ўзбагачаліся горкім жыццёвым вопытам, непрыкметна сталелі і на ўсё пачыналі глядзець іншымі вачыма.

У кожнай вёсцы жывуць франтавікі, параненыя і пакалечаныя на вогненных дарогах вайны. Жыве светлая памяць пра тых, хто не вярнуўся дамоў з Перамогай:

Ні хаты ў чалавека, ні сям'і,
А толькі прозвішча на абеліску.

А мы, дзеці вайны, як і герой «Старой зямлі», перажылі пасля вайны і голад, і холад, і нястачы.

«Люблю я ў вёску прыязджаць адзін», — прызнаецца паэт. І кожны такі прыезд выклікае нейкія згадкі. Варта камусьці ўспомніць пра кросны, і ў памяці міжволі ўсплывае калыханка, «вытканая з гукаў». Варта зайсці да старога музыкі і ўбачыць у «цямніцы футарала» скрыпку, як паэт прысвячае «царыцы музыкі»

некалькі паэтычных радкоў, заўважыўшы, што калі па радыё загучыць скрыпічная музыка, яна міжволі адгукаецца ёй сваімі струнамі.

Грудок, стары мост... Ніколі не мінеш, не ўспомніўшы школьныя гады — гульні, забавы, спектаклі, танцы, першыя захапленні і блуканні ўдваіх. Ці можна параўнаць цяперашнія дыскатэкі з танцамі на драўляным насціле, абгароджаным бярозавымі галінкамі! На мосце, пад начным зорным небам.

Успаміны, успаміны, успаміны... З гадоў дзяцінства, школьнага юнацтва, вясёлага і тлумнага жыцця-быцця ў студэнцкім інтэрнаце, калі матуля нечакана перадавала праз кагосьці гасцінец: вясковую булку, сыр, кавалак сала, колца каўбасы.

## *Заняпад*

Але чым далей, тым болей сумных навін і змен у вёсцы. Выраджаецца зямля, трацячы сваю прыгажосць і багацце. Адкуль з'явіўся нездаровы «дух марнатраўства»? І ўвогуле, з чаго пайшоў заняпад беларускай вёскі? З асушэння балот — нашай неразумнай апекі над прыродай, калі са знікненнем грунтовай вады пачалі засыхаць лясы, а са знікненнем крыніц — перасыхаць рэкі і азёры? Якія падзеі нашай рэчаіснасці паспрыялі з'яўленню чалавечай абыякавасці, чэрствасці, бесчалавечнасці? Не стала на градах «макавага цвету», а сам мак з катэгорыі прысмакаў трапіў у чорны спіс наркотыкаў, як і спрадвечныя каноплі, без якіх не маглі абысціся нашы продкі, як і без ільну. З выміраннем раслiннага і жывёльнага свету, выкліканым асушэннем, пачалі загніваць і распадацца чалавечыя душы. І гэты распад пайшоў па гарадах, па вёсках, калечачы душы і жыцці маладых.

Чаго таіць, і гэта наша ява:
Які калгас, такая і дзяржава.
Над вёскай п'янай выраджэння знак.

П'янства, і як вынік — лянота, нядбаласць... Вось адкуль усё пачалося. З'явіліся свае, «вясковыя бамжы», якія не хочуць ні араць, ні сеяць, а толькі лазяць па чужых садах, гародах і скляпах.

Хто адкажа, як у працавітых і сумленных бацькоў з'яўляюцца такія дзеці? Ці, можа, нялёгкае жыццё ў вечных клопатах «пра нівы і пашы зніжала мары сонечныя нашы»? Аднак у краіне адбываліся падзеі, якія інакш, як эпахальнымі, не назавеш. Паляцелі ў космас ракеты, спадарожнікі — пачалі збывацца самыя патаемныя мары чалавецтва. І што ж?

Прывыклі да ракет, як да калёс,
Не стала ў іх палётах нейкай тайны.

І калі хто гаворыць, што бачыў «талерку» іншапланецян, адразу прыходзіць думка пра іх дапамогу. Толькі ці дапамогуць яны нам?..

Мікалаўцам Чарнобыль як быццам непасрэдна не пагражае («далёка мы ад пекла, мёртвай зоны»), аднак і яны купляюць дазіметры і ходзяць з імі па садах і лясах, шукаючы цэзій.

Атруту з сокам яблыня ўсмактала,
Атрутай сталі малако і сала.

І ніхто не ведае, калі «старая зямля» адродзіцца, зноў стане новай. А ладу няма яшчэ і таму, што невядома як парвалася сувязь эпох, пакаленняў.

Прыкмета нашага часу: у пчаліным вуллі жыве сабака. А калі ў садах і гародах няма пчол — буяе пустацвет.

Значыць, мяняецца час. А калі мяняецца час — мяняюцца і норавы, разбураюцца народныя традыцыі. І ніхто не заўважыў, калі і як з'явіліся жонкі-аднадзёнкі, і дзеці пры жывых бацьках робяцца сіротамі, а бацькі гуляюць і п'юць.

Была бальніца. Адкрывалі — білі ў звон. Але гэта было раней, пры савецкай уладзе. А цяпер яе закрылі — навошта лішні клопат? А з часам «збегла за Нёман» і аптэка.

І вырастае над магілай крыж,
Без лекаў паміраюць старажылы.

І ўжо на пагорку ў полі, на ціхіх вясковых кладах мікалаўцаў, «сяброў і родных болей, чым жывых». Цяпер найцяжэйшай дарогай стала дарога адтуль, з далёкай памяці, дарога вяртання назад.

А самая лягчэйшая дарога —
У памяць, да бацькоўскага парога.

Чаму — пытацца не трэба: «Там маладыя і жывыя ўсе».

А калі шмат «пражыта і перажыта», з'яўляецца і яшчэ адна дарога — дарога «да самога сябе», пачынаеш прыглядацца і да таго, на што калісьці не звяртаў асаблівай увагі.

Наш час — гэта час тэхнічнай рэвалюцыі, новых тэхналогій, і, хоць папяровыя кветкі з'явіліся даўно, чамусьці толькі цяпер яны сталі «прыкметай нашага часу».

Яны, як смутку і жалобы знак,
І не люблю я кветак папяровых
Ні ў хаце, ні на плітах мармуровых.

І не толькі на магільных плітах бацькоў, дзядоў, а ўжо і на магілах нашых равеснікаў, сяброў. А ці даўно быў час, калі «гукала вёска на вяселлі нас»? Цяпер жа ўсё часцей і часцей «на пахаваннях плачам».

Калі «пражыта шмат, а болей перажыта», трэба не толькі шкадаваць аб страчаным, жыць успамінамі, але і думаць пра будучыню. І паэт стараецца заглянуць у дзень заўтрашні, разважае, што трэба рабіць, каб на старой зямлі закрасавала новае, шчаслівае жыццё. Як запавет нашым дзецям і ўнукам гучаць яго словы:

Шкада, не ўсю красу мы захавалі,
Будуючы эдэм з агню і сталі.
Не паўтарайце нашых горкіх слёз
І беражыце родны свет, нашчадкі, —
Увесь,
Ад ніў і рэчак — да нябёс,
Ад храма ў вёсцы — да птушынай хаткі.

Кніга санетаў Міколы Маляўкі «Старая зямля» — цікавая з'ява ў сучаснай беларускай паэзіі. Лёс роднай вёскі паэта — гэта лёс усіх беларускіх вёсак, а лёс мікалаўцаў — лёс усяго вясковага насельніцтва Беларусі.



Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ПРЫРОДА ТАЛЕНТУ

Учытваючыся ў вершы і празаічныя тэксты Хрысціны Лялько, збольшага ведаючы варункі яе жыцця і яе самую, я заўжды схіляўся да думкі, што акаляючы свет, Прырода ўвогуле, былі ёй ад нараджэння своеасаблівай *духоўнай брамай* — **уваходам у Новы Запавет**. Чалавеку, які нарадзіўся і вырас у прылесным хутары, з бярэзнікам пад акном і з барвова-пышнымі півонямі ля парога, з пахам мурагу на скошаным поплаве і са смалістым азонам ад свежанаколатых дроў ды з цурком цёплага малака на сасмяглых вуснах перад заходам сонца пад бяссонна-спагадлівай вартай мацярынскіх вачэй, — немагчыма не нажыць вялікай грахоўна-спавядальнай душы. Між іншым і сама будзённая проза яе вясковага жыцця не абыходзіла, няхай і рэдкай, але пранізлівай лірыкі. Як, скажам, у апавяданні «Касцы»:

*«Асцярожна, як баючыся парушыць цнатлівае харство наваколля, апускаў Яська касу. Пакорліва паддаваліся, падалі ружовыя, трапяткія маланкі, падатліва-мякка слаўся ў пракос духмяны, у зялёных, што маладыя гуркі, стручках аер, купчаста клалася густая, як сцягнуць касою, балаціна, пахла свежаю рыбаю, рачным глеем, водарасцямі.*

А да таго ж творчая натура Хрысціны Лялько ўвесь час прагла наладзіць пераходныя масты паміж халодным розумам і гарачымі пачуццямі, прывесці да гармоніі прозу і паэзію, калі не агульначалавечага, то хоць бы свайго ўласнага жыцця:

Разам са з'яўленнем *паэзіі* паўставала і неадступнае пытанне яе таямнічасці: а **што** *яна* такое? Бог ведае *што*. Бо хто ж яшчэ, калі *талент* ад Яго, а значыць, і сама сутнасць паэзіі.

І ўсё ж, калі творчая натура пачынаецца з паэзіі, то сталее яна прозай, на разладзе душы і плоці, быцця і побыту... Не абышло гэта і Хрысціну Лялько. Аднойчы правінцыйная драматургія жыцця спакусіла яе грубай, але праўдзівай глыбінёй прозы і тыя некалькі вершаваных публікацый у рэспубліканскім друку адышлі на другі план, забыліся самой і чытачамі. Бо насамрэч празаічны дэбют маладой аўтаркі адразу набыў шырокі розгалас, сваіх прыхільнікаў і класічных літаратурных апекуноў-ахоўнікаў (Я. Скрыгана, Я. Брыля, Н. Гілевіча). *«Маладыя гады, маладыя жаданні»*, выхад у свет і масцітая падтрымка адцíснулі безабаронную, ледзь-ледзь апераную паэзію ў самы цёмны закутак чалавечай свядомасці. І там пакінулі яе ў адзіноце. Але зусім пазбыцца *запаветнага* чалавеку немагчыма. То тут, то там, як непаседлівае цікаўнае птушанё, яна падавала свой світальны голас пасярод падступаючай зямной празаічнай мітрэнгі.

І ўжо ў аповесці «Лес» Х. Лялько піша вершы за свайго галоўнага героя, фатографа Андрэя Багунца, які *«даўным-даўно забыў пра існаванне гэтых наіўных дзіцячых запісаў. А, па сутнасці, з іх пачыналіся яго, Андрэевы* (яе, Хрысцініны. — **Л. Г.**)*, творчыя пакуты. Ён потым пісаў Галі шмат вершаў, але яна заўсёды аставалася да іх раўнадушная, а можа, хацела здавацца такою...»* Далёка не адыходзячы, выкажу тут магчыма спрэчную думку, што нездарма Хрысціна Лялько ўклала свае вершы ў мужчынскія вусны. Бо насамрэч яе зарыфмаваныя

словы зачароўваюць нас не так «чыстай красой», як «сілай і розумам» — досведам і развагай. Будзённае жыццё паэткі на хутары без бацькоўскіх рук вымагала ад яе натуральнага чалавечага прагматызму. Усё ў гэтым жыцці давалася ёй карпатлівай працай (рук, галавы, душы і сэрца), у тым ліку і літаратура. Чытаючы яе прозу, а цяпер вось і вершы, не натыкаешся ў іх раз-пораз, як у тэкстах пераважнай большасці сучасных літаратараў, на запазычаныя кніжныя мудрошчы, пустое сарочае стракатанне і заказную рыторыку. Слова, думка і пачуццё тут знітаваны суровай кужэльнай ніткаю не абы з рук і не абы-як, не на адзін дзень, а — майстравіта і надзейна...

Як ні дзіўна, два з тых вершаў *«Андрэя Багунца»* ўключаны Х. Лялько і ў гэты, рэцэнзуемы тут, зборнік «На далонях любові» з візуальна незаўважнымі касметычнымі зменамі (мо каб не западозрылі ў *«плагіяце»*). Гэта вершы 1983 года «А бярэзнік — задзьмутыя свечкі...» і «Страх» 1980 года.

Паэзія, як бачым, жыла ў душы Хрысціны Лялько з самага дзяцінства і ніколі не згасала ў ёй, а толькі хавалася ў патаемным закутку сваёй моўкнасці...

І ўсё ж, *калі вярнуцца да вытокаў*, як звыкла пішуць класікі, то самы першы свой верш Хрысціна Лялько надрукавала ў пятнаццацігадовым узросце (1971) і гэта адназначна гаворыць пра яе сур'ёзнасць да ўспрымання чалавечага жыцця, пра цвярозае сузіранне яго, глыбокую развагу і прадбачлівую тугу па ім...

*І тчэцца павуцінкай кволай*
*Мая туга над полем голым.*

Які гэта шчыры і непадробны вобраз дзявочага нявіннага часу, заключаны ёю ў гэтай *кволай тузе*, яшчэ на самым пачатку свайго зямнога жыцця, па сутнасці, у яго *голым полі...*

І метафара вельмі жывая, як сказаў бы вясковы і лясны па нараджэнні чалавек, *відомая*:

*Пужлівы ліст асіны дрогкай*
*Узняў на ўзлеску рыжык крохкі.*

На мой погляд, нічым не саступіць радкам колішняй школьнай выпускніцы Я. Янішчыц, хіба толькі заціснутай у кулак, свядома зняволенай эмацыйнасцю. Хоць, вядома, у такіх выпадках не абыходзіцца без вучнёўства і ненаўмыснай (падсвядомай, начытанай) запазычанасці:

*У старане маёй лясной і ціхай*
*Блукае восень рыжаю ласіхай.*

Які ўжо раз, услед за Сяргеем Ясеніным, паўтарылі гэтае параўнанне расійскія і нашы паэты (*«Осень, рыжая кобыла, чешет гриву»*) ?!

Альбо:

*Яблык самы апошні*
*Спалохае ціш начную.*

У абазнаных прыхільнікаў паэзіі гэты вобраз адразу выкліча з памяці шырокавядомую асацыяцыю з Васіля Зуёнка (*«...ніхто не пачуў: яблык упаў дасвеццем — ля Халопеніч (...) А шар зямны здрыгануўся...»).*

Зусім іншая справа з вершамі сталай Хрысціны Лялько. Не тое, што тут яе мастацкі свет філалагічна падпраўлены ці зрабіўся больш устойлівым на фундаментальных камянях нажытага вопыту, а проста кожнае выбаленае ёю слова нарэшце знайшло сабе спагаду і падтрымку збоку іншых акаляючых слоў, і ўсе яны выстраіліся і згуртаваліся з адной прагай і дзеля адзінай мэты — умясціць у сябе сэнс жыцця іх уласніцы-паэткі. І словы тыя, між іншым, з некалі прыгонна-наёмных і залежных ад волі аўтара, цяпер сталі , хоць і прыручанымі, але самаснымі і свабодалюбівымі. Шчыра прызнаем, што на падобную творчую эвалюцыю траціцца немалая доля чалавечай душы, але чым больш яна траціцца, тым больш і набывае... **Душа расце**, не раўнуючы, як раса на досвітку.

*Пакутаю напоўнена душа*
*і перажытым колісь, і адчутым.*

*Высокая нядзельная Імша*
*бывае самай светлаю мінутай.*
*А што яшчэ мой супакоіць дух,*
*суніме страсці ў гэтым грэшным целе...*
*Я на калені стану у касцеле,*
*пакуль агеньчык свечкі не патух.*

Шчыра кажучы, іншым разам здаецца, што вершам Хрысціны Лялько не стае жаночай эмацыянальнасці і экспрэсіі... Але гэта, на мой погляд, у пэўнай меры кампенсуецца ўнутрана стрыманай (прагматычнай) рытмічнай пругкасцю паэтычнага радка... Больш здзіўляе адваротнае — не сцішанасць, а моўкнасць бальшыні логасэнсаў. Хоць, здавалася б, у прозе столькі слоў, што для паэзіі аж залішне. Працей кажучы, для вершаў заўжды не ставала ўсяго некалькі запаветных слоў з іх празаічнай безлічы... Але ж паэзія патрабуе не многіх, а неабходных слоў... Быў пэўны перыяд час, калі Хрысціна Лялько ўвогуле не практыкавала ў метафарычным мастацтве і, выйшаўшы на паэтычны бальшак, была змушана спрабаваць *«сказаться без слов»...* Але гэта ўжо — вышэйшы пілатаж!

У гэтым яе зборніку ажно адзінаццаць вершаў сведчаць пра аўтарскую знямеласць перад магчымай ісцінай.

У Ф. Цютчава ёсць знакаміты верш «Silentium!» («Маўчанне!»):

*Молчи. Скрывайся и таи*
*И чувства и мечты свои...*

Нешта падобнае адчувала і наша паэтка. Нібы да самой *крыніцы* Паэзіі, звяртаецца Хрысціна Лялько да *рэчкі свайго маленства,* жадаючы *прыпасці да* яе *парэпаных вуснаў...* Слова заўжды прыцягвала яе сваёй светлай паднебнай вышшу, і менавіта Яго прагла яна ўсёй сваёй зямной сасмягласцю...

*Наканавана век маўчаць.*
*Я гэта добра, добра знаю...*
*Уваскрасаю, паміраю —*
*Не маю права Вам сказаць.*

Гэтак піша яна ў 24 гады (1980). А праз 10 гадоў (1990) зноў заяўляе:

*Што адкажу і дзе знайду я словы?*
*Гляджу на скамянелую зямлю,*
*Такую ачужэлую й сваю,*
*І адчуваю, што не маю мовы.*

Яшчэ праз дзесяць гадоў (2000) увогуле гаворыць невымоўнае:

*Мова вачэй даўно перайшла мяжу,*
*Якую баяцца пераадолець словы. —*
*Невыказнасць пачуццяў.*

Кожнаму, хто мае досвед у мастацкай літаратуры, вядома, што ёсць тэкст і падтэкст, што першы пішацца словамі, а другі напаўняецца інтуітыўным сэнсам гэтых слоў. Ці не адсюль і гэты радок у Х. Лялько: *«На розных мовах гаворым — яднае маўчанне*?»

Узвышанасць і прыземленасць паэзіі залежыць ад таго, якімі словамі яна выяўлена — **паднебнымі** ці *паднябеннымі* (вымоўнымі ці невыказнымі, высокімі ці нізкімі)... Каб асягнуць высокія словы, трэба іх вымаліць — у прамым і ў пераносным сэнсе: у храме веры і ў сутарэннях цемры. Паэтка годна пераступіла парог Храма, выйсце з якога толькі *паднебнае...* Іначай бы не напісала гэтыя пранізлівыя радкі пра самага блізкага ёй чалавека.

*Раней кожны пражыты дзень*
*Набліжаў наша расстанне.*
*Цяпер кожны пражыты дзень*
*Набліжае нашу сустрэчу.*
*Такую формулу вывела я для сябе,*
*Каб выжыць тут без цябе, мама.*

Няўмольны час у рэшце рэшт пакідаў бы чалавека поўным сіратой, каб Бог не выратоўваў яго ад адзіноты. Тонкая і датклівая душэўная *«матэрыя»* Хрысціна Лялько заўжды адкрытая для суладнага і гарманічна-паразумелага суіснавання. На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя яна вырашыла для сябе галоўную маральна-духоўную задачу — служыць Богу.

І сабе і нам задае яна гэтае спрадвечнае беларускае пытанне, каб узвысіцца да сакраментальнага адказу:

*І крыж пакінуць немагчыма.*
*Мо толькі зняць на нейкі час...*
*Ён будзе ўсюды за плячыма,*
*аж покуль не уздыме нас.*

Асабіста я, перачытваючы большасць вершаў Хрысціны Лялько з гэтага зборніка, адчуваў нейкае як бы ўскоснае дачыненне да напісанага ёй. І разуменне і недаўменне ахоплівалі мяне — колькі, аказваецца, вершаў мы з ёй недапісалі?! Колькі ўсяго вымаўчалі, не спаганіўшы дар Божы...

Гэты яе зборнік, не ў апошнюю чаргу, цікавы яшчэ перакладамі і перастварэннямі рэлігійна-духоўнай паэзіі з польскай мовы. Караль Вайтыла (Папа Ян Павал II), Чэслаў Мілаш, Тадэвуш Ружэвіч, ксяндзы Ян Твардоўскі і Ян Сохань — гэта далёка не поўны пералік таленавітых імён, што спасцігалі і спасцігаюць сябе ў Паэзіі.

*Знайсці Бога — значыць зразумець:*
*Бог такі бясконца вялікі, што не здолее*
*Спасцігнуць Яго цэлы Сусвет,*
*І адначасна Ён можа прыйсці*
*Як безабароннае дзіцятка.*

Гэта радкі з верша «Выйсці ў дарогу» ксяндза Яна Твардоўскага. Хіба не такі і Паэт, які заўсёды не надта далёкі ад Бога, хоць бы праз тое, што надзелены Яго талентам. Мне падаецца, што ў дадзеным выпадку і паэт, і перакладчык *знайшліся* адзін у адным і сталі тоеснымі ў сваёй мастацкай аздобе. Хрысціна Лялько ўмее быць сабой і быць у сабе, а яе талент дазваляе ёй не толькі адкрываць сябе для іншых, але і самой быць адкрытай для людзей. Бадай, найлепш пра гэта ў прадмове да зборніка напісала Данута Бічэль: *«Як здзівіў мяне калісьці сваёй завершанай мудрасцю Хрысцінін хутар, так цяпер здзівілі мяне яе дасканалыя ў сваёй натуральнасці вершы, запоўненыя жывым зместам жывога жыцця»*. Ну што тут можна дадаць, хіба гэтыя выбітныя радкі ксяндза Яна Соханя:

*Ты адзінокі, — кажа свет.*
*Гэта нічога, — кажа Бог.*
*Церпім жа мы разам.*

Малітвы адпаведныя граху. Спадзяванні раўназначныя пакутам. Паэт перад Словам, як чалавек перад Богам. Якраз гэтак, як у вершах Хрысціны Лялько.





# МЕТРЫКА
*літаратурная*

**310**

гадоў таму быў заснаваны **Нясвіжскі школьны тэатр**. Існаваў да 1758 года.

**80**

гадоў таму выйшла першая кніга літаратурнага **альманаха «Уздым»**, які выдавала Бабруйская філія «Маладняка».

**25**

гадоў таму быў створаны **Тэатр-студыя кінаакцёра** Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм».

**ВЕРАСЕНЬ**

**3**

— **275** гадоў таму ў вёсцы Занкі Свіслацкага раёна ў шляхецкай пратэстанцкай сям'і нарадзіўся **Богуш-Сестранцэвіч** Станіслаў Іванавіч *(дзядзька В. Дуніна-Марцінкевіча)*, беларускі вучоны, лінгвіст, драматург, палітыка-царкоўны дзеяч.

Да 1761 года служыў афіцэрам у прускім войску і ў літоўскай гвардыі. У 1760 годзе прыняў каталіцтва, служыў настаяцелем у Гомелі і Бабруйску, канонікам і біскупам-суфраганам у Вільні, а з 1782 года — Магілёўскім арцыбіскупам. З дапамогай Кацярыны II атрымаў знак кардынала. З 1798 года быў мітрапалітам усіх рымска-каталіцкіх касцёлаў у Расійскай імперыі. Прыхільнік ідэй гуманізму і асветніцтва, спрыяў адкрыццю школ і развіццю кнігавыдавецкай справы на Беларусі. Заснаваў магілёўскую друкарню. Спачуваў паўстанню 1794 года. Аўтар твораў «Аб Заходняй Русі» (Магілёў, 1793), «Гісторыя Таўрыды» (Браўншвейг, 1800), «Гісторыя сарматаў і славян» (Санкт-Пецярбург, 1812), «Граматыка літоўская» (беларускай мовы, не выдадзеная). З'яўляўся членам Расійскай АН, Пецярбургскай медыцынска-хірургічнай акадэміі. З 1813 года быў прэзідэнтам Вольнага эканамічнага таварыства.

Памёр у 1826 годзе.

**3**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Залессе Салігорскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Сергіевіч** Мікола (Мікалай Антонавіч), беларускі празаік, нарысіст, драматург.

У 1934 годзе скончыў сямігодку і паступіў у Мінскі хіміка-тэхнічны тэхнікум, пасля заканчэння якога вучыўся (1937—39) у Аршанскім настаўніцкім інстытуце. Працаваў настаўнікам у школах Лёзненскага раёна на Віцебшчыне. У 1941 годзе завочна скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. У гады вайны быў сувязным партызанскага атрада, партызанам і рэдактарам старобінскай падпольнай раённай газеты «Савецкі патрыёт». Пасля вызвалення — яшчэ два гады працаваў рэдактарам гэтай жа газеты. Загадваў аддзелам, быў адказным сакратаром, намеснікам

галоўнага рэдактара «Настаўніцкай газеты» ў 1945—51 гадах. Працаваў у газетах «Звязда», «Комсомольская правда», «Известия». У 1955 годзе добраахвотна пайшоў працаваць старшынёй калгаса «Чырвоны пуцілавец» у Салігорскім раёне. У 1960—81 гадах працаваў у рэдакцыі часопіса «Народная асвета».

Першыя нарысы М. Сергіевіча з'явіліся ў рэспубліканскім друку ў 1947 годзе. Выйшлі дакументальныя кнігі «На роднай зямлі», «Нашы будні», «Вясковыя навіны» і іншыя. Напісаў п'есы «Райскія пеўні», «Спалох у вялікім доме», камедыю «Смех і... толькі».

Памёр у 2000 годзе.

**4**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Дуброва Смалявіцкага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Дуброўскі** (Чарняўскі) Ігнат Цімафеевіч, беларускі празаік, нарысіст, вучоны, заслужаны работнік культуры Беларусі.

Пасля заканчэння сярэдняй школы І. Дуброўскі працаваў загадчыкам магазіна спажывецкай кааперацыі ў сваёй вёсцы, справаводам сельсавета, пасля загадчыкам аддзела прапаганды РК ЛКСМБ у Астрашыцкім Гарадку. Адслужыўшы ў Чырвонай арміі (1927—28), паступіў і ў 1932 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках. Вучыўся ў аспірантуры пры Усесаюзным інстытуце эканомікі сельскай гаспадаркі ў Маскве (1932—36). Пасля пераезду ў Мінск працаваў загадчыкам сектара аграрных праблем Інстытута эканомікі АН БССР (1937—41). У пачатку вайны быў эвакуіраваны з сям'ёй у Пензу, а ў жніўні 1941 года пайшоў на фронт. Удзельнічаў у баях пад Масквой, камандаваў батарэяй. У красавіку 1942 года быў паранены і кантужаны і трапіў у фашысцкі палон. У канцлагеры для палонных савецкіх афіцэраў (г. Франфурт-на-Майне) быў адным з арганізатараў падпольнай групы. Пасля вызвалення накіраваны ў СА. У 1945 годзе, дэмабілізаваўшыся, вярнуўся на працу ў Інстытут эканомікі АН БССР. Да 1976 года працаваў у Маскве кансультантам Беларускага павільёна Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

Сістэматычна займаўся літаратурнай творчасцю пасля вайны, хоць вершы пачаў пісаць яшчэ ў 1927 годзе. У асноўным пісаў нарысы і прозу. Выдаў кніжкі «Зямля маладзее», «Зямныя вузлы», «Радня», «Гамоніць Палессе», «Час сеяць і час жаць», «Красна хата не толькі пірагамі» і «Нялёгкі хлеб: літаратуразнаўства».

Кандыдат сельскагаспадарчых навук (1937). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1981).

Памёр у 2003 годзе.

**4**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Забалацце Лепельскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Дудо** Пятро Дзмітрыевіч, беларускі празаік.

З 1935 года служыў у Чырвонай Арміі. У 1940 годзе скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. Працаваў намеснікам рэдактара газеты «Вольная праца» ў Беластоку (1940—41). Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, быў палітработнікам, супрацоўнічаў у армейскім друку. Узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай Вайны II ступені і двума ордэнамі Чырвонай Зоркі. З 1949 года — карэспандэнт газеты «Во славу Родины».

У друку пачаў выступаць з артыкуламі ў 1934 годзе, а з апавяданнямі — у 1935 годзе. На аснове матэрыялаў бітвы на Курскай дузе напісаў аповесць «Першы салют». Выдаў сатырычную камедыю «Чортаў тузін».

Памёр у 1958 годзе.

**4**

— **70** гадоў таму ў мястэчку Крынкі Беластоцкага ваяводства (Польшча) у сям'і шаўца нарадзіўся **Яновіч** Сакрат, беларускі празаік, драматург, публіцыст і грамадскі дзеяч.

У школе спрабаваў пісаць вершы па-руску і па-польску. У 1955 годзе скончыў электратэхнікум, а пасля (завочна) аддзяленне беларускай філалогіі Настаўніцкага інстытута (1962). Працаваў журналістам у штотыднёвіку «Ніва», кіраваў аддзелам галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У 1973 годзе завочна скончыў факультэт польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Пратэстуючы супраць бюракратычнасці ўладаў, пайшоў працаваць грузчыкам, тэхнікам бяспекі працы, што ўзбагаціла яго жыццёвы вопыт, пазней скарыстаны ў літаратуры. З 1976 да 1981 года быў страшынёй Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку. Апошнім часам займаўся палітычнай дзейнасцю, абіраўся старшынёй партыі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Цяпер жыве ў Крынках і займаецца літаратурнай, культуралагічнай і выдавецкай дзейнасцю.

Дэбютаваў з прозай у тыднёвіку «Ніва» ў 1956 годзе. Аўтар шматлікіх літаратурных мініяцюр, апавяданняў, аповесцяў, раманаў. Выдаў кніжкі «Загоны», «Сярэбраны яздок», «Сцяна», «Самасей», «Дзённікі...», «Запісы веку», некалькі драматычных твораў... Многія з іх перакладаліся на польскую мову. С. Яновіч і сам перакладаў на польскую мову творы некаторых беларускіх пісьменнікаў, прынамсі «Вітражы» Я. Брыля. Яго мініяцюры-эсэ выдаваліся ў Лондане як у арыгінале, так і на англійскай мове ў перакладзе Ш. Акінэр. Сябра Саюза польскіх пісьменнікаў з 1970 года.

**5**

— **105** гадоў таму ў Пецярбургу ў сям'і служачага нарадзіўся **Вольскі** (Вольскі-Зэйдэль) Віталій Фрыдрыхавіч, беларускі празаік, драматург, літаратуразнаўца, перакладчык, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

Скончыўшы сёмы клас гімназіі, працаваў на Трубачным заводзе, потым канторшчыкам у Камісарыяце гарадской гаспадаркі Ленінграда (1918—19). Служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у грамадзянскай вайне. Знаходзіўся ў пагранічных войсках і органах ВЧК (1919—26). Пасля працаваў старшым інспектарам кінафікацыі Белдзяржкіно, дырэктарам Віцебскага мастацкага тэхнікума і Беларускага драматычнага тэатра ў Віцебску, а пазней дырэктарам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР (1932—36). У 1942 годзе загадваў літаратурна-мастацкім аддзелам рэдакцыі сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», з 1943 года — у часопісе «Беларусь». З 1953 да 1966 года быў старшынёй праўлення Літфонду БССР.

Друкавацца пачаў з 1926 года ў газетах «Звязда» і «Савецкая Беларусь». В. Вольскі з'яўляецца аўтарам многіх літаратуразнаўчых прац, такіх, як «Эдуард Самуйлёнак. Жыццё і творчасць», «Сучасныя праблемы беларускай савецкай драматургіі», «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму». Пісаў таксама нарысы, апавяданні і п'есы, сцэнарыі дакументальных фільмаў і мастацкага «Несцерка» (1953). Выдаў шмат кніг: «Цудоўная дудка», «Дзед і жораў», «На бабровых азёрах», «Чайкі над Нараччу», «Афрыканскія падарожжы», «Падарожжа па краіне беларусаў», «Палессе: Краязнаўчыя нарысы», «Дзень добры, Бяроза!», «Хлеб — усяму галава»... Напрыканцы жыцця напісаў успаміны «На зломах эпохі».

Памёр у 1988 годзе.

**5**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Каромка Буда-Кашалёўскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Шальманаў** Іван Ігнатавіч, беларускі празаік.

У 1956 годзе скончыў Рагінскую СШ. Служыў у СА. Пасля дэмабілізацыі працаваў на Мінскім камбінаце буйнаблочных будаўнічых канструкцый, качагарам, рабочым, слесарам-механікам на розных прадпрыемствах сталіцы. У 1968 годзе перайшоў на журналісцкую працу. Быў супрацоўнікам газеты «Связист Белоруссии», рэдактарам на Беларускім радыё... У 1979—81 гадах вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. З 1981 года да апошніх дзён працаваў на Беларускім радыё.

Першае апавяданне надрукаваў у 1960 годзе ў газеце «Чырвоная змена». Пісаў прозу і нарысы. Выдаў кнігі «Дзень пачаўся» і «Цагельня».

Памёр у 1993 годзе.

**9**

— **70** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Міхневіч** Арнольд Яфімавіч, беларускі мовазнаўца.

У 1958 годзе скончыў Гомельскі педінстытут. У 1961—83 гадах працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, а з 1991 года — прарэктар і загадчык кафедры Мінскага лінгвістычнага універсітэта.

Доктар філалагічных навук (1977), прафесар (1980). Даследуе тэорыю граматыкі, сінтаксіс, лексікалогію і лексікаграфію беларускай мовы, сацыялінгвістыку і рыторыку.

Аўтар манаграфій «Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове», «Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы», руска-беларускага размоўніка. Сааўтар «Слоўніка славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі», «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», «Беларуска-рускага паралексічнага слоўніка-даведніка», англа-беларускага размоўніка ды іншых.

**11**

— **205** гадоў таму ў Маўрыцы нарадзіўся **Піён** Марыс, танцоўшчык, балетмайстар, тэатральны дзеяч, стваральнік Віцебскага балета Піёна.

Творчую дзейнасць пачаў у Парыжы. У 1818—25 гады — першы танцоўшчык, а ў 1826—43 гады — балетмайстар і дырэктар «Тэатра Нарадовага», адначасна (з 1832 года) быў і кіраўніком балетнай школы ў Варшаве (у 1833—34 гадах стажыраваўся ў Парыжскай оперы). У 1837 годзе падрыхтаваў балетную трупу, у рабоце з якой выкарыстоўваў навейшыя метады навучання. У большасці пастановак выконваў галоўныя партыі. У 1843 годзе стварыў уласную балетную трупу. Гастраліраваў з ёю ў розных гарадах, у тым ліку ў Вільні, у Мінску, у Магілёве. Стварыў і кіраваў (1845—47) Віцебскі балет Піёна. Ставіў балеты на музыку кампазітараў Ю. Эльснера, Ю. Дамсе, К. Курпінскага. У 1852—56 гадах быў дырэктарам тэатра ў Кіеве, а з 1868 года — настаўнікам балетнай школы ў Варшаве.

Памёр і пахаваны ў Парыжы ў 1869 годзе.

**14**

— **100** гадоў таму ў Вільні выйшла газета **«Наша доля»**, першае легальнае грамадска-палітычнае і літаратурнае перыядычнае выданне на беларускай мове.

Друкавалася кірыліцай і лацінкай. Рэдактар-выдавец І. Тукеркес. Актыўны ўдзел у стварэнні і выданні першых нумароў прымала Цётка. У праграмным артыкуле «Да чытачоў» газета выступіла за ўдзел у рэвалюцыйным руху, сацыяльную і нацыянальную свабоду, асвету на роднай мове. Друкавала вострапубліцыстычныя і агітацыйныя артыкулы, у якіх выкрывала антынародную палітыку царызму. Публікавала ідэйныя творы Цёткі (верш «Наш палетак», апавяданне «Над крывавымі разорамі») Я. Коласа, Ядвігіна Ш. Пасля 4-га нумара ў выніку расколу рэдакцыі і ўтварэння газеты «Наша ніва» літаратурна-мастацкі аддзел аказаўся аслабленым. Выйшла ўсяго шэсць нумароў газеты. На яе неаднаразова накладваўся арышт, а рэдактар прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. 11 студзеня 1907 года па судовым прыгаворы выданне было забаронена, а рэдактар прыгавораны да турэмнага зняволення на 1 год.

**14**

— **85** гадоў таму ў Вільні на беларускай мове пачала выходзіць газета **«Беларускія ведамасці»**.

Выйшла ў свет 14 верасня 1921 года. Было выдрукавана толькі шаснаццаць нумароў газеты. Выданне крытыкавала каланізатарскую палітыку ўлад гэтак зва-

най Сярэдняй Літвы і буржуазнай Польшчы ў дачыненні да беларускага народа, змагалася за навучанне на беларускай мове, асвятляла поспехі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР. Друкавала гістарычныя і этнаграфічныя матэрыялы пра Беларусь. Публікавала фальклорныя запісы, творы П. Багрыма, Ф. Багушэвіча, А. Абуховіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Каганца, У. Жылкі ды іншых беларускіх пісьменнікаў. За апазіцыйны накірунак 15 студзеня 1922 года газета была закрыта ўладамі Сярэдняй Літвы. Рэдактар-выдавец М. Гарэцкі быў пасаджаны ў астрог на Лукішках, а пасля высланы з Вільні.

**15**

— **95** гадоў таму ў горадзе Астрагожск Варонежскай вобласці ў сям'і аптэкара нарадзіўся **Таўбін** Юлій Абрамавіч, беларускі паэт.

Скончыў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум. У 1931—33 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута. У жніўні 1933 года быў прыгавораны да двух гадоў высылкі на Урал. Жыў у Цюмені. 29 кастрычніка 1937 года (відаць, пасля вяртання ў Мінск) быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны. Рэалібітаваны ў 1956 годзе.

Першыя вершы надрукаваў у 1926 годзе на старонках часопіса «Маладняк Калінішчыны». У 1930 годзе выпусціў першы зборнік вершаў «Агні». У 30-я гады паэт звярнуўся да палітычнай публіцыстыкі. Тагачасная крытыка (асабліва А. Кучар) ставілася да Ю. Таўбіна насцярожана. Яго заклікалі пакончыць з ідэалістычным эстэцтвам. У час знаходжання ў Сібіры паэт вывучаў англійскую мову, многа перакладаў з яе. Частка гэтых перакладаў была змешчана ў «Анталогіі новай англійскай паэзіі» (Ленінград, 1937). Пры жыцці паэта выйшлі пяць яго паэтычных зборнікаў, апроч упомненага, «Каб жыць, спяваць і не старэць...», «Тры паэмы», «Мая другая кніга» і «Таўрыда» (аднайменная паэма).

**16**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Слабада Бешанковіцкага раёна ў сям'і настаўнікаў нарадзіўся **Законнікаў** Сяргей Іванавіч, беларускі паэт.

Бацька С. Законнікава таксама выступаў з вершамі ў даваенны час, а дзядзька Сяргей Ракіта быў паэтам паслярэвалюцыйнага закліку, кіраўніком Гомельскай філіі БелАППа.

Пасля заканчэння Глыбачанскай СШ Ушацкага раёна С. Законнікаў пастапіў на філалагічны факультэт БДУ. Атрымаўшы дыплом, настаўнічаў, працаваў літсупрацоўнікам раённай газеты, сакратаром Ушацкага райкама камсамола, быў загадчыкам аддзела сельскай моладзі ў газеце «Чырвоная змена» (1975—78) і карэспандэнтам аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Звязда». З 1978 года — загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Доўгі час быў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».

Першы верш апублікаваў у 1963 годзе. З таго часу выдаў шмат паэтычных кніг: «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Вера, надзея, любоў», «Прысак часу», «Вечная далеч», «Сутнасць», «Заклінанне»... Яго вершы перакладаліся на іншыя мовы свету. Сам паэт таксама перакладае на беларускую мову пераважна славянскіх паэтаў.

С. Законнікаў — лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1982) і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1992). Займае актыўную грамадзянскую пазіцыю.

**16**

— **60** гадоў таму ў вёсцы Горск Бярозаўскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Казловіч** Анатоль Мікалаевіч, беларускі празаік і нарысіст.

Скончыў Малецкую СШ. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты «Маяк камунізму». У 1969 годзе скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Служыў у СА. Працаваў карэспандэнтам «Сельской газеты», кантралёрам на заводзе, памочнікам

камбайнера ў калгасе. З 1973 года — старшы рэдактар Беларускага тэлебачання, а ў 1974—77 гадах — у рэдакцыі часопіса «Нёман». З 1974 года доўгі час быў загадчыкам карпункта «Литературной газеты» ў Беларусі.

Яшчэ ў школе пачаў пісаць вершы. Удзельнічаў у семінары маладых паэтаў (Каралішчавічы, 1964). Студэнтам удзельнічаў у літаб'яднанні «Узлёт». Друкаваў вершы ў літаратурных рэспубліканскіх выданнях, а таксама ў калектыўных паэтычных зборніках «Натхненне», «Рунь», «Дзень паэзіі», «Універсітэт паэтычны». Але паступова асновай літаратурнай творчасці А. Казловіча сталі мастацкія нарысы. Выдаў кнігі «Дыханне», ««Час ісці», «Далёка наперадзе», «Дзіця маё залатое» і шмат іншых. Піша таксама літаратурна-крытычныя артыкулы. Лаўрэат прэміі прафсаюзаў Беларусі (1991) за кнігу «Уласны карэспандэнт».

Апошнім часам супрацоўнічаў з незалежнай прэсай. Займае актыўную грамадзянскую пазіцыю.

**18**

— **115** гадоў таму ў вёсцы Бароўня Гродзенскага раёна ў вялікай сялянскай сям'і нарадзіўся **Краўцоў** Макар (Косцевіч Макар Мацвеевіч), паэт, перакладчык, публіцыст, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

Аднавясковец і дзядзька беларускага паэта М. Васілька. Пасля заканчэння галавацкай царкоўна-прыходскай школы і Свіслацкай настаўніцкай семінарыі (1910) працаваў у школах на Гродзеншчыне. Ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны. У 1917—19 гадах жыў у Мінску і працаваў настаўнікам беларускай мовы. Быў сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, займаў пазіцыі яе правага крыла. Як палітык быў непаслядоўны. У 1920 годзе ўдзельнічаў у Слуцкім паўстанні. Пасля грамадзянскай вайны жыў у Заходняй Беларусі. Працаваў у Вільні. У 20-х гадах быў у апазіцыі да польскага ўрада Ю. Пілсудскага. У 1926 годзе быў арыштаваны. З 1927 года працаваў у Віленскім беларускім навуковым таварыстве. Пасля ўз'яднання Беларусі з кастрычніка 1939 года працаваў у рэдакцыі газеты «Віленская праўда». У 1939 годзе быў зноў арыштаваны і вывезены ў Беласток, дзе загінуў ад катаванняў у турме. Матэрыялы пра яго рэпрэсіраванне не выяўлены. Яго жонка, Ганна Станіславаўна, таксама прымала ўдзел у беларускім нацыянальным руху.

Першыя вершы і апавяданні М. Краўцоў надрукаваў у 1918 годзе ў газеце «Вольная Беларусь». Актыўна супрацоўнічаў з часопісамі «Рунь», «Маланка», «Шлях моладзі», «Беларуская культура», з газетамі «Беларусь», «Звон», «Наша думка», «Беларуская крыніца», «Сялянская ніва», «Беларускае слова», «Родны край». Яго светапогляд і ідэйна-творчыя прынцыпы былі непаслядоўныя і супярэчлівыя. Адмаўляючы сацыяльны і нацыянальны прыгнёт беларусаў уладай буржуазнай Польшчы, заклікаў да нацыянальнага вызвалення (яго верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» пакладзены на музыку У. Тарэўскім, стаў папулярнай у Заходняй Беларусі песняй, своеасаблівым гімнам). Аднак рэальнай праграмы змены грамадства М. Краўцоў не бачыў. Адсюль разгубленасць і адчай яго паэзіі. Перакладаў з рускай, украінскай і польскай моў творы літаратурных класікаў.

**24**

— **365** гадоў таму ў вёсцы Ятра Навагрудскага раёна ў засцянковай шляхецкай сям'і нарадзіўся **Незабітоўскі** Станіслаў, беларускі мемуарыст.

Вядома, што ён у 1649 годзе вучыўся ў Навагрудскім езуіцкім калегіуме ў ксяндза А. Слёнскага. Верагодна, за заслугі бацькі, які служыў у войску князя Б. Радзівіла і загінуў у бітве ў Прусіі, С. Незабітоўскі быў прыняты на службу да князя.У 1662 годзе выконваў ролю пасрэдніка паміж князем і каралеўскім дваром у Варшаве. Б. Радзівіл давяраў яму справы, звязаныя з адміністрацыяй сваіх маёнткаў. С. Незабітоўскі з гэтай прычыны доўгі час жыў у Слуцку. У 1670 годзе, пасля смерці Б. Радзівіла, стаў кіраваць вялікімі маёнткамі адзінай спадчынніцы нябожчыка

Л. К. Радзівіл. Рэзідэнцыяй С. Незабітоўскага з таго часу стаў Слуцк, дзе ён жыў са сваёй сям'ёй. Каля 1676 года ён быў прызначаны каліскім падчашым, хоць і не валодаў той часткай маёмасці ў Польшчы. Рукапіс яго мемуараў (994 старонкі) пра падзеі 1682—1700 гадоў на Навагрудчыне і Случчыне (а таксама каля 700 лістоў да польскага паэта З. Морштына) зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

Памёр у 1717 годзе.

**27**

— **100** гадоў таму нарадзілася **Ждановіч** Ірына Фларыянаўна, беларуская актрыса, педагог, народная артыстка Беларусі.

Дачка Ф. П. Ждановіча. Сцэнічную дзейнасць пачала ў першым беларускім таварыстве драмы і камедыі. У 1920—62 гадах працавала ў Беларускім тэатры імя Я. Купалы. Акцёрскі стыль І. Ждановіч меў акрэсленую рамантычную афарбоўку. Актрыса вялікага драматычнага тэмпераменту, высокай сцэнічнай тэхнікі. Лепшымі ролямі з'яўляюцца Марылька («Бацькаўшчына» К. Чорнага), Аня («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, Дзяржаўная прэмія СССР, 1948), Вера («Апошнія» М. Горкага), Негіна («Таленты і паклоннікі» А. Астроўскага), Дзіяна («Сабака на сене» Лопэ дэ Вегі), Джульета («Рамэо і Джульета» В. Шэкспіра).

Памерла ў 1994 годзе.

**28**

— **100** гадоў таму ў мястэчку Тарэспаль Бельска-Падляшскага ваяводства (Польшча) нарадзіўся **Жукоўскі** Алёкса (Аляксей Аляксандравіч), беларускі пісьменнік.

Першая сусветная вайна змусіла бацькоў перасяліцца з Польшчы на Беларусь. Сям'я апынулася ў Клімавічах Магілёўскай вобласці. У 1925 годзе А. Жукоўскі скончыў Віцебскі педагагічны тэхнікум. Да 1929 года працаваў настаўнікам, выкладаў беларускую і рускую мовы ў вясковых школах. Пасля працаваў у Бабруйску ў раённай газеце «Камуніст». Быў на вайсковай службе. З арміі зноў вярнуўся ў рэдакцыю газеты. Але ў 1932 годзе быў наноў мабілізаваны і праслужыў у Чырвонай Арміі да 1938 года. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны настаўнічаў у Калужскай вобласці. Ваяваў на фронце ад пачатку да канца вайны. З 1948 года працаваў дырэктарам, а пасля сканчэння ў 1950 годзе Маскоўскага педагагічнага інстытута — дырэктарам адной з сярэдніх школ у Маскве. З 1968 года быў навуковым супрацоўнікам лабараторыі НДІ агульнай адукацыі дарослых АПН СССР. Апублікаваў каля 50 навуковых прац па арганізацыі педагагічнай дзейнасці.

З вершамі А. Жукоўскі пачаў выступаць з 1925 года. Друкаваўся ў маладнякоўскіх літаратурных альманахах. Напісаў некалькі апавяданняў, якія выявілі ў ім здольнасць гумарыста. Зрэдку займаўся перакладам.

Памёр у Маскве ў 1979 годзе.

**29**

— **115** гадоў таму ў вёсцы Бацэвічы Клічаўскага раёна нарадзіўся **Смоліч** Аркадзь Антонавіч, вучоны, дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння.

Скончыў Нова-Аляксандраўскі інстытут сельскай гаспадаркі і лесаводства ў 1916 годзе. З 1910 года быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, а з 1917 года членам яе ЦК, рэдагаваў газету «Грамада». З 1916 года ўдзельнічаў у Мінску ў рабоце «Беларускай хаткі». Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай партыі. У 1918 годзе прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (з 1919 года быў намеснікам старшыні Рады), народны сакратар асветы пры 1-м урадзе БНР. Быў намеснікам старшыні Цэнтральнай Беларускай школьнай рады, уваходзіў у склад Найвышэйшай рады БНР. Адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай школы ў 1921 годзе. У 1919—1922 гадах жыў у Вільні. З 1922 года працаваў у Наркамземе Беларусі, старшынёй Цэнтральнага краязнаўчага бюро Беларусі. З 1925 года — намеснік старшыні Інбелкульта, а з 1929 года — член Прэзідыума АН Беларусі.

Быў рэпрэсіраваны ў 1930 і 1937 гадах. Рэабілітаваны ў 1957 і 1988 гадах. Аўтар падручніка «Геаграфія Беларусі» (з 1919 па 1993 год выйшлі чатыры выданні). Напісаў працы па раянаванні Беларусі, картаграфіі, эканоміцы народнай гаспадаркі, навуковай беларускай тэрміналогіі. У 1930 годзе быў узнагароджаны Малым залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства.

Знішчаны савецкай уладай ў 1938 годзе.

**30**

— **80** гадоў таму ў Вільні на беларускай мове выйшла газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку **«Наша справа»** замест забароненай уладамі буржуазнай Польшчы газеты «Народная справа». Выданне было органам Беларускай сялянска-рабочай грамады. Выходзіла два разы на тыдзень. Выдаўцом быў П. Мятла. Газета ў асноўным адлюстроўвала грамадаўскі рух на яго заключным этапе, у тым ліку павятовыя з'езды БСРГ, арышты дзеячаў грамады і г. д. Газета таксама асвятляла культурнае будаўніцтва ў БССР. На яе старонках з'яўляліся творы М. Запольскага, В. Грывіч, п'еса У. Галубка «Суд», анатацыі на беларускі пераклад паэмы А. Блока «Дванаццаць», на часопіс «Новы прамень», газету «Беларуская трыбуна». Выйшла 16 нумароў, з іх тры былі канфіскаваныя. Забаронена ўладамі Польшчы 22 студзеня 1927 года.

**30**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна ў мнагадзетнай сялянскай сям'і нарадзіўся **Гілевіч** Ніл Сымонавіч, беларускі паэт, літаратуразнаўца, фалькларыст, грамадскі дзеяч.

У 1938 годзе пайшоў вучыцца ў Слабадскую сямігодку і да пачатку вайны скончыў тры класы. Пасля вайны вучыўся ў Гайнаўскай сямігадовай школе і адначасна працаваў паштальёнам. Пасля школы паступіў у Мінскае педагагічнае вучылішча, якое скончыў у 1951 годзе. Пасля стаў студэнтам філалагічнага факультэта БДУ. Пасля сканчэння універсітэта ў 1956 годзе вучыўся ў аспірантуры, а з 1960 года выкладаў на кафедры беларускай літаратуры гэтай жа навучальнай установы. Адначасна быў літаратурным кансультантам у газеце «Звязда». Кандыдат філалагічных навук з 1963 года , з 1968 года — дацэнт, а з 1978 года — прафесар. У 1980—89 гадах быў першым сакратаром праўлення СП БССР. Галоўны рэдактар альманаха «Далягляды» (1975—81). Старшыня фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур (з 1989), старшыня Таварыства беларускай мовы (з 1989), старшыня таварыства «Беларусь-Балгарыя» (з 1991). Шмат гадоў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі (з 1990 года ўзначальваў Пастаянную камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны).

Пісаць вершы пачаў у дзевяцігадовым узросце. Першая публікацыя ў 1946 годзе ў часопісе «Бярозка». Выдаў кніжкі «Песня ў дарогу», «Бальшак», « А дзе ж тая крынічанька», «Святлынь», «Родныя дзеці» (раман у вершах), «Повязь», «Незалежнасць», «На флейце самоты», «Сказ пра залатое пёрка»...

Выходзілі ў розныя гады выбраныя творы паэта, а таксама Збор твораў у шасці тамах. Адзін з аўтараў нашумелай (да апошняга часу ананімнай) паэмы «Сказ пра Лысую гару» (1971).

Н. Гілевіч аддаваў сваё творчае гарэнне не толькі паэзіі, але і беларускаму фальклору і літаратуразнаўству, перакладчыцкай працы.

Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1980), народны паэт Беларусі (1991).

***Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.***



***Паважаныя чытачы!***

*Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», якая выпускае часопіс «Полымя», з-за аб'ектыўных прычын не пастаўляе свае выданні ў кіёскі і магазіны УП «Белсаюздрук» у абласцях. Таму раім чытачам і аўтарам афармляць падпіску ў паштовых аддзяленнях сувязі. А падпісныя цэны на «Полымя» наступныя:*

***індывідуальная (індэкс — 74985) на 1 месяц — 4070 руб., на 3 месяцы — 12210 руб.; ведамасная (індэкс — 749852) на 1 месяц — 5090 руб., на 3 месяцы – 15270 руб.; льготная (індэкс – 00727) на 1 месяц – 4170, на 3 месяцы — 12510 руб.***

*У Мінску часопіс «Полымя» можна купіць як у кіёсках, так і ў магазінах УП «Мінгарсаюздрук». Нерэалізаваныя праз кіёскі і магазіны горада выданні пасля двух месяцаў з даты выхаду перадаюцца ў магазіны па наступных адрасах:*
*№ 3 — пр. Незалежнасці, 76, тэл. 232-46-23;*
*№ 8 — вул. Сурганава, 40, тэл. 232-45-10;*
*№ 15 — вул. М.Танка, 16, тэл. 284-31-06;*
*№ 18 — падземны пераход на пл. Перамогі, тэл.284-31-06*

*Нагадаем, што ў выпадку неабходнасці ўдакладніць наяўнасць патрэбных вам нумароў часопіса ў гандлёвых прадпрыемствах УП «Мінгарсаюздрук» або заказаць іх можна зноў жа праз магазін № 18 (тэл. 284-31-06) ці праз дыспетчара «Мінгарсаюздруку».*

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

Падпісана ў друк 31.08.06 г. Фармат 70 × 108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 20,05. Тыраж 3278 экз. Зак. 2273.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

# Партрэт Беларусі




## Белавежская пушча


Белая вежа. Камянец.












Будынак музея прыроды ў Камянюках.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны — 00727

# Чытайце ў наступным нумары:

**«Вочы маці — вечнасці акно...»** Старонкі паэзіі

**Уладзімір Дамашэвіч**
**Месяц у Раі...**
Аповесць (заканчэнне)

**Анатоль Бароўскі**
**Тры елкі дзяцінства**
Аповесць

**Эдуард Скобелеў**
**Ганад Чарказян**
**Уладзімір Марук**
Вершы

**«Сучасны літаратурны працэс: пісьменнік і жыццё»**
**Па матэрыялах навуковай канферэнцыі Інстытута літаратуры НАН Беларусі**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068